Г. Ф. ЮРЧАНКА

# СУЧАСНАЯ НАРОДНАЯ ЛЕКСІКА

## З ГАВОРКІ МСЦІСЛАЎШЧЫНЫ

## Р — Я

МІНСК
«БЕЛАРУСКАЯ НАВУКА»
1998

УДК 808.26-3(035)
ББК 81.2 Беи-4я2
Ю83

Р э д а к т а р
канд. філал. навук А. А. Крывіцкі

Р э ц э н з е н т ы:
акадэмік НАН РБ А. І. Падлужны,
канд. філал. навук І. Я. Яшкін

**Юрчанка Г. Ф.**
Ю83 Сучасная народная лексіка: З гаворкі Мсціслаўшчыны: Слоўн. Р — Я. — Мн.: Беларуская навука, 1998. — 351 с.
ISBN 985-08-0144-1.

Гэта кніга — трэцяя, заключная частка шырокага збору дыялектнай лексікі з усходу Беларусі. Першая і другая часткі збору выйшлі адпаведна ў 1993 і 1996 гадах. У кожным слоўнікавым артыкуле падаецца тлумачэнне слова, неабходныя граматычныя і стылістычныя паметы. Ствараецца наглядны малюнак форма- і словаўтваральнай сістэмы гаворкі і яе эмацыянальна-вобразнай афарбоўкі. Усе словы забяспечаны ілюстрацыйным матэрыялам, у якім прасочваюцца фанетычныя, марфалагічныя і сінтаксічныя асаблівасці народнай мовы.

Слоўнік дасць карысны матэрыял шырокім колам мовазнаўцаў, выкладчыкам і студэнтам філалагічных факультэтаў ВНУ. Цікавы матэрыял знойдуць у ім пісьменнікі, журналісты, работнікі друку, радыё, тэлебачання, усе, каго цікавіць роднае беларускае слова.

**ББК 81.2 Беи-4я2**



ISBN 985-08-0144-1

# Р

РАБАМОРДЫЙ *прым.* 1. З рабой мордай. *Мыя рібамордыя кароўка ны мылако была нічога.* 2 *перан. груб.* З плямістым або рабацінiстым тварам. *Адно ўремя ў яе быў зяць, такей рібамордый мушчына хадзіў.* *Памянш.* РАБАМОРДЗЕНЬКІЙ. 1. З рабой мордай. *А па-мойму, луччы тую рібамордзінькую ўзяць, у яе жыльля харошыя пы жываце.* 2. З плямістым або рабацінiстым тварам. *Што ён найшоў у той рібамордзінькый, усё дно як луччых дзевык ні було.*

РАБАНОСЫЙ *прым.* З плямістым або рабацінiстым носам. *Прівёз сабе ісь сьвету рібаносыю якую-то бабу.* *Памянш.* РАБАНОСЕНЬКІЙ. *Пріхадзілі к Сахвеі дзьве рібаносінькія дзяўчонкі, пляменьніцы яе.*

РАБЗІН, РАБЗУЛІН *прым.* Такі, які належыць жанчыне з рабым тварам. *Ці ты ні пазна́іш, ета ря́бзін платок, і кухвайка яе ляжыць. Прібярі ат'етуля рябзу́ліны тряпкі!* *Памянш.* РАБЗАЧКІН, РАБЗУЛЬКІН. *Зырасьлі ря́бзычкіны гряды і зуплулі́, калі йна іх вы́пыліць! Вун рябзу́лькіны пріборы пірясушывыюцца.*

РАБІНАВЕНЬКІЙ *прым. памянш.* Арабінавы. *Апстругай рябі́нывінькія цапочыкі, яны крепінькія.*

РАБКА, РАБУЛЯ *ж.* Жанчына з рабым тварам. *Бірягець сваю ря́бку, глядзіць, каб ні пывялі сапры́ныўскія хлопцы. Пупаў сабе нейкую рябу́лю, відзілі, у горыдзі зь ёю прыха́джывыўся.* *Памянш.* РАБАЧКА, РАБУЛЬКА, РАБУЛЕЧКА. *Кыраву́ль сваю ря́бычку, ато возьміць Коля ды зьвязець у Смаленск. Вот пыныравілысь яму тая рябу́лька, ні аўстаець ат яе ні ны шаг. Нешта твыя рябу́лічка бастуіць і ны вічарінку ні пріишла.*

РАБОТАШНА *прысл.* Зручна, карысна. *Там ба работышна, дык яму ж ня дужа што ўкладзеш у гылаву.*

РАГАЗІШЧА 1 *ж. павеліч.* Сукаватае палена. *Пуўдня будзіця такую рыгазі́шчу резыць ды калоць.* 2 *н. зб.* Лом, беспарадак. *Ны дваре такоя рыгазі́шча, некыму прібраць, упря́ччыць усё.*

РАГАЗЮЛЯ, РАГАЗЮЛІНА, РАГАЗІНІНА *ж.* Сукаватая палка. *Рыгазю́лю сьпірва́ апсякі, а тады резыць будзіш. З рыгазю́лінымі носюцца па вуліцы, ба́лыюцца. Пыбрізаць рыгазі́ніну нада, а тады ўжо глядзець, як пыкалоць. Памянш.* РАГАЗЮЛЬКА, РАГАЗЮЛІНКА, РАГАЗУЛІНКА, РАГАЗІНІНКА. *Нашто табе рыгазю́лька, толька паколісься. Апсек рыгазю́лінку, нясець ны плічах. Рыгазу́лінкі апсякі, іх у печ такея ні ўвапреш. Рыгазі́нінкі выляюцца ны дваре, пыўпыря́ччывый. Павеліч.* РАГАЗЮЛІШЧА, РАГАЗІНІШЧА, РАГІЗІШЧА. *Разьві ж такую рыгазю́лішчу несьць у хату, іна б толька ў пыдасецьціву печ улезла. Быльшая была рыгазі́нішча, доўга і пілілі, і ськіпалі. Чуць дывалок рыгізі́шчу, нумурдува́ўся зь ёю.* РАГАЗІННЕ *н. зб. Многа рыгазі́ньня сыбралыся, хваціць работы давесьць яго да толку. Памянш.* РАГАЗІННІКА. *Вазок рыгазі́ньніка прівязьлі, сякець Міша ны дваре.*

РАГАТАЦЬ *незак.* 1. Іржаць. *Мы ехылі цірязь лес, а блізка пылякі былі, аб'ехыць нілізя, дык зьвя́зывылі конім морды, каб ні рігыта́лі.* 2 *перан.* Гуляць, сваволіць. *Бальшэя ужо кыцянкі́, увесь дзень рягочуць — і езьдзюць адзін на дном, і скачуць, і прыгыюць, — чаго зь іх ні тваріцца!*

РАГАТНЯ *ж. неадабр.* 1. Рогат. *Мы тожа чулі рігатню́, ці Піліп што разумныя скажыць.* 2 *перан.* Свавольства. *У іх рігытня́ ні сьціхаіць, і днём, і ўвечырі пряма ны гылывах ходзюць.*

РАГАТУЛЛЕ *н.* Рогат. *Хвыта́ла рігату́льля і ў тоя ўремя, дурачыліся мыладэя.*

РАГАТУЛЯ, РАГАТУЛЛЯ *ж.* Рагатуха. *Рігату́лі сыбра́ліся у задній хаці, верна, хлопцыў апсуждаюць. Сумусёнкыва рігату́льля ажно зыліваіцца з мальцымі у пулусаднічку. Памянш.* РАГАТУЛЬКА, РАГАТУЛЕЧКА.

*Пы бабі пышла ўнучка, тыкая самыя рігату́лька будзіць. Рызыйшлася рігату́лічка: дзед рыскызаў дужа сьмешныю казку.*

РАГАЦЕНЬ *м.* Сукаваты кавалак дрэва, корч. *Ныт такім рыгатнём нымарду́ісься, пакуля яго да толку дывядзеш.*

РАГАЦЕЦЬ *незак. жарт. метаф.* Багацець. *Як пычаў рыгацець на хутырі, к яму ні пуцступіцца було.*

РАГОЖАВЫЙ, РАГОЖКАВЫЙ, РАГОЖАННЫЙ *прым.* Рагожны. *Ета ў первыя гады у калхозі гультуям дывалі рагожывыя знамя. Нейдзі вылялыся рагожкывыя накідка, ды іна дзірёвыя, нічога ёю ні накрыіш. Яму тады як пыднясьлі рагожынный партхвель, ох, ён зьліўся, пряма сь сябе выска́кывыў. Памянш.* РАГОЖАВЕНЬКІЙ. *Во тут ліжала рагожывінькыя пацьсьцілка.*

РАГУЛЯ, РАГУЛІНА *ж.* Сукаватая палка. *Папробый-ка пуцступіся к такой рагу́лі, суччa кругом. Нада пыпсікаць рагу́ліны, а тады будзім резыць. Памянш.* РАГУЛЬКА, РАГУЛІНКА. *Аткінь рагу́лькі ўбок, посьлі піряпілім. Асталыся пару рагу́лінык, посьлі беда пріпыряччу.*

РАДА *ж.* 1. Спосаб. *Якую ты ра́ду найдзіш еткыя палена з балота выцігнуць. Каб я знаў ра́ду, як яму паможч.* 2. Змова. *Думылі, ніхто ня чуіць, а Мыланка стыяла зы дзьвірямі, пацслухыла іхныю ра́ду.*

РАДАБОДДЗІКА *н. памянш.* Рэдкія ўсходы, пасевы. *Кыла рову жыта рідабодзьдзіка, нічога ні нажнеш.*

РАДАННІШНІК *м. гумар.* Удзельнік святкавання радаўніцы. *Ра́дыньнішнікі пыд раньня рызыйшліся пы двырах, у Сьціпанёнка атплясывылі.* РАДАННІШНІЦА *ж. У ра́дыньнішніц сьпірва сьлёзы, а ўслед песьні.*

РАДЖАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Падрыхтаваны для ткацтва (пра кросны). *Пыглядзела, як яны ря́джыны, і сыма ныря-дзі́ла.* 2. Вытканы з узорамі. *У іх многа ря́джыных пасьцілык.*

РАДЖЭЙ *прысл.* Радзей. *Пасьледнія ўремя стаў ря-джэй хадзіць, а то ж днюваў там і нучуваў.*

РАДЗІМЫЙ *прым.* Прыроджаны. *У іх ува ўсіх трёх радзі́мый хракцір адзінакывый.*

РАДЗІЦЬ *незак.* Прарэджваць. *Дужа густа гуркі ўзыйшлі, нада рядзіць, іначы зь іх нічога ня будзіць.*

РАДЗЮЖАЧКА *ж. памянш.* Посцілка з грубых нітак. *Накрыйціся рядзю́жычкымі і вам ня будзіць халодна, пыт прысьціною зыкалеіця.*

РАДЗЮСЕНЬКІЙ *прым. памянш.* Вельмі рады. *Радзю́сінькій, што Анька ні сыбіраіцца нікуды пуступаць, у дзяреўні астаецца.*

РАДЧЫК *м.* Падрадчык. *Ціріз нашу дзяреўню сьпіртавозы езьдзілі, зімою усігда ў нас нучувалі, Азар — ря́ччык у іх быў.*

РАДЫ *мн.* Роды. *Мы ды самых радоў работылі, ні так, як цяперя. Пірід рыда́мі езьдзіла ў горыд.*

РАЖАСТЫЙ *прым.* Буйнатвары. *Я хырашо помню Храсіньніныга мужука: ря́жыстый быў мушчына.*

РАЖАЧКА *ж. памянш. груб.* Твар. *Ня меншыя ря́жычка у твайго пляменьніка, наеў за лета, слава богу.* *Павеліч.* РАЖЫШЧА. *Знаіш, ікая ря́жышча была — во, ікраз як чугун ваду грець.*

РАЖОК *м.* Кольца ад рога для начынянння каўбас. *У мяне трі ражкі було чыніць кілбасы: для тоўстых кішок, для тонкіх і такей средній.* *Памянш.* РАЖОЧАК. *Нада схадзіць к Ныталкі, ражочык узяць ды пычыніць кілбаскі.*

РАЖЫШЧЫ, РОЖЫШЧЫ *мн. павеліч.* Рогі. *Ражы́шчы войстрыя-войстрыя, калі парнець, прысапець наскрозь. Бадлівыя карова, ета хырашо, што рожышчы зукруціліся, ні тырчаць.*

РАЖЭННІК *м.* Ламачча. *Накідына пыд ныгамі усякыга ражэньніка, астарожна піріступай.* *Памянш.* РАЖЭННІЧАК *м.*, РАЖЭННІКА *н.* *Якея ета дровы, ражэньнічык. Ніяк ні сыбярёмся ражэньніка давесьць да толку.*

РАЖЭНЬ *м.* Ражон. *Тама лазь, ды глядзі, ато ны якей ражэнь можыш узьбіцца упацёмкых.*

РАЗАБІДЖАЦЬ, РАЗАБІДЖЫВАЦЬ *незак.* Моцна крыўдзіць. *Ня столька яе рызыбіджа́юць, сколька іна прідумывыіць і прітвыряіцца. Хто іх станіць рызабіджывыць, нашто яны каму.* РАЗАБІДЖАЦЦА, РАЗАБІДЖЫВАЦ-

ЦА *незак.* Моцна крыўдзіцца. *Нечыга яму рызыбіджа́цца ны Высілёнкывых, сам ён ныбраўся і ныхвытаўся уволю. Чаго ж табе рызабі́джывыцца, ці помніш, сколька аць цябе людзі цярьпелі.* РАЗАБІДЖАНЫЙ *дзеепрым. Я ні знаю, чаго яму рызабі́джыныму быць, яму нечыга абіджацца.*

РАЗАБРАДЗЕНЫЙ, РАЗАБРАДЖАНЫЙ, РАЗАБРАТЫЙ *дзеепрым.* Разабраны. *Рызыбра́дзіныя гумно звалілі як пупала, дайжа ні разьмецілі сьценкі. Ны ма́льца ніплахея былі касьцюмчыкі, ну пакуля я сходзіў зы грышамі, вярнуўся — яны рызыбра́джыны. І хацёнка, і сенчыкі рызыбра́ты, пуня колым тарчыць. Нечыга йціць, сялёдка уся рызыбра́та.*

РАЗАМ *прысл.* То. *У яго ўсігда веців у гылаве: ра́зым усходзіцца ехыць, ра́зым аці́хніць. Ра́зым даець грошы, ра́зым ні даець, — яе ня пойміш.*

РАЗАНУЦЬ *зак. метаф.* 1. Моцна выцяць. *Як різанець, різанець пугыю, жарёбка духу баіцца.* 2. Зайграць. *Цяперя ўсё пріціхла, прізаўныла, а раншы, бувала, як різанець Паўлюк ны гармоні, дзеўкі як зыпяюць, вясёла було.* 3. Заблішчаць. *Уноччы прыхваці́лыся, мылыдня́ як різанець, я дужа быялыся.*

РАЗАРАЦЦА *незак. перан.* 1. Губляцца. *Што ж цяперя рызыря́цца, тут нада міркува́ць, як с пылажэнія выхадзіць.* 2. Шумець, буяніць. *Як стануць рызыря́цца, ты на іх ту́кні, яны ўспакоюцца.* РАЗАРЫЦЦА *зак.* Разгубіцца. *Рызарі́ўся ён, ні прідумыіць, ці ехыць, ці тута на́ зіму астываццa.* РАЗАРОНЫЙ *дзеепрым.* 1. Разбураны. *Абея пунькі рызарёныя, бяс крыш, сьценкі вы́лымыны.* 2. Паламаны (пра лёс). *Яе жызьня рызарёныя, ні прідумыіць сыма, куды кінуцца.* 3. Разгублены. *А як жа іна ня будзіць рызарёныя, кылі дычка ня пішыць і ня пішыць нічога.* РАЗАРОМШЫ *дзеепрысл.* 1. Разбурыўшы, разбурыўшыся. *Стыяць двары рызарёмшы, пыпра́віць некыму.* 2. Разгубіўшыся. *Што ў яе спрашывыць, калі іна сыма рызарёмшы ўсё ўремічка.*

РАЗАРЖАЦЬ, РАЗАРЗАЦЬ *зак. перан.* Выклікаць грубае свавольства. *Ні ґ дабру вас рызыржа́ла, Міця жыва уніміць. Ціряшчур цябе рызырза́ла, чуствыіш ты вярёўку,*

*яй-богу, чуствыіш.* РАЗАРЖАЦЦА *зак.* Пачаць груба сваволіць. *Як рызыржáліся, дык я думыла, сьцены рызьнясуць умэтлух.* РАЗАРЗАНЫЙ *дзеепрым. Нувумёнык дужа умеіць такіх рызырзáных унімаць.*

РАЗАРЫВАЦЬ *незак.* Разбураць. *Ён ужо думыў рызáрівыць хату, а тады нешта атклаў.* РАЗАРАТЫЙ, РАЗУРАТЫЙ *дзеепрым. Мы ішчэ ў тую вайну прыхадзілі кыла Нёмына: дзяреўні былі пустыя, двары рызырáтыя. Ац самыя вясны стаіць хата разýрітыя.*

РАЗАХОЦІЦЦА *зак.* Набыць ахвоту. *Мальцы як рызахоціліся касіць, дык я гываріла: аддыхніця, а яны ўсё косюць.*

РАЗАХОЧЫВАННЕ *н.* Набыццё ахвоты. *Ісаёнык як веціp: сяньня у яго рызахочывыньня, а ныза̀ўтріга усё, дос.*

РАЗАЧКУ *прысл.* Аніяк, нікoлькі, зусім. *Рáзычку ні магу ступіць, так зыбалела ныга. Дыхадзілыся — рáзычку нечыга на ногі уссунуць.*

РАЗАЧОК *м. памянш. перан.* Востры на язык, крыклівы чалавек. *Ну й різачок Хоўрін зяць, як брытвыю режыць, слова ні даець скызаць.*

РАЗБАБУХЫВАННЕ *н.* Празмернае раскопванне. *Можна було біз рызбабýхывыньня абыйціцца, равок ба прыкыпалі, і хваціла б.*

РАЗБАБУХЫВАЦЬ *незак.* Раскопваць празмерна. *Знаіш, якея сажылкі ну хутурах рызбабýхывылі, скрозь усё лета выда дзіржалыся.* РАЗБАБУХЫВАЦЦА *незак.* Раскопвацца празмерна. *Якей толк, што такея ямішчы рызбабýхывыюцца, выда ў іх толька вясною стаіць.* РАЗБАБУХАЦЬ *зак.* Раскапаць празмерна. *Ці відзіў, як сьвіньні пуньку рызбабýхылі, ідзі зырываць.* РАЗБАБУХАЦЦА *зак.* Раскапацца празмерна. *Ні само ж тутыцька рызбабýхылыся, каму-то нечыга було дзелыць.* РАЗБАБУХАНЫЙ *дзеепрым. Тады пыдасецьця було рызбабýхына, што ўся асець памесьцілыся б.*

РАЗБАГАВАЦЬ, РАЗБАГАВАЦЦА *незак.* Жыць прывольна. *Думыла, што будзіць рузбугувáць зу Кусьцючонкывым сыным, а тута ні пулучаіцца. Хацелыся б вам рузбугувацца, а хлеб сам у рукі ні пріходзіць.*

РАЗБАЛАБОНЕНЫЙ *дзеепрым.* Разнесены (пра чуткі). *Я цьвёрда знаю, што ўсё було рызбылабоніна, як Гыраськіна цётка сюда пріхадзіла.*

РАЗБАЛАКЫВАЦЬ *незак.* 1. Размаўляць паціху, паволі. *Ці помніш, як ён любіў рызбыла́кывыць.* 2. Разносіць чуткі. *Ніхай трошку пачуюць, і пойдуць рызбыла́кывыць.* РАЗБАЛАКЫВАЦЦА *незак.* Размаўляць паціху, паволі. *Як стануць рызбыла́кывыцца, усякыю пустату піріліваюць.* РАЗБАЛАКАЦЬ *зак.* Разнесці чуткі. *Патроху рызбыла́кылі, пру Пустушонка усе ўжо знаюць.*

РАЗБАЛБАТАНЫЙ *дзеепрым.* Разнесены (пра чуткі, нагаворы). *Ты ні пасьпеіш двору пріціць, усё будзіць рызбылбыта́на і ў дзесіць разоў пріклáджына.*

РАЗБАЛДЗІЦЬ *зак.* Шырока разнесці бязглуздыя чуткі. *Ім нядоўга любую трілюду рызбалдзі́ць.* РАЗБАЛДЗІЦЦА, РАЗБАЛДЗЕЦЦА *зак.* Пачаць энергічна расказваць бязглуздзіцу. *Ета Хрымянкоў сын рызбалдзі́ўся, бабы стыялі кругом, слухылі. Тама, пад ліпымі, Кургузёнык рызбалдзеўся, яны доўга слухылі яго басьні.* РАЗБАЛДЖОНЫЙ *дзеепрым. Пры Мысяёнкывых усюдых рызбалджона.* РАЗБАЛДЗЁМШЫ *дзеепрысл. Рызбалдзёмшы такую лухту, яны і дальшы ні ўспакоюцца.*

РАЗБАМБЛЯЦЬ *незак.* 1. Разбураць бомбамі. *Немцы многа мастоў рызбымбля́лі.* 2 *перан.* Шкодзіць гаспадарцы. *Пітрачонык узяўся сваю суседку рызбымбля́ць.*

РАЗБАНДУРЫВАННЕ *н. эмац.* Разбурэнне. *У нас дужа бальшога рызбанду́рівыньня ні було, алі ж дзьве сям'і рызграмілі.*

РАЗБАНДУРЫВАЦЬ *незак. эмац.* Разбураць. *Зразу посьлі рівалюцыі ладна рызбанду́рівылі паноў, хваціла ім.* РАЗБАНДУРЫВАЦЦА *незак.* 1. Разбурацца. *Нешта тваё гыраджэньня рызбанду́рівыіцца, ня хочыць дзіржацца.* 2 *перан.* Хваляваццa. *А што табе рызбанду́рівыцца, дычка бярець, дык шашкі ў мяшкі ды паехыла.* РАЗБАНДУРЫЦЬ *зак.* Разбурыць. *Я помню, як Стыхвана рызбанду́рілі, усё дно як учора було.* РАЗБАНДУРЫЦЦА *зак.* 1. Разбурыцца. *Калі ня будзіш глядзець, дык яно само пы сабе рызбанду́ріцца.* 2. Расхваляваццa. *Другей раз як рызбанду́рюся, ні прідумыю, што дзелыць, а тады сыма сябе рызва́жу.* РАЗБАНДУРАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Разбураны. *Пынасыўскыя цэрьква уся рызбанду́ріна, нада пупруўляць, а ў нас німа*

*средствыў.* 2. Расхваляваны. *Прішоў рызбандýріный і ні гаворіць, што тама пулучылыся.*

РАЗБАРАХЛЕЦЬ, РАЗБАРАХЛІЦЬ *зак.* Разбалбатаць. *Ядвіліна тряпышка рызбырахлела ўсё, у яе ўсігда язык нізыбáрсывыный. Усё ета Аньціпёнык рызбырахліў, яго слухыць — жывая указэя.* РАЗБАРАХЛЕЦЦА, РАЗБАРАХЛІЦЦА *зак.* Разбалбатацца. *А ета старэй Мікіта рызбырахлеўся, нешта яму ні так скызала нявестка. Піскунёнык рызбырахліўся, усе рігыталі.* РАЗБАРАХЛЁМШЫ *дзеепрысл. Калі рызбырахлёмшы Аўдзей, тады ўсе жывоцікі нарвýць.*

РАЗБАРАХЦЕЦЬ, РАЗБАРАХЦІЦЬ *зак. неадабр.* 1. Расплявузгаць. *Твае суседкі і рызбырахцелі, большы ніхто. С цэльлю пры Аксюціну дачку рызбырахцíлі: вот, мол, мы пыкажым, што іна нічога ня стоіць.* 2. Выклікаць плявузганне. *Ну што, узноў рызбырахцела Піскуніху, астанься слухыць, калі хочыш. Ты пыдажджы, як Ызарёнка рызбырахцíць, тады наслухыісься.* РАЗБАРАХЦЕЦЦА, РАЗБАРАХЦІЦЦА *зак.* 1. Пачаць плявузгаць. *Наста як рызбырахцелыся, яе і зу пуўдня було ні піряслухыць. Старэй Хрол, бувала, як рызбырахцíцца, усім ныдаесьць.* 2. Разнесціся (пра плявузганне). *Табе луччы знаць, длі чаго ета рызбырахцелыся. Тады пра іх многа чаго рызбырахцíлыся, а ці праўда, хто яго знаіць.* РАЗБАРАХЦЁМШЫ *дзеепрысл. Пра што яны ўзноў тріл́юдзюць, рызбырахцёмшы?*

РАЗБАРСЫВАЦЬ *незак. метаф.* Раскідваць. *Карова рызбáрсыіць струшынку, нясі ёй лугавога сена і ні знайся.* РАЗБАРСАЦЬ *зак.* Раскідаць. *Сколька ты пыдгрібаў, сьвіньні ўсё рызбырсáлі.* РАЗБАРСАНЫЙ *дзеепрым. Ношычку сена клаў лі сахі, пріхаджу — яно рызбырсáна пы ўсяму двару.*

РАЗБАРЫЛЯЦЬ *зак.* Узараць няўмела. *Ладный кусок поля рызбырылялі і ні засеілі.* РАЗБАРЫЛЯЦЦА *зак.* Узарацца няўмела. *Троху рызбырылялыся, якея пáхырі, тыкая і работа.* РАЗБАРЫЛЯНЫЙ *дзеепрым. А ці ты сам ня відзіў, як тама рызбырылянa?*

РАЗБАСЯТНІЧЫВАННЕ *н.* Ператварэнне ў басяка. *Такоя пашло рызбысятнічывыньня, што я табе скызаць ні магу.*

РАЗБАСЯТНІЧЫВАЦЬ, РАЗБАСЯТНІЧЫВАЦЦА *незак.* Рабіцца басяком. *Яе хлопцы даўно пычалі рызбысятнічывыць. Пылагін меншый стаў рызбысятнічывыцца, іна зь ім толку ні дыбярець.* РАЗБАСЯЧЫЦЬ, РАЗБАСЯЦІЦЬ, РАЗБАСЯТНІЧАЦЬ *зак.* 1. Зрабіць басяком. *Улез у такую кымпанію, што яго рызбысячылі. Іван такей, што куды яго пыпіхнуць, туды ён і пыхінецца, яго тама рызбысяцюць. Гырадзкея атлёты любога рызбысятнічыюць.* 2. Зрабіцца басяком. *Рызбысячыў хлопіц, што большы некуды, на ім усё хыдаром ходзіць. Яму нядоўга рызбысяціць, ён і тута места сабе ні ныхадзіў. Кылі рызбысятнічыіць, тады яго трудна будзіць у рукі браць.* РАЗБАСЯЧЫЦЦА, РАЗБАСЯЦІЦЦА, РАЗБАСЯТНІЧАЦЦА *зак.* Зрабіцца басяком. *Ета яе ціхінькій так рызбысячыўся? Пыглядзіш, што ён у цябе рызбысяціцца. Настолька рызбысятнічыліся, што сталі як нейкія жулікі.* РАЗБАСЯЧАНЫЙ, РАЗБАСЯТНІЧАНЫЙ *дзеепрым.* *Рызбысячыныя мальцы, нечыга за іх зуступацца. А сколька іх цяперіцька цігаіцца рызбысятнічыных, так і глідзяць, каб што ўтваріць.*

РАЗБАЎДЗЮГАЦЬ *зак. эмац.* Выклікаць швэнданне. *Праскоўіныга мальца рузбуўдзюгала, судкымі у дваре ні пыіўляіцца.* РАЗБАЎДЗЮГАЦЦА *зак.* Пачаць швэндацца. *Рузбуўдзюгаіцца нядоўга, а тады брацца за дзела ой трудна.*

РАЗБАЎДЗЮЛІВАННЕ *н.* Няўмелае расколванне. *Горя, а ні рызбаўдзюлівыньня, што ты адною рукою дужа рысьсякеш.*

РАЗБАЎДЗЮЛІВАННІК *м.* Той, хто няўмела расколвае. *Пацеіць рызбаўдзюлівыньнік ныт калодымі, яны дужа сукуватыя.* РАЗБАЎДЗЮЛІВАННІЦА *ж.* *З бабы знаіш ікая рызбаўдзюлівыньніца: намучыіцца і нескылька шчэпык атколіць.*

РАЗБАЎДЗЮЛІВАЦЬ *незак.* Няўмела расколваць. *Пычаў рызбаўдзюлівыць пень, а сілы німа, толька з духу выбіўся.* РАЗБАЎДЗЮЛІВАЦЦА *незак.* Няўмела расколвацца. *Ня дужа хочуць курчыжкі рызбаўдзюлівыцца, крепкія зросткі.* РАЗБАЎДЗЮЛІЦЬ *зак.* Няўмела раскалоць. *Б'юся я, б'юся, пакуля калодку рызбаўдзюлю, ці ета*

*бабскыя дзела!* РАЗБАЎДЗЮЛІЦЦА *зак.* Няўмела раскалоцца. *Троху-патроху і сукуватыя калодкі рызбаўдзю́ліліся.* РАЗБАЎДЗЮЛЕНЫЙ *дзеепрым. Ні асталыся рызбаўдзю́ліных кустоў, нада зы астатнія брацца рысьсіка́ць.*

РАЗБАХЫВАННЕ, РАЗБАХКЫВАННЕ *н. эмац.* Разбіванне.*У цябе ны кажным шагу рызба́хывыньня, пасуды ні намеісься купляць. Палучыш ты ў мяне зы рызба́хкывыньня, акуратней нада ш чашкымі апхадзіцца.*

РАЗБАХЫВАЦЬ, РАЗБАХКЫВАЦЬ *незак. эмац.* Разбіваць. *Нашто було такей гарбуз рызба́хывыць. Ня дужа лёхка лёд рызба́хкывыць.* РАЗБАХЫВАЦЦА, РАЗБАХКЫВАЦЦА *незак.* Разбівацца. *Каторыя чашка ў цябе рызба́хывыіцца, ні сышчытаць. Німала посыду рызба́хкывылыся, хуць і акуратна апхадзіліся.* РАЗБАХАЦЬ, РАЗБАХКАЦЬ *зак.* Разбіць. *І ціхінька гуляў, і чашычку рызба́хыў. Кушунок рызба́хкыў, а ён быў такей удобный пад рукі.* РАЗБАХАЦЦА, РАЗБАХКАЦЦА *зак.* 1. Разбіцца. *Я табе гыварію, ні ляпі гаршчоны ну круюшок, можыць рызба́хыцца. Калі пасудзіну ні біряшеш, дык нядоўга ёй рызбахкыцца.* 2. Разгрукацца. *Нечым рызба́хыліся ма́лыя. Другей раз як рызба́хкыюцца, аж у вушах гудзіць.* РАЗБАХАНЫЙ, РАЗБАХКАНЫЙ *дзеепрым. Рызба́хыныя чыряпочыкі ня склеіш. Я й сам віджу, што тарелкі рызба́хкыны.*

РАЗБАЯЦЦА *зак.* 1. Пачаць баяцца. *Так ужо яны і рызбыя́ліся Аўласёнка!* 2. Перастаць баяцца. *Цішчанок усіх рызбыя́ўся, ён цяперіцька нічога ні спужаіцца.*

РАЗБЕДАВАЦЬ *зак.*Выклікаць бедаванне. *А таго яе рызьбідува́ла, што Васіль стаў як зьверь, толька ходзіць і гыкыіць.*

РАЗБІНДЗЮГАЦЬ *зак.* Выклікаць швэнданне. *Так рызьбіньдзюга́ла Храсіньніных мальцыў, што ў дваре ні за чым ні глідзяць.*

РАЗБІРАЦЦА *незак. перан.* Рыхтавацца. *Вашы хлопцы кыла коні, рызьбіра́юцца ехыць двору, ужо позна.*

РАЗБІЎКА *ж. перан.* Разбурэнне. *Як пычылася разьбіўка — цьвёрдыя, іньдзівідуа́льныя, кула́чыньня, яны сыбраліся, кінулі ўсё і зьехылі ў сьвет.*

РАЗБЛУКАНЯЦЬ *зак.* Выклікаць жаданне блукаць. *Узноў Цырянковыга сына рузблукуня́ла, ніяк ні найдзіць дзела пы сабе.*

РАЗБЛУТУНЯЦЬ *зак.* Выклікаць жаданне швэндацца. *Аднаго рузблутуня́ла і другога, у дваре палкі дроў ні піряськепюць.* РАЗБЛУТУНЯЦЦА *зак.* Пачаць швэндацца. *Луччы дзяржы січас у руках, рузблутуня́іцца, дык цяпніш зь ім горя.*

РАЗБЛЫКАЦЦА, РАЗБЛЫНКАЦЦА *зак.* Пачаць швэндацца. *Разблы́кыўся ты, хлопіц, ціряшчур, нада стырікам патроху пымыгаць. Якея ты помышчы ат іх зыхацела, калі яны рысп'я́нчыліся і разблы́нкыліся.*

РАЗБЛЫНЧЫЦЦА, РАЗБЛЫНЧЭЦЦА *зак. неадабр.* Пачаць швэндацца. *Большы некуды як разблы́нчыліся Лісавеціны мальцы. Дужа рызблынчэўся Андрей, піріначуіць і пыдаўся, а іна ўсюдых сыма і сыма.*

РАЗБЛЫТЫКАЦЬ *зак.* Выклікаць швэнданне. *Нечыга ўзноў Лявонывых рызблытыка́ла, адзін зы адным цігаюцца.* РАЗБЛЫТЫКАЦЦА *зак.* Пачаць швэндацца. *Зыстыўляй патроху к рабоці, ато рызблытыка́юцца — яны табе ка́плі ні памогуць.*

РАЗБЛЯМКАЦЦА *зак.* 1. Пачаць бразгаць, званіць. *Нечым рызбля́мкыліся, якоя-то жалезьзя пупалі.* 2 *перан.* Разбалбатацца. *А хто іх знаіць, пра што яны рызбля́мкыліся, ці ты ў іх спросіш.*

РАЗБЛЯЯЦЦА *зак.* Пачаць доўга бляяць. *Нечыга рызбліяліся воўцы, можа яны піць хочуць.*

РАЗБОР *м. перан.* Падзел. *Як мы пычыналі разбор, Міцю кінулі старыю хату, Антону далі ны хату клець і сенцы, а Пынас узяў гумно.*

РАЗБОРНЫЙ *прым.* Такі, які разумее, разбіраецца. *Ежылі чылавек разборный, зь ім усігда дыгаворісься.*

РАЗБОРЧЫСТА *прысл. перан.* Кемліва. *Адзін раз ён можыць зьдзелыць разборчыста, а другей раз як выранёнык.*

РАЗБОРЧЫСТАСЦЬ *ж. перан.* Кемлівасць. *А яму разборчыстысьці ні разу ні хвытала, увы ўсякім дзелі як турык.*

РАЗБОРЧЫСТЫЙ *прым. перан.* Кемлівы. *Купряёнык разборчыстый мужык, ён абы-чаго ні тріпанець.*

РАЗБРАДЗЯЖЫЦЬ, РАЗБРАДЗЯЖНІЧАЦЬ, РАЗБРАДЗЯЖЫЦЦА, РАЗБРАДЗЯЖНІЧАЦЦА *зак.* Зрабіцца валацугам. *Рызбрыдзя́жылі мальцы, ой, рызбрыдзя́жылі, нада на іх крепкыя ламіна. Калі ўжо чылавек рызбрыдзя́жнічыіць, толку зь яго ні дажджэсься. Чаго ты етык рызбрыдзя́жыўся, ці ты ні знаіш, сколька у дваре работы. Нада ж так Сямёнывыму мальцу рызбрыдзя́жнічыцца, матка горькімі сьлізамі зыліваіцца.*

РАЗБРАХЫВАЦЬ *незак. груб.* Разносіць чуткі. *З даўніх гадоў прівычка тыкая — рызбря́хывыць усякыю лухту.*

РАЗБРОДДЗЕ *н.* Адсутнасць згоды, разброд. *У іх разбродзьдзя даўно ідзець, яшчэ летыся яны адзін ны днаго крівіліся.*

РАЗБРУЗАННЕ *н.* Распуханне. *Такоя рузбрюза́ньня ня то што пірінасіць, ны яго глядзець страшна.*

РАЗБРУЗАЦЬ *незак.* Моцна паўнець, пухнуць. *Ляжыць ён ужо даўно, уродзі быў пычаў пупруўляцца, а цяперя стаў рузбрюза́ць.* РАЗБРУЗЦЬ, РАЗБРУЗНУЦЦА *зак.* Моцна распаўнець, апухнуць. *Нада ж етык разбрю́зьць Праскоўіный дачке, усё дно як чым-то наліта. Вы самі увідзіця, як іна ціріз два гады разбрю́зьніцца.*

РАЗБРУІВАННЕ *н.* Распуханне. *Быў нарыў, а тады разбру́івыньня пашло пу руке вісока, к плячу.*

РАЗБРУІВАЦЬ, РАЗБРУІВАЦЦА *незак.* Пухнуць. *Із-зы ірунды стаў паліц разбру́івыць. У цябе шчыка разбру́івыйцца, нада пріклыдаць чым-небудзь.* РАЗБРУІЦЬ, РАЗБРУЕЦЬ, РАЗБРУЯЦЬ, РАЗБРУІЦЦА, РАЗБРУЕЦЦА, РАЗБРУЯЦЦА *зак.* Распухнуць. *Між пальцыў нырвала, рузбруіла рука, дзелыць нічога ня можыць. Шчыка рузбруела адз зубоў і баліць, што ні прітронуцца. Бальшэй паліц сільна рузбруя́ў. Рану ўсігда зывязывый, ато грязь пупадзець і ўсё рузбруі́цца. Узноў калена рузбруелыся, нуступіць ны нагу, ня можыць, сядзіць, якочыць. Ныга ат калена ўніз рузбруя́лыся, нілізя хадзіць.* РАЗБРУЕНЫЙ,

РАЗБРУЯНЫЙ *дзеепрым. Чаго йта у Гылыўня такоя ліцо разбру́іныя? Ікая с Тыцяны жыцілка, і дыхыць ня можыць, зыдыхаіцца, і ногі рузбруя́ныя, ня ходзюць, лежч ба ды памерць, дык ні ўміраіцца.*

РАЗБРЭСЦА *зак.* Разысціся паволі. *Ні залежывыйціся, паглідайця, скот можыць разбресца, што ні сыбіріцё.*

РАЗБУБНЕЦЬ, РАЗБУБНІЦЬ *зак.* Выклікаць бурчанне. *Калі Стыхвана рузбубнела, ён і ды заўтріга ні ўгаму́іцца. Узноў яго рузбубні́ла, можыць на цэлый дзень завесца.*

РАЗБУВАННЕ *н.* Разуванне. *Скарей шывяліся, ато й засьнеш ныц сваім рузбува́ньнім.*

РАЗБУВАЦЬ *незак.* Разуваць. *Нічога я ня чуў, прішоў у хату і пычаў ма́лыга рузбува́ць.* РАЗБУВАЦЦА *незак.* Разувацца. *Сядзіць, рузбува́іцца і нешта сам сабе муркочыць як кот.* РАЗБУЦЬ *зак.* Разуць. *Адну нагу разбу́ў, а з другою усё возіцца.* РАЗБУЦЦА *зак.* Разуцца. *Так зымаріўся, што разбу́цца і то цяжола, хуць набу́тый лажыся ны пасьцель.* РАЗБУТЫЙ *дзеепрым. У пулувумніка чаго хочыш ні пытаць, ён і разбу́тый кытанець.*

РАЗБУДЖЫВАННЕ *н.* Прабуджэнне. *Посьлі п'янкі цяжолыя разбу́джывыньня, ня хочыцца устываць.*

РАЗБУР *м.* Беспарадак. *Ніхто ні за чым ні глядзіць, поўный разбур у дваре.*

РАЗБУРЧЭЦЦА *зак.* Пачаць доўгае бурчанне. *Рузбурчэўся як старэй кот: нешта ні пы яго скызала Напреіха.*

РАЗБУСІЦЬ, РАЗБУСЬКАЦЬ *зак. жарт.* Расцалаваць. *Скора прібягіць твой Сярёжа, разбу́сііць цябе. Ета відзіць нада було, як ён разбу́ськыў сваю дыражэнькыю.* РАЗБУСІЦЦА, РАЗБУСЬКАЦЦА *зак.* Расцалавацца. *Ох, як яны разбу́сіліся, усё дно як пяць гадоў ня відзіліся! Устреціліся, разбу́ськыліся нівісь як, а ціріш час ужо лаюцца — дзяреўня тряшчыць.* РАЗБУСЬКАНЫЙ *дзеепрым. Віджу, віджу, што ты ўжо разбу́ськыныя.*

РАЗБУХТОРЫЦЦА *зак.* Пачаць наліваць звыш меры. *Рузбухторіўся ты сяньня, столька вады саўсім ні нада.*

РАЗБУХЫВАЦЦА *незак. перан.* Вельмі паўнець, тлусцець. *Меншыя тожа пычыла разбу́хывыцца, будзіць тыкая самыя, як большыя.*

РАЗБУЦІВАННЕ *н.* Разбуханне. *Такоя разбу́цівыньня длі адзежыны ўредна.*

РАЗБУЦІВАЦЬ, РАЗБУЦІВАЦЦА *незак.* Разбухаць. *Кідай коркі ў вядро, ніхай разбу́цівыюць. Сырэй ячмень разбу́цівыіцца, пычынаіць прырыстаць.* РАЗБУЦІЦЬ, РАЗБУЦІЦЦА *зак.* Разбухнуць. *Кымбікорм разбу́ціў, прусушыць нада ці што. Пінжак ныбря́к, разбу́ціўся, што ні пыдняць,выкінь ны прясла прасохнуць.*

РАЗБУЦЯНЕЦЬ, РАЗБУЦЯНЕЦЦА *зак. экспр.* 1. Празмерна распаўнець. *Пецька рузбуцянеў зы пасьледнія ўремя, стаў як пампушка. Ты б відзіў, як рузбуцянелыся Просіна дычка, я яе чуць пызнала.* 2. Разбухнуць. *Гнілушкі у вадзе рузбуцянелі, няскора высыхнуць. Квасоля дылжна хырашо рузбуцянецца, уваріцца.* РАЗБУЦЯНЕЛЫЙ *дзеепрым.* 1. Празмерна распаўнелы. *Баба ішчэ таксяк, ну як рузбуцянелый мушчына ідзець, ета саўсім нікрасіва.* 2. Разбухлы. *Рузбуцянелыя баціԋкі высыхнуць і скыржанеюць.*

РАЗБУШАВАЦЬ *зак.* 1. Пачаць вельмі моцна бушаваць. *Другей раз бурю як рузбушу́іць, глядзі, крышу с хаты зьнясець.* 2. Выклікаць буянства. *Нешта рузбушува́ла Ільлінка ўчора, доўга крічаў ны дваре.* 3 *метаф.* Раскапаць, разбурыць. *Ты зірні-ка, як сьвіньні пуню рузбушува́лі, пячоры пывыка́пывылі, равы нівісь якея.* 4 *метаф.* Выклікаць шпаркі рост. *Вун як рузбушува́ла гарох, хуць паплеціны пыд яго стыўляй.* РАЗБУШАВАЦЦА *зак.* Моцна разрасціся. *Гуркі рузбушува́ліся, гоніць іх у ціціву́, а ці вырысьціць што зьесьць.*

РАЗБЭХЫВАННЕ, РАЗБЭХКЫВАННЕ *н. эмац.* Празмернае раскопванне. *Такоя разбэхывыньня ні к чаму, яміну выкыпыў, застоліў і ладзін погріб. Каб ты толька глянула: тама разбэхкывыньня ні прідумыць якоя.*

РАЗБЭХЫВАЦЬ, РАЗБЭХКЫВАЦЬ *незак. эмац.* Раскопваць празмерна. *Якея я́мішчы сьвіньні разбэхывыюць, ні спруўляісься зысыпаць. Пычаў другей погріб пыд мастом разбэхкывыць.* РАЗБЭХЫВАЦЦА, РАЗБЭХ-

КЫВАЦЦА *незак.* Раскопвацца празмерна. *Нешта ў цябе бальшушчыя разбэхывыіцца, як сажылка. Нашто, каб ціряшчур быльшая ямішча разбэхкывылыся.* РАЗБЭХАЦЬ, РАЗБЭХКАЦЬ *зак.* Раскапаць празмерна. *Разбэхыў погріб ніізьвесна якей, нашто ён такей бальшэнный. Разбэхкыў сажылку, думыіць рыбу зупускаць.* РАЗБЭХАЦЦА, РАЗБЭХКАЦЦА *зак.* 1. Раскапацца празмерна. *Гліну ўсё бралі і бралі, разбэхылыся бальшушчыя яма. Тута разбэхкылыся усё дно як роў якей.* 2. Распачаць грукат. *Нечым разбэхыліся ма́лыя, каб ні пыдбівалі пальцыў. Чым ён тама разбэхкыўся, уродзі грюкута́ць нечым.* РАЗБЭХЫВАНЫЙ, РАЗБЭХАНЫЙ *дзеепрым.* *Длі чаго тыкая ямішча разбэхывына, разьві ты поймііш. Глубокія равы разбэхыны, многа торху було.*

РАЗВАДЖЫВАННЕ, РАЗВОДЖЫВАННЕ *н.* 1. Разввядзенне (раствору). *Жыдка рызва́джывыньня, пыцсыпай гліны яшчэ. Дзелыіш як ні сваімі рукамі, паетыму і разводжывыньня ні пулучаіцца.* 2. Раствор. *Нада зымазывыць, ато зысыхаіць ваша рызва́джывыньня. На ўсю печ ні хваціць етыга разводжывыньня.* 3. Развядзенне (пры сварцы, бойцы). *Усе нысьміяліся, як глядзелі ны яго рызва́джывыньня. Ні пымагло Сідарёнкыва разводжывыньня: ужо на лугу пабіліся.* 4. Вырошчванне для развядзення. *Нешта нічога ні пулучаіцца зь яе рызва́джывыньня, усяго два ціплёнкі асталыся. Ну пыглядзім, ці будзіць што зь іхныга разводжывыньня, парода-то етых сьвіньней харошыя.* 5. Скасаванне шлюбу. *То запісывыньня, то рызва́джывыньня, што йта за жысьць тыкая. Ці даўно свадзьба грімела на ўсю акругу, а ўжо разводжывыньня.*

РАЗВАДНЭЙ *прым.* Разведзены. *Яе дзяўчонкі абея рызваднэя, ні пулучылыся сям'і ні ў аднае, ні ў другея.*

РАЗВАЖАЦЬ *незак. перан.* Супакойваць у развагах. *Ты сыма сябе рызвыжа́й, можа у іх усё хырашо, а на пошці зыціря́лыся пісьмо.*

РАЗВАЖДЖЫВАННЕ *н.* Адвязванне лейцаў. *Пыдзікуйсь-ка ны яго рызва́жджывыньня: адною рукою дыстаець, кыня баіцца.*

РАЗВАЖДЖЫВАЦЬ *незак.* Адвязваць лейцы. *Што ж ты ніяк ні на́ўчысься кыня рызва́жджывыць, пыра б ужо ўмець.*

РАЗВАЖЫВАЦЬ *незак. эмац.* Вазіць доўга, у розныя месцы. *Пятрок усё сваю Макрідку рызва́жывыў ны вазу у поля і с поля.*

РАЗВАЗГОЛІВАННЕ *н.* Размазванне, расквэцванне. *Толька ты мне ні прібяpi рызвазґолівыньня, большы нічога ні пазволю квэцыць.*

РАЗВАЗГОЛІВАЦЬ *незак.* Размазваць, расквэцваць. *Ні ядуць, а рызвазґолівыюць бульбу пы скамеічкі.* РАЗВАЗГОЛІВАЦЦА *незак.* 1. Размазваць, расквэцваць. *Пірістань-ка рызвазґолівыцца ісь цестым!* 2. Размазвацца, расквэцвацца. *Цеста рызвазґолівыіцца, што ступіць нейдзі, пыдатрі тряпкыю.* РАЗВАЗГОЛІЦЬ *зак.* Размазаць, расквэцаць. *Дужа многа яны наелі, пы тарелкых кулеш рызвазґолілі.* РАЗВАЗГОЛІЦЦА *зак.* Размазацца, расквэцацца. *Бульба тоўчыныя рызвазґолілыся, разьві ты ня відзіш.* РАЗВАЗГОЛЕНЫЙ *дзеепрым. Ці тут нейкій клей рызвазґолін, ці што другоя ныляпына.*

РАЗВАЛАВОДЗІЦЬ *зак.* Выклікаць валынку. *Іх як рызвылаводзіць, дык дайжа ня думый толку іскаць.*

РАЗВАЛАКЫВАЦЬ *незак.* 1. Расцягваць. *Копы нада рызвыла́кывыць, яны дужа прымяклі.* 2 *перан.* Разводзіць (пры сварцы, бойцы). *Дужа б я чарцей рызвыла́кывыў, ніхай ба хуць і пызыбіваліся.* 3 *метаф.* Раскрадаць. *Пакуля палкі выляюцца біс прігляду, будуць рызвыла́кывыць.* РАЗВАЛАКЫВАЦЦА *незак.* 1. Расцягвацца. *Нешта дужа медлінна у вас хворыст рызвыла́кывыіцца.* 2 *перан.* Разыходзіцца паволі. *Ну, ці ні пыра нам рызвыла́кывыцца, скора пітухі зыпяюць.* РАЗВАЛАКЫВАНЫЙ *дзеепрым.* Расцягнуты. *Нічога там ні рызвыла́кывына, як кінута, так і ляжыць.*

РАЗВАЛІВАЦЦА *незак. метаф.* Моцна разрастацца. *Гною дробнінькыга як паложыць, дык у яго капуста рызва́лівыіцца.* РАЗВАЛІЦЦА *зак.* Моцна разрасціся. *Ціціва́ ажно рызвалі́лыся, ікая ўжо будзіць бульба.*

РАЗВАЛНОВЫВАЦЬ *незак.* Даводзіць да хвалявання. *Дычка прібягіць, рызвалновывыіць яго, яму становіцца худжы.* РАЗВАЛНАВАЎШЫ *дзеепрысл. Анюта была крепка рузвулнуваўшы, — што ў іх тама случылыся?*

РАЗВАЛЮШКА, РАЗВАЛЮШАЧКА *ж. памянш.* Напаўразбураны гнілы будынак. *Чаму ж мы іх ні знаім, іхныя рызвалю́шка стыяла ныўскысічок ат нас. Купілі яны пірід вайною рызвалю́шычку і жылі ў ёй у горыдзі.*

РАЗВАРАЧЫВАННЕ, РАЗВАРОЧЫВАННЕ *н. метаф.* Праяўленне актыўнасці. *С такім рызвыра́чывыньнім, як у Пісьліка, цяперя на сьвеці ні прыжывеш. Медлінныя у іх рызварочывыньня, хаты маглі даўно пірявезць.*

РАЗВАРАЧЫВАЦЬ *незак. метаф.* Разгортваць. *'Яны другей раз дзела рызвыра́чывыюць, тады ў іх ня выпыліла.* РАЗВАРАЧЫВАЦЦА, РАЗВАРОЧЫВАЦЦА *незак.* Праяўляць актыўнасць. *Аўхімёнык умеў у жыцьці рызвыра́чывыцца. Яны б рызварочывыліся, каб було каму патту́ркывыць збоку.* РАЗВЯРНУЦЬ *зак.* Разгарнуць. *Такея сьпяцы што хочыш могуць рызьвярну́ць.* РАЗВЯРНУЦЦА *зак.* Праявіць актыўнасць. *Адзін прыжывець век ця́мця-ля́мця, а другей жыва разьверніцца.*

РАЗВАРЗЁКЫВАННІК, РАЗВАРЗЁПЫВАННІК, РАЗВАРЗЁПА *м.* Пэцкаль. *Узяліся два мысьцяры́ за дзела, ныстыяшчыя рызварзёкывыньнікі. Во німа рызварзёпывыньнікым места, січас яны ў мяне унімуцца з ба́лывыньнім. Ці ты ня відзіш, што рызварзёпа мазыў.* РАЗВАРЗЁПКА *м.* і *ж. Так толька рызварзёпка дзелыў. Ні пускай рызварзёпку к скоўрыдым.* РАЗВАРЗЁКЫВАННІЦА, РАЗВАРЗЁПЫВАННІЦА *ж. Зірні, што ў рызварзёкывыньніцы ны скамейкі тваріцца, хуць рукі ёй абатрі. Адгані рызварзёпывыньніцу ац скыўрады, ці відзіш, што іна надзелыла. Памянш.* РАЗВАРЗЁПАЧКА *ж. Абатрі рызварзёпычку, ато іна тыкая і ны пасьцель палезіць.*

РАЗВАРОЦІСТА *прысл.* Спрытна, энергічна. *Ні знаю, ці палучыцца у Ікімёнка рызвароціста зьдзелыць.*

РАЗВАРОЦІСТАСЦЬ *ж.* Спрыт, энергічнасць. *Каб яму тыкая рызвароцістысьць, як у Шулянкоў, тады б дзела зыгрімела.*

РАЗВАРОЦІСТЫЙ *прым.* Спрытны, энергічны. *Каб тута пулучалыся, нада рызвароцістый чылавек.*

РАЗВАШАПРУДЖЫВАЦЬ *незак.* 1. Выклікаць задаванне, вычваранне. *Нешта яго пычало рызвышапру́джывыць ціряшчур.* 2. Пачынаць задавацца, вычварацьЛюбіць рызвышапру́джывыць, пыказывыць сябе. РАЗВАШАПРУДЖЫВАЦЦА *незак.* Пачынаць задавацца, вычварацьНе, ня ў тую ты дзяреўню пупаў, тута табе рызвышапру́джывыцца ні дадуць. РАЗВАШАПРУДЗІЦЬ *зак.* 1. Выклікаць задаванне, вычваранне. *Нешта яго дужа сільна рызвышапру́дзіла.* 2. Пачаць задавацца, вычварацьВо як рызвышапру́дзіў Танькін хлюст!* РАЗВАШАПРУДЗІЦЦА *зак.* Пачаць задавацца, вычварацьЯк рызвышапру́дзіўся кундалёк: што вы мне будзіця ўказывыць!* РАЗВАШАПРУДЖАНЫЙ *дзеепрым. Скора вы ны яго ны рызвышапру́джыныга гляніця.*

РАЗВЕДЖАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Разведзены (у вадзе). *Цёлычкі поіла разьведжына, у сенцых стаіць.* 2. Скасаваны (пра шлюб). *У дачок ні пулучылыся жызьні, абея разьведжыныя.*

РАЗВЕРАБЕНІЦЬ *зак.* Выклікаць балбатню. *Чаго іх рызьвірябеніла, рыстряшчэліся як тряшчоткі.* РАЗВЕРАБЕНІЦЦА *зак.* Разбалбатацца. *Абея рызьвірябеніліся, толька слухый усякую чуш.* РАЗВЕРАБЕНЕНЫЙ *дзеепрым. Іна аньціресныя рызьвірябеніныя: рыскрасьнеіцца і вочы блішчаць.*

РАЗВЕРЗЦЬ *зак. неадабр.* Разнесці чуткі. *Тута сьпіцыяліст разьверзьць найдзіцца, што хочыш рыстрілю́дзюць.* РАЗВЕРЗЦЦА *зак.* 1. Пачаць разносіць чуткі. *Нявестка ні даець яму разьвезцца, а то б ныгывaріў!* 2. Разнесціся (пра чуткі). *Ат ізыка к ізыку і рызьвярзецца што хочыш.*

РАЗВЕСЦА *зак.* Пачаць гадаваць, вырошчваць. *Я рызьвіла́ся ны харошых курей: дужа нясушчыя і яйцы нясуць бу́йныя.*

РАЗВІДНІВАННЕ *н.* Світанне. *Сьпі, ды разьві́днівыньня яшчэ далёка, ды яно табе ня дужа й нада.*

РАЗВІКАЦЦА *зак.* Пачаць крычаць. *Ці ні Кундалёнык разьві́кыўся, ета яго голыс, я пызнала.*

РАЗВІЛЬГОТЫВАЦЦА *зак.* Пачаць жыць прывольна. *Дужа вы, мальчыкі, рызьвільготывыліся, нада бабі троху пымыгаць.*

РАЗВІРЫДУВАЦЬ *зак.* Выклікаць грубыя, нахабныя паводзіны. *Тоя ўремя Трахіма так рызьвірідувáла, думылі, места сабе ні найдзіць.*

РАЗВІСОКІЙ *прым.* Вельмі высокі. *Як пычыла хваліць Цітывыга зяця: ён і рыскрасíвый, і рызьвісокій — толька рузьлюбувáцца.*

РАЗВІШЧЭЦЦА *зак.* Узняць працяглы віск. *Раз даўно ня кормліны, канешня, пырысяты рызьвішчáцца, хут травы ім укінь.*

РАЗВОДДЗІКА *н. памянш.* Разводдзе. *Як ні ка ўремю ета разводзьдзіка, худзь ба яшчэ пару дзянькоў пыдзіржала!*

РАЗВОДЖЫВАННІК *м.* Той, хто займаецца развядзеннем. *Мырчанкоў разводжывыньнік усё зь яблынкымі возіцца.* РАЗВОДЖЫВАННІЦА *ж. Во нырызвадзíла разводжывыньніца: пыхвытаў тхорь усіх ціплят.*

РАЗВОДЖЫВАЦЬ *незак.* 1. Вырошчваць на развод. *Беліньхіх курей я ні хачу разводжывыць, яны нейкія дылікатныя.* 2. Разводзіць, разбаўляць. *Мел дужа жыдка ні разводжывый, ато нічога ні пабеліш. Не, гарелку яны ні куплялі, вынасілі сьпірт з завода, разводжывылі і пілі.* 3. Пачынаць будаўніцтва. *Разводжывыюць пýнішчу, як цілятнік у кылгасі.* 4. Адводзіць кожнага асобна. *Іх Піліпіха разводжывыла пы двырах ужо ў поўныч.* 5. Разнімаць пры бойцы. *Іх нада було ні разводжывыць, а хлыбазіны дацьаднаму й другому.* 6. Скасоўваць шлюб. *Ні дуріця вы гылавы, хто іх будзіць разводжывыць.* РАЗВОДЖЫВАЦЦА *незак.* 1. Разводзіцца, разбаўляцца. *Нашто ета гліна так жыдка разводжыіцца?* 2. Разводзіцца, размнажацца. *Калі ні прібіраіш яду, ні ныкрываіш, мухі скора разводжывыюцца.* 3. Скасоўваць шлюб. *Можа і вам пыра ўжо іціць разводжывыцца.* РАЗВОДЖЫВАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Разведзены, разбаўлены. *Разводжывыный мел у вядре, нясі сюда.* 2. Скасаваны (пра шлюб). *Не, яны ні разводжывыны, іна так пышла к маткі і жывець.*

РАЗВУЧЫВАЦЬ *незак.* Навучаць. *Матка іх так разву́чывыіць.* РАЗВУЧЫЦЬ *зак.* Навучыць. *Ну й рузвучы́ла ты сваіх мальцыў: у вочы кідыюцца.*

РАЗВЫЛАНГАЦЦА *зак. эмац.* Пачаць вылежвацца. *Рызвылынґа́ўся, што і пыдняцца табе лень, — устывай, нечыга бакі прыціраць.*

РАЗВЯКЫВАННЕ *н. эмац.* 1. Крык. *Унімісь-ка ты з рызьвя́кывыньнім, гуляй, як усе дзеці гуляюць, спакойнінька.* 2. Распаўсюджанне чутак. *Каму — як каму, а што ўжо мне ныдаела ета рызьвя́кывыньня!*

РАЗВЯКЫВАЦЬ *незак. эмац.* Разносіць чуткі. *Нечыга усякыю пустату рызьвя́кывыць, ты тама ня быў і ні знаіш, што гываріліся.* РАЗВЯКЫВАЦЦА *незак.* 1. Разносіць чуткі. *Ціряшчур ты стала рызьвя́кывыцца, нада б табе ізычок пыкыраціць.* 2. Разносіцца (пра чуткі). *У пустадомцыў што хочыш будзіць рызьвя́кывыцца.* РАЗВЯКАЦЬ *зак.* 1. Разнесці чуткі. *Пацсолтыўскія бабы пріхадзілі і рызьвя́кылі пра ета.* 2. Вымусіць да крыку. *Мыланку як рызьвя́кыіць, няскора астановіцца.*

РАЗГАВОРЛІВА *прысл.* Гаварліва. *Стыльмашонык умеў рызгаворліва пыдыйціць к чылавеку.*

РАЗГАВОРЛІВАСЦЬ *ж.* Гаварлівасць. *У Сьвірідзёнчыхі рызгаворлівысьці ны траіх хваціць і астанецца.*

РАЗГАВОРЛІВЫЙ *прым.* Гаваркі. *Яе зяць ня дужа рызгаворлівый, ну ны пыгляд нічога хлопіц.*

РАЗГАГОКАЦЬ *зак.* Выклікаць галёканне. *Ета ма́льцыў у кустах рызгагокыла, гукаюць так адзін аднаго.* РАЗГАГОКАЦЦА *зак.* Разгалёкацца. *Мы як пойдзім у грібы, як рызгагокыімся, увесь лес хыдаром ходзіць.*

РАЗГАГУЛІ *мн.* Сваволькая гульня. *Пыглядзі на іх рызгагу́лі, што вытвыряюць. Як пычануць гу́лі-рызгагу́лі, зубуваюць пра ўсё. Памянш.* РАЗГАГУЛЬКІ. *Чыріз рызгагу́лькі і пад'есьць некылі, носюцца біс кынца.*

РАЗГАЛАГАЛЕЦЬ *зак. асудж.* Выклікаць крык. *Ці ты ня чула, чаго Мікіцёнчыху лі стагоў рызгылыгалела?*

РАЗГАЛІВАННЕ *н.* Раздобрыванне. *Ну Ступачонкыва рызга́лівыньня дужа ні надзейся.*

РАЗГАЛІВАЦЦА *незак.* Раздобрывацца. *Буваіць, мінутка найдзіць, ён рызга́лівыіцца, тады падойдзіць,*

*скосіць.* РАЗГАЛІЦЦА *зак.* Раздобрыцца. *Ня дужа Іхімёнык рызгáліцца паможч, ён ж жадныга прірoдзтва.*

РАЗГАЛУЗІЦЬ, РАЗГАЛУЗЫВАЦЬ, РАЗГАЛУЗНІЧАЦЬ *зак.* 1. Выклікаць свавольства. *Дужа вас, мальчыкі, рызгалýзіла, места сабе ні находзіця. Іх як рызгалýзывыіць, тады яны паверьх дзяреўні ходзюць. Цябе рызгалýзьнічыла большы, чым Стасіка.* 2. Рассваволіцца. *Абоя ладна рызгалýзілі, стыряюцца адзін пірід другім. Нешта пасьледнія ўремя ты дужа рызгалýзывыў, відна, брат мала ў руках цябе дзяржыць. За лета так рызгалýзьнічылі, што ухадору сабе ня ймуць.* РАЗГАЛУЗІЦЦА, РАЗГАЛУЗЫВАЦЦА, РАЗГАЛУЗНІЧАЦЦА *зак.* Рассваволіцца. *Ну й рызгалýзіліся вы, толька ці ні ны вас бацька ремінь атпірязывыіць. Я ўмею унімаць, як яны рызгалýзывыюцца, у мяне мыхрач блізка ляжыць. Рызгалýзьнічыўся ты ціряшчур, нада ны цябе харошый бацька.*

РАЗГАМАНІВАННЕ, РАЗГАМОНІВАННЕ, РАЗГАМОННЕ, РАЗГАМОНСТВА *н.*, РАЗГАМОН *м.* Працяглыя размовы. *Ня тýркні, дык яны і да поўнычы ня кінуць сваё рызгымáнівыньня. Ты сам знаіш, сколька у іх можыць іціць рызгамонівыньня. Дзяніську тожа пыныравілыся такоя рызгамоньня, чуць ні кажный дзень тама буваіць. Узноў пыцягнуўся ны рызгамонства, ні прупускаіць ні аднаго вечыра. Сярёжка ні даслухыў ды кынца іхный рызгамон.*

РАЗГАМАНІВАЦЬ, РАЗГАМОНІВАЦЬ, РАЗГАМАНІВАЦЦА *незак.* Весці доўгія размовы. *Некылі рызгымáнівыць, бяріціся за дзела, дождж ня будзіць вас ждаць. Алёна з Мыкарым дужа любіць рызгамонівыць, сойдуцца — рысстряцца ня могуць. Дос-ка рызгымáнівыцца, бульбы ныкыпаць ні пасьпеіця.* РАЗГАМАНІЦЬ *зак.* Актывізаваць да размовы. *Яго нада ўмець рызгыманіць, тады ён многа чаго рыскажыць.*

РАЗГАНДЛЯЧЫВАЦЬ *незак. гумар.* Прадаваць. *Як узяўся рызгындлячывыць, у яго зы паўгода усё прахым пашло.* РАЗГАНДЛЯЧЫЦЬ *зак.* Прадаць. *Усё рызгындлячыў, нічога німа, сядзіць як сьвятэй.* РАЗГАНДЛЯЧЫЦЦА *зак.* Упадабаць гандаль. *Увайшоў у ахоту, рызгындлячыўся,*

*што ня зьдзержыць.* РАЗГАНДЛЯЧАНЫЙ *дзеепрым. У Лупудзёнка скора ўсё будзіць рызгындля́чына.*

РАЗГАНЯЦЬ *незак. метаф.* Акучваць. *Яе маліц акуратна рызгыня́іць бульбу, пасьці ні нада пупруўляць.* РАЗГАНЯЦЦА *незак.* Імкнуцца, жадаць. *Ня дужа твыя бульба рызгыня́іцца кіпець, ты яе жарком хырашэнька абгарні.* РАЗГАНЯНЫЙ, РАЗГАНЯТЫЙ, РАЗАГНАТЫЙ *дзеепрым. Лі аборка кусочык рызгыня́ный, а ну зугуменьня нада ехыць з рыспашнікым. Рызгыня́тыю бульбу нада піряйціць, пыправіць. Рызыгна́тыя-то бульба пыправіцца, тута нада глядзець, як кыня з рыспашнікым ні прызіваць.*

РАЗГАРАШЫВАННЕ, РАЗГАРОШЫВАННЕ *н.* Раскрышванне. *Табе нада пу руках ныдываць зы рызгыра́шывыньня. Пірістань з рызгарошывыньнім, еж як усе дзеці.*

РАЗГАРАШЫВАЦЬ, РАЗГАРОШЫВАЦЬ *незак.* Крышыць. *Узноў ты ўзяўся пряснýшкі рызгыра́шывыць! Калі будзіш так хлеб рызгарошывыць, я табе ні ськібычкі ні атрежу.* РАЗГАРАШЫВАЦЦА, РАЗГАРОШЫВАЦЦА *незак.* Крышыцца. *Чаго ў цябе етык бульба рызгыра́шывыіцца? Ты ж еж, каб пыпряньнічык ні рызгарошывыўся.* РАЗГАРАШЫЦЬ, РАЗГАРОШЫЦЬ *зак.* Раскрышыць. *Ня столька зьеў пячэньня, сколька рызгырашы́ў. Ай, што яны тута зьелі, рызгарошылі пряснушку.* РАЗГАРАШЫЦЦА, РАЗГАРОШЫЦЦА *зак.* Раскрышыцца. *Ці відзіш, сколька ў яго рызгырашы́лыся, крошык як насыпына. Калі будзіш акуратнінька есьць, дык ні рызгарошыцца.* РАЗГАРАШОНЫЙ, РАЗГАРОШАНЫЙ *дзеепрым. Усё рызгырашоныя нада сыбраць у руку ды высыпыць у шайку. На ўслончыку многа хлеба рызгарошына.* РАЗГАРАШОМШЫ *дзеепрысл. Ня будуць яны есьць пріснок, рызгырашомшы.*

РАЗГАРЖАМЫЗДЖЫВАННЕ *н.* Разбіранне нагрувашчанага. *У цябе рызгыржамы́жджывыньня будзіць цягнуцца ды са́мінькія зімы.*

РАЗГАРЖАМЫЗДЖЫВАЦЬ *незак.* Разбіраць нагрувашчанае. *Нада троху сенцы рызгыржамы́жджывыць, ато ў іх ня крысы, а ваўкі зывядуцца.* РАЗГАРЖАМЫЗДЖЫВАЦЦА *незак.* 1. Разбіраць нагрувашчанае. *Пакуль ты будзіш рызгыржамы́жджывыцца у адном вугле, у другом хламу нызьбіраіцца.* 2. Разбірацца (пра нагрувашчанае).

*Ну хуць медлінна, алі ж патроху сяніца рызгыржамы́жджывыіцца.* РАЗГАРЖАМЫЗДЗІЦЬ *зак.* Разабраць нагрувашчанае. *Ці сыбяресься ты калі рызгыржамы́зьдзіць свой громызд?* РАЗГАРЖАМЫЗДЗІЦЦА *зак.* 1. Разабраць нагрувашчанае. *Пыдажджы, я у адном месьці рызгыржамы́жджуся, тады зы павець вазьмуся.* 2. Разабрацца (пра нагрувашчанае). *Ды путней ба було, каб троху і тут рызгыржамы́зьдзілыся.* РАЗГАРЖАМЫЗДЖЫВАНЫЙ, РАЗГАРЖАМЫЗДЖАНЫЙ *дзеепрым. Што толку, ежылі рызгыржамы́жджывына, ня відзіш, сколька узноў хлым'я́, ні прайціць. Ну ні нада бурчэць, відзіш, сколька рызгыржамы́жджына.*

РАЗГАРКАЦЬ *зак. асудж. метаф.* Выклікаць рэзкі крык. *Ніізьвесна чаго рызга́ркыла іх, нехта ні так ступіў.* РАЗГАРКАЦЦА *зак.* Пачаць рэзка крычаць. *Прібег, рызга́ркыўся ны мальцыў, а яны ні ў чом, ні ў чом ні вінуваты.*

РАЗГАРЛАПАНІЦЬ *зак. груб.* Выклікаць крык. *Чаго іх рызгырлыпа́ніла на ўсю дзяреўню, толька людзей сьмішаць.*

РАЗГАРЛАЦЬ *зак. асудж.* Выклікаць крык, лаянку. *Нечыга і сяньня Гыўрілёнка рызгырла́ла, ніяк сабе спакою ні найдзіць.*

РАЗГАРНЫВАННЕ, РАЗГАРТЫВАННЕ *н.* Разгортванне. *Адною рукою ні рызга́рнывыньня, стань ны калені ды дзьвюма рукамі рызгарні́. Тама рызга́ртывыньня ны мінуту, толька хады туды ды нызад.*

РАЗГАРНЫВАННІК, РАЗГАРТЫВАННІК, РАЗГОРНЫВАННІК, РАЗГОРТЫВАННІК *м.* Той, хто разгортвае. *Даўся духу Ільлёў рызга́рнывыньнік, зы каліныўым кустом ляжыць. Пыглядзі, як рызга́ртывыньнік ваюіцца ў бульбі. Прісылай на зьмену другога разгорнывыньніка, етый ужо выбіўся сь сілы. Зымаріліся нашы разгортывыньнікі з лупатымі кылы ячменю.* РАЗГАРНЫВАННІЦА, РАЗГАРТЫВАННІЦА, РАЗГОРНЫВАННІЦА, РАЗГОРТЫВАННІЦА *ж. Учора рызга́рнывыньніцы ныпрасна бурчэлі, работы було нямнога. Пыбдзіраіць рызга́ртывыньніца грыблямі цубулю, кылы яе нада астыражней. Відзіш, як узілася Стыхваныва разгорнывыньніца, работа кіпіць. Сяньня твыя разгортывыньніца меншы стыряіцца.*

РАЗГАРЦАВАЦЬ *зак.* Вымусіць да свавольства з гоцаннем. *Ні ґ дабру вас рузгурцува́ла, балыўнікі, палучыця лупку крепкыю.* РАЗГАРЦАВАНЫЙ *дзеепрым. Ого, якея рузгурцува́ныя, ажно шкура на іх агнём бярецца!*

РАЗГАРЫВАННЕ *н.* Пачатак гарэння. *Якога ты рызга́рівыньня жджэш ац сырья, смылячок нада патторнуць.*

РАЗГАРЫВАЦЬ *незак.* Пачынаць лепш гарэць. *Лучынык як пацсунула, дровы сталі жыва рызга́рівыць, а да етыга цьмелі і ўсё.* РАЗГАРЭЦЦА *зак. перан.* Падняцца (пра тэмпературу). *Я і сыма увідзіла, што яму нідылігáіць, шчупнула гылавёнку — рызгарелыся-рызгарелыся!*

РАЗГАСЦІЦЬ, РАЗГАСЦІЦЦА *зак.* Пачаставаць. *Крепка сваіх сватоў рызгасьцілі Піліпывы. Марычка дужа ні рызгасьціцца, іна скупувата.* РАЗГАСЦЁМШЫ *дзеепрысл. Ня дужа іна рызгасьцёмшы, можа крошку сала жоўтыга унясець.*

РАЗГВАЗДЗЯЧЫВАННЕ *н. метаф.* Разбіванне ўшчэнт. *Якей толк ат еткыга рызгвызьдзя́чывыньня, выкініш качулку ў дровы і ўсё.*

РАЗГВАЗДЗЯЧЫВАЦЬ *незак. метаф.* Разбіваць ушчэнт. *Хва́ціць ручку рызгвызьдзя́чывыць, тута стамескыю дзірьку ні праб'еш.* РАЗГВАЗДЗЯЧЫВАЦЦА *незак.* Разбівацца ўшчэнт. *Слубуватый дуб пупаўся, дуўбня́ пычыла рызгвызьдзя́чывыцца.* РАЗГВАЗДЗЯЧЫЦЬ, РАЗГВАЗДАЦЬ, РАЗГВАЗДЗІЦЬ *зак.* Разбіць ушчэнт. *Пупадзець камнім і рызгвызьдзя́чыць гылаву, тады дыба́лыіціся. Нада ж так паліц рызгвызда́ць, калі ён цяперіцька зыжывець! Быракі рызгвазьдзíў, кідай у гной, куды зь імі насіцца.* РАЗГВАЗДЗЯЧЫЦЦА, РАЗГВАЗДАЦЦА, РАЗГВАЗДЗІЦЦА *зак.* Разбіцца ўшчэнт. *Як жа ні рызгвызьдзя́чыцца дзеріва, калі ўсё б'еш і б'еш. Ці падумыў ба, што так абух рызгвызда́іцца! Усё пірііжджалі ціріс трутувар, кірьпіччa рызгвазьдзілыся кытками.* РАЗГВАЗДЗЯЧАНЫЙ, РАЗГВАЗДАНЫЙ, РАЗГВАЗДЖОНЫЙ *дзеепрым. Ныга была рызгвызьдзя́чына, ажно страшна глядзець. Яго прівязьлі з рызгвызданыю гылавою. Адгрябі рызгважджоныю бульбу, каб ні мясіцца па ёй.* РАЗГВАЗДЗЁМШЫ *дзеепрысл. Ты пыглядзі, сколька гурбузоў рызгвазьдзёмшы.*

РАЗГВЭЗДЫВАННЕ *н.* 1. Размешванне. *Вот ні люблю я такога разгвэздывыньня!* 2. Размешанае рэчыва. *Сатрі тряпкыю разгвэздывыньня, ато сядзіць хто.*

РАЗГВЭЗДЫВАЦЬ *незак.* Мясіць. *І так грязна, а тут куры лезуць, бульбу разгвэздывыюць пы масту.* РАЗГВЭЗДЫВАЦЦА *незак.* Мясіцца. *Гліна лі ґанык разгвэздывыіцца, нада трошку аткінуць ды пяском пасыпыць.* РАЗГВЭЗДАЦЬ *зак.* Размясіць. *Кулеш ны скамеічкі разгвэздылі ма́лыя, сатрі вехцікым.* РАЗГВЭЗДАЦЦА *зак.* Размясіцца. *Ні рызыбраць, што тута разгвэздылыся.* РАЗГВЭЗДАНЫЙ *дзеепрым.* *Разгвэздыныю бульбу зьмяці акуратнінька ну лупатку і выкінь на двор, куры сыбяруць.*

РАЗГІЛЬДЗЯІСТЫЙ *прым.* Нядбайны, безадказны. *З рызьгільдзя́істым чылавекым горя цяпніш, ён зы работыю ні гыняіцца.*

РАЗГІМОРНІЧАЦЬ *зак.* Выклікаць капрызныя паводзіны. *Ні прідумыць, чаго Косьціка рызґіморнічыла, нешта ні па ём скызалі пру Кузьмоўну.*

РАЗГІРЭК *м. эмац.* Беспарадак. *Каб ты відзіў, якей рызьґірек у яе хаці, туды пыкызацца нілізя.*

РАЗГЛАМАЗДАЧЫВАННЕ, РАЗГЛАМАЗДЗЯЧЫВАННЕ *н. эмац.* Разгрувашчванне. *Кынчай-ка ты сваё рызглымызда́чывыньня, бульбу выпахывыць нада. Ваша рызглымызьдзя́чывыньня ды піліпывык дыцягніцца, а хочыця, і ды кыляд хваціць.*

РАЗГЛАМАЗДАЧЫВАЦЬ, РАЗГЛАМАЗДЗЯЧЫВАЦЬ *незак. эмац.* Разгрувашчваць. *Двор нада рызглымызда́чывыць, туды ня ўбіцца і калёсы ніяк ня ўзгоніш. Пайду сваё шырабу́рья рызглымызьдзя́чывыць.* РАЗГЛАМАЗДАЧЫВАЦЦА, РАЗГЛАМАЗДЗЯЧЫВАЦЦА *незак.* Разгрувашчвацца. *Дужа медлінна у вас рызглымызда́чывыіцца, так вы зызімуіця на етым месьці. Тэя дні рызглымызьдзя́чывылыся патроху, а тута сырвалыся.* РАЗГЛАМАЗДАЧЫЦЬ, РАЗГЛАМАЗДЗЯЧЫЦЬ *зак.* Разгрувасціць. *Нада було б рызглымызда́чыць пытпавецьця, можа б салому склалі. Ці рызглымызьдзя́чыш ты етый зывал к скрысеньню?* РАЗГЛАМАЗДАЧЫЦЦА, РАЗГЛАМАЗДЗЯЧЫЦЦА *зак.* Разгрувасціцца. *Во як рызглымызда́чыцца прыкаву́ліна, туды*

*будзім зыка́чывыць калёсы. Тута ў цябе няскора рызглымызьдзячыцца.* РАЗГЛАМАЗДАЧАНЫЙ, РАЗГЛАМАЗДЗЯЧАНЫЙ *дзеепрым. Ты ўзноў усякыга бырыхла ныцігаў у рызглымызда́чыныю сяніцу. Я думыў, у цябе двор рызглымызьдзя́чын.*

РАЗГЛАМАЗДЗІЦЬ *зак. эмац.* Разабраць, расплесці. *Нада увесь пляцень рызглымазьдзі́ць, ён тута большы ні нада.* РАЗГЛАМАЗДЗІЦЦА *зак.* Разабрацца, расплесціся. *Нада, каб пуня скарей рызглымазьдзі́лыся, некуды ячмень склыдаць.* РАЗГЛАМАЗДЖОНЫЙ, РАЗГЛАМОЗДЖАНЫЙ *дзеепрым. Ну хут троху павець рызглымажджона. Вы і рызгламожджыныю клець усякім бырахлом зываліця.* РАЗГЛАМАЗДЗЁМШЫ *дзеепрысл. Рызглымазьдзёмшы зыкавуліну, можна було б скласьць палкі.*

РАЗГЛЕІВАННЕ *н.* Размякчэнне глеістай глебы ад вільгаці. *Тут усігда разглеівыньня, выда ні ўбіраіцца, пакуля высыхніць ац сонца.*

РАЗГЛЕІВАЦЬ *незак.* Размякчаць глеістую глебу вільгаццю. *У лашчы́ні тыкая зімля, што яе ўсігда вясною разглеівыіць.* РАЗГЛЕІВАЦЦА *незак.* Размякчацца вільгаццю (пра глеістую глебу). *Тута і посьлі дыжджа разглеівыіцца, ета зімля ніўрадлівыя.* РАЗГЛЕІЦЬ, РАЗГЛЯІЦЬ *зак.* Размякчыць глеістую глебу вільгаццю. *Нашу сьцёжку разглеіла, што на ёй вобуў астанецца. Відзіця, як тута рызгляіла, пы такому нічога ня вырысьціць.* РАЗГЛЕІЦЦА, РАЗГЛЯІЦЦА *зак.* Размякчыцца вільгаццю (пра глеістую глебу). *Тут кажный год разглеіцца, а тады засохніць, дзелыіцца зімля як камінныя. Рызгляілыся лашчына, жывая затопа стала, конь топіцца.* РАЗГЛЕЕНЫЙ *дзеепрым. Луччы ня лезь ны разглеіныя, я цябе вывылакывыць ня буду.* РАЗГЛЯЁМШЫ *дзеепрысл. Тэй год було ду кустоў рызгляёмшы.*

РАЗГЛУЗДЗІЦЬ, РАЗГЛУЗДЗЯЧЫЦЬ *зак. неадабр.* Разнесці пустое. *Усё ета рузглузьдзілі, каб Мільлянёнкывых пысварiць с суседкыю. Любую небыль рузглузьдзя́чуць і самі ёй паверюць.* РАЗГЛУЗДЗІЦЦА, РАЗГЛУЗДЗЯЧЫЦЦА *зак.* 1. Разабрацца, зразумець. *Чуць-нячуць я рузглузьдзіўся, што ў етым пісьме напісына. Ён такей, што можыць рузглузьдзя́чыцца скора, а можыць нічога ні пыняць.* 2. Пачаць

доўга расказваць пустое. *Чаго ён тама рузглузьдзі́ўся, конь стаіць, а за ім скора прібігаць. Максім як рузглузьдзя́чыцца, яго ні піряслухыіш.* 3. Разнесціся (пра пустыя чуткі). *Яно посьлі ксьцін рузглузьдзі́лыся пры Ныталку с Хвёдырькыю. Каб у саміх ні рузглузьдзя́чылыся, ніхто б нічога ні знаў.* РАЗГЛУЗДЗЯЧАНЫЙ *дзеепрым. Папомніця маё слова, што заўтря усё будзіць рузглузьдзя́чына, і яшчэ прібавюць у трі редзі.* РАЗГЛУЗДЗЁМШЫ *дзеепрысл. Дужа даволін буваіць, рузглузьдзёмшы якую-небудзь ірунду.*

РАЗГЛУЗДЫВАННЕ *н. эмац.* Разуменне. *Пакуля дажджэсься Клімывыга разглу́здывыньня, дык забудзіш, пра што гыварілі.*

РАЗГЛУЗДЫВАЦЬ, РАЗГЛУЗДЫВАЦЦА *незак. эмац.* Разумець, разбірацца. *С трудом я пычаў разглу́здывыць, длі чаго ета гаворіна. Пыра б табе разглу́здывыцца, што яны думыюць сытваріць.* РАЗГЛУЗДАЦЬ *зак.* Зразумець, разабрацца. *Ніяк ня можыць іхныя планы рузглузда́ць.*

РАЗГНІВАЦЦА *незак.* 1. Пачынаць гнісці. *Рызгніва́юцца мае ґанкі, нада чыніць.* 2 *метаф.* Пачынаць паўнець, тлусцець. *Ці відзіў, як Максіміха рызгніва́іцца.* РАЗГНІСЦА *зак.* 1. Згнісці. *Ніжнія бірнушкі рызгнілі́ся, нада увесь ніз міняць.* 2. Распаўнець, растлусцець. *Пудоў на дзесіць рызгніла́ся, ідзець — пад ёю зімля угінаіцца.*

РАЗГОГАЦЦА, РАЗГОГКАЦЦА *зак.* Рассваволіцца з крыкам. *Мылышня́ разгогылыся кулу гумна, нейкыю гульню сабе прідумылі. Ён як разгогкыіцца, толька слухый, дужа вясёлінькій мальчык.*

РАЗГРАМЛЯЦЬ, РАЗГРАМЛІВАЦЬ *незак.* Разбураць дашчэнту. *Нашто було такоя хызяйства рызгрымля́ць! Немцы — яны немцы, а сколька свае рызгра́млівылі і двароў, і дзірявень, папробый сышчытаць.* РАЗГРАМЛЯЦЦА, РАЗГРАМЛІВАЦЦА *незак.* Разбурацца. *І раншы було, што сем'і рызгрымля́ліся. Раз пычыла сім'я рызгра́млівыцца, то толку ні дыжыдай.* РАЗГРАМІЦЦА *зак.* Разбурыцца. *Із-зы п'янкі і сім'я рызграмі́лысь, зь ім ужо аднае мінуты нілізя було жыць.*

РАЗГРУЖЫВАЦЬ *незак.* Разгружаць. *Бацька ны дваре, суччa разгру́жывыіць.* РАЗГРУЖЫВАЦЦА *незак.*

1. Разгружаць. *Ты пысядзі, пагрейся, а я пайду разгру́жывыцца.* 2. Разгружацца. *Быйстрей шывяліціся, медлінна у вас разгру́жывыіцца.*

РАЗГРУКАТАЦЦА *зак.* Распачаць грукат. *Чым тама мульчуганы рузгрюкута́ліся, каб яны сабе пальцыў ні пыдбівалі.*

РАЗГРЫМЕЦЬ *зак.* Выклікаць злоснае бурчанне. *Яшчэ раз яго рызгрімі́ць, дык ныла́ю, ныла́ю і пайду, ніхай гріміць.*

РАЗГУКЫВАННЕ *н. метаф.* Марнатраўства. *К чаму ж такоя разгу́кывыньня, так ты ні разу ні на што ні сыбяреш.*

РАЗГУКЫВАЦЬ *незак. метаф.* Марнатравіць. *Прібярежч як прі́дзіцца, а разгу́кывыць быйстра ўмеюць.* РАЗГУКЫВАЦЦА *незак.* Марнатравіцца. *Так разгу́кывыіцца ў іх, што грошы чуць пысьпіваюць пывярнуцца ў руках.* РАЗГУКАЦЬ *зак.* Змарнатравіць. *Бацька зьбіраў-зьбіраў, а сыны разгу́кылі меншы як за год.* РАЗГУКАЦЦА *зак.* Змарнатравіцца. *Каб у путнэя рукі пупала хызяйства, дык ба ні разгу́кылыся.* РАЗГУКАНЫЙ *дзеепрым. А таго разгу́кына, што жыць на сьвеці ня думыюць.*

РАЗГУЛЬТАІЦЬ, РАЗГУЛЬТАЙНІЧАЦЬ *зак.* 1. Зрабіць гультаём. *Сыма рузгульта́іла хлопцыў, цяперя нечыга войкыць. Во так во рузгульта́йнічыіш, тады гурюваць будзіш.* 2. Выклікаць гультайства. *Нешта вас ціряшчур рузгульта́іла. Нада ж, як цябе рузгульта́йнічыла, ні за што ўзяцца у дваре ня хочыш.* 3. Зрабіцца гультаём. *Чаго вы етык рузгульта́ілі, ці лі двыра пымыгаць ні нада? Рузгульта́йнічыў ён большы некуды, работы ат яго ні дажджэсься.* РАЗГУЛЬТАЕНЫЙ *дзеепрым.* Гультаяваты. *У харошыга бацькі ні былі б рузгульта́іныя.*

РАЗГУЛЯЦЬ *зак.* Выклікаць ахвоту да гуляння. *Рузгуля́ла дзяцей, што ў хату пад'есьць ні загоніш.*

РАЗГУНІЦЬ *зак.* Моцна зганьбіць. *Ніхай іна яго ня толька гуніць, а й разгу́ніць, яму ат етыга дренна ні станіць.* РАЗГУНЕНЫЙ *дзеепрым. Табе пыляхчэіць, калі ён будзіць згу́ніный і разгу́ніный.*

РАЗГУРТОВЫВАННЕ *н.* Разбіранне складзенага. *Ну як табе посьлі рузгуртовывыньня, ці быляць троху плечы?*

РАЗГУРТОВЫВАЦЬ *незак.* Разбіраць складзенае. *Будзім рузгуртовывыць хворыст, у яго вады ныліло, нада прусушыць.* РАЗГУРТОВЫВАЦЦА *незак.* Разбірацца (пра складзенае). *Ну-ка, ну-ка, як тута у вас рузгуртовывыіцца?* РАЗГУРТАВАЦЬ *зак.* Разабраць складзенае. *Салому рузгуртувáлі, зьверьху зьмёрзлыю секлі тыпаром.* РАЗГУРТАВАЦЦА *зак.* Разабрацца (пра складзенае). *Як рузгуртýіцца усё бырахло, сюда бочкі сыставім.* РАЗГУРТАВАНЫЙ, РАЗГУРТОВАНЫЙ *дзеепрым. Пні рузгуртувáны, будзім патроху калоць. Каменьня рузгуртовына, выбірай на печку луччэйшыя.*

РАЗГУТАТОРЫЦЦА *зак.* Пачаць працяглую павольную размову. *Зразу муўчалі, дайжа няўдобна неік було, а посьлі рузгутаторіліся.*

РАЗГУТАШЫВАННЕ *н.* Моцнае гушканне. *Ты астыражней з рузгутáшывыньнім: вярёўка ну крюку як пірятрецца і дзіцёнык ля́сьніцца.*

РАЗГУТАШЫВАЦЬ *незак.* Моцна гушкаць. *Яшка мяне вісока-вісока рузгутáшывыў, аж я ў столь ныгамі біў.* РАЗГУТАШЫВАЦЦА *незак.* Моцна гушкацца. *Я ўмеў хырашо рузгутáшывыцца сам, мне помышчы ні нада було.* РАЗГУТАШЫЦЬ *зак.* Моцна разгушкаць. *Мяне тожа так рузгутáшый, я ні баюся вісока пыдлітаць.* РАЗГУТАШЫЦЦА *зак.* Моцна разгушкацца. *Ты сам біз усякія помышчы рузгутáшыўся, а Паўка просіць, каб яго гутáшылі.* РАЗГУТАШАНЫЙ *дзеепрым. Рузгутáшыныя дзеці сьмяюцца, ім ну гутареліх дужа ныравіцца.*

РАЗГУТЫВАЦЬ *незак.* Гушкаць. *Як ні разгýтывый, ён усігда даволін.* РАЗГУТЫВАЦЦА *незак.* Гушкацца. *Сыма іна разгýтывыцца ня ўмеіць, пугутáшый яе.* РАЗГУТАЦЬ *зак.* Разгушкаць. *Ён пыдбягіць, рузгутáіць, а тады ацскочыць і глядзіць.* РАЗГУТАЦЦА *зак.* Разгушкацца. *Вун як рузгутáўся Іванька, ні баіцца так літаць.* РАЗГУТАНЫЙ *дзеепрым. Ён рузгутáный толька пацьсьміхывыіцца: гуташыйця яшчэ.*

РАЗГЫКАЦЬ *зак. неадабр.* Выклікаць крык, сварку. *Чаго цябе разгы́кыла, яны дзелыюць так, як скызаў Нызарёнык.* РАЗГЫКАЦЦА *зак.* Пачаць крык, сварку. *Лібядзёнык як разгы́кыіцца, ніізьвесна калі ўніміцца.*

РАЗГЫЦАЦЦА *зак. неадабр.* Груба рассваволіцца. *Яны як разгы́цыюцца, дык ніякага уніму зь імі німа.*

РАЗГЭМЗЫВАННЕ *н.* Камячанне, псаванне. *Калі вы ня ўніміціся з разгэмзывыньнім, я вас січас успакою.*

РАЗГЭМЗЫВАННІК *м.* Той, хто камячыць, псуе. *Зразу можна було пыняць, што разгэмзывыньнік узяўся за дзела.* РАЗГЭМЗЫВАННІЦА *ж. Каб ты ні была разгэмзывыньніца, у цябе б ні адбіралі з рук ладкі.*

РАЗГЭМЗЫВАЦЬ *незак.* Камячыць, псаваць. *Ка́жнінькыя раньня пасьцель разгэмзывыюць, талу́юцца па ёй.* РАЗГЭМЗЫВАЦЦА *незак.* Камячыцца, псавацца. *Каб акуратней глядзелі, так ба усё ні разгэмзывылыся.* РАЗГЭМЗАЦЬ, РАЗГАМЗАЦЬ, РАЗГАМЗІЦЬ *зак.* Пакамячыць, папсаваць. *Усё було скла́джына акуратна, дык за дзень разгэмзылі. Тыкая ладныя кучка травы ліжала, усю рызгымза́лі. Яны такея ніакуратныя, што хочыш рызгымзя́ць.* РАЗГЭМЗАЦЦА, РАЗГАМЗАЦЦА, РАЗГАМЗІЦЦА *зак.* Пакамячыцца, папсавацца. *Ці на іх што чыстыя пабудзіць, зы нядзелю ўсё разгэмзыіцца. Ня дужа яны бірягуць сваё тріхаму́дзьдзя, яно скора рызгымза́лыся. У цябе новыя адзежа ціряшчур рызгамзі́лыся, матка табе ні нуспруўля́іцца.* РАЗГЭМЗАНЫЙ, РАЗГАМЗАНЫЙ, РАЗГАМЖОНЫЙ *дзеепрым. Вун тваё шырабу́рья разгэмзыныя, пыря́ччы. Рызгымза́ныя плоха прібіраць, нада було бярежч, як усё у пырядку ліжала. Верхнія адзежа рызгамжона, хуць старцым аддывай, дык яны цяперь ня ходзюць.* РАЗГАМЗЁМШЫ *дзеепрысл. Што ты надзеніш, рызгамзёмшы пасьледнія рубашкі!*

РАЗДАБЫВАННЕ *н.* Здабыча. *Некуды сыбіраўся у руздубува́ньня іціць, а ці пашоў, я ні знаю.*

РАЗДАБЫВАННІК *м.* Той, хто здабывае. *Пашоў Прахорыў руздубува́ньнік двору з бальшою ношкыю.* РАЗДАБЫВАННІЦА *ж. Ні знаю, айдзе ходзіць сяньня наша руздубува́ньніца.*

РАЗДАВАННІК *м.* Той, хто раздае. *Ты падумый, ці астаніцца што-небудзь сабе у Цітывыга рыздыва́ньніка.* РАЗДАВАННІЦА *ж. Скора ета рыздыва́ньніца сыма будзіць цмы́гыць, каб горсьць квасолі найціць.*

РАЗДАВАЦЦА *незак.* Даваць, раздаваць. *Я дужа ні рыздаю́ся с квасолію, мае свае любюць у крупеню яе ўкінуць.* РАЗДАДЖАНЫЙ, РАЗДАТЫЙ *дзеепрым. Німа ў яе цубулі, уся рызда́джына. Узялі рызда́тыя вілкі і паціху пыпляліся к канюшні.*

РАЗДАГАЦЦА *зак.* Пачаць бег з тупатам. *Рызда́гылыся нявестка Сыўчанкова, як кабыла тупыіць.*

РАЗДАСАДЫВАЦЦА, РАЗДАСАДЗІЦЦА *зак.* Пачаць бедаваць, гараваць. *Кажный ба рыздыса́дывыўся, пачуўшы такоя пры дзяцей. Крепка Ільюшчыха рыздыса́дзілыся, ета ж нада — столька ўремя нічога пры яго ня чутна.*

РАЗДЗЕЛЫВАННЕ *н.* Разбіранне (тушы). *Каму ныравіцца, а я дык разьдзелывыньня ні люблю, вазьні́ многа.*

РАЗДЗЕЛЫВАННІК *м.* Той, хто разбірае тушу. *Зывазіўся мой разьдзелывыньнік кылы кыбына, там тыкі многа работы.* РАЗДЗЕЛЫВАННІЦА *ж. Будзіць пароцца разьдзелывыньніца с куріцыю пуўдня.*

РАЗДЗЕЛЫВАЦЬ *незак.* 1. Разбіраць (тушу). *І кыбына разьдзелывыць умець нада.* 2. Распускаць вязанае. *Пычыла вязёнку дзелыць, ны паліц забыла места кінуць, нада разьдзелывыць.* РАЗДЗЕЛЫВАЦЦА *незак.* 1. Разбірацца (пра тушу). *Медлінна ў цябе посьлі ўчырашніга разьдзелывыіцца.* 2. Распускацца (пра вязанае). *Візаць няскора, а нызад разьдзелывыіцца лёхка.* РАЗДЗЕЛАЦЬ *зак.* 1. Разабраць (тушу). *Зарезылі бычка к свадзьбі, мне яго Асташонык разьдзелыў.* 2. Распусціць вязанае, разабраць. *Ну калі табе ні ныравіцца нарожнік, я яго разьдзелыю.* РАЗДЗЕЛАЦЦА *зак.* 1. Разабрацца (пра тушу). *Ну ня будзіць жа быранок вісець, січас рызьдзелыіцца.* 2. Распусціцца (пра вязанае), разабрацца. *То бурчэлі: ні так, ні так, а цяперя самі ні рады, што разьдзелылыся.* РАЗДЗЕЛЫВАНЫЙ, РАЗДЗЕЛАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Разабраны (пра тушу). *Айдзе разьдзелывын кыбанчык, — толька апсмалілі ды памылі. Глядзі-ка, быранчык ужо разьдзелын.* 2. Распушчаны (пра вязанае), разабраны. *Пакуля што нічога ні разьдзелывына. Што йта, жымпярок ужо разьдзелын?*

РАЗДЗЕНЬКЫВАЦЬ, РАЗДЗЯНЬКЫВАЦЬ *незак.* 1. Гутарыць павольна. *Як усядуцца разьдзенькывыць, дык гатовы ноч праседзіць. Я відзіла, што яны сідзяць лі*

*Краўцовых, рызьдзя́нькывыюць.* 2. Разносіць чуткі. *Пры Сярьгеіху яе суседка усякія нібыльніцы разьдзенькывыіць. Нашто рызьдзя́нькывыць, ежылі ты ні знаіш, як тама було і што тама було.* РАЗДЗЕНЬКЫВАЦЦА, РАЗДЗЯНЬКЫВАЦЦА *незак.* 1. Гутарыць павольна. *Дужа любюць разьдзенькывыцца, сядуць — і пашло: ета так було, а тоя во етык прыісхадзіла. Не сь кім стала Вулуёнку рызьдзя́нькывыцца.* 2. Разносіцца (пра чуткі). *Раншы тута ўсяго було, і разныя лухты німала разьдзенькывылыся. А таго рызьдзя́нькывыіцца, што галоў ны плічах німа.* РАЗДЗЕНЬКАЦЬ, РАЗДЗЯНЬКАЦЬ *зак.* Разнесці чуткі. *Пру Пуўлючонкывых дзяўчонык разьдзенькыла іхныя суседка. Етым толька пупадзіся ны язык, яны што хочыш рызьдзя́нькыюць.* РАЗДЗЕНЬКАЦЦА, РАЗДЗЯНЬКАЦЦА *зак.* 1. Пачаць гутарыць павольна. *Як разьдзенькыюцца, дык гатовы дзень праседзіць. Відзіла, што рызьдзя́нькыліся кылы Ільлёвых, я ні пытхадзіла, ну іх.* 2. Разнесціся (пра чуткі). *У нашый дзяреўні асобінна нічога ні разьдзенькыіцца. Што вашых вушэй ні мінаіць, усё рызьдзя́нькыіцца.* РАЗДЗЕНЬКАНЫЙ, РАЗДЗЯНЬКАНЫЙ *дзеепрым. Длі чаго ўсё ета пра дзедкыўскіх мальцыў разьдзенькына, я ні знаю. Во увідзіць вас Пынасёнчыха — і нызаўтріга такоя будзіць рызьдзя́нькына, што і ўва сьне ні сасьніш.*

РАЗДЗІКАВАЦЦА *зак.* Моцна здзівіцца. *І вы каб пыглядзелі, рызьдзікува́ліся б, — што зь іх вытвыря́лыся.*

РАЗДЗІРАЦЦА *незак. метаф.* Моцна крычаць. *Доўга рызьдзіра́лыся Гырасіхіна нявестка, што ёй мала зыпісалі.*

РАЗДЗЯВАННІК *м.* Той, хто распранаецца, раздзяваецца. *Пымагі ззаду, ато етый рызьдзіва́ньнік разлупіць сарочку.* РАЗДЗЯВАННІЦА *ж. Зы пасьцілкыю рызьдзіва́ньніцы, нашто яны табе.*

РАЗДЗЯНДЗЮЛІВАННЕ, РАЗДЗЯНДЗЮРЫВАННЕ *н.* Павольная нудная размова. *Стыяў Пырхвянёнык лі выкна у Лявона, слухыў яго рызьдзяньдзю́лівыньня. Ні нада мне іхныя рызьдзяньдзю́рівыньня, і самі б ніхай луччы ішлі ат'етуля.*

РАЗДЗЯНДЗЮЛІВАЦЬ, РАЗДЗЯНДЗЮРЫВАЦЬ *незак.* Павольна нудна размаўляць. *Як сядуць рызьдзяньдзю́лівыць, іх ні піряслухыіш. Ні знаю, пра што яны*

*рызьдзяньдзю́рівылі.* РАЗДЗЯНДЗЮЛІЦЬ, РАЗДЗЯНДЗЮРЫЦЬ *зак.* Выклікаць павольную нудную размову. *Іх як рызьдзяньдзю́ліць, ноч будзіш сядзець, ні піряслухыіш. Сяньня узноў етых падруг рызьдзяньдзю́ріла.* РАЗДЗЯНДЗЮЛІЦЦА, РАЗДЗЯНДЗЮРЫЦЦА *зак.* Пачаць павольна нудна размаўляць. *Во рызьдзяньдзю́ліліся, і пры абед забылі. Ты б паслухыў, як яны ўчора рызьдзяньдзю́ріліся.* РАЗДЗЯНДЗЮЛЕНЫЙ, РАЗДЗЯНДЗЮРАНЫЙ *дзеепрым. Ці пру кумоў у вас усё рызьдзяньдзю́ліна? Ніхай толька сойдуцца, німала чаго будзіць рызьдзяньдзю́ріна.*

РАЗДЗЯННЕЦЦА *зак.* Разднець. *Чаго пыднімацца ўпацёмкых, рызьдзяньнеіцца — тады ўстану і печ прукурю.*

РАЗДЗЯРЖАЦЦА *зак.* Мець магчымасць трымаць у гаспадарцы. *Адною душою дужа скыта ні рызьдзяржы́сься.*

РАЗДЗЯЎБУЛІВАННЕ *н. экспр.* 1. Разбіванне, расколванне. *Зь яго рызьдзяўбу́лівыньнім ты ґ заўтріму паттопы ні дажджэсься.* 2 *перан.* Растлумачванне. *Што ты пыняў зь яе рызьдзяўбу́лівыньня, я дык нічога ні пыняў.*

РАЗДЗЯЎБУЛІВАЦЬ *незак. экспр.* 1. Разбіваць, расколваць. *Такея бальшэнныя кускі трудна рызьдзяўбу́лівыць.* 2 *перан.* Растлумачваць. *Яму нада дужа доўга рызьдзяўбу́лівыць, як глума́к якей.* РАЗДЗЯЎБУЛІВАЦЦА *незак.* 1. Разбівацца, расколвацца. *Ці рызьдзяўбу́лівыюцца етыя глуты́рі хут троху?* 2. Разбірацца, разумець. *Стаў патроху і Крыцянок рызьдзяўбу́лівыцца.* РАЗДЗЯЎБУЛІЦЬ *зак.* 1. Разбіць, раскалоць. *Ну ў цябе і лоўкысьць, нада такую курчыгу рызьдзяўбу́ліць!* 2. Растлумачыць. *Мы ж яму рызьдзяўбу́лілі луччы некуды, ну ўсё роўна зублудзіўся.* РАЗДЗЯЎБУЛІЦЦА *зак.* 1. Разбіцца, раскалоцца. *Калі сілу прікладзеш, і яблынывый пень рызьдзяўбу́ліцца.* 2. Разабрацца, зразумець. *Ты так тулмачыш, што і Кісялёнык рызьдзяўбу́ліўся.* РАЗДЗЯЎБУЛЕНЫЙ *дзеепрым.* 1. Разбіты, расколаны. *Рызьдзяўбу́ліныя кускі склыдай паць сьценку, ніхай сохнуць.* 2. Растлумачаны. *Усё яму рызьдзяўбу́ліна луччы некуды, ніхай дзелыіць.*

РАЗДЗЯЎБЫВАННЕ, РАЗДЗЁЎБЫВАННЕ *н.* 1. Расколванне з цяжкасцю. *Ну й намучыўся я з рызьдзя́ў-бывыньнім, так усё зьвілося, зраслося, нісколька ня коліцца пень. Нічога с твайго разьдзёўбывыньня ні палучыцца, нада піліць.* 2 *перан.* Усведамленне, разуменне. *У яго знаіш якоя рызьдзя́ўбывыньня: тры дні будзіць думыць. У глумука́ ізьвесныя разьдзёўбывыньня.*

РАЗДЗЯЎБЫВАННІК, РАЗДЗЁЎБЫВАННІК *м.* 1. Той, хто расколвае з цяжкасцю. *Відна, зымарыліся мае рызьдзя́ўбывыньнікі, с самыга раньня петыюцца, во ня чуць, ці ні аддыхаюць. Сідзяць разьдзёўбывыньнікі і руссуждаюць, што зь естым дубым дзелыць.* 2 *перан.* Той, хто спрабуе ўсвядоміць, зразумець. *А зірні-ка, і Хвядосіхін рызьдзя́ў-бывыньнік пычаў трошку мызкамі шывяліць. Сядзіць твой разьдзёўбывыньнік пыд ігрушыю, нешта кумекыіць.* РАЗ-ДЗЯЎБЫВАННІЦА, РАЗДЗЁЎБЫВАННІЦА *ж.* 1. Тая, што расколвае з цяжкасцю. *Зь мяне знаіш ікая рызьдзя́ў-бывыньніца: тапор усаджу і ня выцігну. Удзьвюх як возьмуцца разьдзёўбывыньніцы, усяму ряд дадуць.* 2. Тая, што спрабуе ўсвядоміць, зразумець. *Ваша рызь-дзя́ўбывыньніца як нырызьдзя́ўбывыіцца, дык ты сам будзіш нядзелю рызьбірацца. Зь яе ікраз тыкая разьдзёў-бывыньніца, як сь цябе, вы абея адзінакыва ува ўсім пынімаіця.*

РАЗДРАМАЦЦА *зак.* Упасці ў санлівы стан. *Нешта сяньня ты рыздрімáўся, ну паткінь што пад бок ды пыля-жы мінутку.*

РАЗДРАХЦЕЦЦА *зак. экспр.* Распаўнець, растлус-цець. *Ну прідумый-ка ты, як ета баба рыздряхцелыся, стала як калодзішча.*

РАЗДРУЕЦЬ *зак.* 1. Растаць, раскіснуць (у адлігу). *Уся дарога руздруела, нікуды нілізя вырушáцца.* 2 *экспр.* Распаўнець. *Я увідзіла яе ўчора ў горыдзі, ажно спужалыся: руздруела, што чуць ідзець.*

РАЗДРУІЦЬ *зак. экспр.* Выклікаць распаўненне. *Нада ж, як руздруíла яе зяця: ходзіць як пампушка ікая.*

РАЗДРЫГАЦЬ *зак.* Выклікаць дрыганне. *Нешта вас дужа раздрыгыла сяньня.* РАЗДРЫГАЦЦА *зак.* 1. Пачаць дрыгаць. *Жарка, дык яны і раздрыгыліся.* 2 *перан.* Пачаць

хадзіць з выкрунтасамі. *Ета ж Аксеньніны пляменьнікі раздрыгыліся, пыказывыюць сябе піряд шыркыўцымі.*

РАЗДРЫЖЭЦЦА *зак.* Пачаць моцна дрыжаць. *Нешта ён дужа рыздрыжэўся, ці ня чуствыіць зы сабою правінку.*

РАЗДРЫНКАЦЬ *зак.* 1. Выклікаць бразганне. *Што іх тама раздры́нкыла, зь нейкім жалезьзім ваююцца.* 2 *перан.* Выклікаць швэнданне. *Узноў яго раздры́нкыла, цігаіцца як ніпріка́інный.* РАЗДРЫНКАЦЦА *зак.* 1. Пачаць бразгаць. *Другей раз як раздры́нкыюцца бляхымі, аж у вушах зьвініць.* 2. Пачаць швэндацца. *Раздры́нкыўся Сахроныў кум, у адзін бок, у другей, усё дно як ішчыць нешта.*

РАЗДРЫНЧЭЦЬ, РАЗДРЫНКАТАЦЬ *зак.* Выклікаць моцнае бразганне. *Мульчуганыў рыздрынчэла, шморінымі б'юць пы якой-то жылізя́чыні, аж у гылаве тряшчыць. Яго як рыздрынкочыць, тады я хвытаю прут ды прутым прыгыняю.* РАЗДРЫНЧЭЦЦА, РАЗДРЫНКАТАЦЦА *зак.* 1. Пачаць моцна бразгаць. *Глянь, чым яны тамыцька рыздрынчэліся, каб ні адбіў каторый пальцыў. Былі кылы бані рыздрынкыта́ліся, а тады пабеглі некуды.* 2 *метаф.* Пачаць крык, сварку. *Як рыздрынчы́цца, няскора ўніміцца, хуць ёй язык прісікай. Ета Пылагіна нявестка рыздрынкыта́лыся, я па голысу чую.* РАЗДРЫНКАТАНЫЙ *дзеепрым.* Разнесены (пра чуткі). *Пры Клімінка усюдых рыздрынкыта́на.*

РАЗДРЫПАЦЬ, РАЗДРЫПКАЦЬ *зак. эмац.* Давесці да неахайнасці. *Нешта цябе раздріпыла як галеіўскыю старчыху. Старухі ні старухі, а раздріпкыла вас нікуды́шна.* РАЗДРЫПАЦЦА, РАЗДРЫПКАЦЦА *зак.* Зрабіцца неахайным. *Увідзіш сам, як етыя крысавіцы. пісаныя ціряз год раздріпыюцца. Раздріпкыліся Аўгінкіны нявесткі як старэя бабы.* РАЗДРЫПАНЫЙ, РАЗДРЫП-КАНЫЙ *дзеепрым. Табе дык ба і стыдна хадзіць еткім раздріпыным. Ужо дзяўчонкі пырядышныя, а ходзюць раздріпкыныя як пасьледнія апушчэнкі.*

РАЗДРЫПСІЦЬ *зак. эмац.* Зрабіць неакуратным. *Нешта дужа скора Верычку раздріпсіла.* РАЗДРЫПСІЦЦА *зак.* Зрабіцца неакуратным. *Мылыдая баба, а етык раздріпсілыся, нісколька зы сабою ні глядзіць.* РАЗДРЫП-

ШАНЫЙ *дзеепрым. Ён усігда раздріпшыный ходзіць, ета ўжо с такога пріродзьдзя.*

РАЗДРЭННЫЙ *прым.* Вельмі дрэнны. *У цябе ўсе дренныя і раздренныя, толька ты дужа хырыша, хырашэйшый на ўсім сьвеці ні найціць.*

РАЗДУДУКЫВАННЕ *н.* Павольная ціхая гутарка. *А што мне іх руздуду́кывыньня, шчынят зь імі хрясьціць я ня буду.*

РАЗДУДУКЫВАЦЬ, РАЗДУДУКЫВАЦЦА *незак.* Павольна ціха гутарыць. *Каця ні станіць доўга руздуду́кывыць, заверніцца і пойдзіць, а вы стойця сколька хочыця. Пра нешта доўга руздуду́кывыліся ны быльшаку, ці ні пры Тымарку тулкувалі.* РАЗДУДУКАЦЦА *зак.* Пачаць павольна ціха гутарыць. *Як руздуду́кылыся с кумою, дык було хуць зу рукаў аццягні.*

РАЗДУМАННЕ *н.* Раздзьмухванне. *Ну й ныдаела ета руздума́ньня, усё зымітай і зымітай наныва.*

РАЗДУМАЦЬ *незак.* 1. Раздзьмухваць. *Хырашо зытапчы агонь, ато веціp руздума́іць і куды-небудзь жарінку можыць занесьць.* 2. Раздуваць. *Ны сярёдку ў яго саўсім дренна, часта жывот руздума́іць.* РАЗДУМАЦЦА *незак.* 1. Раздзьмухвацца. *Ны віцярку і суруватыя суччa гаріць, руздума́іцца.* 2. Раздувацца. *Каровы клевіру аб'еліся, як страшна яны руздума́ліся!*

РАЗДУМЫВАННЕ *н.* Роздум. *Якоя тута разду́мывыньня, пупыдаіцца пытхыдзя́шчыя кароўка — бярі і ня думый.*

РАЗДУРАЦЬ *незак.* Раскатурхваць. *Як увысьпя́цца, іх нялёхка руздура́ць, сьпяць як забітыя.* РАЗДУРЫЦЬ *зак.* Раскатурхаць. *Ужо саўсім была ня жыва, а як руздурілі, дык яшчэ нескылька гадоў жыла.* РАЗДУРАНЫЙ *дзеепрым. Руздура́ный устаў і ні рызьбярецца, хто ета прішоў.*

РАЗДЫБАЦЬ, РАЗДЫБКАЦЬ *зак.* Вымусіць хадзіць няўклюдна. *Учора дужа Марку разды́была, усё тыптаўся пыт павецьцю і бурчэў пад нос. І цябе б разды́бкыла, каб пачула, што Пынаську пысадзіць зьбіраюцца.* РАЗДЫБАЦЦА, РАЗДЫБКАЦЦА *зак.* 1. Пачаць хадзіць няўклюдна. *Ці Мацьвей троху разды́быўся, раншы ён саўсім ны нагу ні нуступаў. Пычаў сь печы зьлізаць, можа разды́бкыіцца к вясьне.* 2. Пайсці няўклюдна. *Як разды́бы-*

*іцца, зь ім ня дужа справісься. Ці відзіла, як Матрунін зяць раздыбкыўся зы быльшак?*

РАЗДЫМІЦЦА *зак.* Пачаць моцна дыміць. *Сырэя, падгніўшыя палкі як рыздымяцца, усё дно як бальшэй пыжар.*

РАЗДЫХАЦЦА *зак.* Аддыхацца. *Ці відзіш, як яны зыхакыліся, раздыхыцца абоя ня могуць.*

РАЗ'ЕЗДЖЫВАЦЬ *незак.* 1. Рабіць частыя паездкі. *Нешта яе зяць стаў дужа разьежджывыць пы гысьцях.* 2 *перан.* Рабіць коўзкім ад сцірання. *Вы етыя палычкі разьежджывыіця, яны саўсім ня будуць дзіржацца.* РАЗ'ЕЗДЖЫВАЦЦА *незак.* Рабіць частыя паездкі. *Прівыклі і прівыклі разьежджывыцца, а бацька з маткыю сныбжаюць.* РАЗ'ЕЗДЗІЦЬ *зак.* 1. Выклікаць частыя паездкі. *Так яго разьезьдзіла, нядзелю у дваре ні пабудзіць і ўзноў паехыў.* 2. Зрабіць коўзкім ад сцірання. *Разьезьдзілі лесьвічку, іна рассыпыцца можыць.* РАЗ'ЕЗДЖАНЫЙ *дзеепрым.* Коўзкі, сцёрты. *Мае набілкі разьежджыныя, чуць бёрда дзяржыцца, нада новыя выдзіўбыць.*

РАЗ'ЕСЦА *зак.* З'есці, заняцца ядой. *Ні нубухторівый Жэніку поўныю міску, многа ён ні разьесца.*

РАЗ'ЕХАЦЬ *зак.* Выараць баразну бульбы. *Разьедзь мне пару бырязёнык, большы я ня выбіру.* РАЗ'ЕХАНЫЙ *дзеепрым.* *Пасьці ўвесь кусочык разьехыный, толька выбірайця.*

РАЗЖАРТОВЫВАЦЬ, РАЗЖАРТОВЫВАЦЦА *незак.* Жартаваць. *Ён быў бальшэй любіціль рыжжартовывыць. Вун відзіш, як рыжжартовывыюцца кыціняты, жырнінькія, што пуцучкі.*

РАЗЖАРЫВАЦЬ *незак.* 1. Пячы (невялікую колькасць). *Як яны прішлі, Домна стала рыжжарівыць сала, на стол гатовіць.* 2 *перан.* Разморваць. *Дужа рана цябе рыжжарівыіць, што ты ў абеды скажыш, работнічык.* РАЗЖАРЫВАЦЦА *незак.* 1. Пячыся (пра невялікую колькасць). *Жарінык выкыць ды пыстаў, а так у цябе доўга будзіць рыжжарівыцца.* 2. Разморвацца. *Чаго ж яны ня будуць рыжжарівыцца, такея кыбаны, зь іх хуць сала крой.* РАЗЖАРЫЦЬ *зак.* 1. Спячы (пра невялікую колькасць). *Рыжжарь крошку, ні жалей, нада людзей угасьціць.* 2. Размарыць. *Іх як рыжжаріць, яны й прыкычаюцца дзень*

*пут кустамі, за косы ня возьмуцца.* РАЗЖАРЫЦЦА *зак.* 1. Спячыся (пра невялікую колькасць). *Січас рыжжа́ріцца, пірікусіця трошку ны дарогу.* 2. Размарыцца. *Калі вы зы мінуту рыжжа́ріліся, многа тады ныработыіця.* РАЗЖАРАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Спечаны (пра невялікую колькасць). *Ны скыўрадзе рыжжа́ріныя крошкі ліжаць, вазьмі ды зьеж.* 2. Перагрэты. *Пукупаўся рыжжа́ріный, цяперя ляжыць, ка́рхыіць.*

РАЗЖЫВАННЕ *н.* Абжыванне. *Ну ніхай патрошку шаволюцца, можа што й палучыцца зь іхныга рыжжыва́ньня.*

РАЗЖЫВАННІК *м.* Той, хто абжываецца. *Тваe рыжжыва́ньнікі ні на сьмех зы хызяйства бяруцца.* РАЗЖЫВАННІЦА *ж.* *Німа ніякыга пуця зь естыя рыжжыва́ньніцы, тоўла нішчасныя.*

РАЗЖЫДЗЕЛЫЙ *прым.* Вадкі. *Пыдыла нам у чугунку нейкыга рыжжыдзелыга куляшу, мы пукулупаліся ды атклалі ложкі.*

РАЗЖЫЎ *м.* Разжытак. *На первыя ўремя ны ражжы́ў капейкі ў іх ёсьць, а тама, можа, сваты троху пыдашлюць.*

РАЗЖЭНІВАННЕ *н. эмац.* Скасаванне шлюбу. *Каб узяў ладный дрын ды пыкызаў ім ражжэнівыньня, яны б угумуваліся.*

РАЗЗАДОР *м.* Моцны запал. *Дужа ў ём рыззадору многа, пряма ні знаіць, куды дзівацъ, хуць пызычаць нясі.*

РАЗЗАДОРЫВАЦЦА *незак. перан.* Сварыцца. *Нашто вам ш чылавекым рыззадорівыцца, можа ён ні к чому ні прічácьцін.* РАЗЗАДОРЫЦЦА *зак.* Пасварыцца. *Зы ірунду рыззадоріліся, цяперя абоім стыдна.*

РАЗЗНАКАМЛІВАННЕ, РАЗЗНАКОМЛІВАННЕ *н.* Знаёмства многіх. *Яны такея, што посьлі рыззныка́млівыньня пысваріцца могуць ціріз мінуту. Ні пымагло Краўцова рыззнакомлівыньня, нешта яны ні пыныравіліся адзін другому.*

РАЗЗНАКАМЛІВАЦЬ, РАЗЗНАКОМЛІВАЦЬ *незак.* Знаёміць многіх. *Іх пычаў Гаўриліхін сын рыззныка́млівыць. Анька як возьміцца рыззнакомлівыць, дзела зугудзіць.* РАЗЗНАКАМЛІВАЦЦА, РАЗЗНАКОМЛІВАЦЦА *незак.* Знаёміцца (пра многіх). *Яны доўга рыззныка́млівыліся, ажно сьмешна глядзець було. Пашлі нашы хлопцы*

*рыззнакомлівыцца с астрейкыўскімі дзеўкымі.* РАЗЗНАКОМІЦЬ *зак.* Пазнаёміць многіх. *Ты іх як рыззнакоміш, яны і цябе забудуць.* РАЗЗНАКОМІЦЦА *зак.* Пазнаёміцца (пра многіх). *Так рыззнакоміліся, што адны ад другіх ні атходзюць.* РАЗЗНАКОМЛІВАНЫЙ, РАЗЗНАКОМЛЕНЫЙ *дзеепрым. Хто іх знаіць, калі етыя чэрці рыззнакомлівыны. Яны рыззнакомліны луччы некуды.*

РАЗЗЫКАЦЦА *зак.* Пачаць моцна гізаваць. *Ціляты раззы́кыліся, глядзі, каб ні лупану́лі пы ячменю ў кусты.*

РАЗЗЮКАЦЦА, РАЗЗЮЗЮКАЦЦА *зак.* Разгаварыцца паціху. *Як разьзю́кылыся твыя кума с Хныкоўныю, верна, часы трі прастоілі кылы яе хаты. Сыйшліся падругі, рузьзюзю́кыліся, ім зюзюкыньня на дзень хваціць.*

РАЗЗЯВАЦЬ *зак. перан. груб.* Выклікаць крык. *Ці чуіш, як Сідарёнка рызьзіва́ла, відна, узноў зы калёсы завёўся.*

РАЗЗЯЛЁНЫЙ *прым.* Вельмі зялёны. *Табе яны дужа нада, ці сьпелыя, ці рызьзялёныя, ты ніякыга яблыка ня ўкусіш.*

РАЗЗЯПЛІВАННІК *м. асудж.* Крыкун. *Паспробый скріча́цца с такім рызьзя́плівыньнікым, — шурокыя горла!* РАЗЗЯПЛІВАННІЦА *ж. Ніхто ні найдзіцца апсеч Хвядоныву рызьзя́плівыньніцу.*

РАЗІНІСТЫЙ, РАЗІВОНІСТЫЙ *прым.* Няўважлівы, рассеяны. *Пырядышный мальчонка, ды разі́ністый, яго хто хочыш абвядзець кругом пальца. Ня будзь рызівоністый, глядзі, куды ідзеш, чаго ў грязь лезьць.*

РАЗЛАДЖЫВАННЕ *н.* Разлад, нелады. *Із-за мелычы пашло рызла́джывыньня, у суседстві нілізя так атнасіцца.*

РАЗЛАЗІЦЦА, РАЗЛЯЗАЦЦА *незак. перан.* Рвацца. *Сколька ты пынасіў, месіцы два, а рубашка ны плічах ужо рызла́зіцца. Твой жэмпір рызьлізе́іцца, ён дужа старінькій.*

РАЗЛАЛАКАЦЬ, РАЗЛАЛЫКАЦЬ *зак.* Разбалбатаць. *Доўга ім умеючы любую трілюду рызлыла́кыць. Пры Машу рызлалы́кылі яе падругі, большы некыму було.* РАЗЛАЛЫКАЦЦА *зак.* Разбалбатацца. *Як увахоцюцца, як рызлалы́кыюцца, іх ні піряслухыіш.* РАЗЛАЛАКАНЫЙ, РАЗЛАЛЫКАНЫЙ *дзеепрым. Можа й раншы рызлыла́кына, я ні знаю. У іх доўга ні задзержыцца, усё будзіць рызлалы́кына.*

РАЗЛАМЫВАЦЬ *незак. перан.* Выклікаць моцны боль. *Трецьцій дзень гылаву рызла́мывыіць, пряма ікая-то нівынасімыя боль.* РАЗЛАМІЦЬ *зак.* Выклікаць моцны боль. *С самыга раньня так рызламіла мне гылаву, сядзець ні магу.* РАЗЛАМІЦЦА *зак.* Моцна разбалецца. *Усе косьці рызламіліся, ета ў мяне ўсігда к нінасьцю.* РАЗЛАМАТЫЙ *дзеепрым.* Разбураны, разламаны. *Кіреіва пуня доўга стыяла рузлума́тыя, у вайну дыпалілі.*

РАЗЛАПІСТА *прысл.* Развесіста (пра дрэвы). *Ета былі нейкія зыграніцкія сосны, расьлі рызла́піста, іх паны прівазілі і садзілі.*

РАЗЛАПІСТАСЦЬ *ж.* Развесістасць (пра дрэвы). *У суччa кляны пашлі і пулучылыся тыкая рызла́пістысьць, луччы б яны уверьх расьлі.*

РАЗЛАПЫВАЦЬ *незак. неадабр.* Расхопліваць. *Ганна атвярнулыся ны мінутку, а мульчуганы ныляцелі і дывай рызла́пывыць яблыкі.* РАЗЛАПАЦЬ *зак.* Расхапаць. *Рызла́пылі інструмент і ні найдзіш хто, у каго ня спросіш — не, я ні браў.* РАЗЛАПАНЫЙ *дзеепрым. Дренна рызла́пыныя шукаць, нада було ні дупускаць да етыга.*

РАЗЛАТАСЦЬ *ж.* Сукаватасць. *Ні к чаму еткыя рызла́тысьць, два сукі нада атрезыць, ценю меншы будзіць.*

РАЗЛАХКЫВАЦЬ, РАЗЛАЛАХКЫВАЦЬ *незак. неадабр.* Разводзіць балбатню. *Аўгінка первыя пычыла рызла́хкывыць пры Ныталычкіну дачку. Нічога яны ня відзілі, самі прідумывыюць, а тады рызлыла́хкывыюць дурату.* РАЗЛАХКЫВАЦЦА, РАЗЛАЛАХКЫВАЦЦА *незак.* 1. Разводзіць балбатню. *Любіць рызла́хкывыцца большы, чым хто другей. Нечыга рызлыла́хкывыцца, ты там ні была.* 2. Разводзіцца (пра балбатню). *Усякыя дурута пы дзяреўні рызла́хкывыіцца. А ці мала разныя чушы рызлыла́хкывылыся?* РАЗЛАХКАЦЬ, РАЗЛАЛАХКАЦЬ *зак.* Развесці балбатню. *Ну, раз пачула твыя кума, іна ўсюдых рызла́хкыіць, ня ўцерьпіць. Цьвёрда я ні знаю, ну думыю, што Куленіна дычка рызлыла́хкыла.* РАЗЛАХКАЦЦА, РАЗЛАЛАХКАЦЦА *зак.* 1. Развесці балбатню. *Як жа іна ні рызла́хкыіцца, калі ў яе язык нізыба́рсывыный.*

*Глядзі як рызлыла́хкылыся, што ні ўняць.* 2. Развесціся (пра балбатню). *Ета ні сяньня рызла́хкылыся, пра іх яшчэ на той нядзелі званілі. Ат ізыка к ізыку рызлыла́хкылыся ета трілюда.* РАЗЛАХКАНЫЙ, РАЗЛАЛАХКАНЫЙ *дзеепрым. Ну я тожа ня думыла, што так быйстра пру Лупудзёнка будзіць рызла́хкына. На той нядзелі рызлыла́хкына, мы знаім цьвёрда.*

РАЗЛАХМАЧЫВАННЕ *н.* Ускудлачванне. *Січас ты палучыш пу руках зы рызлыхма́чывыньня.*

РАЗЛАХЫВАННЕ, РАЗЛАХКЫВАННЕ *н. неадабр.* Балбатня. *Якую лухту пачуіць, і пычынаіцца ў яе рызла́хывыньня. Ну іх, каб усякыму рызла́хкывыньню дываў веры, дык ба вушы ўсохліся.*

РАЗЛАЦЕНЬКІЙ *прым. памянш.* Сукаваты. *Рызла́цінькія ліпкі, ну ніхай, ціраз год-два харошый ценъ будзіць.*

РАЗЛЕЖЫВАННЕ *н.* Вылежванне. *Кынчайці-ка разьлежывыньня, ужо с косымі на луг ідуць адзін зы адным.*

РАЗЛЕЗЛЕНЬКІЙ *прым. памянш. перан.* 1. Парваны. *Ну накінь на плечы ету разьлезьлінькыю тужурку, усё ні кажныя капля пупадзець ну рубашку.* 2. Неахайны. *Табе б ета разьлезьлінькыя нявеста ікраз ба пыдыйшла.*

РАЗЛЕЗЛІЧАК *м. памянш.* Нязграбны, брыдкі хлапчук. *Ні хваліся сваімі разьлезьлічкымі, на іх уніму німа.*

РАЗЛЕСКАТАЦЬ *зак. перан.* Шырока разнесці чуткі. *Твыя луччыя падруга і рызьліскыта́ла пру куму, нягож хто стыряўся.* РАЗЛЕСКАТАНЫЙ *дзеепрым. Ніхай якую дрыбязу, мелыч пачуюць — січас будзіць рызьліскыта́на на ўсю акругу.*

РАЗЛУПАШЫВАННЕ, РАЗЛУПЕЧЫВАННЕ *н.* Моцнае раздзіранне. *Пупадзець табе зы такоя рузлупа́шывыньня луччы некуды. Німала ім було зу рузлупечывыньня адзежы.*

РАЗЛУПАШЫВАЦЬ, РАЗЛУПЕЧЫВАЦЬ *незак.* Раздзіраць моцна. *Узноў палезьлі ны яблыны штанёнкі рузлупа́шывыць. Адзёжу рузлупечывыць умеюць, толька спруўляйся купляць.* РАЗЛУПАШЫВАЦЦА, РАЗЛУПЕЧЫВАЦЦА *незак.* Раздзірацца моцна. *Лянь-ка ты, другей рукаў уцэла рузлупа́шывыіцца. На іх усё рузлупечывыіцца,*

*як агнём гаріць.* РАЗЛУПАСІЦЬ, РАЗЛУПЕЧЫЦЬ *зак.* Разадраць моцна. *За́грудкі яго як тырмаснуў, рубашку рузлупа́сіў пасьці на́пыл. Пылазіць па йгрушыні — ён табе новінькія штанёнкі зы два дні рузлупечыць.* РАЗЛУПАСІЦЦА, РАЗЛУПЕЧЫЦЦА *зак.* Разадрацца моцна. *Душагреічка рузлупа́сілыся, пысьцялі кылы крываці пад ногі стынавіцца ўраньні. Лі пастройкі хуць зялезныя ныдзівай, усё рузлупечыцца.* РАЗЛУПАШАНЫЙ, РАЗЛУПЕЧАНЫЙ *дзеепрым. Сядзіць старік кылы выкна сы голкыю, рузлупа́шыный рукаў шшываіць. Рузлупечыныя шапка выляіцца, адзін кызырёк цэлый астаўся.*

РАЗЛУХЦІЦЬ *зак.* Разнесці чуткі. *Такея булбутуны́ што хочыш рузлухця́ць, ім ета ні ў пірьвіну.* РАЗЛУХЦІЦЦА *зак.* Пачаць расказваць пустое. *Як рузлухціўся Максім, дык усе толька пысьміхаліся.* РАЗЛУХЧОНЫЙ *дзеепрым. Пры Лістарыва бярьвеньня було рузлухчона яшчэ на той нядзелі.* РАЗЛУХЦЁМШЫ *дзеепрысл. Рузлухцёмшы якую-небудзь трілюду, становюцца давольны.*

РАЗЛЫНДАЦЦА, РАЗЛЫНДЗІЦЦА *зак.* Прывыкнуць швэндацца. *Разлы́ндыцца ім нядоўга, нада часьцей к рабоці прітуркывыць. Разлы́ньдзіліся дзяўчонкі, Адарка дайжа карову пыдаіць ня ўпросіць.*

РАЗЛЯПЫВАННЕ, РАЗЛЯПКЫВАННЕ *н. метаф. неадабр.* Распаўсюджанне чутак. *Раз ета пачула, па ўсёй дзяреўні пойдзіць рызьля́пывыньня. Каб меншы було усякыга рызьля́пкывыньня, можа б і жызьня ладзілыся.*

РАЗЛЯПЫВАЦЬ, РАЗЛЯПКЫВАЦЬ *незак. метаф. неадабр.* Распаўсюджваць чуткі. *Первыю пра ета пычыла рызьля́пывыць Сахроніха, нягож хто. Пры Аўрамёнка Кыністратыві рызьля́пкывылі, большы ніхто.* РАЗЛЯПЫВАЦЦА, РАЗЛЯПКЫВАЦЦА *незак.* 1. Распаўсюджваць чуткі. *Так ўжо любіць рызьля́пывыцца, ета ёй як маслым пу душэ. Яны ўсігда найдуць пра што рызьля́пкывыцца.* 2. Распаўсюджвацца (пра чуткі). *Каб самі ізыкі зу зубамі дзіржалі, нічога б ні пычало рызьля́пывыцца. У нашым канцы трошку цішэй, а тама ўсё чысьцінька рызьля́пкывыіцца.* РАЗЛЯПАЦЬ, РАЗЛЯПКАЦЬ *зак.* Распаўсюдзіць чуткі. *Такім ветрінным луччы нічога ні гываріць, яны ўсё рызьля́пыюць. Доўга ім умеючы*

*рызьля́пкыць і пры Данілу, і пры Ігарёнка.* РАЗЛЯПАЦЦА, РАЗЛЯПКАЦЦА *зак.* 1. Пачаць распаўсюджваць чуткі. *Ты каб толька пачуў, як тама рызьля́пылыся Кымшачыхіна дычка. Ціряшчур яны рызьля́пкыліся, ім каб ізыкі троху ўрезыць.* 2. Распаўсюдзіцца (пра чуткі). *Патроху-патроху рызьля́пылыся, а Матрункі цяперя хуць на вуліцу ні пыказыйся. Каб зь імі была Антаноўна, нічога б ні рызьля́пкылыся.* РАЗЛЯПАНЫЙ, РАЗЛЯПКАНЫЙ *дзеепрым. Пыглядзіш, і пры Мыкырінят будзіць рызьляпына. Няўжэлі ты ні пынімаіш, длі чаго ета рызьля́пкына.*

РАЗМАЗКАТАНЫЙ *дзеепрым.* Разбіты ўшчэнт. *Я прішла, гляджу — гырлач рызмызкыта́ный, — пряма ні прідумыю, што с кошкыю дзелыць.*

РАЗМАЛАЦІЦЬ *зак. метаф.* Перамагчы, разагнаць. *Крепка немцыў рызмылаціілі пад Мінскым. Ета агонь баба, іна адна ўсіх рызмалоціць.*

РАЗМАЛАЧЫВАННЕ *н. метаф.* Грубае разбіванне. *Звык і звык мылаціць посыд, а тады старік крепка яму даў зы рызмыла́чывыньня.*

РАЗМАРЦАВАЦЦА *зак. гумар.* Распачаць заляцанні. *Вашы ухажоры рузмурцува́ліся, што хуць сяньня жані.*

РАЗМАСОЛІВАННЕ *н.* Абгрызанне, абсліньванне. *Ні ныравіцца мне такоя рызмасолівыньня, нада быць ува ўсём акуратней.*

РАЗМАСОЛІВАЦЬ *незак.* Грызці, абсліньваць. *Ня столька ядуць, сколька рызмасолівыюць і кідаюць.* РАЗМАСОЛІВАЦЦА *незак.* Грызціся, абсліньвацца. *Што ат ма́лыга хацець, гру́дычкі рызмасолівыюцца, ты хуч часьцей выцірай.* РАЗМАСОЛІЦЬ *зак.* Абгрызці, абсліміць. *Ськібычку хлеба дыла, ён рызмасоліў і кінуў.* РАЗМАСОЛІЦЦА *зак.* Абгрызціся, абсліміцца. *Вун як рукавёнкі рызмасоліліся, хуць выжмі.* РАЗМАСОЛЕНЫЙ *дзеепрым. Рызмасоліныя тряпкі спыласьні, каб ні зысыхалі.*

РАЗМАХАЙ *м.* Марнатравец. *Ні скызаць, каб бацька з маткыю былі транжыры, а маліц нейкій рызмыха́й зыдаўся. Узмацн.* РАЗМАХАІНА. *Во яшчэ рызмыха́іна урадзіўся, ці ў такога што будзіць калі-небудзь. Павеліч.* РАЗМАХАІШЧА. *Пойдзіць пы старцых рызмыха́ішча,*

*большы зь яго нічога ні палучыцца.* РАЗМАХАЙКА *ж. І дычка тыкая самыя рызмыха́йка, як Пылага была. Памянш.* РАЗМАХАЕЧКА. *Ну канешня рызмыха́ічка, а нягож хто расьцець.*

РАЗМАХАЙСТВА *н.* Марнатраўства. *Што ўжо ні любіў мой старэй такога рызмыха́йства, пряма пірінасіць ня мог.*

РАЗМАХЛЯРЫЦЦА, РАЗМАХЛЯРНІЧАЦЦА, РАЗМАХЛЯРСТВАВАЦЦА *зак.* Пачаць нястрымна махлярнічаць. *А як яны тоя ўремя рызмыхля́ріліся, чаго толька ні вытвырялі аравыю. Дужа твой зяцёк рызмыхля́рнічыўся, можыць у такую пролыбку ускачыць, што ня выпрыгніць. Рызмыхля́рствывыцца нядоўга, ну калі пупадзецца, упякуць дык упякуць.*

РАЗМАХМУДЗІЦЬ, РАЗМАХМУДНІЧАЦЬ *зак.* Выклікаць да незразумелых учынкаў. *Вун як рызмахму́дзіла чудука, што ён пычаў вытвыряць. Яго як рызмахму́днічыіць, зь ім што хочыш сытваріцца.* РАЗМАХМУДЗІЦЦА, РАЗМАХМУДНІЧАЦЦА *зак.* Пачаць рабіць глупства. *Ай, што яму скажыш, калі ён рызмахму́дзіўся. Мы ўжо відзілі, што яны рызмахму́днічыліся.*

РАЗМАХЫВАННЕ *н.* 1. Раскідванне. *Адзін пулучыў зы рызма́хывыньня і другому тоя самыя будзіць.* 2 *перан.* Марнатраўства. *Як ты церьпіш такоя рызма́хывыньня, ён цябе па міру пусьціць.*

РАЗМАХЫВАЦЬ *незак.* 1. Раскідваць. *Січаж жа пірістань бульбу рызма́хывыць, ремня раз-два палучыш!* 2 *перан.* Марнатравіць. *Якей ета хызяін, кылі рызма́хывыіць хызяйства па ветру.* РАЗМАХАЦЬ, РАЗМАХНУЦЬ *зак.* 1. Раскідаць. *Ці твае ета рукі бульбу рызмыха́лі? Рызмахну́ць нядоўга, а ці захочыш сыбіраць посьлі.* 2. Раздзьмуць. *Крыша ат коміна зыгарелыся, а віцярок у мінуту рызмыха́ў агонь. Веціp тваю мякінку рызмахну́ў.* 3. Змарнатравіць. *Зырыбляіць ён пырядышныга, ну толька што заробіць, то й рызмыха́іць. За дзьве нядзелі столька грошы рызмахну́ць, — як ты жыць думыіш?* РАЗМАХАЦЦА *зак.* Змарнатравіцца. *А так рызмыха́лыся яно то сюды, то туды, у руках нічога ні задзержылыся.*

РАЗМАШАРАВАЦЬ *зак. метаф.* Выклікаць актыўнае дзеянне. *Нешта вас сяньня дужа рузмушурувáла, ніўдзе вы сабе спакою ні найдзіця.* РАЗМАШАРАВАЦЦА *зак.* Пачаць актыўна дзейнічаць. *Ні ґ дабру вы, мальцы, рузмушурувáліся, можыць вам крепка ўляцець.*

РАЗМАШЧЫВАННЕ, РАЗМОШЧЫВАННЕ *н.* Разбіранне падлогі. *Ці скора вы асвыбадзіціся з рызмáшчывыньнім, нада було б трошку Хведзю паможч. Надоўга у іх зыцягнулыся размошчывыньня.*

РАЗМАШЧЫВАННІК, РАЗМОШЧЫВАННІК *м.* Той, хто разбірае падлогу. *Рызмáшчывыньнікі ваююцца сяньня ат відныга, то тэй ны таго крічыць, то тэй ны таго. Вымызыліся размошчывыньнікі, у іржэ, у пылі, толька вочы бліщчаць.* РАЗМАШЧЫВАННІЦА, РАЗМОШЧЫВАННІЦА *ж.* *Вот я вам рызмáшчывыньніцу вяду на помышч. Ікая ні размошчывыньніца, хуць палку пыдзяржыць ці пыдасьць што.*

РАЗМАШЧЫВАЦЬ, РАЗМОШЧЫВАЦЬ *незак.* Разбіраць падлогу. *І кышануць ба нада, і ат хаты нілізя атыйціць, рызмáшчывыць нада. Гвозьдзя доўгыя зыгната, цяжола узарвывыць, размошчывыць.* РАЗМАШЧЫВАЦЦА, РАЗМОШЧЫВАЦЦА *незак.* 1. Разбіраць падлогу. *Ну што ж дзелыць, буду брацца рызмáшчывыцца. Жджы ці ня жджы, а размошчывыцца нада.* 2. Разбірацца (пра падлогу). *Нешта у вас дужа медлінна рызмáшчывыіцца, так ды пыкрыва ці кончыця. Патроху размошчывыіцца, тута дужа ні разгонісься.* РАЗМАСЦІЦЬ *зак.* Разабраць падлогу. *Хаты я рызмасьціў, клець асталыся ды сь сенцымі вызьня будзіць.* РАЗМАСЦІЦЦА *зак.* 1. Разабрацца (пра падлогу). *Во заднія хата размосьціцца, тады пры запечкі буду думыць.* 2 *метаф.* Узяць за звычку. *Што зы балыўный маліц: рызмасьцíўся пы сыдках лазіць, спасу ат яго німа.* РАЗМАШЧЫВАНЫЙ, РАЗМОШЧЫВАНЫЙ, РАЗМОШЧАНЫЙ *дзеепрым.* *У мяне дык нічога ні рызмáшчывына. Айдзе там што размошчывына, Кіряёнык ні пра што і ня думыў! Усё размошчына, сяньня пывязу досткі ны дзяреўню.*

РАЗМЕЛЬКАВАЦЬ *зак. эмац.* Абдумаць. *Ці хырашо ж ты рызьмількувáў, што так усё кідаіш і едзіш у белый сьвет.* РАЗМЕЛЬКАВАЦЦА *зак.* 1. Абдумаць. *Гаворюць,*

*што ладна рызьмількуваліся, а як яно палучыцца, хто яго знаіць.* 2. Пачаць раздумваць. *Як рызьмількуваліся, што ў іх будзіць тамыцька, пряма зылатэя горы.*

РАЗМІНАВАЦЦА *зак.* 1. Размінуцца. *Калёсы пыставілі блізка адны ґ другім, трудна будзіць рызьмінувацца.* 2 *метаф.* Не закрануць, не ўкрасці. *Ныўряд, каб ён рызьмінуваўся с Танічкінымі капейкымі.* РАЗМІНУЦЦА *зак.* Не закрануць, не ўкрасці. *Трудна яму рызьмінуцца, айдзе што плоха пыкладжына.*

РАЗМУДРАЦЬ, РАЗМУДРЫВАЦЬ, РАЗМУДРАЦЦА, РАЗМУДРЫВАЦЦА *незак.* Сваволіць, распускацца. *Пірістань-ка ты рузмудряць, ато я быйстра ныкармлю. Размудрівыіш ты, карова, адньмі яблыкымі я цябе карміць ня буду. Віджу, што ты пычынаіш рузмудряцца, нада ны цябе бізунчык. Хто размудрівыіцца, а хто не, як каторый прівык.*

РАЗМУНДЫКІ *мн. неадабр.* Балбатня. *Ці ні надумыўся ты піряслухыць усе бабскія рузмундыкі, — не, ні ўдасца.*

РАЗМУНДЫКЫВАННІК *м. неадабр.* Балбатун. *Рузмундыкывыньнікі і пры заўтрік забылі, Архіпёнык ім нешта турлычыць.* РАЗМУНДЫКЫВАННІЦА *ж. Хвёдырыва рузмундыкывыньніца пышла, астатнія сідзяць ны бярьвеньні.*

РАЗМУНДЫКЫВАЦЦА *незак. неадабр.* Балбатаць. *Дай ім толька сыйціцца, пашлі рузмундыкывыцца, ізыкі ні сьціхаюць.*

РАЗМУРЛЫКАЦЬ *зак.* Выклікаць мурлыканне. *Во рузмурлыкыла кошку, ты яе дужа смашна ныкарміў.* РАЗМУРЛЫКАЦЦА *зак.* Пачаць працягла мурлыкаць. *Дзеці сьпяць, і кот кыла іх рузмурлыкыіцца і рядым засьнець.*

РАЗМЫКЫВАННЕ *н. эмац.* Бяздумнае раздаванне. *Я ўжо дывала ёй праборку зы такоя размыкывыньня, як ета, гываріла, ні пра што ня думыць.*

РАЗМЫКЫВАЦЬ *незак. эмац.* Бяздумна раздаваць. *Што ж ты размыкывыіш сімяно, пнёўскый сваёй падругі столька аддыла.* РАЗМЫКЫВАЦЦА *незак.* Бяздумна раздавацца. *У цябе і летыся, і залетыся усё размыкывылыся, ня ўмеіш на сьвеці жыць.*

РАЗМЫСЛОВА *прысл.* Удумліва, разважна. *Стыльмашоньік рызмыслова дзелыіць і тріпаць абы-чаго ні станіць.*

РАЗМЫСЛОВАСЦЬ *ж.* Удумлівасць, разважнасць. *Ікая рызмысловысьць у ветріньніка, ён сьпірва дзелыіць, а тады пычынаіць думыць..*

РАЗМЫСЛОВЫЙ *прым.* Удумліві, разважны. *Куліноўна была рызмысловыя баба, іна крепка падумыіць, а тады скажыць. Памянш.* РАЗМЫСЛОВЕНЬКІЙ. *Каб жа ён быў такей рызмысловінькій, як другея!*

РАЗМЫЎКА *ж.* Лякарства для прамывання. *Во глядзі, тута я размыўку стаўлю, ат віцінара прінёс.*

РАЗМЯЖДЖУРЫВАННЕ *н.* Грубае расціскание. *Вун што твой гіройскій сын тваріць, — нада пу руках ныдываць зы такоя рызьмяжджурівыньня!*

РАЗМЯЖДЖУРЫВАЦЬ *незак.* Груба расціскаць. *Глянь-ка, як ма́лый ныгамі рызьмяжджу́рівыіць бульбу пы масту, атвылакі скарей!* РАЗМЯЖДЖУРЫВАЦЦА *незак.* Груба расціскацца. *Хлеб нейкій ніважный, рызьмяжджу́рівыіцца, хут ты яго бярі ды піріпікай.* РАЗМЯЖДЖУРЫЦЬ *зак.* Груба расціснуць. *Ён табе многа наесьць: рызьмяжджу́ріць пряснушку — і выкініш сьвіньням у шайку.* РАЗМЯЖДЖУРЫЦЦА *зак.* Груба расціснуцца. *Твае ладкі рызьмяжджу́ріліся у мяшочыку, ні ладкі сталі, а камок цеста.* РАЗМЯЖДЖУРАНЫЙ *дзеепрым. Твой вузялочык пупаў пыд мяшок, усё ў ім рызьмяжджу́ріна, нечыга на стол класць.*

РАЗМЯЗДРАЧЫВАННЕ *н. экспр.* Грубае расціскание. *Ай-я-яй, што тута надзелына, куды такоя рызьміздря́чывыньня дзіваць, есьць яго ні станіш.*

РАЗМЯЗДРАЧЫВАЦЬ *незак. экспр.* Груба расціскаць. *Ета ці ні твае балыўнікі і рызьміздря́чывылі пріснок.* РАЗМЯЗДРАЧЫВАЦЦА *незак.* Груба расціскацца. *Як мяккыя адно на дно кладзеш, ніжнія рызьміздря́чывыіцца.* РАЗМЯЗДРАЧЫЦЬ *зак.* Груба расціснуць. *Ты тама ладык хуць ні рызьміздря́ч лазіўшы.* РАЗМЯЗДРАЧЫЦЦА *зак.* Груба расціснуцца. *Такую ціжаль пылажыў, ну, гуркі і рызьміздрячыліся.* РАЗМЯЗДРАЧАНЫЙ *дзеепрым. Пытрясі усё рызьміздря́чыныя ныч шайкыю, нечыга тама выбіраць.*

РАЗМЯКАЦЦА *зак. жарт.* Пачаць перамагаць у баруканні. *Ох, ты рызьмя́кыўся, усіх піряборіць хочыш, а Пеця кряпчэй зы цябе.*

РАЗМЯКЧЭЦЬ, РАЗМЯКЧЭЦЦА *зак.* Зрабіцца мяккім. *Як рызьмякчэіць скарінка, тады я зьем, а так нізашто ні ўкушу. Во калі ў мяне ну руках бургункí рызьмякчэліся, як паріць пычыла!* РАЗМЯКЧЭЛЫЙ *дзеепрым. Зімля рызьмякчэлыя, ня ўсюдых пройдзіш.*

РАЗМЯРАННЕ, РАЗМЕРЫВАННЕ *н.* Меранне для падзелу. *Якоя ж тваё рызьміря́ньня, што на цэлыю чэцьвірць кырацей атрезылі. Яны дужа ні сьпішаць з разьмерівыньнім, прыкычаліся пуўдня ў кустах.*

РАЗМЯРАННІК, РАЗМЯРАЛЬШЧЫК, РАЗМЯРАЦЕЛЬ, РАЗМЕРЫВАННІК *м.* Той, хто размярае. *Рызьміря́ньнікі сяньня за дзень ныхадзіліся. Зь яго такей рызьміряльшчык, ён шчытаіць саўсім слаба. Ваш рызьміря́ціль як намерііць, дык ніхто ні рызьбярецца, што к чаму. Заўтря тожа разьмерівыньнікі пойдуць, у іх яшчэ многа работы.* РАЗМЯРАННІЦА, РАЗМЯРАЛЬШЧЫНА, РАЗМЯРАЦЕЛЬКА, РАЗМЕРЫВАННІЦА *ж. Сідзяць рызьміря́ньніцы зу кустом, нешта сваё апсуждаюць. Знапі, каго стынавіць рызьміря́льшчыцыю, іна грамытныя дзяўчонка. Січас пірямерііць Сазоныва рызьміря́цілька, іна троху петріць у етым. А ты была б разьмерівыньніца луччы ўсіх!*

РАЗМЯРЭКАЦЦА *зак. экспр.* Пачаць развражаць. *Ісачоньк як рызьмярекыўся, усё дно як міністыр якей.*

РАЗМЯШАЙКА *ж.* Прылада для размешвання. *Апстругай мне рызьміша́йку, каб лоўкінькыя была. Памянш.* РАЗМЯШАЕЧКА. *Нейдзі зыцірялыся мыя рызьміша́ічка, зыкацілыся куды-то.*

РАЗМЯШЫВАННЕ *н.* Размешванне. *Во якоя тваё рызьмя́шывыньня: гліна цэлымі кымкамі ляжыць!*

РАЗМЯШЫВАЦЬ *незак.* Размешваць. *Пычаў гліну рызьмяшывыць, а дно у яшчыку выскычыла.* РАЗМЯШЫВАЦЦА *незак.* Размешвацца. *Мел засох і ня хочыць рызьмя́шывыцца.*

РАЗНАМЁТ *н.* Рознакаляровасць. *Відзіш, якей рызнамёт яе пасьцілкі, ажно у вычах дзелыіцца ряба.*

РАЗНАШЫВАННЕ *н. метаф.* Распаўсюджванне. *Іх зылаіць нада зы такоя рызна́шывыньня лухты, што пачуюць, яшчэ прікладуць і пынясьлі.*

РАЗНАШЫВАЦЬ, РАЗНОШЫВАЦЬ *незак.* 1. Разносіць. *Хваціць-ка табе нажы рызна́шывыць куды зря, зы табою тады ні найдзіш. Дзеці што ні пупадуць, усё разношывыюць.* 2 *метаф.* Распаўсюджваць. *Калі вы пірістаніця трілюды рызна́шывыць? Любюць чуш разношывыць, у іх і пулучаіцца ладна.* РАЗНАСІЦЬ *незак.* Распаўсюджваць. *А ўмела рызнасі́ць плёткі, ніхай сьвяцінька ляжыць.* РАЗНАШЫВАЦЦА, РАЗНОШЫВАЦЦА *незак.* 1. Разносіцца. *Як ні біряеш, само пы сабе усё рызна́шывыіцца. У цябе і раншы многа чаго разношывылыся.* 2. Распаўсюджвацца. *Харошыя ні так скора пачуіш, а ўсякыя дурута рызна́шывыіцца быйстра. Сплетні разношывыюцца скарей ні нада.*

РАЗНЕРВІЧАЦЬ, РАЗНЕРВІЧАЦЦА *зак.* Разнервавацца. *У яго гылыва слабыя, як разьнерьвічыіць, яму саўсім дренна дзелыіцца. Зы ірунду, за вілкі разьнерьвічыўся, — а ніхай ба яны там на месьці згарелі!*

РАЗНІЗЫВАННЕ *н.* Разніманне зніза – вопратак, апранутых адна на другую. *С тваім разьні́зывыньнім ты да вечыра правозісься.*

РАЗНІЗЫВАЦЬ *незак.* Разнімаць зніз вопратак. *Разьні́зывый зьніз, ірьмяк павесь кыла духу, ніхай прысыхаіць.* РАЗНІЗЫВАЦЦА *незак.* Разнімацца (пра зніз). *У цябе ня дужа і разьні́зывыіцца, крепка напёрта.* РАЗНІЗАЦЬ *зак.* Разняць зніз. *Ну што вы, і ўдваіх ні рызьнізá́іця!* РАЗНІЗАЦЦА *зак.* Разняцца (пра зніз). *Цягні кряпчэй, як-небудзь рызьнізá́іцца.* РАЗНІЗАНЫЙ *дзеепрым.* *Прібярі рызьнізá́ныя тряхольля, ні кідай як зря.*

РАЗНУДЗІЦЦА *зак.* Пачаць моцна бедаваць. *Томка с Анькыю разну́дзіліся: іхныя кывалеры ужо другую вічарінку прупускаюць.*

РАЗНЫКАЦЬ *зак.* Вымусіць часта згінацца. *Нешта іх разны́кыла кыла пунь, усё дно як што іскалі.*

РАЗНЫРАЦЦА *зак.* Пачаць часта ныраць. *Во рызныря́ліся, адзін хырашо, а другей яшчэ луччы.*

РАЗНЮНДЗІЦЬ *зак. экспр.* Выклікаць хныканне. *Абеіх як разьню́ньдзіць, тады ўжо хуць пішы піряд імі.* РАЗНЮНДЗІЦЦА *зак.* Расхныкацца. *Разьню́ньдзілыся, чаго ёй ні тыкая канхвета, як у Воўкі.*

РАЗРАДЖЫВАННЕ *н.* Прарэджванне. *Сьпіна рызбалелыся посьлі рызря́джывыньня, крюкым стыяла пасьці ўвесь дзень.*

РАЗРАДЖЫВАЦЬ, РАЗРАДЖАЦЬ *незак.* Прарэджваць. *Я сяньня сваे быракі рызря́джывыла. Ні нада було так рызріджа́ць моркву, дужа редка пулучылыся.* РАЗРАДЗІЦЬ *зак.* Прарэдзіць. *Во тута тожа густа гуркі узыйшлі, рызрядзі́, ато яны ня вырыстуць.* РАЗРАДЖЫВАНЫЙ, РАЗРАДЖАНЫЙ, РАЗРАДЖАТЫЙ *дзеепрым. Рызря́джывыныя морква буйныя, а ну другой грядкі дробнінькыя. Ны адной грядкі рызріджа́ныя гуркі, а ну другой густы. Відзіш, як пашлі ў рост рызріджа́тыя быракі.*

РАЗРАЖАЦЬ *незак.* Узбуджаць. *Ты еткыю сваркыю толька сам сябе рызріжа́іш, а яно ны здароўя уліяіць.* РАЗРАЖАЦЦА *незак.* Узбуджацца. *Зы ўсякыю мелыч рызріжаіцца, у яго зь нервымі ні ў пырядку.*

РАЗРАПЯРЦІЦЬ *зак. гумар.* Хораша прыбраць. *Рызріпярці́ла свайго Іваньку, хут ты яго другей раз у сваты вядзі.* РАЗРАПЯРЦІЦЦА *зак.* Хораша прыбрацца. *Ну дык што, калі яны рызріпярці́ліся, толку ня выйшла ні на грош.* РАЗРАПЯРЧОНЫЙ *дзеепрым. Пашлі Домніны нявесткі рызріпярчоныя, с сумычкымі, як барышні.* РАЗРАПЯРЦЁМШЫ *дзеепрысл. Трецьцій дзень сядзіць рызріпярцёмшы, жджэць, а Коля ўсё ня едзіць.*

РАЗРЫВАННІК *м.* Той, хто раскопвае. *Бузуюцца рызрыва́ньнікі над погрібым, зімліная работа цяжолыя.* РАЗРЫВАННІЦА *ж. Разрыць ба ета ўсё нада, ды мулувата сіл у рызрыва́ньніц.*

РАЗРЫВАЦЦА *незак. метаф.* Моцна крычаць, моцна брахаць. *Аддай ты яму яблыкі, ніхай ні рызрыва́іцца. У самыю поўныч сыбакі рызрыва́ліся, некыга чулі.*

РАЗРЭЗ *м. метаф.* Непрыязнасць. *Ці даўно ў цябе с Толікым такей разрез? Цяперя яны у разрезі с Кыбынятымі.*

РАЗРЭЎЦЦА *зак.* Пачаць моцна ўголас плакаць. *За нешта ні пыладзілі, узноў рызряўліся на ўвесь двор.*

РАЗУМОЧАК *м. памянш. іран.* Мудрэц, хітрун. *Ну ці вы ні знаіця, ета первый рузумочык у акругі, усіх пувучаць любіць.*

РАЗУН *м.* Рэзкі вецер. *У зáцішы ні халодна, а ны чысьціні такей рязýн, што наскрозь прыхвáтывыіць.*

РАЗУНОК, РАЗУНЧЫК, РАЗУНОЧЫК *м. памянш. эмац.* Востры на язык чалавек. *Вы толька паслухылі б, якей різунок у Машкі пыдрыстаіць. Відзіш, бярецца рязýнчык, ты яму слова, ён табе дзесіць. Ладный різуночык узяўся, хут ты яму язык укырачывый.*

РАЗУРАННЕ *н. перан.* Бушаванне, буянства. *Другей раз я пыкажу яму рузуря́ньня, уніміцца дурату тварíць.*

РАЗУРАННІК, РАЗУРАЦЕЛЬ, РАЗУРЫЦЕЛЬ, РАЗУРАЦЕЛЬНІК, РАЗУРЫЦЕЛЬНІК *м.* 1. Той, хто разбурае. *Нысварíцца нада було ну рузуря́ньнікыў, іш, як рызбалывыліся! На цэрькву лазілі рузуря́цілі, адзін, гыварілі, больна гнітануўся. Глаўныга рузурíціля ты ні знаіш, тута ўсім кымандывыў Лявончыкыў. Хвытала на сьвеці усякіх рузуря́цільнікыў. І рузурíцільнікі тута былі, і ўсякыя халера.* 2 *перан.* Той, хто бушуе, буяніць. *С такім рузуря́ньнікым ішчэ лёхка справіцца, за шкырку тріхані — і асядзіцца. Як чарку возьміць, тады ён рузуря́ціль, што ні пуцступайся. Ого, якей ён рузурíціль пыт хмяльком, спакою німа! Каб хлыбазіныю аччахвосьціў рузуря́цільнікыў, тады б яны аціхлі. Хвядон дужа ўмеў рузурíцільнікыў уціхамірівыць.*

РАЗУРАННІЦА, РАЗУРАЦЕЛЬНІЦА, РАЗУРЫЦЕЛЬНІЦА *ж.* 1. Тая, што разбурае. *Стыдна, рузуря́ньніцы, птушычкі хацелі птушунят вывісьць, а вы што зьдзелылі! Мы помнім, ікая ета была акцівістка, рузуря́цільніца. Нешта ні пыладзілі, Аўсеіхіна рузурíцільніца плачыць.* 2. Тая, што бушуе. *Ты зь ёю астыражней, як зьдзелыіцца рузуря́ньніцыю, яе ні ўгамуіш. Во табе і Стыхваныва дычка, ныстыяшчыя рузуря́цільніца. Ня думылі, што ты станіш тыкая рузурíцільніца.*

РАЗУРАТНА *прысл.* Свавольна. *Бáлыўныя сталі дзеці, рузурáтна сябе вядуць, у наша ўремя куды цішэй былі.*

РАЗУРАТНІЧАННЕ, РАЗУРАТСТВА *н.* Свавольства, распуснасць. *Толька вы мне ні ўніміціся з рузурáтнічыньнім, толька ні ўспакойціся! Я на іхныя рузурáцтва доўга глядзець ні стану, скора хлыбазіну вазьму.*

РАЗУРАТЫВАЦЬ, РАЗУРАТНІЧАЦЬ, РАЗУРАТЫВАЦЦА, РАЗУРАТНІЧАЦЦА *незак.* Сваволіць, распус-

нічаць. *Ай-я-яй, як яе дзеці рузурáтыюць, худзь ба ж іна трошку ўнімала. Як дзеўка станіць рузурáтнічыць, ета ўжо ня дзеўка. Калі яны пірістануць рузурáтывыцца, пряма ны гылывах ходзюць. Ну што яны, дзень прі дні рузурáтнічыюцца, во што яны дзелыюць.*

РАЗУРЫВАННЕ *н.* 1. Поўнае разбурэнне. *Разýрівыньня — дзела няхітрыя, строіць трудней.* 2 *перан.* Поўная разгубленасць, роспач. *Пряма разýрівыньня, ні магу прідумыць, што дзелыць.* 3 *перан.* Бушаванне, буянства. *Яго скора з разýрівыньнім унімуць.*

РАЗУРЫВАЦЬ, РАЗУРАЦЬ *незак.* 1. Разбураць. *Мы пакуля што ня будзім пастройку разýрівыць. Рузурáць скора, ды сыстынаўлівыць доўга.* 2 *перан.* Штурхаць на бушаванне, буянства. *Во пычало чылавека разýрівыць! Ні знаю, чаго іх рузуряіць.* РАЗУРАЦЦА *незак.* Бушаваць, буяніць. *Нядренна прыйшла свадзьба, Стыльмашоның троху рузуряўся.* РАЗУРЫВАНЫЙ, РАЗУРАНЫЙ, РАЗУРАТЫЙ *дзеепрым.* Разбураны. *Разýрівыных гумныў тама німа. Не, я ня відзіў, каб тама стыялі рузурáныя хаты. Пасьці ўсе пастройкі ў дзяреўні цэлыя, стаіць нескылька рузурáтых двароў у адным канцы.*

РАЗУХАБІСТА *прысл.* Весела, развязна. *Вы б толька пыглядзелі, як яны рузухáбіста хадзілі тута, пыказывылі сябе.*

РАЗУЧАЦЬ *незак.* Развучваць. *Я дужа любіла вершыкі рузучáць — пры Ірмыка, подзьвіг Сусаніна, Бырыдзіно.*

РАЗУЧЫЙ *прым.* Рэзкі. *Ні знаю, як вы дойдзіця, веціp дужа рязýчый і ўсю дарогу ў ліцо.*

РАЗЫРЖАЦЦА *зак.* 1. Пачаць працягла іржаць. *Няпоіныя коні рызыржáліся.* 2 *перан. асудж.* Пачаць груба сваволіць. *Як рызаржýцца, дык хут ты с хаты ўцікай.*

РАЗЯВОНЕННЕ, РАЗЯВОННІЧАННЕ *н.* Разявацтва. *Канешня, у ветріньніка усігда будзіць рызівоніньня. Із-зы рызівоньнічыньня астаўся бізь яблык: пряма с-пад рук ухвацілі торбычку.*

РАЗЯВОНІЦЦА, РАЗЯВОННІЧАЦЦА *незак.* Праяўляць разявацтва. *Ходзіш пы бызару, дык ні рызівонься, ато і кашолку з рук выхвыцюць. Ён такей, што рызівоньнічыцца ны кажным шагу.*

РАЗЯВОНІЧКА *м.* і *ж. памянш.* Разява. *Што ж ты, рызівонічка, глядзіш, скот у шкодзі, выгыняй скарей. Павеліч.* РАЗЯВОНІШЧА. *Во была рызівонішча, самыга простыга ёй ні ўтулкуваць.*

РАЗ'ЯЗДЖАННЕ *н. перан.* Рассоўванне. *Ну што, узноў бяріся чыніць рызыжджа́ньня, відзіш, як дзелыць цяп-ляп.*

РАЗ'ЯЗДЖАННІК *м.* Той, хто шмат ездзіць. *Як прічы́гыіцца рызыжджа́ньнік, што ну кусок хлеба ня будзіць, тады асядзіцца.* РАЗ'ЯЗДЖАННІЦА *ж. Вярнулыся Ныталычкіна рызыжджа́ньніца, другую нядзелю у дваре сядзіць.*

РАЗ'ЯСНЯЦЬ *незак. метаф.* Распагоджвацца. *Кажыцца, патрошку рызысьня́іць, бог дасьць рыспагодзіцца.* РАЗ'ЯСНІЦЬ *зак.* Распагодзіцца. *На той нядзелі дождж адуріў, толька ў скрысеньня к вечыру рызьясьніла троху.*

РАІНА *ж.* Беспарадак. *Ны дваре рыіна́, усё дно як яму некылі прірyціць нічога.*

РАЙКА *ж.* Сорт дробных салодкіх яблык (дрэва і плод). *У панскім саду у старым лі Пыдгародзьдзя сядзела ра́йка. Памянш.* РАЕЧКА. *Хто йта табе даў ра́ічык? — ета ра́ічкі, я ж віджу, што ра́ічкі́.*

РАМАНЦІР, РАМОНТШЧЫК *м.* Рамонтнік. *Поріцца нашріманьці́р лі саней, ці зьдзелыіць што, ці нічога ў яго ні палучыцца. Доўга возюцца рімонтшчыкі кыла сенцыў, ня дужа стыряюцца.* РАМОНТШЧЫЦА *ж. Як прібягіць Вукулёнкыва рімонтшчыца, тады дзела пойдзіць.*

РАМАЦІЖНІК *м.* Лекавая трава для лячэння раматусу. *Ні знаю, як каму, а мне рымаці́жнік пымыгаіць: пыпарю ў ім ногі — і ляхчэй.*

РАМАЦІЗНАСЦЬ *ж.* Раматус. *Давіць мяне рымаці́знысьць, чуць зыхыладжу ногі — ні магу нуступіць, хуць кычайся гылавешкыю.*

РАМАЦІЗНІК *м.* 1. Хворы на раматус. *Ты даўно знала, што ён рымаці́зьнік, хто цябе зыстыўляў яго брацъ.* 2. Лекавая трава для лячэння раматусу. *Рымаці́зьнік пу лугах зьбіраюць, ну я яго хырашо ні знаю, буваіць, нарьвеш, ды ня тога.* РАМАЦІЗНІЦА *ж.* Хворая на раматус. *Іна даўно рымаці́зьніца, прі немцых ат пыліцэйскіх пы пыгрібах хувалыся, зустудзілыся крепка.*

РАМУШОК, РАМУШОЧАК *м. памянш.* Раменьчык. *Я сабе луччый рімушок купіў, у цябе такога ні було. Вот ета рімушочык, бряжка аж гаріць!*

РАНДАТАРЫХА *ж.* Жонка арандатара. *Тут рындатыр жыў, работыў як вол, а рындáтыріха, бувала, нізавошта ня возьміцца.*

РАНШЫЙ *прым.* Ранейшы. *Рáншыя гады, кажыцца, такіх хыладоў ні було, ці ета мы мыладзейшыя былі.*

РАПТАВАННЕ *н.* Нагружанне. *Нейкыя у вас саўсім нікульцяпістыя руптувáньня, глядзі, усё рухніць нызад.*

РАПТАВАННІК *м.* Той, хто нагружае. *Сяньня руптувáньнікі ня дужа пытхватныя, ня вы́спыліся посьлі вічарінкі.* РАПТАВАННІЦА *ж. Патрошку носюць вілкымі сена с пуні руптувáньніцы Аніськіны.*

РАПТАВАЦЬ *незак.* Нагружаць. *Відзім, што дождж находзіць, дывай скарей руптувáць вазы.* РАПТАВАЦЦА *незак.* Нагружацца. *Абы-як руптувáцца нілізя, сьпірва падумыйця, што куды класьць.*

РАПТАННІК *м.* Той, хто выказвае незадаволенасць, крыўду. *Ды самыя старысьці рыптáньнікым быў, усё, бувала, ні па ём дзелыюць, ні так гаворюць.* РАПТАННІЦА *ж. Ліванкова рыптáньніца разьню́ньдзілыся, нешта ні так скызалі суседзкія дзеўкі.*

РАПЯРЧЭННІК, РАПЯРЧЭНЕЦ *м. гумар.* Той, хто рыхтуецца да пэўнага дзеяння. *Калі возьміцца Мяцёлкін ріпярчэньнік, дзела пойдзіць. Ды знаім, знаім, якей с Хвядонывыга сына ріпярчэніц.* РАПЯРЧЭННІЦА, РАПЯРЧЭНКА *ж. Зь Верычкі ікраз тыкая ріпярчэньніца, як зь яе мамы. Такой ріпярчэнкі усё можна даверіць, іна каго хочыш пыдріпярціць.*

РАПЯРЧЭНСТВА *н. гумар.* Падрыхтоўка да пэўнага дзеяння. *У іх як пычанецца ріпярчэнства, дык ці кончыцца к абеду.*

РАСІНСКІЙ *прым.* Вышэйшай якасці. *Нехта у мяне ўзяў рясінскія пряжы ны камлёт і грібянец нехта ўзяў.*

РАСКАБОІНА *м. узмацн.* Свавольнік, гарэза. *Рыскабоіны-рыскабоіны мульчуганы, цэлымі днямі адурюваюць.* РАСКАБОЙНІЦА *ж. Ну й рыскабойніца ты стала, я дайжа іціць с табою баюся.*

РАСКАБЫЛІЦЦА *зак. метаф.* Разбурыцца (пра печку). *Печ дужа слаба, іна вот-вот рыскабы́ліцца і ўся рухніць.*

РАСКАБЫРДЗІЦЬ *зак. іран.* Увесці ў злосць. *Яго любая мелыч можыць рыскабы́рдзіць.* РАСКАБЫРДЗІЦЦА *зак.* Раззлавацца. *Зы пырваныя вожычкі рыскабы́рдзіўся.* РАСКАБЫРДЖАНЫЙ, РАСКАБЫРДЖОНЫЙ *дзеепрым. Я увідзіла, што рыскабы́рджыный, дык ні стала пытхадзіць. Пашоў у горыд рыскыбырджоный твой ніныглядный.* РАСКАБЫРДЗЁМШЫ *дзеепрысл. Калі рыскыбырдзёмшы, луччы ня трогый і слова ні гывbooі.*

РАСКАВЕРЧЫВАННЕ *н. эмац.* Раскалупванне, разбуранне. *Ну-у, мне такоя рыскаверчывыньня саўсім ні ныравіцца, склыдай усё нызад.*

РАСКАВЕРЧЫВАЦЬ *незак. эмац.* Раскалупваць, разбураць. *Сядзіць і рыскаверчывыіць клубочыкі, во што ён дзелыіць.* РАСКАВЕРЧЫВАЦЦА *незак.* Раскалупвацца, разбурацца. *Вузялкі твае выляюцца айдзе зря, рыскаверчывыюцца, упыряччы іх хут троху.* РАСКАВЕРЧЫЦЬ *зак.* Раскалупаць, разбурыць. *Яны рыскаверчуць што хочыш, дужа балыўныя мульчуганы.*

РАСКАВЯРАЦЦА *зак.* Раскапацца няўмела, раскалупацца. *Я ж і гываррю: ні сыма ета сьценка рыскывіря́лыся, нехта пыстыряўся.* РАСКАВЯРАНЫЙ, РАСКАВЯРАТЫЙ *дзеепрым. Цяперя ўсё рыскывіря́ныя нада падмесьць ды высыпыць у яму. Засохла, дык ня трогый, рыскывіря́тыя рана будзіць большы балець.*

РАСКАВЯРАЧЫВАННЕ *н. эмац.* Раскопванне, разварочванне. *Як ныдаела тваё рыскывіря́чывыньня, на двор узыйціць нілізя!*

РАСКАВЯРАЧЫВАЦЬ *незак. эмац.* Раскопваць, разварочваць. *Сярьгеіў малый рыскывіря́чывыў муравейнікі, большы ніхто ня трогыў.* РАСКАВЯРАЧЫЦЬ *зак.* Раскапаць, развярнуць. *Рыскывіря́чылі дзіван, цяперя зь яго нічога ня будзіць.* РАСКАВЯРАЧАНЫЙ *дзеепрым. Тэя калёсы стыяць рыскывіря́чыныя, ніхто іх ні сыбіраў.*

РАСКАЗАЦЦА *зак.* Пачаць расказваць. *Ня дужа ён рыска́жыцца, большы ўсё маўчком, маўчком, пы Ільлёвый прірodзі.*

РАСКАЗЛІЦЬ *зак. іран.* Выклікаць капрыз. *Рысказьліла нешта Якывіныга ма́лыга, што-то ні па ём скызалі.* РАСКАЗЛІЦЦА *зак.* Пачаць капрызіць. *Чаго іна рысказьлілыся, як ніізьвесна хто.* РАСКАЗЛЁМШЫ *дзеепрысл. Калі рысказьлёмшы, луччы к ёй ні пуцступацца.*

РАСКАКАЦІЦЬ *зак. экспр.* Выклікаць бурны рост. *Вун як рыскыкаціла етыя кусты, лісьця дужа бу́шныя.* РАСКАКАЦІЦЦА *зак.* Бурна разрасціся. *Бульба рыскыкацілыся, у яе ня ўлезьць, ніхай трошку апсохніць посьлі дажджу.*

РАСКАЛАМСАЦЬ *зак. эмац.* Размясіць. *Лі калодзіжа рыскылымса́лі, што ступіць нілізя, чуць ні пы калені грязь.* РАСКАЛАМСАЦЦА *зак.* Размясіцца. *Нешта ны масту ў сенцых рыскылымса́лыся, замесьць нада.* РАСКАЛАМСАНЫЙ *дзеепрым. Пыдатрі рыскылымса́ныю бульбу.*

РАСКАЛАМСІЦЬ *зак. эмац.* 1. Размясіць. *Дарожку рыскыламсілі, што разу ня ступіш.* 2 *метаф.* Растрэсці. *Траіх адзін рыскыламсіў і аткінуў аць сябе.* РАСКАЛАМСІЦЦА *зак.* Размясіцца. *У нас ны дваре рыскыламсілыся, да пуні ні дыбраццца, каб пяску прівезьць ды засыпыць.* РАСКАЛАМШОНЫЙ *дзеепрым.* 1. Размешаны. *Ат кустоў і сюда ды нас рыскыламшона, што каткі хуваюцца.* 2. Растрэсены. *Капёшкі рыскыламшоныя, — во некыму нечыга було дзелыць!* РАСКАЛАМШОМШЫ *дзеепрысл.* 1. Размясіўшы. *Грязь лі варот рыскыламшомшы.* 2. Растросшы. *Рыскыламшомшы іх, як резьніць большыга аб землю!*

РАСКАЛАТЫРЫЦЬ *зак.* Выклікаць энергічны рух, беганне. *Сяньня узноў Пісьлячонка рыскылаты́ріла, бегыіць туды-ныэад.* РАСКАЛАТЫРЫЦЦА *зак.* Пачаць энергічны рух, беганне. *Аткуліцька мне знаць, чаго яны рыскылаты́ріліся.*

РАСКАЛАЧЫВАННЕ, РАСКАЛОЧЫВАННЕ *н.* 1. Развядзенне цеста. *Кынчай рыскыла́чывыньня, пойдзім піряпілім палку. Рыскалочывыньня тожа ждаць ня будзіць.* 2. Разведзенае цеста. *Рыскыла́чывыньня я на печ пыставіла ну круюшочык, там цяплей. Тваё рыскалочывыньня з лыхынка лезіць.*

РАСКАЛАЧЫВАЦЬ *незак.* Разводзіць (цеста). *Я ўжо бліны пычыла рыскыла́чывыць, а яны зыбіляныя крупені просюць.* РАСКАЛАЧЫВАЦЦА *незак.* Разводзіцца (пра цеста). *Ці ў цябе бліны рыскыла́чывыюцца, ці можа поліўка выйдзіць?* РАСКАЛАЧЫВАНЫЙ *дзеепрым. Нічога ў яе ні рыскыла́чывына, прыспалі мы сяньня усё на сьвеці.*

РАСКАЛБАСІЦЬ *зак. экспр.* Выклікаць вычваранне. *Іх як рыскылбасíць, ніякыга уніму ні находзюць.*

РАСКАЛГІКАЦЬ *зак. эмац.* Вымусіць хадзіць кульгаючы. *Ношку травы прінесьць яе у ноч у поўныч рыскалгíкыіць.* РАСКАЛГІКАЦЦА *зак.* 1. Пачаць хадзіць кульгаючы. *Пасьледнія ўремя троху рыскалгíкылыся, хуць ны гряды выходзіць.* 2. Пайсці кульгаючы. *Вун як рыскалгí-кыўся Піліпёнык, ці ні ґ брігадзіру сваріцца зы кыня.*

РАСКАЛДЫБАЦЬ, РАСКАЛДЫБКАЦЬ *зак. метаф.* 1. Вымусіць хадзіць кульгаючы. *Яго як рыскалдыбыіць, ты б толька пыглядзела на ета! Ого, некуды рыскалды́бкыла Аріныга старога, ці ні сватоў атведывыць выпрывіўся.* 2. Пачаць хадзіць кульгаючы. *Раншы саўсім ні пыдымаўся, а цяперя троху рыскалды́быў. Не, скора ён ні рыскал-ды́бкыіць, саўсім слаб.* 3. Пайсці кульгаючы. *Куды ж ета твае швагрені рыскалды́былі? Па-мойму, ён у Стахоўшчыну рыскалды́бкыў, грібы любіць зьбіраць.* РАСКАЛДЫБАЦЦА, РАСКАЛДЫБКАЦЦА *зак.* 1. Пачаць хадзіць кульгаючы. *Можа к вясьне рыскалды́быіцца, а січас ні нуступаіць ны нагу. Пакуля я рыскалды́бкыюся, на левыю нагу саўсім ні магу стаць.* 2. Пайсці кульгаючы. *Вун ён, твой Сыўчанок, рыскалды́быўся ці ні ў Різанцы. Аткуля мне знаць, куды яны рыскалды́бкыліся.*

РАСКАЛДЫКАЦЦА *зак.* 1. Пачаць хадзіць кульгаючы. *Патрошку-патрошку рыскалды́кылыся, хуць ступаць магу.* 2. Пайсці кульгаючы. *Як рыскалды́кыіцца ў лес, ты яго дыгнаць паспробый!*

РАСКАЛУПАЦЦА *зак. перан.* Распачаць доўгае порканне. *Восіпіха рускулупа́лыся ны грідах, тама ішчэ палоць дужа нечыга.*

РАСКАЛЫВАННІК *м.* Той, хто расколвае. *Ахотня б'ець рыска́лывыньнік, ён стыряцільный маліц, а калодзьдзя сукуватыя.* РАСКАЛЫВАННІЦА *ж. Відзіш, ікая с*

*Тыцяны рыска́лывыньніца: тоніңькыю палычку ні рызаб'ець.*

РАСКАЛЯКАЦЦА *зак.* Разгаварыцца пацііху. *Рыскыля́кыліся пра нешта дзьве падругі, бітый час прастоілі пыд амбарым.*

РАСКАМІСАРЫЦЦА, РАСКАМІСАРНІЧАЦЦА, РАСКАМІСАРСТВАВАЦЦА *зак.* Праявіць энергію на кіраўнічай пасадзе. *Міхалка тады як рыскымiса́рiўся, думыў, гылавы ня зносіць. Дужа яны рыскымiса́рнічыліся, ніхай ні рдзяцца, скора апсякуцца. Шчытаў, што рузумней зы яго нікога німа, хацеў рыскымiса́рствывыцца, а тута рузумнейшыя найшліся.*

РАСКАМКЫВАННЕ, РАСКОМКЫВАННЕ *н.* Разгортванне скамечанага. *Хваціць табе вазіцца з рыска́мкываньнім, кінь етыя бумажкі. Памый рукі посьлі раскомкывыньня, усякыю ты гадысьць бярещ!*

РАСКАМКЫВАЦЬ *незак.* Разгортваць скамечанае. *Рыска́мкывый, пыглядзім, што тут ныкымка́на.* РАСКАМКЫВАЦЦА *незак.* Разгортвацца (пра скамечанае). *Ірьвецца бумага, ня хочыць рыска́мкывыцца.* РАСКАМКАЦЬ *зак.* Разгарнуць скамечанае. *Іна рыскымка́ла жмуток, тама грошы былі укручыны.* РАСКАМКАЦЦА *зак.* Разгарнуцца (пра скамечанае). *Ні рыска́мкыіцца ў яго, сам рызьвярці́.* РАСКАМКАНЫЙ *дзеепрым. Аткінь ґ загнету рыскымка́ныя бумажкі.*

РАСКАПАРЫЦЦА *зак.* Пачаць поркацца. *Рыскыпарі́лыся іс сваімі тра́нтымі, ты яе будзіш тры часы ждаць.*

РАСКАПЫВАННЕ *н. перан.* Высвятленне. *Ён знаў, што к чаму, як пычаў рыска́пывыньня, усё выісьніў.*

РАСКАРКАЦЦА *зак.* Пачаць моцна каркаць. *Піряд бурію вароны рыска́ркыліся, ета мне дужа ў прімеці.*

РАСКАРОЧЫВАННЕ *н.* 1. Раскарачванне. *Стой роўнінька, рыскарёчывыньня — ета дужа нікрасіва, сьміяцца будуць.* 2 *метаф.* Раскопванне, разбурэнне. *Ляда посьлі рыскарёчывыньня кінулі, ду вума ні дывялі, яно чортым зырасло, ні поля, ні кустоў.*

РАСКАРОЧЫВАННІК *м.* 1. Той, хто раскарачваецца. *Пыдзівіся на етыга рыскарёчывыньніка, як ён стаіць.* 2 *метаф.* Той, хто раскопвае, разбурае. *Пыстыряліся*

*рыскарёчывыньнікі: шульцы пыткыпалі і ўвесь бок у пуні выіхыў.* РАСКАРОЧЫВАННІЦА *ж.* 1. Тая, што раскарачваецца. *Пру́та рыскарёчывыньніца палучыць і ўсе яе дуры́ айдзе дзенуцца.* 2. Тая, што раскопвае, разбурае. *Нічога ў тых кустах рыскарёчывыньніцы ня зьдзелыюць, тама нада сіла ні абы-ікая.*

РАСКАРОЧЫВАЦЬ *незак.* 1. Раскарачваць. *Пірістань рыскарёчывыць ногі як качэрьгі.* 2. *метаф.* Раскопваць, разбураць. *Другей год рыскарёчывыюць Амшару, усё дно як ва́дзііць ім.* РАСКАРОЧЫВАЦЦА *незак.* 1. Раскарачвацца. *Пірістань рыскарёчывыцца, дурную прівычку ўзяў.* 2. Раскопвацца, разбурацца. *Ныпрасна кусты рыскарёчывыюцца, на той зямле нічога росьць ня будзіць.* РАСКАРОЧЫЦЬ *зак.* 1. Раскарачыць. *Рыскарёчылі ногі і стыяць, любуюцца, як Мішка ўсякыю дурату выдзелывыіць.* 2. Раскапаць, разбурыць. *Ладный кусок лугу рыскарёчылі, нашто ім быў луг, каб хто спрасіў.* РАСКАРОЧЫЦЦА *зак.* 1. Раскарачыцца. *Чаго ён рыскарёчыўся як ідыл якей, п'яный ці што.* 2. Раскапацца, разбурыцца. *Во хызяін: пунька рыскарёчылыся, сьценка выіхыла, а ён і ў вус ня дуіць.* РАСКАРОЧАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Раскарачаны. *Я відзіў Антона: стыяў рыскарёчыный лі піўнушкі і за ліпу дзіржаўся.* 2. Раскапаны, разбураны. *Як ты праедзіш пы такой рыскарёчыный пахыці, варочый нызад.*

РАСКАРУЧЫВАННЕ *н.* 1. Разбуранне. *Стогнуць стырікі посьлі рыскарю́чывыньня, там яны ладна нубузува́ліся.* 2. Разбураныя рэчы, пабудовы. *Нада думыць, як рыскарю́чывыньня да толку дывадзіць.* 3. Згінанне. *Пыдзікуйся ны Ракыва рыскарю́чывыньня: ны палку с трудом аппіраіцца.*

РАСКАРУЧЫВАЦЬ *незак.* 1. Разбураць. *Нашто було пунчыну рыскарю́чывыць, усякыя бырахло туды склыдалі.* 2. Згінаць. *Яго даўно пычало рыскарю́чывыць, гадоў дзесіць крюкым ходзіць.* РАСКАРУЧЫВАЦЦА *незак.* 1. Разбурацца. *Раз прігляду німа, яно само пы сабе рыскарю́чывыіцца.* 2. Згінацца. *Стала Аўгінка рыскарю́чывыцца, ну ёй многа гадоў, зы нас іна намнога старей.* РАСКАРУЧЫЦЬ *зак.* 1. Разбурыць. *Трактыры дарогу рыскарю́чылі, што ны калёсых ні праедзіш.* 2. Сагнуць. *Нешта цябе рыскарю́чыла*

*зы пасьледнія ўремя.* РАСКАРУЧЫЦЦА *зак.* 1. Разбурыцца. *Рыскарю́чылыся мыя пуня, крыша ны адзін бок зыіжджаіць.* 2. Сагнуцца. *К старысьці ён рыскарю́чыўся, ну што хацець: такея гады!* РАСКАРУЧАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Разбураны. *Тама стыяць дзьве рыскарю́чыныя пуні, іх, відна, скора зьнясуць.* 2. Сагнуты. *Ікая рыскарю́чыныя ета верба! Мікілай тожа ходзіць рыскарю́чыный.*

РАСКАРХАЦЬ, РАСКЭРХАЦЬ *зак.* Выклікаць працяглы кашаль. *Во рыска́рхыла старога! Нешта Пуўлючонка раскэрхыла, ажно зы дзяреўнію чутна.* РАСКАРХАЦЦА, РАСКЭРХАЦЦА *зак.* Раскашляцца. *Нешта Аўдзяёнык рыска́рхыўся, на печы сядзіць і ні злазіяць. Узноў старік раскэрхыўся, у яго, відна, зь лёхкімі ні ў пырядку.* РАСКАРХАНЫЙ, РАСКЭРХАНЫЙ *дзеепрым. Куды яго пысылаць такога рыска́рхыныга. Ніхай ён пару дней пыляжыць раскэрхыный на печы.*

РАСКАРХЫВАННЕ, РАСКЭРХЫВАННЕ *н.* Працяглы кашаль. *У Напрея як пычыныіцца рыска́рхывыньня, дык ну пуўчыса. Ета Кісялёнкыва раскэрхывыньня, я зразу пызнаю́.*

РАСКАТКА *ж. метаф.* Частыя паездкі. *Рыска́тка ім ныравіцца, ды іна любіць грошы, а зырыбляць ім, ой, як ня хочыцца.*

РАСКАЎЗЫВАННЕ, РАСКОЎЗЫВАННЕ *н.* Утварэнне коўзкасці. *К чаму ета ваша рыска́ўзывыньня, балыўства адно з вас тваріцца. Палучыця зы раскоўзывыньня, длі чаго такую дурату тваріць!*

РАСКАХЛІВАННЕ *н.* Празмернае награванне. *У хаці і так ні халодна, еткыя рыска́хлівыньня грубычкі лішнія.*

РАСКАЦІЦЦА *зак. метаф.* Раскалоцца, разбіцца. *Яблыкі пірясьпелі, чуць ліпяць, каторыя ударіцца аб зямлю і зразу раскоціцца.* РАСКАЦЁМШЫ *дзеепрысл.* 1. Раскаціўшыся. *Узноў твае палкі рыскацёмшы, ці склаў дренна, ці дзеці ба́лывыліся.* 2. Моцна парэзаўшы. *Айдзе ж ты возьмісься зу лупатку, так рыскацёмшы ладонь.*

РАСКАЧЫВАЦЬ *незак.* Раскідваць качаннем. *Нашто б ім було палкі рыска́чывыць, ліжалі акуратна складжыныя, дык рукі чысаліся.* РАСКАЧЫВАЦЦА *незак.* Раскідвацца качаннем. *Вун чуіш, бярьвеньня рыска́чывыіцца.* РАСКАЧАЦЬ *зак.* Раскідаць качаннем. *Ета, наверна, чужэя*

*рыскычáлі бёрны, свае ныўряд, каб так дурачыліся.* РАСКАЧАЦЦА *зак. метаф.* Пражыць. *На пеньсіі дужа ні рыскычáісься, скуліндý палучыш і думыіш, якую дзірьку заткнуць.* РАСКАЧАНЫЙ, РАСКОЧАНЫЙ *дзеепрым. Рыскычáныя бярьвеньня выляіцца, ета вашых бысячуг работа: ноч вуюваліся. Хвядоныва хата раскочына, ці ні заўтря пірівазіцца будуць.*

РАСКАШАВАРЫВАННЕ *н. гумар.* Абжыванне. *Ні тряпліціся вы пра Цітыва рыскышывáрівыньня: кунюшэнку здохлінькыга дзіржаў.*

РАСКАШАВАРЫВАЦЦА *незак. гумар.* Абжывацца. *Айдзе яму було рыскышывáрівыцца, галы́ш гылышом, яго і бацька беднінька жыў.* РАСКАШАВАРЫЦЦА *зак.* Абжыцца. *Цесьць памог рыскышывáріцца, у сымаго ні трясцы ні було.*

РАСКАШЫРЫВАННЕ *н. эмац.* Шчодрасць. *Ці ты ні знаіш яе рыскашы́рівыньня: дасьць якую скуліндý, а тады паўгода будзіць пымінаць.*

РАСКАШЫРЫВАЦЬ *незак. эмац.* Рабіць шчодрым. *Яго ня дужа рыскашы́рівыіць, ні так ён лёгінька што дасьць.* РАСКАШЫРЫЦЬ *зак.* Зрабіць шчодрым. *Ні прідумыць, як ета Дрызьдзінка так рыскашы́ріла!*

РАСКВАКЛІВАННЕ *н.* Размазванне, расквэцванне. *Кажын раз я зы вамі рысквáклівыньня прібіраю, ныдаела.*

РАСКВАКТЫВАННЕ *н. метаф. гумар.* Стогн. *Сь печы саскрёбся, два шагі ступіў, і ўзноў пычынаіцца рысквáктывыньня.*

РАСКВАКТЫВАЦЬ *незак. метаф. гумар.* Выклікаць стогн. *Чуць віцярок дунуў, яго пычынаіць рысквáктывыць: ой, коліць, ой, поріць.* РАСКВАКТАЦЬ *зак.* Выклікаць стогн. *Сяньня узноў стáрыю рысквыктáла, сь печы к сталу ні зьлізаіць.*

РАСКВАШЫВАННЕ *н.* 1. Развядзенне (квасу). *Нешта з вашыга рысквáшывыньня ніяк нілізя квасу паспробывыць.* 2 *метаф.* Размешванне (гразі, бруду). *Такоя рысквáшывыньня пулучылыся лі саміньківх ґанык, худзь ба ты пяску прінёс ды засыпыў.* 3 *метаф.* Разбіванне (часц. носа). *Узноў паўзець, пішчыць, ныдаела мне яго рысквá-*

*шывыньня.* 4 *метаф.* Празмерная паўната. *Рысква́шывыньня — ета бізздароўя, вун Андреіха ходзіць і зыдыхаіцца.*

РАСКВАШЫВАЦЬ *незак.* 1. Рабіць (квас). *Я квас усігда сыма рысква́шывыла, ні дывіряла нікому.* 2 *метаф.* Размешваць (гразь, бруд). *Толька аччыні ны мінутку дзьвері, тута табе і куры, і пырысяты, хочыш, цялёнык улезіць, рысква́шывыюць грязь.* 3 *метаф.* Разбіваць (часц. нос). *Сколька разоў ён рысква́шывыў сабе нос, усё брязь і брязь аб землю.* 4 *метаф.* Выклікаць празмерную паўнату. *Аніськіну дачку пычало рысква́шывыць, скора у дзьвері ні памесьціцца.* РАСКВАШЫВАЦЦА *незак.* 1. Рабіцца (пра квас). *У мяне, бувала, ладный квас рысква́шывыўся.* 2. Размешвацца (пра гразь, бруд). *Посьлі дажджоў усігда дарога рысква́шывыіцца.* 3. Празмерна паўнець. *Жрець, як ні ў сябе, паетыму і рысква́шывыіцца.* РАСКВАСІЦЬ *зак.* Выклікаць празмерную паўнату. *Вы пыглядзелі б, як рысква́сіла старога Кузьму.* РАСКВАСІЦЦА *зак.* Празмерна распаўнець. *А ну яе, так рысква́сіцца — дык луччы ня жыць, сам сябе ні пыцягніш.* РАСКВАШАНЫЙ *дзеепрым. Абея ладна рысква́шыны, цэньціры трі разым пыцягнуць.*

РАСКВОХКАЦЦА *зак.* 1. Пачаць квахтаць. *У мяне чатырі куріцы расквохкыліся, хуць усіх ны яйцы садзі.* 2 *перан. гумар.* Расстагнацца. *Нешта Максім расквохкыўся, сь печы ні зьлізаіць, іна яму есьць пыдаець.*

РАСКЕЎКАЦЦА *зак.* 1. Раскурняўкацца. *Раськеўкылыся кошычка, зьлезь, пусьці яе ў хату.* 2 *перан.* Пачаць падаваць голас. *Ма́лыя варушыцца ў люлькі, січас раськеўкыіцца.*

РАСКІВЫВАННЕ *н.* 1. Расхістванне. *Ссохніць дзеріва посьлі раські́вывыньня, жалься божа, што садзілі.* 2 *перан.* Ажыўленне ў рухах. *Мне нада доўгыя раські́вывыньня, пакуля рызыйдуся трошку.*

РАСКІДАЦЬ, РАСКІДЫВАЦЬ *незак.* Растрасаць (пакосы). *Як скошына, пакосы нада рыськіда́ць, каб луччы сохла. Мы ды самых абедыў раські́дывылі ну Лугуваткі.* РАСКІДАЦЦА, РАСКІДЫВАЦЦА *незак.* Растрасацца (пра пакосы). *У цябе рыськіда́іцца, як трі дні ты ня еўшы. Посьлі вічарінкі раські́дывыіцца ня дужа ладна.* РАСКІДАЦЬ, РАСКІНУЦЬ *зак.* Растрэсці (пакосы). *Абложку я*

*раські́дыў, будзіць сохнуць. Калі жаркыя пагода, буваіць, раські́ніш, падверніш і к вечыру сухоя.* РАСКІДАЦЦА *зак.* Растрэсціся (пра пакосы). *Як зразу раські́дыіцца, многа скарей сохніць.* РАСКІНУЦЦА *зак.* 1. Растрэсціся (пра пакосы). *Січас і етый кусочык раськініцца.* 2 *перан.* Выявіць ахвоту, пагадзіцца. *Як ета ён раські́нуўся схадзіць у Бірязуйкі!* РАСКІДЫВАНЫЙ, РАСКІДАНЫЙ, РАСКІНУТЫЙ *дзеепрым. Ну, канешня, раські́дывыныя трыва пацсохла, а ў пакосых ба кріцыю ліжала. Рыськіда́ныя цімахвеіўка высыхла. Ніхай раські́дыныя пыляжыць, пацсохніць. Раські́нутый клевір ужо можна варочыць.*

РАСКІДОНКА *ж. эмац.* Неберажлівая жанчына. *Нічога ў рыськідонкі ні зацэліiць, усё пуплувець між пальцыў.*

РАСКІДОНТСТВА *н. эмац.* Неберажлівасць. *Хто ж ба зулюбіў такоя рыськідонства, туды шмык, туды шмык і німа нічога.*

РАСКІПЯЦІЦЬ *зак. метаф.* Выклікаць вялікую злосць. *На тым сходзі як рыськіпяці́ла яго, пряма біцца кідыўся к Стырасельцу.* РАСКІПЯЦІЦЦА *зак.* Моцна раззлавацца. *Каб жа було за што, ато сам ні знаіць, чаго рыськіпяці́ўся.* РАСКІПЯЧОНЫЙ *дзеепрым. Ну ніхай прібягіць рыськіпячоный, страшын ён некыму!* РАСКІПЯЦЁМШЫ *дзеепрысл. А я аткуліцька знаю, чаго Іваноўнін сын рыськіпяцёмшы.*

РАСКІСЕЛІВАННЕ, РАСКІСЯЛЯННЕ *н.* Размочванне да гразі. *Прі таком рыськіселівыньні як ты ў тэя Сьлёзкі дыбяресься. Выпрывіла сваіх у лес: ніхай вазок прівязуць, як пычанецца рыськісіля́ньня, будзіш біс палкі сядзець.*

РАСКІСЕЛІВАЦЬ, РАСКІСЯЛЯЦЬ *незак.* Размочваць да гразі. *Вот-вот пычанець рыськіселівыць, зьдзелыіцца ня вылізьць і ня выпыўзьць нікуды. Схадзіў ба ты ў горыд, пакуля ні стала рыськісіля́ць.* РАСКІСЕЛІВАЦЦА, РАСКІСЯЛЯЦЦА *незак.* Размякаць да гразі. *Ны дваре ў цябе кажный раз рыськіселівыіцца, што к пунькым ні прайціць. Ці відзіш, як рыськісіля́іцца кругом.* РАСКІСЯЛІЦЬ *зак.* Размачыць да гразі. *Так рыськісяліла, што ні найдзіш, куды ступіць ны дарогі.* РАСКІСЯЛІЦЦА *зак.* Размякнуць

да гразі. *Ета ж цэлыю нядзелю ільлець і ільлець, усюдых рыськісялі́лыся, нійдзе ня пройдзіш.* РАСКІСЕЛЕНЫЙ, РАСКІСЯЛЁНЫЙ *дзеепрым. Узноў дарогі рыськіселіныя, каткі па ўтулкі хуваюцца. Лі балота дужа рыськісялёна, каровы кажный дзень пріходзюць грязныя.* РАСКІСЯЛЁМШЫ *дзеепрысл. Вуліца рыськісялёмшы, сушэй пы гародых іціць.*

РАСКІСЛІК *м.* і *ж. эмац.* Нямоглая, нехлямяжая асоба. *Сідзяць на печы раські́сьлікі, ім вады пыдаць некыму. І Каця стала раські́сьлік. Памянш.* РАСКІСЛІЧАК. *Ходзіць раські́сьлічык, дзеўкі ны яго ні глідзяць дайжа.*

РАСКІСЛЯВІЦЬ *зак. эмац.* Выклікаць нямогласць, нехлямяжасць. *Нешта цябе рыськісьля́віла як нізґраю, пріглідай троху зы сабою.* РАСКІСЛЯВІЦЦА *зак.* Зрабіцца нямоглым, нехлямяжым. *Мыладэя бабы — і рыськісьля́віліся, усё дно як ім па восімдзісят гадоў.*

РАСКЛІНДЗІЦЬ, РАСПЛІНДЗІЦЬ *зак. эмац.* 1. Разнесці плёткі. *Ета Култунёнкывы дзеўкі расклі́ньдзілі, ніхто кромі іх. Во-о, доўга ім лухту якую-небудзь распліньдзіць умеючы.* 2. Выклікаць плявузганне. *Расклі́ньдзіла Мырціноўну, нешта уталковывыіць Анютκі. Іх як расплі́ньдзіць, любэй мох з балота пысыбяруць.* РАСКЛІНДЗІЦЦА, РАСПЛІНДЗІЦЦА *зак.* Пачаць плявузганне. *Ну расклі́ньдзіліся, што Міця ні падвёз іх, а яму сымаму́ места ны калёсых чуць було. Не, я ні знаю, із-зы чаго Томка распліньдзілыся.*

РАСКЛЯПЛІВАЦЬ, РАСКЛЕПЛІВАЦЬ *незак.* 1. Расплясквацъ кляпаннем. *Старэй пашоў гвозьдзя рыскля́плівыць, ні знаю, нашто яму. Доўга касу расклеплівыў, суха, ну цяперь ладна бярець.* 2 *перан. неадабр.* Распаўсюджваць чуткі. *І адна, і другая ня могуць уцерьпіць, усякыю лухту рыскля́плівыюць. Ды я знаю, што Верычка пычанець ету дурату расклеплівыць.* РАСКЛЯПЛІВАНЫЙ, РАСКЛЕПЛІВАНЫЙ *дзеепрым.* Распляскâны кляпаннем. *Не, тута ні зразу завостріна, пазьней рыскля́плівына. Кончыкі ў етых гвыздах расклеплівыны.* РАСКЛЯПАНЫЙ, РАСКЛЁПАНЫЙ, РАСКЛЕПЛЕНЫЙ *дзеепрым.* 1. Распляскâны кляпаннем. *І рысклiпа́на, і насечкі зьдзелыны, такей крюк ня дужа вырьвіш. Ужо залішня расклёпына. Гвозд*

*расклеплін, а тады заточын.* 2. Распаўсюджаны (пра чуткі). *Пры Мархвіных на той нядзелі було рысклíпáна. Настолька расклёпына, ужо за горыдым пра іх знаюць. І ў том канцы расклепліна пра Дзёмкіных пырысят.*

РАСКОКАЦЦА *зак.* Пачаць падклікаць курэй (пра пеўня). *Во раскокыўся пятух, сыбіраіць курей, каб ня бегылі на тэй бок.*

РАСКОЛЬНІЧАННЕ *н.* Грубае свавольства. *Ні дупускай ды раскольнічыньня, ты зь імі тады нісколька ні сыўлыдáіш.*

РАСКОЛЬНІЧАЦЬ *незак.* Груба сваволіць. *Бацька пріедзіць, дык прібярець к рукам, пірістаніш ты раскольнічыць.*

РАСКОРМЛІВАННЕ *н.* Празмернае кармленне. *Раскормлівыньня ціряшчур ні нада, нікрасівый дзіцёнык дзелыіцца, увесь як друя.*

РАСКОРМЛІВАЦЦА *незак.* Паўнець, папраўляцца. *Айдзе ж ба яны яшчэ так раскормлівыліся, каб ні сядзела тут Мыланычка.*

РАСКОСЬКАЦЦА *зак.* Пачаць гучна падзываць каня выгукам «кось-кось». *Навумчык раскоськыўся, пашоў зы жарёбкыю, а іна ня ловіцца.*

РАСКОШНЫЙ *прым. метаф.* Прыгожы, вялікі. *Яны сабе раскошныю карову купілі, ат'ядуцца мылыка.*

РАСКРАСАВАЦЬ *зак. эмац.* Пажыць вельмі добра. *Зы такім мужуком ня дужа рыскрасýіць: гультай ладный і ач чаркі ні атказыіцца.*

РАСКРАСАВІЦА *ж.* Выключная прыгажуня. *Тожа мне пупаў рыскрысáвіцу, такіх пы ўсяму сьвету поўна.*

РАСКРАСІВА *прысл.* Надзвычай прыгожа. *Як жа рыскрасíва у тваіх кніжычкых нырісовына, ты і мальчыкым пыкажы. Памянш.* РАСКРАСІВЕНЬКА. *Рыскрасíвінька ты нумулювала цьвецікі, я дайжа ня відзіў такіх.*

РАСКРАСІВІЦЬ *зак.* Зрабіць надзвычай прыгожым. *Ты рыскрасíвіла Тымарку, што яе лідыгышчані ні пызнаюць.* РАСКРАСІВІЦЦА *зак.* Зрабіцца надзвычай прыгожым. *Так ужо вашы дзеўкі рыскрасíвіліся, увесь горыд зьбягіцца глядзець.*

РАСКРАСІВЫЙ *прым.* Надзвычай прыгожы. *Ніхай ён длі вас самый рыскрасíвый, а мне саўсім ні ыравіцца.*

*Памяниш.* РАСКРАСІВЕНЬКІЙ. *Хто ж табе такую рыскрасíвінькыю кукылку пыдаріў?*

РАСКРАХТАЦЬ, РАСКРАХЦЕЦЬ *зак.* Выклікаць кракатанне. *Нешта Аріныга стыріка рыскріхтáла, ляжыць і сь печы ні спуўзаіць. Ну чаго цябе рыскряхцела, ляжы спакойна!* РАСКРАХТАЦЦА, РАСКРАХЦЕЦЦА *зак.* Пачаць кракатаць. *Рыскріхтáўся посьлі ўчырашніга лесу, ну там тыкі нада крепка пыварочыць, лес сілу вымáтывыіць. Што ты рыскряхцеўся як старік якей, злазь-ка ды ныдзівайся ны свадзьбу к пляменьніцы.*

РАСКРУГЛЕЦЦА *зак. метаф.* Распаўнець. *Чаму ж ні рускруглеіцца, калі іна ні знаіць у дваре паліц ап паліц стукнуць.*

РАСКРУЧЫВАЦЬ *незак. метаф.* Будаваць. *Знаіш, якую хату раскрýчывыюць Мылашонкі? — дзевіць ны дзьвінаццыць, лесу у іх многа.* РАСКРУЦІЦЬ *зак.* Пабудаваць. *Быгатыю хату яны рускруцíлі, ну іна ім дорга абыйшлася.*

РАСКРЫВЯНІВАЦЬ *незак.* Расціраць, раздзіраць да крыві. *Ні рыскрывя́нівый ранку, ніхай засохшыя, скарей зыжывець.* РАСКРЫВЯНІВАЦЦА *незак.* Расцірацца, раздзірацца да крыві. *Ныга рыскрывя́нівыіцца і ні зыжываіць, нырваць можыць.* РАСКРЫВЯНІЦЬ *зак.* Расцерці, разадраць да крыві. *Рыскрывя́ніў ты свае пальцы, ні нада було тряпычку адзьдзіраць.* РАСКРЫВЯНІЦЦА *зак.* Расцерціся, разадрацца да крыві. *Во як калена рыскрывя́нілыся, крепка ты дзýнуўся!* РАСКРЫВЯНЕНЫЙ *дзеепрым. Рыскрывя́ніныя зывязывый скарей, толька сьпірва залі ёдым.*

РАСКРЫМЗАЗОЛІЦЬ *зак.* 1. Зрабіць нязграбна. *Хлеб рыскрімзазоліў ну кускі, пу руках ныдываць нада!* 2 *перан.* Выклікаць хныканне, плач. *Ці ета первый раз яго рыскрімзазоліла, ён усігда такей.* РАСКРЫМЗАЗОЛІЦЦА *зак.* 1. Зрабіцца нязграбна. *За што ня возьміцца, усё ў яго рыскрімзазоліцца ні пы-чылавечыску.* 2. Расхныкацца, расплакацца. *Ты рыскрімзазоліўся, усё дно як Нінка Аўсеіва, тая тыкая плакса.* РАСКРЫМЗАЗОЛЕНЫЙ *дзеепрым.* 1. Зроблены нязграбна. *Я ўкінула у сьвінноя*

*цеста рыскрімзазоліный прінок.* 2. Расплаканы. *Рыскрімзазоліный сюда ня йдзі, такей ты мне ні нада.*

РАСКРЫНДЖАЛІЦЬ *зак. метаф. жарт.* Выклікаць шпаркую хаду (пра крываногага). *Хутулёнка як рыскрінджáліць, ты зь ім ні справісься іціць.* РАСКРЫНДЖАЛІЦЦА *зак.* Шпарка пайсці (пра крываногага). *Вун Зьмітракоў большый рыскрінджáліўся, ці ні ў Зылачэва ныправіўся.*

РАСКРЫЎЛЯЦЬ *зак. метаф.* 1. Пайсці (пра крываногага). *Ранінька рыскріўляў Хадос у тэй бок, пыд Бялішчына, толька сонца пыказывылыся,* 2. Выклікаць капрыз, плач. *Нешта узноў яго мыладуху рыскріўляла. Ету за што хочыш рыскріўляіць, ажно ні ўгаворіш.*

РАСКРЫЧАЦЬ *зак.* Выклікаць крык. *Нешта рыскрічáла сяньня Лупудзёнка, ніяк ні ўгамуіцца цэлыя раньня.*

РАСКУБРЫВАННЕ *н.* Адкрыванне, раскупорванне. *Ні аблумай біряжкі ў банкі с такім раскýбрівыньнім, ато сьцякло пупадзець у мёд.*

РАСКУБРЫВАННІК *м.* Той, хто адкрывае, раскупорвае. *Яшчэ адзін раскýбрівыньнік як пыдбягіць, усё будзіць зьдзелына.* РАСКУБРЫВАННІЦА *ж. Ікая ні раскýбрівыньніца, а банку неік атпічатыла.*

РАСКУБРЫВАЦЬ *незак.* Адкрываць, раскупорваць. *Ты ня ўмеіш быйстра раскýбрівыць, аддай Толіку.* РАСКУБРЫВАЦЦА *незак.* Адкрывацца, раскупорвацца. *Пыдажджы, пыдажджы, у мяне пычало раскýбрівыцца.* РАСКУБРЫЦЬ *зак.* Адкрыць, раскупорыць. *Васіль зайшоў, я ўнісла сала, раскýбріла бутылычку рускія горькія, угасьціла яго, рыспрасіла пры Маскву.* РАСКУБРЫЦЦА *зак.* Адкрыцца, раскупорыцца. *Нечыя ж рукі пыхадзілі, ні мыгла сыма бутылка раскýбріцца.* РАСКУБРЫВАНЫЙ, РАСКУБРАНЫЙ *дзеепрым. Раскýбрівыныя бочычка стыяла збоку. Дыстывай гуркі з раскýбріныя банкі, новыю ні пычынай.*

РАСКУДАКТАЦЦА *зак.* Пачаць моцна кудахтаць. *Выйдзі-ка глянь, чаго тама куры рускудáктыліся.*

РАСКУЛАЖЫЦЬ *зак.* 1. Паказаць на дождж, захмарыць. *Нешта крепка рускулáжыла, дождж пряма вісіць.* 2 *перан.* Выклікаць стан, блізкі да плачу. *Чаго цябе*

*рускула́жыла, ты ж ні маліськыя дзевычка.* РАСКУЛАЖЫЦЦА *зак.* Прыйсці ў стан гатоўнасці да плачу. *Ну-у, ты рускула́жыўся як дзіцёнык із-за нейкія ірунды.*

РАСКУЛДЫЯЧЫЦЦА *зак.* Павесці сябе неспакойна, пачаць плакаць. *Учора у цябе дзіцёнык плакыў і сяньня рускулдыя́чыўся, ці ні баліць яму.*

РАСКУМЕКЫВАННЕ *н.* Здольнасць разабрацца, дайсці да сэнсу. *Ні дажджэсься яго рускумекывыньня, яму нада судык двоя, каб рызыбрацца.*

РАСКУМЕКЫВАЦЬ, РАСКУМЕКЫВАЦЦА *незак.* Разбірацца, даходзіць да сэнсу. *Ні так проста ета дзела рускумекывыць, яны знали, што тварілі. Доўга ён сядзеў як глумак якей, пакуля стаў троху у дзілах рускумекывыцца.* РАСКУМЕКАЦЦА *зак.* Разабрацца, дайсці да сэнсу. *Ці рускумекыўся ты, што к чаму гаворіцца?* РАСКУМЕКАНЫЙ *дзеепрым.* Высветлены. *Гываріў Ціряшоньік, што Ільлёва дзела троху рускумекына.*

РАСКУМЕЧЫВАННЕ *н.*, РАСКУМЕКІ *мн.* Усведамленне, разуменне. *Плахоя тваё рускумечывыньня, калі ты ў таком прастом дзелі ні рызыбраўся. Мылахоўніны рускумекі як пычануцца, два часы будзіш трілюдзіцца.*

РАСКУМЕЧЫВАЦЬ, РАСКУМЕЧЫВАЦЦА *незак.* Усведамляць, разумець. *Тута нечыга рускумечывыць, ета ўсё Грішчанковых лыбытрясыў работа. Толька цяперь Кысіянёнык пычаў рускумечывыцца, длі чаго пусьцілі такую пыгалоску.* РАСКУМЕЧЫЦЬ, РАСКУМЕЧЫЦЦА *зак.* Усвядоміць, зразумець. *Вот ты й рускумечыў, нашто яны рысхвалівылі цёлычку. Каб чылавек з гылавою быў, ён ба зразу рускумечыўся, што тут длі чаго.* РАСКУМЕЧАНЫЙ *дзеепрым. Што ж цяпер рускумечына, позна ўжо, урэмя пацеріна.*

РАСКУМКАЦЦА *зак.* 1. Расквактацца (пра жаб). *Вясною ў етым аборку як раску́мкыюцца лягушкі!* 2 *перан. жарт.* Пачаць паціху размаўляць. *Ці чуіш, як твае падругі раску́мкыліся, нейкыю новысьць апсуждаюць.*

РАСКУМЭКАЦЬ *зак. іран.* 1. Зразумець, дайсці да сэнсу. *Ну, ці рускумэкыў ты, чаго яны пріхадзілі?* 2 *перан.* Высветліць. *Нада харошый сьпіцыяліст, каб усё рускумэкыць, ні зь яго носым палосым брацца.*

РАСКУПОРЫВАННІК *м.* Той, хто адкрывае, раскупорвае. *Во ўзяўся рускупорівыньнік: горла ў бутылкі ацскачыла.* РАСКУПОРЫВАННІЦА *ж. А ты ня сьмейся: зь яе луччыя рускупорівыньніца, як сь цябе.*

РАСКУРНЯЎКАЦЬ *зак.* Выклікаць курняўканне. *Нечыга ж рускурня́ўкыла кошку.* РАСКУРНЯЎКАЦЦА *зак.* 1. Пачаць моцна курняўкаць. *Кошка рускурня́ўкылыся, ета іна кыцінят завець, відна, мыш прінісла.* 2 *перан.* Расплакацца (пра дзіця). *Пыглядзі, чаго там рускурня́ўкыўся ма́лый у люлькі.*

РАСКУТАЦЦА *зак.* Расчыніцца. *Само вакно раску́тыцца ні магло і кот ба яго ні аччыніў, чые-то рукі пыхадзілі.* РАСКУТАНЫЙ *дзеепрым. Нілізя наныч раску́тыныя вароты кідаць.*

РАСКУТЫВАННЕ *н.* Расчынянне. *Увідзіця самі, ды чаго такоя раску́тывыньня давесьць можыць, тады будзіця айкыць.*

РАСКУШАЦЦА *зак.* Рассмакавацца. *Во калі і ў Мары раску́шылыся, што грецкыя каша смашныя.*

РАСКЫШКАЦЬ *зак.* Разагнаць воклічам «кыш». *Зіна раскы́шкыла курей, ба́лывылыся ў сенцых.* РАСКЫШКАЦЦА *зак.* Пачаць выгукваць вокліч «кыш». *Чаго ён раскы́шкыўся, ніхай куры пыдбяруць рассыпыныя зірняты.*

РАСКЯПЛІВАНЫЙ, РАСКЕПЛІВАНЫЙ *дзеепрым.* Расколаны. *Тоўстыя бірнушкі рыськя́плівыны, ладныя плашкі пулучыліся. Німа ґ заўтріму раськеплівыных дроў ні аднае палкі.*

РАСПАЗЫЧАЦЦА *зак.* 1. Раздацца ў доўг. *Троху було капеік, яны рыспызыча́ліся.* 2. Пачаць шмат пазычаць. *Во рыспызыча́ўся Піліп, сабе ні рубля ні астаніцца* РАСПАЗЫЧЫЦЦА *зак.* Раздацца ў доўг. *Німа ў яго грошы нісколька, рыспазы́чыліся, ішчэ на той нядзелі.* РАСПАЗЫЧАНЫЙ *дзеепрым. Ні асталыся ў Мішкі ні капейкі: троху руспусьціў, астатнія рыспазы́чыны.*

РАСПАЛАГАННЕ *н.* Меркаванне. *У яго другей раз буваіць разумныя рыспылыга́ньня, а то ірунду упоріць, што вушы вянуць.*

РАСПАЛАГАЦЬ *незак.* Меркаваць. *Ён рыспылыгáіць, што нявесткі выкыпыюць бульбу, а тэя ня дужа хочуць ехыць.*

РАСПАЛАСКЫВАЦЬ *незак. метаф.* Раздзіраць дашчэнту. *Пы плітнях лазюць, пы дзірівáх, рыспылáскывыюць і рубашкі, і штанёнкі.* РАСПАЛАСКЫВАЦЦА *незак.* Раздзірацца дашчэнту. *На етых галузьнікыў што ні надзень, на іх усё рыспылáскывыіцца, як гаріць.* РАСПАЛАСКАЦЬ *зак.* Разадраць дашчэнту. *Сьвіньня зубамі схваціла і рыспылыскáла спадніцу чуць ні пупылам.* РАСПАЛАСКАЦЦА *зак.* Разадрацца дашчэнту. *Куды ету майку ныдзіваць, іна ны плічах саўсім рыспылыскáлыся.* РАСПАЛАСКАНЫЙ *дзеепрым. Прішоў яе атлёт — кылышынá рыспылыскáна ат верьху да нізу, на нескылькіх нітычкых дзяржыцца.*

РАСПАЛАШЫВАЦЦА, РАСПАЛАШАЦЦА *незак.* Прыходзіць у трывожны стан. *Такей пужлівый, як хто ны дзяреўню пыкажыцца, ён рыспылáшывыіцца. Яны ўсігда рыспылышáюцца.* РАСПАЛАШЫЦЦА *зак.* Прыйсці ў трывожны стан. *Выйна, кругом гаріць, усе рыспылашыліся: што будзіць, куды дзівацца?* РАСПАЛАШОМШЫ *дзеепрысл. Зьмітраковы нечыга рыспылашомшы і сяньня.*

РАСПАНЕЦЦА *зак.* Пачаць раскашаваць. *Так рыспанеліся, што хут ты ім у пасьцель пыдывай масьлёнку з вадою.*

РАСПАПЯКАЦЦА *зак.* Пачаць моцна папракаць. *Хадосычкіна дычка як рыспыпікáлыся: чаго вы мне ні прыдалі пацьцёлка.*

РАСПАРАД *м.* Распарадак. *Айдзе ж будзіць рыспырáд, калі хызяін на тых, што работыюць, глядзець ня хочыць.*

РАСПАРАДЖАЛЬНІК, РАСПАРАДЗІЦЕЛЬНІК *м.* Той, хто распараджаецца. *Зь Міхяёнка харошый ба рыспыріджáльнік быў, ды нечым кымандывыць. Пріедзіць твой рыспырядзíцільнік, карові вярёўку на рогі і ны бызар.* РАСПАРАДЖАЛЬНІЦА *ж. Во як новыя рыспыріджáльніца узілася, усё ў яе кіпіць.*

РАСПАРАДЗІЦЬ *зак.* Уладкаваць. *Жджы, жджы, ён табе пріедзіць і рыспырядзíць, нывядзець пырядык.* РАСПАРАДЖОНЫЙ *дзеепрым.* Атрыманы (пра распа-

раджэнне). *Як тама було рыспыряджона, мы ня чулі, ну толька біз Ганьніныга ізыка ні абыйшлося.* РАСПАРАДЗЁМШЫ *дзеепрысл. У яго усе дзялы рыспырядзёмшы.*

РАСПАРАДКА, РАСПАРАДЗІЦА *ж.* Парадак, лад, распарадак. *У яго тыкая рыспыря́дка: дзень сходзіць пыкашыіць, а тады нядзелю п'еиь. Айдзе талковый кірува́ціль, там і рыспырядзіца будзіць.*

РАСПАРАДЧЫВА, РАСПАРАДЧЫВАТА, РАСПАРАДЛІВА *прысл.* Умела. *Трыхімёнык усігда рыспыря́ччыва ґ дзелу пытхадзіў. У каго пулучаіцца рыспыря́ччывыта, а ў другога ні так, ета ат хракціра завісіць. У Рыйчынка ішло рыспыря́длiва, ён умеў дзісьціплінку дзіржаць.*

РАСПАРАДЧЫВАСЦЬ, РАСПАРАДЧЫВАТАСЦЬ *ж.* Уменне распараджацца. *Ні хвытаіць яму рыспыря́ччывысьці, ня ўмеіць зь людзямі абрышчацца. Во каб тыкая рыспыря́ччывытысьць, як была у Мыкарёнкывыга воґіря!*

РАСПАРАДЧЫВЫЙ, РАСПАРАДЧЫВАТЫЙ *прым.* Такі, які ўмее распараджацца. *Глянь-ка, якей рыспыря́ччывый зяць Ісачонкыў, у яго пышла ныстыяшчыя работа. Ні глядзі, што мылыдая, іна рыспыря́ччывытыя, зытырмазілыся дзела у хлапцоў, дык прікрікнула.*

РАСПАРАЛІЗОВЫВАЦЬ *незак.* Паралізаваць поўнасцю. *Піліп зьлёг, а тады ўскорысьці і Піліпіху пычало рыспырылізовывыць.* РАСПАРАЛІЗОВЫВАЦЦА *незак.* Паралізавацца поўнасцю. *Яно відна було, што пычынаіць рыспырылізовывыцца, у яго рукі ні варочыліся.* РАСПАРАЛІЗАВАЦЬ *зак.* Паралізаваць поўнасцю. *Стася рыспырылізува́ла, ну жонка яго хырашо глядзіць.* РАСПАРАЛІЗАВАЦЦА *зак.* Паралізавацца поўнасцю. *Ці мала ны чылавека усякія дураты, ходзіць-ходзіць, а тады рыспырылізу́іцца і ляжыць як гылавешка.* РАСПАРАЛІЗАВАНЫЙ, РАСПАРАЛІЗОВАНЫЙ *дзеепрым. Рукі-ногі ёсьць і то цяжола, а рыспырылізува́ныму саўсім трудна. Яе сьвёкыр ляжыць рыспырылізовыный.*

РАСПАРЯСЯТНІЧАЦЦА *зак. эмац.* Зрабіцца неакуратным. *Ну што вы, ці ясьцё тута, ці ба́лыіціся, рыспырыся́тнічыліся як у сьвіннарніку.*

РАСПАСАДЖЫЦЬ *зак. эмац.* Растраціць, змарнаваць. *Якую капейчыну айдзе зарьвець, ён яе січас рыспысáджыць.* РАСПАСАДЖЫЦЦА *зак.* Растраціцца, змарнавацца. *Неік нізаметна грошы рыспысáджыліся, ат каровы астаўся адзін хвост.*

РАСПАСВІЦЦА, РАСПАСЦІВІЦЦА *зак.* 1. Папасвіць пэўны час. *Ня дужа ён рыспасецца, твой Пітрачок. Многа ты рыспáсьцівіўся: адзін дзень пыстыяў лі скыта.* 2 *перан. гумар.* Распаўнець, растлусцець. *Рыспáсьвіліся за лета, як сьлімяні сталі. Цілятым выгыда кыла лесу, травы многа, сыты, рыспáсьцівіліся.*

РАСПАСКУДНІЧАЦЦА *зак. эмац.* Пачаць рабіць непрыстойнасці. *Тады як рыспаскýднічыліся тэя гáўрікі, пы дзяреўні прайціць ні дывалі.*

РАСПАСУДЖЫВАННЕ *н. жарт.* 1. Прыбіранне посуду. *Ці многа вам ішчэ нада ўремя ны рыспасýджывыньня?* 2 *метаф.* Марнатраўства. *Пычынаіцца рыспасýджывыньня у етых хызяіныў.*

РАСПАСУДЖЫВАННІК *м. жарт.* 1. Той, хто прыбірае посуд. *Узяўся рыспасýджывыньнік зы работу, каб толька місык ні пымылаціў.* 2 *метаф.* Той, хто марнатравіць. *Ён усігда вешный рыспасýджывыньнік быў, як у яго што зацэліць.* РАСПАСУДЖЫВАННІЦА *ж.* 1. Тая, што прыбірае посуд. *Хваціць рыспасýджывыньніцы работы, посыду сыбралыся дай божа.* 2. Тая, што марнатравіць. *Айдзе табе рыспасýджывыньніца што-небудзь прібірягець.*

РАСПАСУДЖЫВАЦЬ *незак. жарт.* 1. Прыбіраць посуд. *Медлінна вы рыспасýджывыіця сталы.* 2 *метаф.* Марнатравіць. *Што ты, рыспасýджывыіш сваё быгаства?* РАСПАСУДЖЫВАЦЦА *незак.* Парадкавацца. *Нада неік рыспасýджывыцца, громызду сыбралыся, што ні пывярнуцца.* РАСПАСУДЗІЦЬ *зак.* 1. Прыбраць посуд. *У той хаці рыспасýдзілі, зыхадзіця.* 2. Змарнатравіць. *Скора ж вы рыспасýдзілі сває зборы!* РАСПАСУДЗІЦЦА *зак.* Упарадкавацца. *Заўтря мы рыспасýдзімся, пыслыбаднеіць у хаці.* РАСПАСУДЖАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Прыбраны (пра посуд). *Ну во, сталы рыспасýджыныя, толька пірямыць*

*асталыся.* 2. Змарнатраўлены. *Усё, што бацька сыбіраў, рыспасу́джына, ні тря́сцы ні асталыся.*

РАСПАТВОРСТВЫВАЦЬ *зак.* 1. Распусціць, даць магчымасць сваволіць. *Ты сыма іх рыспатворствывыла і нечыга цяперя абіжацца.* 2. Распусціцца, пачаць сваволіць. *Ой, рыспатворствывыў маліц, німа ны яго харошыга бацькі з ремнім.* РАСПАТВОРСТВЫВАЦЦА *зак.* Распусціцца, пачаць сваволіць. *Такім балыў́нікым рыспатворствывыцца нядоўга, іх нада дзіржаць ды дзіржаць у руках.*

РАСПАТРАШЫВАННЕ, РАСПАТРОШЫВАННЕ, РАСПАТРАШАННЕ *н.* 1. Патрашэнне. *Ні ныравіцца мне яго рыспытра́шывыньня, кыпаіцца як ніжывэй. Посьлі рыспатрошывыньня доўга сядзелі, ладна дзюбнулі. Доўгыя у іх було рыспытрыша́ньня, Клімчанок ня дужа сьпецна дзелыіць.* 2 *метаф.* Растрасанне. *К чаму тваё рыспытра́шывыньня, ніхай ба тряпкі ліжалі як ліжалі. Няўжэлі ты ня можыш дыстаць рімушок біз рыспатрошывыньня? Глядзі, ато можыць пупасьць зы рыспытрыша́ньня.*

РАСПАТРУХА *ж. эмац.* Беспарадак. *У цябе ўсігда ны дваре рыспатру́ха, нада патроху пріпу́чывыць. Памяниш.* РАСПАТРУШКА. *Рыспатру́шка ні рыспатру́шка, алі ж пырядку ў цябе німа ніякыга.*

РАСПАТРУШЫВАННЕ, РАСПАТРУШАННЕ *н. эмац.* 1. Прывядзенне ў беспарадак. *Каб вы уняліся з рыспатру́шывыньнім, ой, як ладна було б. Не, мне ваша руспутруша́ньня саўсім ні ныравіцца, пірістаньця зь ім.* 2. Прыведзеныя ў беспарадак рэчы. *Ну што зь етым рыспатру́шывыньнім дзелыць, куды яго піріклыдаць? Нада прібіраць усё руспутруша́ньня.*

РАСПАЧЫНАННЕ *н.* Пачатак, пачынанне. *У цябе кажный дзень адно й тоя рыспычына́ньня, толька кынца яму ні разу ні буваіць.*

РАСПЕРЦЦА *зак.* Раздзьмуцца. *Вымя ў каровы расьпёрлыся, крічыць, ныгамі топыіць — дой скарей.*

РАСПЕТАЦЬ, РАСПЕТЫВАЦЬ *зак. эмац.* 1. Раскалоць з цяжкасцю. *Ні абы-ікая сілішча нада расьпетыць такую калоду. Сукуватыя атрезкі былі, усе расьпетывыў, ладна путрудзіўся.* 2. Моцна разбіць. *Нада ж так*

*расьпетыць пальцы, калі яны зыжывуць! Расьпетывылі гылаву, кроўю заліўся увесь.* РАСПЕТАЦЦА, РАСПЕТЫВАЦЦА *зак.* 1. Раскалоцца з цяжкасцю. *Каб кліньня харошыя, і етый ба пень расьпетыўся. Пыглядзім, як у яго дубовыя калода расьпетывыіцца.* 2. Моцна разбіцца. *Чаму ні расьпетыіцца, — с такея вісычыны ляцеў! Дылазіцца, расьпетывыіцца, тады большы ні палезіць.* РАСПЕТАНЫЙ, РАСПЕТАВАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Расколаны з цяжкасцю. *Такея сукуватыя зросткі былі, а глянь-ка, усе расьпетыны. Ну хуць пупылам расьпетывына калода, і то ладна.* 2. Моцна разбіты. *Так рука расьпетына, ажно глядзець страшна. Калена расьпетывына так, што няскора станіць ны нагу.*

РАСПЕТРЫВАЦЬ, РАСПЕТРЫВАЦЦА *незак.* Разбірацца, разумець сэнс. *Пычаў трошку расьпетрівыць у дзірявенскый жызьні. Знаю, як яны расьпетрівыюцца: пакуля у бацькі-маткі рукі шавелюцца, і ў іх кусок хлеба ёсьць.* РАСПЕТРЫЦЬ, РАСПЕТРЫЦЦА *зак.* Разабрацца, зразумець сэнс. *Ты яму сяньня скажы, дык ён толька заўтря расьпетрііць, што ты скызаў. Ці расьпетріўся ж ён нашчот Сярьгеівыя хаты ай можа ўжо зыдатык аддаў?*

РАСПЕЧЫВАННЕ *н. эмац.* Распаўненне. *Тонкіх я тожа ні люблю, ну ны такоя расьпечывыньня ажно глядзець страшна.*

РАСПЕЧЫВАЦЬ *незак. эмац.* Выклікаць распаўненне. *Ого, як тваю сьвякрову пычало расьпечывыць, я яе чуць пызнала.* РАСПЕЧЫВАЦЦА *незак.* Моцна паўнець. *Расьпечывыіцца Аўдотычкіна нявестка як ны дрыжджах.* РАСПЕЧЫЦЬ *зак.* Выклікаць распаўненне. *Куды яму таўсьцець, яго і так расьпечыла большы некуды.* РАСПЕЧЫЦЦА *зак.* Моцна распаўнець. *Хрітанёнык расьпечыўся як кормный кыбан.* РАСПЕЧАНЫЙ *дзеепрым. Пріiжджаў яе сын: расьпечыный сьлімень стаў.*

РАСПІКОВЫВАННЕ *н.* Раскупорванне. *С такім рысьпіковывыньнім ты ўсе крайкі аблумаіш, бутылку выкініш.*

РАСПІКОВЫВАЦЬ *незак.* Раскупорваць. *Калі глынеш каплю, я буду рысьпіковывыць бутылычку.* РАСПІКОВЫВАЦЦА *незак.* Раскупорвацца. *Як пробка зыгната*

*ўсярёдык, тады дренна рысьпіковывыіцца.* РАСПІКАВАЦЦА *зак.* Раскупорыцца. *Як што рысьпікýіцца, дык ні прыпадзець, зьядзім.* РАСПІКАВАНЫЙ, РАСПІКОВАНЫЙ *дзеепрым. Пыстаў, ня трогый, у шкапчыку рысьпікувáныя бутылка стаіць. Дывай сюда рысьпіковыныю каробычку.*

РАСПІНАННЕ *н. перан. груб.* Крык. *Калі табе хочыцца паслухыць іхныя рысьпінáньня, схадзі, паслухый.*

РАСПІНАЦЬ *незак. метаф.* Успушваць. *Трошку чаго ў рот вазьму — рысьпінáіць мой жывот, хуць саўсім нічога ня еж.* РАСПІНАЦЦА *незак.* 1. Цяжка працаваць. *Увесь свой век рысьпінáўся, а пыц старысьць некыму кружкі вады пыдаць.* 2. Размахвацца ў справах, у жыцці. *Ну хутурах рысьпінáліся, круглыя двары зывадзілі, думылі навек, а ціріс пітнаццыць гадоў пынясьліся нызад у дзяреўню.* РАСПЯЦЦА *зак.* Размахнуцца ў прасторы. *Чуць ні на дзесіць сотык рысьпяліся, круглый двор пастроілі.*

РАСПІТЫЙ *дзеепрым.* Прапіты. *Па мордзі відна, што расьпітый, яны зь Нісьцярёнкым ні прысыхаюць.*

РАСПІХЫВАЦЬ *незак. метаф.* Уладкоўваць. *Мацьвей сядзіць, клапоціць, што нада неік пляменьнікыў расьпіхывыць, ґ дзелу пріладжывыць.* РАСПІХАЦЬ *зак.* Уладкаваць. *Во гыварілі: варона, варона, а іна глянь-ка, як рысьпіхáла дзяцей.* РАСПІХНУЦЬ *зак.* 1. Расштурхаць. *Яны б шчапіліся біцца, дык Ігнацёнык іх рысьпіхнýў.* 2. Уладкаваць. *Рысьпіхнýў сваіх мальцыў: адзін трыктарістым стаў, другей на шохвіра вучыцца, а яшчэ адзін ны заводзі устроіўся.* 3. Раздаць. *Тады ён жыта, луччыю адзёжу пы сваіх рысьпіхнýў, быяўся, каб ні зыбралі.* РАСПІХНУТЫЙ *дзеепрым.* Уладкаваны. *Як дзеці рысьпіхнуты, і дыхыць ляхчэй.*

РАСПЛАЦІЦЦА *зак.* Выклікаць жаданне выплаціць. *Ня дужа ён расплоціцца, атмоўчыцца ці атнекыіцца, што ты зь яго возьміш.*

РАСПЛЕСКАТАЦЬ *зак. перан. неадабр.* Разнесці чуткі. *Такея пастылыя адна і другая, што хочыш і пры каго хочыш рыспляскочуць.* РАСПЛЕСКАТАЦЦА *зак.* 1. Пачаць балбатаць. *Куліціна старшыя рысплёскыталыся,*

*усё нешта вірзла на Колю.* 2. Разнесціся (пра чуткі). *За дзень на ўсю дзяреўню рысплявкочыцца любая лухта.*

РАСПЛІСКАЦЦА *зак.* Разблішчэцца. *Увечырі було як расплі́скылыся, а тады веців пыдняўся і пыгнаў тучу зу Дуброву.*

РАСПЛОДЖЫВАННЕ, РАСПЛАДЖАННЕ *н.* Размнажэнне. *Аткуліцька ў мышэй такоя расплоджывыньня, кажніцькыю восінь іх на полі як насеіна. Якоя табе рысплыджа́ньня нада, дзяржыш пырасёнка — і хваціць сь цябе.*

РАСПЛЫВАННЕ *н. перан.* Празмерная паўната. *Як пыглядзіш ны яе русплува́ньня, ня зьдзівісься.*

РАСПЛЫТЫВАННЕ *н.* Разбіранне плыта. *Сколька я помню, ны расплы́тывыньня раз ці два хадзілі.*

РАСПЛЫТЫВАЦЬ *незак.* Разбіраць плыт. *Помню, мушчыны хадзілі расплы́тывыць плыты.* РАСПЛЫТЫВАЦЦА *незак.* Разбірацца (пра плыт). *Луччы ўсіх рысплы́тывылыся у Ахрямёнка.* РАСПЛЫТАЦЬ *зак.* Разабраць плыт. *Неткуль з далёкыга прігнаў хату пы Сажу, тут рысплыта́ў і вазілі тылакою.* РАСПЛЫТАЦЦА *зак.* Разабрацца (пра плыт). *Бувала, як усё рысплыта́іцца, і пы чаркі возьмім.* РАСПЛЫТАНЫЙ *дзеепрым. Рысплыта́ныю хату пірівазілі усёю дзяреўнію.*

РАСПЛЮГАВІЦЬ *зак.* Знясламіць. *Такой толька пупадзіся ны язык, русплюга́віць, што сам сябе ні пызнаіш.* РАСПЛЮГАВІЦЦА *зак.* Пачаць знеслаўляць. *Ціряшчур ты русплюга́вілыся, ці ня луччы б на родніцькыю сястру пыглядзець.* РАСПЛЮГАЎЛЕНЫЙ *дзеепрым. Таго русплюга́ўлінья, што зуступіцца некыму.*

РАСПЛЯВУЗГАЦЦА *зак.* 1. Пачаць плявузгаць. *Тады нейкій лідыгышчаніц рысплявýзгыўся, што ўсё ў іхнім кылгасі дренна.* 2. Разнесціся (пра плявузганне). *Пры Стыльмышынят рысплявýзгылыся на той нядзелі.*

РАСПЛЯВУШЫЦЦА *зак.* Пачаць пагражаць аплявухай. *Глядзі, глядзі, дужа ты расплявýшыўся, сымамý ўляціць, што ні пагледзіш аткуля.*

РАСПЛЯСКАЦЦА *зак. перан.* Разбалбатацца. *Ікая ета кулу гумна рысплясскылыся, пляскочыць, што тута чутна.*

РАСПЛЯХАЦЦА, РАСПЛЯХКАЦЦА *зак.* Пачаць пагражаць біццём. *Дужа ён рыспля́хыўся, хвабрец такей, ніхай глядзіць, каб сымаму ні пулучыць пы загріўку. Ох, ты рыспля́хкыўся, пляхкыньнік, глядзі, што сымаму можыць пупасьць.*

РАСПОРЫНКА *ж. памянш.* Распорка, якая надае ўстойлівасць. *Між пацсошкым і шулым нада распорінка, каб яны ня дзьвігыліся.*

РАСПРАГАННІК *м.* Той, хто распрагае. *Скарей, рыспріга́ньнікі, вурушыціся, ніхай коні скубануць. Памянш.* РАСПРАГАННІЧАК. *Відзіш, наш рыспріга́ньнічык знаіць, што нада ў первыю вочырідзь атвязывыць.* РАСПРАГАННІЦА *ж. Як рыскыпашылыся рыспріга́ньніца, дык пымыгаць хадзіў.*

РАСПРАКУДЗІСТА, РАСПРАКУДЛІВА *прысл.* Вельмі дасціпна, пранырліва. *Ета на від ціхінькыя, а так рыспраку́дзіста аччубучыць, што ахніш. Етык рыспраку́длівa адзін Сярёжка мог сытваріць.*

РАСПРАКУДЗІСТАСЦЬ, РАСПРАКУДЛІВАСЦЬ *ж.* Вялікая дасціпнасць, пранырлівасць. *Рыспраку́дзістысьці ў іх хвытаіць, калі хочыш, табе троху пазычуць. Ніяк ні прідумыіць, куды іс сваёю рыспраку́длівысьцю дзівацца.*

РАСПРАКУДЗІСТЫЙ, РАСПРАКУДЛІВЫЙ *прым.* Вельмі дасціпны, пранырлівы. *Большы некуды, якей ён быў рыспраку́дзістый, як утворіць што — зыхахочысься. Раншы і ты была рыспраку́длівыя, ета цяперіцька пыцішэла.*

РАСПРАКУДЗІЦЬ, РАСПРАКУДНІЧАЦЬ *зак.* Выклікаць вялікую дасціпнасць, пранырлівасць. *Ого, як Пуўлючка рыспраку́дзіла, чаго толька ні вытвыря́іць. Іх як рыспраку́днічыіць, тады яны ўсяго ныпрідумывыюць.* РАСПРАКУДЗІЦЦА, РАСПРАКУДНІЧАЦЦА *зак.* Зрабіцца вельмі дасціпным, пранырлівым. *Нешта сяньня ты ціряшчур рыспраку́дзіўся. Рыспраку́днічыліся вы, мальцы, ой рыспраку́днічыліся, Хадора вас успакоіць.*

РАСПРАТЫВАННІК *м.* Той, хто распранаецца. *Рыспря́тывыньнік у ґузікых запутыўся, ніяк сь пяцелькі ня зьніміць.* РАСПРАТЫВАННІЦА *ж. Вылакець, вылакець рыспря́тывыньніца шубку сь сянец: на, баба!*

РАСПРАЦЬ *зак. метаф.* Разбіць. *Гылаву рысьпяруцъ айдзе п'яныя, во што вам будзіць з вашым вогірствым.*

РАСПРОСЫ *мн.* Распытванне. *Як прістаў з распросымі Ігарёнык, я чуць ат яго атвізаўся.*

РАСПРЫГОЖА *прысл.* Надзвычай прыгожа. *Ты зірні, Высіліс, як твой унук рыспрігожа пішыць. Памяніш.* РАСПРЫГОЖАНЬКА. *Таня зьдзелыла у хаці рыспрігожынька і карцінкі павесіла ны сьцяну.*

РАСПРЫГОЖЫЙ *прым.* Надзвычай прыгожы. *Рыспрігожых унучык прівізла ґ бабі Нытальічка. Памяніш.* РАСПРЫГОЖАНЬКІЙ. *Рыспрігожынькія цьвецікі, айдзе ты нысыбірала такіх?*

РАСПРЫГЫВАЦЬ *незак. метаф.* Выклікаць узбуджанасць. *Яго кажный раз ніізьвесна чаго распры́гывыіць.* РАСПРЫГАЦЬ *зак.* Выклікаць узбуджанасць. *Узноў Пітрычка распры́гыла, ні разу яму спакою ні буваіць.*

РАСПРЫМЫЛЬНІЧАЦЦА *зак. жарт.* Пачаць увільваць ад працы, туляючыся па зацішных кутках. *Твой сват ціряшчур рыспрымы́льнічыўся, кышануць ня дужа глядзіць.*

РАСПСІКАЦЦА *зак.* Пачаць праганяць ката шматразовым паўтарэннем вокліча «псік». *На печы можна распсі́кыцца, ты зьлезь ды выкінь яе.*

РАСПУЗДРАЧЫВАННЕ *н. эмац.* Раздзіманне. *Ні дупускай руспуздря́чывыньня, пірякормлівыць — усігда ніздарова.*

РАСПУЗДРАЧЫВАЦЬ *незак. эмац.* Раздзімаць. *Хырашо ма́лый есьць, крупені налу́піцца, яго ажно руспуздря́чывыіць.* РАСПУЗДРАЧЫВАЦЦА *незак.* Раздзімацца. *А ці ты ні знаіш, чаго ён так руспуздря́чывыіцца?* РАСПУЗДРАЧЫЦЬ *зак.* Раздзьмуць. *Ні дывай лішніга, ато яго ўзноў руспуздря́чыць.* РАСПУЗДРАЧЫЦЦА *зак.* Раздзьмуцца. *Што ты яму яшчэ яду піхаіш, ён і так руспуздря́чыўся большы некуды.* РАСПУЗДРАЧАНЫЙ *дзеепрым. Ета ж Аўдыкімоўнін унук такей руспуздря́чыный бегыіць.*

РАСПУКЫВАННЕ *н.* Распусканне (пра пупышкі). *Пакуля хылады дзіржацца, ніякыга распу́кывыньня ня будзіць.*

РАСПУКЫВАЦЬ *незак.* Распускацца (пра пупышкі). *Крепка пыцяплела, ужо шы́пушкі сталі распу́кывыць.* РАСПУКНУЦЬ *зак.* Распусціцца (пра пупышкі). *Мідуніца распу́кнула, а антоныўка толька зьбіраіцца.*

РАСПУРХЫВАННЕ *н.* Злосны крык. *А што мне яго распу́рхывыньня, ніхай ны сваю куму папу́рхыіць.*

РАСПУРХЫВАЦЬ *незак.* Выклікаць злосны крык. *Нешта таго шулудзі́ўца узноў распу́рхывыіць, ніяк ні ўгамуіцца.* РАСПУРХЫВАЦЦА *незак.* Пачынаць злосны крык. *Хваціць распу́рхывыцца, ніхто піріт табою ні ўладзіць шагу ступіць.* РАСПУРХАЦЬ *зак.* Выклікаць злосны крык. *Ну й што, калі яго распу́рхыла, папу́рхыіць і тым самым местым сядзіць.*

РАСПУСКАННЕ *н.* 1. Развядзенне (раскатоў). *Сколька ты будзіш з руспуска́ньнім вазіцца, палычку вынь і аткатывый зад.* 2 *метаф.* Марнатраўства. *Калі будзіць такоя руспуска́ньня бяс толку, то й жызьні нырмальныя ні палучыцца.*

РАСПУСКАЦЬ *незак.* 1. Разводзіць (раскаты). *Рыскаты руспуска́юць пад доўгыя бярьвеньня.* 2 *пе́ран.* Надаваць імклівы рух. *Ні нада так санкі руспускаць, абернуцца — і ма́лый брязьніцца.* 3 *метаф.* Марнатравіць. *У яго капейчына доўга ні задзержыцца, ён умеіць жыва руспускаць.* РАСПУСКАЦЦА *незак.* 1. Разводзіцца (пра раскаты). *Рыскаты проста руспуска́юцца: за́гвыздку выніў — і аткатывый зад сколька нада.* 2. Брацць за прывычку. *Віджу, што руспуска́іцца піць, зу бутылкыю аж пря́гніць.* 3. Марнатравіцца. *Зырыбляюць яны нічога, ну ў іх грошы ні задзержывыюцца, скора руспуска́юцца.* РАСПУСЦІЦЬ *зак.* 1. Развесці (раскаты). *Руспусьці́ць нада ныпысярёд, ато бірьвяно доўгыя, ціріз бугарок будзіць лажыцца пузым ны зямлю.* 2. Надаць імклівы рух. *Бувала, возьмім бальшэя сані, кучыю нысядзім, хлопцы як распу́сьцюць, аж веціp сьвішчыць.* РАСПУСЦІЦЦА *зак.* 1. Развесціся (пра раскаты). *Рукамі бяріся ды ацьцягывый, самі рыскаты ні распу́сьцюцца.* 2. Узяць за прывычку. *А во руспусьці́ўся красьць, што ты зь ім зьдзелыіш.* РАСПУСКАНЫЙ, РАСПУШЧАНЫЙ *дзеепрым.* Разведзены (пра раскаты). *Мы пад'ехылі, дык у хлопцыў рыскаты ішчэ ні былі*

*руспускáны. Вот у цябе правільна рыскаты распýшчыны.* РАСПУСЦЁМШЫ *дзеепрысл.* Развёўшы (раскаты). *Руспусьцёмшы рыскаты, нечыга стыяць, нада бярьвеньня класьць.*

РАСПУСТВА *н.* 1. Свавольства. *Унімай яго распýства!* 2. Беспарадак. *Пашло па сьвету распýства, ні прізнаюць ні стырікоў, ні ўласьці, — нікога.*

РАСПУСЦЕЦЬ, РАСПУСЦЕЦЦА *зак.* 1. Зрабіцца свавольным. *Руспусьцелі, мальцы, большы некуды, нада вам унім харошый дываць. Ці яны адны руспусьцеліся, вун Ільлёвы ня меншыя балыўнікі.* 2 *метаф.* Растлусцець. *Нада так бабі руспусьцець, ідзець як дрігва ікая! Абея руспусьцеліся як калоды.*

РАСПУТЛІВЫЙ *прым.* 1. Вельмі свавольны. *Пынас усё хваліў: мае харошыя мальчыкі, а яны распýтлівыя-распýтлівыя!* 2. Распусны (звыч. пра жанчыну). *Іна верна сь пітнаццыці гадоў пышла круціць, каму тыкая распýтлівыя нада.*

РАСПУТЫВАННЕ *н.* 1. Зніманне пута. *Чаго ён з распýтывыньнім столька возіцца, пута ні рашшпіліць ці што.* 2 *перан.* Разблытванне складанай справы. *Усё ў іхным дзелі піракручына, ны распýтывыньня многа ўремя пойдзіць.*

РАСПУТЫВАННІК *м.* 1. Той, хто знімае пута. *Мокрыя пута заціснулыся, паетыму распýтывыньнік і возіцца.* 2. Той, хто разблытвае. *Распýтывыньнікі самі запутыліся ў ніткых, канцоў ні найдуць.* РАСПУТЫВАННІЦА *ж.* 1. Тая, што знімае пута. *Кабыла дурная, можыць крутнуцца і ўдаріць распýтывыньніцу.* 2. Тая, што разблытвае. *Пыглядзі ты на ету распýтывыньніцу, што іна надзелыла.*

РАСПУХЦЕЦЬ *зак. метаф.* Растаўсцець. *Ты б відзіла, як Хрузка руспухцела, як дрігва стала.* РАСПУХЦЕЦЦА *зак.* Растаўсцецца. *Як чылавек руспухцеіцца, ета ніздарова, ён бальный чым-то.* РАСПУХЦЕЛЫЙ *дзеепрым. Кургузёнык руспухцелый ходзіць, яму дайжа дыхыць цяжола.*

РАСПУШЧЭНЕЦ *м.* Свавольнік, неслух, грубіян. *Каб бацька ў руках дзіржаў, ні былі б такея руспушчэнцы.* РАСПУШЧЭНКА *ж. Ну й стала руспушчэнка яе дзяўчонка, чышчы мальцыў.*

РАСПУШЧЭНСТВА *н.* Свавольства, распуста. *Руспушчэнства, во што ета такоя, у руках іх дзіржаць некыму.*

РАСПУШЫЦЦА *зак.* Пачаць моцна лаяцца. *Як руспушы́уся Кірілёнык — ні пуцступайся к яму, толька ні знаю, хто яго усердзіў.*

РАСПШЫКАЦЬ *зак. эмац.* Змарнатравіць па дробязі. *Якея капейкі ад брата асталіся, распшы́кыыў, ні трясцы німа.* РАСПШЫКАЦЦА *зак.* Змарнатравіцца па дробязі. *Што було бацькіна, распшы́кылыся, а самі прідбаць ня дужа думыюць.* РАСПШЫКАНЫЙ *дзеепрым. У маіх ня столька распшы́кына, што я буду гываріць.*

РАСПЫЛ *м. эмац.* Разгубленасць. *У яго нейкій распы́л, ні прідумыіць, зь якога кынца ґ дзелу пріступіць.*

РАСПЫРКАЦЦА *зак.* Пачаць поркацца. *Сярёжка як распы́ркыіцца, дык будзіць пуўдня кыпацца.*

РАСПЫХЦЕЦЬ *зак.* Выклікаць стоеную злосць. *Во рыспыхцела Сімчынка, успакоіцца ня можыць.* РАСПЫХЦЕЦЦА *зак.* Разбурчацца са стоенай злосцю. *Зу любую мелыч так рыспыхці́цца, што ўсё кінуў ба і рукі атрёс.*

РАСПЭКАЦЬ, РАСПЭКАЦЦА *зак.* Разабрацца, зразумець. *Трудна ім будзіць што-небудзь распэкыць, тама ўсё дужа запутына. Ну во, і Пахомчыкыў маліц распэкыўся, што к чаму.*

РАСП'ЯНЧЫВАННЕ *н.* Скочванне да п'янства. *Глядзі, дзяржы мальцыў у руках, рысп'я́нчывыньня ды дыбра ні дывядзець.*

РАСП'ЯНЧЫВАЦЬ *незак.* Прывучаць да п'янства. *Друзья рысп'я́нчывылі, уцягнуўся ў гарелку і ўцягнуўся.* РАСП'ЯНЧЫВАЦЦА *незак.* Прывучацца да п'янства. *Ён с прошлыга года стаў рысп'я́нчывыцца, як с Пракопым здружыўся.* РАСП'ЯНЧЫЦЬ *зак.* Прывучыць да п'янства. *Пупаў у такую кымпанію, што рысп'я́нчуць саўсім.* РАСП'ЯНЧЫЦЦА *зак.* Прывыкнуць да п'янства. *Аўсей пашоў служыць у ўласьць, тады рысп'я́нчыўся, прапіў сваю паміць.* РАСП'ЯНЧАНЫЙ *дзеепрым. Такея сталі рысп'я́нчыныя, ніўважыцільныя, слова уперік ні кажы ні аднаму, ні другому.*

РАСПЯРАЗКА *ж.* Падпяразка. *Я рысьпіря́зку кладу на прі́пічык, усігда помню, айдзе іна ляжыць. Паманш.* РАСПЯРАЗАЧКА. *Зь якога сувуйка зьдзелый рысьпіря́зычку і ладна будзіць.*

РАСПЯРАЗЫВАННЕ *н. метаф.* Свавольства. *Аніс умеў рысьпіря́зывыньня выгыняць, у яго б етыя ба́лыўнікі пісалі.*

РАСПЯРАЗЫВАЦЬ *незак. метаф.* Выклікаць свавольства. *Нешта цябе пасьледнія ўремя ціряшчур стала рысьпіря́зывыць.* РАСПЯРАЗЫВАЦЦА *незак.* Сваволіць. *Рысьпіря́зывыюцца яе мальцы, большы некуды як рысьпіря́зывыюцца.* РАСПЕРАЗАЦЬ *зак.* Выклікаць свавольства. *Дужа тваіх мальцыў рысьпірізá́ла, на іх нада крепкія рукі.* РАСПЯРАЗАНЫЙ *дзеепрым. А як жа ня будуць рысьпіря́зыныя, калі за імі ніякыга ныгляду німа. Ты і сыма відзіш, якея яны рысьпіріза́ныя.*

РАСПЯРХАЦЬ *зак.* Выклікаць моцны кашаль. *Во як вашыга ста́рыга рысьпірьха́ла, ну пуўдзяреўні чуцін.*

РАСПЯЦЦА *зак. метаф.* Раскласціся. *Рысья́лыся іс сваімі трантымі, што нілізя к сталу пуцступіцца.* РАСПЯЎШЫ *дзеепрысл.* 1. Расклаўшы. *Стыяла Піліпіха, рысья́ўшы сімяно.* 2. Вісеўшы. *Сколька твае ўборы будуць буўтацца рысья́ўшы?* 3. У незавершаным стане. *Стаіць ета хата рысья́ўшы: пылавіна накрыта, пылавіна застоліна, запечкі зьлепліны, а печы німа.*

РАСПЯЧАТЫВАННЕ *н.* Раскупорванне, адкаркоўванне. *Нічога ні пулучылыся з майго рысьпіча́тывыньня, прапхнуў пробку усярёдык.*

РАССАБАЧЫВАЦЬ *незак. асудж.* Разбэшчваць. *Яго Антонывы мальцы рыссыба́чывыюць, большы ніхто.* РАССАБАЧЫЦЬ *зак.* Разбэсціць. *Тама ёсьць каму рыссыба́чыць, пустадомкыў хвытаіць.*

РАССАВЕТАЦЬ, РАССАВЕТАВАЦЬ *зак.* Адраіць. *Сьпірва мы хацелі рыссаветыць браць ету кукылку, а тады думыім: ну вас, ня будзім у чужоя дзела умешывыцца. Домніна пляменьніца рыссаветывыла ім ехыць у Гіндыбыўку.*

РАССАДЖЫВАЦЬ *незак.* 1. Шмат насаджваць. *Ну хутурах ого якея сады рысса́джывылі, пы гіктару, а то і*

*большы.* 2 *перан.* Расколваць. *Ты глянь-ка, як ён лоўка сукуватыя калоды рыссáджывыіць.*

РАССАКАТАЦЬ *зак. метаф.* Выклікаць шпаркую гаворку. *Я чую, што ета Хвядоніху рыссыкытáла, яе голыс айдзе хочыш пызнаіш.*

РАССАЛАДЖЫВАННЕ, РАССАЛОДЖЫВАННЕ *н.* Саладжэнне. *Якоя ў цябе рыссылáджывыньня, ты ні жалеючы кладзі, вазьмі яшчэ кусочык. Ці ты клала што сюда, ці не, дайжа ня чуствыіцца рыссалоджывыньня.*

РАССАЛАДЖЫВАЦЬ, РАССАЛОДЖЫВАЦЬ *незак.* Рабіць салодкім. *Бярі яшчэ сахыр, большы сып, хырашо рыссылáджывый. Такей бальшэй хлопіц, а ня ўмеіш чаю рыссалоджывыць.* РАССАЛАДЖЫВАЦЦА, РАССАЛОДЖЫВАЦЦА *незак.* Рабіцца салодкім. *Нешта ў мяне ня дужа рыссылáджывыіцца, дай-ка я ложычку мёду ўкладу. Стой, ня сып большы, пычынаіць рыссалоджывыцца.* РАССАЛАДЗІЦЬ *зак.* Зрабіць салодкім. *Кылі хочыш, я табе рыссыладжý стыканок, выпі гырячыцькыга, можа пыляхчэіць.* РАССАЛАДЗІЦЦА *зак.* Зрабіцца салодкім. *Пыдажджы мінутку, ніхай рыссалодзіцца, смашней будзіць.* РАССАЛАДЖЫВАНЫЙ, РАССАЛОДЖЫВАНЫЙ, РАССАЛОДЖАНЫЙ *дзеепрым.* *Рыссылáджывыный чай у стыканчыку ны стале пуд бумажкыю. Во-о, тута хырашо рыссалоджывына, пі, ні прітвыряйся. Бярі большыю чашычку, у ёй рыссалоджыный чай.* РАССАЛАДЗЁМШЫ *дзеепрысл.* *Калі рыссыладзёмшы вып'ю, а калі і так, толька каб гырячый быў.*

РАССАМІЦЦА *зак.* Знікнуць (пра апетыт). *Етыя дні мне неік рыссáмілыся, нічагенька у рот ні ўганю.*

РАССАРПАЦЦА *зак.* Пачаць часта сарпаць. *Конь рыссáрпыўся. Мікітывіч як рыссáрпыіцца, ты яго пачуіш.*

РАССВАДЗЬБІЦЦА *зак. эмац.* Разладзіцца (пра вяселле). *Усё йшло хырашо, а ў пасьледній мамент рыссвáдзьбілыся.*

РАССВАРЫВАННЕ *н.* Сварка. *То рызгыварівыюць як луччыя падругі, шэпчуцца, а тады пычынаіцца рыссвáрівыньня, — а ніхай вас, ніхай!*

РАССВАРЫВАЦЬ *незак.* Даводзіць да сваркі. *Вот нашто б ёй умешывыцца, людзей рыссвáрівыць.* РАССВА-

РЫВАЦЦА *незак.* Сварыцца. *У іх дружба тыкая: нядзелю вадою ні разьліць, а тады зы ірунду рыссва́рівыюцца.*

РАССВІРЭПЛІВАННЕ, РАССВІРАПЛІВАННЕ, РАССВІРАПЛЯННЕ *н.* Моцнае злаванне, раз'юшванне. *Мне іхныя рысьсьвіреплівыньня дайжа ні брыдзіць, ніхай сьвіряпеюць, сколька хочуць. Січас пыдзікуісься ны Высілёва рысьсьвіря́плівыньня. Унімай-ка ты сваё рысьсьвірілля́ньня, ня дужа красіва ны яго глядзець.*

РАССВІСТАЦЦА *зак. метаф.* 1. Рассваволіцца. *Так рысьсьвіста́ліся мальцы, што ат іх спакою ў дзяреўні німа.* 2. Пачаць траціць попусту. *Дужа ты рысьсьвіста́ўся, глядзі, каб на хлеб ні прішлося прасіць.*

РАССЕДЖЫВАННЕ *н.* Працяглае сядзенне. *Яны любюць расьседжывыньня, пра што пустоя будуць трілюдзіць і трілюдзіць.*

РАССЕДЖЫВАЦЬ *незак.* Заседжваацца. *Ці ня дос-ка нам расьседжывыць, ішчэ работы ніўпрыварот.*

РАССЕРДЗІЦЦА *зак. метаф.* Сапсаваць адносіны. *Ета толька муўчаць, а мы знаім, за што Шэрсьцінь расьсердзіўся с Краўчонкым.*

РАССЕСЦА *зак. перан.* Падрацца. *Ны плічах у цябе рубашка расьселыся. Мех расьсеўся.*

РАССІРЭЧЫВАЦЦА *незак. эмац.* 1. Разрастацца. *Цярёмуха на том баку вун як рысьсіречывыіцца!* 2. Расплывацца. *Што ў цябе ў етый кучы рысьсіречывыіцца, аж цякець?* РАССІРЭЧЫЦЦА *зак.* 1. Разрасціся. *Сірень ніхто ня трогыў, дык кусты рысьсіречыліся, аж вокны зысланілі.* 2. Расплысціся. *Нейкыя гніль рысьсіречылыся ў сенцых ны масту, і яны ні прібіраюць.*

РАССІЯЦЦА *зак. метаф.* Выразіць выключную задаволенасць. *Браты твае рысьсія́ліся, як устрецілі Купэтывых дзевык.*

РАССКАРАДЗЬБІЦЬ *зак.* Разбаранаваць. *А я бяруся ета глыжжа рысскырадзьбі́ць ды абеда!* РАССКАРАДЗЬБІЦЦА *зак.* Разбаранавацца. *Нада быраму чым цяжолым прікласьць, тады ўсё рысскырадзьбі́цца.* РАССКАРАДЗЬБЁМШЫ *дзеепрысл.* *Ні рысскырадзьбёмшы, сюда с плугым нечыга пытыкацца.*

РАССКРАБЫВАННЕ *н.* Раздрапванне. *Рысскра́бывыньня можыць ныгнаіцца, рыскрасьнеіцца і будзіць доўга балець.*

РАССКРОБ *м.* 1. Разгрэбенае месца. *Кладзіця хворыст ны расскрёб, а тама дальшы пазьней пыдмяцецца.* 2. Раздрапанае месца. *Большы ні цырапый, расскрёб баліць і можыць нарыў абрузувацца.*

РАССКУЛЕЦЦА *зак. перан.* Пачаць плакаць, хныкаць. *Ні вытаркывый канхвет, ма́лыя увідзюць і русскуля́цца: дывай.*

РАССЛУХАЦЦА *зак.* Пачаць уважліва слухаць. *Расслу́хыліся вашы хлопцы, як пустынскія дзеўкі пелі.* РАССЛУХАНЫЙ *дзеепрым.* Добра пачуты. *Нічога тама харошыга ні расслу́хына, што яны путноя скажуць.*

РАССМЕЛІВАННЕ *н.* Паступовае асмельванне. *Схадзі сам зірні, што тама, ато яго расьсьмелівыньня будзіш да вечыра ждаць.*

РАССМЕЛІВАЦЬ *незак.* Надаваць смеласці. *Пывідзіцё ны вічарінку, дык вы яго тама расьсьмелівыйця, ато ён як цяльпух.* РАССМЕЛІЦЬ *зак.* Надаць смеласці. *Яго нада расьсьмеліць, тады як увойдзіць у ахоту, с круга ня выцігніш, будзіць скыкаць усё пыдряд.*

РАССМЫЛЕЦЦА *зак.* 1. Моцна разгарэцца. *Дзеріва смольныя, іструб рыссмылеўся, што ні пыдыйціць.* 2 *перан.* Моцна пякуча разбалецца. *Раны рыссмылеліся, ніякыга цярьпеньня німа.*

РАССМЫЛЯЦЬ *зак. экспр.* Расшпурляць. *Я склаў акуратна палычкі, роўнінька, а вашы балыўнікі рыссмыля́лі.* РАССМЫЛЯЦЦА *зак.* Пачаць шпурляць. *Як рыссмыля́юцца ражэньнім, глядзі, вокны пывыса́джывыюць.*

РАССМЫРКАТАЦЬ *зак.* Выклікаць злоснае бурчанне. *Пя́дусывыга нечыга узноў рыссмыркыта́ла.* РАССМЫРКАТАЦЦА *зак.* Злосна разбурчацца. *Як рыссмыркочыцца, к яму на дзікый казе ні пад'едзіш.*

РАССОПСЦА, РАССАПЕЦЦА *зак.* Пачаць гучна сапці. *Нешта рассопся Арінін сьвёкыр як пыравэй мех. Калі што ні па ём, рыссапецца і глядзіць на ўсіх с-пыды лба.*

РАССОЎГАЦЦА *зак.* Рассунуцца. *Бочычка рассохлыся, клёпкі рассоўгыліся, а тады і саўсім сталі высыпацца.*

РАССОХА *м.* і *ж. эмац.* Неакуратная асоба. *Іна тыкая рассоха, што зы сабою ляніцца прібраць, ходзіць як сьвет пыціряўшы.*

РАССТОЛІВАННЕ *н.* Разбіранне столі. *Я віджу, тваё расстолівыньня можыць у зіму зыцягнуцца.*

РАССТОЛІВАЦЬ *незак.* Разбіраць столь. *Раз крышу ськінулі, нада расстолівыць, пакуля дажджы ні хлянулі.* РАССТОЛІВАЦЦА *незак.* Разбірацца (пра столь). *Патроху расстолівыіцца, во дзьве кватэркі рызыбралі зы дабедзьдзя.* РАССТОЛІЦЬ *зак.* Разабраць столь. *Расстоліць — ета нібыльшая работа, тут масьціра ні нада.* РАССТОЛІЦЦА *зак.* Разабрацца (пра столь). *Як расстоліцца, тады зразу сьцены рыскачывыйця ды пірівазіця.* РАССТОЛІВАНЫЙ, РАССТОЛЕНЫЙ *дзеепрым. Адну кватэрку толька пычалі, хата ішчэ пасьці ні расстолівына. Абея хаты расстоліны, пяреднія і заднія.*

РАССТРАІВАЦЦА, РАССТРОІВАЦЦА *незак.* Разбудоўвацца. *Посьлі тае вайны наша дзяреўня стала быйстра рысстрáівыцца. У іхный дзяреўні калхозныя хверма расстроівыіцца к лугу.* РАССТРОІЦЦА *зак.* Разбудавацца. *Наш горыд шурока расстроіўся, ужо ды Сьвятога возіра дайшлі.*

РАССТРАЛЯЦЦА *зак.* Пачаць часта страляць. *Ета Полічкін маліц рысстріля́ўся, яму ўчора купілі руж'ё.*

РАССТРАМІЦЬ *зак.* Моцна насарамаціць. *Домні каго хочыш рысстраміць нядоўга, іна зачэпку усігда найдзіць.* РАССТРАМІЦЦА *зак.* Пасварыцца. *Ня ўмеіць зь людзямі жыць, нісколічка ня ўмеіць, во і с Кузьмою рысстраміўся.*

РАССТРОЙСТВІЕ *н.* Благі настрой. *Ты Якыўку сяньня ня трогый, у яго расстройствія, нешта з друзьямі ні пыладзіў.*

РАССТУКАЦЦА *зак.* Пачаць доўгае груканне. *Выйдзі глянь, што там дзеці ў сенцых расстýкыліся, каб ні папорцілі чаго.*

РАССУДЛІВА, РАССУДЗІСТА *прысл.* Разважліва. *Каб ты гывары́ў так рассýдліва, як Гаўрілка, і цябе можна було б паслухыць. Сямён ня ўзьвей-веціp, ён усігда скажыць рассýдзіста.*

РАССУДЛІВАСЦЬ, РАССУДЗІСТАСЦЬ *ж.* Развaжлівасць. *Ну што ж ты зьдзелыіш, калі рассу́длівысьці чылавеку ні хвытаіць. Тута нада харошыя рассу́дзістысьць, каб усё аптулкувaць.*

РАССУДЛІВЫЙ, РАССУДЗІСТЫЙ *прым.* Развaжлівы. *Ні разу ён ня быў рассу́длівый і ня будзіць, у яго веціp у гылаве сьвішчыць. Ікімёнык рассу́дзістый стаў, саўсім ні такей, як раншы быў.*

РАССУПОНІВАННЕ *н. метаф. гумар.* Свавольства. *Не, маліц, мне тваё руссупонівыньня саўсім ні ныравіцца.*

РАССУСОЛІВАННІК *м.* Той, хто займаецца пустым разважаннем. *Як зывядуць руссусолівыньнікі свае трілюды, іх слухый — ні піряслухыіш.* РАССУСОЛІВАННІЦА *ж. Ізьвесныя руссусолівыньніца, путнога ат яе нічога ні пачуіш.*

РАССУСОЛІЦЬ *зак. гумар.* Дэталёва абмеркаваць. *Зьдзелыіць ён ці ня зьдзелыіць што, а руссусоліць — на ета масьціp.*

РАССУСОЛЬСТВА *н. гумар.* Дэталёвае абмеркаванне. *Кідайці-ка руссусольства, нада скарей канцы выбіраць, скора сьцямнеіць.*

РАССЫПАЦЬ *незак. перан.* 1. Траціць. *Ні рыссыпа́йка ты капейчыны ны ўсякыю мелыч, яны табе яшчэ вун як прігыдзяцца.* 2. Разбураць. *Калі рыссыпа́ць пастройку, дык перша нада падумыць, як ты яе ськідывыць будзіш.* РАССЫПАЦЬ *зак.* Разбурыць. *Хату рассы́пылі, а ён зьлёг, я бегыла-бегыла, думыла, ны зіму бяс крышы астану́ся.* РАССЫПАНЫЙ *дзеепрым. Хаты рассы́пыны, пагоды німа, льлець і льлець, ні за што ня возьмісься.*

РАССЫЦЕЦЦА *зак.* Распаўнець. *Во як рыссыцелыся замужым яе нявестка, ладна дыглідаюць у мужуковый сям'е.* РАССЫЦЕЛЫЙ *дзеепрым. Ходзіць абраґой рыссыцелый, што яму — жрець ды сьпіць.*

РАССЭНДЗІЦЬ *зак.* Выклікаць плявузганне. *Яе ач чаго хочыш можыць рассэньдзіць.* РАССЭНДЗІЦЦА *зак.* Пачаць плявузгаць. *Полька с Кацію як рассэньдзюцца, дык дзень праседзюць ні ўстываючы.*

РАССЯДАЦЦА *незак. метаф.* 1. Моцна балець (пра галаву). *Ац самыга раньня гылыва рысьсіда́іцца, хвытала*

*таблеткі — ні пымыгаюць.* 2. Разлягацца (ад мноства гукаў). *Учора зайшоў я — лес рысьсідáіцца: на ўсе гыласы птушкі і пяюць, і шчабечуць, і сьвішчуць.* РАССЕСЦА *зак.* 1. Моцна забалець. *Думыў, гылыва рысьсядзіцца — тыкая боль усхвацілыся атвечыра.* 2. Разлегчыся (ад мноства гукаў). *Ці ні рысьсядзіцца дзяреўня ат іхныга крíку!*

РАССЯКАННІК *м.* Той, хто рассякае. *Каб ні дзіўбануў твой рысьсікáньнік пы наге, навозіцца тады зь лялькыю. Памянш.* РАССЯКАННІЧАК. *Ніхай рысьсікáньнічык яшчэ раз цюкніць, тута ні разрежыш ножыкым.* РАССЯКАННІЦА *ж.* *Вун як рысьсікáньніца стыряіцца, ажно крошкі ліцяць ува ўсе бакі.*

РАСТАБАРНІК *м. эмац.* Балбатун. *Усё дно як ты ні знаіш, што яны адзінакывыя рыстыбáрнікі.* РАСТАБАРНІЦА *ж.* *Узілася рыстыбарніца зы сваё, і пры абед забыла, і пра скот — пра ўсё.*

РАСТАБАРСТВА *н.*, РАСТАБАРЫ *мн. эмац.* Балбатня. *Ныдзівайся і йдзі паціхіньку адна, іхныя рыстыбáрства ні піряжджэш. Ну, зывялі твае суседкі рыстыбáры, хырашо, каб к цёмныму кончылі.*

РАСТАБАРЫСТЫЙ *прым. эмац.* Балбатлівы. *Кысіяноўна тожа рыстыбáрістыя, як зывядзець трілюды — ні піряслухыіш.*

РАСТАКЕЙ *займ.* Вось такі і гэтакі. *Як пынісла ны Гаўріка зы нішто зы ніякыя, і такей ты, і рыстакей, усякія лухты напёрла.*

РАСТАЛАЛАКАЦЬ *зак.* 1. Разнесці чуткі. *Высіліха ня ўцерьпіць, што ні пачуіць, усё рыстылылáкыіць.* 2. Выклікаць няспынную гаворку. *Ці чуіш, як рыстылылáкыла Манічкіныга кывалера, сылаўём зыліваіцца.* РАСТАЛАЛАКАЦЦА *зак.* 1. Пачаць няспынную гаворку. *Учора Смылячыха рыстылылáкылыся, твае госьці доўга яе слухылі.* 2. Разнесціся (пра чуткі). *Пра Косьцікывыга унука рыстылылáкылыся, як Прыхароўна тута пыбыла.* РАСТАЛАЛАКАНЫЙ *дзеепрым.* Разнесены (пра чуткі). *Ага, ты ня хочыш, каб було рыстылылáкына, а яно ж ны Мархвін язык пупала.*

РАСТАЛАСКЫВАННЕ *н.* Грубае расцягванне. *Пупадзець вам зы такоя рыстыла́скывыньня, нашто вам ета тварiць.*

РАСТАЛКАВАЦЦА *зак.* Пачаць размаўляць з ахвотай. *Яны як рысталку́юцца, дык усё пасьлiбедзьдзя прысiдзяць.* РАСТАЛКАВАНЫЙ *дзеепрым.* Растлумачаны. *Каб хырашо було рустулкува́на, ён ба нi зублудзiўся, ато заместа Бялкова пашоў ны Сапрынывiчы.*

РАСТАЛОВЫВАННЕ *н.* Растоптванне. *Ну i ўкачу калi хлыбазiны зы рысталовывыньня, нiйдзе вам места нiма.*

РАСТАПТАЦЦА *зак. метаф.* Састарэць. *Што ж ты будзiш дзелыць, баб'ё рыстыпта́лыся, толька на печы сядзець.*

РАСТАПУТНАСЦЬ *ж.*, РАСТАПУЦТВА *н. эмац.* 1. Свавольства. *Пыдажджы, хто-небудзь найдзiцца, i твою рыстапу́тнысьць апсякець. Некыму уняць ваша рыстапу́цтва.* 2. Разводдзе. *Рыстапу́тнысьць кругом, нiйдзе дарогi нiма. Куды пы такому рыстапу́цтву цягнуцца, ляжы ты на печы як ляжыш.*

РАСТАПУТНIК *м. эмац.* Неахайнiк. *Есьлi зыдаўся рыстапу́тнiк, зь яго трудна чылавека дзелыць. Памянш.* РАСТАПУТНIЧАК. *Вiдзiш, i етый пыдрыстаiць рыстапу́тнiчык, нiчога зы сабою нi прiбярець.* РАСТАПУТНIЦА *ж.* *Матка нi прiвучыла к пырядку нiсколька, паетыму i рыстапу́тнiца.*

РАСТАПУТНIЧАННЕ *н. эмац.* Свавольства. *Як ёй нi ныдаесьць кажный дзень глядзець ны ваша рыстапу́тнiчыньня.*

РАСТАПУТНÍЧАЦЬ *незак. эмац.* Сваволiць. *Змалку пычалi рыстапу́тнiчыць, цяперя позна iх браць у рукi.*

РАСТАПУТНЫЙ *прым. эмац.* 1. Распусны. *З бацькi толку нi було усю жысьць, i сыны зыдалiся такея рыстапу́тныя.* 2. Расталы (пра веснавую дарогу). *Як яны даедуць, тыкая рыстапу́тныя дарога!*

РАСТАПУЦIЦА *ж.* Разводдзе. *Скора рыстапу́цiца, нада солi купiць, ды i красiну мала астаецца.*

РАСТАПЧА *м.* i *ж. экспр.* Нязграбная асоба. *Хадзiў пы дзяреўнi рыстыпча́ нейкiй, цi нi ўзялi б яго у зяцi, — спрашывыў. I Хвiдасеiха тыкая самыя рыстыпча́, як ты.*

РАСТАПЫРНІК *м.* Няўклюда. *Ён і мыладэй быў рыстапы́рнік, хадзіў, рукі рысставіўшы. Памянш.* РАСТАПЫРНІЧАК. *Паўзець Міхяёнкыў рыстапы́рнічык.* РАСТАПЫРНІЦА *ж. Січас к табе зайдзіць Лук'яныва рыстапырніца, ныталкуіціся.*

РАСТАПЫРНЫЙ, РАСТАПЫРЧАСТЫЙ *прым.* Няўклюдны, нязграбны. *Уся рыстапы́рныя, як мама, тая, бувала, ідзець і зы прясла чыпляіцца. Ходзюць чые-то дзьве дзяўчонкі рыстапы́рныя, ні знаю, чые яны. Ішла пы дзяреўні ікая-то рыстапы́рчыстыя баба, нейкыя нізнакомыя.*

РАСТАРАБАНІЦЦА *зак. перан.* Пачаць гучную размову. *Рыстырыба́нілыся, што ні піряслухыць, дужа ёй хацелыся пру Купэтыў рыскызаць.*

РАСТАРАБАРЫЦЦА, РАСТАРАБАРНІЧАЦЦА *зак.* Пачаць бязладна, шумна размаўляць. *Як рыстырыба́риліся, дык пуўдня ні маглі рызыйціцца. Раз устрецілыся Прося с кумою, яны на ўвесь дзень рыстырыба́рнічыюцца.*

РАСТАРАБЕНІЦЬ *зак. неадабр.* 1. Разнесці чуткі. *Пра тэя ксьціны Мархвутка рыстырабеніла, большы некыму було.* 2. Выклікаць балбатню. *Нечыга рыстырабеніла куму, тряшчыць лі калодзіжа.* РАСТАРАБЕНІЦЦА *зак.* Разбалбатацца. *Як рыстырабеніліся — адна хочыць усё рыскызаць і другая, ні піряслухыць було.*

РАСТАРАНЦЕЦЬ *зак. перан.* Выклікаць бурчанне. *Узноў іх рыстыраньцела на судкі.* РАСТАРАНЦЕЦЦА *зак.* Разбурчацца. *Учора ны праўленьні Хрісьцінка рыстыраньцелыся, ні ўняць було.*

РАСТАРКЫВАННЕ *н.* Раздаванне па дробязі. *Ні ныравіцца мне такоя рыста́ркывыньня.*

РАСТАРМАШЫВАННЕ *н.* Катурханне. *Сьпяць як пышаніцу прыдаўшы, ніякыя рыстырма́шывыньня іх ні бярець.*

РАСТАРМАШЫВАЦЬ *незак.* Катурхаць. *Рыстырма́шывый хлыпца, ніхай пыдніміаіцца, вожчыкі пашлі ўжо зыпрігаць.* РАСТАРМАШЫВАЦЦА *незак.* Катурхацца. *Нешта ён у цябе слаба рыстырма́шывыіцца, сьцягывый зь яго пасьцілку.*

РАСТАРОПІШЧА *ж. павеліч.* Разводдзе. *Як станіць рыстаропішча, тады нікуды ня вылізіш і ня выпыўзіш.*

РАСТАРХЫВАЦЬ *незак.* Расштурхваць, разводзіць. *Шчапіліся як пітухі тылыскáцца, дык Ягор іх рыстáрхывыў.* РАСТАРХЫВАЦЦА *незак.* Пачынаць штурхацца. *Нечыга рыстáрхывыцца, а то сымаму можыць уляцець як быгатыму.* РАСТАРХАЦЬ *зак.* Расштурхнуць, развесці. *Ета ні нырваўся Аўрамёнык, ён ба іх у мінуту рыстырхáў.* РАСТАРХАЦЦА *зак.* Пачаць штурхацца. *Што ты рыстырхáўся, яны ўтраіх паложуць цябе і ўсыпюць.* РАСТАРХАНЫЙ *дзеепрым. Яны рыстырхáныя троху пубурчэлі і рызыйшліся.*

РАСТАЎКЫВАННІК *м.* Той, хто расштурхвае. *Пупадзець рыстáўкывыньніку сымаму луччы некуды.* РАСТАЎКЫВАННІЦА *ж. А што, каб ні ўмішалыся Кыбанова рыстáўкывыньніца, яны б пабіліся.*

РАСТАЎПОРЫВАННЕ, РАСТАЎМОРЫВАННЕ *н.* Растоптванне, размешванне. *Паччысьціць нада, каб можна було прайціць, рыстаўпорівыньня ныдаела. Пылядзіця на іхныя рыстаўморівыньня, што зь іх у грязі вытвыряіцца!*

РАСТАЎХЫВАННЕ *н.* Буджэнне катурханнем. *Што ета зы рыстáўхывыньня, ты яго хырашэнька тырмасьні, тады прашнецца.*

РАСТАЎХЫВАЦЬ *незак. перан.* Будзіць катурхаючы. *Ня трогый ты яго, ні рыстáўхывый, посьлі ўчырашніга ён няскора падніміцца.* РАСТАЎХЫВАЦЦА *незак.* Абуджацца пры катурханні. *Ну-ка, ну, шывялі, ён патроху рыстáўхывыіцца.* РАСТАЎХАЦЦА *зак.* 1. Пачаць штурхацца. *Што ты рустуўхáўся, ці ня відзіш, што людзі стыяць у вочырідзі.* 2. Абудзіцца пры катурханні. *Ня думыю, каб ён січас лёхка рустуўхáўся.* РАСТАЎХАНЫЙ *дзеепрым. Сеў рустуўхáный і глядзіць, ні рызьбярецца, айдзе ён.*

РАСТВАРАННЕ *н. перан.* Мешаніна снегу, гразі з вадою. *Такоя стала рыствырянньня, што ступіць нілізя, чобыты у грязь уедуць і ўсё.*

РАСТВАРАЦЬ *незак. перан.* Змешваць снег, гразь з вадою. *Сьнег як згоніць, зямлю рыствыряіць, па полю шагу ня ступіш.* РАСТВАРАЦЦА *незак.* Змешвацца з вадою (пра снег, гразь). *Усё кругом рыствыряіцца, нійдзе ня пройдзіш.* РАСТВАРЫЦЬ *зак.* Змяшаць снег, гразь з вадою. *Ці помніш, летыся рыстваріла, а вы ў Колтыва*

*ныпырядзіліся.* РАСТВАРЫЦЦА *зак.* Змяшацца з вадою (пра снег, гразь). *Крепка рыстварілыся, ну к скрысеньню далжно пацсохнуць.* РАСТВАРОНЫЙ *дзеепрым. Бугаркі трошку прычаўрілі, а лі аборкыў кругом рыстварёна.* РАСТВАРОМШЫ *дзеепрысл. Зімля рыстварёмшы, ніхай пыцсыхаіць.*

РАСТОПЫВАННЕ, РАСТОПКЫВАННЕ *н.* Бурнае выражэнне нязгоды, гневу. *А ну іх і з растопывыньнім, чаго там було растопывыцца. Вульяна дужа ўмела унімаць Гаўрілыва растопкывыньня.*

РАСТОПЫВАЦЬ, РАСТОПКЫВАЦЬ *незак.* Выклікаць бурнае выражэнне нязгоды, гневу. *Іньціресна, чаго сяньня Ісачонка растопывыіць. Яго як станіць растопкывыць, ажно чуб трясецца.* РАСТОПАЦЬ, РАСТОПКАЦЬ *зак.* Выклікаць бурнае выражэнне нязгоды, гневу. *Нешта узноў Сьвірідзёнка растопыла, мыхаіць рукамі кылы Аніські. Ты б відзіў, як растопкыла Дывыдзёнчыху, што ні па ёй скызалі пры Лаўрінnetworkыву дачку.*

РАСТОЎЧЦА *зак. перан. гумар.* Разабрацца, зразумець. *Пастой, пыгадзі, дай яму растоўцца, ён посьлі Верычкі нічога ні сыбрыжаіць.*

РАСТПРУСЮТКАЦЦА *зак.* Пачаць падзываць цяля выгукам «тпрусют». *Што ты рустпрусюткыўся, цёлычка сыта, толька што вядро поіла выпіла.*

РАСТРАПАНЕЦ *м.*, РАСТРОПКА *звыч. ж.* Неахайная асоба. *Вод ба табе рыстріпáнцым стыдна хадзіць. Такую растрёпку, як ты, трудна яшчэ айдзе-небудзь увідзіць. Памянш.* РАСТРОПАЧКА.*Ну што ж, калі растрёпычка, прідзіцца цярьпець, ні пірядзелыіш наныва.* РАСТРАПАНКА *ж. Ах ты, рыстріпáнка, рыстріпáнка, як ета сябе ні прігледзіць.*

РАСТРАПЛІВАННЕ *н.* Балбатня, разнясенне чутак. *Нылаіць яе нада крепка зы рыстрáплівыньня, іш, носіцца зь ізыком, як сыбака с хвастом.*

РАСТРАПЛІВАННІК *м.* Балбатун, разносчык чутак. *Вы самі ня меншыя рыстрáплівыньнікі, разьві пры Напреівых ні вашых ізыкоў дзела?* РАСТРАПЛІВАННІЦА *ж. Пра Юльку ніхто ні скажыць, што іна рыстрáплівыньніца, іна язык зу зубамі умеіць дзіржаць.*

РАСТРАПЛІВАЦЬ *незак.* Растрэпваць. *Канцы у вярёвычкі ні рыстря́плівый, зывяжы.* РАСТРАПЛІВАЦЦА *незак.* 1. Растрэпвацца. *У цябе усё рыстря́плівыіцца, нада ні дупускаць, а зывязывыць ці пірівязывыць.* 2. Разношвацца, рвацца. *Лі дроў, лі хворысьця усякыя адзежа скора рыстря́плівыіцца.* 3. Разносіцца (пра балбатню). *Яны як сыбяруцца у Кусьцючыхі, у іх усякыя чуш рыстря́плівыіцца.* РАСТРАПАЦЬ *зак. метаф.* Разбурыць. *Думылі, ці йціць у калхоз, ці ня йціць, нам іньдзівідуальныя, цьвёрдыя ныклалі, я гыварю: нясі зыяву, растрепюць — голый аста́нісься.* РАСТРАПАЦЦА *зак.* 1. Пачаць безупынна балбатаць. *Яны як растрепюцца, дык слухыць — ні піряслухыіш.* 2. Распаўсюдзіцца (пра чуткі). *Патроху-патроху рыстріпа́лыся пры Пынасоўну, дайшло ды Віхрян.* РАСТРАПАНЫЙ, РАСТРОПАНЫЙ *дзеепрым.* *Трудна рыстріпа́ныму рыжжывацца. Растрёпыный ні адзін ні ўваскрес.*

РАСТРАПЫВАННЕ *н.* Бузаванне (адзення). *С тваім рыстря́пывыньнім ні нуспруўляісься адзёжы: два месіцы касьцюм пынасіў — і хуць выкідай.*

РАСТРАСАЦЬ *незак. перан.* 1. Разбураць, разбіраць. *Толька ацьсеімся і будзім рыстріса́ць хату, некуды большы цягнуць.* 2. Разбураць (жыццё). *Ці раз етый народушку рыстріса́лі, а ўсё людзі жывуць.* РАСТРЭСЦЬ *зак.* 1. Разбурыць, разабраць. *Рыстрясеш хату, дык нада сыстына́ўлівыць, пач чыстым небым ні прыжывеш.* 2. Разбурыць (жыццё). *І ў нас кылацілі, а ў Астрейкывічых вун сколька сем'іў рыстрясьлі.* РАСТРЭСЕНЫЙ *дзеепрым.* 1. Разабраны. *Хаты былі растресіны, а ён зьлёг, што я ныпіріжыва́лыся!* 2. Разбураны (пра сям'ю, жыццё). *Растресіныю сям'ю нызад як ні ляпі — ня зьлепіш.*

РАСТРАСЫВАННІК *м.* Той, хто растрасае. *Пыкідаў клакі як зря твой рыстря́сывыньнік, што йта зы работа.* РАСТРАСЫВАННІЦА *ж.* *Стыряюцца рыстря́сывыньніцы, хочуць скарей кончыць.*

РАСТРАЎЛЯННЕ, РАСТРАЎЛІВАННЕ *н.* Навярэджванне. *Ат рыстрыўля́ньня што хочыш можыць прікінуцца. Рожа дужа-дужа ні прінімаіць рыстра́ўлівыньня, Вакулыва дычка памёрла, як сталі рожу резыць.*

РАСТРАЎЛЯЦЬ, РАСТРАЎЛІВАЦЬ *незак.* Навярэджваць. *Ранку рыстрыўляць нілізя, як засохла, скарей зыжывець. Ты кулупаіш і толька рыстра́ўлівыіш болькі.* РАСТРАЎЛЯЦЦА, РАСТРАЎЛІВАЦЦА *незак.* Навярэджвацца. *Аппечыныя нада крепка зывізаць, каб ня цёрлыся, ато будзіць рыстрыўля́цца. Аткулупаныя былячкі рыстра́ўлівыліся і ні зыжывалі.* РАСТРАВІЦЬ *зак.* Навярэдзіць. *Чым зря зылівала парезы, толька рыстравіла.* РАСТРАВІЦЦА *зак.* Навярэдзіцца. *Кожа была зьдзьвінута, тая мясьціна рыстравілыся і стала гнаіцца.* РАСТРАЎЛЕНЫЙ *дзеепрым. Яно ж відна зразу, што твыя рана рыстра́ўліна.* РАСТРАВЁМШЫ *дзеепрысл. Калі рожа рыстравёмшы, ты замучыісься, іна ніякія мазі ня любіць.*

РАСТРАХАЦЦА, РАСТРАХКАЦЦА *зак.* Пачаць гучна грукаць. *Рыстра́хыліся ма́лыя, ну ніхай хуць чым-чым зыняліся, серца меншы рвуць. Рыстра́хкыліся як ныстыяшчыя кузьняцы, с самыга раньня грюкочуць.*

РАСТРАХТАВАЦЬ *зак. іран.* Распачаць частаванне. *Нехта ў лесі здохніць, што Лявоніха так руструхтува́ла гасьцей.*

РАСТРАШЧЭЦЦА *зак. перан. іран.* Пачаць гучна і шпарка гаварыць. *Храсіньніна праўда ім ні пыныравілыся, рыстряшчэліся як сарокі.*

РАСТРОПАЦЦА *зак. метаф.* Пачаць моцна стукаць (пра сэрца). *Пыдажджы, і ў Броські серца растрёпыіцца, як пачуіць пры Сірьгяёнычка.*

РАСТРОПІСТА *прысл.* Неахайна. *Стыдна так растрёпіста хадзіць, ці ты ня можыш куртку зысьцябну́ць іголкыю.*

РАСТРОПІСТАСЦЬ *ж.* Неахайнасць. *А каму растрёпістысьць пыныравіцца, я б тожа бурчэла, каб мой так хадзіў.*

РАСТРОПІЦА *ж.* 1. Беспарадак, неахайнасць. *Як пычылася ў жызьні растрёпіца, дык і цягніцца каторый год.* 2. Неахайніца. *Абея яны растрёпіцы, пра іх дайжа тулкуваць ня хочыцца.*

РАСТРУБЛІВАЦЬ *незак. метаф.* Расказваць усюды. *Длі чаго яны пычалі растру́блівыць пру Кулічковых, сыма ні пайму.*

РАСТРУНІЦЦА *зак.* Пачаць злосна насмяхацца. *Тама Гырасёнык руструніўся, ён любіць пыказывыць сябе.*

РАСТРЫБУШАЦЬ *незак. метаф.* Груба растрасаць, раздзіраць. *Айдзе яны? — ці ні ўзяліся стажок рыстрібушáць.* РАСТРЫБУШАЦЦА *незак.* Груба растрасацца, раздзірацца. *Пырваўся сяньнік, саўсім рыстрібушáіцца.* РАСТРЫБУШЫЦЦА *зак.* Груба растрэсціся, разадрацца. *На пошці скызалі, што ў дарогі пасылка рыстрібушылыся, уродзі ўсё цэла.* РАСТРЫБУШОМШЫ *дзеепрысл. Рыстрібушомшы саку, за сена каб ні ўзяліся.*

РАСТРЫБУШЫВАННЕ, РАСТРЫБУШАННЕ *н.* 1. Грубае растрасанне, раздзіранне. *Узноў узяўся зы рыстрібýшывыньня! Пупадзець табе зы рыстрібушáньня, пыглядзіш, як пупадзець.* 2. Растрэсеныя, падраныя рэчы. *Ну, нада сыбіраць рыстрібýшывыньня, узноў пыряччыць. Склыдай рыстрібушáньня пряма на мост.*

РАСТРЫЗВОНІВАННЕ *н. эмац.* Шырокае распаўсюджванне чутак. *Ці ныстаніць такоя ўремя, што ім рыстрізвонівыньня ныдаесьць?*

РАСТРЫНОЖЫВАННЕ *н.* Распутванне стрыножанага каня. *Глядзі, етый конь можыць кыпытом ударіць, будзіць тады рыстріножывыньня.*

РАСТРЫНОЖЫВАЦЬ *незак.* Распутваць (стрыножанага каня). *Рыстріножывыйця коні, пывядзём паіць ды зыпрігаць нада.* РАСТРЫНОЖЫВАЦЦА *незак.* Распутвацца (пра стрыножанага каня). *Во ўредныя кабыла: наўчылыся сыма распутывыцца і рыстріножывыцца, пута пірігрызаіць.* РАСТРЫНОЖЫЦЬ *зак.* Распутаць (стрыножанага каня). *Нехта майго кыня рыстріножыў, каму ён нада быў?* РАСТРЫНОЖЫЦЦА *зак.* Распутацца (пра стрыножанага каня). *Етый конь сам рыстріножыцца ня мог, чые-то рукі пыхадзілі кылы яго.* РАСТРЫНОЖАНЫЙ *дзеепрым. Твой Орлік у вык пабег, ён рыстріножыный.*

РАСТРЭНДАЦЬ *зак.* Выклікаць бадзянне. *Доўга ён на месьці ні пысядзіць, скора яго узноў растрэндыіць.* РАСТРЭНДАЦЦА *зак.* Пачаць бадзяцца. *Нічога дзелыць ня хочыць, растрэндыўся як пасьледнія аторва.*

РАСТУКАЦЦА *зак.* Пачаць энергічна павучаць. *Позна ты растýкылыся на ветріньніцу, нада було трі гады таму нызад тýкыць.*

РАСТУЛМАЧЫВАЦЬ *незак.* Растлумачваць. *Нечыга мне рустулмáчывыць, я сам ета ня хужы цябе знаю.* РАСТУЛМАЧЫВАЦЦА *незак.* Растлумачвацца. *Нікуды я ні пайду, чаго йта мне с Прыхарёнкым рустулмáчывыцца.* РАСТУЛМАЧЫЦЦА *зак.* Растлумачыцца. *Я думыў, што яму ўсё рустулмáчылыся, а ды яго нічогычка ні дайшло.* РАСТУЛМАЧЫВАНЫЙ, РАСТУЛМАЧАНЫЙ *дзеепрым.* *Сколька разоў яму рустулмáчывына, каб скот у шкоду ні пускаў! Ён і рустулмáчыныга нічога ня пойміць.*

РАСТУМКЫВАННЕ *н.* Разуменне. *Пыдзікуйсь ны яго растýмкывыньня: стаіць і за вушы дзяржыцца.*

РАСТУМКЫВАЦЬ, РАСТУМКЫВАЦЦА *незак.* Дабівацца разумення. *Як возьміцца растýмкывыць, ты цэлый час будзіш ждаць. Ня дужа яны ў чом растýмкывыюцца, нейкія як вырыняты.* РАСТУМКАЦЬ, РАСТУМКАЦЦА *зак.* Зразумець. *Пакуля растýмкыюць, што ды чаго, іцiць некылі будзіць. Чуць-нячуць растýмкыўся, чаго зыіжджаў сюда Кырняёнык.*

РАСТУПІЛІЧЫВАННЕ *н. жарт.* Разразанне. *Вун якоя ў яго рустyпілíчывыньня: аж пыхціць нуд гурбузом.*

РАСТУПІЛІЧЫВАЦЬ *незак. жарт.* Разразаць. *Рустyпілíчывый гарбуз, у ём далжны быць сьпелыя семічкі.* РАСТУПІЛІЧЫЦЬ *зак.* Разрэзаць. *Рустyпіліч бруквіну ны чатырі часьці, кажныму пу куску.* РАСТУПІЛІЧАНЫЙ *дзеепрым. Во яны, рустyпілíчыныя морквіны, пыт хвырасьцінымі.*

РАСТУПЫВАННЕ, РАСТУПКЫВАННЕ *н.* Злоснае тупканне. *Ніхто і ўніманія ні абрышчаіць ны яго растýпывыньня, каму ён важын! Буглаёнкыва нявестка усё дзівілыся ны Гаўрілыва растýпкывыньня.*

РАСТУРАННЕ, РАСТУРЫВАННЕ *н.* Разганянне. *Ня дзействыіць на іх ніякыя рустуря́ньня, ты растýріш, а ціріс пуўчыса яны узноў разым. Унімiся з растýрівыньнім, ляглі цiляты — і ніхай ліжаць.*

РАСТУРКАЦЦА *зак. эмац.* Пачаць бурчаць, пакрыкваць. *Прося растýркылыся на Пецьку, а ён дайжа вухым ні вядзець.*

РАСТУРЛЫЧЫВАННЕ *н. экспр.* Незразумелае тлумачэнне. *Трудна што-нібудзь пыняць зь яго рустурлы́чывыньня.*

РАСТУРЛЫЧЫВАЦЬ *незак. экспр.* Тлумачыць незразумела. *Нешта ўзяўся рустурлы́чывыць Хліманку, а тэй нічога ня чуіць.* РАСТУРЛЫЧЫВАЦЦА *незак.* Пачынаць гаварыць незразумела. *Нечыга с пулувумнікым рустурлы́чывыцца, ты яму нічога ні ўталкуіш.* РАСТУРЛЫЧЫЦЬ *зак.* Растлумачыць незразумела. *Ну канешня, Ісай тэй самый, што ўсё рустурлы́чыць.* РАСТУРЛЫЧАНЫЙ *дзеепрым. Ні знаю, ці ўсё яму рустурлы́чына, ці пыняў ён што-небудзь.*

РАСТЫХАЦЬ, РАСТЫХКАЦЬ *зак.* Пачаць моцна біцца (пра сэрца). *Другей раз як расты́хыіць серца, чуць ні выскакывыіць з грудзей. А што, расты́хкыла серца, як увідзіла Шуріка свайго?*

РАСХАДОЎНЫЙ, РАСХАДНЭЙ, РАСХАДНЫЙ, РАСХАДЭЙ *прым.* Неберажлівы. *Матка твыя ні была тыкая рысхадоўныя, а ты ня ўмееш жыць. І мужык рысхаднэй дренна, а калі яшчэ жонка — ета вешныя старцы. Каб ты ня быў дужа рысхадны́й, і ў цябе б капейка вілася. Ні такей ён рысхадэй, як яго бацька, тэй нічога ня ўмеў прібярежч.*

РАСХАЗЯЙНІЧАЦЦА, РАСХАЗЯЙСТВАВАЦЦА *зак.* Пачаць энергічна гаспадарыць. *Ён як рысхызя́йнічыіцца, дык пырядык табе уміг нывядзець. Так рысхызя́йствывыўся, што пры Сямёнывыга сына і ні падумыў ба.*

РАСХАРАШЫВАННЕ, РАСХАРАШАННЕ *н.* Упрыгожванне. *Мне ваша рысхыра́шывыньня ня дужа аньціресна. А што мне іхныя рысхырыша́ньня, мяне ета мала кысаіцца.*

РАСХАРАШЫВАЦЬ, РАСХАРАШАЦЬ *незак.* Упрыгожваць, прыбіраць. *Хваціць ужо, хваціць яе рысхыра́шывыць. Нечыга яго рысхырыша́ць, знаім мы, якей ён ладный.* РАСХАРАШЫВАЦЦА, РАСХАРАШАЦЦА *незак.* Упрыгожвацца, прыбірацца. *Сідзяць піряд зеркылым, рысхыра́шывыюцца. Умеюць рысхырыша́цца, етыму учыць ні нада.* РАСХАРАШЫЦЬ *зак.* 1. Упрыгожыць, прыбраць. *Рысхыраши́ла сваіх дзяўчонык як кукылык.* 2. Расхваліць. *Так рысхыраши́лі Цітынка, што, кажыцца, луччы чыла-*

*века на сьвеці німа.* РАСХАРАШЫЦЦА *зак.* Упрыгожыцца, прыбрацца. *Яны ўмеюць рысхырашы́цца і пріборыў хвытаіць.* РАСХАРОШАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Упрыгожаны, прыбраны. *Такея рысхарошыныя бегыюць дзевычкі, што толька пыглядзець.* 2. Расхвалены. *Пыглядзелі мы на тую рысхарошыную куклу.* РАСХАРАШОМШЫ *дзеепрысл.* Упрыгожыўшы, прыбраўшы. *Так рысхырашомшы, к ёй заўтря могуць сваты прікаціць.*

РАСХАХЛАЧЫВАННЕ *н.* Разлахмачванне. *Адзін раз заробіў зы рысхыхла́чывыньня і яшчэ палучыш.*

РАСХАХЛАЧЫВАННІК *м.* Той, хто разлахмачвае. *Ты січас пачуіш, як рысьпішчыцца Матрунін рысхыхла́чывыньнік.* РАСХАХЛАЧЫВАННІЦА *ж.* *Толька ня ўніміцца рысхыхла́чывыньніца, я ўмею унімаць дужа скора.*

РАСХВАЛЕНЫЙ *дзеепрым.* Моцна пахвалены. *Просін рысхва́ліный зяць кінуў яе дачку і зьехыў некуды.*

РАСХВАНАБРАННЕ, РАСХВАНАБЭРЫВАННЕ *н.* Фанабэрыстасць. *Можыш так пулучыць зы сваё рысхвыныбря́ньня, што задзівісься. Каб вы уняліся з рысхвынабэрівыньнім, так ба ладна було.*

РАСХВАРСІЦЦА *зак.* Пачаць моцна фарсіць. *Рысхварсі́ліся вашы хлопцы, цаны-меры сабе ні знаюць.*

РАСХЛЕХАЦЕЦЬ *зак.* Выклікаць гнеў. *Вы б відзілі, як рысхліхацела ўчора Сымчынка, жывая указэя была.* РАСХЛЕХАЦЕЦЦА *зак.* Пачаць моцна злавацъ. *Дужа доўга рысхліхацецца такому пастылыму, ён зу лучынку знайдзіць прічынку.*

РАСХЛЁБАЎШЧЫНА *ж. эмац.* Беспарадак. *Ды вайны тыкая была расхлёбыўшчына ў кылгасі, ніхто нічога дзелыць ні хацеў.*

РАСХЛІПАЦЬ, РАСХЛІПКАЦЬ *зак.* Выклікаць плач з усхліпваннем. *Во ніізьвесна чаго расхлі́пыла як малютычку якога. Іх абеіх як расхлі́пкыіць, ну пуўдня могуць завесца.*

РАСХЛЫНКАЦЬ *зак.* Выклікаць бязмэтнае блуканне. *Што вас расхлы́нкыла сяньня, няўжэлі ніякія работы німа ў дваре?*

РАСХЛЯБІСТЫЙ *прым. метаф.* Неарганізаваны, неакуратны. *Калі чылавек рысхля́бістый, ён нічога с толкым ня зьдзелыіць.*

РАСХЛЯБЛІВАННЕ *н.* 1. Расчынянне. *Ніякыга ў цябе пырядку німа, к чаму еткыя рысхля́блівыньня, мальцыў прівучай зыпіраць усё.* 2 *перан.* Расхрыстванне. *Дай ныгыняй зы такоя рысхля́блівыньня, ідзець як мазурік.*

РАСХЛЯБЛІВАЦЬ *незак.* 1. Расчыняць. *Пуню ні зычыняў, рысхля́блівыў, коні зайшлі і быракі пагрызьлі.* 2 *перан.* Расхрыстваць. *Рысхля́блівыіць каўнерь і ходзіць, думыіць, дужа прігожа.* РАСХЛЯБЛІВАЦЦА *незак.* 1. Расчыняцца. *У цябе ўсігда вароты рысхля́блівыюцца.* 2. Расхрыствацца. *Нешта ґузікі ні дзіржаць, пінжак рысхля́блівыіцца.* РАСХЛЯБЛЕНЫЙ *дзеепрым.* 1. Расчынены. *Я туды ішла, відзіла, што дзьвері рысхля́бліны, і січас ні запёрты.* 2. Расхрыстаны. *Чаго ты бегыіш рысхля́бліный, узноў прустудзіцца хочыш?*

РАСХЛЯБЫВАННЕ, РАСХЛЁБЫВАННЕ *н. перан.* Разборка, разблытванне. *Ныўряд, каб што-небудзь пулучылыся, ніякыя рысхля́бывыньня ім ні паможыць. Якоя ні расхлёбывыньня, а бігатні хваціла па вушы.*

РАСХЛЯБЫВАЦЬ *незак. перан.* Разбіраць, разблытваць. *Ці мала чаго ў жызьні пріхадзілыся рысхля́бывыць.* РАСХЛЯБЫВАЦЦА, РАСХЛЁБЫВАЦЦА *незак.* Разбірацца, разблытваць. *Ня тоя дык тоя утворіць, а ты зы яго рысхлябывыйся. Кашу зывяріць, улезіць у яе, а бацька тады расхлёбывыіцца.*

РАСХЛЯСКЫВАННЕ, РАСХЛЁСКЫВАННЕ *н.* Размачальванне. *Пірістаньця балывыцца з рысхля́скывыньнім, дзелыць вам нечыга. Узяліся зы расхлёскывыньня, стыряюцца адзін пірада дным.*

РАСХЛЯСТАЦЦА *зак. гумар.* Пачаць хлястаць. *Ты ні шуці, Ныталка як расхлешчыцца, дык і табе пупадзець будзь здароў сколька.*

РАСХОХЛІВАННЕ *н.* Разлахмачванне. *Січас пу руках ныдаю, во будзіць табе расхохлівыньня.*

РАСХОХЛІВАЦЬ *незак.* Разлахмачваць. *Пірістань ёй валосься расхохлівыць, ныдыядлый ты дужа.* РАСХОХЛІВАЦЦА *незак.* Разлахмачвацца. *Ні прічэшысься як нада,*

*твыя прічоска расхохлівыіцца.* РАСХОХЛІЦЬ *зак.* Разлахмаціць. *Ма́лыя ба́лыіцца, пыдбягіць і расхохліць валосься.* РАСХОХЛІЦЦА *зак.* Разлахмаціцца. *Во як у цябе гылыва расхохлілыся, стала як кудзеля!* РАСХОХЛЕНЫЙ *дзеепрым. Ні хадзі такою расхохлінаю, ці ты прічысацца ня можыш.*

РАСХРУСЦЕЦЦА *зак.* Пачаць часта хрумстаць. *Сушычык прінісла з горыда, дык ма́лыя русхрусьцеліся, бегыюць і точуць.*

РАСХУХВЫРА *звыч. ж.* Прэтэнцыёзна апранутая асоба. *Толька пыглядзець, ікая русхухвы́ря пріехыла Мылашонкыва дычка. Памянш.* РАСХУХВЫРКА, РАСХУХВЫРАЧКА. *Як жа ня будуць русхухвы́ркымі, кылі бацька такою шышкыю зьдзелыўся. Ні прідумыіць, што нычапіць ны сябе Пынасёнкыва русхухвы́річка, рогі асталыся наторнуць.*

РАСХУХВЫРНА, РАСХУХВЫРЫСТА *прысл.* Прэтэнцыёзна, безгустоўна. *Канешня, яны ўмеюць русхухвы́рна ныдзіваццa, толька на іх ня дужа хочуць глядзець. Томка і ўчора русхухвы́ріста нырядзілыся, хочыць Цімоху пыныравіцца.*

РАСХУХВЫРНАСЦЬ, РАСХУХВЫРЫСТАСЦЬ *ж.* Прэтэнцыёзнасць, безгустоўнасць. *Ня дужа каму важна іх русхухвы́рнысьць, усе знаюць, што ета зы цацы. Антоля пыглядзела на іх русхухвы́рістысьць, зысьміялыся, нічога ні скызала.*

РАСХУХВЫРНЫЙ, РАСХУХВЫРЫСТЫЙ *прым.* Прэтэнцыёзны, безгустоўны. *Пышла некуды Міхяёнкыва меншыя, ды тыкая русхухвы́рныя, што бяс хвігі ні пуцступайся. Не, Томка большы такою русхухвы́ристыю ня ходзіць, пыспыкайнела.*

РАСХУХВЫРЫВАННЕ *н.* Прэтэнцыёзнае, безгустоўнае апрананне. *Такоя русхухвы́рівыньня ґ дабру ні прівoдзіць.*

РАСХУХВЫРЫВАЦЬ *незак.* Прэтэнцыёзна, безгустоўна апранаць. *Дачок сваіх русхухвы́рівыіць, думыіць, жыніхі кучыю ныліцяць.*

РАСЦАПАЦЬ, РАСЦАРЫПАЦЬ, РАСЦАПКАЦЬ, РАСЦАРЫПКАЦЬ *зак.* Расхапаць. *Толька прінісла,*

*пылажыла канхветы, дзеці у мінуту рысца́пылі. Ны адзін міг кінь ніпрібраныя пячэньня, яны быйстра рысцарі́пыюць. Многа ўремя ім ні нада, каб рысца́пкыць быранькі. Ці ты ня відзіла, хто рысцаріпкыў канхветкі ны палічкі?* РАСЦАПАЦЦА, РАСЦАРЫПАЦЦА, РАСЦАПКАЦЦА, РАСЦАРЫПКАЦЦА *зак.* Праявіць прагнасць пры хапанні. *Дужа ты рысца́пыўся зь яблыкымі, сьпірва нада спрасіць. Ого, як вы скора рысцарі́пыліся зь ягыдымі, хут трошку бацьку кіньця. Іш, якея дасужыя, рысца́пкыліся, дужа ласыя ны прісмакі. Рысцарі́пкыцца яны ўмеюць, і ўчыць ні нада.*

РАСЦАРАПКЫВАННЕ *н.* Раздрапванне. *Во відзіш, рысцыра́пкывыньня узноў рызбалелыся.*

РАСЦЁПАЦЦА, РАСЦЁПКАЦЦА *зак.* 1. Пачаць працягла парыцца. *Як расьцёпыліся, дык с пылка злазіць ні хацелі, так ім пыныравілыся ў бані. Айдзе яны расьцёпкыюць, ты іх папробый ны палок узгонь.* 2. Расслабіцца, абабіцца (пра венік, мятлу). *Расьцёпыўся венік, нада кряпчэй зьвізаць. Расьцёпкылыся мітла, атреж бярёзык ды зьвяжы новыю.*

РАСЦІРКА *ж.*, РАСЦІРАННЕ *н.* Лекі для націрання. *Нада купіць расьці́ркі для ног: дужа балець сталі. Мне маліц рысьціра́ньня прівёз, хырашо ныгам пымыгаіць, натру — і лехчы. Памянш.* РАСЦІРАЧКА *ж.*, РАСЦІРАННІКА *н.* *Нада б і мне такея расьці́рычкі дыстаць, гаворюць, ладна пымыгаіць. Кынчаіцца маё рысьціра́ньніка, буду прасіць, каб яшчэ прівязьлі.*

РАСЦМЫГАЦЦА *зак.* Пачаць бегаць з мэтай пажывіцца. *Іна расцмы́гылыся ніізьвесна чаго, так нікрасіва бегыць пы хатых.*

РАСЦУРГЫВАННЕ *н. неадабр.* Бяздумнае раздаванне. *Ды таго дойдуць з расцу́ргывыньнім, што ў саміх ні пранца ні астанецца.*

РАСЦУРГЫВАЦЦА *незак. неадабр.* Бяздумна раздавацца. *У такіх хызяік усё расцу́ргывыіцца, нічога ні задзержывыіцца.*

РАСЦЫГАЦЬ *зак.* Выклікаць піск (у куранят). *А я аткуля знаю, чаго етых ціплят расцы́гыла, нідаўна ім просу сыпылі.*

РАСЦЭПАЦЦА, РАСЦЭПКАЦЦА *зак. эмац.* Пачаць хапаць, шукаць. *Што ты расцэпыўся, тута ты нічога ні*

*лажыў і нечыга піріпарівыць. Лянь-ка, лянь, як етый ідыл расцэпкыўся.*

РАСЦЮКЫВАННЕ *н.* Рассяканне лёгкімі ўдарамі сякеры. *Што ты возісься з расьцю́кывыньнім, сікані зрызмаху, і яно рызьляціцца.*

РАСЦЮПАЦЦА, РАСЦЮПКАЦЦА *зак.* Пачаць ахвотна парыцца. *Сьпірва пішчэў, ні хацеў лезьць ны палок, а як расьцю́пыўся, дык ні сьцягнуць було. Відзіш, расьцю́пкыліся, пыныравілыся дзедыва баня.*

РАСЦЯГЫВАЦЦА *незак. перан.* Паволі разыходзіцца. *Доўга сядзелі, пат поўныч сталі рысьця́гывыцца пы адным. Коні рысьця́гывыюцца пу лугу ува ўсе бакі.* РАСЦЯГНУЦЦА *зак.* Паволі разысціся. *Як молыдзіж пы́дыйшла, яны рысьцягну́ліся, а то б сядзелі ніізьвесна сколька.*

РАСЦЯПІСТА *прысл. эмац.* Някемліва, няўважліва. *Яму што ні пуручы, усігда рысьця́піста зьдзелыіць, і то — кылі зьдзелыіць.*

РАСЦЯПІСТАСЦЬ *ж.* Някемлівасць, няўважлівасць. *Твыя рысьця́пістысьць усім у косьці ўелыся.*

РАСЦЯПКА *ж. эмац.* Някемлівая, няўважлівая жанчына. *Рысьця́пкі нічога пуручаць нілізя, за ёю глядзі ды глядзі. Памянш.* РАСЦЯПАЧКА. *Не, ніякыга толку ат рысьця́пычкі ты ні дажджэсься.*

РАСЦЯРАБЛІВАННЕ *н.* Церабленне. *Посьлі рысьціря́блівыньня ныварочылі горы кусьця, былі і ладныя хвырасьціны, на дровы бралі.*

РАСЦЯРАБЛІВАЦЬ *незак.* Церабіць. *Нашы хлопцы нядоўга рысціря́блівылі аблогу, скора кончылі.* РАСЦЯРАБЛІВАЦЦА, РАСЦЯРЭБЛІВАЦЦА *незак.* Праводзіцца (пра церабленне). *Патрошку рысьціря́блівыюцца кусты, нямнога астаецца. С таго боку троху рысцяреблівылыся кусьця, а ад балота ніхто ня трогыў.* РАСЦЕРАБІЦЦА *зак.* Правесціся (пра церабленне). *Мы думылі, скора рысьцяребіцца, а яно асталыся і асталыся, зырасло бярезьнікым.*

РАСЦЯРОБА, РАСЦЯРОБШЧЫНА *ж.*, РАСЦЯРОБАК *м.* Расцяроб. *Засеілі рысьцярёбу лёным, лён-лён быў! Ны рысьцярёбшчыні што ні пасеіш, ні прыгыдаіш, і жыта уродзіць, і лён такую зямлю любіць. Ны рысьцярёбык гною ні нада ва́зіць, там і так усё вырысьціць. Памянш.*

РАСЦЯРОБАЧКА *ж.*, РАСЦЯРОБАЧАК *м. Ці помніш, якей лён на той рысьцярёбычкі вырыс, Высіліса пряла і хваліла. У нас быў тады нібальшэй рысьцярёбычык.*

РАСЦЯРОБШЧЫК *м.* Той, хто цярэбіць. *Ідуць і рысьцярёбшчыкі іс сваё работы, ладна зымарёмшы.* РАСЦЯРОБШЧЫЦА *ж. Етыя рысьцярёбшчыцы як возьмуцца, работа зугудзіць зразу.*

РАСЧАБУРДЭХАЦЦА *зак. эмац.* Пачаць энергічна наліваць, выліваць. *Пылядзі, што ён дзелыіць — рушчубурдэхыўся, пыбліваіць усё ў сенцых.*

РАСЧАПУРАННЕ, РАСЧАПУРЫВАННЕ *н.* Раскошнае прыбіранне, нараджанне. *Мне ўжо і прібіраньня, і рушчупуря́ньня нада як сыбаку пятыя ныга. Ці відзіш, ікая Анюта стала посьлі рышчапу́рівыньня, — хуць сватоў пысылай.*

РАСЧАТНІЦЦА *зак.* Працягла расхварэцца. *Нешта рышча́тніўся яе Стыхван, усю зіму дайжа редка с хаты выхадзіў.*

РАСЧАХАРДЗІЦЬ *зак. эмац.* Разбурыць. *Рышчыхардзілі пуню і кінулі, калі яны думыюць брацца зы пірявозку?* РАСЧАХАРДЗІЦЦА *зак.* Разбурыцца. *Неік за год у іх рышчыхардзілыся, пулумалыся жызьня ну кускі.* РАСЧАХАРДЗЁМШЫ *дзеепрысл. Баня другей год рышчыхардзёмшы выляіцца і паць сьнегым, і пыд даждж ом.*

РАСЧАХАЦЦА, РАСЧАХКАЦЦА *зак.* Пачаць энергічна сячы. *А тама Кірей рышча́хыўся, хворысьця сваё дысікаіць. Рышча́хкыліся хлопцы, хочуць кылякі дасеч, а тады ны вічарінку пабежч.* РАСЧАХАНЫЙ, РАСЧАХКАНЫЙ *дзеепрым. А пыглядзі, як у яго роўна жэрдзь рышча́хына. Пень твой ужо рышча́хкын, пацсохнуць кускі і палі ў печы.*

РАСЧАЧЭНІЦЬ *зак. эмац.* 1. Выклікаць задаванне. *Так рышчачэніла Навуміхіну дачку, ні прідумыіць, пы якому сьвету ходзіць.* 2. Раскошна прыбраць. *Рышчачэніла сваю нявесту, хуць сяньня вядзі ў сільсавет.* РАСЧАЧЭНІЦЦА *зак.* 1. Пачаць задавацца. *Яны ўмеюць рышчачэніцца, зыдываньня хуць адбуўляй.* 2. Раскошна прыбрацца. *Рышчачэніліся усё дно як якея кымісарскія дочкі.*

РАСЧВЯКАЦЬ *зак. экспр.* Размясіць гразь. *Сыцёжычку рышчвя́кылі, што нійдзе ня ступіш, чысьціць нада.* РАСЧВЯКАЦЦА *зак.* Пачаць таптацца па гразі. *Узноў рышчвя́кыліся па лужых, прідуць па поіс мокрыя.* РАСЧВЯКАНЫЙ *дзеепрым. Грязь ны дваре рышчвя́кына, лезіш — пы калені.*

РАСЧОРКАЦЦА, РАСЧЫРКАЦЦА *зак.* Пачаць энергічна крэсліць. *Во рашчоркыўся, пынапісывыў, што нічогычка ні рызьбяреш. Што вы тута рашчы́ркыліся, толька гадзіця кніжку. Ну й рышчырка́ўся, усю бумагу зы адзін раз піряпорціць.*

РАСЧУМАЧЫВАННЕ *н. метаф.* Разуменне. *А ні трілюдзьця вы пустога зь яго рушчума́чывыньнім, яму дзесіць разоў пухтарі — і ня пойміць.*

РАСЧУМАЧЫВАННІК *м. метаф.* Той, хто разумее, разбіраецца. *Ні ды чаго твае рушчума́чывыньнікі ні дадумыюцца, ты ім скажы, як нада дзелыць.* РАСЧУМАЧЫВАННІЦА *ж. Сядзіць рушчума́чывыньніца, гыдаіць, ці ехыць ёй у Воршу, ці тут астывацца.*

РАСЧУМАЧЫВАЦЬ, РАСЧУМАЧЫВАЦЦА *незак. метаф.* Разумець, разбірацца. *Ці рушчума́чывыіш ты, к чаму ўсё ета гаворіцца? Во тыкі і Антонька стаў рушчума́чывыцца, чаго яны кажныю нядзелю туды езьдзіюць.* РАСЧУМАЧЫЦЬ, РАСЧУМАЧЫЦЦА *зак.* Зразумець, разабрацца. *Ты сам увідзіш, што нічога яны ні рушчума́чылі і цяперя. Яму многа ўремя нада, каб рушчума́чыцца, на што нымікаў Андрей.* РАСЧУМАЧАНЫЙ *дзеепрым. Кажыцца ж, рушчума́чыный пашоў ат Мільляноўны.*

РАСЧУХЫВАННЕ н. Раскатурхванне. *Хвіданёнкыва рашчу́хывыньня паўгода можыць цягнуцца, а можыш і саўсім ні дыждацца.*

РАСЧУХЫВАЦЬ *незак.* Раскатурхваць. *Трудна яго посьлі п'янкі рашчу́хывыць, сьпіць як забітый.* РАСЧУХЫВАЦЦА *незак.* Раскатурхвацца. *Ці яны троху рашчу́хывыюцца ай да іх нічога ні даходзіць?* РАСЧУХАЦЬ *зак.* Раскатурхаць. *Ну схадзі сыма пуштурьхай, можа рашчу́хыіш.* РАСЧУХАЦЦА *зак.* Раскатурхацца. *Ён ішчэ ні рашчу́хыўся як нада, вычамі лупыіць, ні рызьбярецца, айдзе*

*што.* РАСЧУХАНЫЙ *дзеепрым. Прахорька рашу́хыный варушыцца на печы, нешта пад нос сам сабе шэпчыць.*

РАСЧЫКРЫЖЫВАННІК *м. гумар.* Той, хто разразае. *Над бруквінью стыряіцца рышчыкры́жывыньнік, іна ня дужа режыцца.* РАСЧЫКРЫЖЫВАННІЦА *ж. Віджу, ты ладныя рышчыкры́жывыньніца, сабе луччый кусок атрезыла.*

РАСЧЫНА *ж.* Вадкае цеста. *Рашчына гатова, дровы рызгыряцца — і бяріся печ бліны.*

РАСЧЫНКА *ж.* Рошчына. *У дзяжэ ўсігда кідаюць рашчы́нку, як жа біз рашчы́нкі рызвадзіць. Памянш.* РАСЧЫНАЧКА. *Неік мала асталыся рашчынычкі.*

РАСЧЫНЯННЕ I *н.* Развядзенне цеста для печыва. *Ну канешня, с твайго рышчыня́ньня далжно нешта смашныя пулучыцца.*

РАСЧЫНЯННЕ II *н. перан. неадабр.* Крык. *Тоя ўремя Аўдоткіныга рышчыня́ньня усе наслухыліся, акцівістка была ого ікая!*

РАСЧЫНЯННІК *м.* Той, хто разводзіць цеста для печыва. *Ды віджу, што сь цябе рышчыня́ньнік ня хужы, чым Варка.* РАСЧЫНЯННІЦА *ж. Зыкыпалыся рышчыня́ньніца, хлеб пыдыйціць ні пасьпеіць.*

РАСЧЫНЯЦЬ *незак.* Разводзіць цеста (для печыва). *Даўно ні пікла, буду ґ заўтріму рышчыня́ць хлеб.* РАСЧЫНЯЦЦА *незак.* Разводзіцца (пра цеста для печыва). *Як яно ў цябе рышчыня́іцца, ці пірагі палучуцца, ці толька булкі?*

РАСЧЫСЛЯННІК, РАСЧЫСЛІВАННІК *м.* Той, хто мяркуе, раздумвае. *Што Андреіў рышчысьля́ньнік трілюдзіць пры язду, ішчэ нічога ніізьвесна. Рашчы́сьлівыньнікі яны дужа харошыя, ну па-іхныму ныўряд каб пулучылыся.* РАСЧЫСЛЯННІЦА, РАСЧЫСЛІВАННІЦА *ж. Аткуля ён знаіць, што ў етых рышчысьля́ньніц усё палучыцца як пы маслу. Кіріліхіны рашчы́сьлівыньніцы ня думыюць, што ў іх выйдзіць.*

РАСЧЫШЧЫВАННЕ *н.* Расчышчанне. *Кынца твайму рашчы́шчывыньню ня відна, с такою работыю ды кынца года дыцягніш.*

РАСЧЫШЧЫВАННІК, РАСЧЫШЧАННІК *м.* Той, хто расчышчае. *Стыряіцца рашчы́шчывыньнік, хочыць, каб*

*двор аж сіяў ды пріезда гасьцей. Ці ты ня відзіў, куды рышчышчáньнікі пашлі ат'етуля?* РАСЧЫШЧЫВАННІЦА, РАСЧЫШЧАННІЦА *ж. Зымарілыся рашчы́шчывыньніца, нубуйтувалыся ладна кыла хворысьця. Айдзе-то нашы рышчышчáньніцы, іх даўно ня відна лі стога.*

РАСЧЫШЧЫВАЦЬ *незак.* Расчышчаць. *Сколька мы прі немцых ныхадзіліся Крічаўскей быльшак рашчы́шчывыць!* РАСЧЫШЧЫВАЦЦА *незак.* Расчышчацца. *Було дужа ныцягнута сільна, а цяперя стала рашчы́шчывыцца.* РАСЧЫСЦІЦЬ *зак.* Разагнаць (хмары). *Што йта зы пагода: трошку рашчы́сьціць, а тады ўзноў ныцягывыіць і дождж пырскыіць.*

РАСШАБУЛДЭХАЦЦА, РАСШАБУЛДЭХКАЦЦА *зак.* Пачаць з шумам кідацца ў ваду. *Як рушшубулдэхыліся, дык іх було з вады ня выгныць. Ета рушшубулдэхкыліся дыпрізыўнікі, яны вун ну гумне стыяць.*

РАСШАБУЦЕЦЬ, РАСШАБУЦІЦЬ *зак.* Выклікаць вычваранне, шум. *Нешта Аўдотычкіных рушшубуцела, ці яны б'юцца, ці так прыгыюць як сумашэччыя. Яго другей раз як рушшубуціць, ніякыга ўніму ні знаіць.*

РАСШАВАЛІВАННЕ, РАСШАВОЛІВАННЕ *н.* Катурханне. *Ня дужа да іх даходзіць рышшывáлівыньня посьлі вічарінкі. Во як Ныталка возьміцца зы рышшаволівыньня, яны быйстра пыўскакыюць.*

РАСШАЛАПУЦІЦЬ, РАСШАЛАПУТНІЧАЦЬ *зак.* Выклікаць задаванне, шум (звыч. у палахлівага). *Нечыга узноў рышшылапýціла Сашкіныга воґіря, усё пыказывыіць сябе. Іх рышшылапýтнічыла, што нікога з мушчын блізка ні було, а то б сядзелі як мокрыя мышы.*

РАСШАЛУДЖЫВАННІК *м.* Той, хто выхваляецца, куражыцца. *Ня меншый рышшалýджывыньнік быў і Кірейка, мы знаім, што зь яго тварілыся.* РАСШАЛУДЖЫВАННІЦА *ж. А што мне глядзець ны рышшалýджывыньніцу, ніхай шулудзіцца, сколька хочыць.*

РАСШАЛУДЖЫВАЦЬ *незак.* Выклікаць выхвалянне, куражанне. *Мы увідзілі, што Кусьцючонка узноў рышшалýджывыіць, пывярнуліся і пашлі.* РАСШАЛУДЗІЦЬ *зак.* Выклікаць выхвалянне, куражанне. *Учора іх як рушшулудзíла, дык уся дзяреўня ныхыхыталыся.* РАСШАЛУ-

ДЖАНЫЙ *дзеепрым. Будзіць бегыць рышалу́джыный, пакуля пасьледнія капейкі ні прап'ець.* РАСШАЛУДЗЁМШЫ *дзеепрысл. Грошы зывяліся, можыць і рушшулудзёмшы пыхадзіць пы Каробчыну.*

РАСШАМАТАЦЦА *зак. метаф.* Пайсці (пра дробны часты дождж). *Позна вечыра як рышшымыта́ўся дождж, дык во і сяньня дзень ні сьціхаіць.*

РАСШАПТАЦЦА *зак.* Пачаць доўгае шаптанне. *Прося с Хадорыю рышшыпта́ліся, часы два стыялі кылы быльшыка.*

РАСШАТЫВАЦЦА *незак. перан.* Разварушвацца. *Пыднімуся, а тады цэлый час рышша́тывыюся, пакуля рысхаджуся трошку.* РАСШАТАЦЦА *зак.* Разварушыцца. *Ты ўжо рышшыта́ўся, вазьмі вёдры ды схадзі к калодзіжу.*

РАСШВІГІКЫВАННЕ *н. эмац.* Раскідванне ў злосці. *Ні на Хведзьку ён пупаў, тэй ба зы такоя рышшвігі́кывыньня нулупіў бакі.*

РАСШВІГІКЫВАЦЬ *незак. эмац.* Раскідваць у злосці. *Нечыга рышшвігі́кывыць, ня ты складывыў і ніхай ляжыць ціхінька.* РАСШВІГІКЫВАЦЦА *незак.* 1. Раскідваць у злосці. *Дужа ты рышшвігі́кывыцца пычаў, глядзі, каб пы кысьцях ні заробіў.* 2. Раскідвацца ў злосці. *Усё табе ні так, усё рышшвігі́кывыіцца.* РАСШВІГІКАЦЬ *зак.* Раскідаць у злосці. *Бінда каб хацеў, ён ба тых шлэптухыў адною рукою рышшвігі́кыў.* РАСШВІГІКАЦЦА *зак.* 1. Раскідаць у злосці. *Ну чаго ты рышшвігі́кыўся, ня можыш акуратна пірілажыць?* 2. Раскідацца ў злосці. *Тряп'ё тваё рышшвігі́кылыся, сыбірай на́нывa.* РАСШВІГІКАНЫЙ *дзеепрым. Тама Дыдзянок усё рышшвігі́кыныя складывыў і бурчэў.*

РАСШВІРЫВАННЕ *н.* Рэзкае раскідванне. *Мне тваё рашшві́рівыньня саўсім ні ныравіцца, ну-ка сыбірай усё на места.*

РАСШКУМАЧЫВАННЕ *н.* Раздзіранне на кавалкі. *Посьлі такога рушшкума́чывыньня тута нічога цэлыга ні астанецца.*

РАСШЛЫКАЦЦА *зак. эмац.* Пачаць часта пралазіць. *Ну й рашшлы́кыліся дзеці, ува ўсе шчэлкі прышчамлівыюцца і сьмяюцца.*

РАСШЛЫНДАЦЬ *зак.* Выклікаць бадзянне. *Ціряхоўніныга сына узноў рашшлы́ндыла, нічога ёй ні пымыгаіць.*

РАСШЛЭПКАЦЬ *зак.* 1. Разнасіць, растаптаць. *За лета рашшлэпкыла я свае пантохлі.* 2. Выклікаць топканне. *Вун як рашшлэпкыла Навуміху, топчыцца ны дваре і топчыцца.* РАСШЛЭПКАЦЦА *зак.* 1. Разнасіцца, растаптацца. *Уся вобуў рашшлэпкылыся, нечыга на ногі усторнуць.* 2. Пачаць топкацца. *Твае залоўкі рашшлэпкыліся, што хуць іх прівязывый.* РАСШЛЭПКАНЫЙ *дзеепрым.* Разношаны, растаптаны. *Валінкі такея рашшлэпкыныя, што іх стыдна ныдзіваць на ногі.*

РАСШМУЛЯЦЬ *зак.* Нацерці, расцерці. *Плячо ў кабылы хамут рушшмуля́ў ды крыві, калі яно зыжывець, нада падушычку пытклыдаць.* РАСШМУЛЯЦЦА *зак.* Нацерціся, расцерціся. *Была нібальшэнькыя ранка, а цяперя рушшмуля́лыся і ні зысыхаіць.* РАСШМУЛЯНЫЙ *дзеепрым.* *У Ворліка плечы крепка рушшмуля́ны, цягніць воз бокым, жаліцца.*

РАСШМЫКЫВАННЕ *н.* Раздаванне па дробязі. *Рашшмы́кывыньня ні дывядзець яе ды дыбра, к вясьне сыма астаніцца ні ш чым.*

РАСШМЫЛЬГЫВАННІК *м.* Марнатравец. *Кірей тожа быў ладный рашшмы́льгывыньнік, капейка ў яго ні дзіржалыся.* РАСШМЫЛЬГЫВАННІЦА *ж.* *Рашшмы́льгывыньніца нічога ні прібірягець, у яе ўсё рызьляціцца.*

РАСШМЫРКЫВАННЕ *н. неадабр.* Бяздумнае марнатраўства. *Відзіш, якей толк із рашшмы́ркывыньня: у цёткі ны абед пызычаіць.*

РАСШМЫРКЫВАННІК *м. неадабр.* Той, хто бяздумна марнатравіць. *Айдзе табе рашшмы́ркывыньнік пыбірягець, у яго нічога ні задзержыцца.* РАСШМЫРКЫВАННІЦА *ж.* *Нічога рашшмы́ркывыньніца ні прідбаіць, у яе капейка за рукі ні чыпляіцца.*

РАСШМЯКАЦЬ *зак.* Паваліць многіх. *Вы толька к яму палезьця, ён вас рышшмя́кыіць як атопкі.* РАСШМЯКАЦЦА *зак.* Пачаць валіць усіх. *Уніміся, дужа ты рышшмя́кыўся, глядзі, сам пыляціш скарей за іх.*

РАСШМЯКАНЫЙ *дзеепрым. Во сілачы, рышшмя́кыныя ліжаць і глідзяць як туркі.*

РАСШНЫПАРЫЦЬ, РАСШНЫХАРЫЦЬ *зак. эмац.* Разведаць таемна. *Пра жыта тады Буглаёнык рашшны́пырыў, а так ба ніхто і ні знаў. Тэй раз Мікіцёнык усё іхныя дзела рашшны́хырыў.* РАСШНЫПАРЫЦЦА, РАСШНЫХАРЫЦЦА *зак.* Пачаць таемна бегаць, шукаць. *Як рашшны́пырыліся пы двару, у кажныю дзірьку пыглядзелі. Нешта яны рашшны́хырыліся, то ў Вароўскыга, то ў Сьлёзкі, што-то ім замуліла.* РАСШНЫПАРАНЫЙ, РАСШНЫХАРАНЫЙ *дзеепрым. Ета рашшны́пыріна яшчэ ў тым месіцы, мне Хрісьцянок гывaріў. У іх усё даўно рашшны́хыріна, ны шырмычка яны ні сталі б дзелыць.*

РАСШПУЛЬГАЦЬ *зак.* 1. Раскідаць з сілай. *Ці відзіш, што яны твыряць: пыўкарзінкі бульбы рушшпульга́лі.* 2 *перан.* Змарнатравіць. *Трошку було сыбрана капеік, дык ён зы паўмесіца рушшпульга́ў.* РАСШПУЛЬГАЦЦА *зак.* 1. Пачаць раскідаць з сілай. *Вы ні на сьмех рушшпульга́ліся каменьнім.* 2. Змарнатравіцца. *У яго ўсё рушшпульга́іцца, нічога ні задзержыцца.* РАСШПУЛЬГАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Раскіданы з сілай. *Што зы балыўнікі етыя дзеці: іс паўвоза колыных дроў рушшпульга́на.* 2. Змарнатраўлены. *Цяперь ба хацеў вярнуць рушшпульга́ныя капейкі, ды яны нызад ні варочыюцца.*

РАСШПУРЛЯЦЦА *зак.* 1. Пачаць шпурляць з сілай. *Уніміцісь-ка, балыўнікі, ціряшчур вы рушшпурля́ліся камлыжжым.* 2. Раскідацца з сілай. *Многа сьнежык ныляпілі, дык усе рушшпурля́ліся.* РАСШПУРЛЯНЫЙ *дзеепрым.* Раскіданы з сілай. *Пыдзівіся, сколька бульбы рушшпурля́на, тута пасьці пыўкарзінкі було.*

РАСШУГАКАЦЦА *зак. экспр.* 1. Пачаць крычаць палохаючы. *Ны каго ён так рушшуга́кыўся, усіх курей пырызгыняіць.* 2. Моцна разгарэцца. *Во рушшуга́кыўся ў хлопцыў агонь!*

РАСШУГАЦЦА *зак.* Моцна разгарэцца. *Зь віцярком агонь рушшуга́іцца быйстра, толька сьпічку пыднясі.*

РАСШУРОВЫВАННЕ *н.* Разраўноўванне. *Посьлі рушшуровывыньня зірняты сталі лучччы пыцсыхаць.*

РАСШУРОВЫВАННІК *м.* Той, хто разраўноўвае. *Нейдзі кінуў рушшуровывыньнік граблі, і нійдзе ні найду.* РАСШУРОВЫВАННІЦА *ж.* *Ці ня сьпіць наша рушшуровывыньніца айдзе-небудзь у саломі?*

РАСШУРХЫВАННЕ *н.* Злосная лаянка. *Я б яго быйстра атвучыла ат рашшу́рхывыньня, іш, кыманьдзір найшоўся!*

РАСШУРХЫВАЦЬ, РАСШУРХЫВАЦЦА *незак.* Злосна лаяцца. *Наш старэй тожа любіў рашшу́рхывыць, пупыдала і сынам, і нявесткым. Ну чаго ён рашшу́рхывыіцца, што тама ні пы яго пулучылыся?* РАСШУРХАЦЬ *зак.* Выклікаць злосную лаянку. *Што-то і сяньня Ільлю рашшу́рхыла, узноў двор тряшчыць, як учора.*

РАСШУРЫВАННЕ *н.* Энергічнае разганянне. *Січас я ўспакою яго з рашшу́рівыньнім, калі яму места німа як дзіцёнку.*

РАСШУРЫВАЦЬ *незак.* Энергічна разганяць. *Сьпірва авец Якывін маліц рашшу́рівыў, а посьлі Андреіў на помышч прібег.*

РАСШУШУКАЦЦА *зак.* Пачаць працягла шаптацца. *Ні знаю, пра што яны рушшушу́кыліся, ну доўга шыпталіся лі аборка.*

РАСШЧЫПНУЦЬ *зак.* Разарваць шчыпаннем. *Дренна уварілыся куріца, ні рышшчыпну́ць, бярі нож ды реж.* РАСШЧЫПНУЦЦА *зак.* Разарвацца шчыпаннем. *Сьпелыя стручкі лёхка рышшчыпнуліся.* РАСШЧЫПНУТЫЙ *дзеепрым.* *Тута ўжо ні адзін, а нескылька рышшчыпну́тых кускоў выляіцца.*

РАСШЧЭРЫЦЦА *зак. метаф.* Пачаць здзекліва смяяцца. *Домна Хлімынка нылаіла, нылаіла, як ён рашшчэріўся у Хвядосывых.*

РАСШЫРЭЦЬ, РАСШЫРЭЦЦА *зак.* Пашырыцца, павялічыцца. *Зы два гады язва рышшырела лучччы некуды. Чаго ета пяцьміна так рышшырелыся?*

РАСШЫТЫВАЦЦА *незак.* 1. Хістацца. *Уторнулі кольля вярбовыя, ні прітыпталі, яны рашшы́тывыюцца, ня*

*прімуцца.* 2 *перан. гумар.* Ісці. *Вун Гаўріліхін старэй некуды рашшытывыіцца.*

РАТАЗЕЕЦ, РАТАЗЕЙНІК, РАТАЗЕЯННІК *м.* Разявака. *А што ты хочыш, каб рытазеіц увідзіў? Стыяў рытазейнік лі кароў, і яны ўцяклі ў шкоду. Якей-то рытазеіньнік пріхадзіў у прошлым гаду. Памянш.* РАТАЗЕЙЧЫК, РАТАЗЯЎЧЫК, РАТАЗЯЎЧЫЧАК. *Ён ішчэ рытазейчык, ні нада було пысылаць з грышамі, ды з бальшымі. Пашлеш рытызяўчыка, ён нічога ня купіць, самой посьлі прідзіцца йіціць. У лужыну, рытызяўчычык, ні ўваліся. Узмацн.* РАТАЗЕІНА. *Рытазеіна нішчасныя, ці ты ня відзіш, куды цялёнык лезіць! Павеліч.* РАТАЗЕІШЧА. *Ну й рытазеішча, ніякыга сыбражэньня ня йімеіць!* РАТАЗЕЙКА, РАТАЗЕЙНІЦА, РАТАЗЕЯННІЦА *ж. Пышла рытазейка вады ў сажылку і ўвалілыся. Ніхай рытазейніца ня ловіць мух, а скот глядзіць як нада. Схадзі ты луччы сыма, ні вупруўляй рытазеіньніцу.*

РАТАЗЕЯННЕ *н.* Разявацтва. *Нада атвучывыць ат рытазеіньня, ён ужо пырядышный маліц.*

РАТНІК І *м.* Салёная рыба вышэйшага гатунку. *Бувала, дзед як прінясець з горыда ра́тнікыў, мы аб'ідаліся, такея яны смашныя.*

РАТНІК ІІ *м.* Памочнік. *Яны мне ўсігда памогуць, ра́тнікі такея харошыя. Памянш.* РАТНІЧАК. *Во мой ратнічык, ні зубуваіць бабы, прібігаіць паможч пырысят зыгнаць.* РАТНІЦА *ж. Была табе ра́тніца, ды німа, паехыла ґ дзядзьку некуды далёка.*

РАЎНАВАННІК, РАЎНЯННІК *м.* Той, хто выраўноўвае. *Трошку пыкыпалі руўнува́ньнікі, ды селі куріць, ня дужа яны рызгыняюцца дзелыць. Вун яны, руўня́ньнікі, зы капёшкыю, зы саломыю, голывы віднеюцца. Памянш.* РАЎНЯННІЧАК. *Пыстыряўся руўня́ньнічык няплоха.* РАЎНАВАННІЦА, РАЎНЯННІЦА *ж. Пуўдня ны адной грядзе руўнува́ньніца паролыся. Як падойдзіць руўня́ньніца, я яе рыспрашу пры Кіреівых, іна знаіць.*

РАЎНАВАНЫЙ, РАЎНАВАТЫЙ *дзеепрым.* Параўняны. *Ны рыўныва́ным тачку ладна мылаціць, пыдмяцеш*

*чысьцінька. Як руўнуватый двор, дык і глядзець можна, а то ямішча пысярёд.*

РАЎНІВІСТА *прысл.* Раўніва. *Манічка ж Жэнькыю узноў ряўнівіста рызгыварівыіць.*

РАЎНІВІСТАСЦЬ *ж.* Рэўнасць. *Ні прідумыць, айдзе іна столька ряўнівістысьці ныбрала.*

РАЎНІВІСТЫЙ *прым.* Раўнівы. *Ня будзь еткыю ряўнівістыю, што ж такога, кылі ён пыгываріў с Танькыю.*

РАЎНЯННЕ *н.* Раўнаванне. *Глядзі-ка ты, етыя пруты посьлі руўняньня яшчэ большы пыкрівелі.*

РАХАМУДЖАННЕ, РАХАМУДНІЧАННЕ *н. эмац.* Неакуратная работа. *Мне ны Кіріліна ріхамуджыньня дайжа глядзець ня хочыцца. Луччы б ён кінуў сваё ріхамуднічыньня і ня порціў новых плашык.*

РАХАМУДЗІНА *эмац.* 1 *ж.* Лахман. *Нейкыя ріхамудзіна асталыся на козлых, ці яе хто прібраў, ці не.* 2 *м.* Абадранец. *Чаго ён такей ріхамудзіна зыдаўся? Памянш.* РАХАМУДЗІНКА *ж.* Лахман. *Уськінь ріхамудзінку на плечы і пірібягіш вуліцу, ці тута далёка.* РАХАМУДДЗІКА *н. зб. памянш.* Лахманы. *Сыбярі сваё ріхамудзьдзіка ды выкінь у сенцы за дзьвері, каб ны вычах ні ліжала.*

РАХАМУДЗІЦЬ, РАХАМУДНІЧАЦЬ, РАХАМУДЗІЦЦА, РАХАМУДНІЧАЦЦА *незак. эмац.* Рабіць неакуратна. *Ці помніця, як Лёкса ріхамудзіла кросны, а ў пылатне дарожкі пулучаліся? Як узяліся ўтраіх ріхамуднічыць, ніяк ні маглі бірнушка зылажыць у сьценку. Нечыга ріхамудзіцца с сыныпряткыю, рукі ня ў тэй бок служуць. Будуць ріхамуднічыцца, пакуль жыряло у погріб уедзіць.*

РАХАМУДНІК *м. эмац.* Абадранец. *Век пражыў ріхамуднікым, путнэй пінжак ні знасіў зы сваю жызьню.* РАХАМУДНІЦА *ж. Ні хачу я пры ріхамудніцу тулкуваць, усё ета жаднысьць дзелыіць.*

РАХМАЧ *м.* Прыстасаванне несці гаршчок. *Ета даўней плялі рыхмачы абеды ў поля насіць. Памянш.* РАХМАЧЫК, РАХМАЧОК. *Айдзе вы цяперя увідзіця рыхмачык! Во ў мяне зывыляўся старінькій рыхмачок, бяріця, калі хочыця.*

РАХМЫ *мн.* Махры. *Сын прівёз Мары хустку, красівыя, рахмы́ доўгія. Памянш.* РАХМАЧЫКІ. *Абреж зь левыя кылышыны́ рыхма́чыкі, пряма буўтаюцца.*

РАЦІШЧА *м. павеліч.* Рот. *Во раці́шча, паўбулкі хлеба зразу лезіць! Меншы раці́шча рызіўляй, мухі ныліцяць.*

РАЧКОЎНЯ *ж.* Прылада для лоўлі ракаў. *Дужа ім хочыцца ракыў пыглядзець, я сыма схаджу з рачкоўнію к речкі.*

РАШАННІК *м.* Той, хто рашае. *Як сядуць нашы рішáньнікі, часы два сідзяць, ну решуць усе зыдачкі. Памянш.* РАШАННІЧАК. *Задумыўся рішáньнічык, нешта ў яго ні пулучаіцца.* РАШАННІЦА *ж. Зь мяне тыкая рішаньніца, я слаба у аріхмецікі рызьбіралыся.*

РАШАЦЬ *незак. перан.* Знішчаць. *Куры як узвалюцца кучыю, рішáюць гарод, кыкытамі усё выдзіраюць.* РАШЫЦЬ *зак.* Знішчыць. *Сьвіньні рішы́лі бульбу, кустоў дзесіць асталыся.*

РАШОЦІЦЬ *незак.* Прымацоўваць паплёт. *Ета ж тады, як гумно ряшоцілі, ён гнітаўся зьверьху, пыкархыў троху і ўсё.* РАШОЦІЦЦА, РАШЭЦІЦЦА *незак.* Пакрывацца паплётам. *Помніш, як у Мікілая цэлый год пуня ряшоцілыся? Зызімуіш ты с крышыю, дужа медлінна ў цябе ряшэціцца.* РАШЭЧАНЫЙ *дзеепрым. Ты ні прімеціў, ці ряшэчыныя пуні у Ціта?*

РАШЭТНЫЙ *прым.* Для прыбівання паплёту. *Спрашывыў сяньня ў лаўкі, німа ряшэтныга гвозьдзя, ні прівазілі.*

РАШЭЧАННЕ *н.* Паплёт. *Рашэчыньня я пріrатовіў, толька ўремя ніяк ня выбіру прібіваць.*

РВАНЬ *м.* і *ж. перан. зб.* Абадранцы. *Ніхай твыя рвань сюда луччы ні пыказывыіцца, я ні аднаго ў хату ні пушчу.*

РДЖЭННЕ *н.* Свавольства. *Ну хто-небудзь жа найдзіцца уняць іх зь естым рджэньнім.*

РДЗЕЦЬ, РДЗІЦЬ *незак. метаф.* Выклікаць злаванне. *Чаго цябе рдзець, табе нейкія лухты напёрлі і ты места сабе ні находзіш. Нечыга рдзіць яго сяньня цэлый дзень, ходзіць, толька бубніць.* РДЗІЦЦА *незак.* Злавацца. *Штоб*

*столька рдзіцца за нейкія гнілыя вожычкі, якея нікому ні нада.*

РЖАЎЛЕНЫЙ *прым.* Іржавы. *Ныззьбіраюць ржаўліныга жалезьзя і гуляюць, могуць рукі пыбдзірацць.*

РЖЫШЧЫКА *н. памянш.* Ржэўнік. *Сёліта ныкасілі троху ржышчыка, пы лашчынкых трывяноя було.*

РОБЕРКІ, РОБЕРЦЫ, РОБРЫШКІ *мн. памянш.* Рэбры. *Высых, рёбіркі тырчаць іс-пуд рубашонкі. Рёбірцы пысякеш, пасоліш, тады ў капусту укініш кусочык — іна заесца. Мала жыроў астаецца, рёбрушкі пы каплі ціняч́у.*

РОЗВАЛАЧКА *ж. гумар.* Розум. *Каб трошку розвылычкі етыму жынішку, усе ны яго глідзяць, як ны выранёнка.*

РОЗВЕДКІ *мн.* Розведы. *Кулупай як пойдзіць у розьвідкі, за ім другея розьвідкі пысылаць прідзіцца.*

РОЗЬ *прысл.* Асобна. *Пасьледнія ўремя ён адурюваў, ні дываў ёй грошы, розь елі.*

РОПА *ж.* Гнойнае выдзяленне. *Сачыць ропа і сачыць, трецьцію нядзелю рана ні зыжываіць.*

РОСКА *ж.* Расінка. *Німа роскі вады, і вы ўтраіх сідзіцё ў хаці, як так і нада. Каб яму тады далі роску мылыка, ён ба, кажыцца, жыў.*

РОСПІСЬ *ж.* Рэгістрацыя шлюбу. *Цяперя на росьпісь ня дужа глідзяць, сходзюцца, расходзюцца і бяз росьпісі.*

РОХЛЕННЕ *н.* Неакуратная работа. *Возіцца ісь сьмяцьцём, усё дно як бяз рохліньня абыйціцца нілізя.*

РОХЛІЦЦА *незак.* Рабіць неакуратна. *Хваціць табе рохліцца у памыйніцы, абдай посыд ды абырачывый на ўслон.*

РОХЛЯ *м.* і *ж.* Неахайная асоба. *Відна, што рохля мыла скамейкі: адзін канец памыт, а ну другом сала жывоя. Узмацн.* РОХЛІНА. *Ну й зыдылася рохліна, путна нічагенічка ня зьдзелыіць. Павеліч.* РОХЛІШЧА. *Што за рохлішча, што зы нікура́тнік, як яго жонка церьпіць!*

РОХТАЧКА *ж.* Адзнака. *У Тымаріныга мальца дайжа рохтычкі ўсе твае, як жа ты станіш атказывыцца?*

РУБАШОНКА *ж. зніж.* Кашуля. *Ніхай ба с палучкі якую рубашонку сабе купіў. Памянш.* РУБАШОНАЧКА,

РУБАЦЁНАЧКА. *Выскычылі тады як стаім, рубашонычкі зьмяніцца ні було. Худзь ба рубацёнычкі аціьсьцірнула ма́лым, яны на іх пызыкарелі.*

РУБЧЫНАЧКА *ж. памянш. эмац.* Месца на адзенні. *Пріішлі учора цімнатою, на іх рубчынычкі сухея ні було ны абаíх.*

РУБЯЖ *м.* Рубец. *Нейкій рубяж усьцяж шы́хвіру. Ён цябе пільнець, дык рубяж ускочыць.*

РУДЗЯНА *прысл.* Брудна. *Етыя твыя накідычка стала рудзя́на, аціьцерць ба нада.*

РУДЗЯНАСЦЬ *ж.* Бруд. *Пот, пыл, усюдых рудзя́нысьць, зы работыю некылі сябе дагледзіць.*

РУДЗЯНКА *ж. асудж.* Гразнуха. *Ці рудзя́нка сям'ю дагледзіць, у яе дзеці ад грязі пызыкарелі.*

РУКАВЁНКІ *мн. зніж.* Рукавы. *Рукавёнкі пыптріпаліся, нада пыпшываць. Памянш.* РУКАВЁНАЧКІ. *Зыкысай яму рукавёнычкі, ато вады ныцякець, будзіць хадзіць з мокрымі.*

РУКАВОК, РУКАВОЧАК, РУКАЎЧЫЧАК *м. памянш.* Рукаў. *Зьдзень куртычку, я зашыю рукавок, каб дальшы ні драўся. Сядзь ды зылап малыму рукавочык, каб большы ні ірваўся. Адзін рука́ўчычык зылапіла, а ґ другому ні прідумыю, як дуступіцца.*

РУМЗАЦЦА *незак.* 1. Плакаць. *Мала ты ўчора рю́мзыўся.* 2. Плакацца. *Січас табе біс прічыны рю́мзыіцца, а як вазьму хлыбазіну, тады зарюмзыіш ныпраўду.*

РУМЫНКА *ж.* Мясцовы сорт бульбы. *Румы́нку у нас пычалі сеіць нідаўна, мне іна ныравіцца.*

РУПЛЕННІК *м.* Руплівы чалавек. *Яе хызяін быў ныстыяшчый ру́плíньнік.* РУПЛЕННІЦА *ж. Каб ру́плíньніца, дык ба прігледзіла дзяцей, а ў яе і кырявыя, і гырявыя.*

РУХКАННЕ *н.* Грубы адказ. *Нада атвучывыць ат рю́хкыньня, што йта ён рю́хкыіць ста́рыму чылавеку!*

РУХНУЦЬ *зак.* Крануць. *Як ні пріпята, а трошку дзяржыцца, а ру́хні — і ўсё пыляціць. Кабылу ру́хнулі, і печ пасыпылыся.*

РУХНУЦЬ *зак.* Рохнуць. *Ці ня ў сенцых сьвінка рю́хнула, бягі скарей, іна ж у мінуту мяшкі парьвець.*

РУЧАЕЧКА *ж. памянш.* Ручайка. *Урemя німа, то тады пріскыкым, то тады ныпряду ручáічку.*

РУЧАЦЬ *незак.* 1. Ручацца, запэўніваць. *Што яны ручáюць, яны ж там ні былі і ні знаюць нічога.* 2 *метаф.* Падазраваць. *Ны каго ты ручáіш, можа ён душою ні вінуват, знаць нічога ні знаіць.*

РУЧОНКА *ж. зніж.* Рука. *Поўніняькій мальчышка, шчочкі розывінькія, ручонкі як нылітэя. Памянш.* РУЧОНАЧКА. *Нешта ручонычкыю жаліцца, ці ні зьвіхнуў айдзе.*

РУЧЧОМ *прысл.* Моцна (цячы). *Што выку було, што кріку, руччом сьлёзы цяклі. Ліпяцёнык ныработыўся, пот зь яго руччом ліўся.*

РУЧЫЦЬ, РУЧЫЦЦА *незак.* Ісці да рук. *Уго, ґ дзеду яны ўсе рýчуць, ён умеіць з мáлымі. К мамі ня рýчыцца, скарей ґ бабі пойдзіць: вазьмі мяне.*

РУЧЫШЧА *ж. павеліч.* Рука. *У яго рýчышча — глядзець страшна. Схваціць цябе у ручы́шчы і гамон.*

РЫБНІК *м.* Аматар да рыбы. *Я сваіх ры́бнікыў ныкарміла, усё пыжаріла, што злавілі. Памянш.* РЫБНІЧАК. *Ах, якей ты ўдаўся ры́бнічык, нада сымаму лавіць.* РЫБНІЦА *ж. Вылазюць ры́бніцы із-зы стыла, аж саміх ня відна зы кысьцямі.*

РЫЖЭНЬ *м. гумар.* Рыжы чалавек. *Некуды іхный рыжэнь выпрывіўся, ці ні пашоў атведывыць Гылыўня.*

РЫЗІК *м. іран.* Дзеяч. *Пріехыў нейкій різік, дывай тута папкыю рызмахывыць — гірой.*

РЫПАЦЦА *незак. перан.* Рухацца. *Усе сыбраліся, можна ріпыцца, дарога няблізкыя.* РЫПНУЦЦА *зак.* Зрушыцца. *Куды яму ріпнуцца, калі зь яго на месьці пясок сыпліцца.*

РЫПУНЬ *выкл.* Пра рыпенне, няўмелую ігру на гармоніку. *Нехта ны гармоні пычынаў іграць: ріпýнь, ріпýнь, ды большы ня чутна.*

РЫСКОВА *прысл.* Рызыкоўна. *Канешня, рісковa було аднаму вупруўляцца, ну выхыда ніякыга ня відзіў.*

РЫСКОВАСЦЬ *ж.* Рызыка. *У яго рісковысьці хуць адбуўляй, слова скажы — і на што хочыш гатоў.*

РЫСКОВЫЙ *прым.* Рызыкоўны. *Мыцьвяёнык быў рісковый, бувала, куды ні пызавуць — і ён сыгласін.*

РЫСНУЦЬ *зак.* Рызыкнуць. *Я б так аччаінна ні ріснýла ехыць, ні знаўшы нікога і нічога.*

РЫСЦІК *м.* Роў. *Як пярёйдзіш рысьцік, улева пывырачывый, бягі і бягі пряма.*

РЫТАТУЙНА, РЫСТАТУЙНА *прысл. эмац.* Бязглузда, па-дурному. *Мыкарька іс сваім ізыком падлез рітатýйна, яму б нада було зумуруваціца як вады ў рот ныбраўшы. Ці ён калі нурмальна што зьдзелыў, у яго ўсігда пулучаіцца рістатýйна.*

РЫТАТУЙНЫЙ, РЫСТАТУЙНЫЙ *прым. эмац.* Бязглузды, дурны. *Ні знаўшы, ня ведыўшы ехыць ніізьвесна за чым — рітатýйныя дзела. Каб ня быў еткій рістатýйный, і зь ім ба рызгыварівылі пычылавечыску.*

РЫТАТУЙНЯ, РЫТАТУЙНАСЦЬ, РЫСТАТУЙНЯ, РЫСТАТУЙНАСЦЬ *ж. эмац.* Дурнота. *Калі рітатýйня пычылася, толку ня жджы, ні памогуць ні ўгаворы, ні ўвішчаньні. Рітатýйнысьць ішчэ нікому пользы ні прінасіла. Ідзець рістатýйня па сьвету, ня будзіць людзям жызьні, не, ня будзіць. Ні пыказывый сваю рістатýйнысьць, яе і так усе знаюць.*

РЫТНІК *м.* Той, хто капае. *Ня дужа ахотня рытнікі́ бяруцца, так яны многа ні нарыюць.* РЫТНІЦА *ж. Сь цябе б харошыя рытні́ца пулучылыся гады ціріз два.*

РЫЎНУЦЬ *зак.* Капануць. *Рыўні́ тута пару разоў, выда пыбягіць пряма ў кынаўку.* РЫЎНУТЫЙ *дзеепрым. Нічога ны ячменю ні рыўнýта, ні аднае ямычкі німа, тама куры нагою ні ступалі.*

РЫЦЬ *незак. метаф.* Нагаворваць. *Хто ны яго рыў, я ні знаю, ну толька нарыта здорыва, горы навернуты.*

РЫШТАНТ *м.* Злодзей, нягоднік. *Ну й рыштант быў Земскій, бувала, што хочыш сытваріць. Памянш.* РЫШТАНЦІК. *Пыдрыстаюць рыштáньцікі, скора пойдуць паверьх дзяреўні. Узмацн.* РЫШТАНЦЮГА. *Такога рыштаньцюгі сьвет ня відзіў. Павеліч.* РЫШТАНЦІШЧА. *Бірягіся етыга рыштáньцішчы, ён сапрець — ты аглянуцца ні пасьпеіш.* РЫШТАНТКА *ж. Ну й рыштантка зыдылася, ні прідумыць, па ком пышла. Памянш.* РЫШТАНТАЧКА. *Скора пыдрасьцець другая рыштáнтычка.*

РЫШТАНТСКІЙ *прым.* Нягодніцкі. *Рышта́нскыя твыя морда, кромі цябе ніхто тута ні пыхадзіў! У яго і вы́хыдкі усе раштáньськія.*

РЫШТАНТСТВА *н.* Нягодніцтва. *Ці мала рыштáнства творіцца на белым сьвеці, і там, пачуіш, укралі, і там забілі.*

РЭДЖАНЫЙ *дзеепрым.* Прарэджаны. *Морква реджыныя, і быракі нада прырваць, ато зь іх нічога ня будзіць.*

РЭДКА, РЭДАЧКА *ж. памянш.* Рэдзь. *У адну редку суваёк парьвецца, складывый яшчэ раз і тады атрізай. Такей шнурок ды ў дзьве редычкі дзіржаць ня будзіць, сюда каб ладныя вярёўка.*

РЭДКАСЦЬ *ж. перан.* Рэдкія пасевы. *Гуркі любюць редкысьць, як густа пасеіш, ліст усё заглушыць.*

РЭЗАННЕ *н.* Парэзаны лесаматэрыял, дровы. *Сколька таго резыньня, два нятоўстыя бірнушкі руспусьцілі. Усё ваша резыньня я пыт павець паткінуў.*

РЭЗІК *м. памянш.* Разрэз, надрэз. *Ны бярне нескылька резікыў зьдзелылі і кінулі, ці піла ня резыла, ці што ў іх.*

РЭЗНІЧАК *м. памянш.* Пернік. *Ныпяку сваім резьнічкыў, пацсушыных зьдзелыю, яны дзень па вуліцы бегыюць і хрупыюць.*

РЭКАМЕНДАТАР *м.* Той, хто рэкамендуе. *Ён зы рікымінда́тыра ў іх, што скажыць, яны і слухыюць.* РЭКАМЕНДАТАРКА, РЭКАМЕНДАТАРША, РЭКАМЕНДАТАРШАЯ *ж.* *З Гапкі самыя луччыя рікымінда́тырка, як паслухыіш яе, людзі нысьмяюцца. Цябе, відна, і ныпраўду зы рікымінда́тыршу шчытаюць. У іх была свыя рікымінда́тыршыя, ладна саветыў дывала.*

РЭМУС *м.* Выгляд. *У яго знаіш якей ремус: як у бальшога нычальніка, што ў горыдзі буваюць.*

РЭПІНА *ж.* Адно каліва рэпы. *Калі табе дужа хочыцца пакушыць, вырьві репіну ды апчысьць. Памянш.* РЭПІНКА, РЭПІНАЧКА. *Між быракоў репінкі кой-айдзе тырчаць. Ета ж репінычкі ўсходзюць!*

РЭШАТЦА *н. памянш.* Рэшата. *Купіла сабе чысьцінькыя решыцца, ны бліны калі мукі пацьсеіць.*

# С

САABШЧЫЦЦА *зак. перан.* Звязацца. *Іхныя хлопцы сыабшчы́ліся адрісамі, цяперя пішуць адзін другому.*

САБАКАРНЯ *ж. метаф. асудж.* Падазроная кампанія. *Тыкая сыбыка́рня, што госпыдзі-госпыдзі, луччы іх саўсім ні знаць.*

САБАЧАННЕ *н. метаф. неадабр.* Сварка. *Ёй, верна, толька адной сыба́чыньня ныравіцца, натура тыкая пастылыя.*

САБАЧУЖЫШЧА *м. павеліч.* Сабака. *У Мікілаеўны быў сыбачу́жышча ісь цялёнка ростым, ды злэй, злэй.*

САБАШЛІВЫЙ *прым. метаф.* Балбатлівы. *Ні рысказывый ты мне пры Мікіпырёнка, ці я ні знаю, якей ён сыба́шлівый.*

САБАШНІК *м. метаф. неадабр.* 1. Памяшканне, дзе збіраюцца малапаважаныя асобы. *Ета ў Мікіты быў сыба́шнік, чаго там, бувала, ні наслухыісься!* 2. Пляткар. *Сыба́шнік ныпляцець чаго хочыш, вы толька слухыйця яго разьвесіўшы вушы.* САБАШНІЦА *ж.* Пляткарка. *Ладныя сыба́шніца была твыя залоўка, нечыга пытхвалівыць.*

САБЕ *у якасці прысл.* Асобна. *Як пріехылі, пычалі сабе варіць. Мы сабе жылі, яны сабе.*

САБЕЧАННЕ *н.* Меркаванне. *Як ны маё сабечыньня, луччы було б пушукаць другога пацьцёлычка.*

САБЕЧЫЦЬ *незак.* Меркаваць. *Што тута сабечыць, нада сыбірацца ды ехыць, ніхто другей зы цябе ня зьдзелыіць.*

САБОРСКІЙ *прым.* Саборны. *Саборскыга пріходу быў горыд і трі нашы дзяреўні, мы ўсігда у сабор хадзілі.*

САБРАДЗЕНЫЙ, САБРАТЫЙ *дзеепрым.* Сабраны. *Высып пыдз загнет сыбра́дзіныя шчэпкі, яны сухенькія, зразу зыгыряцца. Сена сыбра́та ўсё, сакі трошку пысярёд аборка асталыся.*

САБРАЗІЦЦА *зак. перан.* Зрабіцца. *Што зь ёю сыбразі́лыся: ні с тога ні зь якыга надумылыся ехыць у Крыматорыўку!*

САБУГОРЫВАЦЦА *незак.* Збірацца, выбіраць час. *Нада думыць, як с пунькыю субугорівыцца, карова ны*

*сьнягу ні пірізімуіць.* САБУГОРЫЦЦА *зак.* Сабрацца, выбраць час. *Каб субугоріўся ды занёс мяшочык ігруш, ніхай бы дзеці елі.*

САВАНУЦЬ *зак.* Сунуць. *Нешта сувану́ла Сідарёнку ў мяшок і пышла, ён зысьміяўся.* САВАНУТЫЙ *дзеепрым. Ці ні сувану́ты твае вязёнкі пыч шкап, нешта там унук пароўся.*

САВЕТАННЕ *н.* Парада. *Вашых саветыньніў як наслухыіцца, дык ня будзіць знаць, што дзелыць.*

САВЕТАННІК *м.* Той, хто дае парады. *Саветыньнікыў дужа многа, толька помышчы німа ніаткуль.* САВЕТАННІЦА *ж. Ну што ты скажыш, Лукерья ніплыхая саветыньніца, толька у сваю руку нысаветыіць.*

САВЕТАЦЬ *незак.* Раіць. *Сьпірва яму саветылі брацьМітрыхваныву хату, а посьлі не, нешта нызад.* САВЕТАЦЦА *незак.* Раіцца. *Ці будзіць ён с Кыласковым саветыцца, можа тэй што луччы скажыць.*

САВІХА *ж. жарт.* Сава-самка. *А можа, ета саві́ха прілітала зы тваім пітушком, пітушацінкі зыхацела?*

САВЯРШАЦЦА *незак. перан.* Адбівацца. *Калі ты дзелыіш дренна людзям, ета ны табе сывірша́іцца.* САВЯРШЫЦЦА *зак.* Адбіцца. *Што ён такоя зьдзікацільства тваріць, на ём самом сывяршы́цца.*

САВЯТОКА *ж.* Чачотка. *Ета бярёза сывятока, яе каб харошыму масьціру ў рукі.*

САГЛАШАЦЦА *незак. перан.* Змаўляцца. *Я знаю, пра што яны шэпчуцца: сыглыша́юцца у Стыхванывы мідунічкі злазіць.*

САГНАЦЦА *зак. метаф.* Справіцца. *Зь ім трудна сыгна́цца у любой рабоці, як станіць касіць — большы ўсіх скашыіць.* САГНАТЫЙ *дзеепрым.* Сагнаны. *Рыска́зывылі, пад Гомілім многа людзей було сыгна́та, немцы сыгналі ў балота.*

САГНІСЦЬ *зак. метаф.* Пры гульні ў мяч быць у слабейшай камандзе, якая прайграе. *Цяперя вы сыгніiцё, наверьх вам ні пупасьць, у вас ніхто біць як нада ня ўмеіць.*

САГНУТКІЙ *прым.* Сагнуты, скурчаны. *Абея ходзюць сагну́ткія, выпрыстыцца ня могуць.*

САГРАБАЦЬ *незак. перан.* Хапаць, арыштоўваць. *Ты ж тожа помніш, як у нас дзевык у Гірманію сыгрібáлі.* САГРЭСЦЬ *зак.* Схапіць, арыштаваць. *Уноччы пад'ехылі, сыгряблі абоіх, нызаўтріга чуім: зыбралі злодзіїў.*

САГРАЖОНЫЙ *дзеепрым.* Зроблены на злосць. *Думыіш, яму сыгражона, што ты к маткі ны нядзелю сойдзіш, — ён усьлед ні пыбягіць.*

САДАНУТЫЙ *дзеепрым.* Моцна ўдараны. *Дапрыгыіцца етый хлюст, што атляціць сыданýтый, як мячык.*

САДЖАНУЦЬ *зак. перан.* Ударыць знянацку. *Ён ні пысьцісьняіцца, сыджанець пад дых і ты аткоцісься.* САДЖАНУЦЦА *зак.* Ударыцца знянацку. *Плячом ны кылячыну сыджанýўся, ажно ў вычах пыцямнела.*

САДЗІЦЦА *незак. перан.* Скісаць. *У кушункý мылако ня трогыйця, яно ўжо садзíцца.* СЕСЦЬ *зак.* 1. Скіснуць. *Цёпла, пыставіла мылако ў баньічкі, яно скора села.* 2. Пасяліцца, асталявацца. *Ільля сеў на хутыр, зімля пустыш, нічога ні радзіла, нубуйтуваўся, пакуля троху ўгнаіў.* 3. Разбіцца (пра яйка ў гульні). *Ня біся с Паўлікым, ён падзьдзелывыіць яйцы і тваё крепкыя сядзіць.*

САДЗЮГА, САДЗІШЧА *м. павеліч.* Сад. *Вы, мыладэя, ні знаіця, Стыхван садзю́гу разьвёў большы панскыга сада. Быгатый сáдзішча разросься, хырашо дыглідаюць, многа ўсякіх сартоў — і салодкія летнія, і восіньскія, і зімнія.*

САЖАВІК *м.* Адтуліна ў печы, куды ссыпаецца сажа. *Як комін чысьціш, нада сыжавíк узьбіваць, выгрібаць сажу.*

САЖАВЭЙ, САЖАВЫЙ *прым.* З Сажа, ад Сажа. *Я сыжавэя вады прінясу, вымыю ўсё, гылаву памыю, ёю луччы мыць як калодзіжныю. Сыжавый пясок палезін, у ім грецца дужа пальзіцільна, Пятрок выгріўся і пыправіўся.*

САЖНЫЙ *прым.* Запэцканы ў сажу. *Ні хвытайся зу рушнік сáжнымі рукамі, памый з мылым.*

САЖРАТЫЙ *дзеепрым. груб.* З'едзены. *Думыла, троху астанецца адз заўтріка, дык усё сыжрáта.*

САЗНАЮШЧЫЙ *прым.* Спагадлівы. *Калі чылавек сызнаю́шчый, зь ім і пыгываріць можна, ён цябе паслухыіць і пойміць.*

САЙСТРЫВАННЕ *н.* Сціранне пры вастрэнні. *Ета ні вайстрэньня, а са́йстрівыньня, лупатка ў цябе путупеіць.*

САКАТНЯ *ж.* Сакатанне. *Вун у Кулініныя дачкі сыкытня́, повін двор курей.*

САКАТУШКА *ж. метаф.* Гаварлівая жанчына. *Ну й сыкату́шка Лаўрінывa нявестка, зывядзецца, яе слухый — ні піряслухыіш. Памянш.* САКАТУШАЧКА. *Ого, ікая ты сыкату́шычка, цябе слухыць нада ўтраіх зразу.*

САЛАДЖЭННІК *м.* Той, хто салодзіць. *Твой сыладжэньнік ці ні чатырі ложычкі у чашку ўсыпыў, ты піць ня будзіш.* САЛАДЖЭННІЦА *ж. Як возьмуцца сыладжэньніцы, пылавіну пачычка укінуць у стыканы.*

САЛАДЗЕННЫЙ *прым.* Вельмі салодкі. *Нейкій сыладзенный напітык, раншы ты такога ні прівазіў.*

САЛАДКАВЕНЬКІЙ *прым.* Крыху саладкаваты. *Сьпірва зваріш гарбуз і крупы, тады мылыка і трошку сахыра, каб сылыдка́вінік быў.*

САЛЕННІК *м.* Той, хто соліць. *Каб ні насыпыў солі ціряшчур твой саленьнік, а то будзіць крупеня як воміга.* САЛЕННІЦА *ж. Пыстырялыся саленьніца, ні пыжалела солі, ніхай сыма пакушыіць.*

САЛЁНІКІ *мн.* Засоленыя грыбы. *Мае хлопцы салёнікі дужа любюць з бульбыю, ну і сыбірaць ахоцюцца.*

САЛІНА *н.* Сала наогул. *Якоя са́ліна пысалілі, яны яго за месіц ра́шшмы́гыюць.* САЛКА *н. памянш.* Сала. *Можа табе са́лка атрезыць крошычку, яно ня дужа сольныя, смашныя.*

САЛКЕЙ *прым.* Солкі. *На від красівыя соль, дробнінькыя, беліңькыя, а іна ні тыкая сылка́я, як буйныя.*

САЛЬНАТА *ж.* Нешта вельмі салёнае. *Як вы сыльнату́ такую ясьцё, я ету крупеню к роту паднесьць ні магу.*

САЛЯВЫЙ *прым.* Саленаваты. *Глядзі, каб ні была сыля́выя твыя капуста, ты ўжо адзін раз сыпыла солі. Памянш.* САЛЯВЕНЬКІЙ. *Сыля́вінькія быракі, мне такея ныравюцца.*

САЛЯНЕЙ *прысл.* Больш салёна. *Як слова, нада б капільку сыляней сянішнія крупеня.*

САЛЯНЕЙШЫЙ *прым.* Больш салёны. *Мой любіць, каб усё було сылянейшыя, а я солі ні люблю, дык ён*

*пыцсаліiць у міскі. Памянш.* САЛЯНЕЙШАНЬКІЙ. *Гурочыкі як сылянейшынькія, яны смашнейшыя і ліжаць даўжэй, сып, ня бойся.*

САЛЯНКА *ж.* Грыб ваўнянка. *Сёліта мала, а летыся сыля́нык було хуць грябі грыблямі, яны атваріныя смашныя.*

САМАВОЛАШНІК *м.* Распуснік, неслух. *Воч чаго ты стаў такім сымаволы́шнікым, я цябе ні люблю за ета.* САМАВОЛАШНІЦА *ж. Тыкая была сымаволышніца, слова ні скажы.*

САМАВОЛАШНЫЙ *прым.* Распусны, непаслухмяны. *Цяпер ўсе дзеці пашлі сымаволышныя, што ўздумыюць, то й твыряць.*

САМАДУМ *м.* Уласны розум. *На свой сымаду́м жыў, нікога слухыць ні хацеў. Кылі сымаду́му нібыгата, хто яму паможыць.*

САМАДУРНІК *м.* Самадур. *Піліпёнык умеіць рызгыварівыць, ён і сымаду́рніку што нада уталкуіць.* САМАДУРНІЦА *ж. Мушчына як мушчына, ну штоб бабі сымаду́рніцыю быць, ета ні к чому годна.*

САМАКВАС *м.*, САМАКВАСЬ *ж.* Кіслая страва. *Ты можыш і такей сымыква́с есьць, а я не, ні хачу. У большым гырлачычку сымыква́сь, ня трогый, я толька што кушыла, лі зь меншынькыга.*

САМАКРУЦЦЮ *прысл.* Самавольна, без дазволу. *У сімнаццыць гадоў сымакру́цьцю выскычыла замуж.*

САМАПРАДАЧКА *ж. памянш.* Калаўрот. *Старінькыя сымыпря́дычка, ну тыкая спадрушныя, лёхка на ёй прясьць.*

САМАПРАЎНА *прысл.* Самачынна. *Сымыпра́ўна абрезылі у Хоўры усядзьбу: яе дычка ны завод паехыла работыць.*

САМАПРАЎНАСЦЬ *ж.* Самачынства. *Старшы́ным тыкая воля дына, чынюць сымыпра́ўнысьць і некыму пыжаліцца.*

САМАПРАЎНЫЙ *прым.* Самачынны. *А сколька яны сымыпра́ўных дзялоў тварілі, етыга ні рыскызаць, ні апісаць.*

САМАРУШНЕНЬКІЙ *прым. памянш.* Самаробны. *Пыглядзелі б вы, якея у Любкіныя нявесткі красівыя сымару́шнінькія рушнічкі, усё цьвітамі.*

САМАСАД *м.*, САМАСАДКІ *мн.* Кураняты, якія выведзены без ведама гаспадыні. *Етыя пітушкі іс сымысáдыў, і яны харошыя выйшлі. У мяне сымысáдкі вывіліся, дзесіць ціплёнкыў, ну ніхай водзіць. Памянш.* САМАСАДАЧКІ. *Во етыя курычкі с сымысáдычык.*

САМАСУШКА *ж.* Ссохлае дрэва. *Прівёз два вазы сымасýшык, парезыў, пыліжаць — будуць гарець як порых. Памянш.* САМАСУШАЧКА. *Ні аднае сымасýшычкі я ня відзіў у лесі, усё пыдыбрана.*

САМАТКАНАЧКА *ж. памянш.* Саматканка. *Посьлі вайны і сымыткáнычкі былі рады, як нечыга було надзець.*

САМЕННЕ *н.* З'яўленне апетыту. *Якоя саміньня, я нічагенічка ні магу к роту паднесьць.*

САПАСАННІК, САПАСАЦЕЛЬНІК *м.* Той, хто прыдумвае, вычварае. *Мацьвеіў маліц усігда быў первый сыпысáньнік. А ты думыіш, Сашкін сын меншый сыпысáцільнік?* САПАСАННІЦА,САПАСАЦЕЛЬНІЦА *ж. Ні прідумыіш, ікая сыпысáньніца ў мыладосьці была Дунькіна дзеўка. А пачом ты знаіш, што іна тыкая сыпысáцільніца?*

САПАСАННІКАЎ, САПАСАЦЕЛЬНІКАЎ *прым.* Такі, які належыць таму, хто прыдумвае, вычварае. *Я віджу, што ета сыпысáньнікыва работа. Ня дужа мне аньціресна глядзець ны сыпысáцільнікывы дуры́.*

САПАСАЦЕЛЬНА *прысл.* З прыдумваннем, вычвараннем. *Усігда што-ніщто ды сыпысáцільна утворіць, так ня выцірьпіць.*

САПАСАЦЕЛЬНАСЦЬ *ж.*, САПАСАЦЕЛЬСТВА *н.* Прыдумванне, вычваранне. *Якея зь іх сыпысáцільнысьці ні тварілыся, — усяго выдзелывылі. Вот як я ні люблю усякыга сыпысáцільства, дайжа глядзець ні хачу.*

САПАЦЦА, САПКАЦЦА *незак.* Сапціся. *Ну, кылі сáпыіцца, дык троху прыцягніць. Як пірістаніць сáпкыцца, тады хужы дзела.* САПНУЦЬ *зак.* Прасапці. *Карова сáпнула ў пуні, дык ён ужо баіцца, глядзіць, што там такоя.*

САПЛЯЧЧЫЙ *прым.* Такі, які мае адносіны да сапляка. *Дужа мне сыпля́ччыя угрозы страшны!* 2 *перан.*

Слабы, ненадзейны. *Сыпля́ччыя прівязывыньня, вецір вяйнець — і ўсё ета пыляціць.*

САПСІНЕЦЬ, САПСІНЕЦЦА *зак. эмац.* 1. Згнісці ў макрэчы (пра дрэва). *У мокрый саломі сапсінілі бірнушкі. Палкі ліжалі пыт кыплямі, нымікалі, сапсіні́ліся.* 2 *перан. абразл.* Састарыцца. *Сапсі́ніла дзеўка: тріццыць два гады було — замуж ішла. Пакуля надумыўся жаніцца, дык і сапсі́ніўся.* САПСІНЕЛЫЙ *дзеепрым.* 1. Згнілы ў макрэчы (пра дрэва). *Піріпілі́ця сыпсінелыя бірнушкі ды пыкладзіця сохнуць.* 2. Састарэлы. *Якей ні сыпсінелый, а жаніх шчытаіцца.*

САПУТНІК *м.* Спадарожнік. *Мне пупаліся ладныя супу́тнікі, хырашо даехыў.* *Памянш.* САПУТНІЧАК. *Вот табе і другей супу́тнічык будзіць.* САПУТНІЦА *ж. Ні хачу я ніякія супу́тніцы, я і адзін дарогу знаю.*

САРАКАВІНЫ *мн.* Абрадавае застолле праз сорак дзён пасля смерці. *У нас редка гыварілі «сырыкаві́ны», большы шэсьць нядзель буваіць.*

САРАКАВУХА *ж.* Бочка на сорак вёдзер. *Раншы у сырыкаву́ху жыта сыпылі, а цяперя пустая стаіць, ні на што ні нада.*

САРВІЛАВЕЦ *м. метаф.* Неслух, прайдзісвет. *Ну й сарьві́лывіц Антоніхін маліц, чаго толька ён ні выдзелывыіць!* САРВІЛАЎКА *ж.* 1 *ж.* да САРВІЛАВЕЦ. *Такой сарьві́лыўкі ня дужа што ўталкуіш.* 2. Беднасць. *У такой сарьві́лыўкі жылі, што, бувала, разу ўкусіць ны стале ні було.* 3. Падазроная кампанія. *Узноў сарьві́лыўка у кучу зьбіраіцца.*

САРВЫВАЦЦА *незак. перан.* 1. Зжынацца спехам. *Тама жніва на трі снапы, ці тэй хвост ужо ня будзіць са́рвывыцца?* 2. Пакідаць працу, звальняцца. *У яго ладныя места, ні нада було б са́рвывыцца.* САРВАЦЬ *зак.* Справіцца. *Сырва́ць табе зь Ягорым будзіць трудна. Зь ім ты адзін ні сарьвеш.* САРВАНЫЙ *дзеепрым.* Падарваны непасільным цяжарам (пра каня). *Етый конь сырва́ный, на ём дужа цяжолыя бёрны цігалі.*

САРОЧАЧКА *ж. памянш.* Кашуля. *Ён саўсім ніважна жывець, дзьве пляхотычкі сарочычкі асталыся і ўсё.*

*Павеліч.* САРОЧЫШЧА. *Во сарочышча, іна будзіць у самыя марозы грець як нада.*

САРПАННІК *м.* Той, хто фыркае, сарпае. *Ты такей самый са́рпыньнік,як дзед твой быў.* САРПАННІЦА *ж. Прачысьць нос, са́рпыньніца, ні прадышыш.*

САСВАРЫВАЦЦА *незак.* Спраўляцца ў сварцы. *С табою, кажыцца, ніхто ні сысва́рівыўся.* САСВАРЫЦЦА *зак.* Справіцца ў сварцы. *Відна, нійдзе ў сьвеці ні найдзіцца бабы, каб сысваріцца зь ёю.*

САСЁНКА *ж. зніж.* Сасна. *Кылы Пірянднінскія дарогі пы бірізьняку тарчэлі кой-айдзе кырявыя сасёнкі. Памянш.* САСЁНАЧКА. *Тама на кольля можна насеч сасёнычык якей вазок.*

САСКАБЛІВАННЕ, САСКОБЛІВАННЕ *н.* 1. Абіранне. *Нілізя такога сыска́блівыньня дупускаць, рысталкуй ёй, як нада скабліць. Я б яе гыняла за еткыя саскоблівыньня.* 2 *перан. гумар.* Галенне. *Мішка посьлі сыска́блівыньня пыкрысівеў, відзіш, ікая ряжка ў яго. Дренныя саскоблівыньня тупою брытвыю.*

САСКАРОДЖЫВАЦЬ *незак.* Здзіраць бараной. *Пычаў траву сыскароджывыць, дык пырнік ня дужа пыддаецца.* САСКАРОДЖЫВАЦЦА *незак.* Здзірацца бараной. *Трыва патроху сыскароджывыіцца, праедзь яшчэ пы разу.* САСКАРАДЗІЦЬ *зак.* Садраць бараной. *Каб і тут сыскырадзіў, хужы ні було б.* САСКАРАДЗІЦЦА *зак.* Садрацца бараной. *Глянь-ка, як чысьцінька сыскырадзілыся за погрібым.* САСКАРОДЖАНЫЙ *дзеепрым. Глыжы зьверьху сыскароджыны, ну, па-мойму, глубока быраною ні ўзята.* САСКАРАДЗЁМШЫ *дзеепрысл. Сыскырадзёмшы бугаркі, пуруўнуваўшы, луччы будзіць пыхаць.*

САСКВЯРНЯННЕ *н.* Бэшчанне. *А што мне яе сысківірня́ньня, ніхай луччы ны сваіх крысавіц любуіцца.*

САСКВЯРНЯЦЬ *незак.* Бэсціць. *Ты падумый, каго іна толька ні сысківірня́ла.* САСКВЯРНЯЦЦА *незак.* Бэсціцца. *Хто ў вас яшчэ ні сысківірня́ўся, вы нікога ні прапусьціця.* САСКВЯРНІЦЬ *зак.* Збэсціць. *Ні за што ні пра што сысквярні́ла чылавека.* САСКВЯРНІЦЦА *зак.* Збэсціцца. *У яе любэй сысквярні́цца.* САСКВЯРНЁНЫЙ *дзеепрым. У такея бряху́ньні любэй будзіць сысквярнёный.*

САСКВЯРНЁМШЫ *дзеепрысл. Сысквярнёмшы аднаго, зразу зу другога бярецца.*

САСКЛІЗКЫВАЦЬ *незак.* Саслізгваць. *Во кылі хочыш, ня ўзьлезу, я стынаўлюся, а ныга сасклі́зкывыіць.* САСКЛІЗНУЦЬ *зак.* Саслізнуць. *Лёгінька сысклізнўў сы стыжка.*

САСКРАБАННІК *м.* Той, хто саскрабае, грабе. *Ахоты ў тваіх сыскрібáньнікыў ня дужа многа. Памянш.* САСКРАБАННІЧАК. *Во як твой сыскрібáньнічык стыряіцца!* САСКРАБАННІЦА *ж. Трошку і Аўдыкімёнкыва сыскрібáньніца пымыгла.*

САСКРАБАЦЬ *незак. метаф.* Забіраць, хапаць. *Пыдыбралі ўсіх чыста, некыга большы сыскрібáць і ехыць нечыга, ня едуць.* САСКРАБАЦЦА *незак.* Злязаць з цяжкасцю. *Узьлез, пысядзеў, а тады відзіць, што дужа вісока, дывай скарей сыскрібáцца.* САСКРЭСЦЬ *зак.* 1. Забраць, схапіць. *Пыліцэйскія сыскряблí яго, маглі зыстряліць, дык пырцізаны ныскачылі.* 2. Узяць, дапамагчы. *Думыла, калі я дыплятуся, а тута ідзець машына, сыскряблí мяне і пыдвязьлі.* САСКРЭБЕНЫЙ *дзеепрым.* Забраны, схоплены. *Тэя мáхыры пыд'іўляюцца із-зы Сыжа у Каробчына, а етый ужо саскребін.*

САСКРОБЫШ *м. гумар.* Апошняе дзіця ў сям'і. *Рызбалывыўся твой саскрёбыш, ты яго нісколька ў руках ні дзяржыш. Памянш.* САСКРОБЫШАК. *Вот табе і саскрёбышык, зы работу бярецца як бальшэй!*

САСЛАБЛЫЙ, САСЛАБШЫЙ *прым.* Саслабелы. *Ішоў тута Ціцянок, дрюзлый, сысла́блый стаў, а я помню, як ён гогылім насіўся. Ікая работа ў сысла́бшыга чылавека, ён пы зямле чуць чáпыіцца.*

САСМОРГЫВАННЕ *н.* Сашморгванне, сцягванне. *Гляджу я ны тваё сасморгывыньня: дзелыіш як ні сваімі рукамі.*

САСМОРГЫВАЦЬ *незак.* Сашморгваць, сцягваць. *Скарей сасморгывыйця усё і нясіця ў хату, дождж січас хля́ніць.* САСМОРГЫВАЦЦА *незак.* Сашморгвацца, сцягвацца. *Пыцягні кряпчэй, дык будзіць сасморгывыцца.*

САСМОРШЧЫВАЦЬ *незак.* Зморшчваць. *Як толька увідзіць Высіля, так і нос сасморшчывыіць.* САСМОР-

ШЧЫВАЦЦА *незак.* Зморшчвацца. *Посьлі мыкраты усякыя кожа сасморшчывыіцца.* САСМОРШЧАНЫЙ *дзеепрым. Нейкыя сасморшчыныя сумка, сасморшчыныя, хуць выкінь.*

САСНЁНЫЙ *дзеепрым.* Убачаны ў сне. *Можа хто пытхадзіў, ляпыў, а можа табе так сасьнёна і нікога ні було.*

САСОННІЧАК *м.* Невялікі сасоннік. *Пы сасоньнічку такея ладныя кызьлячкі пракінуліся, ды ўсе тоўсьцінькія, крімянінькія.*

САССЫВАЦЬ *незак.* Высасваць поўнасцю. *Наста была дужа малошныя, дзевычка ні са́ссывыла грудзь, пашло пы зашкурью мылако, нада було машынку купляць, сцы́ркывыць.*

САСТАГОВЫВАЦЬ *незак.* Складаць у стагі. *Толька пычалі сыстаговывыць сена, дождж зыкапыў.* САСТАГОВЫВАЦЦА *незак.* Складвацца ў стагі. *Патрошку сыстаговывыіцца, людзей ні хвытаіць, сілы німа.* САСТАГАВАЦЬ *зак.* Скласці ў стагі. *Ну Лугуваткі нямнога, а Балота каб зы два дні сустугува́ць, і то б хырашо.* САСТАГАВАЦЦА *зак.* Скласціся ў стагі. *Наш вогірь ні сьпяшыць: будзіць уремя — сыстагу́іцца ўсё.* САСТАГАВАНЫЙ, САСТАГОВАНЫЙ *дзеепрым. Луг увесь сустугува́н, а тута нібальшэя крошкі асталіся. Сёліта ў пару сыстаговына ўсё сена, сухенічкыя, пахніць як чай.*

САСТАНАЎЛІВАННЕ, САСТАНОЎЛІВАННЕ *н. метаф.* Узвядзенне, будаванне. *А зымаріліся ны сыстына́ўлівыньні, думыіш, лёхка бярьвеньня дзень пыцігаць. Гуляюць мушчыны посьлі сыстаноўлівыньня.*

САСТАЎЛЯЦЬ *незак. перан.* Тварыць, пісаць. *Нешта цэлый вечыр сыстыўля́юць і сьмяюцца.* САСТАВІЦЬ *зак.* Стварыць, напісаць. *Тады Хведзя як сыста́віў верш пры кыня, усе доўга сьміяліся: зыпісалі ў прытакол, пыставілі кропку і кыня, рішылі цьвёрда, здаць у сылатопку.*

САСТОЯЦЬ *зак.* Выстаяць. *Ікая зь мяне работніца: пыднімуся, спаўзу с пасьцелі — ні магу ны ныгах састоіць.*

САСТУПАЦЬ *незак.* Станавіцца. *Так рызбалеліся ў яе ногі, сустуnа́ць ня можыць.* САСТУПІЦЬ *зак.* Стаць.

*Левыя ныга сільна баліць, каторый дзень ны яе ні суступлю́.* САСТУПІЦЦА *зак.* Адступіцца, уступіць. *Суступ́ся ты пріпадку, найшоў, сь кім зьвязывыцца.* САСТУПЛЕНЫЙ *дзеепрым.* Дапушчаны (пра ўступку). *Ня дужа ў такога упорлівыга будзіць састу́пліна.* САСТУПЁМШЫ *дзеепрысл.* Уступіўшы. *Ай, і сустипёмшы, сь цябе б карона ні звалілыся.*

САСТЫДЗІЦЬ *зак.* Давесці да адчування сораму. *Ухадору сабе ні знаў, пакуля Вулька яго ні сыстыдзіла.* САСТЫДЗІЦЦА, САСТЫДАЦЬ, САСТЫДАЦЦА *зак.* Дайсці да адчування сораму. *Сыстыдз́лыся, пыкрасьнела і большы ні словічка нікомін́ьку ні аддыла. Не, такей ні сыстыда́іць, у яго тэя совісьці і ні нучувала. Ён можыць ніізьвесна чаго сыстыда́цца, красьнеіць як дзяўчонка.* САСТЫДЖАНЫЙ, САСТЫДЖОНЫЙ *дзеепрым. Увесь вечыр ціхінька прысядзеў у вугалку састы́джыный. Пойдзіць сыстыджоный, во што яму будзіць.* САСТЫДЗЁМШЫ *дзеепрысл. Ну што, сыстыдзёмшы нялоўка стыяць.*

САСЦІГАННЕ *н. метаф.* Разуменне. *Якоя ў яго сысьціга́ньня, хто што брязьніць, ён усякый лухце веріць.*

САСЦІГАЦЬ *незак. метаф.* 1. Даходзіць да разумення. *Во тут я пычаў сысьціга́ць, што к чаму, а яны мяне саўсім зудурілі.* 2. Упарадкоўвацца. *У мяне у гылаве ні сысьціга́іць ат етыга ду́ру.* 3. Зведваць. *Раншы людзі тожа ўсякыга горя сысьціга́лі.* САСЦІГНУЦЬ *зак.* 1. Дайсці да разумення. *Трудна сасьцігнуць, калі ты ні ў чом ня хочыш рызьбірацца.* 2. Разабрацца, супакоіцца. *Паехыла г дачке, там я трошку сасьц́гла.* 3. Зведаць. *Такога Навуміха горя сасьц́гла, што ні рыскызаць: зы адну вясну і мужука, і дачку схувала.*

САСЦЯБАЦЬ *зак.* Збіць сцябаннем. *Каб бацька увідзіў такоя балыўства, ён ба сысьціба́ў распусьніка.* САСЦЯБАНЫЙ *дзеепрым. Ён і сысьціба́ный ня дужа ўнімаіцца, пыпішчыць і зы сваё.*

САТАНЕННЕ *н. эмац.* Падзуджванне, падбухторванне. *Ныла́іць нада зы сытаненьня, нашто ета людзей зваджывыць сваріцца.*

САТАНЕННІК *м. эмац.* Той, хто падзуджвае, падбухторвае. *Мікілаіхін сын дужа быў сытаненьнік, так і*

*глядзеў, каб лоб у лоб каго стукнуць.* САТАНЕННІЦА *ж. Як ёй ня стыдна такою сытаненьніцыю быць, Адарка яе ўжо страміла.*

САТАНІЦЬ *незак. эмац.* Падзуджваць, падбухторваць. *Сытанілі Ціўцінка, хацелі пысваріць яго с суседзімі.*

САТАНІШЧА *м.* і *ж. павеліч. эмац.* Нахабнік, нелюдзь. *Ну й сытанішча маліц, ня тоя дык другоя творіць, ету дзяўчонку зышчыпаў.*

САТВАРАННЕ *н.*, САТВАРАЦЕЛЬНАСЦЬ *ж. эмац.* Вычваранне. *Усякыга сытвыря́ньня зь іх нагледзіліся. Худзь ба троху зьдзержывыў сваю сытвыря́цільнысьць.*

САТВАРАЦЕЛЬНЫЙ *прым. эмац.* Такі, які вычварае. *Усякыя дурута зь яго паўзець і плувець, дужа сытвыря́цільный чылавек.*

САТВАРАЦЬ *незак. эмац.* Вычвараць. *Чаго яны толька ні сытвыря́юць, як сыбяруцца кучыю, ны гылывах ходзюць.* САТВАРЫЦЬ *зак.* Вычварыць. *Такея распусьнікі што заўгодна могуць сытварі́ць.* САТВАРОНЫЙ *дзеепрым. Прішлі і муўчаць, нешта ізноў сытварёна.* САТВАРОМШЫ *дзеепрысл. Яны пряма ня могуць жыць, ні сытварёмшы чаго-небудзь.*

САТЛЕЦЦА *зак.* Сатлець. *Што ты пымінаіш Пітрычка, ён даўно у магілі сатлеўся.*

САТНУЦЬ *зак.* Сарваць, ссячы. *Хуць гылаву яму сатні́, усё роўна будзіць сваё тваріць, што зы ныпріклённый дзіцёнык!*

САЎНУЦЬ *зак.* Пасунуць. *Саўні́ сюда і астатнія кірьпічыны, яны пойдуць у дзела.* САЎНУЦЦА *зак.* Пасунуцца. *Бірьвяно саўну́лыся, хырашо, Клімыў маліц кол пасьпеў пыцставіць, ато б пабіла мушчын.* САЎНУТЫЙ *дзеепрым. Усё саўну́тыя пасыпылыся ўніз.*

САЎРЭЦЦА *зак.* Моцна сагрэцца, запарыцца. *У пулушубку сяньня саўреісься, куртычку накінь на плечы і йдзі.* САЎРЭЛЫЙ *дзеепрым. Дзесіць шагоў ступлю, і я ўвесь саўрелый, саджуся аддыхаць.*

САХАР *м.* і *ж. метаф. звыч. іран.* Пра добрую асобу. *Ён са́хыр харошый, а йна яшчэ чышчы. Са́хыр была баба, цяпнуў ён горя уволю.*

САХАРНІЦА *ж. эмац.* Зад. *Ты мне са́хырніцу пад нос ні пыцстыўляй!*

САХАРОК *м. памянш.* Цукар. *Пыцсыпай сыхарок, ні жалей, мне ўчора маліц прівёз чатырі кілыграмы.*

САЧЫНКА, САЧЫНАЧКА *ж. памянш.* Адно каліва асакі. *Сена ядомыя, сачы́нкі толька кой-айдзе прыкідаюцца. Во аборык: ні аднае сачы́нычкі німа!*

САШВІГІКЫВАННЕ *н.* Скідванне, складанне абы-як. *К чаму такоя сышвігі́кывыньня, снапы склыдаць нада роўнінька.*

САШВІГІКЫВАЦЬ *незак.* Скідваць, складаць абы-як. *Лявон хворысьця зы дваром сышвігі́кывыў, верна, тама ішчэ.* САШВІГІКЫВАЦЦА *незак.* Скідвацца, складацца абы-як. *Дужа ў цябе нікуратна сышвігі́кывыіцца.* САШВІГІКАЦЬ *зак.* Скідаць, скласці абы-як. *Палкі сышвігі́кыў пыт паветку, ні зымякнуць.* САШВІГІКАЦЦА *зак.* Скідацца, скласціся абы-як. *Громызд сышвігі́кыіцца у вугол, і тут пысвыбаднеіць.* САШВІГІКАНЫЙ *дзеепрым. Вун відзіш, куды тваё тріхаму́дзьдзя сышвігі́кына?*

САШЛЁПАЦЬ, САШЛЁПКАЦЬ *зак. метаф.* Сха-дзіць з цяжкасцю. *Ні прідумыю, як мне сашлёпыць к Адаркі, дужа дарога дренныя стала. Ніхай ужо заўтря можа як-небудзь сашлёпкыю у Астрейкывічы.*

САШЧЫПАЦЦА, САШЧЫПНУЦЦА *зак.* Сарвацца шчыпаннем. *Пасьці ўсё перья сышчыпа́лыся, і цубуля большы ня хочыць росьць, халодна. Шчавіль і ўраньні сышчыпнецца, сколька яго нада, горстычка.*

САЯНЫЙ *прым.* Вышэйшай якасці. *Я шчупну́ла, дык у яе сыя́ныя сукно на курткі.*

СВАДЗЕБНІК, СВАДЗЬБАШНІК *м. гумар.* Госць на вяселлі, аматар да вяселляў. *Нашы сва́дзібнікі даўно гатовы, ім каб толька гармонь ріпнула. Твае сва́дзьбышнікі сыбраліся ўжо, толька павозку пыдгыняй. Памянш.* СВАДЗЕБНІЧАК. *Як цямнець пычало, сва́дзібнічкі пабеглі.* СВАДЗЕБНІЦА, СВАДЗЬБАШНІЦА *ж. Ішлі позна вашы сва́дзібніцы сь песьнімі, мы чулі. Каб тряхолья ўзяў і замкнуў у сундук, для етых сва́дзьбышніц луччы було б.*

СВАДЗЁБНІЧАННЕ *н.* Удзел у вяселлі. *Якое мне сва-дзёбнічыньня, калі я хату чуць піріпуўзаю ны сваіх качэрьгых.*

СВАДЗЁБНІЧАЦЬ, СВАДЗЁБНІЧАЦЦА *незак. гумар.* Прымаць удзел у вяселлі. *Свадзёбнічыць мой дужа любіў: чарку вып'іць, вясёлый, друзей сабе находзіць. Свадзёбнічыцца будуць ладна, толька пры хызяйства ня дужа думыюць.*

СВАДЗЁБНЫЙ *прым.* Прызначаны для вяселля. *Свадзёбныя ныряды у Тымаркі гатовы, ёй цёткі здорыва пымаглі.*

СВАДЗЬБІЦЦА *незак.* Намячацца (пра вяселле). *У Клімчынка, гыварілі, сва́дзьбіцца, большыга сыбіраюцца жаніць.*

СВАЛАТНЭЙ, СВАЛАЧАНСКІЙ *прым.* Свалачны, нягодны. *Яны свылатнэя людзі, зь імі нільзя ніякіх дзялоў зывадзіць. Свылыча́нскыя прівычка у чылавека.*

СВАЛАЧНІК *м.* Нягоднік. *Раз сам знаіш, што свылачні́к, то й зьвязывыцца нечыга. Узмацн.* СВАЛАЧУГА, СВАЛАЧЫНА. *Яго многія запомнілі, свылачу́га быў, зьесьць чылавека яму нічога ня стоіла. Такей свылачы́на, што большыга і ні прідумыіш, чаго ён толька ні вытвыряў у Пірядніні. Павеліч.* СВАЛАЧЫШЧА. *Мы даўно зналі, што ета свылачы́шча пасьледній.* СВАЛАЧНІЦА *ж. Была іна усю жысьць свылачні́цыю і астанецца ёю.* СВАЛАТНЯ *ж.*, СВАЛАЧЧО *н. зб. Паслухыіш — хуць ды раны пріклыдай кажныга, а так свылытня́ людзі, пасьледнія свылытня́. Многа свылычча́ рызьвялося, пыччышчаць яго дужа некыму.*

СВАТАННІК *м.* Той, хто сватае, сватаецца. *Глядзі, каб ні прутурілі вашых сва́тыньнікыў- усіх разым.* СВАТАННІЦА *ж. Сямёныва сва́тыньніца хвалілыся, як іх тама устрічалі.*

СВАЦЦЯ *ж.* Сваццця. *Свыцьця́ мне прінісла гырлачычык мылыка. Доўга стыялі іс свацьцёю, рузмунды́кывылі. Памянш.* СВАЦЦІКА. *Січас устрецюцца сва́цьцікі, пыгаворюць, яны ня відзіліся с учырашніга вечыра.*

СВАЯШНІК *м. звыч. іран.* Сваяк. *У яго у Жавінкі нейкій свыя́шнік быў, пріінжджаў ны аблезлым кані. Памянш.* СВАЯШНІЧАК. *Гырдзяёнкыў свыя́шнічык пабег, выглідаіць тут сабе дзеўку, ніяк ня вы́глідзіць.* СВАЯШНІЦА, СВАЯЧЫНА *ж. Па-мойму, іна Кулужынятым*

*нейкыя свыя́шніца была. Два браты і свыя́чына пыдзіржалі крепка ў руках.*

СВІННАВАТЫЙ, СВІННАВАЦІСТЫЙ *прым.* Некультурны, грубы, хамаваты. *Мы самі зналі, што ён сьвіннува́тый, ну штоб так апусьціцца, ета ж ой-я-ёй! Усе твае друзья сьвіннува́цістыя, зь імі ні с адным нілізя сюрьёзна гывaріць. Памянш.* СВІННАВА́ЦЕНЬКІЙ, СВІННАВАЦЕСЦЕНЬКІЙ. *Ён ба ладный хлопіц, ну трошку сьвіннува́цінькій. А якоя мне дзела, калі яны сьвіннува́цісьцінькія?*

СВІННАКРОПІК, СВІННАКРОПЧЫК *м. памянш.* Свінакроп. *Сьвіннакропік дужа быйстра зысідаіць. Бяремца сьвіннакропчыку вырвыла, вун кылы пыдваротніцы ляжыць.*

СВІННАРНІЧАК *м. памянш.* 1. Свінарнік. *Сьвінна́рнічык нада крепка аббіць кольлім: пырысяты глубока пыдрываюцца.* 2 *перан.* Бруднае памяшканне. *Ну што ты, хызяйка, у сьвінна́рнічык сваю хату пірядзелыла, некылі прібраць?*

СВІННАЦІНА *ж.* Свініна. *А можа ты і сьвінна́ціны зьеў ба кусочык? Памянш.* СВІННАЦІНКА. *Не, мне сьвінна́цінкі і к роту блізка ні пыднасі, ны адном мылаке дзяржуся трошку.*

СВІННАЦКІЙ *прым.* Дрэнны, нягодны. *Ізыкамі умеюць лах-лах, а так сьвінна́цкыя пріродзьдзя, ды яшчэ якое сьвінна́цкыя!*

СВІННІЦА *ж.* Вялікая свіння. *Ты пыглядзеў ба, ікая сьвіньніца у яго ны дваре рысхаджывыіць. Павеліч.* СВІННЮГА, СВІННІШЧА. *Во ў Сільчынка сьвіньню́га ны дваре, пряма як карова. У Кусьцючыхі сьвіньні́шча пудоў ны высімнаццыць, хваціць сала і дычкам, і зіцям.*

СВІННІЦЦА *незак. метаф.* Набываць непрыемнасці. *Пойдзіш ты туды толька сьвіньні́цца, сядзі луччы ў дваре.*

СВІННУЛЯ *м.* і *ж. з ласк. папрокам.* Неакуратная асоба. *Ну як жа ні нызавеш цябе сьвінну́лію, калі ты етык нікуратна дзелыіш. Памянш.* СВІННУЛЬКА, СВІННУЛІЧКА. *Так у хаці прібярець толька сьвінну́лька, і то ні кажныя. Як ні гываріця, а відна, што сьвінну́лічка дзелыла.*

СВІННУШКА *ж.* 1. Свінарка. *Сьвінну́шкі сталі нядренна зырыбляць.* 2. Грыб свінуха. *У нас іх завуць і*

*сьвіньні, і сьвіннýшкі. Памянш.* СВІННУШАЧКА. *Ныбраў сьвіннýшычык, ды мыладзенькіх, ета смашныя грібы.*

СВІННУШНІЦА *ж.* Свінарка. *Большы двыццаці гадоў адбыяріла сьвіннýшніцыю, аттуля і на пеньсію пышла.*

СВІННЯМАТКА *ж.* Свінаматка. *У мяне была дырыгая сьвіньнімáтка, тыкая акуратныя і дужа строгыя.*

СВІНСТВА *н. зб. жарт.* Свінні. *Мне трошку руну-вата вупруўляцца, нада сваё сьвíнства ныкарміць, ато крікым пуню парвуць.*

СВІРЧАВАННЕ *н.* Крышэнне. *Такоя сьвірчувáньня мне ні ныравіцца, нада акуратна резыць і драбней.*

СВІРЧАВАННІК *м.* Той, хто крышыць. *Крікні-ка, ніхай унімуцца сьвірчувáньнікі, усю моркву піряпорцюць.* СВІРЧАВАННІЦА *ж. Узілася сьвірчувáньніца зы работу, аж кусочыкі ліцяць кругом.*

СВІРЧАВАЦЬ *незак.* Крышыць. *Як узяўся бруквіну сьвірчувáць, на дробнінькія кусочыкі пычвіртувáў.* СВІРЧА-ВАЦЦА *незак.* Крышыцца. *Лоўка ў цябе сьвірчýіцца бульба, толька глядзі пальца ні атхваці.*

СВІРЫСЦЕЛЬ, СВІРЫСЦЁЛКА *м.* і *ж. метаф.* Легкадумная балбатлівая асоба. *Якей толк сы сьвірісь-цельлю тулкуваць! Каб вы меншы слухылі сьвірісьцёлку, іна вам чаго хочыш ныпяець.*

СВІРЭПІЦЬ *незак.* 1. Раз'юшваць. *Яны нарошня сьві-репюць, а ён сь сябе выскакыіць.* 2. Раз'юшвацца. *Маўчы, ні пыдрыжняй большы, відзіш, ён і так сьвірепіiць, аж кроўю ныліваіцца.*

СВІРЭПНЫЙ *прым.* Раз'юшаны. *Зь віду быў сьвірепный, а так добрый чылавек, пыпрасі — ні ў чом ні аткажыць.*

СВІСТАННІК *м.* Той, хто свішча. *Рызыйшоўся сьвістáньнік, усіх сыбак сюда пазмоніць.* СВІСТАННІЦА *ж. Як мальчышкі сьвістáньніца, і ўсе выхыдкі ні як у дзяўчонкі.*

СВІСТАЦЬ *незак. метаф.* Сваволіць. *Як бацька паехыў, яны і пашлі сьвістáць.* СВІСНУЦЬ *зак.* Паве-даміць. *Айдзе хто сьвісьніць, што гарелка, ён куды хочыш мыханець.* СВІСТАНУЦЬ *зак.* Ударыць знянацку. *Як*

*сьвістанець дрючком цірісь сьпіну, во тады ты ўнімісься. Глядзі, етый конь сьвістану́ць можыць.*

СВІСТУШКА *ж.* 1. Свісток. *Нейкыю сьвісту́шку пупаў, гылаву адурівыіць.* 2 *перан. неадабр.* Легкадумная жанчына. *Ежылі сьвісту́шка зыдылася, то ня жджы толку. Памянш.* СВІСТУШАЧКА. 1. Свісток. *Як наскручывыюць вясною сьвісту́шычык, цэлымі днямі ні сьціхаюць, сьвішчуць.* 2. Легкадумная жанчына. *Аць сьвісту́шычкі маткі сыраму́ ні атыбраца.*

СВОІЦЬ *незак.* Лічыць сваяком. *Грішчанковы своюць яго, ні атпіхывыюць, ну ён ім рыдня нібальшэнькыя.*

СВЯЖАЦІНА *ж.* Свежае мяса. *Кошка пыбягіць у пуню, тады ґ бані, будзіць бежч і мыш у зубах боўць, боўць, — во сьвіжа́ціны прінісла. Памянш.* СВЯЖАЦІНКА. *Сьвіжа́цінку яны любюць, ды ня дужа хочуць лішнію скаціну пірядзержыць.*

СВЯЖЭЙ *прысл.* Больш свежа. *На вуліцы стала сьвяжэй, к раньню каб марозік ні ўзяўся.*

СВЯРБЕЦЬ *незак. перан.* Турбаваць. *І табе б сьвярьбела, каб кажный дзень ждаў, што ідуць налогі узыйскывыць.*

СВЯТАСЦЬ *ж.* Святое месца. *Нешта прідумыюць, ікая там сьвя́тысьць кыла тэя крыніцы. Кот бегыў у сьвятысьці.*

СВЯЦЕНЬКІЙ *прым. памянш. звыч. іран.* Святы. *Сьвяценькій то сьвяценькій, толька ці знаіш, сколька ён бульбы калхозныя пірівылачыў.*

СВЯЦІЦЦА *незак.* Асвятляцца. *Я помню, ны маёй паміці сьвяцілісяя лучыныю, ні було красіну.*

СВЯЧЭННЕ *н.* Асвятленне. *Вы лёну ў кладовычкі сы сваім сьвячэньнім ні зыпаліця, ато ён пых і зушугаіць.*

СВЯЧЭННІК *м.* Той, хто свеціць. *Глядзі, каб твой сьвячэньнік салому ні пытпаліў. Памянш.* СВЯЧЭННІЧАК. *Іважный сь цябе сьвячэньнічык.* СВЯЧЭННІЦА *ж.* *Узілася сьвячэньніца зы работу і хвынарь разьбіла.*

СЕЛЬСАВЕТНІК *м.* Работнік сельскага савета. *Учора ма́зылыўскій сільсаветнік пріхадзіў ны дзяреўню пы мылаку.* СЕЛЬСАВЕТНІЦА, СЕЛЬСАВЕТЧЫЦА *ж.* *Зыхадзіў я ны днях, стыршыны ні було, нейкыя адна сільсаветніца*

*сядзела. Пашлі сільсавеччыцы ны работу, і ты пыдбягі, можа возьміш спраўку.*

СЕЛЯТОЧАК, СЁЛЕТАЧАК *м. памянш.* Цялё-сяголетак. *Не, ні пацьцёлык, сіляточык у яе, калі йна тога мылыка дажджэцца! Харошый сёлітычык, вясёлінькій бычок, пы хаці прыгыіць цэлый дзень.*

СЕМЕЧКІ *мн. перан.* Дробязь, неістотная справа. *Воз дроў пыпіліць ім — семічкі, лабрэтым такім.*

СЕМЯНІНА *ж.* Адно каліва насення. *Во каб былі сімяні́ны, можна було б уторнуць, места гуляіць. Памянш.* СЕМЯНІНКА. *Сімяні́нкі быракоў у мяне асталіся, можна пысадзіць.*

СЕМ'ЯНІСТЫЙ, СЯМ'ІСТЫЙ *прым.* Сямейны. *Гаворюць, што етый мушчына сім'яні́стый, а Кіреіха дуріла, у яго німа сям'і. Астрякоўскій ужо сям'і́стый сюда пріiжджаў, прівазіў с сабою мальчыка і дзяўчонку пырядышнью.*

СЕНЧЫКІ *мн. памянш.* Сенцы. *Тады ету хацёнку ські́дылі, сенчыкі пріпялі, во й жывуць сколька ўремя.*

СЕРАДНЯК *м.* Сярэдні па памеру прадмет. *У мяне дужа харошый чугунок сірідня́к, ну ён слаб, доўга ні прадзержыцца. Памянш.* СЕРАДНЯЧОК, СЕРАДНЯЧОЧАК. *Каб купіць чугуночык сіріднячок, і зь мяне хваціла б посыду. Во сколька жыў! — разьбіўся, харошый быў гаршчонычык сіріднячочык.*

СЕРАЗАДЫЙ *прым. абразл.* Непаважаны. *Я доўга цярьпець ні стану, жыва тога сірыза́дыга прыздраўлю.*

СЕРАЧЭНКА *м.* Світка з саматканага сукна. *Дынашывыіцца мой сірячэнка, нада думыць што-небудзь купляць на плечы. Памянш.* СЕРАЧЭНАЧКА, СЕРАЧОЧАК. *Ладный быў сірячэнычка, ну большы яго ныдзіваць некуды. Дырваўся мой сірячочык, ён такей быў зрушный, хырашо греў.*

СЕРГІ *мн.* Адросткі пад сківіцамі ў свіней. *Ета тыкая парода сьвіньней, ісь сірьга́мі. Памянш.* СЯРОЖКІ. *Купілі сабе пырысятык ісь сярёжкымі, як яны дальшы будуць, пыгляджу, січас хырашо ядуць.*

СЕРДАБОЛЬНЕНЬКІЙ *прым. памянш.* Спагадлівы. *К сваёй радне ён дужа сірдабольнінькій, а Просю пыжалець ня думыіць.*

СЕРДАБОЛЬНІК *м.* Той, хто спачувае. *Другей мушчына большый сірдабольнік, як ікая баба. Памянш.* СЕРДАБОЛЬНІЧАК. *Ах, якей ён сірдабольнічык для родныя цёткі.* СЕРДАБОЛЬНІЦА *ж. А што ні гывары, Мархва была сірдабольніца, іна ўсіх жалела.*

СЕРДЖАННЕ, СЕРДАВАННЕ *н.* Злаванне. *Дужа некыму важна яго серджыньня, ніхай сердзіцца, сколька хочыць. Ты ні клыпаці, у яго сірдува́ньня толька ну пуўчыся, серца атхоччывыя.*

СЕРДЖАННІК, СЕРДАВАННІК *м.* Той, хто злуе. *Скажы таму серджыньніку, ніхай уніміцца і ўспакоіцца, я яго насерджу. Пастой мінутку, у етыга сірдува́ньніка атлягнець аць серца. Памянш.* СЕРДАВАННІЧАК. *Ого, і ты ўжо такей сірдува́ньнічык!* СЕРДЖАННІЦА, СЕРДАВАННІЦА *ж. Вот табе й серджыньніца будзіць, як ні зваріць абеду, насердзісься тады. Ну што ты, сірдува́ньніца, усё яшчэ дмесься ны свайго Пецю?*

СЕРДЗІЦЦА *незак.* Псаваць адносіны. *Я ж ня сердзілыся із вамі, вы самі нешта пычалі і пычалі прідумывыць.*

СЕРКА *ж.* Выдзяленне з вушэй. *Вушы нада мыць усігда, тады й серка ня будзіць сыпыцца.*

СЕСТРЫНОЎ *прым.* Сястрын. *Заўтря сістріноў мужык пад'едзіць, як-небудзь укінім бульбіну ў зямлю.*

СЕЎ *м.* Пасеяная паласа. *Там сем севыў адзін на дном, ніізьвесна што ўсходзіць.*

СЕЧАНКА *ж.* Дробныя крупы. *У нас пыўмяшочыка сечынкі ёсьць, пакуль што ні нада. Памянш.* СЕЧАНАЧКА. *Каб прівёз сечынычкі, ніхай ба была, ні звылялыся б.*

СЕЧАЧКА *ж. памянш.* 1. Сечка (корм). *Галодныя скаціна і сечычкі зьесьць, ну я, праўда, хырашо абмешывыю.* 2. Сечка (прылада). *Нейдзі закінулыся сечычка, ні найду, нада ўзяць у Нінкіных.* 3 *перан. іран.* Сварлівая жанчына. *Пыдрыстаіць сечычка, чышчы мамы будзіць.*

СЕЯНАЧКА *ж.* Насенны матэрыял. *Сеінычку я бірягу, ні расходыю, нада усадзьбіну апсімяніць.*

СЕЯЦЬ *незак.* Садзіць (бульбу). *Учора цэлый дзень сеілі бульбу, сьпірва у Каціных, а посьлі у Грішчынка.* СЕЯНЫЙ *дзеепрым. Лапічык бульбы кылы ігруш пат кірку сеін, дужа рана.*

СЁМКА *ж.* Сямёрка (у картах). *Ісь сёмкымі ты нічога ня зьдзелыіш, у яго кыралі ды тузы асталіся, здывайся. Памянш.* СЁМАЧКА. *Не, пыт твае сёмычкі я ні ўмашчу, во дзісяткі зьнімай.*

С'ЁМКА *ж.* Прылада для знімання яблык. *Зьдзелыць сьёмку ня дужа быльшая мудрысьць. Памянш.* С'ЁМАЧКА. *У мяне ў пуні дзьве сьёмычкі стыяць, аччыні вароццы ды вазьмі.*

С'ЁМНЫЙ *прым.* Зняты. *Канешня, сьёмныя яблыкі будуць даўжэй ліжаць, яны цэлыя, нябітыя.*

СІБІРАКА *м.* Сібірак. *У яе сібіря́ка мужык, здаровый і, відна, пынімáюшчый, у жызьні рызьбіраіцца.*

СІБІРАЦ *м.* Жыхар Сібіры або чалавек, які пабыў там. *Нашы сібíрцы ужо нызад прікацілі, відна, бісь пірагоў іх устрічалі.*

СІВАЛЕЗЕНЬКІЙ *прым. памянш. гумар.* Сівы. *Быў у Варкі сівалезінькій стырічок нівісокінькій, я чуць помню.*

СІВАЛЕЗІК *м. гумар.* Сівы чалавек. *Мікітоўнін сівалезік уго як ны баб зыглідаіцца, можыць прівесьць сабе якую лахудру.* СІВАЛЕЗКА *ж. Ні глядзі, што сівалезка, у ёй ішчэ двынаццыць сядзіць. Памянш.* СІВАЛЕЗАЧКА. *Пылагеіна нявестка у сьвет сыбралыся, во табе й сівалезычка!*

СІВАПЛЁСКА *ж.* 1. Жывёла сівой масці. *Яе сіваплёска нічога ны мылако, і жыры ладныя. 2 перан.* Ветраная жанчына. *Носіцца пы дзяреўні сіваплёска, што хочыш тріпанець. Памянш.* СІВАПЛЁСАЧКА. 1. Жывёла сівой масці. *Красівыя жарёбка сіваплёсычка, каб яе ды ў путнэя рукі!* 2. Ветраная жанчына. *Тая сіваплёсычка нечыга ныпліла.*

СІВАПЛЁСЫЙ *прым.* З сівымі плямамі. *У Дышчынка быў красівый конь сіваплёсый, Зыйчанок яго тады і ўкраў. Памянш.* СІВАПЛЁСЕНЬКІЙ. *Харошыя была жарёбка сіваплёсінькыя, калхоз стаў, яе ўсе бралі і заезьдзілі.*

СІВАТА *ж.* Сівізна. *Во-о, і ны цябе сівытá нывалілыся, ты ж многа зы мяне мыладзей.*

СІВЕННЫЙ, СІВУШЧЫЙ *прым. узмацн.* Вельмі сівы. *Сам рыжайный, гылыва сівенныя, ідзець — чуць спы́шыцца. Ён стаў сіву́шчый яшчэ пяцідзісяці ні було, у іх уся тыкая прірода.*

СІВЕЦ *м.* Пустазелле ў жыце, каласоўнік. *Знаім, як пулучалі ў калхозі: год б'есься, б'есься, а ўвосінь дадуць мяшок сіўцу́, еж год.*

СІЛАК, СІЛЬНІК *м.* Асілак. *Канешня, ты сіла́к ішчэ тэй, с табою я баюся брацца боріцца. Такей ты сільнік, што ўсіх піряборіїш. Памянш.* СІЛАЧОК. *Ого, якей ты сілачок!* СІЛАЧКА, СІЛЬНІЦА *ж. Каб яшчэ адна тыкая сіла́чка, тады б дзела зукруцілыся. Вун Кулічкова сільніца бягіць на помышч.*

СІЛУХНА *ж. узвыш.* Сіла. *Сілухна як пыдаб'ецца, чылавеку саўсім дренна. Сілухны ня купіш і ў людзей ні пазычыш.*

СІЛЬНАСЦЬ *ж.* Урадлівасць. *На сільнысьць дубэра усігда была харошыя, а па бу́йнысьці — як калі пріродзіць.*

СІЛЬНІЧАННЕ *н.* Гвалтаванне. *Іх тады абоіх судзілі за сільнічыньня, ці ні па восім гадоў далі.*

СІЛЬЦІК *м.* Неядомая трава. *Травы сёліта мала, адны сільцікі, іх і скот ня дужа есьць.*

СІЛЬЧАЦЬ, СІЛЬЧЭЦЬ, СІЛЬЧАЦЦА, СІЛЬЧЭЦЦА *незак.* Мацнець, узмацняцца. *Ты дужа стаў сільча́ць, наверна, любога палажыш. Ну-ка, ну, пыкажы, як ты сільчэіш. Боль усё сільчэіць і сільчэіць. Куды ўжо старому сільча́цца, ногі пы зямле валочыць і ладна. Ні глядзі, што сівеіць, ішчэ думыіць сільчэцца троху.*

СІНЯВОЧКА *ж.* 1. Сінявокая дзяўчына. *Пецька зы сваёю сінявочкыю строга глядзіць, каб ні зьвялі хлопцы чарнілыўскія.* 2. Паганая апенька. *Вы там глядзіця, каб сінявочык ні браць, ато прінісіцё зь лесу мышшакоў. Памянш.* СІНЯВОЧАЧКА. Сінявокая дзяўчына. *Пыдрыстаюць у цябе сінявочычкі, зяцёў будзіць куча.*

СІНЯГЛАЗКА *ж.* Сорт бульбы з фіялетавымі «вочкамі». *Я ўжо каторый год сінігла́зку сею, іна смашныя бульба. Памянш.* СІНЯГЛАЗАЧКА. *У нас пасьці ўсе ны сінігла́зычку рызьвяліся, дубэры ніхто ня сеіць.*

СІПАКОМ *прысл.* Сіпата. *Як сьціснула ёй горла, нічога ні гываріла, сіпаком усё сіпела, а тады стала атхадзіць.*

СІРАЦІЦЦА *незак.* Рабіцца сіратой. *Ны днаго пыхаронка пріходзіць, ну другога, дзеці дужа у вайну сіраціліся.*

СІРГУЧ *м.* Сургуч. *Буваіць, што і сірьгу́ч пуд руку нада, зыляпіць якую дзірічку. Памянш.* СІРГУЧОК. *Айдзето ў мяне выляўся сірьгучок, ні знаю, ці найду.*

СІРЭНЬ *м.* Бэз. *Сірень разросься, я лумаю і ногі ім апклыдаю на ноч. Памянш.* СІРАНЁК. *Сірянёк выкыпый, а ён усё дно іс кареньня расьцець.*

СІСЦЕМ *м.* 1. Сістэма. *Мне такей сісьцем ні ныравіцца.* 2 *перан.* Парода. *Вот етыя куры другога сісьцему.*

СІТАВЫЙ, СІТОВЫЙ *прым.* Сітаваты. *Дуб сітывый скора згніў, ні нада було стынавіць такога. Сітовый дуб някрепкій, на шула ні гадзіцца.*

СІТНІЧАК *м. памянш.* Сітнік. *Па вы́гыріх пашоў сітнічык, ува ўсіх аборкых засеў.*

СІЦЕННЕ *м.* Церушэнне (пра дождж). *Пятый дзень сіціньня, столька травы паложына, уся гноім возьміцца.*

СІЦІЦЦА *незак.* Церусіць (пра дождж). *Другей дзень сіціцца і сіціцца, іціць — дык ба ішоў, ато нічога дзелыць ні даець.*

СКАБЛЕННЕ *н. перан. жарт.* Галенне. *Ну во, посьлі скабленьня троху ны чылавека стаў паходж, ато зарос як ёжык.*

СКАБЛЯНУЦЬ *зак. перан. жарт.* Пагаліць у спешцы. *Шчокі скыбляну́ў трошку і зразу стаў ныдзівацца.* СКАБЛЯНУЦЦА *зак.* Пагаліцца ў спешцы. *Чуць пасьпеў скыблянуцца, машына пыдыйшла, Шурка стаў піпікыць.* СКАБЛЯНУТЫЙ *дзеепрым. Скыблянутый, дык хуць ліцо відна, а так і вочы зырасьлі.*

СКАБЫ *мн. перан.* Косці, рэбры. *Укініш у гаршчонык ска́бы, дык ныввар ёсьць. Высых — ска́бы тырчаць са ўсіх бакоў.*

СКАВЕРЧЫВАННЕ *н.* Згінанне, скурчванне. *Скаверчывыньня як возьміцца, дык пірякруціць чылавека, што ны сябе ні пахож станіць.*

СКАВЭНЧЫЦЬ *зак.* Сагнуць. *Ні знаю, чаго іх абоіх скавэнчыла, яны ўсігда у прíглядзі былі, ні застуджывыліся.* СКАВЭНЧЫЦЦА *зак.* Сагнуцца. *Скавэнчыўся наш старэй, пакуля зьлезіць сь печы, ныякочыцца.* СКАВЭНЧАНЫЙ *дзеепрым.* *Якей зь яго жыціль, скавэнчыный ляжыць на печы, хырашо, унучкі вады пыдадуць.*

СКАЗАНУТЫЙ *дзеепрым.* Сказаны недарэчы, не да месца. *Во ета скызану́та, тута калі і ня хочыш, дык зыхахочысься.*

СКАІВАННЕ *н.* Раскайванне. *Нашто мне яго скаівыньня, калі такую гадысьць сытваріў.*

СКАІВАЦЦА *незак.* Раскайвацца. *Сколька разоў ён скаівыўся і ўсё роўна сваё сыпысаў.* СКАЯЦЦА *зак.* Раскаяцца. *Скаіцца ні магу, чаго я разым зь ім ні паехыла на тую дачу.*

СКАКУННІК *м.* Ахвотнік скакаць, прыгаць. *Во рузгуляліся скаку́ньнікі, скачуць і скачуць ціріс кынаву. Памянш.* СКАКУННІЧАК, СКАКУНЧЫК, СКАКУНОЧАК. *Ах ты, маліңкій скаку́ньнічык, луччы ўсіх прыгыіш. Скаку́нчык мальчык, усё прыгыў ба. Во скаку́нчык бычок, вяреўка яму мішаіць рузгуляцца. Відзіш, распрыгыўся скукуночык, дужа рад, ажно сам сабе сьмяецца.* СКАКУННІЦА *ж.* *Скаку́ньніца наша первыя будзіць ны вічарінкі.*

СКАЛАЧЫВАННЕ *н.* 1. Грубае страсанне. *Посьлі такога скыла́чывыньня куча суччa астаніцца пыд яблынью.* 2. Збіванне масла. *Дзіўлюся я ну Кузьмова скыла́чывыньня: дзелыіць як ні сваімі рукамі.*

СКАЛАЧЫВАЦЬ *незак. метаф.* Абабегваць. *Ты спрасі, сколька яны скыла́чывылі дзірявень.* СКАЛАЦІЦЬ *зак.* Абабегаць. *Бувала, ні прідумыць, сколька мы за́ ныч скалоцім, чуць ня ўвесь сільсавет аббягім.*

СКАЛЫВАЦЬ *незак.* Праколваць неаднаразова. *Быскіка́ лета бегылі, сколька разоў ногі ска́лывыіш, бувала, ды нарыву дыхадзіла.*

СКАМКЫВАННЕ, СКОМКЫВАННЕ *н.* Камячанне. *Ну атлаю я яго калі-небудзь зы ска́мкывыньня. Посьлі скомкывыньня ета будзіць ні рубашка, а ануча.*

СКАМСОЛІЦЬ *зак. эмац.* 1. Змяць. *Сваё тряп'ё скамсоліў і кінуў кучыю лі парога.* 2 *перан.* Прагна з'есці. *Зразу чуць ня цэлый батон скамсоліў, во горла.* СКАМСОЛІЦЦА *зак.* Змяцца. *Нескылька разоў надзеў — і новый касьцюм скамсоліўся, як у сыбаччых зубах пабыў.* СКАМСОЛЕНЫЙ *дзеепрым.* 1. Змяты. *Куды ж такоя скамсоліныя на людзі ныдзіваць!* 2. Прагна з'едзены. *Я думыў, ня меншы як пыўпірыга асталыся, ажно нічога німа, усё скамсоліна.*

СКАПЫВАННЕ *н.* Скідванне (звыч. пра гной з воза). *Ска́пывыньня як ні сваімі рукамі, ні люблю я такея работы.*

СКАРАВІЦЦА *зак. перан.* Збэсціцца. *У іх хто хочыш скыря́віцца, любога ны анучу сатруць.*

СКАРАДЗЬБЕННЕ *н.* Баранаванне. *Ці ты ні знаіш Мылашонкывыга скырадзьбеньня: удоўж-уперік пы разу праедзіць і гатова.*

СКАРАДЗЬБІЦЬ *незак.* Баранаваць. *Я скырадзьбіла з малых гадоў, мяне рана зыпряглі ў борыны.* СКАРАДЗЬБІЦЦА *незак.* Баранавацца. *Нешта ў нашых хлюстоў медлінна скырадзьбі́цца.* СКАРАДНУЦЬ *зак.* Наспех пабаранаваць. *Калі ты дасі кыня скыраднýць троху, бульба травою зырыстаіць.* СКАРАДНУЦЦА *зак.* Наспех пабаранавацца. *Як скыраднецца, пыраўнеіць, луччы пыхаць будзіць.* СКАРАДНУТЫЙ *дзеепрым.* *Ат аборка троху скыраднýта, праехына борынымі пы разу.*

СКАРАЗРЭЛЫЙ *прым.* Скараспелы (звыч. пра бульбу). *Многа мы сабе скыразрелыя бульбы ня сеім, на лета толька выкыпыць зваріць.*

СКАРАПАЛАМ *прысл.* Раптоўна. *Неік яны скыры-па́лым надумыліся, хату прыдалі, усё рыспрыдалі і паехылі.*

СКАРАСПЕЛІНА *ж.* Адзін клубень скараспелкі. *Мы дужа ні глядзелі, сеілі пыдряд, кой-айдзе скырасьпеліны пупыдаюцца. Памянш.* СКАРАСПЕЛІНКА. *Пасып скыра-сьпелінкі адзьдзельна, мы іх пару бырazёнычык пасеім.*

СКАРАСПЕЛКА *ж.* Сорт бульбы, якая рана даспявае. *Скырасьпелка — тыкая доўгінькыя бульба, іна дужа раньнія, толька зыцьвіцець і сохніць. Памянш.* СКАРАСПЕЛАЧКА. *Ты ж ба і скырасьпелычкі пасеіў, дзеці пріедуць — выкыпылі б і зварілі.* СКАРАСПЕЛЬЧЫНА 1. Асобны клубень скараспелкі. *Во, я віджу, ета скырасьпельчына, іна доўгінькыя.* 2. Скараспелка наогул. *Худзь ба трошку скырасьпельчыны у зямлю ўкінуць, ніхай ба рысла. Памянш.* СКАРАСПЕЛЬЧЫНКА. Асобны клубень скараспелкі. *Скырасьпельчынкі разым з розывыю ні кладзі.*

СКАРАЎЛІВАЦЬ *незак.* 1. Забруджваць дарэшты. *Пычаў ужо і новый пінжачок скыряўлівыць.* 2 *перан.* Бэсціць. *Нечыга скыряўлівыць чылавека, ён вам нічога плахога ня зьдзелыў.*

СКАРОДЖАНАЕ *н. субст. прым.* Забаранаванае поле. *Яны ўжо і гною нывазілі ны скароджыныя, заўтря сеюць бульбу.*

СКАРОЖЫВАННЕ *н. эмац.* Скурчванне. *Чымся с такім скарёжывыньнім жыць, дык ніхай ба бог прібраў ны сваё рукі.*

СКАРОЖЫВАЦЬ *незак. эмац.* Скурчваць. *Як станіць скарёжывыць, якей тады сь цябе жыціль.* СКАРОЖЫВАЦЦА *незак.* Скурчвацца. *Табе нада хлопцыў ладных іскаць, а ты скарёжывыісься.* СКАРОЖЫЦЬ *зак.* 1. Скурчыць. *А во так неік разым яго скарёжыла, трошку пакырхыў і памёр.* 2 *перан.* Паламаць. *Выйна яе жысьць скарёжыла, іна чуць жыва асталыся.* СКАРОЖЫЦЦА *зак.* Скурчыцца. *Я думыла табе зяця прісылаць, а ты скарёжылыся як курчыжка.* СКАРОЖАНЫЙ *дзеепрым.* Скурчаны. *Нікуды ён ні выходзіць, кычаіцца лі двыра скарёжыный, ны ґанкых сядзіць.*

СКАРЧЭЦЬ *зак.* Скарчанець. *Мой старэй скарчэў у лесі лі скыта, зраньня було цёпла, а тады хыладзіна ўзьнілася.* СКАРЧЭЛЫЙ, СКАРЧЭЎШЫЙ *дзеепрым.* *Чуць у хату скарчэлыя увалілісь. Зынясі адзежыну на поля, сідзяць пустухі айдзе-небудзь скарчэўшыя.*

СКАСАБОЧЫВАЦЬ *незак.* Крывіць, скрыўляць. *Вун як Іванёнка стала скысабочывыць, неік адным бокым ідзець.* СКАСАБОЧЫВАЦЦА *незак.* Крывіцца, скрыў-

ляцца. *Табе нечыга скысабочывыцца, ішчэ рана.* СКАСАБОЧАНЫЙ *дзеепрым. Нешта Лаўрініхін сьвёкыр ходзіць скысабочыный.*

СКАСАНУЦЬ *зак.* Саскочыць. *Ня дужа вісока було, скысанýў і ныга пыць сябе, ні злумаў, а зьвіхнуў крепка.*

СКАСОВЫВАННЕ *н.* Ліквідацыя, адмена. *Ну ніхай яны усё скасуюць, што ета скасовывыньня дасьць.*

СКАСТРАВАЦЬ *зак.* Скласці ў стажок. *Ну, ўсе дровы дамог, асталыся скуструвáць.* СКАСТРАВАЦЦА *зак.* Скласціся ў стажок. *А як-небудзь скастрýюцца, ня рьвіся дужа.* СКАСТРАВАНЫЙ *дзеепрым. Лі пуні дровы скуструвáны, а пыт паветкыю нада ішчэ скласьць.*

СКАТАЦЬ *зак. перан.* Збіць моцна. *Яго зы такея дурыі скытáць нада було, ета ж дадумыцца ўсякія гадысьці сыпысаць!*

СКАТЛЕЦЦА *зак.* Перамерзнуць. *Ні ш чаго ні зь якыга адурёный холыд, дзеці скатлеюцца кулу тубуна.*

СКАТНЭЙ, СКОТНЫЙ *прым.* Ветэрынарны. *У скатнэй бальніцы, гыварілі, доктыра німа. Нада, каб скатнэй доктыр пыглядзеў тваю карову. Мыя карова большы нядзелі прыбыла у скотный бальніцы.*

СКАЎЗНУЦЬ *зак.* Саслізнуць. *Ішоў па достычкі, ныга скаўзнýла, і я бах у кынаву.*

СКАЎРАДА *ж.* Патэльня. *Скыўрыдá ны загнеці. Зыржавелі твае скоўрыды.* *Памянш.* СКАЎРОДКА, СКАЎРОДАЧКА. *Длі мяне длі адной ета скаўродка дужа зрушныя. Я чугунок у печ нá дзінь скаўродычкыю ныкрываю.*

СКАЧАНЕЦЬ, СКАЧАНЕЦЦА *зак. метаф.* Намерзнуцца, перастыць. *Кылы скыта дзеці скычанеюць, холыд нівісь якей. Хыладзіна — скычанецца можна, цяплей ныдзівайціся.* СКАЧАНЕЛЫЙ *дзеепрым. Укаціліся ў хату скычанелыя ды скарей на цёплыю печ.*

СКАШАЛЕННЕ *н. метаф.* Цесната. *Такоя було скышаленьня людзей усюдых, што ні праціснуцца.*

СКАЯЦЦА *зак.* Адчуць шкадаванне. *Яны скáіліся, чаго пашлі такою пызнатою пасьці біз дарогі.*

СКВАР *м. метаф.* Моцная спякота. *Што ўжо быў сквар тую нядзелю, скот ні знаў, айдзе дзівацца, каровы з вады ні вылазілі.*

СКВАРАННЕ *н.* Смажанне. *Нешта вы сы сваім скварíньнім дужа доўга возіціся.*

СКВАРАННІК *м.* Той, хто смажыць. *Мае скварíньнікі як узяліся скварíць, дык і сала спалілі, і скыўраду разым іс салым. Памянш.* СКВАРАННІЧАК. *Пыдажджы, етый скварíньнічык січас табе паможыць.* СКВАРАННІЦА *ж. Што там у нашых скварíньніц пулучаіцца, нешта ні завуць есьць.*

СКВЕРНАТА *ж.* Дрэнныя ўчынкі. *Аць Сільчынка усякія сквірнаты́ наглëдзісься і наслухыісься.*

СКВОЗНІК *м.* Скразняк. *Ета здаецца, што ні цягніць, сквозьнік можыць раз-два прыхваціць. Памянш.* СКВОЗНІЧАК. *Тута чуцін сквозьнічык, ладна цягніць.*

СКВЯРНЕННЕ *н.* Знеслаўленне. *Наслухылыся я ўсякыга сквярненьня, ніхай ім скульля зываліць зь іхныю бряхнёю.*

СКВЯРНЕННІК *м.* Той, хто знеслаўляе. *Твой кумок ня меншый сквярненьнік, ніхай яго лом вылыміць.* СКВЯРНЕННІЦА *ж. Во апсекла дык апсекла Стыльмашонкыва нявестка тую сквярненьніцу.*

СКВЯРНІЦЬ *незак.* Знеслаўляць. *Сквярнíлі яго, сквярнíлі, цярьпеў ён, цярьпеў, а тады плюнуў і паехыў.*

СКІБ'Ё *н. зб.* Скібы. *Ськіб'я́ нулупіў тоўста-тоўста. Пырысяты як ськіб'ё, нядзель па шэсьць-сем, жырнінькія.*

СКІБІШЧА *ж.* Вялікая луста. *Па ськíбішчы хлеба атрежу, сахырым пасыплю, і кытанýлі на вуліцу, пуўдня носюцца.*

СКІДАННЕ *н. метаф.* 1. Зніманне верху з кіслага малака. *Доўгыя ў цябе ськідáньня, раз, раз і ськінула б.* 2. Зняты верх з кіслага малака. *Ні абярні ськідáньня, у латкі на ўслончыку стаіць.* 3. Змена (зубоў). *Як ськідáньня зубоў пычалося, тады скаціна пірібалеіць, ета ўсігда так.*

СКІДАЦЬ *незак. метаф.* Знімаць верх з кіслага малака. *Січас я буду ськідáць гырлачыкі, тады вам сырыквашы дам.* СКІДАЦЦА *незак.* Знімацца з кіслага малака (пра верх). *Нечыму там ськідáцца, толька сустоіліся гырлачыкі, ня ськісьліся.* СКІНУЦЬ *зак.* Зняць верх з кіслага малака. *Нада мáлыму ськíнуць верьх, ён нічога дужа ня есьць.* СКІНУЦЦА *зак.* Зняцца з кіслага

малака (пра верх). *Як верьх ськініцца, тады нальлю вам пачшметыньня, яно смашна пысалёмшы.* СКІДАНЫЙ, СКІНУТЫЙ *дзеепрым. Не, сьмітана ў мяне ні ськідáна, заўтря ськіну. Ськінутыя гырлачы станоў у печ, ніхай творг аттаплівыцца.*

СКІПАННІК, СКІПАЦЕЛЬ, СКІПАЦЕЛЬНІК *м.* Той, хто расколвае. *Як ударіць ськіпáньнік дзіцёнку пы наге, будзіць сьлёз. Стыряюцца ськіпáцілі адзін пірід другім, толька шчэпкі рызьлітаюцца. Лоўкій ськіпáцільнік Антоніхін зяць, раз — і палка пупылам, пупылам.* СКІПАННІЦА, СКІПАЦЕЛЬНІЦА *ж. Узілася ськіпáньніца зы калун, січас пыліцяць аскрёткі ат пня. Ты тожа лоўкыя ськіпáцільніца, вун якую кучышчу палык нубузувала!*

СКЛАДЖАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Складзены. *Пынас абыяк ня кініць, у яго ўсё будзіць склáджына, пріпыряччына.* 2 *перан.* Кастрыраваны. *Нада купіць вупрючка, толька глядзі, каб склáджыныга.*

СКЛАДШЧЫНА *ж.* Складчына. *Учора хлопцы складшчы́ну дзелылі, мае позна вярнуліся.*

СКЛЁПКА *ж. метаф.* Развага. *Раз ні хвытаіць склёпкі, то ніякыя увішчаньня ні паможыць. Памянш.* СКЛЁПАЧКА. *Каб склёпычка у гылаве трошку была, дык ба усякія трілюды ня нёс.*

СКЛІЗАТА *ж.* Слізкасць. *На вуліцы склізытá, усё замёрзла, як ты дайдзіш. Павеліч.* СКЛІЗАЦІШЧА, СЛІЗОЦІШЧА. *Вядзі мáлыга астарожна, склізацішча ны дваре, каб ні брязнуўся. Сьлізоцішча стала, што шагу нілізя ступіць, таго і глядзі гнітанесься.*

СКЛЫЧЫВАННЕ *н.* 1. Пераблытванне, пераціранне. *Ты ў мяне палучыш за склы́чывыньня.* 2. Пераблытаныя, перацёртыя рэшткі. *Сыбярі на вілкі усё склы́чывыньня ды пірякінь ціріс прясла.*

СКЛЮЧАННЕ *н.* Выключэнне. *Ні баіцца ён ніякыга сключáньня, ходзіць паверьх школы і ўсё.*

СКЛЮЧАЦЬ *незак.* Выключаць. *Яго разы два сключáлі са школы зы балыўства.* СКЛЮЧЫЦЬ *зак.* Выключыць. *Пысьмяесься, могуць ныпраўду сключы́ць, тады ўжо бацька табе дасьць.* СКЛЮЧАНЫЙ, СКЛЮЧОНЫЙ *дзеепрым. Ён склю́чыный троху тута пубуўтаў-*

*ся, а тады змыўся куды-то. Ён тады быў сключоный сь піцьцехнікі зы свайго бацьку.* СКЛЮЧОМШЫ *дзеепрысл. Сключомшы, куды ён дзеніцца, будзіць у дваре сядзець.*

СКЛЯЛЧЫВАННЕ *н.* 1. Скамячванне. *Воць січас зы склялчывыньня табе пупадзець луччы некуды.* 2. Скамечаныя рэчы. *Вун тваё склялчывыньня лі парога ляжыць.*

СКЛЯЛЧЫВАЦЬ *незак.* Скамячваць. *Будзіш так склялчывыць, у цябе нічога акуратныга ні астаніцца.* СКЛЯЛЧЫВАЦЦА *незак.* Скамячвацца. *Ды я тожа віджу, што ў вас усё пыдряд склялчывыіцца.* СКЛЯЛЧЫЦЬ *зак.* Скамячыць. *Рубашкі склялчыў, што іх у рукі нілізя ўзяць.* СКЛЯЛЧЫЦЦА *зак.* Скамячыцца. *Пасьцілкі твае склялчыліся, ні к чаму годныя сталі.* СКЛЯЛЧАНЫЙ *дзеепрым. Склялчыныя адзежа кучыю выляіцца.*

СКЛЯПЛІВАННЕ, СКЛЕПЛІВАННЕ *н.* Склёпванне. *Ня хочыць тваё скляплівыньня дзіржацца, відзіш, узноў разьехылыся. А глянь-ка, акуратныя склеплівыньня пулучылыся.*

СКНАРНІЧАННЕ *н.* Скнарніцтва. *Ні люблю я такога скнарнічыньня, як у Ліксяёнка.*

СКНАРЫШЧА *м.* і *ж. павеліч.* Сквапная асоба. *Аўсяёнык быў чылавек нічога, а йна скнарішча, што сьвет ня відзіў.*

СКОКА *прысл.* Колькі. *Скока яму ні гывары, усё роўна сваё твaрыць. Памянш.* СКОЛЕЧКА. *Сколічка тута гуркоў, ны адзін луночык ні хвaціць апсіміяніць.*

СКОПАНЫЙ *дзеепрым.* Выкапаны поўнасцю. *Што табе думыць, бульба скопына і прібраджына, дыстывай с погріба ды еж.*

СКОРАПАСЦІЖНА *прысл.* Раптоўна, хутка. *Саўсім нядумына скорапасьціжна памёр, нешта грудзі здавіла — і німа чылавека.*

СКОСАЧАК *м. памянш.* Скосак. *Ні глядзі, што скосычык, іна хырашо бярець, луччы другея новыя.*

СКРАБАННЕ *н. перан.* 1. Чуханне. *Горька тапі лазьню, ці відзіш, якоя скрабыньня у дзяцей, даўно ня мыліся.* 2. Неглыбокае баранаванне. *Такоя скрабыньня ні гадзіцца, тут нада крепка прыскырадзіць, каб дзёрін рызыдраць.*

СКРАБАННІК *м. перан.* 1. Той, хто чухае, чухаецца. *Таго скра́быньнік, што прігляду ня відзіць.* 2. Той, хто неглыбока барануе. *Толька што скра́быньнік, ета ні скыраджэньня, а балыўства.* СКРАБАННІЦА *ж.* 1. Тая, што чухае, чухаецца. *Ты, скра́быньніца, толька балыісься, нічога ў цябе ня чэшыцца.* 2. Тая, што неглыбока барануе. *Пыслалі скра́быньніцу, тама цьвёрда, іна нічога путна ня зьдзелыіць.*

СКРАБАЧОК, СКРАБАЧОЧАК *м. памянш.* Абабіты, абдзёрты венік. *Венік, калі зьмёўся, — ета скрібачок, так, буйныя сурья змахнуць. Хуць скрібачочыкым трошку змахні мост, пакуля дзед новый венічык зьвяжыць.*

СКРАБЕННІК *м.* Той, хто падскрабае. *Скрябеньнік ны дваре поріцца, пыччышчаіць места пыт палкі. Памянш.* СКРАБЕННІЧАК. *Во як ладнінька скрябеньнічык пымыгаіць бацьку.* СКРАБЕННІЦА *ж. Кончыла скрябеньніца сваю работу, аддыхаіць.*

СКРАЗНЯЧОК, СКРАЗНЯЧОЧАК *м. памянш.* Скразняк. *І нібальшэй быў скрызьнячок, а прыбраў крепка. Я ўсігда гываріла: ны скрызьнячочыку ні разу ні садзіся.*

СКРАПЛЯННЕ *н. перан.* Узаемаразуменне. *Зразу шукайця скріпля́ньня, зь людзямі ўсігда нада ладзіць.*

СКРАПЛЯЦЦА *незак. перан.* Дасягаць узаемаразумення. *Ты ну другіх ні глядзі, сыма скріпляйся.* СКРАПІЦЬ *зак.* Зняць. *Як уступыўся стыршына, уляпілі штраху, ды крепка, а тады цірізь нядзелю штрах скряпілі.* СКРАПІЦЦА *зак.* Дасягнуць узаемаразумення. *Ладзь, скарей скрепісься, адной табе трудна будзіць, пакуль прівыкніш.*

СКРУЖЫВАННІК *м.* Той, хто падсявае збожжа рэшатам. *Зірнят кругом сябе пынысыпаў скру́жывыньнік.* СКРУЖЫВАННІЦА *ж. Айдзе йта скру́жывыньніца решыта дзела, ніяк ні найду.*

СКРУЖЫВАЦЦА, СКРУЖАЦЦА *незак.* Падсявацца рэшатам (пра збожжа). *Решытым зірняты скру́жывыюцца, тады зьверьху сьмяцьцё ськідаюць. Решыта рукою пыдбівай і будзіць скружа́цца.* СКРУЖЫЦЦА *зак.* Падсеяцца рэшатам (пра збожжа). *Тута капля зірнят, быйстра*

*скру́жыцица.* СКРУЖЫВАНЫЙ, СКРУЖАНЫЙ *дзеепрым. Што ў бочычкі, ета пышаніца скру́жывыныя. Скру́жыный ячмень пірясып у меншый мяшочык.*

СКРЫВІЦЦА *зак. метаф.* Сапсавацца (пра надвор'е). *Зраньня ны пагоду пыказывыла, а січас скріві́лыся, вот-вот дождж зыкапыіць.*

СКРЭСЦА *незак. перан. гумар.* Галіцца. *Як станіць скресца, увесь парежыцца. У горыд сыбіраіцца, скрябецца.*

СКУБАНУЦЬ *зак. перан.* Папрасці ўрыўкамі. *Як скыта многа, ня дужа скубанеш, некылі за гребінь прісесьць.*

СКУЁЎДЗІЦЬ *зак. эмац.* Сагнуць. *Цімашонка скуёўдзіла, чуць плёўся пы быльшаку.* СКУЁЎДЗІЦЦА *зак.* Сагнуцца. *Ні старэй дужа чылавек, а скуёўдзіўся, як яму пыдзь дзівяноста.*

СКУЛЛЯНЁНАК *м.* Невялікая скулка. *Скульлянёнык сеў пыц самым вокым, аж ніпріятна. Памянш.* СКУЛЛЯНЁНАЧАК. *Пашлі па целу скульлянёнычкі, відна, ат прастуды.* СКУЛЛЯНЯТЫ *мн. Скульліня́ты, буваіць, як уядуцца, усё цела апсыплюць. Памянш.* СКУЛЛЯНЯТКІ, СКУЛЛЯНЯТАЧКІ. *Ач чаго-то скульліня́ткі пашлі пы ліцу. У дзіцёнка скульліня́тычкі пывыскакывылі, нада чым-небудзь пымазыць.*

СКУЛУ *прысл. груб.* Нічога. *Ску́лу ён што зьдзелыіць, кычаіцца цэлый дзень у пуні на сені.*

СКУЛЫ *прысл. груб.* Невядома чаго. *Ску́лы ім ні хвытаіць, гуляюць гульма дзень прі дні.*

СКУПІНДЖА *м.* і *ж. эмац.* Скнара. *Сам ён нічога, а старік быў скупінджа. Ня відзіла такея скупінджы́, як Матруніна дычка стала.*

СКУПІЦЦА *зак.* Набыцца шляхам куплянння. *Тады пычылася быльшая разруха, многа ў акругі лясоў скупі́лыся пасьці зы ніштo.*

СКУПСТВА *н.* Скупасць. *Ні ў кога ня відзіла такога ску́пства, як у Пынаськовых, самі сабе зьесьць жалеюць.*

СКУРАПЕЙ *м. эмац.* Скваліга. *Айдзе табе грошы пазычыць такей скурапей. Памянш.* СКУРАПЕЙЧЫК. *Сколька яму, дзьвінаццыць ці ёсьць, а ўжо відна, што скурапейчык пыдрыстаіць. Узмацн.* СКУРАПЕІНА. *Ну й*

*скурапеіна, дзіцёнка ні накорміць як нада! Павеліч.* СКУРАПЕІШЧА. *Ні знаў я, што ён такей скурапеішча, нізашто б ні паехыў.* СКУРАПЕЙКА *ж. Нада ж етык пыдыбраца, і йна тыкая скурапейка, як ён. Памянш.* СКУРАПЕІЧКА. *Дычка ня меншыя скурапеічка, ня думый ты.*

СКУС *м.* Смак. *Якей скус у зялёных яблыкых! Пaмойму, німа ніякыга скýсу у етых яблыкых.*

СКУСНЫЙ *прым.* Смачны. *Ац скýсныга нікога ні сарьвець. Памянш.* СКУСНЕНЬКІЙ. *Яны ўсігда глідзяць, каб матка чаго скýсьніңькыга дыла. Выш. ст. пар.* СКУСНЕЙШЫЙ. *Куплёный піpoг скусьнейшый, чым твой печыный. Памянш.* СКУСНЕЙШАНЬКІЙ. *Ці етыя быранькі скусьнейшынькія?*

СКУТЫВАЦЬ *незак.* Зганяць у гурт. *Як буря находзіць, мы скýтывым кароў скарей к якім кустам, тады ні рызьбігаюцца.*

СЛАБАСІЛЬНАСЦЬ *ж.* Слабасілле. *Слыбасíльнысьць як ахваціць, ні рукою, ні нагою ні пышывяльну.*

СЛАБЕЦ, СЛАБЯК, СЛАБЯКА, СЛАБУН *м.* Слабы чалавек. *Слабец ні слабец, а с табою ішчэ справіцца. Такіх слыбякоў мне піцярых пыдывай ны адну руку. Ты слыбяка, а хочыш зборіць Арьхіпывыга здурувунá. Што мне брацца боріцца іс слубуном, цябе адною рукою зываліш. Памянш.* СЛАБЯЧОК, СЛАБУНОК, СЛАБУНЧЫК. *Яны абоя слыбячкí, ім ні касіць, а ў класікі прыгыць. Слубунок ты маліңькій, ты зь ім ні справісься. Я думыў, ты крепкій, а ты слабýнчык.* СЛАБЯЧКА, СЛАБУХА *ж. Каця даўно стала слыбячка, ёй усё ніздаровіцца і ніздаровіцца. Ні паймём, ці іна прітвыряіцца, ці ныпраўду тыкая слабýха. Памянш.* СЛАБЯЧАЧКА. *Слыбячычка дзяўчонычка, адзін чар, што дзіцёнык.*

СЛАБКА *прысл.* Слаба. *Тута слáбка прікручына, карова рогым торніць, і ўсё пыляціць.*

СЛАБКАВАТА, СЛАБАВАЦІСТА, СЛАБКАВАЦІСТА *прысл.* Слабавата. *Зь естыга боку слубкувáта зьбіта, могуць атваліцца паплеціны. Яны абоя слубувáціста ўчыліся, іхныя ўсе ны навуку ня дужа ішлі. Зьвізаў слубкувáціста, і рассыпылыся мітла, пірівязывый.*

СЛАБКАВАТАСЦЬ, СЛАБАВАЦІСТАСЦЬ, СЛАБКАВАЦІСТАСЦЬ *ж.* Слабасць. *Пачулі слубкувáтысьць, цяперя наезьдзюцца на ём. Ні знаю, ач чаго ў яе слубувáцістысьць, можа мыладэй мужык вінуват. Пры Іваныву слубкувáцістысьць ні талкуй, ета ён ды пары да ўремя церьпіць.*

СЛАБКАВАТЫЙ, СЛАБАВАЦІСТЫЙ, СЛАБКАВАЦІСТЫЙ *прым.* Слабаваты. *Слубкувáтый етый прабой, яго бяз лома рукою вырьвіш. Ай, ён усігда быў слубувáцістый, ня толька січас. Слубкувáцістый ты хлопіц, айдзе табе са мною брацца.*

СЛАБКІЙ *прым.* Слабы. *Слáбкій ты брацца са мною. У Варычкіныя каровы мылако слáбкыя. Памянш.* СЛАБКЕНЬКІЙ. *Ні прідумыць, чаго ён стаў саўсім слáбкінькій.*

СЛАБНЕЦЬ *незак.* Слабець. *Купряёнкыва цёшча пычыла слабнець, доўга іна ні прыцягніць.*

СЛАБЧЭЦЬ *незак.* 1. Слабець. *Ікавёнык пряма ны вычах слабчэіць, хырашо, калі ды кыляд дыцягніць.* 2. Няшчыльна прылягаць. *Дзьвері рыссыхаюцца і слабчэюць, можа прідзіцца планычку ныбіваць.*

СЛАВА *ж. іран.* Няслава. *Пры яго як пышла слáва, було хуць зь дзяреўні уцікай. Слáву пулучыць нядоўга.*

СЛАНЯННІК, СЛАНЯЦЕЛЬ, СЛАНЯЦЕЛЬНІК *м.* Той, хто бязмэтна блукае. *Ах, якей слынянньнік, як яму ня стыдна ны маткіный шыі сядзець. Столька работы ў дваре, а слыняціль ні прідумыіць, к чаму рукі прілажыць. Ці найшоў Аўдоткін слыняцільнік сабе работу?* СЛАНЯННІЦА, СЛАНЯЦЕЛЬНІЦА *ж. Мучыіцца слынянньніца, ніяк ні прідумыіць, за што рукі зычапіць. Абея адзінакывыя слыняцільніцы, гультайкі абыкнавенныя.*

СЛАТЫЙ *дзеепрым.* Рассцелены. *Скора пойдзім пыднімаць слáтый лён, ён пасьці улежыўся.*

СЛАЎЛЯННЕ *н. іран.* Зняслаўленне. *Наслухыліся мы і слыўлянньня, і ўсяго, ну ніхай лапочуць, ці ім ізыкі зывяжыш.*

СЛАЎЛЯЦЬ *незак.* Праслаўляць, узносіць. *Сьпірва яго слыўлялі, што харошый стыршына, а цяперя не, ні хвалюць.*

СЛЕПАВОКЕНЬКІЙ, СЛЕПАВОКЕНЕЧКІЙ *прым. памянш.* Сляпы. *Нейкій сьліпавокінькій мульчуган бегыіць, я ні пызнаю чый. У яе сьліпавокінічкыя дзяўчонка, нашто іна каму.*

СЛЕПАКІ, СЛЕПАЧЫ, СЛЯПНІ *мн. абразл.* Вочы. *Ня відзіш, куды кыня кіруіш, сьліпакі ні глідзяць посьлі ўчырашніга. Ні атвырачывый сваe сьліпачы́, глядзі, калі людзі пыказывыюць. Пратрі свае сьляпні́, што ты пряма ў лужыну пресься. Памянш.* СЛЕПАЧКІ. *Худзь ба сьліпачкі́ прулупіў ды глянуў, што ны дваре зывіряіцца.*

СЛЕПАНДЗЕЙКА *ж. абразл.* Жанчына са слабым зрокам. *Ты луччы рыскажы ета сваёй сьліпаньдзейкі, а мне нечыга лухту слухыць.*

СЛІВІНКА, СЛІВІНАЧКА *ж. памянш.* Сліва (дрэва і плод). *У яго сядзелі сьлі́вінкі, а тады ён пысьсікаў. Сьлі́вінкі ішчэ кіслыя, ні пасьпелі. Нада рыссадзіць сьлі́вінычкі, ніхай растуць.*

СЛІМЯНЁК, СЛІМЕНЬЧЫК, СЛІМЯНЁЧАК *м. памянш.* Здаровы гультаяваты чалавек. *За месіц сьлімянёк стаў, што ні пызнаць проця таго, якей быў. У бабы сьліменьчык ат'еўся, іна ўсё смашнінькыя яму падносіць. Яе сьлімянёчыкі вясёлінькія бегыюць. Узмацн.* СЛІМЯНЮГА. *Разьдзелыўся сьлімяню́га Арінін сын, у рубашкых ня месьціцца.*

СЛІШЧА *н.* Сцелішча. *Атвечыра зывязуць лён на сьлі́шча, заўтря бабы пойдуць слаць.*

СЛОВЕЧКА, СЛАВЕЧАЧКА *н. памянш.* Слова. *Ты паспробый словічка ат яго пачуй, як надмецца ніізьвесна ач чаго. Як пріходзіць з гулянкі, я яму славечычка уперік ні гыварю, ну яго.*

СЛУЖБІСТА *прысл.* Выслужваючыся. *Пынаська пычынаў службі́ста, тады неік астыў, ну ў парцію прабіўся.*

СЛУЖБІСТАСЦЬ *ж.* Выслужванне. *Службістысьці ў Зубка хвытала, умеў несца пірід уласьцю.*

СЛУЖЫВЕЦ *м.* Той, хто служыў або служыць. *Домнін служы́віц ці ня думыіць варочыцца ў дзяреўню, нешта яму там ні дыгадзі́лі.*

СЛУЖЭННІК *м.* Служачы. *Многа нуслужыў Кыныстраціхін служэньнік: выгнулі зы п'янку.* СЛУЖЭННІЦА *ж. Явілыся Кісялёўніна служэньніца, нійдзе нісмашна работыць.*

СЛУХМЯНА *прысл.* Паслухмяна. *Каб ты дзелыў слухмя́на, я б табе канхветык з горыда ўзяў, а так ні прінясу.*

СЛУХМЯНЕНЬКІЙ *прым. памянш.* Паслухмяны. *Слухмя́ніцькій то слухмя́ніцькій, ну бабу пыдманівыць любіць.*

СЛЫШ *м. экспр. гумар.* Някемлівы чалавек. *Слыш ня дужа пойміць, пра што яны тамыцька трілюдзюць. Памянш.* СЛЫШОК. *І мульчуган такей самый слышок, пы бацьку ўдаўся.*

СЛЮНЦЯВАСЦЬ *ж.* Уласцівасць слінявага. *Ніхай ні глядзіць ну сьлюньця́высьць, пырядык у дваре вядзець і ладна.*

СЛЮНЦЯВЫЙ, СЛЮНЯВЫЙ *прым.* Слінявы. *Як табе ня стыдна, такей сьлюньця́вый ходзіш. Сяньня к Танічкі прібягіць яе ухажор сьлюня́вый. Памянш.* СЛЮНЦЯВЕНЬКІЙ, СЛЮНЯВЕНЬКІЙ. *Ёй худзь ба якога сьлюньця́вінькыга пупасьць, і то б рада была. Нейкыя ты стала сьлюня́вінькыя, я ні спруўляюся цябе апціраць.*

СЛЯДЖЭННЕ *н.* Сачэнне. *Ні баіцца ён ніякыга сьляджэньня, куды захочыць, туды і пойдзіць.*

СЛЯДЖЭННІК *м.* Той, хто сочыць. *Аўдоткін сьляджэньнік сядзіць зу кустом, хочыць узнаць, куды пыбігаць дзяўчонкі.* СЛЯДЖЭННІЦА *ж. Січас наша сьляджэньніца нешта высьлідзіць, глядзі за ёю.*

СЛЯПЕНЬ *м. зневаж.* Сляпак. *Цімошыхін сьляпень пыцягнуўся нечыга пут кусты, што ён забыў тамыцька?*

СЛЯПЕЦЬ *незак.* Слепнуць. *Калмык быў здыравушчый мушчынішча, а пыц старысьць стаў сьляпець.* СЛЯПЕЦЦА *незак.* Сляпіцца. *А як жа мы і прялі, і дзяцей гудувалі, і нат кросными сьляпеліся.*

СЛЯПУН *м.*, СЛЯПЕНЦЫЯ *звыч. ж. абразл.* Сляпая асоба. *Куды-то Антоныў сьляпу́н пыцягнуўся, ці ні сватоў атведывыць. Вот табе й сьляпенцыя: зяцёў выбрыла, што чуць ні ну руках носюць.*

СЛЯПЭЙ, СЛЯПЫЙ *прым.* Сляпы. *Старік сьляпэй, нада зу руку вадзіць. Памянш.* СЛЯПЕНЬКІЙ, СЛЯПЕНЕЧКІЙ, СЛЯПЮСЕНЬКІЙ, СЛЯПЮСЕНЕЧКІЙ. *Ладзін ёй будзіць сьляпенькій, дарогу ж к ёй бегыць відзіць. Столька ўремя іна жывець сьляпенічкыя, зарінычкі ня відзіць. Што ж ён, сядзіць у хаці сьляпю́сінькій. Саўсім сьляпю́сінічкыя, дайжа сонца ня відзіць. Павеліч.* СЛЯПЕННЫЙ, СЛЯПУШЧЫЙ. *Гыварілі, што ў яе сьвёкыр сьляпенный. Ці ты сьляпу́шчый, што лезіш у твань?*

СЛЯСАЧОК *м. памянш.* Слясак. *Сьлісачок у клямкі стаў зыскáкывыць, як яго пычыніць.*

СМАЖАННІК *м.* Той, хто падсмажвае. *Як узяўся сма́жыньнік, дык у яго дым стаўбом із гыршка.* СМАЖАННІЦА *ж. Стыряіцца сма́жыньніца, хочыць дыгадзіць яго стырікам.*

СМАЛЬГАРНЯ *ж.* Смалярня. *Андрей уродзі троху ны смыльга́рні работыў, а тады паехыў у Маскву ґ брытам.*

СМАЛЯНУЦЬ *зак. перан.* Ударыць (пра мароз). *Було нічога, цёпла, а тады разым як смылянуў мароз, аж німа айдзе дзецца.*

СМАЛЯНЭЙ, СМАЛЯСТЫЙ *прым.* Смалісты. *Пень то смылянэй, ну як яго разьбіць, ён дужа крепык, увесь пірявіт. Смыля́стый быў цяльпух, на прітылкі рысьпілілі, крепкыя будзіць асада.* СМАЛЯНЕЙШЫЙ. Больш смалісты. *На лу́ткі смылянейшыя бярно руспускаюць. Памянш.* СМАЛЯНЕЙШАНЬКІЙ. *Во етый кырянёк смылянейшынькій, пыськіпай, ён зразу зыгаріцца.*

СМАЛЯЧОК, СМАЛЯЧОЧАК *м. памянш.* Смаляк. *Смылячок нада пыськіпаць дробнінька, яго доўга хваціць ны растопу. Смылячочыкі асталіся няколытыя, нечыга ўраньні пытпаліць.*

СМАШНЕННЫЙ *прым.* Вельмі смачны. *Ты пакушый, такей смашненный піpoг я яшчэ ні разу ня еў, во што значыць мылыдая хызяйка!*

СМАШНЕЦЦА *незак.* Смачнець. *Як сьмітаны ложку пылажыла, дык і капуста смашнеіцца, зразу чуствыіцца: ні пустоя.*

СМЕХАТУРА, СМЕХАТОРЫЯ *ж. экспр.* Смех. *Во, дзевычкі, сьміхату́ра была, як Пецька с Паўкым чуць ні*

*пабіліся за Волічку! Сьміхаторія з вашых хлопцыў, як прідуць гуляць, адзін пірід другім выстыўляюцца: я луччы ўсіх. Павеліч.* СМЕХАТУРЫШЧА. *Надзелылі сьміхатýрішчы на ўсю дзяреўню.*

СМЕХАТУРНІК *м. экспр.* Насмешнік. *Ныпряёнык ні пасьледній сьміхатýрнік быў.* СМЕХАТУРНІЦА *ж. Многа чаго із Гаўрілывыя сьміхатýрніцы вытвырялыся.*

СМУГАВАННЕ *н.* Пакуты. *Смугувáньня буваіць і ад бяды, а то і чыріз гультайства.*

СМУГАВАЦЬ, СМУГАВАЦЦА *незак.* Пакутаваць. *Дзіцёнык лета смугувáў біз мылыка, і вы ня думылі пры карову. Цяжола смугувáцца пы ніщчымніцы, як жыць ня жыць, ну пырасёнка нада дзіржаць.*

СМУРЫЖАННЕ *н. перан.* Праборка. *Упяклося яму смурыжсыньня за етыя гады, рад-рад, што рызыйшоўся с Кулініныйі.*

СМУРЫЖАННІК *м.* Той, хто змякчае вяроўку шляхам трэння. *У твайго смурыжсыньніка чуць ні зыдымілыся вярёўка.* СМУРЫЖАННІЦА *ж. Крікні, ніхай пірістаніць балывыцца смурыжсыньніца.*

СМУРЫЖЫЦЬ *незак. перан.* Прабіраць. *Як возьмуцца утрёх смурыжсыць, Цімка круціцца як уюн ны гырячый скыўрадзе.* СМУРЫЖАНЫЙ *дзеепрым. Ты ны яго пыглядзі, як приходзіць смурыжсыный аць цёшчы.*

СМЫК *м.* Крук для сцягвання сена, снапоў. *Як стагі бальшэя былі, смыкáмі сена сьцягывылі. Памянш.* СМЫЧОК. *Выляўся калі-то і ў нас смычок, даўно яго ня відна.*

СМЫЛЕЦЬ *незак.* Моцна гарэць. *Падбеглі мы: смыліць ета куча дроў, к ёй ні пуцступіцца.*

СМЫРКАТ *м.*, СМЫРКАТНЯ *ж.*, СМЫРКАТАННЕ *н. эмац.* Злоснае бурчанне. *Ну астывайся, калі табе яго смыркыт ныравіцца слухыць. Толька пыдняўся — і пычынаіцца смыркытня, ніяк яго трябушша ні ныхляхочыць. А ўсе наслухыліся твайго смыркытáньня, можна пумуўчаць.*

СМЫРКАТАННІК, СМЫРКАТУН *м. эмац.* Злосны буркун. *Духі выіў смыркытáньнік, зу любую мелыч нубурчыцца. К старысьці такей смыркатýн зьдзелыўся, што яго ні піряслухыць.* СМЫРКАТАННІЦА, СМЫРКА-

ТУННЯ, СМЫРКАТУХА *ж. Старысьцю усякыя становіцца смыркытáньніцыю, усё ёй кажыцца ні так. Ладныя смыркатýньня і твыя сьвякроўка была. Вы становіціся як старэя смыркатýхі.*

СМЫРКАТАЦЬ, СМЫРКАТАЦЦА *незак. эмац.* Злосна бурчаць. *Сколька ён ішчэ будзіць смыркытáць, — ніяк ні ўспакоіцца, так яго рызабідзілі. Як стаў смыркытáцца ны дзяўчоньік, а яны і ня трогылі тых цьвятоў.*

СМЫСЛЕННЕ *н.* Разуменне. *Каб у яго було смы́сьліньня, ён ба на Тоньку дайжа ні глядзеў.*

СМЫСЛЕННІК *м. гумар.* Той, хто абдумвае, разважае. *Ты мне ні рысказывый, я хырашо знаю, якей смы́сьліньнік с кріварота.* СМЫСЛЕННІЦА *ж. Ну а што, іна тожа смы́сьліньніца, вун як рызвыжаіць!*

СМЫХЫВАЦЬ *незак.* Зморшчваць. *Што ты смы́хывыіш свой нос, у сьвіннарніку духамі ні пахніць.* СМЫХЫВАЦЦА *незак.* Зморшчвацца. *Нечыга смы́хывыцца, табе ета самыя і дзядзька гывaріў, а ты як даўбень якей.* СМЫХНУЦЬ *зак.* Зморшчыць. *Нешта ні пыныравілыся, смыхнýў нос і атвярнуўся.* СМЫХНУЦЦА *зак.* Зморшчыцца. *Як увідзіў мазылыўскіх дзевык, смыхнýўся.*

СМЫЧАННЕ *н.* 1 *жарт.* Прадзенне. *Задреміць пад гребнім і кынчаіцца яе смы́чыньня.* 2 *перан.* Вымаганне. *Ні ныравіцца мне такоя смы́чыньня, ён сам ня зломык заробіць.*

СМЫЧЫЦЬ *незак. перан.* Вымагаць. *У цёткі смы́чыць капейчыны, іна патроху даець і даець.*

СМЯТАНІНА *ж.* Смятана наогул. *Другей ба раз і сьмітáніны нада, дык айдзе яе ўзяць.*

СМЯТАННІЧАК *м. памянш.* Ахвотнік да смятаны. *Ох, якей ты ў мяне сьмітáньнічык, а кароўку пасьвіць ня хочыш.*

СМЯХАЧ *м.* Той, хто смяецца. *Во сьміхáч, рызьбіраіць яго, нешта сьмешныя скызала Анька.* СМЯХАЧКА *ж. Сідзяць сьміхáчкі ў задній хаці, нешта успымінаюць вічарінку і рягочуць.*

СМЯЦЦЁ *н. зб. перан.* Бездапаможныя асобы. *Што яны ныработыюць, калі асталыся адно сьмяцьцё, а ні*

*работнікі. Памянш.* СМЕЦЦІКА *н.* Смецце. *Прікладзі сьмецьціка венічкым, каб куры ні рызгрібалі.*

СМЯЦЦІШЧА *н. зб. перан.* Нікуды не вартыя людзі. *Пры каго вы найшлі тулкуваць, ета сьмяцьці́шча адно, іх ніхто зу людзей ні вядзець. Памянш.* СМЯЦЦІШЧЫКА *н.* Сметнік. *Высып мусыр ны сьмяцьці́шчыка, там зірняты ёсьць, куры выбіруць.*

СНАБЖЫЦЬ *зак.* Забяспечыць. *Многа чаго нада снабжы́ць такіх, у іх горлы нінасытныя.* СНАБЖОМШЫ *дзеепрысл. У етым гаду яны снабжомшы, столька сена нывылачылі, што можна зыт̆ырхну́цца.*

СНАПАВЭЙ *прым.* Снаповы. *Сныпавэя перьвізьні вун, кылы пацсошка ліжаць.*

СНЯГІШЧА *м. павеліч.* Снег. *Я помню, якея сьнягі́шчы былі: старінькыя хата стыяла, дык цірязь верьх езьдзілі.*

СНЯЖНІЦА *ж.* Снегавая вада. *У шчолык нада ныбраць сьняжні́цы, у ёй хырашо аццыраіцца.*

СОДЖАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Пасаджаны (пра расліны). *Нібальшэй кусочык бульбы соджыныя, скырасьпелкі.* 2. Змешчаны (для выпечкі). *У цябе ішчэ хлеб ці соджын, а ты рузмундыкывыіш.*

СОКАТ *м. перан. іран.* Балбатня. *Ну зугувалінкі рысьсядуцца як паніхі і пычынаюць свой сокыт.*

СОЛЬКА *ж. памянш.* Соль. *Пасып яечка солькыю, смашней будзіць, солька дробнінькыя, белінічкыя.*

СОПКЕНЬКІЙ *прым. памянш.* Сопкі. *Розывыя бульба сопкінькыя, нада б узьвесца ны такей сорт.*

СОЎ *выкл.* Пра соўганне ў снезе. *Цяжолыя дарога, сьнег сыпкій, ідзеш, ногі соў, соў.*

СПАВАДЖЫВАННЕ, СПАВОДЖЫВАННЕ *н.* 1. Накіроўванне. *Глядзі, каб посьлі такога спыва́джывыньня ні ачынуўся ён у другім баку. Ты пысьлядзіла б хуць раз за іхным спаводжывыньнім.* 2 *перан.* Звычка. *Ад дурнога спыва́джывыньня зразу атучаць нада. Я вас атучу ат етыга спаводжывыньня, іш, узялі моду у сенцы і ў сенцы.*

СПАВІВАННІК *м.* Той, хто спавівае. *Якей з мушчыны спывіва́ньнік, сыма вазьмі, скруці. Памянш.* СПАВІВАННІЧАК. *Во, мне зразу два спывіва́ньнічкі памогуць.*

СПАВІВАННІЦА *ж. Твыя спывівáньніца каб дзіцёнка ні скаціла, ато будзіць бяды, як лясьніцца аб мост.*

СПАВЯДАЛЬНІК *м. перан. іран.* Той, хто лае, бэсціць. *Старэй тожа быў ладный спывідáльнік, умеў скырявіць.* СПАВЯДАЛЬНІЦА *ж. Пупадзіся ны язык той спывідáльніцы, усяго пачуіш.*

СПАГНАІВАННЕ, СПАГНОІВАННЕ *н.* Угнойванне. *Прі харошым спыгнáівыньні і на етый зямле хлеб рос. Якоя табе спагноівыньня, тута дзесіць гадоў як гной клалі.*

СПАДЗЕЯЦЦА *незак.* Спадзявацца. *Ны каго бабі адной спадзеіцца, сыма і ў лес, і ў бес, помышчы ніаткуль.*

СПАДНІЗЗЯ *прысл.* Знізу. *Суруватыя було, як клалі, спаднíзьзя сена троху пріпрела.*

СПАДНІЧЭНАЧКА, СПАДНІЧОНАЧКА *ж. памянш.-зніж.* Спадніца. *У Просі была адна спыднічэнычка, што наскрозь сьвяцілыся. Ты ж думый цяплейшыю спыднічонычку ны зіму набыць.*

СПАДРУШНЕНЬКІЙ *прым. памянш.* Спадручны. *Гаршчонычык быў спадрýшніцькій, усё галычкі атварівыла, ды рыскалоўся, німа.*

СПАЗДЫВАННЕ *н.* Спазненне. *Пыбягу, ато маё нычальства ня любіць спáздывыньня, буркутня пычанецца.*

СПАЗДЫВАЦЬ *незак.* Спазняцца. *Бягі луччы трошку раншы, каб ні спáздывыць ны аўтобус.* СПАЗДАЦЬ *зак.* Спазніцца. *Сяньня яны спыздáюць у школу, я прыспала, ні рузбудзіла воўрімя.*

СПАЗРАЦЦА *незак.* 1. Падабацца. *Ёй ніхто ні спызряіцца, ат кажныга круціць носым.* 2. Гнацца. *Нечыга табе спызрáцца ну Куліныга ўнука, ён прыцаўнік, а ты гультай.*

СПАІВАЦЦА *незак. метаф.* Моцна намакаць. *Чаму ж ня будзіць зімля спáівыцца, калі такея дажджы ільлюць.* СПАІЦЦА *зак.* Моцна намокнуць. *Бумага спаíлыся, яе ні рыскымкаіш, уся ірьвецца.*

СПАЛАВУМЕЦЬ, СПАЛАВУМНЕЦЬ *зак.* Звар'яцець. *Ці ён спылавýміў, етый чылавек, што зь вілкымі кідыіцца. Яй-богу, спылавýмнілі бабы, што брешуцца цэлыя раньня.* СПАЛАВУМНЕНЫЙ *дзеепрым. Спылавýмніный чылавек, большы пры яго нічога ні скажыш.*

СПАЛАЗІЦЬ *зак.* Аблазіць. *Як пойдуць у грібы, усю Радкеўшчыну спыла́зюць, так ня прідуць.* СПАЛАЖАНЫЙ *дзеепрым. Тута кажныя сасонычка спыла́жына, ніякіх казлоў ні найдзіш.*

СПАЛАНІВАЦЬ *незак. метаф.* Пакрываць (пра траву). *Сколька я ірву етый асот прыклятый, а ён спыла́нівыіць усядзьбу.* СПАЛАНІВАЦЦА *незак.* Пакрывацца (травой). *Бульба спыла́нівыіцца макріцыю, ні ўсьпіваю вынасіць.* СПАЛАНІЦЬ *зак.* Пакрыць (пра траву). *Макріца спыланіла клевір, яе нада вырвыць ну кусочыку на тым.* СПАЛАНІЦЦА *зак.* Пакрыцца (травою). *Сьвірепкыю ячмень спыланіўся, калі ні палоць, прыпадзець ны карён.* СПАЛОНЕНЫЙ *дзеепрым. Нічога с пышаніцы ня будзіць, іна спалоніна травою.* СПАЛАНЁМШЫ *дзеепрысл. У мыладэя хызяйкі гряды спыланёмшы бріцыю.*

СПАЛЮБЛЕНЫЙ *дзеепрым.* Пакаханы. *Сколька ў яе пірівярнулыся спалю́бліных, іна са шчоту зьбілыся ці можа ні шчытала ні разу.*

СПАМЯТАВАЦЬ *зак.* Успомніць. *Як спа́мітывыіш, сколька чаго було прі тваёй жызьні, ды ай-я-яй!* СПАМЯТАВАЦЦА *зак.* Успомніцца. *Во мне спа́мітывылыся, як пріiжджалі Мыксімёнкывы госьці.*

СПАНАДАБЛЯННЕ, СПАНАДАБЛІВАННЕ *н.* Патрэба. *Буваіць, што-небудзь выляіцца, а як спыныдыбля́ньня — і ні найдзіш пад рукі. Што ён талкуіць пры спыныда́блівыньня, ёй ужо нічога ні нада.*

СПАНАДАБЛЯЦЦА, СПАНАДАБЛІВАЦЦА *незак.* Рабіцца патрэбным. *Цяперя редка калі спыныдыбля́іцца бязьмен, нечыга важыць. Тады-сяды і скобля спыныда́блівыіцца, то жардзінку, то крюк апскабліць.*

СПАНАДЖЫВАЦЬ *незак. эмац.* Прывучваць. *Ты іх ні спына́джывый ны адны канхветкі ды пячэнінкі.* СПАНАДЖЫВАЦЦА *незак.* Прывучвацца. *Ох, як ён быйстра спына́джывыіцца у цябе к салодкыму!* СПАНАДЗІЦЬ *зак.* Прывучыць. *Яго дзедкыўскія хлопцы спына́дзілі і спына́дзілі туды бегыць.* СПАНАДЗІЦЦА *зак.* Прывучыцца. *Пацьцёлкі спына́дзіліся у вык, адбою німа.* СПАНАДЖАНЫЙ *дзеепрым. Я віджу, што ён у цябе спына́джыный і к чарычкі.*

СПАНТРОВЫВАННЕ *н.* Звучванне, прывыканне. *Ні ў мае рукі ён пупаў, я б зь яго скора спантровывыньня выгныў.*

СПАНТРОВЫВАЦЬ *незак.* Звучваць, прывучваць. *Спантровывыіця кароў біріжкамі ды кынаўкымі, у тубуне гылавы сагнуць ня хочуць.* СПАНТРОВЫВАЦЦА *незак.* Звучвацца, прывучвацца. *Відзіш, зь якіх гадоў спантровывыіцца за дзеўкымі пыгыняць.*

СПАРАВАЦЬ *зак. экспр.* Звесці (для сумеснага жыцця). *Ета іх спурува́ў Хведзька, а то б яны ні разу ні сыйшліся.* СПАРАВАЦЦА *зак.* Сысціся (для сумеснага жыцця). *Тады, як мы спурува́ліся, што плакыў Шурік бізь мяне!* СПАРАВАНЫЙ *дзеепрым. Нідаўна спурува́ныя, адзін ат аднаго ні ны шаг.*

СПАСІБКА, СПАСІБАЧКА *выкл. памянш.* Дзякуй. *Ты ж дай дзядзю спасі́бка зы яблычкі. Усё гываріла Мікілаю спасі́бычка, спасі́бычка, а ўчора лаіла за нешта.*

СПАСКУДНІЧАЦЬ *зак. метаф.* 1. Сапсаваць поўнасцю. *Спаску́днічыў свой касьцюм, яго толька к скату ныдзіваць.* 2. Зрабіцца дрэнным, нягодным. *Спаску́днічыў чылавек, раншы ён такім ня быў.* СПАСКУДНІЧАЦЦА *зак.* Зрабіцца дрэнным, нягодным. *І Мыкарька твой спаску́днічыўся, ні зуступайся зы яго.*

СПАСЦІГАЦЦА *незак. метаф.* Быць, знаходзіцца. *Некылі мне спысьцігáцца ў хаці, работы кругом нівісь сколька.*

СПАТВАРАННЕ, СПАТВОРЫВАННЕ *н.* Патуранне. *Тваё спытвыря́ньня ні ды чаго путніга ні дывядзець, разьві што ду цюрьмы. Я б такога спатворівыньня цярьпець ні стала.*

СПАТУХАЦЬ *незак. метаф.* Змяншацца (пра спякоту, тэмпературу). *Жарішча ні спутухáіць, дакуля іна будзіць так смаліць! К раньню жыра пычыла спутухáць.* СПАТУХНУЦЬ *зак.* Зменшыцца (пра спякоту, тэмпературу). *Цімпіратура спату́хла, і ён крепка заснуў.*

СПАТЫК *м.* 1. Спатыканне. *Во, і ў цябе спаты́к на роўным месьці, і такоя буваіць.* 2 *перан.* Затрымка. *Ач чаго ў іх спаты́к, я ні знаю, нешта ні пулучылыся зразу паехыць.*

СПАЦЬКІ *незак. дзіц.* Спаць. *Пойдзім спа́цькі, мой маліенькій. Коцікі сьпяць і мы будзім спа́цькі.*

СПІНАННЕ *н. метаф.* Супраціўленне. *Вот відзіш, што з Гаўрілывыга сьпіна́ньня пулучылыся.*

СПІНАННІК *м. метаф.* Той, хто супраціўляецца. *Такога сьпіна́ньніка ня дужа ў чом піряпреш.* СПІНАННІЦА *ж.* *А ня будзь ты сьпіна́ньніцыю, Якыў табе дзела саветыіць.*

СПІНАЦЦА *незак. метаф.* Супраціўляцца. *Сколька вы ні сьпіна́йціся, а стыршына што захочыць, то й зьдзелыіць.*

СПІРАННІК *м.* Той, хто пярэчыць. *Чаго ты еткій сьпіра́ньнік зыдаўся, так жа нікрасіва нікога ня слухыць.* СПІРАННІЦА *ж.* *Большыя уго ікая сьпіра́ньніца, а ў меншыя саўсем другей хракцір.*

СПІРАЦЬ *незак. перан.* Зганяць. *Яго і сь печы трудна сьпіра́ць, як зыляжыць, ні пувурухнецца.* СПІРАЦЦА *незак.* Пярэчыць. *Яму што ні гывары, усё сьпіра́іцца, ета хракцір такей.* СПЕРЦЬ *зак.* Сагнаць. *Чуць-чуць сьпёрла ў баню, саўсім ні хацеў іціць.* СПЕРЦЦА *зак.* 1. Запярэчыць. *Зь ім ні сапресься, што скызаў, ац свайго ні ацступіцца.* 2. Справіцца (звыч. у працы). *Сь Кізянком трудна сьперцца, ён як зьверь пакос гоніць.*

СПІРТАВОЗ, СПІРТАЎШЧЫК *м.* Перавозчык спірту, гарэлкі. *Раншы езьдзілі сьпіртавозы і ўсігда у нас нучувалі, у нас быў бальшэй двор с уездым і выіздым. Летым сьпіртыўшчыкі́ часта нучувалі пряма ны быльшаку.*

СПІЎНЭЙ *прым.* Піўны, з-пад піва. *Ці німа ў вас сьпіўны́х бутылык, мне б нада адна пірімяніцца.*

СПІХАЦЬ, СПІХЫВАЦЬ *незак. метаф.* 1. Завяршаць, каб пазбавіцца клопату. *На той нядзелі пычанём сьпіха́ць іструбчык ды крыць. Калі ж вы думыіця хаччыну сьпі́хывыць, восінь ны насу.* 2. Пазбаўляцца. *Нада сьпіха́ць ста́рыю хату, нейдзі ставіць новыю. Прідзіцца усё старьё сьпі́хывыць.* СПІХНУЦЬ *зак.* Завяршыць, узвесці. *Заўтря сыбіраім мушчын, яны за дзень і нымша́ць, і сьпіхну́ць іструб.* СПІХНУТЫЙ *дзеепрым.* *Хаты сьпіхнуты, стыяць, будуць сенцы прірублівыць.*

СПІЦА *звыч. ж. метаф.* Упартая асоба. *Тэй харош і іна сьпіца ладныя, калі ня будуць адзін другому ныравіць, ні ўжывуцца.*

СПІЧЧА *н. зб.* Запалкі. *Выйшла сьпічча, будзіш у лаўкі, ні забудзь узяць кырабкоў нескылька.*

СПЛАТНЕННЕ *н.* Ушчыльненне. *Нікуратныя у цябе сплатненьня, нада плотнінька складывыць.*

СПЛАЎЛІВАННЕ *н.* 1. Намочванне. *Кажный дзень у цябе мокра і мокра у сенцых, ныдаела ета спла́ўлівыньня.* 2 *метаф.* Перапраўлянне. *Спа́ўлівыньнім зынімаўся Заіка, етыя кралі, а ён сплаўлівыў за Сож.*

СПЛАЎЛЯЦЬ *незак.* Моцна намочваць. *Ні пызвыляй ім сплуўля́ць адзежу: і сушыцца дужа нейдзі, і ыпрастуджывыюцца.* СПЛАВІЦЬ *зак.* Моцна намачыць. *Крыша ўся, цякець як у решыта, дождж спла́віў заднію сьцяну.*

СПЛАШЭЦЦА *зак. метаф.* Аслабець. *Нашы стырікі тожа сплашэліся, чуць ногі пірістыўляюць.* СПЛАШЭЛЫЙ *дзеепрым. Марына сьвякрова сплашэлыя, доўга ні прыцягніць.*

СПЛЁТКА *ж.*, СПЛЕЦЕНЬ *м.* Плётка. *У такой сыбыка́рні якіх толька сплётык ні наслухыісься. Сямёнька путпусьціў етый сплецінь, большы б ніхто ні стаў прідумывыць.*

СПЛІТОВЫВАЦЬ *незак. метаф.* Укладваць, абкладваць. *Крепка сплітовывыіць сала ў кубліку і сольлю пірісыпаіць.* СПЛІТАВАЦЬ *зак.* Укласці, абкласці. *Сплітува́ла цела гырячымі тряпкымі, во трошку ляхчэй стала.*

СПЛОТНЫЙ *прым.* Добрага целаскладу. *Ны пыгляд як карцінка, тыкая сплотныя, тыкая красівыя, — рузьлюбувацца ны яе. Памянш.* СПЛОТНЕНЬКІЙ. *Сплотнінькія мальчонкі, здаровінькія, цэлый дзень носюцца то зь мячыкым, то ўпірягонкі.*

СПЛЫВАЦЬ *незак.* Сцякаць праз край (пры варцы). *Ты пыглідай ны гаршкі, каб ні сплува́лі, памешывый.* СПЛЫСЦЬ *зак.* Сцячы праз край (пры варцы). *Капуста сплула́, я пы запыху чую, што сплула.*

СПЛЮГАВІЦЦА *зак.* Збузавацца, забрудзіцца. *Троху було тріп'я, ні бярёг, кідаў як зря, усё сплюгавілыся.*

СПЛЮГАЎЛЕНЫЙ *дзеепрым.* 1. Збузаваны, забруджаны. *Касьцюм пасьці ня ношыный, а сплюгáўлін, што ны яго глядзець нілізя.* 2 *перан.* Збэшчаны, зняслаўлены. *У яе ўжо сістра сплюгáўліна, а ня то іна чужога чылавека памілыіць.*

СПОРНА *прысл.* Вельмі значна. *Плуг нада лігуліры-выць, каб спорна браў. Памянш.* СПОРНЕНЬКА. *Зыдашлівый плужок: і лёгінькій, і пашыць спорнінька.*

СПОРНАСЦЬ *ж.* Значны вынік. *Плужок каб лёгінькій, леміш каб правільна быў выгнут і навесьць нада, тады і спорнысьць будзіць.*

СПОРНЫЙ *прым.* Значны па ўласцівасцях (звыч. пра плуг). *У Дзяніса абы-якіх плугоў ні було, усе былі спорныя. Памянш.* СПОРНЕНЬКІЙ. *Цяперя ні рызьбіраюць, ці ета спорнінькій плуг, ці няспорнінькій, худзь ба як ускулупаць. Выш. ст. пар.* СПАРНЕЙШЫЙ. *Можна зыпрігаць спарнейшый плуг, Кыштан — крепкій, усё пыцягніць.*

СПОРЦІЦЬ *зак.* Сапсаваць. *Нешта круцілі, грюкылі, спорцілі замок, ні атмыкаіцца і ні зымыкаіцца.* СПОР-ЦІЦЦА *зак.* Сапсавацца. *Лоўкінькій быў хвынарік, удоб-ный, а во спорціўся.* СПОРЧАНЫЙ *дзеепрым. Яго машына даўно спорчыныя, ці ня трецьцій год стаіць.*

СПРАВАДЖЫВАЦЬ, СПРАВОДЖЫВАЦЬ *незак. перан.* Змяшчаць на захоўванне. *Відзім, што дождж ык находзіць, дывай мы скарей бульбу спрывáджывыць у погріб. Я ўлезу ў ямку, а ты мне справоджывый гырлачыкі пы аднаму.* СПРАВАДЗІЦЬ, СПРАВОДЗІЦЬ *зак.* Змясціць на захоўванне. *Бульба ў погрібі, каб і быракі туды спрывáдзіць, і моркву, ніхай будуць на месьці. Нада і астатнія сянцо ны хату справодзіць.* СПРАВАДЗІЦЦА, СПРАВОДЗІЦЦА *зак.* Змясціцца на захоўванне. *Капуста спрывáдзіцца ўніз і тады зымыкай погріб. Летым ікая травіна ні справодзіцца ў пуню, дык зімою як нáйдзіш.* СПРАВАДЖАНЫЙ, СПРАВОДЖАНЫЙ *дзеепрым. Капуста спрывáджына у пыдвал. У нас усё справо-джына.*

СПРАВОДЖЫВАННЕ *н.* Накіроўванне, змяшчэнне. *Селі аддыхаць посьлі справоджывыньня, многа сена пірі-цігалі.*

СПРАВЯДЛІВЕЙ *прысл.* Больш справядліва. *Кірей мог пушумець, ну дзелыў спрывядлі́віі. Анюта спрывідлівей скызала.*

СПРАВЯДЛІВЕЙШЫЙ *прым.* Больш справядлівы. *Чорт іх рызьбярець, хто спрывядлі́віішый. Цітанок спрывідлівейшый, ныпрасьніцы ня любіць.*

СПРАКОН *прыназ.* Здавён. *Спракон веку вялося: ні дывай карові зьесьць места.*

СПРАЎЛЯННІК *м.* Той, хто спраўляе. *Ты многа чаго нуспруўляў дзіцям, спруўля́ньнік найшоўся, піць меншы нада. Памянш.* СПРАЎЛЯННІЧАК. *Ці ёсьць у таго спруўля́ньнічка капейка зу душою?* СПРАЎЛЯННІЦА *ж. У вашых спруўля́ньніц усяго ныкрятына, некуды дзівацъ быгаства.*

СПРАЎЛЯЦЬ *незак. перан.* Набываць (адзенне). *А мне цябе незышта спруўля́ць, сам заробіць далжон.* СПРАЎЛЯЦЦА *незак.* Набывацца (пра адзенне). *Анічка пычыла спруўля́цца, ужо адзежы пырадышна вісіць.* СПРАВІЦЦА *зак.* 1. Управіцца. *Прі хызяйстві нада баба, ці мушчына адзін са ўсім справіцца.* 2. Набыць (адзенне). *Зы пасьледнія гады Аріініны дзеўкі нядренна спра́віліся.*

СПРОБАВАЦЬ *незак.* Каштаваць. *Ці спробывыла ты крупеню, можа ў ёй солі ні хвытаіць, сылянуць нада?*

СПРОБАННЕ *н.* Спроба. *Нічога ні дало спробыньня, крепка балька зыстряла, ня выцігніш.*

СПРОБАЦЬ *незак.* 1. Спрабаваць. *Нада ломым яшчэ раз спробыць, далжно ўзьвярнуцца бірьвяно.* 2 *перан.* Каштаваць. *Кажыцца спробыла быракі і пірісаліла.*

СПУЖНУЦЬ *зак.* Спалохаць. *Яны б і твой садок апчысьцілі, ды іх, відна, нехта спужнўў.* СПУЖНУТЫЙ *дзеепрым. Усё дно як спужну́тыя нейкія, беглі і агляды-выліся.*

СПУСКАННЕ *н. перан.* Пакіданне без увагі, нагляду, клопату. *Зямлю нада спыгнаівыць, такоя спуска́ньня ні гадзіцца. Як іна топіць? — палычку ўськініць, тая згаріць, к чаму ета спуска́ньня?*

СПУСЦЕЦЬ *зак.* Зрабіцца пустой (пра глебу). *Нівісь калі усадзьба гной пробывыла, спусьцела, ня родзіць.*

СПУСЦЕЛЫЙ *дзеепрым. Ну спусьцелый зямле сей ці ня сей, можа зáсіў верніш.*

СПЫРХЫВАЦЬ *незак.* Саскокваць. *С сукоў спы́рьхывылі, пакуля меншый нагу пыдвярнуў.* СПЫРХЫВАЦЦА *незак. метаф.* Спраўляцца, раўняцца. *Айдзе табе спы́рьхывыцца с Клімчынкамі, у іх пяціра трудаздольных у хаці.* СПЫРХНУЦЬ *зак.* Саскочыць. *Айдзе ты спы́рьхніш с такея вісычыны, тута сажні трі будзіць.* СПЫРХНУЦЦА *зак.* Справіцца, зраўняцца. *Хацеў ба ты спы́рьхнуцца з Гынчарёнкым, — не, ні палучыцца.*

СПЯЛЕННЕ *н.* Давядзенне да спеласці. *Будзіць табе сьпяленьня, што шынтрыпа аптрясець усё ды яблычка.*

СПЯННЁ *н.* Спеласць, даспяванне. *Холыд, дажджы, пагода нікудышныя, нічому німа сьпіньня́ і росту німа.*

СП'ЯНЧЫВАННЕ *н.* Співанне. *Сп'я́нчывыньня да толку ні дывядзець, п'яніц зы пасьледніх людзей шчыталі і шчытаць будуць.*

СП'ЯНЧЫВАЦЬ *незак.* Даводзіць да п'янства. *Друзья сп'я́нчывыюць яго, то адзін пыставіць, то другей.* СП'ЯНЧЫВАЦЦА *незак.* Даходзіць да п'янства. *Калі пычаў сп'я́нчывыцца, то й прыпаў, ня жджы дыбра.* СП'ЯНЧЫЦЬ *зак.* Давесці да п'янства. *Самі сп'я́нчылі хлыпца, а цяперя якочуць, зы гылаву хвытаюцца.* СП'ЯНЧЫЦЦА *зак.* Дайсці да п'янства. *Дычка ладныя жалывыньня пулучаіць, іна пудучылыся, а хлопцы сп'я́нчыліся.* СП'ЯНЧАНЫЙ *дзеепрым. У аднае мужык сп'я́нчыный і ў другея, пыплачуць дый ціґьпяць, а што ты зьдзелыіш.*

СПЯСЦЕНЕЦЬ *зак.* Спесціць. *Кукыл сваіх сьпясьценіла, нічога ня дзелыюць, толька танцулькі на ўме.* СПЯСЦЕНЕЦЦА *зак.* Спесціцца. *І Клімянкова сьпясьценілыся, што ляніцца карову цырканудь.* СПЯСЦЕНЕНЫЙ, СПЯСЦЕНЕТЫЙ *дзеепрым. Калі дзеці сьпясьценіныя, толку ат іх ні дыжыдай. Каб яны меншы былі сьпясьценітыя, луччы б було.*

ССАДЖЫВАЦЬ *незак.* Збіваць шчыльна. *Калі дужа круціць, прець, дык містамі сьнег крепка ссáджывыіць.* ССАДЖЫВАЦЦА *незак.* Збівацца шчыльна. *Як сільный веціp, сьнег ссáджывыіцца, што лупаткыю чуць удзяўбеш.*

ССАДЗІЦЬ *зак.* Ушчыльніць. *Была воцьціпіль, сьнег ссадзіла, ён замёрз, хуць едзь ны кані.*

ССАННЁ *н.* Ссанне. *Слабінькій цялёнычык, паетыму у яго і ссаньнё такоя, ты падзьдзержы яму галоўку.*

ССАННІК *м.* Той, хто ссе. *Мой ссаньнік насмокчыцца і засьнець лі цыцкі ну руках.* ССАННІЦА *ж. Ладныя ссаньніца ўзілася, два часы пройдзіць — і зноў пріклыдай, пішчыць.*

ССАЦЦА *незак.* Ссаць сябе. *Ці ні двынаццыць у етый карові: прівучылыся сса́цца, ляжыць і высьсіць сыма сябе.* ССАНЫЙ *дзеепрым.* Такі, якога ссалі. *Я як прібегла с поля, карова была сса́ныя: цялёнык атвізаўся, прібег і выссыў.*

ССЕДЖЫВАЦЬ *незак.* Сядзець і выносіць нязручнасці, непрыемнасці. *Хвытаіць жа ў яе цярьпеньня сьседжывыць у такой тлумішчы!*

ССЕЧ *зак.* Насячы, нарыхтаваць. *Каб сьсек вазок, прівёз ды ўпыряччыў, було б як найшоў.* ССЕЧЦА *зак.* 1. Ссячыся. *Што ні сьсякецца — пыляжыць, прасохніць і згаріць у печы.* 2 *перан.* Распачаць сварку. *Як сьсекліся нідаўнія падругі — дзіва було!* 3 *перан.* Спыніць сварку. *Ні на тую Сашка пупала, сьсеклыся, зумурувалыся, і большы слова ат яе ні пачулі.*

ССІЛЕЦЬ, ССІЛЕЦЦА *зак.* Здолець, змагчы. *Каб сьсіліў скасіць, там ёсьць ніплыхая атава пы аборычкых. Ці сьсіліцца ён адзін пыдняць такую ношку, паможч ба нада.*

ССІЛЬНІЧАЦЬ *зак.* Згвалтаваць. *Немцы ў дзяреўні сталі, злавілі дзяўчонку, пывялі к речкі і сьсільнічылі.* ССІЛЬНІЧАНЫЙ *дзеепрым. Лявон ні пыглядзеў і сьсільнічыную ўзяў, відна, любіў яе.*

ССЫЛЬШЧЫК *м.* Той, якога саслалі. *Ён рысказывыў, што ссы́льшчыкі пастроілі сабе дамы.* ССЫЛЬШЧЫЦА *ж. Тама была ссы́льшчыца, яны сыйшліся і жылі ўмесьці, траіх дзяцей ныжылі.*

ССЫЛЬШЧЫКАЎ *прым.* Такі, які мае адносіны да ссыльнага або належыць яму. *Кулініну дачку узяў ссы́льшчыкыў сын, пазьней яны пріїжджалі сюда.*

ССЫЛЬШЧЫЦКІЙ, ССЫЛЬНІЦКІЙ *прым.* Такі, які называе ссыльнага. *У ссы́льшчыцкый жызьні яны цяпнулі*

*горя, бяс крошкі хлеба пріхадзілыся сядзець. Якея там ссы́льніцкія вешчы, што ны табе і ўсё.*

ССЫПАЦЦА *незак. метаф.* Ападаць. *Сёліта дужа рана лісьця пычало ссыпа́цца.* ССЫПАЦЦА *зак.* Апасці. *Ета яшчэ ня восінь, калі цяремуха ссы́пылыся, іна ўсігда рана аблітаіць.* ССЫПАНЫЙ *дзеепрым. Цэлыю кучу ссы́пыныга лісьця ныгряблі.*

ССЯДАЦЬ *незак.* 1. Злязаць з воза. *Прідзіцца сьсіда́ць, кунюшок слабый, пуд узгорычык ні ўсьцягніць сем баб.* 2 *перан.* Пачынаць кіснуць (пра малако). *Дужа жарка, дык мылако пряма сьсіда́іць, як варіцца.* ССЯДАЦЦА *незак.* Пачынаць кіснуць (пра малако). *Аббіціка ня трогый, у ім мылако пычало сьсіда́цца.* ССЕСЦЬ *зак.* 1. Злезці з воза. *Цяжолый воз, нада сьсесьць, ато конь прістаніць.* 2. Скіснуць (пра малако). *У кушуночыку ні далі мылаку сьсесьць як нада.* ССЕСЦА *зак.* Скіснуць (пра малако). *Ета мылако зыкісаіць, вот-вот сьсядзіцца.* ССЕЛЫЙ *дзеепрым.* Зменшаны ад уздзеяння вільгаці. *Валінкі нымяклі, цяперя сьселыя на ногі ня хочуць лезьць.*

ССЯДЖЫВАННЕ *н.* Ссяданне (тканіны). *Я ня думыла, што такоя сься́джывыньня будзіць, ны каго цяперя ету кохту надзеніш?*

ССЯДЖЫВАЦЦА *незак.* Ссядацца (пра тканіну). *Дренный мыціріял пупаўся, памыла, дык рубашка сься́джывыіцца.*

ССЯРБЫВАННЕ *н.* Співанне сёрбаннем. *Пірістань балывыцца, ато пу губах палучыш зы такоя сься́рбывыньня.*

ССЯРБЫВАЦЬ *незак.* Співаць сёрбаннем. *Што ты верьх сься́рбывыіш, еж як нада і ні дурацься.* ССЯРБЫВАЦЦА *незак.* Співацца сёрбаннем. *Гляджу, як у цябе красівінька сься́рбывыіцца.* ССЯРБАЦЬ *зак.* Спіць сёрбаннем. *А ты вазьмі ды сьсірба́й зьверьху сьмітану.* ССЯРБАЦЦА *зак.* Спіцца сёрбаннем. *Трошку зьверьху сьсірба́лыся.* ССЯРБЫВАНЫЙ, ССЯРБАНЫЙ *дзеепрым. Во ж яно відна, што сься́рбывына. Ну нічога, калі трошку і сьсірба́на.*

СТАБУНЯЦЦА *незак. метаф.* Збірацца ў чараду. *Увосінь шпакі стубуня́юцца, а тады кучыю ліцяць у вырый.*

СТАБУНІЦЦА *зак.* Сабрацца ў чараду. *Скора халодныя ўремя, птушкі стубуніліся.*

СТАВЕНЬ *м.* Шчыт ад снегу. *Ставім лі бывльшыка стáвіні, яны троху задзержывыюць сьнег.*

СТАІВАЦЦА *незак. метаф.* Знікаць (пра боль). *Ні стáівыіцца жывот, ні прідумыць, чаго ён хочыць, я ўсяго хвытала.*

СТАКАВАННЕ *н.* Змаўлянне. *Будзіць ім стáкывыньня, як Пятрок сядзіць с пугыю ды пыцьсьцірягець.*

СТАКАВАННІК *м.* Змоўшчык. *Хто ні знаіць етых стáкывыньнікыў: у чэй-небудзь садок злазіць згыварівюцца.* СТАКАВАННІЦА *ж. А ні сьмяшы ты скамеік зь дзедкыўскімі стáкывыньніцымі.*

СТАКАВАЦЦА *незак.* Змаўляцца. *Ні знаю, пра што яны стáкывыліся, ну доўга дудукылі пыт павецьцю.*

СТАКАНОК, СТАКАНІК *м. памянш.* Шклянка. *Мылако пірільліцё у стыканок, а баньчку нада чысьцінька вымыць. Усе стыкáнікі у шкапчыку, яны пірямыты і апсушыны.*

СТАЛАВАННІК *м.* Той, хто сталуецца. *Скора мой стулувáньнік паедзіць, ці ні заўтря прідзіць за ім машына.* СТАЛАВАННІЦА *ж. Паўгода дзіржала дзьвюх стулувáньніц, яны няплоха плацілі.*

СТАЛЕШНІК *м.* Алоэ. *Нада було б узяць у каго ды пысадзіць сабе сталешніку. Памянш.* СТАЛЕШНІЧАК. *Ніхай ба рос свой сталешнічык, ім ранкі пріклaдывыюць.*

СТАЛЕШНІЦА *ж.* Дошка для столі. *Учора цэлый дзень сталешніцы стругалі, січас будзім цігаць наверьх.*

СТАЛКОВЫВАННЕ *н.* Дамаўлянне. *Якоя сталковывыньня з дураком, ты яму нічога ў гылаву ні ўдзяўбеш.*

СТАЛОВЫВАЦЬ *незак.* Вытоптваць дашчэнту. *Кажный год тута сталовывыюць лашчынку.* СТАЛОВЫВАЦЦА *незак.* Вытоптвацца дашчэнту. *Як жа ня будзіць сталовывыцца, калі рядым выгын!* СТАЛАВАЦЬ *зак.* Вытаптаць дашчэнту. *Відзіш, як стулувáлі край ячменю.* СТАЛАВАЦЦА *зак.* Вытаптацца дашчэнту. *Етый мысік усігда сталýіцца, скот яго як ток зьдзелыіць.* СТАЛАВАНЫЙ *дзеепрым. Зынясі мушчыным яблык, яны тэй стулувáный мысік аткосюць.*

СТАЛЮЖЫШЧЫ *мн. павеліч.* Сталюга. *Андросывы зьдзелылі сталю́жышчы ніізьвесна якея.*

СТАНАВІЦЦА *незак. перан.* З'яўляцца, уяўляцца. *Каторый раз матка пряма становіцца пірід вычамі, я знаю, ета ні ґ дабру.*

СТАНІВАННЕ *н.* Станчэнне. *Такоя ста́нівыньня і ні нада б, тута саўсім нечыму дзіржацца.*

СТАНІВАЦЬ *незак.* Рабіць тонкім. *Ні нада етык планычкі ста́нівыць, яны дзіржаць нічога ня будуць.* СТАНІВАЦЦА, СТАНЯЦЦА *незак.* Рабіцца тонкім. *Бяс толку ста́нівыюцца жардзіны, як прівізкі дзелыюцца. У цябе залішня пычалі стыня́цца брусочыкі.* СТАНІЦЦА *зак.* Зрабіцца тонкім. *Тыпарішча станílыся, што ны яго толька цяслу нысаджывыць.*

СТАНОЎЛЕНЫЙ *дзеепрым.* Пастаўлены. *Адзь дзяреўні нескылька станоўліных стаўбоў, а то ны зямле выляюцца.*

СТАПЛІВАННЕ *н.* Спальванне ў печы. *Што глядзець ны ста́плівыньня, нада пыткідаць, каб цёпла було ў хаці.*

СТАПТЫВАЦЬ *незак. перан.* Ушчыльняць (у пасудзіне). *Грібы ў банычку нада крепінька стаптывыць, тады яны луччы хрыняцца.*

СТАР *ж.* 1. Даўно мінулы час. *Бувала ж, у ста́рі глядзелі, каб і бацькі харошыга, і маткі харошыя дзеці.* 2 *зб.* Старыя асобы. *Асталыся старь у дзіріўнях, многа мы ныработыім.*

СТАРАВАЦЕНЬКІЙ *прым. памянш.* Стараваты. *На від яе жаніх стурува́цінькій. Ета стурува́цінькыя кохтычка.*

СТАРАДОЙКА *ж.* Старая карова. *Ніхай што стырадойка, іна бясцэнныя карова і ны мылако, і ны жыры. Памянш.* СТАРАДОЕЧКА. *Прідзіцца збуваць сваю стырадоічку, іна можыць ні пірізімуваць.*

СТАРАНЬКІЙ, СТАРАНЕЧКІЙ *прым. памянш.* Старэнькі. *Ішоў Ныпряёнык, на ём ста́рінькій пінжачок і штанёнкі вытріпыныя. Яго матка была ста́рінічкыя, хадзіла сагнутыя, я трошку помню.*

СТАРАСТВАВАЦЬ *незак.* Займаць пасаду старасты. *Сямён тады з год ста́рыствывыў, посьлі зьнялі, другога нызначылі.*

СТАРАЦЕЛЬ, СТАРАЛЬНІК *м.* Старанны працаўнік. *Ідзець мой стыря́ціль, ныработыўся, — во каб ён так сваё глядзеў, як калхозныя! Якей стыря́льнік Дзяніс быў, бувала, ідзець ат пана сы Сьвітазерья, заходзіць у сасоньнік і нясець ны сабе палку. Памянш.* СТАРАЦЕЛЬНІЧАК, СТАРАЛЬНІЧАК. *Во якей ты стыря́цільнічык узяўся, луччы зы маткі дзелыіш! Медлінна ў нашых стыря́льнічкыў работа дзьвігыіцца.* СТАРАЦЕЛЬКА, СТАРАЛЬНІЦА. *Стыря́цількі яны харошыя, толька большы ізыкамі работыюць, чым рукамі. Каб ты была тыкая стыря́льніца, як Мархва!*

СТАРАЦЕЛЬСКІЙ *прым.* Старанны. *Стыря́цільскыю работу ўсігда пызнаіш, як зря зьдзелына ня будзіць.*

СТАРАЦЕЛЬСТВА *н.* Стараннасць. *Во зяць ён, а я праўду скажу: стыря́цільнысьці ў яго ніскока німа.*

СТАР'Ё *н. зб. перан.* Старыя асобы. *Якея работнікі ў дзяреўні, адно старьё асталыся, некытырыя бізь дзьвіжэнія.*

СТАРОЖСТВА *н.*, СТАРОЖКА *ж.* Варта. *Зы старожства ладна пісалі, мой старік доўга сьцярёг амбар і пуні. Ён быў ны старожкі, выходзіць: вочы зыспаныя, — ета сторыж!*

СТАРОНАК *м.* Старая пабудова. *У іх старёнык хатка, нада новыю ставіць. Памянш.* СТАРОНАЧАК. *Двор старёнычык, усё чуць дзяржыцца.*

СТАРУХІН *прым.* Прыналежны старой. *Мне ішчэ нада стару́хін гарод апсімяніць, кусочык ячменю пасею і бульбу.*

СТАРУШОНКА *ж.* Старэнькая жанчына. *Нейкыя была ў іх стурушонка, а хто йна ім прівадзілыся, ні знаю. Памянш.* СТАРУШОНАЧКА. *Якую-то стурушонычку узялі дзяцей глядзець, а самі работылі.*

СТАРЧАНЁНАК, СТАРЧОНАК, СТАРЧАНОК *м.* Дзіця-жабрак. *Я трошку помню, як Сідыр хадзіў пу кусках і зь ім стырчанёнык быў. У вайну старчоных хадзіў пы нашый дзяреўні, аткуль-то здаліку. Што ты як стырчанок*

*якей аптріпаўся, аж цела сьвеціцца. Памянш.* СТАРЧАНЁНАЧАК, СТАРЧАНОЧАК. *Ці тута Пецька схуваўся? — а я думыю, ета нейкій стырчанёнычык лазііць. Ну-ка, пызнывай етыга стырчаночыка!* СТАРЧАНЯТЫ *мн. Ні глядзіць зы дзіцямі ніскольки, бегыюць апшэрпыныя як стырчыня́ты. Памянш.* СТАРЧАНЯТКІ. *Ніяк стырчыня́тык сваіх ні дагледзіць.*

СТАРЧЫК *м. памянш.* Жабрак. *Мы тады нібальшымі подрысьнімі былі, помню: хадзіў пы дзяреўні ста́рчык.*

СТАРЫКОЎСКІЙ *прым.* Такі, які мае адносіны да старога. *Стырікоўскім дзелым пад'еў і на печ, мыладэя ніхай рыспыріджаюцца.*

СТАРЫННЫЙ *прым. перан.* У старым веку. *Старі́нныя гады плахея: усё баліць, усё зьнібіць, табе і летым халодна.*

СТАРЫНУШКА *ж. эмац.* Даўно мінулы час. *Як успомніш старі́нушку, сколька чаго на сьвеці пірівярнулыся!*

СТАРЫЦЬ *незак.* Састарваць. *Чорт яе старі́ў, ёй ужо за восімдзісят, ета на від ні пыказывыіць на стольки.*

СТАРЭЛЫЙ *прым.* 1. Састарэлы. *Ні хачу я іціць зы старелыга.* 2. У старым веку. *У Мікілая гады старелыя, зы нас ён гадоў ны пітнаццыць старшы.* 3. Для старых. *Прідзіцца і мне, як Просі, зьбірацца у старелый дом.*

СТАСОВЫВАЦЬ *незак. эмац.* Збіваць, вытоптваць. *Ня лезьця крышу стасовывыць, я вам пыкажу!* СТАСАВАЦЬ *зак.* Збіць, вытаптаць. *Стряху стусува́лі, цалюхтынькій дзень па ёй гоцыліся, ні зьлізалі.* СТАСАВАЦЦА *зак.* Збіцца, вытаптацца. *Стусува́лыся салома, нікуды яе ня дзеніш, укінь сьвіньням.* СТАСАВАНЫЙ, СТАСОВАНЫЙ *дзеепрым. Ці відзіш ты, якей стог стусува́ный, ета твой меншый зывадэвуш, усё дзяцей туды валочыць. Ны стасовыный вык ажно глядзець страшна.*

СТАТУІН *м. эмац.* Высокі няўклюдны чалавек. *Вырыс стутуі́н, на лес гледзічы. Павеліч.* СТАТУІНІШЧА. *Я б с такім стутуі́нішчым іціць пысьцісьнялыся.* СТАТУІНКА *ж. Стыяла стутуі́нка, яе ніхто ні прігльшаў. Думыюць сваю стутуі́нку замуж аддаць, якей дурак яе возьміць. Памянш.* СТАТУІНАЧКА. *У іхным раду усе стутуі́нычкі.*

СТАЎБОЎШЧЫК *м.* Той, хто ставіць слупы. *Стаўбоўшчыкі ідуць пряма пы ўсядзьбых, пы пасевых, ні глідзяць, ці сеіна, ці ня сеіна.* СТАЎБОЎШЧЫЦА. *Хлопцы хадзілі і стаўбоўшчыца зь імі, яны нешта гыварілі, а іна запісывыла.*

СТАЎБОЧАК *м. памянш.* Слупок. *Кажыцца, крепка ўкыпаў стаўбочыкі, ні пывывырачывыюць.*

СТАЎБЯНЁК, СТАЎБЕНЬЧЫК *м. памянш. эмац.* Галава. *Надзень шапку, стыўбянёк замерзьніць, хыладзіна — ня вытрывыць. Саўсім зарос стаўбеньчык, ніяк ні дыбяруся апстрыжч.*

СТАЎКАНУЦЬ *зак.* Падумацца. *Як жа мне ні стыўканýла спрасіць, ці зьбіраіцца Васіль пріехыць, ці не.*

СТАЎПОРЫВАННЕ *н. эмац.* Збор гуртам. *Тады, ды вайны, усігда кылы Мікіты стаўпорівыньня було.*

СТАЎПОРЫВАЦЦА *незак. эмац.* Тоўпіцца. *У суботу і скрысеньня лі іхныга двыра стаўпорівыюцца сколька гадоў пыдряд.* СТАЎПОРЫЦЦА *зак.* Стоўпіцца. *Тама людзі стаўпоріліся, нічога нілізя було увідзіць.*

СТАХАВАННЕ, СТАХКАВАННЕ *н.* Змова. *Глядзіця, каб ета стáхывыньня ня кончылыся цюрьмою. А што мне іхныя стáхкывыньня, ета мяне ні кысаіцца.*

СТАХАВАННІК, СТАХАВАЦЕЛЬ, СТАХКАВАННІК, СТАХКАВАЦЕЛЬ *м.* Той, хто змаўляецца. *Пра нешта узноў шэпчуцца нашы стáхывыньнікі. Стыяць стáхывыцілі кылы ўгла, нешта задумылі. Зь іх такея стáхкывыньнікі, як зь віріб'я чысавэй. Ці ты ня відзіла тых саплівых стáхкывыцiлiў?* СТАХАВАННІЦА, СТАХКАВАННІЦА *ж. Ёсьць пра што пузюзюкыць стáхывыньніцым: як будуць кырыбчань пыдманівыць. Адна стáхкывыньніца атвалілыся ат тае кынпаніі.*

СТАХАВАЦЬ, СТАХКАВАЦЬ *незак.* Выклікаць змову, змаўляцца. *Мы-то знаім, што іх усякій раз стáхывыіць. Ён быў пычаў стáхкывыць на ета дзела Гынчыра, а тэй ні сыгласіўся.* СТАХАВАЦЦА, СТАХКАВАЦЦА *незак.* Змаўляцца. *Сьпірва пріглідаліся адзін ду другога, а тады пычалі стáхывыцца. Ня ўчы яго, ён знаіць, сь кім стáхкывыцца.* СТАХАЦЬ, СТАХКАЦЬ *зак.* Выклікаць змову, змовіцца. *Ізьвесна, што іх стáхыла, гарелычка. Яны такея прыйдзісьветы, што каго хочыш і на*

*што хочыш стáхкыюць.* СТАХКАЦЦА *зак.* Змовіцца. *Ці яны сяньня дружуць, яны даўно стáхкыліся, толька ты ні знаіш.* СТАХАНЫЙ, СТАХКАНЫЙ *дзеепрым. С прошлыга лета стáхыны ні разьлі-выда. Зразу можна було пыняць, што яны стáхкыныя.*

СТАШНАВАНЫЙ *дзеепрым.* Збедаваны, змучаны перажываннямі. *Цяперя і Пылага ходзіць стушнувáныя, асталыся адна бабскыю гылавою.*

СТАЮЧКА *ж.* Печка ў выглядзе галанкі. *У той хаці была грубка-стаю́чка, а на столі ат яе ліжак у комін.*

СТАЯКОМ *прысл.* Стоячы. *Усю дарогу ехылі стыяком, многа людзей набілыся. Памянш.* СТАЯЧКОМ. *Ныпярёд мы ні зыхацелі лезьць, стыячком пыстыялі кылы парога.*

СТАЯЦЬ *незак. перан.* 1. Навісаць (пра ападкі). *Дождж ужо стаі́ць, і ён як разойдзіцца, дык няскора успакоіцца.* 2. Выразна прыкмячацца. *Я толька глянула і зразу увідзіла, што у яе ў ліцэ рожа стаі́ць.* СТАЦЬ *зак.* Адысці, скончыцца. *Чарніцы стáлі, цяперя калі найдзіш што, дык жавіны.* СТАЯ *дзеепрысл.* У рост чалавека. *Каб ні дывалі пы мяху, а далі дзьве буханкі і вязі, а то ныкладуць іс стыя́ чылавека мех!*

СТВАЛАВЭЙ, СТВАЛАВЫЙ *прым.* Такі, які пачаў расці ў ствол. *Ствылавэй турнепс вырьві, зь яго нічога ня будзіць. Гоніць ствылывáя редзька.*

СТОКА *прысл.* Стольки. *Каб ты стока ускыпаў, тожа б зымарі́ўся і йціць нікуды б ні зыхацеў. Памянш.* СТОЛЕЧКА. *Столічка зь мяне хваціць, большы ні каплі ні пыдлівай.*

СТОЛЕННЕ *н.* 1. Насціланне столі. *На століньня дужа бальшэй масьцір ні нада, кароткія досткі любэй падгоніць.* 2. Матэрыял для столі. *Ляжыць усё століньня кріцыю на вуліцы, худзь ба саломыю прікінулі.*

СТОЛЕННІК *м.* Той, хто насцілае столь. *Мы ўжо гатовімся, заўтря к нам прідуць століньнікі.*

СТОЛІЦЬ *незак.* Насцілаць столь. *Цягнуць большы некуды, сяньня нада пычынаць століць.* СТОЛІЦЦА *незак.* Насцілацца (пра столь). *Ня дужа нешта ў іх пыдзьвігаіцца, медлінна століцца.*

СТОЎПІЦЦА *зак. перан.* Застацца, асесці поўнасцю. *Усё Стыхваныва золыта у дачкі стоўпілыся. У яго і долыцца стоўпілыся, нягож айдзе яно дзелыся.*

СТРАБЛЯННЕ, СТРАБЛЕННЕ, СТРАБІЦЕЛЬСТВА *н.* Знішчэнне, вынішчэнне. *Як успомніш, якоя стрібля́ньня було, дык ай-я-яй! Посьлі еткыга стрябленьня лясоў кругом пасьці ні асталося. Ета ж ныстыяшчыя стрябіцільства, такея лужкі былі, сена бралі, а рыскывірялі — ні хлеба, ні сена.*

СТРАБЛЯННІК, СТРАБЛЕННІК, СТРАБІЦЕЛЬ, СТРАБІЦЕЛЬНІК *м.* Той, хто знішчае, вынішчае. *Во як стрібля́ньнік ваюіцца зь лібядою! Зыпаріўся стрябленьнік, лазу нада высікаць с кареньнім, іна дужа атрыстаіць. Пыглядзі, каб стрябіцілі бульбу ні лумалі. Узяўся зы работу стрябіцільнік, усе дзяды пывысікаіць.* СТРАБЛЯННІЦА, СТРАБЛЕННІЦА, СТРАБІЦЕЛЬНІЦА *ж. Ідзець наша стрібля́ньніца, чуць ногі пірідзьвігаіць, ныпалолыся. Давольны стрябленьніцы: усю макріцу пылажылі. Баіцца стрябіцільніца зы асоціну ўзяцца.*

СТРАГАВАЦЦА *незак. метаф.* Надберагацца. *Як страгу́іська, тады ляхчэй, а што ні так зьясі, зарежыць пуд грудзямі.*

СТРАД *м.* Пакуты. *Пускаіць дзяцей ны страд. Мы знаім, сколька іна стра́ду прініла.*

СТРАДАННІК, СТРАДАЦЕЛЬНІК *м.* Пакутнік. *Біз рукі — ета вешный стрыда́ньнік, а асобінна з мыладых гадоў. І Санька быў стрыда́цільнік, што ты думыіш: з двыццаці гадоў ны адной наге. Памянш.* СТРАДАННІЧАК. *Стрыда́ньнічык ты мой, горя ты маё горькыя.* СТРАДАННІЦА *ж. Мурашычка мыя, стрыда́ньніца мыя, прігыварівыіць дзед ныда мною, чуць ні плачыць.*

СТРАЖЭЙШЫЙ, СТРАЖЧЭЙШЫЙ *прым. перан.* Больш акуратны, дакладны. *Трахім быў стражэйшый, усё акуратна дзелыў. Пры Сідарёнка ні скажу, а Лявон многа стражчэйшый. Памянш.* СТРАЖЭЙШАНЬКІЙ, СТРАЖЧЭЙШАНЬКІЙ. *Каб ты быў стражэйшынькій, так ба цяп-ляп ня дзелыў. Ні такей ён стражчэйшынькій, як ты гаворіш.*

СТРАКАТНУЦЬ *зак. перан.* 1. Выстраліць кароткай чаргой. *Па мне стрікатну́лі, ну я пасьпеў лежч, а Сенькіныга хлыпца забіла.* 2. Прагаварыць шпарка, незразумела. *Ці пыняў ты, што іна стрікатну́ла?*

СТРАЛЬНУЦЬ *зак.* 1. Выстраліць. *Кылы мяне шагі за трі стряльну́ў, я дужа-дужа піріпужалыся.* 2 *перан.* Выпрасіць. *Сваіх пыпірос у яго зроду німа, усігда глядзіць, у каго б стряльну́ць.*

СТРАЛЯК, СТРАЛЯКА *м. жарт.* Няўмелы паляўнічы. *Вот бярецца стріля́к, мядзьведзя можыць улажыць. Бягіць стріля́ка зу руж'ём, усё дно як заіц будзіць сядзець, ждаць яго.*

СТРАПАЛЕННІК *м.* Падбухторшчык. *Хвядосінкыў стрыпаленьнік нешта доўга дукуваў Хрісьцінкіныму мальцу.* СТРАПАЛЕННІЦА *ж. Ніхто ні найдзіцца ладна прыздравіць вашу стрыпаленьніцу.*

СТРАПІЛІНА *ж.* Кроквіна. *Стряпі́ліны я трошку апіцісаў, ну іх мулувата, нада яшчэ прівезьць. Памянш.* СТРАПІЛІНКА. *Прібяріця к сьцяне стряпі́лінкі, ніхай пыд ныгамі ні выляюцца.*

СТРАПІЛЫ *мн.* Кроквы. *Скора хатку ські́дылі, ужо стряпі́лы ставюць, накрыюць і пірібяруцца. Памянш.* СТРАПІЛКІ. *Палкі ны стряпі́лкі ёсьць, нада выбрыць урemя ды зьвізаць.*

СТРАТА *ж.* Выдаткі, якія звычайна ўзнаўляюцца. *Цяперя пры стра́ты і ні гаворюць, а раншы, калі жаніх пытраціўся, а свадзьбы німа, то нада було стра́ту плаціць.*

СТРАХАПУДЗІК, СТРАХАПУДНІЧАК *м. памянш.* Страшны са знешняга выгляду чалавек, пачвара. *Ідзі сваіх стрыхапу́дзікыў рызглідай, а маіх дзяцей ня трогый. Ніхай у мяне стрыхапу́днічык, а ў цябе кукылка, табе й хырашо.* СТРАХАПУ́ДАЧКА *ж. Будзіць табе стрыхапу́дычка, як Мархва пачуіць.*

СТРАХАЦІШЧА *ж.* Вялізны страх. *Тыкая стрыхаці́шча ім была, яны чуць жывэя прібеглі зь лесу.*

СТРАХАЦЬ *незак.* Страсаць. *Сьнег стріха́й ны дваре, ні нясі мыкрыцьця́ ў хату.* СТРАХАНУЦЦА *зак.* Стрэсціся. *Крайкі стріхану́цца, тады можна паціхіньку пыднімаць, зірняты ссыплюцца пысярёд.* СТРАХАНЫЙ,

СТРАХАНУТЫЙ *дзеепрым. Ня дужа відна, што пыль стрıха́на, пряма кымкамі ляжыць ны сьпіне. Зімля трошку стріхану́та, ну нада выбіць пасьцілкі.*

СТРАШАННІК *м.* Той, хто палохае. *Ніхто вашыга стра́шыньніка ні спужаўся, ніхай ён сам сябе пыстрашыць.* СТРАШАННІЦА *ж. Другая стра́шыньніца явілыся, ці мне ўжо ўцікаць нада, ці што.*

СТРАШНЮШЧЫЙ *прым.* Страшэнны. *Якея страшню́шчыя зьвяр і ў яго кніжкі нырісовыны!*

СТРАШЭННІК *м.* Страхар. *Зьлезьлі стряшэньнікі, сідзяць, аддыхаюць, на крышы нялоўка работыць.*

СТРОНУЦЬ *зак. перан.* Зрушыць, надарваць. *Ціряшчур пыдняў, стронуў жывот, каторый дзень кычаіцца.*

СТРУГАННЕ *н. перан.* Праборка. *Ня дужа яны пынімаюць струга́ньня, пасупюцца троху і муўчаць.*

СТРУГАЦЬ *незак. перан.* 1. Даваць праборку. *Цябе жонка сь цёшчыю, знаць, кажный дзень струга́юць.* 2. Рабіць (дзяцей). *Мысяёнык ладна струга́іць, жонка, памойму, ці ні пятым ходзіць.* СТРУГАНУЦЬ *зак.* Пастругаць. *Брусочык нада чысьцей стругану́ць, ато на ём рукі пызыскаблівыіш.* СТРУГАНУТЫЙ *дзеепрым. Тут стругану́та, ды мала, нада б чысьцей прайціць хвуганкым.*

СТРУЖОНКА *ж.* Стружка. *Су стружонкыю нічога ня зьдзелыіш, пыдмяці ґ загнету, у печ заўтря ўкініцца.* Памянш. СТРУЖОНАЧКА. *Узялі етых стружонычык дробнінькіх, у гроб пылажылі.*

СТРУПЕШЫЦЦА *зак.* Струпехнуць. *Паплёт пыліжаў у сырым, струпешыўся, толька на дровы пасеч.* СТРУПЕШАНЫЙ *дзеепрым. Дзьве струпешыныя палычкі піпярезылі, ат іх ніякыга духу ня будзіць.*

СТРУПОК, СТРУПІК *м. памянш.* Струп. *Струпок як засохніць, ты яго ні кывіряй, ато ўзноў ранка рызбаліцца. Былі пы ліцу болькі, а цяперя пызысыхалі, стру́пікымі ўзяліся.*

СТРУЧЧЫКА *н. зб. памянш.* Стручча. *Дробнінькыя стру́ччыка ны квасолі, відна, пагода пыўліяла.*

СТРУШОНКА *ж.* Трасянка. *Струшонкі нытрясець карові і пацьцёлку, зыкладзець, а тады да беда кычаіцца як быбак. Струшонку, бувала, трясьлі каровым, коні стру-*

*шонкыю ні кармілі. Памянш.* СТРУШОНАЧКА. *Струшонычкі тріханула, зыклала пацьцёлычку і палезла на печ.*

СТРЫВОЖЫВАЦЦА *незак. перан.* Мяняць месца працы. *Ня хочыць ён зь места стріважывыцца, у яго ніплыхая работа.* СТРЫВОЖЫЦЦА *зак.* Памяняць месца працы. *Ты падумый сам: тута стріважысься, а ці пупадзецца што путнейшыя.*

СТРЫГУНКОЎ *прым.* Прыналежны да стрыгунка. *Стрыгункову вярёвычку ні зыкідай, іна ішчэ спына́дыбіцца.*

СТРЫЖЦА *незак. метаф.* Траціць вусікі (пра зерневыя культуры). *Ждаць большы некуды, жаць нада ячмень, ён пычынаіць стры́жца.*

СТРЫКАЗЁЛ *м. іран.* Легкадумны ў каханні чалавек. *Ета Аўдоткін стріказёл бегыіць, нявест сабе шукаіць.* СТРЫКАЗЛІХА *ж. Стріказьлі́ха, — большы пры яе нічога ні скажыш, стыдна дзяўчонкі так сябе весьць.*

СТРЫКАЗЛЕННЕ *н. іран.* Задаванне, вычваранне. *А відзілі мы яго стріказьленьня, з дурука дурноя плувець.*

СТРЫКАЗЛІЦЬ, СТРЫКАЗЛІЦЦА *незак. іран.* Задавацца, вычвараць. *Рысказывылі, што іхныя хлопцы дужа стріказьлілі ны вічарінкі. А нечыга твайму Антоньку стріказьлі́цца.* СТРЫКАЗЛЁМШЫ *дзеепрысл. Голывы паскручывыюць стріказьлёмшы, чаго зь іх ні вытвыряіцца!*

СТРЫКАПЫЦІЦЬ *незак. жарт.* Імкліва бегчы. *Я відзіў, як вы стрікапы́цілі с Сахронывыга сыдка, ці ні хацеў ён вас пыдлавіць?*

СТРЫКАЦЕЛЬНЫЙ, СТРЫКАТНЫЙ *прым.* Пякучы. *Ета крапі́ва ох стрыка́цільныя, рукі агнём гыряць. Усе ногі пыпікла, дужа стрыка́тныя крапіва, ну яе, ні хачу і маліны.*

СТРЫКЛІВАСЦЬ *ж.* Уласцівасць аппякаць (пра крапіву). *Саўсім мыладзенькыя крапіва, а столька ў ёй стрыклі́высьці!*

СТРЫЛЮДЗІЦЬ *зак.* Сказаць пустое. *Па-мойму, пры Напрея шыркыўцы стрілю́дзілі.* СТРЫЛЮДЗІЦЦА *зак.* Пусціцца (пра пустую чутку). *Што-небудзь стрілю́дзіцца і пашло гуляць ат вушэй ду вушэй.* СТРЫЛЮДЖАНЫЙ

*дзеепрым. Мы чулі, што і пры Пырасычку було стрілю́джына.*

СТРЭЧАНСКІЙ *прым.* Такі, які мае адносіны да стрэчання. *Во буваюць пякучыя стречынскія морозы! Бутылычка стречынскія вады.*

СТУБЫХАННЕ *н.* Цяжкае ступанне. *Во стубуха́ньня, бух, бух пы масту, як якімі кындылами.*

СТУБЫХАННІК *м.* Той, хто цяжка ступае. *Толька што стубуха́ньнік, чуць пірідзьвігаіцца.* СТУБЫХАННІЦА *ж. Дзьвіжыцца некуды стубуха́ньніца, верна, куму пышла атведыць.*

СТУБЫХАЦЬ *незак.* Цяжка ступаць. *Стубыха́іць ныгамі як тумбымі, яны ў яе дзьвігыцца ня хочуць.* СТУБЫХАЦЦА *незак.* Цяжка ступацца. *Табе красіва стубыха́іцца, толька пыглядзець.*

СТУКАННЕ *н. перан.* Данос. *А думыіш, у нас ні було такіх, што сту́кыньнім зынімаліся?*

СТУКАТАЦЦА, СТУКАЦЕЦЦА *незак.* Грукаць. *Ён, верна, ш час к Лявонывым стукута́ўся, яны спалі і ня чулі. Стукацецца я доўга ня буду, пагрюкыю, калі ні аччынюць, пайду двору.*

СТУКАЦЕННЕ *н.* Груканне. *Ныдаела мне стукаценьня хужы горькія редзькі, ні мінуты спакою німа.*

СТУКАЦЕННІК *м.* Той, хто грукае, ляскае. *Як рызваю́юцца стукаценьнікі, ажно увушшу зьвініць.* СТУКАЦЕННІЦА *ж. Стукаценьніца як возьміцца, як хлапчонка якей, ляпыіць і ляпыіць.*

СТУКАЦЬ *незак. перан.* 1. Выяваць. *Німа ў сьвеці зымірения, пачуіш, то там сту́кыюць, то там грюкыюць.* 2. Даносіць. *У любой дзяреўні на́йдуцца такея, што любюць ну людзей сту́кыць.*

СТУПА *ж. метаф.* Пра тоўстую жанчыну. *Разьдзелылыся сту́па, што мацеріі ні ныбяресься ныдзівацць яе. Павеліч.* СТУПІШЧА. *Ідзець сту́пішча, зь ёю ны адной дарогі ні рызьмінесься.*

СТУПЕНЬ *м.* і *ж. эмац.* Гультай. *Пры якея ты зяці вярьзеш, каму такей сту́пінь у хаці нада. Пасьледнія сту́пінь вырысла, відра вады ні прінясець.*

СТУПЕНЬ *м.* Ступня. *Нада ж так прідумыць — ступень абварыў: у кіпяток нагу ўсунуў.*

СТУСМЕЦЦА *зак.* Змарнець. *Ні хацеўшы стусьмеісься, калі горя за горім building станyць узвалівыцца.*

СТУЎБА *ж.* Вельмі мажная жанчына або поўная частка цела (рука, нага). *Пышла стýўба к Высілёнку. Ступаіць сваімі стýўбымі, чуць варочыіцца. Павеліч.* СТУЎБІШЧА. *Разьдзелылыся стýўбішча пудоў ны дзьвінаццыць, ёй іціць цяжола.*

СТУШЫЦЬ *зак.* Зрабіць тухлым, пратушыць. *Ладныя хызяіны: апсмалілі кыбанчыка і стушылі: зы гарелкыю прібраць було некылі.* СТУШЫЦЦА *зак.* Добра прасмажыцца. *Бульба хырашо стушылыся, ажно ўжалела, мáлыя такую любюць.* СТУШАНЫЙ *дзеепрым.* Добра прасмажаны. *Каб к етый бутылычкі стýшыныя быранінка, во была б закуска!*

СТЫДАЦЦА *незак.* Саромецца. *Я чужога ня трогыла, Рухамініхіных падушык у мяне німа і стыдáцца мне нечыга.*

СТЫЛІШЧА *ж. павеліч.* Халадэча. *Ны такой стылішчы многа ні ныпірібіраіш, рукі скычанеюць і ўсё кініш.*

СТЫНЕЛЫЙ *дзеепрым.* Згнілы ў макрэчы. *Стынелыя паплеціны лумаюцца, яны толька на дровы, большы нікуды ня годны.*

СУБОЖЫВАННЕ *н.* Намаганне з цяжкасцю, пры адсутнасці сілы. *Калі сіла ўся, дык ніякыя субожывыньня ні пáможыць.*

СУБОТКА, СУБОТАЧКА *ж. памянш.* Субота. *Во й сýботка прішла, аддыхнём трошку. Ніхай ба ўжо скарей суботычка, можа мае пацскочуць, памогуць з бульбыю рызыбраццa.*

СУБЫЧЫВАННЕ *н.* Збіранне. *Знаю я тваё субычывыньня: толька ізыком трепліісься, большы нічога.*

СУБЫЧЫВАЦЦА *незак.* Збірацца. *Ты ўжо трецьцію нядзелю субычывыісься коўрыты пыправіць.*

СУВАІНА *ж.* Пяньковы шнур для віцця вяроўкі. *Суваіну якую пупадзеш і зывяжыш мяшок, ішчэ крыса табе нада. Памянш.* СУВАІНКА, СУВАІНАЧКА. *Во нейкыя*

*суваінка ёсьць, ці будзіць іна дзіржаць, ці не. Мне атреж нібальшэнькыю суваінычку вузялок пірівізаць.*

СУВАЛАЧКА *ж. памянш.* Пакулле. *Ціпляты у су́вылычку як уклычыліся, я ім з ног зьдзірала, зьдзірала яе.*

СУГОН *м.* Прымус. *Ня дужа яны твайго сугону быяцца, іх ні так лёхка пыдыгнаць.*

СУГОРБІЦЦА *зак.* Згорбіцца. *Ты ж ні так старэй, а сугорбіўся, як дзіваноста гадоў старік.* СУГОРБІЎШЫ *дзеепрысл. Кірей тожа стыяў там сугорбіўшы, некыга ждаў.*

СУДЗЁЖНЫЙ *прым.* Судзімы. *Раз чылавек судзёжный, яму усюдых німа даверія.*

СУДЗІШЧА *ж.* Вялізная пасудзіна. *Такую су́дзішчу вады як нубухторюць, на троя судык хвытаіць.*

СУДЗЬБІНА *ж. зніж.* Лёс. *Во судзьбі́на выпыла чылавеку: у сваёй хаці і то спакою німа.*

СУДОЛІВАННЕ *н.* Перамога, асільванне. *І сіла нада, і хракцір, тады й судолівыньня будзіць.*

СУДОЛІВАННІК, СУДОЛІВАЦЕЛЬ, СУДОЛІВАЦЕЛЬНІК *м.* Той, хто перамагае, асільвае. *Зь естым судолівыньнікым любому мальчыку нечыга справіцца. Глядзі, каб судолівыціль другей раз ні пабег зарёўшы. Судолівыцільніку нада ішчэ многа кашы зьесьць.* СУДОЛІВАННІЦА, СУДОЛІВАЦЕЛЬНІЦА *ж. Знаіш, ікая с Аріны судолівыньніца: у быразёнкі зы камлыжку зачэпіцца і валіцца. Калі-то была судолівыцільніца, а січас ёй вядро вады прінесьць у цягысьць.*

СУДОЛІВАЦЬ *незак.* Перамагаць, асільваць. *Сколька бед мы судолівылі, успымінаць іх ня хочыцца.* СУДОЛЕНЫЙ *дзеепрым. Сколька ня борііцца, усігда пойдзіць судоліный, мала ў яго сілы.*

СУДЦЫ *мн. памянш.* Суды. *Січас я зьбегыю, зычарепну су́ццы вады, нальлеш цугун. Павеліч.* СУДЗІШЧЫ. *Пад ету гару су́дзішчы цягніш, цягніш, дух вылазіць, а яны прівыклі, нічога.*

СУКАВАННІК *м.* Той, хто замаўляе словам «сук» пры гульні ў мяч. *Я цябе нусукую січас пы грібах, сукува́ньнік мне найшоўся.* СУКАВАННІЦА *ж. Во ўзяліся сукува́ньніцы, адна чышчы другой!*

СУКАВАЦЕНЬКІЙ *прым. памянш.* Сукаваты. *Палычкі нятоўстыя, ну сукува́цінькія, ня дужа паколюцца.*

СУКАЛЬЦА, СУКАЛКА *н. памянш.* Сукала. *Не ўжо, німа ў мяне сука́льца, цяперя ніхто ні прядзець, нашто яно. Ты мне абізацільна пычыні сука́лка, у ём с правыга боку выіжджаіць.*

СУКАННІК *м.* Той, хто сукае. *Ці ні заснуў сука́ньнік нац цэўкыю? Памянш.* СУКАННІЧАК. *Во ў мяне памошнікі сука́ньнічкі ёсьць.* СУКАННІЦА *ж. Сука́ньніца зыгыварілыся і пры работу забыла.*

СУКОНАЧКА *ж. памянш.* Суконка. *Зімою ў лапці, бувала, усігда суконычку ны нагу зывырачывыіш, іначы халодна.*

СУКРАТ *м.* Вузел на нітцы. *Калі ніткі дужа пірякручыны, на іх сукра́ты буваюць. Памянш.* СУКРАЦІК. *Нывышча́нь хырашо, каб сукра́цікымі ніткі ні браліся.*

СУМАШЭДЧА *прысл. метаф.* Празмерна. *Работылі яны сумашэчча, бувала, ныпірягонкі косюць, а тады адзін зы адным у Вяхру.*

СУМАШЭСТВА *н.* Вар'яцтва. *Ну ета ж пряма сумашэства прідумыць такую чуш ны Дзім'янёнка.*

СУМЁЦІК *м. памянш.* Сумёт. *Веціp падуў, во й сумёцікі пашлі пы дарогых, трудна ехыць.*

СУМІЦЦА *зак.* Збянтэжыцца, разгубіцца. *Як пычыла Максіміха выгыварівыць яму, дык сумі́ўся, спусьціў гылаву.*

СУНДУК *м. метаф.* Пра тупога, абмежаванага чалавека. *Ні прідумыць, у каго урадзіўся сунду́к еткій, у Ахремывых такіх ні було.*

СУПАРАТЧЫК *м. жарт.* Упарты чалавек. *Ладный супура́ччык Арінін меншый, слова яму ні гывapі.* СУПАРАТЧЫЦА *ж. Ну ета ні ны мяне, я б с такея супура́ччыцы скора ду́рікі выгныў.*

СУПАРАТЫВАННІК *м. жарт.* Той, хто супраціўляецца. *Ах ты, супура́тывыньнік, я цябе усё раўно пірімагу.* СУПАРАТЫВАННІЦА *ж. Супура́тывыньніца дзяўчонка, усё каб ёй ба́лывыцца з бабыю ці зь дзедым.*

СУПРАДАШНІЦА *ж.* Удзельніца попрадак. *Раншы су́прідышніцы чуць ні пыд раньня сядзелі то ў таго, то ў другога.*

СУПРАДКІ *мн.* Попрадкі. *Дзеўкі любілі су́прідкі, усігда у Мільяныўых сыбіраліся. Памянш.* СУПРАДАЧКІ. *Ты ўсігда стырялыся у су́прідычкі бегыць, каб сы сваім Пынаськыю устрічацца.*

СУПЯРЭЧАННЕ *н.* Пярэчанне. *У Сылдацёнкыў ні було супяречыньня, што іна йдзець за Шуріка, ідзі, зы каго хочыш.*

СУПЯРЭЧЫЦЦА *незак.* Выказваць пярэчанне, нязгоду. *Маша ні стала супяречыцца: хочыш брацъ ныстаўніцу — бярі, жывіця.*

СУПЯСЧАВАТЫЙ *прым.* Супясчаны. *Зімля супішчыва́тыя, як гною уваліш, дык і нажнеш.*

СУРАДЖАННІК *м.* Той, хто рыхтуе, збірае, рыхтуецца, збіраецца. *Вы суріджа́ньнікі усё дно як дзеўкі пірід вічарінкыю. Памянш.* СУРАДЖАННІЧАК. *І ты харошый суріджа́ньнічык, толька малінькій, ні падрос яшчэ.* СУРАДЖАННІЦА *ж. Куды ім да тэя работы, пабеглі суріджа́ньніцы ны празьнік гатовіцца.*

СУРАЧКА *ж. метаф.* Дробязь. *Зы пырядкым іна дужа глядзіць і сваіх гыняіць, каб нійдзе су́рычкі ні було.*

СУР'ІКА *н. памянш.* Дробнае смецце. *Па столі як ходзіш, зымазка патрескылыся, дык су́рыка зьверьху сыпліцца.*

СУРЛІНА *н. узмацн.* Мурло, морда. *Уго якоя су́рліна у Мыцьвяёнка, разьеўся ну чужом добрым. Павеліч.* СУРЛІШЧА. *Наеў у дваре су́рлішча, што хуць ны кані аб'іжджай.*

СУРНУЦЦА *зак.* Сыпнуцца (пра смецце). *Пызыкрывай посыд: пы хаці будуць хадзіць, можыць зьверьху сурну́цца.*

СУРОДАВАЦЬ *зак. эмац.* Вельмі сапсаваць, пашкодзіць. *Аткуль іх ныбралыся столька мышэй, увесь погріб суродывылі.* СУРОДАВАНЫЙ *дзеепрым. Была крыша як крыша, дзіржалыся, а пымясіліся дзеці — уся суродывыныя.*

СУРОДНІЧАЦЬ, СУРОДНІЧАЦЦА *зак. перан.* Справіцца. *Не, табе зь імі ні суродні́чыць, луччы ты ацступіся.*

*Трудна табе с трімя суроднічыцца, яны круткія мульчуганы.*

СУСОЛКА *ж.* Самаробная соска. *Зьдзелый сусолку і дай дзіцёнку, ён будзіць муўчаць. Памянш.* СУСОЛАЧКА. *Пірістань круціць сусолычкі, яны табе ні нада.*

СУСТОЙЧЫК *м. памянш.* Асадак з вадкасці на дне. *У вадзе сустойчык абрузуваўся, астарожна лі, каб ні ўзбуўтаць.*

СУСТРАКАННІК *м.* Той, хто сустракае. *Пабеглі сустрюка́ньнікі ґ быльшаку, Хведзька вот-вот далжон пад'ехыць.* СУСТРАКАННІЦА *ж. Нейдзі пашлі сустрюка́ньніцы, гыварілі, кыла вербыў будуць ждаць.*

СУТАРМА *ж.* Цяганіна, важданіна, таўкатня. *У іх сутырьма́ даўно пычылася, ішчэ дзед быў жыў. Павеліч.* СУТАРМІШЧА. *Сутарьмі́шча як станіць, тады ёй ніхто кынца-краю ні найдзіць.*

СУХАРОБРЫК *м. абразл.* Худы чалавек. *Чаго ж вы ні прівялі ны вічарінку сваіх сухарёбрікыў? Памянш.* СУХАРОБРЫЧАК. *Моськывічыў сухарёбрічык што хочыш можыць утваріць.* СУХАРОБРЫЦА *ж. Нечыга мне к ім іціць, дужа каму нада тэя сухарёбріцы.*

СУХАСТОІНКА, СУХАСТОІЧКА *ж. памянш.* Сухастоіна. *Сухастоінку пасеклі, іна дужа хырашо гаріць. Зы аборкым сухастоічкі ёсьць, сьсякі ды пріцягні сюда.*

СУХАТА *ж. метаф.* Худзізна. *Тыкая сухыта́ мальчыкі, усё дно як іх ніхто ня корміць.*

СУХАШЧАВА *прысл.* Хударлява. *Не, ён ня хворый, ета толька выглідаіць сухушча́ва. Памянш.* СУХАШЧАВЕНЬКА. *Хто яе знаіць, як іна сы здароўім, глядзіцца сухушча́вінька.*

СУХОСЕНЬКІЙ, СУХОСЕНЕЧКІЙ *прым. памянш.* 1. Вельмі сухі. *Сена сухосінькыя, нада прібіраць. Снапкі сухосінічкія, лёхка змалоцюцца.* 2 *перан.* Схуднелы, змарнелы. *Воч чаго б етым мальчышкым быць такімі сухосінькімі? Была ў Каці сухосінічкыя дзяўчонычка, усё вазілыся зь ёю пы дыктырах.*

СУХОЦЦІКА *н. памянш.* Схуднелае дзіця. *Такоя ўжо сухоцьціка дзевычка, адны костычкі.*

СУЧАЧКА *ж. памянш.* Сучка. *Ну й зьвяглівыя су́чычка у Трахімывых, тольκа патходзіш к хаці — сквіл спруўляіць.*

СУЧЛІВАСЦЬ *ж. экспр.* Брахлівасць. *Ета што, ета мелыч, каб ты знаў яго цёшчу, во ў каго сучлівысьці хуць пызычай!*

СУЧЛІВЫЙ, СУЧЧЫЙ, СУЧЫСТЫЙ *прым. экспр.* Брахлівы. *Канешня, была сучлі́выя, ну дзяцей ладна узьніла. Мы даўно знаім, што ў яе су́ччый язык, і то ні кажныя сучка збрешыцца. Яе матка была су́чыстыя і во дычка пышла ў такоя прірodзьдзя. Памянш.* СУЧЛІВЕНЬКІЙ. *І Пёкла нічога баба, трошку сучлі́вінькыя, дык што ж ты зьдзелыіш.*

СУЧЧЫКА *н. памянш.* Галлё. *Су́ччыка пыд яблынкыю многа, сыбярі, даўжэйшыя пыпірісікай і пыдз загнет усё.*

СУШЧЭП'ІКА *н. памянш.* Счапленне, скляпенне. *Тваё сушчэп'іка ня дужа крепка дзяржыцца, усё можыць зыгрімець.*

СХАДЗІЦЬ *незак.* 1. Абыходзіць. *Мы ўсе лясы кругом схадзі́лі, як у грібы вупруўляліся.* 2. Выпальвацца. *Печ сходзіць, а ў цябе нічога ні пыстаўліна.* 3. Звужацца. *Етый кусок сходзіць на клін, зь яго палы ні палучыцца.* САЙЦІЦЬ *зак.* 1. Абысці. *За дзень яны нівісь сколька сойдуць.* 2. Выпаліцца. *Удзьвюх капошыціся раньня, і печ сыйшла.* 3. Звузіцца. *Реж пряма, клінушкым сойдзіць і ладна будзіць.* САЙЦІЦЦА *зак.* 1. Справіцца ў хадзе. *Ты папробый-ка сайціцца зь ім, як рышшаволіцца — ня дужа справісься.* 2 *метаф.* Пабрацца. *Калі сыйшліся, дык жывіця, людзей сьмяшыць нечыга.*

СХАРОНЕТЫЙ *дзеепрым.* Пахаваны. *Яны ішлі атведывыць Іхімёнка, ня чулі, што ён у тую суботу схаронітый.*

СХВАЦІЦЬ *зак. перан.* Убраць, набраць. *Хырашо сена схваці́лі ды дыжджа. Сёліта многа бырывікоў людзі схваці́лі.* СХВАЦІЦЦА *зак.* Убрацца. *Жыта ладный кусок, ня дужа зразу схва́ціцца.*

СХЛЯСТАЦЬ *зак.* Абабіць. *Так мёўшы, ты венік схлешчыш, ат яго нічога ні астаніцца.* СХЛЯСТАЦЦА *зак.* Абабіцца. *Мітла схліста́лыся, нада новыю візаць.* СХЛЯСТАНЫЙ *дзеепрым.* *Пылажы пыдз загнет схліста́ный венік, новый вазьмі ды пыдмяці хату.*

СХОД *м. метаф.* Магчымасць, зыход. *Ён і так мірькуваў, і етык глядзеў, ну ні було ніякыга сходу.*

СХОДНА *прысл.* Прымальна, нядорага. *Ікімёнык сходна купіў кароўку, і ны мылако ладныя.*

СХРАПАЦЬ, СХРАПКАЦЬ *зак.* Схрумстаць. *Вы так скора усю моркву схря́пылі? Кошка зловіць ціплёнка і схря́пкыіць.* СХРАПАНЫЙ, СХРАПКАНЫЙ *дзеепрым. Віджу, што ўсе быранычкі схря́пыны. Схря́пкыных гурочыкыў ня верніш.*

СХРУПКАЦЬ *зак.* З'есці з дробным хрумстам. *У адзін міг схру́пкыў быранік, відна, дужа смашный пупаўся.* СХРУПКАЦЦА *зак.* З'есціся з дробным хрумстам. *У авечык етыя былычкі схру́пкыюцца, яны любюць цьвёрдзінькыя.* СХРУПКАНЫЙ *дзеепрым. Ці ў цябе ужо ўсё пячэньніка схру́пкына?*

СЦАДЖЫВАЦЦА *незак.* Сцэджвацца. *Вун творг на решыццы сца́джывыіцца, скора можна пірікладывыць.* СЦАДЗІЦЦА *зак. перан.* Здаіцца. *Як ні сцадзі́лыся, алі ж трошку пыляхчэла.*

СЦЕБАНУТЫЙ *дзеепрым.* Ударaны пугай, падагнаны. *Па́дла конь, сьцібану́тый пяць шагоў прыбягіць і ўзноў пляцецца ныга зы нагу.*

СЦЕРАЖЭННІК *м.* Вартаўнік. *Твае сьціряжэньнікі будуць спаць, хут ты іх саміх нясі ат ымбара.* СЦЕРАЖЭННІЦА *ж. Пышла сьціряжэньніца двору, ацьсе́дзіла у Зыхарёнкывых.*

СЦЁПАННЕ, СЦЁПКАННЕ *н.* Пацепванне. *Што ты плічамі сьцёпыіш, сьцёпыньнім ні адбудзіш, нада цьвёрда рішаць. Длі чаго тваё сьцёпкыньня, яны карову пывядуць ны бызар і ты ні ш чым астанісься.*

СЦЁС *м.* Счасанае месца. *На етым бірьвяне два сьцёсы, с аднаго боку і з другога. Памянш.* СЦЁСІК. *Вун на сьцёсіку памечына, сколька атрізаць нада.*

СЦІРАЦЕЛЬНЫЙ *прым.* Прызначаны для мыцця. *Сьціра́цільный пырашок абізацільна купі, дайжа ні варочыйся біс пырышка.*

СЦІРАЦЬ *незак.* 1. Праводзіць абрад лячэння. *Твыя баба умела сьціра́ць сольлю, ат усіх балезьніў так лячыла.* 2 *метаф.* Знішчаць маральна. *Ні пыныравілыся, нашто*

*пра іх дачку так скызаў, цяперя сьцірáюць яго.* СЦЕРЦЬ *зак.* 1. Правесці абрад лячэння. *А можа ета з вачэй стала, можа яго нада сьцерць солькыю?* 2. Знішчыць маральна. *Яны каб прімелі, сьцёрлі б цябе, ета толька сілы ў іх мала.*

СЦІРАЧКА *ж. памянш.* Гумка. *Харошыя была сьцíрычка, любоя чарніла брала і нейдзі пыцірялыся.*

СЦІШАННЕ, СЦІШЫВАННЕ *н.* Суніманне. *Словым ны яго ні падзейнічыіш, ны яго нада сьцішáньня с пужкыю. Ні ўсякій такоя сьцíшывыньня слухыіць.*

СЦІШОК *м.* Верш. *Я дужа хырашо сьцішкí рысказывыла, а Васіль луччы мяне зыдачкі рішаў. Памянш.* СЦІШОЧАК. *Ты штоб сьцішочык выўчыў ґ заўтріму!*

СЦІШЫВАЦЬ *незак.* Сунімаць. *Балыўныя ў іх мульчуганы, нада, каб бацька сьцíшывыў.* СЦІШЫВАЦЦА *незак.* Сунімацца. *Калі ня будзіця сьцíшывыцца, я вас другім мыкарым сьцíшу.*

СЦЫРКЫВАННЕ *н.* Здойванне. *Сцы́ркывыньня якой карові нада, а якой ні нада.*

СЦЭЛІЦЬ *зак.* Ацалець. *Пріехылі вірьхá і пычалі дзяреўню паліць, ну із-зы Сыжа красныя ныскачылі, наша хата сцэліла.*

СЦЯБАННЕ *н. перан.* Выпіванне. *Будзіць яму калі сьцібáньня, дысьцібáіцца, што ў сьнягу мёрзлыга найдуць.*

СЦЯБАЦЬ *незак. перан.* Піць. *Ні сьцісьняюцца, ладна сьцібáюць і адзін, і другей.* СЦЁБНУЦЬ *зак.* Выпіць. *Учора былі зы Сажом, у іх нейкыя рыдня тама, відна, сьцёбнулі: красьнінькія ішлі.*

СЦЯБУНЬ *выкл.* Пра сцябанне. *Пыдыйшоў ззаду, сьцябýнь пужкыю, а конь сьвісь, зы адною каплію ня ў зубы.*

СЦЯГА *ж.* 1. След, сцежка. *Быльшая сьцігá праложына па жыту, відна, коні прабеглі ныпрямкі.* 2. Доўгая жардзіна. *Дзьве сьцягí прівёз, пыт пряслым ськінуў, нада апчысьціць, ніхай сохнуць.*

СЦЯГЕНЧЫК *м. эмац.* Сцягно. *Я к лету пріблюла сьцягенчык, ён пацсох, дзеці пад'едуць — зьядуць с ахоткі.*

СЦЯГЫВАЦЬ *незак. перан.* 1. Звозіць, зносіць. *Мы помнім, як ныз ад у дзяреўню двары сьця́гывылі.* 2. Сасмоктваць. *Пырысят многа, сьця́гывыюць сьвіньню.* 3. Спраў-

ляцца (у працы). *У Гынчыра была сіла нямерныя, адзін толька Хведзька сьця́гывыў зь ім касіць.* СЦЯГНУЦЬ *зак.* 1. Перабудаваць. *Зы адзін год сьцягну́лі хутары: пріхадзілі, крышу рыскрывалі і ўсё.* 2. Сасмактаць. *Нада атнімаць пырысят, сьцягну́лі сьвіньню, аж шытаіцца.*

СЦЯКАЦЬ *незак. метаф.* Пакрывацца (травой). *Цёпла, дажджы і дажджы, усе пасевы сьціка́юць травою.* СЦЕЧ *зак.* Пакрыцца (травой). *Бульба сьцікла́ траві-шчыю, палоць ні спруўляюся, ні вылажу зь яе.*

СЦЯКЛЕННЕ *н.* Шкленне. *Посьлі Рыманёнкывыга сьцякленьня можыш саўсім біз выкна астацца.*

СЦЯКЛЕННІК *м.* Шкляр. *Пыглядзі, каб сьцякленьнік ні дабіў пасьледнія шыбкі.* СЦЯКЛЕННІЦА *ж.* *Сь цябе б сьцякленьніца нядренныя была, мыгла б дайжа зырыба-тывыць.*

СЦЯКЛІНА *ж.* Кавалак шкла. *Адна сьцяклі́на ў мяне ёсьць, а другую пылавінку хуць хванерыю зыстыўляй.* *Памянш.* СЦЯКЛІНКА, СЦЯКЛІНАЧКА. *Ікраз пытхадзіла сюда сьцяклі́нка і на табе, разьбілыся. Ні аднае сьцяклі́-нычкі у мяне ні асталыся.*

СЦЯЛЕННЕ *н.* Рассціланне. *Якоя ж ета сьцяленьня: кінуў клок саломы лі варот, а ўвесь гной узаду.*

СЦЯЛЕННІК *м.* Той, хто сцеле. *Пашоў сьцяленьнік на двор, нешта порііца тама.* *Памянш.* СЦЯЛЕННІЧАК. *Віджу, віджу, што харошый сьцяленьнічык, пымыгаіш маткі.* СЦЯЛЕННІЦА *ж.* *Нясець вун сьцяленьніца другую ношку саломы, мякка будзіць карові спаць.*

СЦЯНАЦЬ *незак.* Сціскаць, стульваць. *Калі пріходзіць злэй, я сьціна́ю губы і ні словічка ні гыварю.*

СЦЯРЗАЦЬ *зак.* Змучыць. *Тады немцы сьцірза́лі сапрыныўцыў, дужа зьдзекывыліся.* СЦЯРЗАЦЦА *зак.* Змучыцца. *Лёнік сам ня меншы сьцірза́ўся, ён дужа пірі-жываіць.* СЦЯРЗАНЫЙ *дзеепрым.* *Прішоў с хронта сьцір-за́ный, пабітый, трі гады пыліпеў і памёр.*

СЦЯСНІЦЕЛЬ, СЦЯСНІЦЕЛЬНІК *м.* Той, хто саромеецца. *Ну якей ні сьцясьні́ціль, а лухты прідумывыць ён ні станіць. Кірілёнык сьцясьні́цільнік, нічога плахога ён ні скажыць.* СЦЯСНІЦЕЛЬНІЦА *ж.* *Сьцясьні́цільніца то сьцясьніцільніца, ну пры Ісаівых іна буўтанула.*

СЦЯСЫВАННЕ *н.* Счэсванне. *Толька што сьця́сывыньня, кріва, няроўна, пупруўляць усё прідзіцца, пірядзелывыць.*

СЦЯСЫВАННІК, СЦЁСЫВАННІК *м.* Той, хто счэсвае. *Во ўзяўся сьця́сывыньнік, із-за вуха гакыіць тыпаром, праўда, сухая дубіна дужа цьвёрдыя. Каб твой сьцёсывыньнік ня выпусьціў тапор ды пы наге ні дзіўбануў.* СЦЯСЫВАННІЦА, СЦЁСЫВАННІЦА *ж. Пымагі нямножка етый сьця́сывыньніцы, нічога іна ня зьдзелыіць с сукуватыю палкыю. І другая сьцёсывыньніца столька надзелыіць, сколька первыя.*

СЦЯСЫВАЦЬ *незак.* Счэсваць. *Усё сучча пыдряд нада сьця́сывыць.* СЦЯСЫВАЦЦА *незак.* Счэсвацца. *Нейкыя павітыя бярёза, пірякручыныя, ня дужа хочыць сьця́сывыцца.* СЦЯСЫВАНЫЙ *дзеепрым. Тут ужо сьця́сывына, ды мала, нада троху большы цісануць.*

СЧАПАЦЬ, СЧАПКАЦЬ, СЧАПАЦЦА, СЧАПКАЦЦА *зак.* Схадзіць з цяжкасцю. *Можа заўтря як-небудзь шча́пыю к сястре ў Вароўскыга. Каб шча́пкыў у горыд, хужы ні було б, солі саўсім мала астаецца. Шча́пылыся я ў лес і дырма: мала грібоў, кабылы троху пупыдаюцца. Цяперя ўжо ні знаю, калі удасца шча́пкыцца у Жавінку.*

СЧАПЛІВАННЕ, СЧЭПЛІВАННЕ, СЧАПЛЯННЕ *н.* 1. Злучэнне чапляннем. *Пымагі яму, а то ён два часы будзіць вазіцца іш шча́плівыньнім. Не, ета шчэплівыньня ныўряд каб дзіржалыся. Якоя ў цябе шчыпля́ньня, дзелыіш, як ні сваімі рукамі.* 2. Зніманне. *Зыгрімеў разым ж жардзіныю, пулучыў шча́плівыньня. Ні балыйся са шчэплівыньнім, прадзень вузёл у банічку і ўсё. Пыстаў лесьвічку, што ета зы шчыпля́ньня з вугла.*

СЧАПЛІВАЦЬ *незак.* 1. Злучаць чапляннем. *Неік дзьве быраны́ шча́плівыіць і скародзіць.* 2. Знімаць. *Вун вярёўкі ну крюку вісяць, шча́плівый і пойдзіш за конімі.* СЧАПЛІВАЦЦА *незак.* 1. Злучацца чапляннем. *Пыглядзі, чаго ў іх атоса ні шча́плівыіцца, можа што пыдагну́ць нада.* 2. Знімацца. *Вярёўка зычапілыся і ня хочыць шча́плівыцца.* СЧАПЁМШЫ *дзеепрысл.* Злучыўшы чапляннем. *Нывізаў кыня шчапёмшы кускі цэпа.*

СЧАРВІВЕЦЦА *зак.* Зрабіцца чарвівым. *Яблыкі як шчарьвíвюцца, куды ж яны, толька сьвіньням аддасі.*

СЧАРНЯЦЬ *незак. перан.* Змучваць да страты нармальнага фізічнага выгляду. *Сваімі дура́мі шчырня́іць яе: п'яный пріходзіць і шубутню ўшчынаіць.* СЧАРНІЦЬ *зак.* Змучыць да страты нармальнага фізічнага выгляду. *Шчарні́ў ён Мыланку, — ну якоя серца выдзіржыць глядзець ны такоя адурюва́ньня!* СЧАРНЁНЫЙ *дзеепрым. Ныўсігда шчарнёныя яе жызьня.* СЧАРНЁМШЫ *дзеепрысл. Шчарнёмшы Ныталычку, сам ні ўваскрес.*

СЧАХШЫЙ *прым.* Схуднелы, чахлы. *Нейкій від у яго шча́хшый, як гулудуваў цэлый месіц.*

СЧОРКАЦЬ, СЧАРКАЦЬ *зак.* Пакрэсліць абы-як. *Усю цітрадку шчоркыў, выкідаць нада. Шчырка́іш бумагу — большы я табе ні дам.* СЧОРКАЦЦА, СЧАРКАЦЦА, СЧЫРКАЦЦА *зак.* Пакрэсліцца абы-як. *Пыглядзі, сколька ў яго бумагі бяс толку шчоркылыся. Січас у яго і піряплёты шчыркаюцца. Ні дывай большы лістоў, сколька ні далі, усё шчы́ркылыся.* СЧОРКАНЫЙ, СЧАРКАНЫЙ *дзеепрым. Нашто ты мне шчоркыныя бумажкі пытклыдаіш? Ці відзіш, як у яго уся кніжка шчырка́на?*

СЧЫСЦЕЦЬ *зак.* Расчысціцца. *Неба троху шчысьцела, ну булі бурдулí па лужых, відна, узноў пойдзіць.* СЧЫСЦЕЛЫЙ *дзеепрым. Я на зорькі ўстаў, неба шчысьцелыя, птушычкі пычынаюць пець.*

СЧЫШЧАННЕ, СЧЫШЧЫВАННЕ *н.* Змятанне з зерня на таку коласа, саломы. *Нікуратныя шчышча́ньня: салома пабітыя астаецца і кыласкі тырчаць. Посьлі твайго шчы́шчывыньня дужа многа сьміцьця у жыці.*

СЧЫШЧАЦЬ, СЧЫШЧЫВАЦЬ *незак.* Змятаць з зерня на таку колас, салому. *Зірняты ны таку лёгінька мятлою шчышча́лі, а тады грыблямі пычшавелівылі і ўзноў чысьцілі. Шчы́шчывыць зірняты бальшэя навукі ні нада, мяці лёгінька і ўсё.* СЧЫШЧАЦЦА *незак.* Вызваляцца ад паследа (пра жывёлу). *Летыся мыя карова доўга ні шчышча́лыся, зы віцінарым езьдзілі.* СЧЫШЧЫВАЦЦА *незак.* 1. Змятацца з зерня на таку (пра колас, салому). *Ымалочыныя зірняты акуратнінька шчы́шчывыюцца мятлою.* 2. Вызваляцца ад паследа (пра жывёлу). *Як мы*

*увайшлі ў пуню, цялёнычык стыяў і карова пычыла шчы́шчывыцца.* СЧЫСЦІЦЦА *зак.* Вызваліцца ад паследа (пра жывёлу). *Карова як ацеліцца, дык зразу дылжна і шчы́сьціцца.*

СЧЭГНУЦЦА *зак. метаф.* Схуднець, змарнець. *Пітайся як няможна луччы, інчы шчэгнісься і прыпала ўсё.* СЧЭГЛЫЙ *дзеепрым. Якей-то шчэглый стаў Мысяёнык, быў жа мушчынішча пыглядзець.*

СШЫЦЦА *зак.* 1. Змацавацца шыццём. *Во ета дзірька шшы́іцца, і будзіць мяшок кыла рук зьмяніцца.* 2 *перан.* Абрасці, пакрыцца. *Кыбан быў дужа жырный, у яго ны сярёдку усё шшы́лыся салым.*

СЫННІЎ *прым.* Сынаў. *Сы́ньніву хату ставілі у Казённым, тама зімля нядренныя, толька пыжылі́ мала.*

СЫПАННІК, СЫПАЛЬШЧЫК, СЫПЛЕННІК *м.* Той, хто сыпле, перасыпае. *У тваіх сы́пыньнікаў гарох пы ўсяму масту пырыскачывыўся. Кріва сы́пыльшчык дзяржыць мяшок, глядзі, усё ны зямле будзіць. Што сы́пліньнікі тама дзелыюць, каб яны ні рыссыпа́лі ячменю.* СЫПАННІЦА, СЫПАЛЬШЧЫЦА, СЫПЛЕННІЦА *ж. Каб сы́пыньніцы дзіржалі крепка мяшок, нічога б ні насыпылыся кругом. Рассыпліць сы́пыльшчыца увесь мак, яго ні сыбяреш, як арехі. Січас верніцца сы́пліньніца, троху табе паможыць.*

СЫПАЦЬ *незак. метаф.* Раджаць. *Як стала сы́пыць дзяцей, чуць ні кажный год ма́лый, сьвякрова за вушы хвытаіцца: азелюць яны мяне.* СЫПАНУТЫЙ *дзеепрым.* Пасыпаны. *Ціплятым сыпану́та, дзеці нідаўна просу насілі.*

СЫПКІЙ *прым.* Сопкі. *Лета було жаркыя, дык бульба сы́пкыя, зваріцца і рыссыпаіцца.*

СЫПКОМ *прысл.* Шляхам насыпання. *Айдзе тута будзіш вазіцца, выбірапь, сыпком насыпылі і пывязьлі.*

СЫПЛЕННЕ *н.* Сыпанне. *А ну цябе с такім сы́пліньнім, пылавіна карзінкі на мост пупала.*

СЫПУЧЫЙ *прым.* Такі, які асыпаецца (пра лісце). *Прі́мырызкі былі, паетыму і лісьця сыпу́чыя, усю зямлю засыпыла.*

СЫПЧЭЙ, СЫПЧЭЙШЫЙ *прым.* Больш рассыпісты. *Вольгычкіна бульба сыпчэй, паетыму і на ўкус луччы. Чым бульба сыпчэйшыя, тым іна смашнейшыя.*

СЫРАВЕЖАЧКА *ж. памянш.* Сыраежка. *Як ныбяру мыладзенькіх сыравежычык, іх зваріць дужа смашна.*

СЫРАДОЙНІЦА *ж.* Ахвотніца да сырадою. *Твыя сырадойніца ужо ш чашкыю стаіць, жджэць, калі ты карову дадоіш.*

СЫРАДОЙЧЫК *м. памянш.* Сырадой. *Ты ма́лый дужа любіў сырадойчык, с кружкыю бегыў зы маткыю: падлі.*

СЫРАКВАШКА, СЫРАКВАШАЧКА *ж. памянш.* Сырakваша. *Мыладзенькія сырыква́шкі зьесьць пальзіцільна, я дзіцям яе часта даю. Пріятна сьвежынькія сырыква́шычкі наліць, неік аж ляхчэй становіцца.*

СЫРАКВАШНІК *м. жарт.* Ахвотнік да сыраквашы. *Во мой сырыква́шнік іш чашычкыю бягіць, січас нальлю, я вярьхі зьніла. Памянш.* СЫРАКВАШНІЧАК. *Ты малый быў дужа сырыква́шнічык.* СЫРАКВАШНІЦА *ж. Вазьмі аббіцічык, ліні сырыква́шніцы ў кружычку.*

СЫРАМАЦЬ *ж.* Сырамяць. *Цяперя ні ў кога сы́рымыці тэя ні найдзіш, ета раншы усё выдзелывылі.*

СЫЧЫЦЬ, СЫЧЫЦЦА *незак.* Церусіць (пра дождж). *Дождж трі дні патрошку сы́чыў, толька піpістаў. Дождж як рызахоціцца, як пычанець сы́чыцца, хут ты яго унімай.*

СЭНДЖАННІК *м.* Той, хто плявузгае. *Усё роўна як бабы сэнджыньнікі, мелюць і мелюць пустоя.* СЭНДЖАННІЦА *ж. Доўга сядзелі сэнджыньніцы кылы Прытасёнкывых, рызыйціцца ні маглі.*

СЯБРЫНА *м. гумар.* Здаровы гультаяваты чалавек. *Абоя рузгудуваліся сябрі́ны, у пінжычках ня месьцюцца.*

СЯГДЫ *прысл.* Заўсёды. *Прідзіць п'яный, сягды́ рызвалнуіць, жысьці ат яго німа.*

СЯДЗЕЛЬНЫЙ *прым.* Сядзячы. *У мяне быў сядзельный білет, я даехыла бяз горя.*

СЯДЗЕЛЬНЯ *ж.*, СЯДЗЕЛЬЦА *н.* Сядзенне (у аўтобусе). *Як мы зайшлі, усе сядзельні былі зыняты. Ны сядзельца збоку пріткнулыся, так і даехыла, дужа цесна було ў аўтобусе.*

СЯДЗЁЛАШНІК *м.* Майстар па вырабу сядзёлак. *Ці то с Пнёва, ці з Галеіўкі усё прііжджаў ны бызар сядзёлышнік.*

СЯДЛАСТЫЙ *прым. метаф.* 1. З глыбока выгнутай спіной (пра каня). *Здаровый быў конь сідла́стый, Гыпанёнык на ім многа абрыбатывыў зямлі.* 2 *гумар.* З вялікімі клубамі. *Сідла́стыя дзеўкі рузгудуваліся, на іх хуць пашы. Памяншь.* СЯДЛАСЦЕНЬКІЙ. 1. З глыбока выгнутай спіной (пра каня). *Мальцым ні дывіряў, усё сам вадзіў ны нашлег сваю сідла́сьцінькыю кабылку.* 2. З вялікімі клубамі. *Сідла́сьцінькія дзеўкі бяруцца, у маму пойдуць.*

СЯЙНУЦЬ, СЯЎНУЦЬ *зак.* Крыху пасеяць. *Сяйні-ка ты лі мяжы просу, тама гною многа кладжына, іна будзіць росьць. Нада будзіць сяўну́ць клевіру ад дарогі, ніхай расьцець.* СЯЙНУЦЦА, СЯЎНУЦЦА *зак.* Крыху пасеяцца. *Каб сяўну́лыся во тут харошыя травы, ніхай ба рысла. Бульбы з нас хваціць пасеіныя, можа тут сяўнецца трошку кынапель.* СЯЙНУТЫЙ, СЯЎНУТЫЙ *дзеепрым. Тут быў клевір сяйну́т, відзіш, як зілянеіць. Ат аборычка сяўну́та нямножка ячменю, дальшы ат курей, каб ні пылажылі.*

СЯКЕННЕ *н.* 1. Рассяканне. *С такім сякеньнім можна біз нагі астацца, каб трошку, і цюкнуў ба.* 2. Высечанае месца. *Сякеньня травою зыцягывыіцца, калі ладна вы́січына, дык ба касіў.*

СЯКРЭЦІСТА *прысл.* Сакрэтна. *Думылі, што сікреціста усё палучыцца, ды ня выйшла па-іхніму.*

СЯКРЭЦІСТАСЦЬ *ж.* Сакрэтнасць. *А ну цябе с тваёю сікрецістысьцю, ты сыма ні знаіш, што вярзеш.*

СЯКРЭЦІСТЫЙ *прым.* Сакрэтны. *Ні чыпай, у іх сікрецістый рызгавор, верна, учырашнію вічарінку апсуждаюць.*

СЯЛЁДЗІНКА *ж.* Селядзец. *Ня дужа цяпер сялёдзінку найдзіш. Купіла дзьве сялёдзінкі.*

СЯМЕЕЧКА *ж. памяншь.* Сям'я. *Ішчэ тая была сямеічка, зь імі б сам чорт ня ўжыў. Павеліч.* СЯМЕЮХНА, СЯМ'ІШЧА. *У нас была сямеюхна чатырныццыць душ, у дзьвюх хатых було ні пывярнуцца, скоўрыды ну чугуны у*

*печы ставілі. Тыкая была сям'ішча, а ён адзін, айдзе на іх нызырыбляісься.*

СЯНІНА *ж.* 1. Сухая травіна. *Ета сяніна, іна чысьцінькыя, аткінь і ўсё.* 2. Сена наогул. *Ці гультай сяніну даглєдзіць, сколька було скошына, усё глумым пашло. Памянш.* СЯНІНАЧКА. Сухая травіна. *Ісь сянінычык нешта сыпнулыся.*

СЯННЯ, СЯННІ *прысл.* Сёння. *Сяньня я ні магу табе паможч: пыбішчаў Гаўріліхі скасіць. Мы сяньні усталі на зорькі.*

СЯНЦО *н. памянш.* Сена. *Пудблюдаць сянцо нада, вісна як зыцягніцца, карові разу нечыга будзіць даць.*

СЯНЯШНІЙ *прым.* Сённяшні. *Сянішнія твае грібы луччы, учора адных кабыл прінёс.*

СЯРЧАННЕ *н.* Злаванне. *А ні гарюй ты, цірізь мінуту яе сірчаньня кончыцца і серца абойдзіцца.*

СЯРЧАННІК *м.* Той, хто злуе. *А ні тужы, у етыга сірчаньніка скора злосьць пройдзіць.* СЯРЧАННІЦА *ж.* *Твыя сірчаньніца як зывядзецца, яе ні ўгываріць.*

СЯЎКЕЙ *прым.* Спорны пры сеянні. *Вот ета харошыя, сіўкая квасоля. Нада выбрыць сяўкея бульбы, буйныя ніхай астаецца.*

СЯЧАСНЫЙ *прым.* Цяперашні. *І раншы дужа ні крусуваліся, а січасныя ўремя нікуды годныя.*

СЯЧОНКА *ж.* Дробныя крупы. *Сьвіньней карміць — усё нада дубуваць: мукі, круп-сячонкі. Памянш.* СЯЧОНАЧКА. *Каб купіў мяшочык сячонычкі, іна б ні звылялыся: сабе б усыпыў у гаршчок і курям ба сыпнуў кажный раз.*

# Т

ТАБУРЭЦІНА *ж.* Табурэтка, са знач. адзінкавасці. *Тыкая тубуреціна любога выдзіржыць, ны яе сьмела садзісь. Памянш.* ТАБУРЭЦІНКА. *Усё жжываіцца, хіньню ідзець, во адна тубурецінка асталыся.*

ТАЙБА *ж. эмац.* Таўстуха, гультайка. *Мяне нечыга зыстыўляць, ніхай сваю тайбу пысылаіць палоць. Памянш.* ТАЙБАЧКА. *Ці ні вупруўляюць яны сваю тайбычку сена*

*гресьць? Узмацн.* ТАЙБІНА. *Зь дзявоства была та́йбіна і на ўсю жызьню асталыся. Павеліч.* ТАЙБІШЧА. *І як толька прідумыць урадзіцца такою та́йбішчыю: па сьвету ляніцца хадзіць.*

ТАКАННІК *м.* Той, хто падтаквае. *Ён з нычальствым усігда та́кыньнік, усігда угыждаіць.* ТАКАННІЦА *ж. Ня будзь та́кыньніцыю, рыска́жы, што відзіла.*

ТАЛАВАННІК *м.* Той, хто топча, гойсае. *Прыгані тулува́ньнікыў сь сена, яно сухенічкыя, пірятрецца ны ато-рю.* ТАЛАВАННІЦА *ж. Дам січас места тулува́ньніцым, сьціхнуць, што нячутна будзіць.*

ТАЛАКА *ж., мн.* ТАЛОКІ. Талака. *Нашы як строіліся, зьбіралі талокі, і к ім людзі ахотна ішлі.*

ТАЛАЛАЙКАННЕ, ТАЛАЛЫКАННЕ *н.*, ТАЛАЛЫ *мн. неадабр.* Балбатня. *Мне Хвядоніхіна тылыла́йкыньня і ні брыдзіць, ці іна ёсьць у хаці, ці німа. Айт, ні пайду я пустоя тылалы́кыньня слухыць, пыляжу луччы. Вашы тылалы́ слухый — ні піряслухыіш, ат іх вушы зыклы-даіць.*

ТАЛАЛАЙЧЫН *прым.* Прыналежны балбатусе. *Ты пухтыряіш тылыла́йчыны словы, ета іна усю лухту пріду-мыла пры Гырдзіінят.*

ТАЛАЛАКАННІК, ТАЛАЛЫКАННІК, ТАЛАЛАХАН-НІК, ТАЛАЛАХКАННІК *м.*, ТАЛАЛАХАЛА, ТАЛАЛАХ-КАЛА *м.* і *ж. неадабр.* Балбатун. *Ну зугувалінкі сідзяць тылыла́кыньнікі, пустату слухыюць Пракопыву. Кажыцца, рызыйшліся тылалы́кыньнікі ат Мікіты. Ета ці ні Гапкін тылыла́хыньнік пляцець нешта пры Сьвірідывых. Тылыла́х-кыньніка як паслухыіш, дык сам сабе ні рад будзіш. А ты думыіш, мне дужа хочыцца таго тылыла́хылу слухыць. Тылыла́хкыла пляцець і пляцець нісусьветныю чуш, аж вушы вянуць.* ТАЛАЛАКАННІЦА, ТАЛАЛЫКАННІЦА, ТАЛАЛАХАННІЦА, ТАЛАЛАХКАННІЦА, ТАЛАЛА *ж. Тылыла́кыньніцы як зысядуць, і пры абед забудуць. Марья тожа сядзела тамыцька, слухыла тылалы́кыньніц. Узноў тылыла́хыньніцы сыбраліся пуд гумном, ізыкі ў іх дужа чэшуцца. Зычыні ты дзьвері, каб тылыла́хкыньніцы ні зываліліся кучыю. Некуды пыцягнулыся Купчанкова тылы-ла́, найдзіць сабе падруг пытрілюдзіцца.*

ТАЛАЛАКАЦЬ, ТАЛАЛЫКАЦЬ, ТАЛАЛАКАЦЦА, ТАЛАЛЫКАЦЦА *незак. неадабр.* Балбатаць. *Ніхай пірібіраюць бульбу, хваціць ім тылыла́кыць. Тылалы́кылі кылы Стыльмашонка кучыю. Толька сойдуцца і пашлі тылыла́кыцца. Доўга тылалы́кыліся с Хвядоніхыю, тая нешта трілюдзіла ім.*

ТАЛАНІЦЦА *незак.* Шанцаваць. *Я б ні скызаў, што ім дужа тыла́нілыся ў жызьні, як калі пулучалыся.*

ТАЛАСКАННІК *м.* Той, хто цягае, трэпле. *Во тылыска́ньнік, відзіш, як узяўся пырядык нывадзіць.* ТАЛАСКАННІЦА *ж. Пупадзець тылыска́ньніцы, нашто ёй шырабу́рья рысьцягывыць.*

ТАЛДОНІЦЦА *незак.* Гаварыць попусту. *Як пычануць талдоніцца, іх зу пуу́дня ні піряслухыіш.*

ТАЛДЫЧАННІК *м. неадабр.* Той, хто паўтарае адно і тое шмат разоў. *Ці табе ні ныдаела талды́чыньніка слухыць, ат яго у вушах зьвініць.* ТАЛДЫЧАННІЦА *ж. Талдычыньніцу трудна піряслухыць.*

ТАЛДЫЧЫЦЬ *незак. неадабр.* Паўтараць адно і тое шмат разоў. *Я пры атаву підзьдзісят разоў яму талды́чыла, дык ці ён паслухыіць калі.* ТАЛДЫЧЫЦЦА *незак.* Гаварыць у непаразуменні. *Ці ты ні знаіш, пра што яны цэлыя раньня талды́чыліся?*

ТАЛКАВЕЙ *прысл.* Больш разважліва. *Можа Пыраска скажыць трошку тылкавей, ну ні намнога.*

ТАЛКАВЕЙШЫЙ *прым.* Больш разважлівы. *Ёй каб тылкавейшый мужык, ны таком ба хызяйстві можна жыць. Памянш.* ТАЛКАВЕЙШАНЬКІЙ. *Каб зь імі быў хто тылкавейшынькій, прідумыў ба, як выкруціцца.*

ТАЛКІ *мн.* Абмеркаванне, разважанне. *Пра што вы так доўга талкі́ вялі? Пры яго і талкоў німа, прібягіць за́цімна.*

ТАЛМУЗЕННЕ *н. эмац.* Мітусня. У *іх усігда хвытала талму́зіньня, пырядку мала було.*

ТАЛМУЗІЦЬ, ТАЛМУЗІЦЦА *незак. эмац.* Мітусіцца. *Мы тожа відзілі, што яны тамыцька талму́зілі, а чаго — ні знаю. Як стануць талму́зіцца, у іх ні работа, а ніізьвесна што пулучаіцца.*

ТАЛОЧАНЫЙ *дзеепрым.* Тоўчаны. *Сьвінная бульба талочыныя стаіць, толька ішчэ ні рызваджывына.*

ТАМАН *м.* Атаман, галава. *Нейкій рузудалый хлопіц быў у іх зы та́мына, ны гармоні іграў.*

ТАНАНА *н.* Бязладны напеў. *Як зывядуць сваё тынына́, дык слухыць мутырна.*

ТАНЕННЕ *н.* Станчэнне. *Знаіш, што с такога таненьня можыць пулучыцца? — піряломіцца вілышнік і ўсё.*

ТАНЁСЕНЬКІЙ, ТАНЮХАНЬКІЙ, ТАНЁСЕНЕЧКІЙ, ТАНЮХАНЕЧКІЙ *прым. памянш.* Вельмі тонкі. *Танёсінькія нітычкі прялі, снувалі і ткалі пакры́вылы. Таню́хынькыя комбіца, на ёй паўпуда ні атва́жыіш. Длі чаго такея танёсінічкія вярёвычкі віць? Купіла таню́хынічкіх нітык, у вушка ні ўкладзеш.*

ТАНІЦЦА *незак.* Рабіцца тонкім. *Ці ні залішня ў цябе грыбільнішчыка тані́цца.*

ТАНКАВЫЙ *прым.* Танкаваты. *Тынка́вый паплёт, ён ба луччы на прівізкі пашоў. Памянш.* ТАНКАВЕНЬКІЙ. *Тынка́вінькій сысьнячок, можа кой-айдзе выбіріцца бірнушко ны баню.*

ТАПАРЫШЧЫКА *н. памянш.* Тапарышча. *Тыпарі́шчыка ладныя, ды тапорік ня хочыць сеч.*

ТАПІЦЦА *незак. метаф.* Празмерна многа ўжываць. *Хто зь ім ужывець, ён который год у гарелішчы топіцца.*

ТАПКАВАТА, ТАПКАВАЦІСТА *прысл.* Крыху топка. *Думыў, ціріз лажок пряма піряйду, а тама тупкува́та, апхадзіў пы бірягу. Я ішоў, дык було тупкува́ціста, ну ета нядзелю нызад, сяньня можа сушэй.*

ТАПКАВАТАСЦЬ, ТАПКАВАЦІСТАСЦЬ *ж.* Невялікая топкасць. *Ны балоці тупкува́тысьць ёсьць, ну астарожнінька прайціць можна. Тута як ідзеш, пыд ныгамі чуствыицца тупкува́цістысьць.*

ТАПКАВАТЫЙ, ТАПКАВАЦІСТЫЙ *прым.* Крыху топкі. *Наш лог тупкува́тый, раншы саўсім нілізя було прайціць. Лашчынка тупкува́цістыя, нада різінывыя боты ныдзіваць. Памянш.* ТАПКАВАЦЕНЬКІЙ. *Нібальшоя балоцца, ну тупкува́цінькыя, ехыць па ём і ня думый.*

ТАПЛЕННЕ *н. перан.* Удаванне. *Яму, знаць, нырався таплення, утопіць чалавека — тады даволін.*

ТАПЛЁТА *ж.* Паленне (у печцы). У *яе ўсігда таплёта ну пуўдня, раншы ні кынчаіць.*

ТАПОЛІК *м. памянш.* Тополя. *Глянь-ка, як твае таполікі пашлі ў рост, ці даўно саўсім маліінькія былі.*

ТАПТАЛКА *ж.* 1. Тая, што топча. *Пашлі па сену тыптáлкі, яны убузуюць луччы некуды.* 2. Няўмелая танцорка. *Дайця кругу, відзіця, якея тыптáлкі выходзюць. Памянш.* ТАПТАЛАЧКА. Няўмелая танцорка. *Ах вы, тыптáлычкі, скора будзіця скыкаць луччы бальшых дзевык.*

ТАПТОРА *м.* і *ж. эмац.* 1. Асоба, якая топчацца. *Сыбраліся тапторі на бульбі, іна толька пычынаіць усхадзіць.* 2. Асоба, якая многа есць. *Такой тапторі і другую міску нылівай, іна справіцца.*

ТАПТОРАННЕ *н. эмац.* 1. Накладанне звыш меры. *Ну вот нашто б ета тапторіньня, ты ж меха ні зывяжыш.* 2. Празмерная яда. *Пылядзі ны яго тапторіньня, зы піцярых адзін укладзець.*

ТАПТОРАННІК *м. эмац.* 1. Той, хто накладае звыш меры. *Куды етый тапторіньнік піхаіць, у яго мех разьедзіцца.* 2. Той, хто топчацца. *Тапторіньнікі няскора вылізуць з грязі, усё дно як ім смашна там.* ТАПТОРАННІЦА *ж.* 1. Тая, што накладае звыш меры. *Во стыряіцца тапторіньніца, ды большы ня лезіць.* 2. Тая, што топчацца. *Як стануць тапторіньніцы кылы шаік, хуць іх ацьцягывый.*

ТАПУРЫЦЬ *незак.* Настаўляць, паднімаць. *Ці відзіш, як страшна кыцянок тупуріць шэрсьць ны сыбаку.* ТАПУРЫЦЦА *незак.* 1. Настаўляць, паднімаць. *Сыбакі сьпірва тупуряцца, а тады абнюхыюцца і нічога, ні грызуцца.* 2 *перан.* Прымаць непрыступны выгляд. *Каб іна меншы тупурілыся, дык ба і к ёй хлопцы былі як хлопцы.*

ТАПУРЭННЕ *н.* 1. Натапырванне. *Сядзі, кошка, сыбака твайго тупуреньня ні спужаіцца.* 2 *перан.* Прыманне непрыступнага выгляду. *Мне б тожа ныдаела тупуреньня як у Верычкі.*

ТАПЫРНІК *м.,* ТАПЫРКА *м.* і *ж. метаф. іран.* Капрызная, надзьмутая асоба. *Ты тапы́рнік як дзяўчонка,*

*такім нікрасіва быць. Ён тапы́рька, што пушукаць толька еткыга. С тою тапы́рькыю трудна гываріць. Памянш.* ТАПЫРНІЧАК, ТАПЫРАЧКА. *Відзіця, якей тапы́рнічык ходзіць. Вун іна, тапы́річка, пышла з дуччанскімі хлопцымі.* ТАПЫРНІЦА ж. *Усё была тапы́рніца, пакуля прішла з брюхым.*

ТАПЫРНІКАЎ, ТАПЫРКІН *прым. іран.* Такі, які мае адносіны да надзьмутай, капрызнай асобы. *Бяріся сам дадзелывый тапы́рнікыву работу. Ну як табе тапы́рькіны гряды, ці можа ета сьвіньні зыгрібалі?*

ТАРАБАНІЦЦА *незак. метаф.* 1. Рухацца з ляскатам. *Вун твой Ігнат тырыба́ніцца, зы вярсту чутна.* 2. Балбатаць. *Ці яны ні знайдуць пра што тырыба́ніцца.*

ТАРАБАРНІЧАЦЬ, ТАРАБАРНІЧАЦЦА *незак.* Бязладна шумна размаўляць. *Ты сыма знаіш, як яны ўмеюць тырыба́рнічыць. Вы б толька тырыба́рнічыліся, пры работу ня дужа думыіця.*

ТАРАБАРСТВА, ТАРАБАРНІЧАННЕ н. Бязладная шумная размова. *Ты кылі хочыш, ідзі, слухый тоя тырыба́рства, а я ні пайду. Садзіся ды пыгыняй, усяго тырыба́рнічыньня ні піряслухыіш, яго ну пуўдня.*

ТАРАБЕНЕННЕ *н.* Балбатня. *Мне тырабеніньня слухыць некылі, у хаці нічога ня дзелына.*

ТАРАБЕНЕННІК *м.* Балбатун. *Завёў тырабеніньнік сваe трілюды, няскора сьціхніць.* ТАРАБЕНЕННІЦА ж. *Во яшчэ другая тырабеніньніца цягніцца, цяперя наслухыісься новысьціў.*

ТАРАБЕНЕННІКАЎ *прым.* Прыналежны балбатуну. *Я тырабеніньнікывыя лухты наслухылыся дос.*

ТАРАДЭЙНІЧАННЕ, ТАРАДЭЙСТВА *н.* Шпаркая невыразная гаворка. *Якей толк с тырадэйнічыньня, пустоя мелюць і мелюць. Ці пыняў хуць што-нібудзь зь іхныга тырадэйства?*

ТАРАДЭЙНІЧАЦЬ, ТАРАДЭЙНІЧАЦЦА *незак.* Шпарка невыразна гаварыць. *Худзь ба адзін раз ныдаела ім тырадэйнічыць, — не, ні ныдаесьць. Ты знаіш, сколька яны тырадэйнічыліся? — ат абедзьдзя ды кароў, даіць рызыйшліся.*

ТАРАДЭЯ *ж.* Тая, што шпарка і невыразна гаворыць. *Тырадэя лапочыць і лапочыць кылы Сашкіных, нехта яе дужа рызазьліў.*

ТАРАН *м. метаф.* Пра схуднелага чалавека. *Во й тыран мой бягіць, ні прідумыю, ач чаго ён такей худзёсінькій.* *Памянш.* ТАРАНОК, ТАРАНЧЫК, ТАРАНОЧАК. *Ты луччы кармі сваіх тыранкоў. Носіцца тыра́нчык па вуліцы, у хату ні прігоніш. У яе мальчык тыраночык-тыраночык.*

ТАРАНЦЕННЕ *н.* 1. Бразгат, ляскатанне. *Я тожа нейкыя тыраньценьня чула, ні пыніла, што ета.* 2 *перан.* Балбатанне. *А разьві ты ні наслухыўся іхныга тыраньценьня зы нядзелю?*

ТАРАНЦЕННІК *м.* Той, хто бразгае, ляскоча. *Ніяк тыраньценьнікі ні ўспакоюцца іс сваім жалезьзім.* 2 *перан.* Балбатун. *Лі Заліўкіныга аборка тыраньценьнікі стыяць кучыю.* ТАРАНЦЕННІЦА *ж.* 1. Тая, што бразгае, ляскоча. *Во яшчэ ўзілася тыраньценьніца, як мальчыкі.* 2. Балбатуха. *Каб ні каровы, нашы тыраньценьніцы, верна б, і на́ныч ні рысхадзіліся.*

ТАРАНЦЕЦЬ *незак.* 1. Бразгаць, ляскатаць. *Нічога тама німа, ета ма́лыя тырыньця́ць чым-то.* 2. Ехаць з бразгатам. *Цэлыя раньня тырыньця́ць пы дарогі.* 3 *перан.* Балбатаць. *Як стануць тыраньцець, усякыю трілюду порюць.* ТАРАНЦЕЦЦА *незак.* 1. Бразгаць, ляскатаць. *Нешта ны калёсых у цябе тыраньці́цца.* 2. Ехаць з бразгатам. *Тырыньця́цца ны сваём выязном, ён чуць ногі пірістыўляіць.* 3. Балбатаць. *Што ім яшчэ дзелыць, сыбяруцца кучыю, тырыньця́цца.* 4. Балбатацца. *Віджу, віджу, што вам тутыцька ладна тыраньці́цца.*

ТАРАРАЙ *м. эмац.* Балбатун. *Як узяўся тырыра́й свае трілюды рызвадзіць, у нас вушы вялі.* ТАРАРАЙКА *ж.* 1. Няспраўныя калёсы. *Зыпрягі, кылі хочыш, ету тырыра́йку, дзьве ношкі хворысту прівязеш.* 2. Балбатуха. *Вот была тырыра́йка, дай ты ёй хуць што-небудзь рыскызаць, ні мыгла ныгывaріцца.* *Памянш.* ТАРАРАЕЧКА. Балбатуха. *Ці ты ня чуіш, ета Хрузкіна тырыра́ічка новысьці прінісла атнекуля.*

ТАРАХЦЕЛАЧКА *памянш.* 1 *ж.* Бразготка. *Нейкыю тырахцелычку найшоў і зубуўляіцца.* 2 *м.* і *ж.* *перан.* Балбатун. *А што, кылі хлопіц, тырахцелычкаю ня можыць быць? — ішчэ сколька нытырахціць!*

ТАРАХЦЕННІК *м.* 1. Той, хто грукоча. *Што тамыцька дзелыюць тырахценьнікі, каб яны чаго ні пабілі.* 2 *перан.* Балбатун. *Сыбраліся тырахценьнікі ўместа, пра нешта трілюдзюць.* *Памянш.* ТАРАХЦЕННІЧАК. Той, хто грукоча. *Паўзець ужо ў хату тырахценьнічык, аттырахцеўся.* ТАРАХЦЕННІЦА *ж.* 1. Тая, што грукоча. *Заві ў хату тырахценьніцу, ніхай абедыіць.* 2. Балбатуха. *Стыялі тырахценьніцы лі Кіряёнкывых часы трі.*

ТАРБАК *м.* Нягоднік. *Таго тырбыка́ усе зналі, ці аднаму ён у пячонкі ўеўся.* *Памянш.* ТАРБАЧОК. *Во пыглідзіцё, што такей самый тырбачок палучыцца, як большый.* *Узмацн.* ТАРБАЧЫНА. *Ну й тырбачы́на ж старшый Цітыўнін, як яго толька зімля носіць!* *Павеліч.* ТАРБАЧЫШЧА. *Выгыдывыла тырбачы́шчу, цяперя сыма рукі лумаіць, ні прідумыіць, што дзелыць.*

ТАРБАСНЯ *ж.* *экспр.* Бесперапынная яда. *Яны толька пызаўтрікыюць, а ціріш час узноў тырбы́сьня́ пычынаіцца.*

ТАРБАХВАТАЎ, ТАРБАХВАЦКІЙ *прым.* Уласцівы тарбахвату. *Урадзіўся с тырбыхва́тывыю натурыю і зьвякуіць такей, ні піряменіцца. Ніяк ня можыць кінуць тырбыхва́цкія прівычкі.*

ТАРБАХВАТНА, ТАРБАХВАТЛІВА, ТАРБАХВАЦІСТА *прысл.* Хапаючы, прысвойваючы. *Як яны тырбыхва́тна дзелылі, дык ніхай ім так атрыгнецца. Ён у тоя ўремя тырбыхва́ціста пычаў тваріць. Зразу павёў сябе тырбыхва́тліва, і ўсе пынялі, што ета зы цаца.*

ТАРБАХВАТНАСЦЬ, ТАРБАХВАТЛІВАСЦЬ, ТАРБАХВАЦІСТАСЦЬ *ж.* Хапанне, прысвойванне. *У іх тырбыхва́цістысьці хваціць на ўсё кодла і яшчэ астаніцца. А ты думыіш, у етых меншы тырбыхва́цістысьці, — не, ня меншы. І ў аднаго, і ў другога тырбыхва́тлівысьці хуць адбуўляй, зразу прірода відна.*

ТАРБАХВАТНЫЙ, ТАРБАХВАТЛІВЫЙ, ТАРБАХВАЦІСТЫЙ *прым.* Такі, які хапае, прысвойвае. *Еткыя*

*тырбыхва́тныя сямейка, што ніхай іна пракоціцца і прываліцца. Праскоўіна дычка рысказывыла, якея яны тырбыхва́тлівыя. Тырбыхва́цістый быў і старэй, мы яго зналі як аблупліныга.*

ТАРБЯК *м. зніж.* Торба. *А што яму, тырбя́к харчоў ныпхаў і атправіўся, а вы тут як сабе хочыця. Памянш.* ТАРБЯЧОК. *Відзіш, як ён лоўкінька тырбячок пріспасобіў, і ты б так зьдзелыў.*

ТАРГІЛЬ *выкл.* Пра торганне. *Пыдыйшоў, таргíль, таргíль яго зы нагу, а тэй сьпіць як пышаніцу прыдаўшы.*

ТАРКУН *м.* Той, хто торкае. *Ета твой тарку́н так цьвітамі сьцяну рузукрасіў.* ТАРКУННЯ *ж. Тарку́ньня пруцікыў у пясок наторкыла.*

ТАРМАЖЭННІК *м.* Той, хто тармозіць. *Ты ж глядзі, каб ціріс тырмажэньніка ні піряехыць катком.* ТАРМАЖЭННІЦА *ж. Пыдзьдзяржы сам, ікая з Надзькі тырмажэньніца.*

ТАРМАЗНЯ *ж. метаф.* Перашкода. *Каб ні було тырмазьні́, ён ба даўно усе бумажкі пулучыў.*

ТАРМАСНУЦЦА *зак.* Трасянуцца. *Ён якей-то хворый: сядзіць-сядзіць спакойна, а тады як тырмасьнецца, ажно кропна дзелыіцца.*

ТАРМАШЭННІК *м.* Той, хто тармосіць. *Толік як падніміцца, як аччы́сьціць тырмашэньнікыў, яны скора ўнімуцца.* ТАРМАШЭННІЦА *ж. Хочыць тырмашэньніца пруціны, яй-божычку хочыць.*

ТАРХАННЕ *н.* Штурханне. *Усе нысьміяліся, глядзеўшы на іхныя тырха́ньня, зывяліся як пітухі якея.*

ТАРХАЦЬ *незак.* Штурхаць. *Даніла усё нешта дыказывыў яму і тырха́ў у плячо.* ТАРХАЦЦА *незак.* Штурхацца. *Дужа мне нада рызьбіраца, чаго два дуракі тырха́ліся.*

ТАРЧЭЦЬ, ТАРЧЭЦЦА *незак. метаф.* Знаходзіцца без патрэбы. *Пойдзіць к Стыхвынкам і тарчы́ць цэлый дзень, худзь ба яны прыгналі. А чаго б у Кліма Аксюціный дзеўкі тарчэцца, як бізь яе ні абойдуцца тама.*

ТАРШАНУЦЬ, ТАРШНУЦЬ, ТОРШНУЦЬ *зак.* Штурхнуць са злосцю. *Толька падлезь, так тыршану́, што ні падніміську. Мы ня відзілі, хто яго таршну́ў,*

*відзілі, як Віцька пыднімаў. Ні чыпляйся, торшніць Коля і пыляціш носым у сьнег.*

ТАРШМАК *м.* Штуршок. *Ат тыршмыка пыляцеў чуць ні пац стол.*

ТАРШМАКОМ *прысл.* Тарчма. *Ішоў як рызівон, ні глядзеў, ап камінь бух нагою і брязнуўся тыршмаком.*

ТАСАВАЛЬНІК, ТАСАВАЛЬШЧЫК *м.* Той, хто тасуе пры гульні ў карты. *Міця — тусува́льнік ішчэ тэй, умеіць нутусува́ць. Глядзі за етым тусува́льшчыкым, ато ён сваім пыттасуіць кызырей.* ТАСАВАЛЬНІЦА, ТАСАВАЛЬШЧЫЦА *ж. Пыдмяні сваю тусува́льніцу, у яе ўжо мызалі ны пальцых. Ікая зь мяне тусува́льшчыца, у мяне карты рыссыпаюцца.*

ТАЎБУН *н. эмац.* Недалёкі, дурнаваты чалавек. *Што ты ат яго хочыш, калі таўбу́н, ні ў чом ні рызьбіраіцца. Памянш.* ТАЎБУНОК, ТАЎБУНЧЫК. *Ніхай туўбунок, пыдрасьцець, дык пурузумнеіць. Бегыіць таўбу́нчык лі хаты, сь ціплятымі гуляіць.* ТАЎБУННЯ *ж. Ні чыпай таўбу́ньні, ац стыда ні абяресься.*

ТАЎБУХАЛА *м.* і *ж.,* ТАЎБУХАННІК *м.* Той, хто моцна кашляе. *Восіпывыга таўбу́хылу зы вярсту пачуіш. Во яшчэ адна таўбу́хыла суніцца. Вун таўбу́хыньнік бухыіць, адз Заліўкіныга аборка чутна.* ТАЎБУХАННІЦА *ж. І ты становісься таўбу́хыньніца, як Сашка быў.*

ТАЎБУХАННЕ *н.* Моцнае кашлянне. *Кажныя раньня чуіш яго таўбу́хыньня па цэламу часу.*

ТАЎБУХАЦЬ *незак.* Моцна кашляць. *Бувала, далёка-далёка чутна, як Сашка таўбу́хыіць лі кароў.*

ТАЎКАНУЦЬ *зак.* 1. Стаўчы ў спешцы. *Я ўсыпыла просу ў ступу, туўкані́, зварім кашы, з мылаком іна смашныя.* 2 *перан.* Успомніцца раптоўна. *Я ўжо зы дзяреўню выйшла, тады мне туўкану́ла: хату забыла замкнуць.* ТАЎКАНУТЫЙ *дзеепрым.* Стоўчаны ў спешцы. *Мулувата ячменю туўкану́та, ну крупеню ні хваціць.*

ТАЎКАЧЫК, ТАЎКАЧОК *м. памянш.* Таўкач. *Туўка́чык ужо старінькій, зьбіўся, нада новый апцясывыць. Туўкачок лёгінькій ня дзелыюць, ён нада, каб ціжулуватый быў.*

ТАЎКАЧЫКІ *мн.* Хвошч. *Вясною туўка́чыкі цілятым зьбіралі, тэя дужа любілі іх.*

ТАЎМЫРА *м.* і *ж.*, ТАЎМЫРАННІК *м.* Нязграба, няўмека. *Калі таўмы́ря возьміцца за дзела, зразу увідзіця, што палучыцца. Нейдзі таўмы́ріньнікі нашы сыйшлі, ня відна.* ТАЎМЫРАННІЦА *ж. Січас на помышч другая таўмы́ріньніца прібягіць, удзьвюх яны хвацюць.*

ТАЎМЫРАННЕ *н.* Нязграбная, надакучлівая работа. *Ныдыідаіць таўмы́ріньня, я ў дваре большы зыма́ріюсь, чым ны калхозный рабоці.*

ТАЎМЫРЫЦЬ, ТАЎМЫРЫЦЦА *незак.* Таўчыся, мясіць. *Палезьлі дзеці грязь таўмы́ріць, ці ты іхныга зыняція ні знаіш. Ліпяцёнчыха тожа ны бызарі таўмы́рілыся, усё лі пырысят хадзіла.*

ТАЎМЯСА *ж.* 1. Штурханіна. *Знаць увесь сьвет здріганууўся ны бызар сяньня, была тыўміса́, што ні прышчаміцца.* 2. Неразбярыха. *Зь імі толька зьвяжыся, тыўміса́ будзіць, бясстыжыя людзі.*

ТАЎМЯШЭННІК, ТАЎПЯШЭННІК *м.* Той, хто топчацца, месіцца. *Выгынь тыўмяшэньнікыў з грязі, ці відзіш, якея яны сталі. Худзь ба хто найшоўся ды прутуріў туўпяшэньнікыў ац сажылкі.* ТАЎМЯШЭННІЦА, ТАЎПЯШЭННІЦА *ж. Явіліся тыўмяшэньніцы з бызара, уволю нытаўпоріліся. Во відзіш, ікая тыўпяшэньніца, баціньічык з грязі ня выцігніць.*

ТАЎПЕННІК *м.* Той, хто знаходзіцца ў цеснаце. *Таўпеньнікі кучыю кылы Шмыярёнкывых нешта апсуждалі.* ТАЎПЕННІЦА *ж. А многа було таўпеньніц, адна адно рызглідала, другая — другоя.*

ТАЎПЕНЬ *м.*, ТАЎПЕННЕ *н.* Цесната. *Што ўжо таўпень быў учора ны бызарі, нійдзе ні праціснуцца. Так ныдыідаіць таўпеньня, кажныя раньня усё спакою німа.*

ТАЎПОРАННІК, ТАЎМОРАННІК *м.* Той, хто месіць, запіхвае. *Як узяліся таўпоріньнікі бульбу мясіць у шайкі! Ня дужа скора вашы таўморіньнікі зьбіраюцца, усё зь мішкамі возюцца.* ТАЎПОРАННІЦА, ТАЎМОРАННІЦА *ж. Пыдгыняй таўпоріньніцу, іначы к абеду ня выпрывіціся. Ды віджу, ікая ты таўморіньніца.*

ТАЎПЫРАННЕ *н.*, ТАЎПЯСА *ж.* Цесната, штурханіна. *Ныдыідаіць таўпы́рііньня, ну й ні дзіржаўшы нічога, свайго ня будзіць. Мне дужа ні хацелыся лезьць у тыўпясу́, ды нада було пыглядзець што с адзёжы.*

ТАЎПЫРЫЦЬ, ТАЎПЫРЫЦЦА *незак.* Таўчыся ў цеснаце. *Пёкла як станіць таўпы́ріць, пуўдня ны дваре будзіць вазіцца. Што я дзелыла? — у грязі дзень таўпы́рілыся, а ты гаворіш, работы ня відна.*

ТАЎСТУНЧЫК *м. памянш.* Таўстун. *У яе такія красівінькія таўсту́нчыкі, ціряз год адзін за дным радзіліся.*

ТАЎСЦЕННЫЙ, ТАЎШЧУШЧЫЙ *прым.* Вельмі тоўсты. *Таўсьценныга лесу нывазілі тады. Разьдзелылыся таўсьценныя, што ні абойдзіш. Меншый Красікыў маліц таўшчу́шчый стаў, што ўдваіх ні апшчэпіш.*

ТАЎТОРАННЕ *н. эмац.* Размова ў непаразуменні. *Іх таўторіньня скора ні кынчаіцца, можыць часоў ны пяць рысьцягнуцца.*

ТАЎТОРЫЦЬ, ТАЎТОРЫЦЦА *незак. эмац.* Гаварыць у непаразуменні. *Як стануць таўторіць, збоку глядзець — ныхахочысься, чуда жывоя. Нешта кылы Сямёніхі таўторіліся, што-то сваё рішалі.*

ТАЎХАННЕ, ТОЎХАННЕ *н.* Таўханіна. *Такоя туўха́ньня ны бызарі, мне ня дужа хочыцца лезьць туды. Я цябе січас ныбалыю с тоўхыньнім, я цябе.*

ТАЎХАНУЦЬ *зак. перан.* Прыйсці на памяць. *Мяне, знаіш, туўхану́ла, што Дзінісоўна можыць забежч, а нас нікога ня будзіць.*

ТАЎШЧЫНЬ, ТАЎШЧАНЬ *ж.* Таўшчыня. *Тыкая таўшчы́нь, абыкнавенныю пілою ня зрежыш. Нывазілі калодзьдзя, тыўшча́нь, напілюць досык.*

ТАЎШЧЭННЕ *н.* Таўшчыня, тлусценне. *Худому, канешня, быць дренна, ну ціряшчурныя таўшчэньня проста ніздарова.*

ТАЎШЧЭЦЬ *незак.* Таўсцець, тлусцець. *Быйстра таўшчэюць ліпы. Відна, Марычка пычыла смашна карміць, што ён етык таўшчэіць.*

ТАХ *выкл. перан.* Пра балбатню. *Сыбяруцца і пашлі лыпытаць пустоя, ізыкамі тах, тах.*

ТАХАННЕ *н.* Груканне, стукат. *Што тама балыўнікі твыряць, ужо кылы бані нейкыя та́хыньня.*

ТАХАННІК, ТАХКАННІК *м.* Той, хто грукае, стукае. *Ваююцца та́хыньнікі пыт паветкыю, нейкія жылізякі пупалі. Ніяк та́хкыньнік ні ўспакоіцца, усё грюкочыць.* ТАХАННІЦА, ТАХКАННІЦА *ж. А ніхай хуць чым-чым тэя та́хыньніцы займуцца. Асталыся адна та́хкыньніца, ні прідумыіць, за што ўзяцца.*

ТАХНУЦЦА *зак.* Ударыцца. *Крепка та́хнуўся наўзныч, хырашо, ні пупаў гылавою ны кареньня, мог ба забіцца.*

ТАЧЫЦЬ *незак. метаф.* Есці. *Ма́лыя цэлый дзень точуць і точуць, ня тоя, дык другоя грызуць.* ТАЧЫЦЦА *незак.* Есціся. *Пряснушкі точуцца быйстра: адзін прібягіць атлумаіць, тады другей, тады трецьцій.* ТАЧОМШЫ *дзеепрысл. Носюцца, кусок пу куску пірог тачомшы.*

ТАШНОТА *ж.* 1. Моташнасць. *Замучыла мяне ташнота, што ня зьем, ат усяго плоха.* 2 *перан.* Туга. *Тыкая ташнота етыя ўремя, каб чаго ні случылыся с хлыпцамі. Павеліч.* ТАШНАЦІШЧА. 1. Моташнасць. *У мяне даўно ета тышнаці́шча.* 2. Туга. *Адна сяджу, тышнаці́шча, раздумыцца ні магу.*

ТАШНОЦІКІ *мн.* Бліны, аладкі з перамерзлай бульбы. *І ў нас пяклі ташноцікі, хадзілі вясною пу бульбоўнікых, зьбіралі, кыпалі.*

ТВАНІШЧА *ж. павеліч.* Вадкая гразь, бруд. *Нада нешта дзелыць, нілізя такую твані́шчу ны дваре цярьпець, луччы б засыпыць.*

ТВАРАЖОК, ТВАРАЖОЧАК *м. памянш.* Тварог. *Твыражок дзіцёнку дужа палезін, я сваім усігда аттаплівыла. Я табе нылажу у міску твыражочыку і сыхарком пасыплю.*

ТВАРОЖНЯ *ж.* Малочная. *Я ў тварожню з маткыю бегыў, мылако туды насілі.*

ТВАРЫЦЬ *незак. перан.* Груба сваволіць. *Ці ты ня відзіш, што етыя балыўнікі твыря́ць, чаго на іх ня тукніш!*

ТВАРЭННЕ *н. перан.* Грубае свавольства. *Зь іх усякыга твареньня хвытала, чаго ні сыпысалі, як сыбяруцца гуртым.*

ТВАРЭННІК *м. перан.* Грубы свавольнік. *Ой, што выдзелывыіцца с Кындрацёнкывых твареньнікыў, паверьх дзяреўні ходзюць.* ТВАРЭННІЦА *ж. Ці помніш, як Пархвеныва твареньніца ны гылаву стынавілыся пірід панію?*

ТКАЦЦА *незак. перан. неадабр.* Прапаноўваць, падносіцца. *Нечыга тка́цца іс цубулію, у мяне свыя ня хужы, трі гряды садзіла.*

ТЛЕЦЬ, ТЛЕЦЦА *незак. метаф.* Жыць пры слабым здароўі. *Ікая жызьня біз здароўя, трошку тлеіць, ладна, сыны ні кідаюць. Толька што тлеіцца Напреіха, яе жызьня дужа цяжолыя.*

ТЛУМЛЕННЕ. *н.* Тлум. *Як наслухыісься тлумленьня, ажно гылыва кругым ідзець.* ТЛУМІШЧА *м.* Вялікі тлум. *Тлумішчу як справюць у хаці, хут ты ўцікай ніізьвесна куды.*

ТЛУМЛЕННІК *м.* Той, хто тлуміць. *Арінін зяць такей тлумленьнік, ён за вечыр азяліў нас.* ТЛУМЛЕННІЦА *ж. Пыцягнуліся тлумленьніцы пы двырах, наседзіліся у Шапыріных — дос!*

ТОЖ *прысл.* Таксама. *Я тож была там, ну Колі ня відзіла. Мы тож пойдзім у горыд.*

ТОКА *часц.* Толькі. *Тока адзін Арцямёнык відзіў Ільлю. Тока што нявеста.*

ТОПАННІК *м.,* ТОПКАЛА *м.* і *ж.* Той, хто тупае. *Высілёў топыньнік доўга рызыряўся: нешта брігадзір ні так яму зыпісаў. Што Хвядоніныму топкылу нада кылы Цітанковыга двыра?* ТОПАННІЦА *ж. Пашлі віхрянскія топыньніцы двору, ні пыныравілыся ім вічарінка.*

ТОПКАМ *прысл.* Поўна. *Тымара два вядры топкым прінісла апеньык, іна ўмеіць шукаць.*

ТОПКАННЕ *н.* Тупанне. *Кынчай топкыньня, усяго ні пірядзелыіш, нада ехыць, ато некылі будзіць сеіць.*

ТОПКАЦЦА *незак.* Тупаць. *Ды самыга пасьледніга ўремя топкылыся пы хаці, то тоя, то тоя зьдзелыіць.*

ТОПЛЕННІК *м.* Тапелец. *Іхныга топліньніка цэлыю нядзелю шукалі, ні маглі найціць.* ТОПЛЕННІЦА *ж. Рысказывылі, што мальцы купаліся і пупалі на топліньніцу.*

ТОПЛЯ *ж.* Паленне (печы). *Ікая ж топля, што ў цябе дзьве палычкі курюцца ў печы.*

ТОПТАЛА *жарт.* 1 *м.* і *ж.* Той, хто топчацца. *Скажы топтылу, каб ні мясіўся тута, толька мішаіць пуд рукамі.* 2 *н.* Нарыхтоўка. *У мяне пымідоры свайго топтыла, сыма ў банкі закупрівыла.*

ТОПТАРАМ *прысл.* З верхам. *Насыпыў вядро сахыру топтырым, яму надоўга хваціць.*

ТОР *выкл.* Пра торканне, сованне. *Туды торь, сюды торь, а нійдзе нічога ня можыць дабіцца.*

ТОРКАЦЦА *незак. метаф.* Паказвацца, заходзіць. *Тама свыя кынпанія, нечыга торкыцца чужым.* ТОРКНУЦЦА *зак.* Паказацца, зайсці. *Быў торкнуўся сюда Чумілёнык, алі пыняў, што тут яму дзелыць нечыга.*

ТОРСКАННЕ *н. эмац.* Рэзкае штурханне. *Ніхай уніміцца с торскыньнім, ато Дзямід яго жыва уніміць, — іш расторскыўся!*

ТОРСКАННІК *м. эмац.* Той, хто рэзка штурхае. *Торскыньнік сам пыляцеў як мячык, во наторскыўся.* ТОРСКАННІЦА *ж. Ваша торскыньніца мыціріка палучыць і пойдзіць як мыла зьеўшы.*

ТОРСНУЦЦА *зак. эмац.* Штурхануцца. *Пару разоў торснуліся, нашы мушчыны скора іх рызьвялі.* ТОРСНУТЫЙ *дзеепрым. Пацскоч яшчэ, так атляціш торснутый, што агледзіцца ні пасьпеіш.*

ТОЎБА *ж. эмац.* Таўстуха. *Ну й тоўба зьдзелылыся Варкіна дычка, у дзьверi чуць прылазіць. Памянш.* ТОЎБАЧКА. *Ці ні за шыркыўскыю тоўбычкыю Пуўлючок улігаіць? Узмацн.* ТОЎБІНА. *Ай, тоўбіна разьдзелылыся, у яе адж жыру дыханія піріхватывыіць. Павеліч.* ТОЎБІШЧА. *Ходзіць тоўбішча пы дзяреўні, пыхціць, то там пыстаіць, то ў другом месьці.*

ТОЎЛІН *прым. іран.* Прыналежны няўмецы, непаваротлівай асобе. *Тоўліны рукі пыхадзілі, пірядзелывыць нада.*

ТОЎЛІШЧА *м.* і *ж. іран. павеліч.* Няўмека, непаваротлівая асоба. *Разьві тоўлішча што-небудзь акуратна зьдзелыіць?*

ТПРУЗЕЙКАННІК *м.* Той, хто падзывае карову выгукам «тпрузей». *Па-мойму, ета Кацін тпрузейкыньнік рустпрузейкыўся.* ТПРУЗЕЙКАННІЦА *ж. Удзьвюх тпрузейкыньніцы узяліся звацъ карову.*

ТПРУЗЕЯ, ТПРУЗЕЙКА *ж. дзіц. ласк.* Карова. *Січас наша тпрузея прідзіць дворку і мылычка прінясець. Я пайду тпрузейку пасьвіць, ці прідзіш ты мне пымыгаць? Памянш.* ТПРУЗЕІЧКА. *Просіць піць тпрузеічка, зынясём ёй вядзерца вады.*

ТПРУКАННІК *м.* Той, хто супыняе каня выгукам «тпру». *Усё з выпріжым возіцца ваш тпрýкыньнік, конь яго ня слухыіць.* ТПРУКАННІЦА *ж. Глядзі, каб тпрýкыньніца ні пыляцела с кыня носым у зямлю.*

ТПРУСЮТА, ТПРУСЮТКА, ТПРУСЮТАЧКА, ТПРУСЯ, ТПРУСЬКА, ТПРУСЕЧКА *ж. дзіц.* Цялё, цялушка. *Відзіш, як наша тпрусю́та піць хочыць, аж у сенцы прыгыіць. Дывай скорінька кашку дыядзім і пойдзім тпрусю́тык глядзець. Тпрусю́тычка ужо ў пуньку пышла, спаць зыхацела. Пыгладзь тпрýсю, ня бойся, іна ні бадзецца. Чуіш, як тпрýська піць хочыць, мікыіць лі ґанык. Січас тпрýсічка прібягіць с поля.*

ТПРУСЮТКАННІК *м.* Той, хто падзывае цяля выгукам «тпрусют». *Ня йдзець к тпрусю́ткыньніку цёлычка, голысу яго ні знаіць.* ТПРУСЮТКАННІЦА *ж. Другая тпрусю́ткыньніца на помышч пабегла, а цялёнык і дзьвюм ня ловіцца.*

ТРАВІНАЧКА *ж. памянш.* Адно каліва травы. *Скот прайшоў, выгрыз і вытыптыў, а тута жыра ўдаріла, травíнычкі ні асталыся.*

ТРАВІЧКА, ТРАВІЧАЧКА *ж. памянш.* Трава. *Травíчку сыгрябі акуратна ды рыстрясі ны абложкі, ніхай сохніць. Ны аборку травíчычка суха, зьвяжы ў ношку ды на жэрдзя складзі. Узмацн.* ТРАВЮГА. *Зыцягнула ячмень травю́гыю, нічога ня будзіць, ячменіны кой-айдзе відны.*

ТРАВЯНЕЙШЫЙ *прым.* Больш травяны. *І ў мяне многа травы ны ўсадзьбі, а твой кусок яшчэ трывянейшый.*

ТРАНДЗІНА *ж.* Лахман. *Нейкыя трáндзіна вісела ны прясьлі, ты ішоў і ні ўзяў, нымякла. Памянш.* ТРАНДЗІНКА. *Прібярі трáндзінкі к месту, чаго ім выляцца айдзе зря.*

ТРАНДЫ *мн.* Лахманы. *Нада пірятресьць трáнды ды пірісушыць, можа Нінка пріедзіць, зыбярець што. Павеліч.*

ТРАНДЗІШЧЫ. *Ныськідаў, ныськідаў у кучу тра́ндзішчы і пашоў.*

ТРАНЖЫРНІК, ТРАНЖЫРАННІК *м.* Марнатравец. *Транжы́рнік ні разу хырашо жыць ня будзіць. Раншы ён быў транжы́ріньнік, а цяперя, знаць, троху ўзяўся за розум.* ТРАНЖЫРНІЦА, ТРАНЖЫРАННІЦА *ж. Ну чаго б табе еткыю транжы́рніцыю быць, усё дно як жыць ні зьбіраісься. Транжы́ріньніца ні ў век ні жыла і ня будзіць жыць як усе людзі.*

ТРАПАННІК *м. перан.* Балбатун. *Ат тріпа́ньніка што хочыш можна пачуць.* ТРАПАННІЦА *ж. Была йна вешныя тріпа́ньніца і астанецца ёю.*

ТРАПАНУТЫЙ *дзеепрым.* Набалбатаны. *Ты сам хырашо знаіш, длі чаго було тріпану́та: каб пысваріць Кацю зь Мікітыю.*

ТРАПАТАННІК, ТРАПАЧ *м.* Балбатун. *Ня слухыйця вы яго, ці ат тріпыта́ньніка праўду пачуіця. Твой Стыхванька ізьвесный тріпа́ч, ён толька ізыком усё дзелыіць.* ТРАПАТАННІЦА, ТРАПАЧКА *ж. Ці йна скажыць, ці вецір вяйнець — ета ўсё роўна, іна тріпыта́ньніца. Ахота вам слухыць тріпа́чку, ёй у акругі ніхто ня веріў і ня веріць.*

ТРАПАТНЯ *ж.* Балбатня. *Ня слухыю я нічые тріпатні́, ніхай треплюць, ці ім пызывязывыіш.*

ТРАПЛІВА *прысл.* Балбатліва. *Нехта буўтануў тряплі́ва і пашло пы дзяреўні: ла-ла-ла.*

ТРАПЛІВАСЦЬ *ж.* Балбатлівасць. *Тряплі́высьці у іх столька, што хуць нясі пызычаць каму-небудзь.*

ТРАПЛОЎ *прым.* Прыналежны балбатуну. *Ета тряпловы рызгаворы, у яго праўды на нохыць німа.*

ТРАПНУЦЬ, ТРАПАТНУЦЬ *зак.* Балбатнуць. *Былі тряпну́лі пры Дзімідзёнкывыга сына, што сюда у хату сыбіраіцца. Ты Кызіміріхі ны кажным шагу бойся: што хочыш можыць тріпатну́ць.* ТРАПАТНУЦЦА *зак.* 1. Балбатнуць. *Ня выцірьпілі, тріпатну́ліся пру лугавоя сянцо, толька рызгавору надзелылі.* 2. *Зал.-бессуб'ект.* *ад* трапатнуць. *Пачом я знаю, аткуля ета тріпатну́лыся.* ТРАПНУТЫЙ *дзеепрым. Нарошня було тряпну́та: што яны стануць дзелыць.*

ТРАПЯТАННЕ *н. метаф.* Спосаб жыцця. *Ня дужа лёхкыя яго тріпіта́ньня, мала яму вязло, большы ні ўдывалыся.*

ТРАПЯТАННІК *м. метаф.* Той, хто спрабуе штосьці зрабіць у жыцці. *Якей зь Дзяміда тріпіта́ньнік, яму біз аднаго восімдзісят.* ТРАПЯТАННІЦА *ж. Ікая ні тріпіта́ньніца, патрошку шаволіцца, усё ў дваре падзелыіць.*

ТРАПЯТАЦЬ, ТРАПЯТАЦЦА *незак. метаф.* Дзейнічаць. *Ён ны старысьць ні глядзіць, крепка тряпечыць, сіла ў яго ёсьць. Як ба сіла тріпіта́лыся, ніхай ба і ў мяне пырасёнык кычаўся.*

ТРАСІЛКА, ТРАСУХА *ж.* Бульбакапалка. *Зы трясілкыю толька пыдбірай у карзінку, ні нада зямлю пірігрібаць. Бульбу кыпалі трясу́хыю, дзеці хадзілі ўсьлед, пыдбіралі. Памянш.* ТРАСІЛАЧКА. *Во каб мне тыкая трясі́лычка, сыбраў, сыбраў бульбу і спакоін.*

ТРАСКАТНУЦЬ *зак. мета́ф.* Пусціць чутку, пагалоску. *Былі тріскатну́лі, што іна адбіваіць Сірьгяёнкывыга зяця.* ТРАСКАТНУЦЦА *зак.* Пусціцца (пра чутку, пагалоску). *У іх што хочыш тріскатнецца, можа нешта пачуюць, а тады ў трі редзі дыбавюць.*

ТРАСКАЦЕЛКА *м.* і *ж. метаф.* Балбатун. *Нікрасіва мушчыні тріскацелкыю быць. Большы слухый, што тая тріскацелка ныбалмочыць. Памянш.* ТРЫСКАЦЕЛАЧКА. *Пы мамі зыдылася тріскацелычка, у тае тожа язык круціўся як ніпыдвязыный.*

ТРАСКУНОК, ТРАСКУНЧЫК *м. эмац.* Дзіця са звонкім голасам. *Во тріскунок мальчык, цэлый дзень як званок зьвініць. Рызыйшліся тряску́нчыкі, нешта аб'ісьняюць адзін другому пры трактыр.*

ТРАСУН *м.* Чалавек, які трасецца. *Яго звалі трісуном, у яго левыя рука тріслася, пасьці ні ўладзеў ёю.*

ТРАСЦЫ *прысл. эмац.* Ні ў якім разе, нічога. *Тря́сцы ён паедзіць у Касмынічы, толька трепліцца. Тря́сцы ты найдзіш грібоў у такую сухмень.*

ТРАХАМУДЖАННЕ *н.*, ТРАХАМУДЗІЦА *ж.* Неакуратная работа. *Ты б тожа ні зулюбіў тріхаму́джыньня,*

*каму ета аньцірэсна глядзець. Нядзелю была тріхаму́дзіца кылы бані і зьдзелылі, што сыбакі у дзірькі ускочуць.*

ТРАХАМУДЗІСТАСЦЬ *ж.* Неахайнасць. *Ні пупаўся ён у Сірахвіміны рукі, тая б скора выгнула зь яго тріхаму́дзістысьць.*

ТРАХАМУДЗІЦЬ, ТРАХАМУДЗІЦЦА *незак.* Рабіць неакуратна. *А па-мойму, тріхаму́дзіў тута Лук'янёнык, ён сюда зь вілкымі ішоў. Нешта тріхаму́дзіцца Крыўчанкова нявестка ны дваре сы сваімі уборымі.*

ТРАХАМУДНІК *м.* Абадранец. *Кызалі, што етый тріхаму́днік із Валоўнікыў.* ТРАХАМУДНІЦА *ж.* *Каму ваша тріхаму́дніца нада, яе век ніхто зы чылавека ня веў.*

ТРАХАМУДНЫЙ, ТРАХАМУДЗІСТЫЙ *прым.* Неахайны. *Твой старэй усігда быў тріхаму́дный. А што ты зьдзелыіш, калі тріхаму́дзістый, як ты яго пірявучыш.*

ТРАХАННЕ, ТРАХКАННЕ *н.* Грукат. *Выйдзі-ка глянь, што ета зы тра́хыньня, каб дзеці ні пыкалечыліся іж жалезьзім. Не, я ніякыга тра́хкыньня ня чуў, праўда, трошку зыдрімаў.*

ТРАХАННІК, ТРАХКАННІК *м.* Той, хто грукоча. *Узноў зь нейкім паленьнім тра́хыньнікі ваююцца. Адурілі гылаву тра́хкыньнікі, выйдзі ды прыгані іх з двыра.* ТРАХАННІЦА, ТРАХКАННІЦА *ж.* *Як мульчуганы тра́хыньніца ўзілася, нейкыю палкыю пы калодкі лупіць. Кыла кольля тра́хкыньніцы зыняліся, стукочуць, ну хуць у хаці ні ныдыідають.*

ТРАХАНУЦЬ *зак.* 1. Растрэсці. *Пыд яблынкымі тожа нада гною тріхану́ць, і яблынкым луччы, і бульбі.* 2. Затрэсці (ад холаду). *Неік зразу мяне тріхану́ла, я места сабе найціць ні мыгла.* ТРАХАНУЦЦА *зак.* Растрэсціся. *Тута зімля жырныя, калі і ні тріханецца гною, ячмень будзіць росьць.* ТРАХАНУТЫЙ *дзеепрым.* Растрэсены. *Пыт пышаніцу трошку тріхану́та гною.*

ТРАХОЛІНКА, ТРАХОЛІНАЧКА *ж. памянш.* Лахман. *Нашто лі двыра харошыю адзежыну гамзіць, тряхолінку пірякінуў і хадзі. Тваю тряхолінычку некуды ныдзіваць, яе толька тря́пышніку занесьць.* ТРАХОЛЛІКА *н. зб.* *Пріпыряччы сваё тряхольліка, ні кідай як зря.*

ТРАХОМЕЦ, ТРАХОМНІК *м.* Хворы на трахому. *Лі трахомца астыражней, дужа ні шырахыйся. Трахомнік і ня хочучы можыць зыразіць, іна, паскуда, дужа ліпучыя.* ТРАХОМНІЦА *ж. Вочы ў яе ўсігда красныя былі, ну што трахомніца, мы ні зналі.* ТРАХОМКА *ж.* 1 *памянш.* Трахома. *Нейдзі пытхваціў трахомкі, паспробый выліч яе.* 2. Хворая на трахому. *Ста́рыя была трахомка, сын ёй усё каплі купляў.*

ТРАХТАВАННІК *м.* Той, хто частуе. *Твой трухтуваньнік угасьціць: хочыш — крашынкі ні пасуліць. Памянш.* ТРАХТАВАННІЧАК. *Во якей ты харошый у мяне трухтува́ньнічык.* ТРАХТАВАННІЦА *ж. Гатовюцца трухтува́ньніцы: к ім бальшэй госьць прііжджаіць.*

ТРАХТОВАЧКА *ж.* Частаванне. *Рыманёнкі гатуюць сваім гысьцям быгатыю трахтовычку.*

ТРАЦЦІНА *ж.* Трэцяя частка. *Шэндрік быў адзіналішнікым і аддываў сваю зямлю іс тряцьці́ны, мы лён сеілі, бульбу. Памянш.* ТРАЦЦІНКА. *Бувала, некытырыя самі ні хацелі касіць, у іх луг с тряцьці́нкі бралі.*

ТРАЦЦЯЧОК, ТРАЦЦЯЧОЧАК *м. памянш.* Траццяк. *Адз Зорькі ладный тріцьцячок узяўся, каб у харошыя рукі, каніца б, каніца быў. Тріцьцячочык бычок пыдрыстаіць.*

ТРОНУЦЦА *зак. перан.* Пачацца. *Есьлі выйна троніцца, ниійдзе і нікому места ня будзіць.*

ТРОП *выкл.* Пра трапятанне. *Рыбіна трёп, трёп і вырвылыся, брязь у мяне з рук на мост.*

ТРОПАЦЬ, ТРОПАЦЦА *незак. перан.* Біцца (пра сэрца). *А што, і ў цябе трёпыіць серца, як сустреніш Арцямёнкыву дачку. Пакуля серца трёпыіцца, будзіш цігацца пы зямле, што ж ты зьдзелыіш.*

ТРОХ *выкл.* Пра трасенне. *Ідзець, сваім тряхольлім трёх, трёх. Пінжаком трёх, трёх, а конь баіцца.*

ТРОХГРАНІСТЫЙ *прым.* Трохгранны. *Ёсьць у мяне і трёхгра́ністыя патпілкі, і пулукруглыя, можна ўсё нытачыць.*

ТРУДАЛЮБІМЫЙ *прым.* Працалюбівы. *Што ўжо быў трудалюбі́мый Аўдзяёнык, ён, бувала, мінуты ні пругуляіць.*

ТРУДДЗЕНЬ *м.* Працадзень. *У нас пасьці нічога ні дывалі, а ў лешчынскім калхозі ну трудзьдзень троху пулучалі.*

ТРУДЗЯШЧЫЙ *прым.* Працавіты. *Такога трудзя́шчыга чылавека, як Хведзька, пыіскаць ды пыіскаць нада.*

ТРУДЫ *мн.* Вялікія намаганні. *Як сяджу і ні пыднімуся, мне ўстаць іс скамейкі труды́-труды́.*

ТРУНЕННЕ *н.* Злосныя жарты. *Ніхай ён сваё труненьня сабе зыбярець і носіцца зь ім як сь пісыныю торбыю.*

ТРУНЕННІК *м.* Той, хто злосна жартуе. *Не, труненьнік, тута цябе сымаго кругом апсьмяюць, ні на тых ты нырваўся.* ТРУНЕННІЦА *ж. Вот ныйшлася яшчэ труненьніца, тута сваіх такіх хвытаіць.*

ТРУНІЦЬ *незак.* Злосна жартаваць. *Міхей умеў труніць, яму, бувала, паліц у рот ні кладзі.* ТРУНЕТЫЙ *дзеепрым. Я дзівяноста гадоў як тру́ніт, мяне большы труні́ць ні нада.* ТРУНЁМШЫ *дзеепрысл. Ён, кажыцца, ня можыць мінуты пражыць ні трунёмшы.*

ТРУНЯННІК *м.* Гультай, бадзяга. *І бацька ні гультай, і матка як мурашычка, а сын зыдаўся труня́ньнік.* ТРУНЯННІЦА *ж. Ат труня́ньніцы помышчы ні дажджэсься, дайжа ні надзейся.*

ТРУПЕХЛІНА *ж. перан.* Нямоглая жанчына. *Ікая с трупехліны работа, іна лі хаты чуць ногі пірістыўляіць.*

ТРУПЕШЫНА *ж.* 1. Гнілушка. *Трупешыну луччы пільнуць, ат тыпыра ўся рассыпліцца.* 2 *перан.* Зусім слабая асоба. *Жывець трупешына — чуць дышыць, сыма ня ўзьверніцца. Памянш.* ТРУПЕШЫНКА. Гнілушка. *Трупешынкі пыдз загнетым, іх нада спаліць, каб ні выляліся.*

ТРУПЕШЫЦЦА *незак.* Трупехнуць. *Палык нывазіў, а толку ім ні даў, яны трупешуцца пыт карою.*

ТРУПЯХЛЯВЫЙ *прым.* Падгнілы. *Асталіся труціхля́выя палкі, пыт кыплямі доўга ліжалі. Памянш.* ТРУПЯХЛЯВЕНЬКІЙ. *Якоя табе прясла с труціхля́вінькіх жардзінык.*

ТРУСІНА *м. метаф. узмацн.* Палахлівец. *Ета вы ні знаіця, якей ён быў трусі́на, адз зайца гатоў быў уцікаць.*

ТРУХАННЕ *н.* Язда трушком. *Я здаліку пызнаў Аўхімёнкыва трю́хыньня, ён так езьдзіць.*

ТРУХНУЦЬ *зак.* Злёгку пасыпаць. *Ні жалей, трухні яшчэ солі, ніхай сала крепка прысáлівыицца.*

ТРУШЭННЕ *н.* Вытрасанне, пасыпанне. *Якоя ж тваё трушэньня, што ні ў шаічку сыпліш, а міма.*

ТРЫБУХАВАЦІСТЫЙ, ТРЫБУХАСТЫЙ *прым.* Трыбухаты. *Здыравýшчыя карова трібухувáцістыя, зы раз ручкі травы зыдаіць. Абоя трібухáстыя як сьлімяньнё. Памянш.* ТРЫБУХАСЦЕНЬКІЙ. *Трібухáсьцінькыя цёлычка, ізь яе можыць нічога кароўка быць.*

ТРЫБУХАСТАСЦЬ *ж. метаф. гумар.* Тлустасць. *Яму тожа ідзець трібухáстысьць, як выйдуць удваіх — роўныя пара.*

ТРЫБУШЫНА, ТРЫБУШЫШЧА *м. метаф.* Таўстун. *Во прецца трібушы́на, як яго ногі дзіржаць! Ходзіць трібушы́шча, пад ім зімля угінаіцца.*

ТРЫБУШЫЦЬ *незак. метаф.* Трэсці, разбураць. *Хто толька мужукоў-дзірявенцыў ні трібушы́ў! Што ён трібушы́ць у сундуку?*

ТРЫБУШЭННІК *м. метаф.* Той, хто трасе, разбурае. *Трібушэньнікі як узяліся за дзела, толька пыл стаўбом стыяў.* ТРЫБУШЭННІЦА *ж. Ваюіцца трібушэньніца сы сваім тряхольлім.*

ТРЫКАТАЛЬНІК *м.* Трысцен. *Бальшую пуню я ня буду рызвáдзіць, два трікытáльнікі зрублю і хваціць, пысярёд вароты пыстаўлю. Памянш.* ТРЫКАТАЛЬНІЧАК. *Дровы склаў у трікытальнічку, ён пустэй стаіць усё ўремя.*

ТРЫЛЮДЖАННІК, ТРЫЛЮДЗЕННІК, ТРЫЛЮДНІК, ТРЫЛЮДНІЧАННІК *м.* Балбатун, пустаслоў. *Найшоў ты каго слухыць, трілю́джыньніка нісусьветныга. Няўжэлі ты надзеіўся ат трілю́дзіньніка нейкыю праўду пачуць? Сяньня к Сахонывым тэй трілю́днік паплёўся. Ну й нылаю я калі-небудзь вашыга трілю́днічыньніка.* ТРЫЛЮДЖАННІЦА, ТРЫЛЮДЗЕННІЦА, ТРЫЛЮДНІЦА, ТРЫЛЮДНІЧАННІЦА *ж. Прецца трілю́джыньніца іс сваімі новысьцімі, січас ныпяець песін. Ці можна такую трілю́дзіньніцу слухыць, ат яе праўды ні на грош ні пачуіш. Як жа не, я іхнію трілю́дніцу помню як аблупліныю. Дурак тэй будзіць, хто хуць у чом-нібудзь трілю́днічыньніцы паверіць.*

ТРЫЛЮДЗІНА *узмацн.* 1 *ж.* Бязглуздзіца, лухта. *Нейкыю трілю́дзіну пусьцілі пы дзяреўні, нарошня зьдзелына.* 2 *м.* і *ж.* Балбатун, пустаслоў. *Трілю́дзіна за ўвесь век ні скызаў слова праўды. Ладныя была трілю́дзіна ваша цёцічка, мы яе чулі ні раз.*

ТРЫЛЮДЗІСТА, ТРЫЛЮДНА *прысл.* Бязглузда, папустому. *Зразу пычалі трілю́дзіста верзьць пра нейкія капёшкі. Яны ўсігда трілю́дна пруць, разумныга нічога ні пачуіш.*

ТРЫЛЮДЗІСТАСЦЬ, ТРЫЛЮДНАСЦЬ *ж.* Бязглуздзіца, лухта. *Як наслухыюцца трілю́дзістысьці, тады пухтыряюць нісусьвеціцу. Хвытаіць трілю́днысьці, усяго мы наслухыліся, кумычка мыя.*

ТРЫЛЮДЗІСТЫЙ, ТРЫЛЮДНЫЙ *прым.* Бязглузды, пусты. *Мне трілю́дзістыя разгаворы ні к чаму. Я б яго трілю́дныя былбатні ні стаў слухыць, ета Міхяёнык прістоіў.*

ТРЫЛЮДЗІЦА *ж.* 1. Бязглуздзіца, лухта. *Ці мала ўсякія трілю́дзіцы па сьвету ходзіць!* 2. Балбатуха. *Ну трілю́дзіца ж ты, трілю́дзіца, Гырысімёнык там дайжа нагою ня быў!*

ТРЫЛЮДНІЧАННЕ, ТРЫЛЮДСТВАВАННЕ, ТРЫЛЮДСТВА *н.* Балбатня, пустаслоўе. *Мы ня меншы цябе наслухыліся усякыга трілю́днічыньня. У іх усігда адно трілю́дствывыньня: Хвенька харошыя, а ўсе дренныя. Пойдзіш туды, дык усякыга трілюдства наслухыісься, луччы лі двыра што зьдзелыць.*

ТРЫЛЮДНІЧАЦЬ, ТРЫЛЮДСТВАВАЦЬ, ТРЫЛЮДНІЧАЦЦА, ТРЫЛЮДСТВАВАЦЦА *незак.* Балбатаць, пустасловіць. *Як яму ні ныдаесьць трілю́днічыць, — кажный дзень адно і тоя. Ахотычка ж іх рызьбіраіць трілю́дствывыць дзень прі дні! Стыялі кучыю с каліныўцымі і вашы бабы, пра нешта трілю́днічыліся. Сколька яны трілю́дствывыліся, можа толька адна Вусьцінка знаіць.*

ТРЫНОЖАННЕ *н.* Прывязванне галавы каня да спутаных пярэдніх ног, каб высока не мог яе падняць. *Ета ні тріро́жыньня лазовыю вяpёўкыю с пута, конь смырганець і парьвець.*

ТРЫНОЖАННІК *м.* Той, хто трыножыць. *Конь крутнецца ды кыпытом, во будзіць етыму тріножыньніку.* ТРЫНОЖАННІЦА *ж. Ікая зь мяне тріножыньніца, калі я лі коні дужа ні брышчалыся.*

ТРЫНОЖЫЦЬ *незак.* Прывязваць галаву каня да спутаных пярэдніх ног, каб высока не могг яе падняць. *Дужа збродлівыя кабыла, у пуці ў шкоду запрыгыіць, нада абізацільна тріножыць.* ТРЫНОЖАНЫЙ *дзеепрым. Ну й уредзіна жарёбка, тріножыныя пыскыкала ў вык.*

ТРЭБАВАЦЬ *незак.* Быць у цечцы. *Віджу, што сьвіньня требыіць, нада гнаць к хляку.*

ТРЭНДАННЕ *н.* Бадзянне. *А мне, думыіш, ні ныдаела такоя трэндыньня, помышчы ня віджу ні на грош.*

ТРЭНДАННІК *м.* Бадзяга. *Вун твае трэндыньнікі вылакуцца, можа хуць палку дроў піряпілюць.* ТРЭНДАННІЦА *ж. Сыма вінувата: каб зыстыўляла усё дзелыць, іна ні была б такою трэндыньніцыю.*

ТРЭНДАЦЬ, ТРЭНДАЦЦА *незак.* Бадзяцца. *Як ім ні ныдаесьць трэндыць цэлымі днямі, ні за што ў дваре ні бяруцца! Айдзе-то ноч трэндыліся, цяперя будуць дрыхнуць ду пуўдня.*

ТРЭНЧАННЕ *н. экспр.* Турботы, непакой. *Каб табе меншы трэнчыньня, усім ба у хаці було спыкайней.*

ТРЭНЧЫЦЬ *незак. экспр.* Турбаваць, непакоіць. *Яго кажный дзень нейкыя нячыстыя сіла трэнчыць.* ТРЭНЧЫЦЦА *незак.* 1. Турбавацца, непакоіцца. *С самыга раньня трэнчыцца, места сабе ні находзіць.* 2. Хацецца. *Яму дужа трэнчылыся у горыд зьбегыць.*

ТРЭПЛЯ *ж.* Балбатня. *А якей мне аньцірес усякыю треплю слухыць, ніхай трілюдзюцца.*

ТРЭСЦА *незак. метаф.* Прагнуць. *Зы работыю трясецца, у калхозі усю сілу кладзець.*

ТРЭЦЦЕНЬКІЙ *ліч. памянш.* Трэці. *Па росту табе нада у трецьцінькім быць, а толька ў другей піряйшоў.*

ТРЭШЧАННЕ *н. метаф. груб.* Угляданне. *Пыдзікуйся ны яе трешчыньня: усё дно як ну людзях ні разу ні была і нічога ня відзіла.*

ТРЭШЧЫЦЦА *незак. метаф. груб.* Углядацца. *Чаго ты трешчысься, такея дзеўкі ні длі цябе.*

ТУЖАННЕ *н.* Зацягванне з мэтай зрабіць тужэй. *Ту́жыньня нада, ну пірятужывыць нілізя, вярёўка лопніць.*

ТУКАННЕ *н.* Грознае пакрыкванне. *Ня дужа да іх даходзіць ту́кыньня, во як ремінь возьміш, да іх луччы даходзіць.*

ТУКАННІК *м.* Той, хто грозна пакрыквае. *Ну як, ту́кыньнік, ці слухыюць ма́лыя хут троху?* ТУКАННІЦА *ж. Ікая зь яе ту́кыньніца, ці скажыць, ці не, яны у рязон ні бяруць.*

ТУКАЦЬ *незак.* Грозна пакрыкваць. *У Лаха была дычка Міла, ён ту́кыў ны яе, іна яго духу быялыся.* ТУКНУЦЬ *зак.* Грозна прыкрыкнуць. *Ты б сам ту́кнуў ны мальца, што зу дурную прівычку ён узяў усіх кріўляць.*

ТУЛМАЧАННІК *м.* Той, хто тлумачыць. *Вот вам другей тулма́чыньнік, етый усё дывядзець ды ладу.* ТУЛМАЧАННІЦА *ж. Тваю тулма́чыньніцу нада нанывa пірітулмачывыць, тады можа рызьбяресься троху.*

ТУЛЯННІК *м.* Той, хто туляецца. *Айдзе ты хочыш ат туля́ньніка работы, ён глядзіць, каб дзень пpaшлы́ндыцца.* *Памянш.* ТУЛЯННІЧАК. *Хаці́ ты зь яго пуця: пітнаццыці німа, а ён ужо туля́ньнічык, як Міця.* ТУЛЯННІЦА *ж. Ці ета толька ўчора, іна ўсігда была туля́ньніца, ні к чому рук ні пріклыдала.*

ТУМАНІЦЬ *незак. перан.* Курыць. *Ого як мы тума́нілі ны піряменкых, ні куплёныя, а сымысад.*

ТУМАНОК *м.* Невялікі туман. *Па-мойму, карова хадзіла лі Тріхонывыга аборка, ну быў туманок, я ня дужа разгледзіла.*

ТУМАРСТВА *н.* Багацце. *Знаім, якоя ту́мырства було ў яго бацькі, ета зыдачы адны: мол, мы былі ух!*

ТУМАЧОК, ТУМАЧОЧАК *м. памянш. абразл.* Недалёкі чалавек, дурань. *Тумучка́ нейкыга пупала сабе із-за горыда, ну зяць жа, хуць якей, ды зяць. Яе мальчонка — тумачочык, што гаворіш, нічога ні пынімаіць. Павеліч.* ТУМАЧЫШЧА. *Эх, тумачы́шча, ты ж хут трошку думый, прі ком гаворіш.* ТУМАЧКА *ж. Зь ёю як ш чылавекым ні пыгаворіш, іна тумачка тумачкыю.*

ТУМБІШЧА *ж. перан. павеліч.* Непаваротлівая жанчына. *Дзямідыва нявестка разьдзелылыся ту́мбішча, у дзьвері ні прашчэміцца.*

ТУМКАННІК *м. звыч. іран.* Той, хто разумее. *Такей ту́мкыньнік што хочыш растумкыіць, толька пынадзейся.* ТУМКАННІЦА *ж. Вун пыцягнулыся некуды Пуўлючонкыва ту́мкыньніца.*

ТУПАННІК, ТУПКАННІК *м.* Той, хто топае, топчацца. *Расту́пыліся твае ту́пыньнікі ў сенцых, ня хочуць сьнег несьць у хату. Січас ту́пкыньнік зайдзіць, вы пыгаворіця нашчот заўтрішніга.* ТУПАННІЦА, ТУПКАННІЦА *ж. Нешта сердзіцца ту́пыньніца, скрівілыся і ня хочыць выхадзіць к хлопцым. Чыя йта, чыя ту́пкыньніца тут стаіць, дай-ка я гляну, січас пызнаю.*

ТУПІЛІЧАННІК *м. жарт.* Той, хто рэжа няўмела або тупой прыладай. *Стыряюцца тупілі́чыньнікі аж кріхцяць, а піла браць ня хочыць.* ТУПІЛІЧАННІЦА *ж. Ідуць двору твае тупілі́чыньніцы, неік скора яны справіліся.*

ТУПІЛІЧЫЦЦА *незак. гумар.* Рэзацца, разразацца. *Ай, слыба́к ты, у цябе і гарбуз ні тупілі́чыцца, а ён няцьвёрдый.*

ТУПІЧКА, ТУПІЧАЧКА *ж. памянш.* Тупіца. *Войстрым тыпаром косьці ні сякуць, тупі́чку вазьмі. Кыла печы і тупі́чычка пуд руку нада: костку пірісякеш, памыіш і ў гаршчок.*

ТУПКАННЕ *н.* Таптанне, топанне. *Нейкыя ту́пкыньня на вуліцы я чула, ну ні хацелыся пыднімацца глядзець.*

ТУРАВЕЙ *м. эмац.* 1. Неразвіты чалавек. *Айдзе ты зь ім толку дыбяреш, туравей нейкій.* 2. Шчодры чалавек. *Не, я б ні скызаў, што Сямён бальшэй туравей. Памянш.* ТУРАВЕЙЧЫК. Неразвіты хлапчук. *Адзін быў нічога маліц, а другей так, туравейчык.* ТУРАВЕЙКА *ж.* 1. Неразвітая жанчына. *Ці туравейка табе пы-разумныму рассудзіць?* 2. Шчодрая жанчына. *Іна туравейка як длі каго: сваім душу ложыць, а чужому ня дужа рыздасца. Памянш.* ТУРАВЕЕЧКА. Неразвітая дзяўчынка. *Каціна туравеічка ходзіць як ніпрікаінныя, ніхто ны яе ні глядзіць.*

ТУРАННЕ *н.* Ганянне. *Рузмудрелі мальцы с туря́ньнім, талуюцца, айдзе пупала, хочыш — пы гародых каторый лясьніць.*

ТУРАННІК *м.* Той, хто ганяе. *Я січас уніму туря́ньнікыў, іш, ні дадуць ціха паскусьць цілятым.* ТУРАННІЦА *ж.* *Такой туря́ньніцы толька зы сыбакымі гыняцца.*

ТУРКАННІК *м.* Той, хто пакрыквае. *Няўжэлі і ны цябе яшчэ ту́ркыньніка нада, пыдгыняць ны кажным шагу.* ТУРКАННІЦА *ж.* *Ту́ркыньніца была б ладныя, а сыма прілажыць рукі ня дужа хочыць.*

ТУРКСІН *м.* Мясцовая назва магазіна ў Мсціславе ў 20—30-х гадах (з рус. торгсин). *Тады, як турксі́н аччынілі, у ім усяго ўсякыга було многа, ну за золыта.*

ТУРЛЫЧАННІК *м.* Той, хто гаворыць невыразна. *Як возьміцца турлы́чыньнік рысказывыць, хочыш слухый, хочыш сьмейся.* ТУРЛЫЧАННІЦА *ж.* *Я што рызьбяру ў тае турлы́чыньніцы, а большы нічога ні пайму.*

ТУРЛЫЧЫК *м.* Разумова абмежаваны чалавек, звыч. дзіця. *Нейкій мальчышка ў яе, турлы́чык, як нідыра́зьвітый. Памянш.* ТУРЛЫЧАЧКА *ж.* *Турлы́чычка Аўсяёўніна нешта бегыла у тэй бок, пыд магільнік.*

ТУРЛЫЧЫЦЦА *незак.* Размаўляць у непаразуменні. *Сыбяруцца і пашлі турлы́чыцца, ста́рыя успымінаюць, як яны пры Мікілаю жылі.*

ТУРОРА *ж. эмац.* Балбатуха. *Турора тут усё бегыла, нешта ёй ні цярьпелыся устреціць Цімышынка. Памянш.* ТУРОРКА. *Сколька ёй ішчэ гадоў, а ўжо тыкая турорка, — як цётычка. Павеліч.* ТУРОРЫШЧА. *Каб ты паслухыў Кірілёнкыву туроришчу, тады б ні так уздыхаў.*

ТУРЫЦЬ *незак. перан.* Лаяць. *Турі́ла ны яго ўсякыю трілюду, іна знайдзіць за што.* ТУРЫЦЦА *незак.* Гнацца. *Я відзіла, як за ім бык турі́ўся, страшна було.* ТУРНУЦЦА *зак.* Пацячы. *Бацька прыкыпаў кынаўку с пуні ны гарод, як турнецца с тае кынавы жыжка пы ўсяму гароду!* ТУРНУТЫЙ *дзеепрым.* Прагнаны, адагнаны. *Цялёнык турну́т с клевіра, дык ён ускачыў ны гряды, сьлед прымясіў.* ТУРОМШЫ *дзеепрысл.* Гнаўшы. *Я яму пыкажу дарогу двору, турёмшы пірiц сабою.*

ТУСМІЦЬ *незак.* Даводзіць да пераживанняў, гора. *Распутный дужа, тусьміць Алёну, а іна баба нічога, можна сям'ю строіць.*

ТУТЭШНІЙ *прым.* Мясцовы, тутэйшы. *Ніаткуля ён ні пріїжджаў, ён тутэшній, Кулажонкыў унук.*

ТУХЛЯЦЦЁ *абразл.* 1 *м.* і *ж.* Той, хто смярдзіць. *Цягніцца тухляцьцё, сядзі ты зь ім, рызбыла́кывый.* 2 *н. зб.* Тыя, што смярдзяць. *Тама жывэя душы німа, адно тухляцьцё асталыся.*

ТУХНУЦЬ *незак. перан. груб.* Спаць. *Ту́хніць на печы цэлымі судкымі, толька ныжрацца спуўзаіць.*

ТУЧАННЕ *н.* Хмаранне. *Прібірайці-ка вы скарей салому, ці відзіця, якоя ту́чыньня кругом.*

ТУЧЫШЧА *ж. павеліч.* Хмара. *Тыкая страшныя ту́чышча адз Заречча дзьвініцца, худзь ба ні грыдывая.*

ТУШЫЦЬ *незак.* 1. Рабіць тухлым. *Галоў ны плічах, німа, дык ту́шуць мяса, авечку ціряс трі дні выкінулі.* 2 *метаф.* Карміць зусім дрэнна. *Хваціць табе тушы́ць іх адною капустыю, ты ж блін сьпякі, пыджжарь чаго.* ТУШЫЦЦА *незак.* 1. Рабіцца тухлым. *Канешня, ніпрігледжыныя будзіць тушы́цца.* 2. Харчавацца вельмі дрэнна. *Што з быгаства толку, калі яны зьбіралі ды ўсё тушы́ліся нішчымніцыю.*

ТХАРЫЦА, ТХАРЫХА *ж.* Самка тхара. *Цэлыю ахоту заўчора устроіў: тхаріцу забіў ны дваре, а тхыря ў погрібі. Ікая мне разьніца, тхорь ці тхаріха, ціплят цігаюць, во і ўсё.*

ТЫЛІЛІКАННЕ *н.* Ігра на гармоніку. *Нейкыя тылілікыньня у том канцы, хто б там мог быць з гармоньню?*

ТЫНЕННЕ *н.* Гніенне, прэласць. *Дождж туды зысікаіць, усё мокра і мокра, ні разу ня сохніць, паетыму і тыненьня.*

ТЫРКАННЕ *н.* Тпруканне. *Нейкыя ты́ркыньня на вуліцы, каго там двынаццыць носіць такою цеміньню.*

ТЫРКАННІК *м. метаф.* Той, хто саджае. *Зыгырадзіў ты́ркыньнік сваімі кустамі праезд.* ТЫРКАННІЦА *ж. Пышла ты́ркыньніца сь цьвітамі, што іна натыркыіць.*

ТЫРКАЦЬ І *незак. метаф.* Саджаць. *Ты́ркыла пы крайку боб, ды ён нешта ня ўсходзіць.* ТЫРКАЦЦА *незак.*

Паказваць, высоўваць. *Ты́ркылыся пы бызару ш чыснаком, галоўкі пырядышныя, ды ні апшалушыны, нікрасівыя.* ТЫРНУЦЬ *зак.* Высунуць. *Нейкія тряпкі ты́рнула, а тады ўсё ў кашолку і бягом з бызара.*

ТЫРКАЦЬ II *незак.* Тпрукаць. *Ета ні Трахім, ета Купчанкоў маліц ты́ркыіць.* ТЫ́РКНУЦЬ *зак.* Тпрукнуць. *Я ж хырашо чула, нехта ты́ркнуў, а пыглядзела — нікога німа, што йта такоя?*

ТЫРХАННІК *м.* Той, хто штурхае. *Ці ні пыдаўся Купряёнкыў тырха́ньнік у Малітычы, нешта яны пыміналі ўчора.* ТЫРХАННІЦА *ж.* *Штурхнець Санька ету тырха́ньніцу, і йна атляціць як мячык.*

ТЫХКАЦЦА *незак.* Моцна біцца (пра сэрца). *У Паўліка тожа ты́хкылыся серца, як увідзіў, што ўсе пывярнулі к Ныталычкіным.*

ТЫЦНУЦЦА *зак.* Сунуцца, умяшацца. *Алёна тожа ты́цнулыся туды. Ён усігда ты́цніцца, куды ні нада.*

ТЭПКАННЕ *н.* Тупанне. *Мала пользы з майго тэпкыньня, што я пымагу, калі зы саломіну зычаплюся і валюся.*

ТЭПКАЦЬ *незак.* Тупаць. *Ны дваре пакуля тэпкыіць, а як дальшы сы здароўім будзіць, хто яго знаіць.* ТЭПАЦЦА, ТЭПКАЦЦА *незак.* 1. Тупаць. *Ды пасьледніх дней тэпылыся, нядзелі ні пыліжала. А што ж ты зьдзелыіш, будзіш тэпкыцца, раз паможч некыму.* 2. Тупацца. *Як табе тэпыіцца ў нявесткі, ці троху глядзіць? Яно б тэпкылыся, каб сіла троху тріпіта́лыся.*

# У

УБАБУХЫ́ВАННЕ *н. перан. эмац.* Празмерна вялікая плата. *Убабу́хывыньня ні падумыўшы бяс пользы, нада було рыспрасіць пры карову.*

УБАЖЫЦЦА *зак.* Паклясціся. *Я нічога ні знаю, нійдзе ня быў і нікога ня відзіў, — убажыўся, укляўся, і яму паверілі.*

УБАЗІЦЬ *зак. эмац.* Ударыць. *Я ўжо хацеў уба́зіць яго дрючком цірісь сьпіну, дык ён пабег.*

УБАЎЛЯЦЬ, УБАЎЛІВАЦЬ *незак. эмац.* Апускаць уніз, усыпаць. *Дыпыдбіра́їм кончыкі і будзім убыу́ля́ць кар-*

*зінкі ў погріб, наныч бульбу нада прібраць. Сьпірва убаўлівый быракі, а тады моркву.* УБАЎЛЯЦЦА, УБАЎЛІВАЦЦА *незак.* 1. Апускаць уніз, усыпаць. *Будзім убыўляцца сяньня з бульбыю, — каб дождж ні хлянуў. Нада убаўлівыцца з гародніныю.* 2. Апускацца ўніз, усыпацца. *Што, твыя карзіна зыстряла, ня хочыць убыўляцца? Скора ў цябе бульба убаўлівыіцца.* УБАВІЦЬ *зак.* Апусціць уніз, усыпаць. *З гарода ўсё убавілі ў погріб, цяперя я спакойна.* УБАВІЦЦА *зак.* Апусціцца ўніз, усыпацца. *Дробнінькыя бульба убавіцца пад мост, сьвіньням буду паріць.* УБАЎЛЯНЫЙ, УБАЎЛЕНЫЙ *дзеепрым. Быракі і морква убуўляны, бруква у пыгребкі асталыся. Зы ўбаўлінью бульбу я спакойна.*

УБАХЫВАЦЬ *незак.* 1 *перан.* Шмат плаціць. *Ты бяс пользы трецьцій раз грошы убахывыіш.* 2 *метаф.* Моцна стамляць. *Ні нада так убахывыць коні і ім нада пірядышка.* УБАХАЦЬ *зак.* 1. Шмат заплаціць. *Пасьці дырма грошы убахыў, хата ніважныя, стуруватыя.* 2. Моцна стаміць. *Як пыставіць вас піріц сабою, убахыіць, што і ны вічарінку забудзіця.* УБАХАЦЦА *зак.* Зайсці, убіцца. *Конь убахыўся у кынаву і зыкалеў, няскора людзі набеглі і выцігнуць нечым було.*

УБАЯЦЦА *зак.* Спалохацца. *Ня дужа вашы жэўжыкі убыяліся каго, як вечыр, так і пашлі мушуруваца пы дзяреўні.*

УБЕЙСТВА *н.* 1. Забойства. *Адны гаворюць, што нішчасный случый, а другея — што убейства, міліцыя рызьбіраіцца.* 2 *метаф.* Цяжкі занятак. *Убейства ны кані пасьвіць, наезьдзісься, тады зьлезіш, дык ногі ні стыяць.*

УБІРАЦЦА *незак.* Уцягвацца ўнутр (пра ваду). *Айдзе зімля пішчаныя, выда быйстра убіраіцца.* УВАБРАЦЦА *зак.* 1. Уцягнуцца ўнутр (пра ваду). *Выда увыбралыся, ну грязна, там ня пройдзіш, апхадзі.* 2 *перан.* Пайсці, знікнуць. *Як пачулі, што Пахомыў будзіць на сходзі, тую ж мінуту увыбраліся.* 3 *перан.* Памерці. *Усе стырікі увыбраліся, цяперя наша вочырідзь патходзіць.* УВАБРАДЖАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Прыбраны. *У яе ўсігда хата*

*увыбра́джына, роілым нічога ні кідаіць.* 2. Апрануты пасвяточнаму. *Увыбра́джыныя паехылі дзеўкі ў горыд, можа жыніхоў найдуць.*

УБЛАГАТВАРАННЕ *н.* Вялікае задавальненне. *Ні нада мне іхныга ублыгытвыря́ньня, і яны самі ня дужа тут нада.*

УБЛАГАТВАРАННІК *м.* Той, хто задавальняе. *Найшоўся ублыгытвыряньнік, чым хочыш снабжыць сясьцёр. Памянш.* УБЛАГАТВАРАННІЧАК. *Найшоў ублыгытвыря́ньнічка, наносіць ён табе усяго.* УБЛАГАТВАРАННІЦА *ж. Твыя сьвякрова ікраз тыкая ублыгытвыря́ньніца, як Пуўлюкоўна.*

УБОЙНА *прысл. метаф.* Цяжка. *Кажный дзень буйтувацца ныт пнямі убойна, нада большы аддыхаць.*

УБОЙНЫЙ *прым. метаф.* Забойны (пра дождж). *Убойный дождж атліў, забіў гряды, нада ушурушывыць, ато нічога ня ўзойдзіць.*

УБОРНІЦА *ж.* Уборшчыца. *Уборніцыю работыла у школі, тады ён узяў замуж, іна трёх дзіцёнкыў радзіла.*

УБРЫЗКЫВАЦЬ *незак. метаф.* Уводзіць (лякарства). *Я нядзелі дзьве убры́зкывыла ка́плі, трошку пымаглі, ні так сталі балець вочы.* УБРЫЗКЫВАЦЦА *незак.* Уводзіцца (пры лякарства). *У цябе нешта ня ўбры́зкывыіцца як нада, усё міма.* УБРЫЗНУЦЬ *зак.* Увесці (лякарства). *Як лікарства убры́зьніш, тады вочы неік луччы сьвецюць.* УБРЫЗНУЦЦА *зак.* Увесціся (пра лякарства). *Во на етый раз у цябе хырашо убры́знулыся, усё у вока пупала.*

УБУХТОРАНЫЙ *дзеепрым.* Наліты звыш меры, патрэбы. *Ня будзіш жа ты убухторіныю ваду нызад выліваць, іна сь цестым піріміішалыся.*

УВАДЗІЦЦА 1 *незак.* Разводзіцца. *Айдзе дзікій лес, тама усякыя нечысьць уводзіцца.* 2 *зак. перан.* Стаміцца водзячы. *Прыспалі сяньня, пазьней пывіла карову, увадзі́лыся зь ёю, пакуль табун ныйшла.* УВЕСЦА *зак.* Развесціся. *Ваўкоў ды радзімца увялося, ні так даўно бабу пырвалі, із-зы Сыжа ішла.*

УВАЖЫСТА *прысл.* З павагаю. *Купряёнык усігда ува́жыста зь ёю рызгыварііць, помніць, якую дыбрату зьдзелыў яе бацька.*

УВАЖЫСТАСЦЬ *ж.* Павага. *Якея ты ува́жыстысьці хочыш ач шугалея, ён усігда як веціp, асобінна, калі хто пыцсыкнець.*

УВАЖЫЦЬ *незак. перан.* Даравацъ. *Я б мылаток ува́жыў, дык жа ён учора пабыў у пуні — і задоўкі німа.*

УВАЗНАВАЦЬ *незак.* 1. Пазнаваць. *Я ўжо мала каго зь дзедкыўцыў увызнывá ю.* 2. Даведвацца. *Ты як-небудзь увызнывáй пру Пуўлюкоўну, калі іна сыбіраіцца паехыць к сынам.*

УВАЙЩІЦЬ *зак.* Пайсці, знікнуць. *Табе даўно нада было увайцíць ат'етуля і ні мазоліць нікому вачэй.*

УВАЛЬНІЦЬ *зак. перан.* 1. Пазбавіць. *Увальні ты мяне ат етыя капусты, іна дужа кісла.* 2. Паслабіць, адпусціць. *Вярёўку увальні, ну зразу ні атпускай, паціхіньку спускай ка мне.*

УВАСКРАСАННЕ *н.* Пачатак лепшага жыцця. *Ні жылаю я нікому такога увыскрісáньня, як Пытапіхіна жызьня зыдылася.*

УВЕЧЧЫКА *н. памянш.* Калецтва. *Нейдзі ў лесі зыработыў увеччыка, цяперя пріметна ныхрамывыіць.*

УВУЗДЭЧЫЦЬ *зак. метаф.* 1. Моцна ўдарыць. *Як увуздэчыць хырашэнька, тады ты будзіш знаць, ці нада трогыцца.* 2. Забіць, знішчыць. *Пат хворысьцім прісачыў тхыря і увуздэчыў палкыю.*

УВЫКАЦЦА *незак.* Прывыкаць. *Я віджу, што ён у цябе дужа к соскі увыкáіцца, нада атвучывыць.* УВЫКНУЦЦА *зак.* Прывыкнуць. *Увы́кліся ціляты у авёс бегыць, ніякыга зладу зь імі німа.*

УВЯЗКА *ж.* Завязка. *Увя́зкі ні кідай айдзе зря, яны часта пад рукі нада. Памянш.* УВЯЗАЧКА. *Пушукай-ка мне другую увя́зычку, ета пырвалыся.*

УВЯЗЫВАННІК *м.* Той, хто ўвязвае. *Ну якей ні ўвя́зывыньнік, алі ж воз дзяржыцца, ні рызваліііцца.* УВЯЗЫВАННІЦА *ж.* *Ікая увя́зывыньніца, такей і вузёл выйшыў.*

УВЯРАЦЦА *незак.* Пераконваць, пераконвацца. *Цьвёрда увіря́цца ня буду, ну, па-мойму, яны ехыць у Быхыў ні зьбіраліся.*

УВЯШЧАННІК, УВЯШЧАЦЕЛЬ, УВЯШЧАЦЕЛЬНІК *м.* Той, хто ўгаворвае, пераконвае. *Як дурь у гылаву уваб'ецца, ніякій увішча́ньнік ні пампжыць. Паслухыіш дзедкыўскыга увішча́ціля — кажыцца, ён праў, а Сільчынка саўсім другоя гаворіць. Такога увішча́цільніка, як Нісьцярёнык, сымаго нада на пуць ісьцінный нывадзіць.* УВЯШЧАННІЦА, УВЯШЧАЦЕЛЬНІЦА *ж. Доўга тулкувала Сідарёнкыва увішча́ньніца с Пракопым. Каб ты паслухыў Навумыву увішча́цільніцу, ета було б дзела.*

УГАВАРЫВАННІК, УГАВАРЫЦЕЛЬ, УГАВАРЫЦЕЛЬНІК, УГАВАРЫВАЦЕЛЬ, УГАВАРЫВАЦЕЛЬНІК, УГАВОРНІК *м.* Угаворшчык. *Пашлі угыва́рівыньнікі к Хвядону, ні знаю, што ў іх палучыцца. Ты паслухыў ба, якей угывары́ціль быў Ныталкін сын, во ўмеў зыліваццa сылаўём! Не, Сазоныў угывары́цільнік ні зыхадзіў сюда ужо нескылька дней. Ты ня чуў, якей угыва́рівыціль быў Іхімёнык, дайжа Лыўрінкову дачку апутыў. А хвытаіць угыва́рівыцільнікыў і січас, іх ды пріпадка, як нярезыных сыбак! Каб вы пыслалі Кіреівыга угаворніка, можа б якей толк быў, у яго язык дужа ладна пыдвязын.* УГАВАРЫВАННІЦА, УГАВАРЫЦЕЛЬНІЦА, УГАВАРЫВАЦЕЛЬНІЦА, УГАВОРНІЦА *ж. Ты была б харошыю угыва́рівыньніцыю, толька Максім і цябе ні паслухыіць. Мы тожа знаім, ікая с Аўдоткіныя дачкі угывары́цільніца. Сірьгяёнкыва угыва́рівыцільніца паможыць табе, як блыха кымару. Бягіць на помышч яшчэ адна угаворніца, утрёх яны доймуць Аўхіміху.*

УГАВОРЛІВА *прысл.* Умеючы ўгаворваць. *Адзін умеіць пыдыйціць угаворліва, а ў другога так ні пулучаіцца.*

УГАВОРЛІВАСЦЬ, УГАВОРЧЫВАСЦЬ *ж.* 1. Уменне ўгаворваць. *У Стыхвынка угаворлівысьці ну пуўдзяреўні хваціць, дужа умеіць рызьліваццa кукушкыю. Сюда каб Навуміха зь яе угаворчывысьцю.* 2. Патрэба ўгаворваць. *Ны яго трудна сыбраць угаворлівысьць, ціряшчур уломістый. Табе угаворчывысьці ні хваціла, а ён ета любіць.*

УГАВОРЛІВЫЙ *прым.* 1. Такі, які ўмее ўгаворваць. *Іўка быў угаворлівый мушчына, каго хочыш мог улумаць.* 2. Такі, якога лёгка ўгаварыць. *Прікінь слова, ён угаворлівый, паслухыіць зразу.*

УГАВОРЫСТАСЦЬ *ж.* Уменне ўгаворваць. *Ня дужа ён слухыіць нейкыю угаворістысьць, што задумыіць, то й тваріць.*

УГАВОРЫСТЫЙ, УГАВОРЧЫСТЫЙ *прым.* Такі, якога лёгка ўгаварыць. *Ня дужа ён угаворістый: пыпрасіла Танька дзьвері ў погрібі прібіць — як хвыркніць! Лёнік угаворчыстый, к яму лёхка пыдыйціць зь любым прідлажэніім.*

УГАІЦЬ *зак.* Загаіць. *Аппечыныю рану трудна угаіць, іна мякніць, доўга ня сохніць.* УГАІЦЦА *зак.* Загаіцца. *Дужа мучылыся з рукою, пакуля іна троху угаілыся.* УГОЕНЫЙ *дзеепрым. Калі угоіныя раны, ета ўжо ні біда.* УГАЁМШЫ *дзеепрысл. У яго левыя рука угаёмшы.*

УГАЛАДЖЫВАННЕ *н.* Давядзенне да адчування голаду. *Ныўряд, ці пымыгаіць дзіцёнку угыла́джывыньня, ён сам лішніга ня зьесьць.*

УГАЛАДЖЫВАЦЬ, УГАЛАДЖАЦЬ *незак.* Даводзіць да адчування голаду. *Ці ні ўгыла́джывыіш ты ма́лыга ціряшчур? І пірікармлівыць ні нада, і угылыджа́ць дужа тожа ніздарова.* УГАЛАДЖЫВАЦЦА, УГАЛАДЖАЦЦА *незак.* Даходзіць да адчування голаду. *Па-мойму, дзіцёнык у цябе угыла́джывыіцца. Калі ўгылыджа́іцца, тады ён ніспакойный.* УГАЛАДЗІЦЬ *зак.* Давесці да адчування голаду. *Я яго ладна угыладзіла, дык цяперя хырашо пад'еў.* УГАЛАДЗІЦЦА *зак.* Дайсці да адчування голаду. *Троху угыладзіўся, ну пакуля церьпіць, маўчыць.* УГАЛОДЖАНЫЙ, УГАЛАДЖОНЫЙ *дзеепрым. Угалоджыный насьсецца і даўжэй будзіць спаць. Я віджу, што дзеці ў цябе усігда угыладжоныя.* УГАЛАДЗЁМШЫ *дзеепрысл. Угыладзёмшы, луччы пад'есьць.*

УГАМОВЫВАННЕ *н.* Суніманне. *Яму нада такоя угамовывыньня, каб ён зумуруваўся і ня піснуў.*

УГАМОВЫВАЦЬ *незак.* Сунімаць. *Раз некыму угамовывыць, дык і растуць распустымі.* УГАМОВЫВАЦЦА *незак.* Сунімацца. *Скажы, каб угамовывыліся, ніхай ня ждуць бацькі с пугыю.*

УГАМОННІК *м.* Свавольнік, непаседа. *Яй-богу, я прігатовіла на етыга угамоньніка прут, апсяку, толька*

*пупаду.* УГАМОННІЦА *ж. Нешта узноў твыряць угамоньніцы, хата аж рысьсідаіцца ат квілу.*

УГАМОНСТВА *н.* Супакаенне. *Ці будзіць ім сяньня угамонства, адурілі гылаву і аклумілі.*

УГАМУНІВАННЕ *н. жарт.* Супакаенне. *Я ўмею дываць угаму́нівыньня, ураз успакоюцца абоя.*

УГАМУНІВАЦЦА *незак. жарт.* Сунімацца. *Раншы на іх шкура гарела, а цяперя сталі патроху угамунівыцца.* УГАМУНІЦЦА *зак.* Суняцца. *Ні ўгаму́нісься — січас палучыш у мяне, я ўнімаць неслухыў, умею.* УГАМУНЕНЫЙ *дзеепрым. Дырзаўся, сядзіць угаму́ніный, надуўся як клоп у шчэліні.*

УГАРЛІВА *прысл. метаф.* Разухабіста. *Зразу, як пріехыў, уга́рліва сябе павёў, думыў, што луччы ўсіх.*

УГАРЛІВАСЦЬ *ж. метаф.* Разухабістасць. *Ну гульню уга́рлівысьці у іх хвытаіць, каб ны работу столька.*

УГАРЛІВЫЙ *прым. метаф.* Разухабісты. *Тады ў нас уга́рлівыя хлопцы былі, хадзілі кучыю, нікога ні быяліся. Памянш.* УГАРЛІВЕНЬКІЙ. *Уга́рлівінькія хлопцы Агяёнчыхіны.*

УГАРНУЦЦА *зак. перан.* Управіцца. *Адна пакуль угарну́ся сы скатом, прітопыюся, што і есьць ня хочыцца.*

УГАРЭ *прысл.* Уверсе. *Печ пыбяліла, нада угаре працерць ды мост падмыць.*

УГАШЧЫВАННЕ *н.* Частаванне. *Ніякыга там дужа уга́шчывыньня ні було, праўда, кусочык сала разрезыла.*

УГАШЧЫВАЦЬ *незак.* Частаваць. *Кісялёнкі шурудзяцца, зьбіраюцца сватоў уга́шчывыць.* УГАШЧЫВАЦЦА *незак.* Частавацца. *Яны б любілі уга́шчывыцца зу чужэя грошы.* УГАСЦІЦЬ *зак. метаф.* Ударыць, пабіць. *Ці яго хто угасьціў, ці што зь ім: нешта ішоў і зы прясла дзіржаўся.* УГАСЦЁМШЫ *дзеепрысл.* 1. Пачаставаўшы. *Угасьцёмшы брігадзіра, думыюць, усё ім пазволіна.* 2. Ударыўшы, пабіўшы. *Ні ўгасьцёмшы, ён ні ўспакоіцца і ні асядзіцца.*

УГАШАЦЬ *незак.* Тушыць. *Ні угыша́й агонь, ніхай пыгаріць трошку, пакуля я прібяруся.* УГАШАЦЦА *незак.* Тухнуць. *Пыткладзі ў грубычку палычык, ато іна угыша́іцца.*

УГВЭЗДЫВАННЕ *н.* Заквэцванне. *Лезіць з ныгамі у гной, дужа яму угвэздывыньня ыравіцца.*

УГНАЦЦА *зак. перан.* Убіцца, загнацца. *Калі пы такому гвазду угоніцца, будзіць крепка дзіржацца.* УГНАНЫЙ, УГНАТЫЙ *дзеепрым. Тута ці ня рог ат вілык угнáн, наскрозь прыняло, крепка дзержыцца. Нашто сюда столька гвозьдзя угнáта?*

УГНЯТАЦЬ *незак. перан.* Уладкоўваць з намаганнем. *Ці помніш, як яны сваю дачку угнітáлі зы Ігнацёнкывыга мальца?* УГНЯТАЦЦА *незак.* Уладкоўвацца з намаганнем. *Чаго табе угнітáцца у іхныю кынпанію, яны самі сабе гуляць зьбіраюцца.* УГНЕСЦЬ *зак.* Уладкаваць з намаганнем. *Доўга стыряліся угнесьць сваю Машу у кынцылярію і во прістроілі.* УГНЕСЦА *зак.* Уладкавацца з намаганнем. *Як ня ўгнёўся, дык ніхай сядзіць і паціхіньку работыіць.*

УГРАБЛЯННЕ, УГРАБЛІВАННЕ, УГРОБЛІВАННЕ *н.* Давядзенне да пакут, смерці. *Ня дужа Аўсяёнык спужаўся іхныга угрыбля́ньня, яны самі скарей пыбігаць на злом гылавы. Дура, што церьпіць яго угрáблівыньня, нада колым туріць с хаты ідыла. Хвытала і ўгроблівыньня і чаго толька хочыш.*

УГРАБЛЯЦЬ, УГРАБЛІВАЦЬ, УГРОБЛІВАЦЬ *незак.* 1. Даводзіць да пакут, смерці. *Большы ты яе угрыбля́ць ня будзіш, запомні ета ныўсігда. Сколька умесьці жылі, ён яе угрáблівыў. Я б ні стаў угроблівыць сілу на чорта лысыга.* 2 *метаф.* Знішчаць. *Угрыбля́юць куры гарод, ну я іх запру і ніхай цэлый дзень сідзяць. Нада ж еткія яблынкі угрáблівыць! Пасьледнія ўремя пычалі крепка ваўкоў угроблівыць.*

УГРАЖАННЕ *н.* Пагроза. *А што нам яго угрыжáньня, ніхто яго ні спужаўся і ні спужаіцца.*

УГРАЖАЦЦА, УГРАЖЫВАЦЦА *незак.* Пагражаць. *Ты свайму бацьку угрыжáйся, а пры мяне забудзь, са мною ні сарьвеш. Як пычаў угрáжывыцца: ды ты знаіш, што мы цябе ў пырашок сатрём!*

УГРАЖЫВАЦЕЛЬ, УГРАЖЫВАЦЕЛЬНІК, УГРОЗНІК, УГРОЗЧЫК *м.* Той, хто пагражае. *Пулюбуйціся ны яныўскыга угрáжывыціля, як рукамі рызмахыіць. Палучыць*

*ugráжывыцільнік пы мырдáсых і ўніміцца. Ні быяўся ён і ні баіцца вашыга угрозьніка. Ня дужа хто спужаіцца такога угрожчыка, як Сыханок.* УГРАЖЫВАЦЕЛЬНІЦА, УГРОЗНІЦА, УГРОЗЧЫЦА *ж. Во ікая угрáжывыцільніца атыйскалыся, усё дно як яе шукалі. Аткуля ты ўзілася, тыкая угрозьніца, нешта ў нашым баку еткіх ні вадзілыся. Во паслухый-ка, ікая Мыцьвяёўна угрожчыца, іна цябе у пырашок сатрець.*

УГРУЖАЦЬ *незак.* Грузіць. *Нада мяшкі з бульбыю угружáць на воз.* УГРУЖАЦЦА *незак.* Грузіць, грузіцца. *Відзім, што дождж вот-вот хляніць, дывай мы скарей угружáцца з бырыкамі.* УГРУЗІЦЦА *зак.* Пагрузіць, пагрузіцца. *С трудом угрузíліся ў аўтобус, дужа збойна було. Як угрузюцца мяшкі, тады будзіш спакоін.* УГРУЖАНЫЙ *дзеепрым. Нічога ў пуню ня ўгружына, усё ляжыць ны дваре.* УГРУЗЁМШЫ *дзеепрысл. Чаму ні заморісься, столька дроў угрузёмшы.*

УГУН *м.* Хлус. *Во хто ныстыяшчый угýн, ні аднаго слова праўды ні гаворіць. Памянш.* УГУНЧЫК. *Ці вам ня стыдна, што вы такея угýнчыкі сталі?* УГУНКА, УГУННЯ *ж. Угýнка ты, ўгýнка, я б табе паверіў, каб сам усяго ня відзіў ны свае вочы. Ну што ты хочыш, каб угýньні табе праўду скызалі.*

УДАБРАЦЦА *незак. перан.* Рабіцца добрым. *Суседзі то так, то етык удыбрáюцца, пу-суседзку нада ладзіць.* УДАБРЫЦЦА *зак.* Зрабіцца добрым. *Няскора мой старэй удабрíўся, ну купіў дзеўкі ладныя пальто.* УДАБРОНЫЙ *дзеепрым. Пріехыў з горыда удабрёный, сь кім-то выпіў.* УДАБРОМШЫ *дзеепрысл. Пасьледнія ўремя яны жылі удабрёмшы.*

УДАВАЦЦА *незак. перан.* Прыслужвацца. *Любіў ны-чальству удывáцца, якей упылнамочыный пріедзіць, усьлед бегыў.*

УДАГОНЬ *прысл.* Наўздагон. *Карова чмыхнула і ўбрыкі ґ быльшаку, ён удагонь, — айдзе ты скаціну дагоніш.*

УДАІВАЦЬ *незак.* Надойваць. *Сколька я удáівыла ац свае Трамбоўкі, сколька людзей карміла!* УДАІВАЦЦА *незак.* Надойвацца. *Другім целім, а удáівыцца ат яе пырядышныга.* УДАІЦЬ *зак.* Надаіць. *Сколька удаíла, усё*

*маё, а ты йдзі сучку падой, такей любапытный.* УДАІЦЦА *зак.* Надаіцца. *Не-а, многа ат етыя каровы ня ўдоіцца, у яе нейкій бычаччый від.* УДОЕНЫЙ *дзеепрым. У Ганны у аднае удоіна большы, чым у тых дзьвюх разым.*

УДАРЫВАЦЬ *незак. перан.* Уздзейнічаць раптоўна. *Як рана зычыню комін, дух уда́рівыіць у гылаву, мне неік цяжола дзелыіцца.*

УДАСТАВЕРЫВАЦЦА *незак.* Пераконвацца. *Сьпірва нада удыставерівыцца, хто туды хадзіў, а тады ўжо гыварісь.*

УДАЎЦОЎ, УДАВЕЦКІЙ, УДАЎЦОЎСКІЙ *прым.* Прыналежны ўдаўцу. *Бабы, бувала, едуць і пыказывыюць: во ета удаўцова хата, а тады спрашыюць: а чаго ён ня жэніцца. Удавецкый жызьні ні пызавідыіш: спраўсь-ка аднаму с хызяйствым, зьдзелый усю бабскыю работу у адны рукі. Удаўцоўскый жызьні ні хаці, ні тыкая іна салодкыя, як ты думыіш.*

УДЗЕРЖ *м.* Стрымліванне. *Ім тады удзерж будзіць, як Сямён харошыю пугу с крючка зьніміць.*

УДЗЮДЗЮРЫВАННЕ, УДЗЯДЗЮРЫВАННЕ *н. эмац.* Настойлівае прапаноўванне, уручанне. *Нылаіць нада зы такоя удзюдзю́рівыньня, дужа пастылый мушчына. К чаму еткыя удзядзю́рівыньня, чылавеку ні нада шпу́лі, а ты сілыю піхаіш.*

УДЗЮДЗЮРЫВАЦЬ *незак. эмац.* Назойліва прапаноўваць, уручаць. *Сколька раз табе рвань удзюдзю́рівылі, а ты ні каісься, ні глядзіш, што бяреш.* УДЗЮДЗЮРЫЦЬ *зак.* Назойліва прапанаваць, уручыць. *Знаіш, што ўчора знакомцы удзюдзю́рілі майму стыріку?*

УДЗЯЎБУЛІВАННЕ *н.* Удзёўбванне. *Будзіць табе удзяўбу́лівыньня, як тапор зысядзіць, што ня вырьвіш.*

УДЗЯЎБУЛІВАЦЬ *незак.* Удзёўбваць. *Ты во так тапор удзяўбу́лівыіш, ён калі зваліцца ды пы наге.* УДЗЯЎБУЛІВАЦЦА *незак.* Удзёўбвацца. *Зімля дужа суха, а лупатка тупа, ня хочыць удзяўбу́лівыцца.* УДЗЯЎБУЛІЦЬ *зак.* Удзяўбці. *Абы-якей тапор у дуб ня дужа удзяўбу́ліш.* УДЗЯЎБУЛІЦЦА *зак.* Удзяўбціся. *Тупічка у пень удзяўбу́лілыся, і што хочыш дзелый, ніяк ня вырьвіш.* УДЗЯЎБУ-

ЛЕНЫЙ *дзеепрым. Вун твой лом стаіць між кірьпічча удзяўбу́ліный, зыбірай, ён нам большы ні нада.*

УДОБСТВІЕ *н.* Зручнасць. *Дужа бальшых удобствіiў німа, ну скот дзіржаць можна.*

УДОЗВАЛЬ *прысл.* Да здавальнення. *Сяньня яны ігруш ныядуцца удозвыль, дзед цэлыю карзінішчу прінёс.*

УДОЎСКІЙ *прым.* Удавіны. *Ты сыма хырашо знаіш, як удоўскім бытым жыць у дзяреўні.*

УДРЭБЕЗКІ *прысл. перан.* Моцна. *Полька яго удребізгі нінавідзіць, толька віду ні пыдаець, умеіць сябе дзіржаць.*

УДРЭГ, УДРЭНГ 1 *м.* Супакой. *Калі ім якей удрэг будзіць? Во німа удрэгу мальцым. Ці найдуць яны калі-небудзь удрэнг, некыму іх уняць.* 2 *прысл. метаф.* Поўнасцю. *Ны Бірізіне мы удрэг рызмылацілі немца. Ніхай палезуць, мы іх удрэнг раструшчым.*

УДРЭНЧЫЦЦА *зак. неадабр.* Пачаць імкнуцца, прагнуць. *Як удрэнчылыся замуж, удзержу ні було, а тэй жаніх прайдоха-прайдоха.*

УДУТЫЛЬ *прысл. эмац.* Моцна. *Пріехылі уду́тыль п'яныя, самі б ні даехылі, конь іх давёз.*

УЕДНА *прысл.* Настырна, заўзята. *Сыбакі дужа уедна бріхалі, пряма кідыліся ны каго-то.*

УЕДНАСЦЬ *ж.* Настырнасць, заўзятасць. *Каб яму Кусьцючонкыва уеднысьць, можа б чаго дабіўся.*

УЕХАНЫЙ *дзеепрым. перан.* Уткнуты, утаптаны. *Кылячкі глубока уехыны, кончыкі толька тырчаць.*
УЕХАЧЧЫ *дзеепрысл.* 1. Паехаўшы, з'ехаўшы. *Яны дужа даўно уехыччы, я старога Ціхона як ува сьне помню.* 2. Уткнуўшы, уткнуўшыся, утаптаўшы. *Скабка глубока уехыччы ў пяту, дыстываць нялоўка і хадзіць больна. Палкі уехыччы ў грязь.*

УЖАРДЗЯВАЦЦА *зак.* Уціснуцца рубелем. *Калі крепка воз ужурдзюва́ўся, дывязеш, а то разьедзіцца пу кулдобіных.*

УЖАРЫВАННЕ *н.* Добрае падсмажванне. *Я знаю, якоя ў яе ужа́рівыньня: можыць сыроя паднесьць — есьця!*

УЖАРЫВАЦЬ *незак.* 1. Добра падсмажваць. *Я сала ўсігда ужа́рівыю, люблю, каб яно було пацсохлыя.* 2 *перан.* Моцна пячы (пра сонца). *Ну й ужа́рівыіць етый месіц, калі дождж ня пройдзіць, усё можыць выгыріць.*

УЖАРЫВАЦЦА *незак.* 1. Добра падсмажвацца. *Пірід харошым агнём будзіць ужарівыцца, а якей жар ат хворысьця: пых і німа.* 2. Моцна пячыся (на сонцы). *Усё на сонцы ужáрівыюцца Тымаріны госьці, у саду кычаюцца.* УЖАРЫЦЬ *зак.* 1. Добра падсмажыць. *Мяса ты ня дужа ладна ужáріла, нада було большы пыдзіржаць ны жарку.* 2. Пачаць моцна пячы (пра сонца). *Пыд абед як ужáріла, нейдзі було дзецца адж жары.* УЖАРЫЦЦА *зак.* 1. Добра падсмажыцца. *Сяньня скварычкі як сьледыіць ужáріліся.* 2. Моцна напячыся (на сонцы). *За дзень ужáріліся большы некуды, пякло нівынасіма.* 3 *перан.* Моцна ўдарыцца. *Бег ні глядзеўшы, як ужáріўся — іскырья з вачэй сыпнулыся.* УЖАРАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Добра падсмажаны. *Калі нырмальна ужáріна, дык і зьесьць пріятна.* 2. Моцна нагрэты (на сонцы). *Посьлі абеда дыгряблі, ужáріныя пабеглі купацца.*

УЖЫНАЦЦА *незак.* Жнучы, заходзіць за пэўную мяжу. *Ты к ім дужа ні ўжынáйся, ішчэ ні залюбюць, сваё пряма гані і гані.*

УЗАДУ *прысл.* Далёка, у самым канцы. *Нам участкі адбілі ўзадý, далёка було хадзіць, ды кажный дзень.*

УЗАРВЫВАЦЦА *незак. перан.* Нарываць. *Було трошку зыжыло, а цяперя на том самым месьці узноў узáрвывыіцца.* УЗАРВАЦЦА *зак.* Нарваць. *Відна, грязь пупала у рану, ладонь рыскрасьнелыся і ўзырвáлыся.*

УЗБАРЫЛЯЦЬ *зак. эмац.* Узараць абы-як. *Троху узбырылялі кусок, яны яшчэ такея пахырі.* УЗБАРЫЛЯЦЦА *зак.* Узарацца абы-як. *Ды я віджу, што ні ўспыхалыся, а ўзбырылялыся.* УЗБАРЫЛЯНЫЙ *дзеепрым.* *Узбырыляныя поля ужо засеілі, пыглядзім, што тама вырысьціць.*

УЗБІВАННЕ *н.* Выліванне змесціва яек на патэльню для прыгатавання яечні. *Якоя ўзьбівáньня на бульбу, бі збоку ны скыўраду ў сала.*

УЗБРУЗНУЦЬ *зак.* Падняцца пры распуханні. *Адз зубоў узбрюзла шчыка, што зь ёю дзелыць, ні прідумыю.* УЗБРУЗЛЫЙ, УЗБРУЗШЫЙ *дзеепрым.* *Увесь нейкій узбрюзлый, здароўя ніскольки німа. У яе ногі узбрюжшыя, чуць пы зямле ходзіць.*

УЗБУТУРАНЫЙ, УЗБУТУРОНЫЙ *дзеепрым.* Узагнаны, падняты. *Узбутýрiныя каровы могуць шырахнуць у вык цi яшчэ куды. Узбутурёныя, яны доўга дурiлiся, сон iм пiрiрвалi, дык толька пыд раньня заснулi.* УЗБУТУРОМШЫ *дзеепрысл. Узбутурёмшы скот, сам будзiш гыняцца, луччы ня трогый.*

УЗБУШАВАЦЬ *зак.* 1. Выклiкаць бушаванне. *Нешта узбушувáла вецiр, каб дыжджа нi ыгнаў.* 2 *перан.* Выклiкаць злосць. *Лiпяцёнка як узбушýiць, яго трудна унiмаць.* УЗБУШАВАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Узняты (пра буру, навальнiцу). *Тыкая пагода узбушувáныя, куды вупруўляцца: i нымякнiш, i пiрядрыгнiш.* 2. Узлаваны. *Учора ён пысварiўся iс Кузьмянком, дык узбушувáный хадзiў, сяньня пыцiшэў.*

УЗВАДЗIЦЬ *незак. перан.* Падвучваць, падбухторваць. *Трыхiмiняты узвадзiлi яго нарошня, а ён сь сябе выхадзiў.* УЗВАДЗIЦЦА *незак.* Набываць. *Кылi пырысят купляць, нада ны харошыю пароду узвадзiцца, каб сьвiнычку можна було кiнуць на семя.* УЗВЕСЦЬ *зак.* Падвучыць, падбухторыць. *Аткуля я знаю, хто яго узьвёў.* УЗВЕСЦА *зак.* Набыць. *Цяперя узьвялiся ну шурпáтку, а раншы свыя была белыя.* УЗВЕДЖАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Узведзены, заведзены. *Достык ныслалi, сена пыт паху — i карова пышла, цiрiзь мiнуту гляджу: узьведжына ны машыну.* 2. Пабудаваны, збудаваны. *Красiвыя дамы узьведжыны, i крепкiя, iм веку ня будзiць.*

УЗВАЗIЦЬ *незак.* Прывозiць, навозiць. *Сколька раншы посыду усякыга узвазiлi ны бызар!* УЗВАЗIЦЦА 1 *незак.* Прывозiць, прыязджаць, уязджаць. *Глядзiм: узвозiцца i стырасельскiй с пырысятымi, мы ўсiгда ў яго бралi, зыдáшныя пырысяткi.* 2 *незак.* Узвозiць. *На етым бугарку трудна узвазiцца.* 3 *зак.* Пачаць вазiцца. *Узвазiлыся з мыцьцём нi ка ўремю.* УЗВЕЗЦЬ *зак.* Прывезцi, навезцi. *Такiя шаiчкi толька узьвязi ны бызар, с ходу рысхвытаюць.* УЗВЕЗЦА *зак.* 1. Прывезцi, прыехаць, уехаць. *Узьвязьлiся iс салым, а тады пабеглi глядзець, што пачом просюць.* 2. Узвезцi. *Я гляджу, як тута узьвезца, каб нi абярнуцца.* УЗВЕЗЕНЫЙ *дзеепрым.* Прывезены,

навезены. *Саньня дужа многа було узьвезіна яблык, толька бяpi, аддывалі зы ніштo.*

УЗВАЛІВАЦЦА *незак. перан.* Узыходзіць, навальвацца табуном. *Куры узва́лівыюцца ны гарод, усё мішаюць зь зямлёю.*

УЗВІДЗЕЦЬ *зак. перан. эмац.* Аднесціся прымальна. *Як жа можна узьві́дзіць такога паскудніка, ежылі ён усюдых гадысьці творіць.*

УЗВІЦЬ *зак. метаф.* Выклікаць абурэнне. *Як узьвіло Сызанковыга: чаго ета яго ніхто ня хочыць пынімаць!*

УЗВЯЛІВАЦЬ *незак.* Выклікаць навяльванне. *Нечыга узноў Цітынка узьвя́лівыіць, пычынаіць чыпляцца ґ дзяўчонкым.* УЗВЯЛІВАЦЦА *незак.* Навяльвацца. *Усё узьвя́лівыўся, каб выключыць Міхалку с кылгаса, тыкая у яго ізуіцкыя натура.* УЗВЯЛІЦЬ *зак.* Выклікаць навяльванне. *Яго як узьвя́ліць, дык няскора аткысаісься.* УЗВЯЛІЦЦА *зак.* Навяліцца. *Узьвя́ліўся і ўзьвя́ліўся ніізьвесна чаго, і ні даець жызьні.*

УЗГІНАННЕ *н.* Разгінанне, выпрамленне. *Відзіш, якоя маё узьгіна́ньня, крюкым пыстаю — ні сагнуцца, ні рызагнуцца.*

УЗГІНАЦЬ *незак.* Разгінаць, выпрамляць. *Мне цяжола узьгіна́ць руку ўверьх, усё дно як тама кол нейкій сядзіць.* УЗГІНАЦЦА *незак.* Разгінацца, выпрамляцца. *Нешта ўсё баліць, і ногі, і сьпіна, узьгіна́цца цяжола.* УЗАГНУЦЬ *зак.* Разагнуць, выпраміць. *Сядзеў збоку, гылавы ні ўзагну́ў і словічка ні прыгываріў.* УЗАГНУЦЦА *зак.* Разагнуцца, выпраміцца. *Што за жысьць пыц старысьць дзелыіцца: ся́дзіш — ні ўстаніш, сагнесься — ні ўзагнесься.*

УЗГЛЯДЫВАННЕ *н.* 1. Пагляданне. *Відзіш, якоя у яе узгля́дывыньня: зірнець і вочы апускаіць.* 2 *перан.* Ненадзейны догляд. *Ат Мікітывыга узгля́дывыньня толку мала, Лявона нада хырашо дыглідаць.*

УЗГЛЯДЫВАЦЬ *незак. перан.* Даглядаць ненадзейна. *Мала яны узгля́дывылі ны Данілу, Машка уремя ат уремя зыбігала.* УЗГЛЯНУЦЬ *зак.* Падаглядаць. *Такою сям'іщчыю ні ўзглянуць на родныю цётку — ета нада саўсім совісьць пыціряць.*

УЗГОРЧАСТЫЙ *прым.* Узгорысты. *У іх узгорчыстыя поля, пыхаць ня дужа удобна, і родзіць яно так сабе.*

УЗГРУЖЫВАННЕ *н.* Ускладанне значнай колькасці. *Сяньня мы крепка ныработыліся, посьлі узгру́жывыньня аж плечы быляць.*

УЗДЗЁЎБЫВАННІК *м.* Той, хто ўзбівае дзяўбаннем. *Як сіканець узьдзёўбывыньнік лупаткыю пы наге, будзіць тады яму.* УЗДЗЁЎБЫВАННІЦА *ж. Пашлі узьдзёўбывыньніцы к калодзіжу, ніхай пыдзяўбуць троху, тама ступіць нілізя.*

УЗДЗІРАЦЬ *незак. эмац.* Прымушаць узлазіць. *Ніізьвесна чаго кажын раз узьдзіра́іць іх на ету бярёзу.* УЗАДРАЦЬ *зак.* Прымусіць узлезці. *Чаго іх узыдра́ла на ліпу, што яны тамыцька ня відзілі!*

УЗДЗЯВАННЕ *н.* Надзяванне, апрананне. *С такім узьдзіва́ньнім рубаха мігым пу рубцах разьедзіцца, а хочыш, уцэла пойдзіць.*

УЗДЗЯВАННІК *м.* Той, хто надзявае, апранае. *Стыряіцца узьдзіва́ньнік, аж пыхціць.* УЗДЗЯВАННІЦА *ж. Мучыіцца узьдзіва́ньніца, ні нада такея цесныя тухількі купляць.*

УЗДЗЯЎБУЛІВАННЕ, УЗДЗЯЎБУНІВАННЕ *н.* Узбіванне дзяўбаннем. *Ажно рукі быляць ат узьдзяўбу́лівыньня, вытыптылі зы вясну гарод, як ток стаў. Ды мы прісталі ат узьдзяўбу́нівыньня, зімля убіта як камінныя.*

УЗДОЛІВАННЕ *н.* Магчымасць, здольнасць. *У старога знаіш якоя уздолівыньня: сяньня ходзіць, а заўтря лёг.*

УЗДОЛІВАЦЦА *незак.* Спраўляцца, мець здольнасці. *Ня дужа уздолівыіцца што дзелыць, восімдзісят гадоў меўшы.*

УЗДРЭНЧЫВАННЕ *н. эмац.* Узбуджанасць. *Бацька выгыніць уздрэнчывыньня, дасьць яму і сваты, і жаненьня разым.*

УЗДРЭНЧЫВАЦЬ *незак. эмац.* Узбуджваць. *Усё яго уздрэнчывыіць, нійдзе ні находзіць спакою.* УЗДРЭНЧЫВАЦЦА *незак.* Узбуджвацца. *Узноў пычаў уздрэнчывыцца, ні паймём, што ў ём зывіряіцца.* УЗДРЭНЧЫЦЬ *зак.* Узбудзіць. *І сяньня уздрэнчыла бежч у Чарнілыва, ня можыць бізь яго абыйціцца.* УЗДРЭНЧЫЦЦА *зак.*

Узбудзіцца. *Уздрэнчыўся паехыць у Рослыў, ну ніхай зьезьдзіць, большы нядзелі тама ня высідзіць.* УЗДРЭНЧАНЫЙ *дзеепрым. Пабег уздрэнчыный, хочыць, каб Сьпірідон памог, а тэй пра помышч і ў вус ня дмець.*

УЗДУВАЦЬ *незак.* Раздзьмухваць. *Сьпічык прі немцых ні було, бегылі с хаты ў хату зы жарым, а тады уздува́лі агонь.* УЗДУВАЦЦА *незак.* Раздзьмухвацца. *Нешта у цябе слаба уздува́іцца, ні зыга́ріцца бумага.* УЗДУЦЬ *зак.* Раздзьмухаць. *Пусьці Колю, ён табе у мінуту узадмець агонь.* УЗДУЦЦА *зак.* Раздзьмухацца. *Во на етый раз у мяне быйстра узду́лыся.* УЗДУТЫЙ *дзеепрым. Ну, ці там у цябе узду́т агонь?*

УЗДУМАЦЦА *незак. метаф.* Распухаць. *Ні прідумыць, ач чаго пычыла рука уздума́цца вышы пальцыў.*

УЗДУХВІНА *ж.* Уздыхавіна. *Манька даўно жалілыся, што баліць і баліць пуд узду́хвіныю, а дыктары нічога ні прізнаюць.*

УЗДУШШЫКА *н. памянш.* Удушша. *Замець-ка, як цяжола дышыць Ныталка, у яе уздушшыка, яй-богу, уздушшыка.*

УЗ'ЕЗДЗІЦЦА *зак.* Пачаць часта ездзіць. *Узьезьдзіліся туды — нызад, туды — нызад, так і мыхаюцца, каб якей руб урваць.*

УЗ'ЁРЗНУЦЦА *зак.* Раптоўна рассвavoліцца. *Быў узьёрзнуўся балывыцца, ну Зінка яго скора асадзіла.*

УЗ'ЁРЗЫВАННЕ *н.* Свавольства. *Бацька умеіць сьцішывыць узьёрзывыньня, толька гляніць — балыўнікі успыкаівыюцца.*

УЗЖЫВАННЕ *н.* Разжыванне. *Трудныя у Высіпінят було ужжыва́ньня, бацька нічога ня кінуў і паможч ніхто ня мог.*

УЗЛАМЫВАННІК *м.* Той, хто ўзломлівае. *Узла́мывыньнікі нубуйтуваліся, пут хундамінтым дыстывалі дзікій камінь для печы.* УЗЛАМЫВАННІЦА *ж. Дзяўбець ломым узла́мывыньніца, тама цэмінтым усё заліта.*

УЗЛАПАТАЦЬ *зак. перан.* Апрацаваць (глебу). *Праехылі туды-нызад, дзіскымі узлыпыта́лі іржышча.*

УЗЛІВАННІК *м.* Той, хто ўзлівае. *Табе січас другей узьліва́ньнік паможыць. Памянш.* УЗЛІВАННІЧАК. *Во,*

*мой узьліва́ньнічык, як ты ладнінька мне ільлеш.* УЗЛІВАННІЦА *ж. Табе узьліва́ньніца, хочыш, і зы каўнерь вады нальлець.*

УЗЛІЎ *м.* Праліўны дождж. *Учора цямнець пычало, такей хлянуў узьлі́ў, дзецца було нейдзі, сенцы пыцяклі.*

УЗЛЯГАЦЦА *незак.* Лажыцца. *Як барін узьліга́іцца, думыіць увесь дзень прыспаць.* УЗЛЕЖЦА *зак.* Легчы. *Узьляглі́ся ны прікопык і руссуждаюць, як яно раншы було і як цяперіцька стала.*

УЗМУЧАНЫЙ *дзеепрым.* Зроблены мутным. *Узму́чыную ваду ні чарепый, пыдажджы, ніхай сустоіцца.*

УЗНАСІЦЬ *незак.* Уносіць. *Мы ні разычку ні ждалі, пакуля прідуць зы налогымі, самі узнасі́лі раншы ўремя.* УЗНЕСЦЬ *зак.* 1. Падаць. *Быгата прігатовіліся, кілбас узьнясьлі́, вокырка ныкрышылі, банычык нукуплялі.* 2. Унесці. *Пакуля налог ні ўзьнясеш, ён усё будзіць ны табе вісець.* УЗНЕСЦА *зак.* Падаць. *Дайжа ні падумыў ба, што Кулажоных так узьнясецца.*

УЗРАПЯРЦІЦЬ *зак. метаф.* Падрыхтаваць. *Ні знаю, хто яго узріпярці́ў, ці ні Пынасёнык.* УЗРАПЯРЦІЦЦА *зак.* Падрыхтавацца. *Дзеўкі узріпярці́ліся ні на шутку, вічарінка будзіць харошыя.* УЗРАПЯРЧОНЫЙ *дзеепрым. Ты ні знаіш, чаго яны сяньня такея узріпярчоныя?*

УЗРЭЗ *м. эмац.* 1. Свавольнік. *Чаго ты сваіх узрезыў троху ні ўнімаіш?* 2. Ахвотнік. *Такей узрез зы грібамі, кажыцца б, зь лесу ні вылізаў.*

УЗРЭЦЬ *зак. іран.* Убачыць. *Каго ж ты узрела сяньня ны бызарі?*

УЗРЭШЫНА *ж.* Агрэх. *Мульчуганы як паедуць пыхаць, дык узрешыны то там, то там прыкідаюцца па полю. Памянш.* УЗРЭШАК *м.*, УЗРЭШЫНКА *ж. Мыладэй трыктаріст, ну пашыць нядренна, узрешыкыў пасьці ня відна. Айдзе была ўзрешынка, там хужы ячмень, зімля ні ўспахына.*

УЗЫЙГРЫВАННЕ *н. перан.* Выяўленне цечкі (пра самку жывёлы). *Як вазьму хлыбазіну, дам ёй узы́йгрывыньня, толька рыздалі шчынят, іна ўзноў нашчэніць.*

УЗЫЙГРЫВАЦЦА *незак. перан.* Прыходзіць у ахвоту. *Па-мойму, сьвіньня на той нядзелі узы́йгрывылыся зы хлікамі.* УЗЫЙГРАЦЦА *зак.* Прыйсці ў ахвоту. *Сьвіньня зы хлікамі узыйгра́лыся, і ўремя німа, а нада гнаць на хверму.*

УЗ'ЯДАННЕ *н. метаф.* Нападкі, прыдзіркі. *А мне плюваць ны яго узыда́ньня, ніхай хуць на сьценку лезіць.*

УЗ'ЯДАЦЬ *незак.* Выклікаць нападкі, прыдзіркі. *Вот узыда́іць нечыга чылавека ны мяне, што я яму дренныга зьдзелыў?* УЗ'ЯДАЦЦА *незак.* Злавацца, прыдзірацца. *Мы пачуствывылі, што ён пычаў узыда́цца яшчэ с прошлыга лета.* УЗ'ЕСЦЬ *зак.* Выклікаць нападкі, прыдзіркі. *Узьела і ўзьела Ісачонка ну Кузьму біс прічыны.* УЗ'ЕСЦА *зак.* Зазлавацца, пачаць прыдзірацца. *Зубок быў такей: калі ўзьесца, то ні дасьць жызьні.* УЗ'ЕЎШЫ *дзеепрысл. Калі брігадзір узьеўшы, ён аддухі табе ні дасьць, усё будзіць чыпляцца.*

УЗЯДЖАНЫЙ *дзеепрым.* Узяты. *С капы ладныга узя́джына сена, нехта ношкі дзьве ныбраў.*

УЗ'ЯЗДЖАННЕ *н.* Язда на ўзвышэнне. *С такім узыіжджа́ньнім можыш воз пірікуліць дыгары кыткамі.*

УЗ'ЯЗДЖАНЫЙ *дзеепрым.* З прыкметай язды на ўзвышэнне. *Мы замецілі, што узыіжджа́на аттуля, с Пынасывыга боку і цяжолыя вязьлі.*

УЗ'ЯСНЯННЕ *н.* Тлумачэнне. *Нашто мне яго узысьня́ньня, кылі я сыма відзіла, як ён с сыдка пашоў сагнутый.*

УЗ'ЯСНЯЦЬ *незак.* Тлумачыць. *Што ты ім будзіш узысьня́ць, кылі яны пынімаць нічога ня хочуць.* УЗ'ЯСНЯЦЦА *незак.* 1. Тлумачыць. *Нягож я каму буду узысьня́цца, куды хадзіла і аткуля пріішла.* 2. Тлумачыцца. *Табе ясна узысьня́іцца, што к нам іна ні зыбігала.* УЗ'ЯСНІЦЬ *зак.* Растлумачыць. *Ты сам паспробый узьясьні́, ежылі ён і вухым ні вядзець.* УЗ'ЯСНІЦЦА *зак.* 1. Растлумачыць. *Узьясьніся ты яму, айдзе была, — а якоя тваё дзела?* 2. Растлумачыцца. *Як ты ня можыш пыняць, што табе узьяньні́лыся.* УЗ'ЯСНЁНЫЙ *дзеепрым. Табе рускім ізыком узьясьнёна, што ён паехыў у Дзіснакіту.*

УКАЗЧЫК *м.* Упраўляючы. *Дзед Бязрукій троху быў у пані укáжчыкым, ніграмытный і спруўляўся.*

УКАЗЭІСТЫЙ *прым. эмац.* Дзіўны. *Мы помнім Мыксімёнка: указэістый быў мужык, усё што-небудзь прідумляў.*

УКАЗЭІЦЬ, УКАЗЭЙНІЧАЦЬ, УКАЗЭЙСТВАВАЦЬ, УКАЗЭІЦЦА, УКАЗЭЙНІЧАЦЦА, УКАЗЭЙСТВАВАЦЦА *незак. эмац.* Вычвараць. *Пырхвянёнык дужа любіў указэіць. Летыся яны тута указэйнічылі, ладныя хеўра была. Ты ня відзіў, як указэйствывылі Максімывы пляменьнікі, во ныхыхытаўся б. Пыныравілыся етым хлыпцам указэіцца, чуць ні кажный дзень што-небудзь твыряць. Скора і Пітрачок пірістаніць указэйнічыцца, аціхніць. Хочыцца яму указэйствывыцца, ажно шкура гаріць.*

УКАЗЭЙНІК *м. эмац.* Той, хто вычварае. *Указэйнікі былі сапрыныўскія хлопцы, ці мала чаго тоя ўремя выдзелывылі.* УКАЗЭЙНІЦА *ж. Ні разычку б ні падумыла, што яе ўнучкі такея указэйніцы стануць.*

УКАЗЭЙНІЧАННЕ, УКАЗЭЙСТВАВАННЕ *н.* Вычваранне. *Ня дужа аньціресна глядзець ны ваша указэйнічыньня, луччы б што путноя зьдзелылі. Каму такоя указэйствывыньня ныравіцца, а каму й не.*

УКАКОШЫВАННЕ *н. эмац. жарт.* Забойства. *Ты пупужай Ваську, можа ён пыбаіцца твайго укакошывыньня.*

УКАКОШЫВАЦЬ *незак. эмац. жарт.* Забіваць. *Ну-ка, ну, каго ты сыбіраісься укакошывыць, прізнывайся!*

УКАРМЛІВАННЕ *н.* Выкормліванне. *Якоя цяперь укáрмлівыньня, свайго німа, а ну куплёным ня дужа разгонісься сала ныгыняць.*

УКАЧЫВАННЕ *н. метаф.* Укладанне вялікай колькасці (гною). *Ну хутурах пустая была зімля, а во што значыць укáчывыньня гною: ціряс трі гады жыта расло як трысьнік.*

УКАЧЫВАЦЬ *незак. метаф.* 1. Уязджаць, ад'язджаць раптоўна. *Кызалі, што іхный Кузёмка узноў сыбраўся укáчывыць некуды.* 2. Укладаць шмат (гною). *Падж жыта мы ўсігда гною крепка укáчывылі, ну яно і радзіла хырашо.* УКАЦІЦЬ *зак.* Укласці шмат (гною). *Укацí гною, дык і*

*хлеб будзіць.* УКАЦІЦЦА *зак.* Трапіць у непрыемнасць. *Укацíўся у горя із-зу дурнэя гылавы, цяперя сам ні знаіць, як выбрыцца.* УКОЧАНЫЙ *дзеепрым. Сюда знаіш сколька гною укочына? — будзь здароў!* УКАЦЁМШЫ *дзеепрысл. Укацёмшы гною, бяс хлеба ні астанісься.*

УКІДЫВАЦЬ *незак. метаф.* Умешваць. *Лістрацёнкывых мальцыў яны сьпіцыяльна укíдывылі у тую кашу.* УКІНУЦЬ *зак.* Пасеяць, пасадзіць у спешцы. *Як пыцяплела, так і глядзіш, каб што скарей у зямлю укíнуць ны ўсадзьбі.* УКІНУЦЦА *зак.* 1. Пасеяцца, пасадзіцца. *Як укíніцца бульбіна ў зямлю, тады спыкайней, абыгнаць ужо як-небудзь абгоніш.* 2. Падкінуццa. *Укініцца тваім пырысятым і травы, яны ні галодны.*

УКЛАДАННЕ, УКЛАДЫВАННЕ *н.* Абкладанне, выкладанне. *Відзіш, якоя роўнінькыя уклыдáньня пулучаіцца у Шуріка. Ны акуратныя уклáдывыньня і глядзець пріятна.*

УКЛАДАННІК, УКЛАДЫВАННІК *м. перан. жарт.* Той, хто пагражае забіць. *Вот найшоўся мне уклыдáньнік, абважў кійком, і ўсё яго уклыданьня кончыцца. Каб хырашэнька прыздравілі такога уклáдывыньніка, ён ба пыцішэў.* УКЛАДАННІЦА, УКЛАДЫВАННІЦА *ж. Уго, як узілася Сьвірідзіхіна уклыдáньніца! Ні на шутку бярецца Сямёныва уклáдывыньніца, хочыш — пріКончыць Кліма.*

УКЛАНЯННЕ *н.* Выражэнне пакоры. *Сволычы ніякыя уклынянньня ні паможыць, нысьмяецца і большы нічога.*

УКЛЕІВАННЕ *н. перан.* Накладанне штрафу, асуджэнне да турэмнага зняволення. *Ня дужа хто спужаўся твайго уклеівыньня, што я такога зьдзелыў, што ты мяне будзіш штрухуваць.*

УКЛЕІВАЦЬ *незак. перан.* Накладаць штраф, асуджаць да турэмнага зняволення. *Штраху ні раз ім уклеівылі, яны тыкі, праўда, тварілі у лесі, што хацелі.* УКЛЕІВАЦЦА *незак.* Траппяць у непрыемнасць. *Ціряшчур прыспалітный, ні раз уклеівыўся увы ўсякія пролыбкі.* УКЛЕІЦЬ *зак.* Накласці штраф, асудзіць да турэмнага зняволення. *Дыхрабріцца, пакуля штраху уклеюць, ды ладна ўклеюць, пыцягніць пасьледній хвост ны*

*бызар.* УКЛЕІЦЦА *зак.* Трапіць у непрыемнасць. *Яму нядоўга у што хочыш уклеіцца.* УКЛЕЕНЫЙ *дзеепрым. Сімянёнку уклеіна крепка, ходзіць, толька чухыицца.*

УКЛІБЛІВАННЕ *н. эмац.* Унушэнне, пераконванне. *А ўспакойся ты с уклі́блівыньнім, нашто с такім чылавекым чыпацца.*

УКЛІБЛІВАЦЬ *незак. эмац.* Унушаць, пераконваць. *Бісталковыму чылавеку уклі́блівыць што-небудзь — пасьледнія дзела.* УКЛІБЛІВАЦЦА *незак.* Унушацца. *Ён сам ня петріць, што яму уклі́блівыіцца.* УКЛІБІЦЬ *зак.* Унушыць, пераканаць. *Уклі́білі, што Маруська хочыць у зяці яго браць, ён і паверіў.* УКЛІБІЦЦА *зак.* Унушыцца. *Уклі́білыся яму пры Далецкіх, а тэя Далецкія яго саўсім ні знаюць.* УКЛІБЛЕНЫЙ *дзеепрым. Што яму ўклі́бліна пры Мыланку, нібыццым іна адбівала яго дачку ат мужука.*

УКЛЫЧЫВАЦЦА *незак.* Ублытвацца. *Ці ні хваціць вам у салому уклы́чывыцца ды рызнасіць па пуні.* УКЛЫЧЫЦЦА *зак.* Ублытацца. *Узноў вы у снапкі уклы́чыліся, ну дам я вам за ета.*

УКЛЮБЛІВАННЕ *н. эмац.* Пераконванне. *Ніякыга ім уклю́блівыньня ні нада, два словы скажы — і паверюць.*

УКЛЮБЛІВАЦЬ *незак. эмац.* Пераконваць. *Што ты яму усякыю дурату уклю́блівыіш, ён жа ныпраўду паверіць, што так було.* УКЛЮБЛІВАЦЦА *незак.* Уводзіцца ў вушы. *Ці мала чаго ім уклю́блівылыся?* УКЛЮБІЦЬ *зак.* Пераканаць. *Калі свае гылавы ны плічах німа, дык што хочыш можна ўклю́біць.* УКЛЮБІЦЦА *зак.* Увесціся ў вушы. *Вот неік жа уклю́білыся, што Машка сыбіраіцца замуж у Чортыва.* УКЛЮБЛЕНЫЙ *дзеепрым. Ім сьпіцыяльна уклю́бліна пры Стыхвана, каб пысваріць іх.*

УКЛЯПІСТЫЙ *прым. метаф.* Разумны. *Ніхай ён будзіць длі цябе укля́пістый, а мы знаім яго розвылку.*

УКЛЯПІЦЬ *зак. эмац.* Накіраваць (позірк). *Вочы укля́пілі на етыга ухажора і ні атхадзілі.* УКЛЯПІЦЦА *зак.* Пачаць пільна ўглядацца. *У кніжку як укляпіцца, дык ніхай скот у шкодзі, ні атверніць.*

УКЛЯПЫВАННЕ, УКЛЯПЛІВАННЕ, УКЛЕПЛІВАННЕ *н. метаф.* 1. Нагавор. *Ня будзіць Уліта усякыя укля́пывыньня слухыць. Калі паверіць Клімчанковыму укля́плівыньню, сам дурак будзіць. Я думыю, што ета сватыва уклеплівыньня, учора ён доўга с кумою стыяў, нешта дзячыў ёй.* 2. Закаханасць. *Як пашоў ны вічарінку, так у яго новыя укля́пывыньня. Каторыя у цябе укля́плівыньня па шчоту, ці ні дзісятыя? Сколька раз у яго було уклеплівыньня!*

УКЛЯПЫВАЦЦА *незак. метаф. жарт.* Моцна ўлюбляцца. *Міця зы Манію бегыць дос, знаць, у Анюціну меншыю укля́пывыіцца.*

УКЛЯСЦА *зак.* Паклясціся. *Як жа було ні паверіць, кылі дзіцямі укля́уся, што нагою ня быў лі таго сена.*

УКОВАНЫЙ *дзеепрым. перан.* Закаваны поўнасцю. *Зімля марозым уковына, стала як зялезныя, ломым ні ўдзяўбеш, ацска́кыіць.*

УКРАДАЦЦА *незак.* Рабіць таемна. *Думыю укрыда́цца ат ма́лыга, каб ні замеціў, ато пыцягніцца зы хвастом.* УКРАСЦА *зак.* Зрабіць таемна. *Ні знаю, ці ўкрадуся ат іх, ці не, каб сквілу ні надзелылі.* УКРАДЖАНЫЙ *дзеепрым.* Украдзены. *Я помню, як яны укра́джыныя сала хувалі ны Ісаівый бані.*

УКРАСІНІВАЦЬ *незак.* Запэцкваць газай. *Ты рукі украсі́нівыіш, а тады за хлеб хвытаісься ня мыўшы, акуратнейшым нада быць.* УКРАСІНІВАЦЦА *незак.* Запэцквацца газай. *Нашто табе украсі́нівыцца, ніхай ён адзін нальлець.* УКРАСІНІЦЬ *зак.* Запэцкаць газай. *Нясі мыла і ваду, я рукі украсі́ніў, ні за што узяцца нілізя.* УКРАСІНІЦЦА *зак.* Запэцкацца газай. *Ня трогый бітончыка, тожа украсі́нісься, як я.* УКРАСІНЕНЫЙ *дзеепрым. Твой жа пінжак украсі́ніный, пахніць, пахніць, у хату ні нясі, ны дваре павесь.*

УКРАТЫВАЦЬ *незак.* Укладваць (гной). *Каб зямлю гноім укря́тывыць, скот нада, сам жа ты ні настоіш.* УКРАТЫВАЦЦА *незак.* Укладвацца (гноем). *Раншы, помню, сколька гною падж жыта укря́тывылыся, ну й жыты радзілі.* УКРАТАЦЬ *зак.* Укласці (гною). *І такоя буваіць: гною укря́тыіш — а ні пад год, і ні зьбяреш*

*пасеіныга.* УКРАТАЦЦА *зак.* Укласціся (гноем). *Крепка поля укря́тылыся, дылжна пышаніца зырадзіць.* УКРАТАНЫЙ *дзеепрым. У Арцямёнка усадзьба укря́тына дык укря́тына, ну ў яго многа гною сыбралыся.*

УКРУЧЫВАННЕ *н. перан.* Махлярства. *А ці ты ні знала, што ён біз укручывыньня шагу ступіць ня можыць.*

УКРУЧЫВАЦЬ *незак. перан.* Махлярыць. *Ой, махырь быў, умеў укру́чывыць, за ім, бувала, глядзі ды глядзі.* УКРУЧЫВАЦЦА *незак.* Трапляць у непрыемнасць. *Ці раз ён укру́чывыўся ні ў адну пятлю, дык у другую.* УКРУЦІЦЦА *зак.* Трапіць у непрыемнасць. *Крутня ды дыбра ні дывядзець, ні там, дык там укру́ціцца.* УКРУЦЁМШЫ *дзеепрысл. Ці ня трецьцій раз ён укруцёмшы ходзіць.*

УКУХТЫВАЦЦА *незак.* Ухутвацца. *Мне неік усігда халодна, уку́хтывыюся дый таўкуся цэлый дзень лі двыра.* УКУТАНЫЙ *дзеепрым. Выйдзіць с хаты уку́тыный, пысядзіць трошку ны лавычкі і нызад ідзець.*

УКУЧУ *прысл.* Разам, сумесна. *Як сыбяруцца уку́чу, у іх рызгаворыў ні пірігывapiць.*

УЛАДЖЫВАННІК *м.* Той, хто наладжвае справы. *Ежылі рызладзілыся, то ніякій ула́джывыньнік ні паможыць.* УЛАДЖЫВАННІЦА *ж. Ну, ета усюдых справіцца, іна ула́джывыньніца ні с пасьледніх.*

УЛАМЫВАННІК, УЛАМЫВАЦЕЛЬ, УЛАМЫВАЦЕЛЬНІК *м.* Той, хто ўгаворвае. *Каб етых ула́мывыньнікыў троху меншы, луччы б дзела пашло. Найшоўся мне ула́мывыціль, усё дно як хто яго паслухыіць. Другей ула́мывыцільнік узяўся зы ўгаворы.* УЛАМЫВАННІЦА, УЛАМЫВАЦЕЛЬНІЦА *ж. Не, дренныя сь цябе ула́мывыньніца, ня ўмеіш пытхадзіць. Ну як жа, зь яе ніплыхая ула́мывыцільніца.*

УЛАСТВАВАННІК, УЛАСЦІЦЕЛЬНІК *м.* Уладар. *Каб ты знаў, якей ула́ствывыньнік бярецца Мырмылёў сын! Максім у іх глаўный уласьці́цільнік, што ён скажыць, усе выпыўняюць.* УЛАСТВАВАННІЦА *ж. Ула́ствывыньніца іна была б харошыя, толька німа чым уластвывыць.*

УЛАШЧЫВАННЕ *н.* Улагоджванне. *Дужа мне важна яго ула́шчывыньня, хочыць — ніхай лашчыцца, а ня хочыць — ніхай ідзець к чорту.*

УЛАШЧЫВАННІК *м.* Той, хто ўлагоджвае. *Січас другей ула́шчывыньнік возьміцца зы ўгаворы.* УЛАШЧЫВАННІЦА *ж.* *Тута нада ула́шчывыньніца ні твайму носу палосу.*

УЛЕЖНАСЦЬ *ж. эмац.* Гультайства. *Улежнысьці ім абоім хвытаіць, к рабоці ня дужа пріспасобліны.*

УЛІКАВАЦЦА *зак.* Запарыцца. *Травы у чугуночык укладу, зальлю, іна улікýіцца, тады п'ю, — ета мой чай такей.*

УЛІЦЬ *зак. метаф.* Уставіць, асадзіць адмыслова. *Такога масьціра пушукаць толька, ні асадзіў вокны, а пряма уліў іх.*

УЛІЧАЦЬ *незак.* Вылічваць. *Яны знаіш што дзелылі? — улічáлі пы пяцёркі на выпіўкі.*

УЛОВІСТЫЙ *прым.* Такі, які добра ловіць. *Сярёжка — уловістый маліц, ён бяз рыбы ні разу ні пріходзіць.*

УЛОМА *м.* і *ж. метаф.* Гультай. *Ач чаго ён такей улома зыдаўся, і бацька, і дзяды былі стыряцільныя. Узмацн.* УЛОМІНА. *Уломіна, уломіна дзеўка, пыпрасіла матка вады прінесьць, дык нудулася як індык. Павеліч.* УЛОМІШЧА. *Трудна, ежылі урадзіўся уломішча, яго ні к якой рабоці ні прітуркыіш.*

УЛОМАК *м. метаф.* Гультаяваты здаравяка. *Такей уломык ня дужа паслухыіць што зьдзелыць, яго ні дапросіська.*

УЛОМІСТА *прысл. метаф.* Непаваротліва, з цяжкасцю. *Уломіста варочыіцца, яму б толька у вызках рызыіжджаць.*

УЛОМІСТАСЦЬ *ж. метаф.* Непаваротлівасць, гультайства. *Чаго — чаго, а ўломістысьці ў ём хуць адбуўляй ці пазыч каму бярема.*

УЛУПІЦЬ *зак.* 1. Аблупіць. *А ты думыў бырына улупіць — усё рыўна што куріцу апскусьць? 2 перан.* Прызначыць. *Як улупілі яму штрапу за лес, ладна паскрёбся.*

УЛЮБЛІВАЦЬ *незак.* Улюбляць. *Мы відзілі, як іна улю́блівыла Цімоха.* УЛЮБЛІВАЦЦА *незак.* Улюбляцца. *А мы прімецілі, што ты пычаў у Томычку улю́блівыцца.*

УЛЯПЛІВАННЕ, УЛЕПЛІВАННЕ *н.* 1. Абкладанне, абмазванне. *Ай, як здыхыта уваліцца, ніякыя уля́плівыньня ні паможыць. Усё улеплівыньня нада зыбяліць хырашэнька.* 2 *перан.* Умешванне, ублытванне. *Такоя уля́плівыньня бізгаловыя, нашто яму улізаць у чужыя дзялы. Выкырабкывыйся цяперіцька с улеплівыньня як хочыш.*

УЛЯПЛІВАЦЬ *незак.* Абкладаць. *На ноч уля́плівыю ногі сіреньню, крапівыю і лезу на печ.* УЛЯПЛІВАЦЦА *незак. перан.* Ублытвацца ў непрыемнасці. *Пролыбку ён сабе усігда находзіць, пышчытай, сколька разоў ён уля́плівыўся то там, то там.* УЛЯПІЦЬ *зак.* Абкласці. *Як уляплю́ руку чым-небудзь, тады можна трошку дыхыць.* УЛЯПІЦЦА *зак.* Ублытацца ў непрыемнасці. *Тымашонык узноў уляпі́ўся: зь нейкімі тыварішымі мяшкі цігалі, а іх злавілі.*

УЛЯТУЧЫВАЦЬ *незак. перан.* Ісці, убірацца. *Стала на погріб і крічыць яму: улятў́чывый ат'етуля!*

УМАЗАЦЬ *зак. метаф.* Ударыць. *Пычаў чыпляцца: што вы мне, я вас ні прізнаю́, а Піліп рызьвярнуўся, як умазыў, тэй і сеў.*

УМАЗЫВАННЕ *н. метаф.* Умешванне. *Нашто б ім ета ўма́зывыньня, яны ж знаюць, што ўсё ніпраўда.*

УМАКАЦЬ *незак. перан.* Рабіць вінаватым, умешваць. *Нашто ім было мульчугана умыка́ць ніізьвесна у што.*

УМАЛІЦЦА *зак. перан.* Адпрасіцца. *Чуць умалі́ўся ат лісьнікоў, хацелі ськівуць макушкі. Аць сьмерці ня умолісься.* УМОЛЕНЫЙ *дзеепрым.* *Ета што умоліный, дык паслухыў, а то ж к яму поцступу німа.*

УМАЛОТНА *прысл.* Урадліва. *У іх пышаніца стала радзіць умалотна, будуць есьць пірагі.*

УМАТЫВАЦЬ, УМАТЫВАЦЦА *незак. метаф.* Ісці, знікаць. *Яму Валодзька пысаветывыў ума́тывыць ат'етуля, каб бакі ні нулумалі. Табе сказына ума́тывыцца і штоб цябе большы тута ня відзілі!*

УМАХЫВАЦЬ *незак. метаф.* Красці. *Два разы твой Дружак умáхывыў заўтрік, пыкладу пат куст, ён паццэліцца і ўхваціць.* УМАХНУЦЬ *зак.* Украсці. *Глядзі, іна усё ў цябе умахнець сы стыла, ой, стала збродлівыя кошка.* УМАХНУТЫЙ *дзеепрым. Во ты шукала умахнýтый вузялок, ці ета ён?*

УМАШЧЫВАЦЬ, УМОШЧЫВАЦЬ *незак.* Даваць у масць (пры гульні ў карты). *Як ты ходзіш, што кажный раз ім умáшчывыіш. Сам прізнайся, сколька разоў ты мне умошчывыў.* УМАШЧЫВАЦЦА *незак. перан.* Абыходзіцца. *Раншы дзісятку-дзьве расходыіць, то так, то сяк умáшчывыўся, а цяперя яму тужэй прідзіцца.* УМАСЦІЦЬ *зак.* Даць у масць (пры гульні ў карты). *Ты ж знаў, што ў яго красныя, нада було кідаць чорныю і ні ўмасьціў ба.* УМАСЦІЦЦА *зак.* Абысціся. *Наклеюць яму за лес, трімя сотнімі ня ўмосьціцца.* УМОШЧАНЫЙ *дзеепрым. Вот табе на, узноў Шуріку умошчына!*

УМАЯЧЫЦЬ *зак. экспр.* Пайсці моцна (пра дождж). *Толька мы выйшлі на поля, дождж як умыя́чыў, ні накрыцца, ні схувацца нійдзе.*

УМЕРКАВАЦЬ *зак.* Выдзеліць. *Ён так купляіць, каб сабе ны стыканчык уміркувáць.* УМЕРКАВАНЫЙ *дзеепрым. Што ў яго будзіць уміркувáна, кылі зу душою грыша ломыныга ні асталыся.*

УМІРАЦЦА *незак.* Надыходзіць (пра смерць). *Нада б ужо туды сыбірацца, дык жа ні ўміраіцца.* УМЕРЦЬ *зак.* Памерці. *Я мінутку збоку пыстыяла, там такога сьмеху надзелылі — умерць можна.*

УМЛЕНІЕ *н. эмац.* Думка, разважанне. *Ты чужога умленія ні знаіш, а ні знаўшы, ні нада гывapіць абы-што.*

УМОРА *м.* і *ж. эмац.* Надзвычайная, цікавая або смешная, асоба. *Сходзі паслухый, якей умора Сямёныў бацька, як станіць рысказывыць — зыхахочыськя. Узмацн.* УМОРЫНА. *Ета быў уморіна старэй, яго паслухыць — нысьмяесься уволю. Павеліч.* УМОРЫШЧА. *Уморішча дзеўка, чаго толька іна ні вытвыряіць, каго ні прістыўляіць.*

УМУДРАННІК *м.* Той, хто штосьці прымудрае. *Што там у Пуўлюковыга умудря́ньніка пулучаіцца, ці зьдзелыіць з лоткі віріцяно. Памянш.* УМУДРАННІЧАК. *Я віджу, што ты ладный умудря́ньнічык.* УМУДРАННІЦА *ж. Нічога ні пулучаіцца у вашыя умудря́ньніцы, відна, заўтря узноў пыбягіць у горыд.*

УМУЗДЫЧЫЦЬ *зак. груб.* Ударыць. *Пацскочыш калі, ён табе так умузды́чыць, што аткоцісься.*

УМУРЗЫВАННЕ *н.* Замазванне, забруджванне. *Ні пыхваліць цябе баба зы такоя уму́рзывыньня і канхветкі ні дасьць.*

УМУРЗЫВАЦЬ *незак.* Замазваць, забруджваць. *Ці відзіш, як ты лі чугуна штонікі уму́рзывыіш.* УМУРЗЫВАЦЦА *незак.* Замазвацца, забруджвацца. *Ідзі с пуні, тута грязна, ня ўму́рзывыйся.*

УМУЧАНІВАННЕ *н.* Абсыпанне мукой. *Тваё умуча́нівыньня мне ні ныравіцца, чаго ты з рукувамі лезіш у муку.*

УМУЧАНІВАЦЬ *незак.* Абсыпаць мукой. *Ма́лыя лазюць пы мішках, умуча́нівыюць адзёжу.* УМУЧАНІВАЦЦА *незак.* Абсыпацца мукой. *Ня трогый мяшкоў, ні умуча́нівыйся, я сам пірінясу у клець.* УМУЧАНІЦЬ *зак.* Абсыпаць мукой. *Ты ўсю сьпіну умуча́ніў, зьнімі пінжак ды аптрясі хырашэнька.* УМУЧАНІЦЦА *зак.* Абсыпацца мукой. *На мельніцы як ні бірягіся, дык умуча́нісься, туды харошыя адзежыны ні ныдзіваюць.* УМУЧАНЕНЫЙ *дзеепрым. Выбіг с клеці увесь умуча́ніный, усё дно як пыкычаўся ў муке.*

УМЯРКОВЫВАННЕ *н.* Меркаванне, разважанне. *Ну пыдажджом, пыглядзім, што зь яго умярьковывыньня палучыцца.*

УНАДЖЫВАЦЬ *незак.* Панаджваць. *Яго ўжо ні раз уна́джывыла у зяці, а ў пасьледнію мінуту спужаіцца.* УНАДЗІЦЬ *зак.* Панадзіць. *Ні прідумыць, што яго унадзіла ў Дубрыўку, ні вылазіць аттуля.*

УНАРАВІЦЦА *зак.* Дагадзіць, выклікаць прыязнасць. *Ні прідумыіць, як уныраві́цца Дзім'янёнку, бегыіць піряд ім ны задніх лапкых.*

УНАРАВІЦЬ *зак.* Упадабаць. *Нейкыю хыдасоўскыю унырáвіў, кажнінькій вечыр бегыіць туды.* УНАРАВІЦЦА *зак.* Спадабацца. *Ніхто ёй ні унырáвіцца, іна сабе цанымеры ні знаіць.*

УНАЦКЫВАННЕ *н. эмац.* Звычка. *Аўдзей зловіць, дык атвучыць ат етыга унáцкывыньня.*

УНІЖАЦЦА *незак. перан.* Змяншацца, зніжацца. *Учора мáлый пряма гареў, а сяньня цімпіратура уніжáіцца.* УНІЗІЦЦА *зак.* Зменшыцца, знізіцца. *Здароўя унізілыся, Кузьма чуць ходзіць, а еткій мушчы́нішча быў як зьверь.*

УНІКАННЕ *н.* Знікненне. *Гываріліі, балота асушылі і пычалося унікáньня, німа вады ў калодзіжых.*

УНІСТАЖАЦЬ *незак.* Знішчаць. *Зялёныя чэрьві як ныпадуць ны капусту, уністыжáюць, ні даюць галоўкі зывізацца.* УНІСТАЖАЦЦА *незак.* Знішчацца. *Лясы кругом уністыжáюцца, скора палкі нейдзі будзіць высіч.* УНІСТОЖЫЦЬ *зак.* Знішчыць. *Ладный кусок ячменю куры уністожылі, хваціцца стыршына — будзіць бяды.* УНІСТОЖЫЦЦА *зак.* Знішчыцца. *Столька людзей уністожылыся зы вайну, пряма ні прідумыць сколька.* УНІСТОЖАНЫЙ *дзеепрым. Посьлі вайны столька було уністожыных дзірявень, людзі дужа гурювалі.*

УНІСТАЖЭННЕ *н.* Знішчэнне. *Тыкая пахыта — ета уністажэньня зямлі, гліны с-пад нізу ныварочылі, на ёй нічога ня вырысьціць.*

УНІЯТНІК *м. эмац.* Нягоднік, які дзейнічае скрыта, стоена. *Ну што ты будзіш прасіць уніятніка, у яго серца німа.* УНІЯТНІЦА *ж. Марінка тожа ладныя уніятніца, кінула матку ны прыізвол судзьбы і ўкаціла.*

УНІЯТНІЧАННЕ *н.,* УНІЯТНАСЦЬ, УНІЯЦІЦА *ж. эмац.* Нягодніцтва. *А наглядзіліся мы ны яго уніятнічыньня. Родныя браты, адзін чылавек як чылавек, а другога уніятнысьць душыць. А мы, думыіш, меншы усякія уніяціцы піряцерьпілі?*

УНІЯТНІЧАЦЬ *незак. эмац.* Рабіць нягодніцтва. *Такей ні разу ні пірістаніць уніятнічыць, ета ў яго у кысьцях сядзіць.*

УНІЯТНЫЙ, УНІЯЦКІЙ *прым. эмац.* Нягодны. *Нырмальный чылавек так дзелыць ні станіць, у яго дайжа*

*від уніятный. Усё сямейства уніяцкыя, як яны сы стырікоў зьдзіваліся! — ні рыскызаць!*

УНІЯЦТВА *н. эмац.* 1. Нягодніцтва. *Ты сам знаіш, сколька ў ём уніяцтва, штоб родных пляменнікыў здываць у паліцыю, нада пыціряць совісьць.* 2 *зб.* Нягоднікі. *Сыбярецца уніяцтва, сідзяць, рузмундыкыюць.*

УНОКАЦЬ *зак. экспр.* Моцна стаміць. *Работыў ён крепка, і ў касу, і ў плуг первый, ну яго скора унокылі.*

УНУР *м.* Панурасць. *Яго бярець унур, што жызьні ў сям'е ні пулучаіцца.*

УНЫКАЦЬ *незак.* 1. Уваходзіць, хавацца. *Як уныкаіш у лес, тама такей хыладок, аж зачысьць.* 2. Знікаць. *Мылако ў кароў ґ зіме уныкаіць.* 3. Унікаць (у справу). *Слаба новый рукувадзіціль уныкаіць у дзела.* УНЫКНУЦЬ *зак.* Увайсці, схавацца. *У лес уныкнулі, айдзе ты іх будзіш шукаць, зу любэй куст схуваюцца.*

УПАЛАВІНА *прыназ.* На палову. *Рызлажыліся с хворысьцім упылавіна двыра.*

УПАЛАВІНУ *прысл.* За палову. *Зразу зыпрасіў дорга, а тады гатоў быў аддаць упылавіну, а ніхто ні браў.*

УПАРЫВАЦЬ *незак. метаф.* 1. Адшукваць, знаходзіць. *Ён умеіць грібы упарівыць, ніхто ні найдзіць, а Якыў ныбярець.* 2. Рабіць надзвычайнае. *Як Лукашонычык пріедзіць, тады с хлыпцамі чаго толька ні ўпарівыіць.* УПАРЫВАЦЦА *незак.* Адшуквацца, знаходзіцца. *Што там у цябе упарівыіцца?* УПАРОЦЬ *зак.* 1. Адшукаць, знайсці. *Дзеці мяшочыкі упаролі, гулялі кылы капы, глянулі ўнізу, а тама мяшкі.* 2. Зрабіць надзвычайнае. *Іван як упоріць што-небудзь, усе с хохыту пылігаюць.* УПАРОЦЦА *зак.* Адшукацца, знайсціся. *Калі што-небудзь упоріцца, нясі сюда.* УПОРАНЫЙ, УПАРОТЫЙ *дзеепрым.* Адшуканы, знойдзены. *Нясець упоріныя яблыкі, гаворіць, ны біряжку пыц сакою ліжалі. Якея красівыя упаротыя бырывічкі!*

УПАЦЕЦЦА *зак.* Спацець. *Як упацеіцца, ніхай на веціp ні выскакывыіць, ато ці доўга пытхваціць успаленьня.*

УПАЯЦЬ *зак. метаф.* Прысудзіць. *Зы зладзейства упыялі, знаць, пяць гадоў, ніхай пысядзіць, можа абру-*

*зуміцца.* УПАЯНЫЙ *дзеепрым. Крепка Пуўлючонку упыя́на, — во будзіць помніць, а то ўходу ні знаў.*

УПЕРЦЬ *зак. перан.* 1. Увагнаць. *Глядзі, у тэй бок ні варочый, увапреш кыня ў сьнег, што ня выб'іцца.* 2. Перацанаць. *Такей пастылый чылавек, ні ў чом яго ні ўвапреш, што ня дзелый.*

УПЕТАЦЬ, УПЕТАВАЦЬ *зак. перан.* 1. Стаміць. *Як цябе, мыладэя касцы пакуля ня ўпетылі? Ім нядоўга коні упетывыць, грузюць вазы ніізьвесна якея.* 2. Змясціць, уладкаваць. *Упетыў дачку у сям'ішчу, што і сам ні рад. У такоя горя упетывылі свайго мальца!* УПЕТАЦЦА, УПЕТАВАЦЦА *зак.* Трапіць. *Упетыцца нядоўга у што хочыш, а вылізаць тады дужа трудна. У такую кашу упетывыўся, што ні прідумыіць, як выскрісца.* УПЕТАНЫЙ, УПЕТАВАНЫЙ *дзеепрым.* Змешчаны, уладкаваны. *Во й другей у такую самыю куламесу упетын. У бальшоя горя упетывына Хрузычка, ныбліваіцца сьлізамі.*

УПІВАЦЦА *незак.* Рабіцца п'яніцам. *Раз пычаў упіва́цца, то толку зь яго ня жджы, ета прыпашчый чылавек.* УПІЦЦА *зак.* Зрабіцца п'яніцам. *Ну што Лукерья, гарюіць, яе мужык упіўся ў гарелку, ні прысыхаіць.*

УПЛУТУХАЦЦА *зак.* Моцна ўблытацца. *Палычкі уплутуха́ліся ў ніткі, нада астарожнінька выбіраць.* УПЛУТУХАНЫЙ *дзеепрым. Усё ўмесьці уплутуха́на: і вярёвычкі, і якея-то ніткі, сувайкі, — хто ж так дзелыіць.*

УПОРЧЫВАСЦЬ, УПОРЧЫСТАСЦЬ *ж.* Упартасць, настойлівасць. *Упорчывысьці у абоіх хвытаіць, толька каб падумылі, чаго упірацца. Усе відзілі-пірявідзілі яго упорчыстысьць.*

УПОРЫНКА *ж.* 1. Невялікая падпорка. *Нада пыставіць упорінку, шульца падгніўшыя, можыць кывірнуцца уся сьценка.* 2. Жалезны крук, які ўмацоўвае верхнюю частку калёс спераду з падушкай і ззаду з воссю. *Упорінкі ў калёсых ны вінты бяруцца, прівінчывыюцца.*

УПОЦЕМКУ, УПОЦЕМКАХ *прысл.* Папацёмку. *Як ты будзіш шукаць упоцімку, сьпічку узатрі. Пашлі упоцімкых, дасца ім дарога пы грязішчы. Памянш.* УПОЦЕМАЧКУ, УПАЦЁМАЧКУ, УПОЦЕМАЧКАХ, УПАЦЁ-

МАЧКАХ. *Яны прібеглі упоцімычку, ціхінька разьдзеліся і ляглі. Ён прыспалітный, і ўпацёмычку найдзіць дарогу. Пароўся нешта упоцімычкых, ці найшоў што, ці нічога ні найшоў. Пысядзіця трошку упацёмычкых, паспробыю лампу ныправіць.*

УПРАКАННЕ *н.* 1. Папрок. *Што ж упрікáньня, упрікай ці ні ўпрікай, а дзелу етым ні паможыш.* 2 *перан.* Дакучанне. *Мне іхныя упрікáньня во айдзе сядзіць.*

УПРАКАЦЦА *незак.* 1. Папракаць. *Ён упрікáўся: ні заехылі, дайжа слова ні прікінулі, — якея ж ета свае.* 2 *перан.* Дакучаць. *Дужа яны упрікáюцца іс сваімі трілюдымі, іх піряслухыць цярьпеньня ды цярьпеньня нада.* УПРЭЧЦА *зак.* Надакучыць. *Ён усім упрёкся хужы горькія редзькі, Алёна ны яго ні глядзіць.*

УПРЫХЛЁБКУ *прысл.* Без печыва. *А выпі наверьх стыканок чаю упріхлёбку, усё вісялей будзіць ехыць. Памянш.* УПРЫХЛЁБАЧКУ. *Ні нылівай многа, я пуўчашкі глыну ўпріхлёбычку ды пыбягу.*

УПУСКАННЕ, УПУШЧАННЕ *н. перан.* Закапванне, увядзенне лекаў. *Якоя тваё упускáньня, што ты міма капыіш. Нікуратныя упушчáньня, саўсім нізґраістыя.*

УПУСКАЦЬ *незак.* 1. Апускаць. *Пыглядзі іх лі погріба, яны бульбу упускáлі ўніз.* 2 *перан.* Закапваць, уводзіць лекі. *Іс-пыт пальца дренна, нада капільнікым упускáць каплі.* УПУСКАЦЦА *незак.* Закапвацца, уводзіцца (пра лекі). *Ці ўпускаіцца ж яму лікарства? — вочы ў яго красныя.* УПУСЦІЦЬ *зак.* Закапаць, увесці лекі. *Нада упусьціць лікарства ў вочы, можа яны сьвяціць луччы будуць.* УПУСЦІЦЦА *зак.* Закапацца, увесціся (пра лекі). *Каплі ўпусьціліся, і трошку резь прыйшла.*

УПУШЧАЦЬ *незак.* 1. Упускаць. *Я ўжо упушчáў кошку ў хату, карміў, большы ні пушчай.* 2. Выпускаць (з рук). *Сколька ты посыду упушчáў: лáтку разьбіў, дзьвюх баныччык німа і січас бяреш гырлач і ні дзяржыш.* 3 *перан.* Закапваць, уводзіць лекі. *Ета лікарства, скызалі, нада дней дзесіць упушчáць.* УПУШЧАЦЦА *незак.* 1. Упускацца. *Кошка толька што упушчáлыся ў хату, выгынь.* 2. Выпускацца (з рук). *Што йта ты як мяльля, усё ў цябе з рук упушчáіцца.* 3. Закапвацца, уводзіцца (пра лекі). *Ты*

*ні зубувай, каб па трі разы кажный дзень лікарства упушча́лыся.*

УПЯЛЕТАЦЬ, УПЯЛЕТАВАЦЬ *зак.* Прагна з'есці. *Бувала, нальлю місішчу капусты старому, паўбулкі хлеба возьміць, усё упялетыіць. Ладный гаршчонычык крупені упялетывыў адзін.* УПЯЛЕТАНЫЙ, УПЯЛЕТАВАНЫЙ *дзеепрым. Чугунок ужо упялетыный, пустэй ны лаўкі стаіць, а там жа многа быракоў було. Уся сырыкваша упялетывына, нечым капусту зыквасіць.*

УПЯЛЁХЫВАЦЬ, УПЯЛЁХКЫВАЦЬ *незак. эмац.* Моцна намочваць і забруджваць. *Толька пусьці с хаты, пыбігаць па лужых адзежу упялёхывыць. Узноў палез у лужу упялёхкывыць штонікі.* УПЯЛЁХЫВАЦЦА, УПЯЛЁХКЫВАЦЦА *незак.* Моцна намочвацца і забруджвацца. *Чаго ты пойдзіш упялёхывыцца, ніхай яны пыдаждуць, твае ягыды. Мне йціць упялёхкывыцца дужа ня хочыцца.* УПЯЛЁХАЦЬ, УПЯЛЁХКАЦЬ *зак.* Моцна намачыць і забрудзіць. *Па лужых лазілі, штонікі упялёхылі, нада спыласнуць ды павесіць сушыць. Во мыя мытніца упялёхкыла рукаўкі!* УПЯЛЁХАЦЦА, УПЯЛЁХКАЦЦА *зак.* Моцна намачыцца і забрудзіцца. *Грібоў ба сяньня ныбраў, дык упялёхыісься посьлі дажджу. Пустухі ў кустах ладна упялёхкыюцца.* УПЯЛЁХАНЫЙ, УПЯЛЁХКАНЫЙ *дзеепрым. Мальцы прібеглі с арехыў упялёхыныя, ладна ім даў дождж. Упялёхкыныя транты зьдзівай скарей ды вешый сушыць.*

УРАД *прысл.* Побач. *Уря́д з намі жыла Праскоўіна дычка, во так наша хата, а во тута яе.*

УРАЖЫЦА *ж.* Вораг-жанчына. *А, уражы́ца мыя завідыіць, што я зрыла бульбу.*

УРАЗУМЛЯННЕ, УРАЗУМЛІВАННЕ *н.* Прывядзенне ў розум. *Раз сваю гылаву ны плічах ня носіць, дык ніякыя урузумля́ньня ні паможыць. Якоя ім уразу́млівыньня нада, з дурукамі толку ні даб'есься.*

УРАЗУМЛЯННІК, УРАЗУМЛІВАННІК *м.* Той, хто прыводзіць у розум. *Стыряіцца Кыныстратыў урузумля́ньнік, ды айдзе ты дураку свой розум укладзеш. Як возьміцца другей уразу́млівыньнік, яны зразу ўсё поймуць.* УРАЗУМЛЯННІЦА, УРАЗУМЛІВАННІЦА *ж. Ны Хвя-*

*цістывыга мальца ні тыкая урузумля́ньніца нада. Пушукай другую уразу́млівыньніцу, ета ні падойдзіць.*

УРАЗУМНІЦЬ *зак.* Зрабіць разумным. *Як ты дурука урузумні́ш, длі яго словы, што ап сьценку гарох.* УРАЗУМНІЦЦА *зак.* Паразумнець. *Айт, урузумні́ўся, — быў глумаком і ныўсігда такім астанецца.* УРАЗУМЛЕНЫЙ *дзеепрым.* *Ён і ўразу́мліный якую хочыш дурату сытваріць.*

УРАКАННЕ *н.* Нанясенне шкоды чараўніцтвам. *А кіньця вы с урікáньнім, хто прідумыіць — і пашло пы дзяреўні лах-лах-лах.*

УРАМЯНЕЦЬ *незак.* Зацягвацца ў часе. *Можна було б схадзіць рузузнаць, дык ён ня дужа пытхвацін, а дзела ўрімянеіць.*

УРАСКІДКУ *прысл.* Так, каб глеба клалася ў супрацьлеглыя бакі (араць). *Як адна палоска, год пашуць у склад, а другей год усігда ураські́дку.*

УРАСЯНІВАННЕ *н.* Намочванне расой. *Усякыя вобуў урыся́нівыньня ня любіць, асобінна кожынныя.*

УРОДАВАННІК, УРОДНІЧАННІК *м.* Той, хто самаўпраўнічае, здзекуецца. *Ого, якей быў уродывыньнік прі немцых, ат яго людзі крывавымі сьлізамі плакылі. Уроднічыньнікі ні пірівядуцца ні разу, усігда ну людзей найдзіцца скаціна.* УРОДАВАННІЦА, УРОДНІЧАННІЦА *ж.* *Ізычком дужа мяккыя, а уродывыньніца — ні прівядзі бог. Ты хваціся, ікая уроднічыньніца была Аўсеіхіна сьвякрова, сколька ат яе людзі цярьпелі.*

УРОЗЬ *прысл.* Асобна, паасобку. *Толку у іхный жызьні с самыга нычала ні пулучаіцца, троху урозь жылі, тады схадзіліся.*

УРОІВАННЕ *н.* Здаванне. *Табе усігда што-нібудзь роіцца, ты сваім уроівыньнім усіх аклуміла.*

УРОСЦЬ *зак.* Вырасці. *Хырашо дыглідалі, дык лён урос, дырагоя выйдзіць вылакно.*

УРУННЮ *прысл.* Яркімі зялёнымі ўсходамі. *Гною ладна укрятылі, жыта узялося уру́ньню, ажно глядзець красіва.*

УРУХАЦЬ *зак. груб.* Закахаць. *Неік жа урю́хыла яго у ету крысавіцу ніныглядныю.* УРУХАЦЦА *зак.* Закахацца.

*Па вушы урю́хыўся у нейкыю лідагоськыю, кажныю нядзелю бегыіць.* УРУХАНЫЙ *дзеепрым. Тады ён урю́хыный быў у Нюшку Дзім'янёнкыву.*

УРЫВАЦЦА *незак. метаф.* Шмат ужываць, занадта прагнуць. *Глядзі-глядзі ні дупускай мальца урыва́цца ў гарелку, станіць піць — прыпашчый чылавек.* УВАРВАЦЦА *зак.* Пачаць шмат ужываць, занадта прагнуць. *С арміі прішоў, ны работу ні зыхацеў устра́івыцца, увырва́ўся ў гарелку — кукуй, матка.*

УРЫТЫЙ *дзеепрым.* Укапаны. *Сохі дужа глубока былі ўры́ты, намучыліся, пакуля іх выцягывылі.*

УРЭДА *м.* і *ж.*, УРЭДЫШ *м.* Шкадлівая асоба, жывёла. *Ні дыгаворісься ты с тым уредыю. Максіміха тожа была уреда ладныя, нечыга зуступацца. Ох, уреда бычок, так і глядзіць, каб шмыгнуць у авёс. Іна зьмія, а ён уредыш, і нада ж дыбрацца такой парі! Узмацн.* УРАДНЮГА. *Якей жа урядню́га етый маліц, мінуты спакою дзяўчонкым ні дыець: то шчыпнець, то шчаўкнець. Памянш.* УРЭДНІЧАК, УРАДНЮЖКА. *Ах ты, уредні́чык малінькій, усё ўремя дзеду дренна дзелыіш. Ну й урядню́жка ж ты стала, хочыш пруціка.*

УРЭЗАК *м.* Адрэзак, кавалак (бервяна). *Зь етых урезкыў нічога ня зьдзелыіш, на дровы пойдуць. Памянш.* УРЭЗАЧАК. *Адзін урезычык кінь, можа айдзе натточка нада будзіць.*

УРЭЗАЦЦА *зак. метаф.* Спадабацца. *Ікая-то віхрянскыя дзеўка яму ўрезылыся.*

УРЭМЯЧКА *н. памянш.* Час. *А ці мы мала трясушчыга ўремічка пірiжылі, бувала, як вечыр, так і баісься, каб хто ня грюкнуў.*

УСАБАЧЫЦЬ *зак. эмац.* Прысудзіць. *Як усыба́чуць судык пітнаццыць, тады ты пыадурюваіш зь мятлою на вуліцы.*

УСВЯЦІЦЬ *зак.* 1. Засвяціць. *Нешта пагода ні прідумыць ікая: то сонца усьвеціць, а ціріс пуўчыса, глядзі, дождж пашоў.* 2 *перан.* Ударыць раптоўна. *У яго ні пытаць, усьвеціць — тады рызьбірайся зь ім.* УСВЯЦЁМШЫ *дзеепрысл.* Ударыўшы раптоўна. *Пашлі, усьвяцёмшы Коліныму воґірю.*

УСЕСЦА *зак. перан.* Суняцца. *Я знаю, калі ён усядзіцца: як бацька цірісьсядзельнік возьміць.*

УСЁ *займ.* Хопіць, дастаткова. *Усё, большы я есьць нічога ні хачу. Усё, усё, ні пыдлівай нісколічка, я пад'еў во як!*

УСКАКЫВАЦЬ *незак.* 1 *перан.* Заходзіць на кароткі час. *Прося ка мне ускакывыла два разы, дык ны сікунду: здрастуй, цётка, — і пабегла нызад.* 2 *метаф.* Узыходзіць (пра пасевы). *Калі ні пасею, у мяне гуркі дужа скора ускакывыюць.* 3 *метаф.* Узыходзіць (пра сонца). *Летым сонца рана ўскакывыіць.* УСКАЧЫЦЬ *зак.* 1. Зайсці на кароткі час. *Ускачыў у хату, пывярнуцца ні пасьпеў і пабег.* 2. Узысці (пра пасевы). *Гусьцінька морква ўскачыла, нада будзіць прарвывыць.* 3. Узысці (пра сонца). *Лажыціся хуць ны мінутку, сонца вот-вот ускочыць.* 4 *метаф.* Патрапіць. *Каб ні ўскачыла ны такея пырашкі, ні знаю, што магло б быць, а яны крепка мне пымаглі.*

УСКАТЫВАННІК *м.* Той, хто накручвае палатно пры ткацтве. *Нешта кріва ускруцілыся пылатно у твайго ускатывыньніка.* УСКАТЫВАННІЦА *ж.* *Бярісь-ка ты сыма, ускатывыньніца, у цябе луччы пулучаіцца.*

УСКРАСНУЦЬ *зак. перан.* Пачаць жыць лепш. *Зь ім жыць було ня мёд, і рызыйшоччы ні ўскрясьнець.*

УСКРУЧЫВАЦЦА *незак. метаф.* Прыходзіць у стан цечкі. *Мыя сьвіньня трецьцій раз ускручывыіцца зы хлікамі.* УСКРУЦІЦЦА *зак.* Прыйсці ў стан цечкі. *Карова ускруцілыся зы быкамі, нада весьць.*

УСКРЫВАННЕ *н. перан.* Узганянне (статка). *Я б дыла ім ускрываньня тубуна: злавіла б і прутым насекла.*

УСКРЫВАЦЬ *незак.* 1. Расплюшчваць. *Больна дужа ударілі, правыга вока ні ўскрываіць.* 2 *метаф.* Пачынаць. *Як пірідаюць, етый царь думыіць другую вайну ускрываць.* УСКРЫВАЦЦА *незак.* 1. Расплюшчвацца. *У яго чуць-чуць адно вока ускрываіцца.* 2. Праяўляцца. *У Колі язва узноў ускрываіцца, мучыіцца ж жыватом, места сабе ні находзіць.* 3. Пачынацца. *Рысказывылі, што і ў другом месьці выйна ускрываіцца.* УСКРЫЦЬ *зак.* 1. Расплюшчыць. *Пылым як крутнуў веціp, засыпыў вочы, ускрыць ні магу.* 2. Пачаць. *Доўга етым сыбакым вайну ўскрыць, ці ім*

*людзей жалка.* УСКРЫЦЦА *зак.* 1. Расплюшчыцца. *На трецьцій дзень вока ўскры́лыся.* 2. Адкрыцца. *Рана ўскры́іцца, кроў пойдзіць.* 3. Пачацца. *Кылі хочыш, выйна к вясьне ускры́іцца.* УСКРЫТЫЙ *дзеепрым.* 1. Адкрыты. *Ускры́тыя раны ні зыжываюць, гныяцца і гныяцца.* 2. Выкрыты. *Доўга дурату тварілі, а тады чуім: усе іх прадзелкі ўскрыты.* 3. Пачаты. *Нідаўна гыварілі, што айдзе-то узноў ускры́та выйна.*

УСКРЫЧАЦЦА *зак.* Раскрычацца раптоўна. *Аксюта пычыла горла драць, а ўсьлед за ёю Мыланка ўскрічáлыся.*

УСКРЭСЦА *зак. перан.* Дабіцца настойлівымі намаганнямі. *Ты зы майго сына ўскрібла́ся, думыіш маім быгаствым зыўладзець.*

УСЛУГАВАЦЬ *незак.* Прыслужвацца дагаджаючы. *Падлізьнік што большы некуды, дужа любіць нычальству услу́гывыць. Ты тады Кынстаньціныўні услугува́ла.*

УСМАТРЭННЕ, УСМАТРЭНІЕ *н.* Увага. *Сьпірва трошку було усматреньня, а тады іна пірістала чужую араву глядзець. Ну як жа так, ма́лыя саўсім біз усматренія асталіся.*

УСМІШКА *ж.*, УСМІХЫВАННЕ *н.* Усмешка. *Усё с усьмі́шкымі, усё с ха́хынькымі, як чылавек нічога ні скажыць. У яго ўсігда салодкыя усьмі́хывыньня, ды вы ні знаіця, што ён на серцы тоіць.* *Памянш.* УСМІШАЧКА. *Я знаю, к чаму ета усьмі́шычка.*

УСМЯТАЧКУ *прысл. памянш.* Усмятку. *Усьмя́тычку я зьела б, а крутога ні хачу, яно ні глытаіцца.*

УСНОЎ *м.* Аснова. *Ну усноў мы ныпрялі, а на ўток можыць ні хваці́ць, нада пытпрідаць.*

УСПАКАІВАННІК, УСПАКОІВАННІК, УСПАКАІВАЦЕЛЬ, УСПАКОІВАЦЕЛЬ *м.* Той, хто сунімае, супакойвае. *Ны яго нада успыка́івыньнік з дубінкыю, слова ды яго ні даходзіць. Бярецца успакоівыньнік пы-ныстыяшчыму, січас пырядык нывядзець. Найшоўся другей успыка́івыцілі, яго б сымаго хырашэнька уняць нада. Нешта ня відна Хрісьцінкіныга успакоівыціля, верна, сьпіць біз задніх ног.* УСПАКАІВАННІЦА, УСПАКОІВАННІЦА *ж.* *Каб ету успыка́івыньніцу самую уняў, тады б і ў хаці пыцішэла.*

*Як прібягіць Хныкоўніна успакоівыньніца, тады ўсе асядуцца.*

УСПАКОЙ *м.* Супакой. *Калі етыя балыўнікі якей успакой сабе найдуць, усё гылыгыляць і гылыгыляць.*

УСПАЛАШЫВАЦЬ *незак.* Насцярожваць, палохаць. *Нашто ім було дзяреўню успыла́шывыць!* УСПАЛАШЫВАЦЦА *незак.* Насцярожвацца, палохацца. *Мы разы тры успылашывыліся: вот паедзім, а кінуць усё неік жалка.* УСПАЛАШЫЦЦА *зак.* Насцярожыцца, спалохацца. *Нічога такога страшныга ні було, яны дырма успылашы́ліся.* УСПАЛАШОМШЫ *дзеепрысл.* *Прібеглі успылашомшы, ні знаюць, куды кінуцца.*

УСПАЛЕННЕ, УСПАЛЕНІЕ *н.* Запаленне. *Ні бярёгся, ну й пытхваціў успаленьня, ляжыць. У яго було двухстароньнія успаленія, цяжола ліжаў.*

УСПАРЭНІЕ *н.* Выпарэнне, пар. *У сенцых бульбу таўкём, тама усігда успаренія, праветрівыць нада.*

УСПЛЯСКЫВАЦЬ, УСПЛЁСКЫВАЦЬ *незак.* Пляскаць (у адчаі). *Цяперя сколька ні ўспля́скывый, нічым ні паможыш. Ну што яны, стыялі, усплёскывылі рукамі, усплёскывый як хочыш, кылі адно вугальля асталыся.* УСПЛЯСНУЦЬ, УСПЛЁСНУЦЬ *зак.* Плёснуць (у адчаі). *Усплясьнець, усплясьнець Тыцяна рукамі, адна іна зукукуіцца бізь яго. Усплёснула рукамі: а мамычка ж ты мыя, а як жа я бісь цябе буду дзяцей пыдымаць!*

УСПУСКАЦЬ *незак. метаф.* Класці, ліць (тлушч). *Я нямножычка сала успуска́ю ны скыўраду, ні люблю жырныга.* УСПУСКАЦЦА *незак.* Класціся, ліцца (пра тлушч). *Сьпірва успуска́іцца жыр, а тады узьліваюцца ладкі.* УСПУСЦІЦЬ *зак.* Пакласці, узліць (тлушч). *Успу́сьціш жыру, ён ны гырячый скыўрадзе у мінуту рыстаніць.* УСПУСЦІЦЦА *зак.* Пакласціся, узліцца (пра тлушч). *Масла успу́сьціцца, а тады яйцы бі.* УСПУШЧАНЫЙ *дзеепрым.* *Мала успу́шчына масла, пылажы яшчэ крошку.* УСПУСЦЁМШЫ *дзеепрысл.* *Як жа ты ладкі сьпякеш, ні ўспусьцёмшы жыру?*

УСПУШЫВАННЕ *н.* Апрацоўка глебы да пульхнасці. *Уго, якоя у цябе успу́шывыньня, стаў — дык ныга тоніць.*

УСПУШЫВАЦЬ *незак.* Рабіць пульхнай (пра глебу). *Сколька мы сілы пылажылі на хутырі, успу́шывылі зямлю, ну і хлеб радзіў.*

УСТАРКЫВАННЕ *н. метаф.* Абуванне. *С такім уста́ркывыньнім толька пулумаіш бацінычкі.*

УСТАРКЫВАЦЬ *незак. метаф.* Абуваць. *Ста́рыя валінкі уста́ркывыю і шломкыю кылы двыра.* УСТАРКЫВАЦЦА *незак.* Абувацца. *У мяне ўсякій раз во етыя атопкі уста́ркывыюцца, яны удобныя.* УСТОРНУЦЦА *зак.* Узлезці, узляцець. *Вароты былі зачыніты, дык куріца ны яблынку усторнулыся і нучувала.*

УСТАЎМЯСІЦЬ *зак.* 1. Размясіць. *Грязь ны дваре устыўмясілі, ні прайціць у пуні.* 2 *метаф.* Падняць. *Іх учора часы ў чатырі устыўмясіла, спаць ні далі.* УСТАЎМЯСІЦЦА *зак.* Сысціся ў цеснаце. *Ны бызарі устыўмясіліся, нійдзе ступіць нілізя було.* УСТАЎМЯШОНЫЙ *дзеепрым.* Размешаны. *Машыны разьбілі, устыўмяшона дарога, ны калёсых ехыць нілізя.* УСТАЎМЯШОМШЫ *дзеепрысл.* Падняўшы. *У Прыкапёнкывых нешта устыўмяшомшы раньня бегылі.*

УСТАЎПЯСІЦЬ *зак.* Выклікаць неспакойны рух мноства людзей, жывёл. *Нечыга устуўпясіла тую планіду, доўга туды-нызад бегылі.* УСТАЎПЯСІЦЦА *зак.* Пачаць неспакойна рухацца (пра мноства людзей, жывёл). *А таго ўступясіліся, што вобыйску быяліся, у іх було што ныхадзіць.* УСТАЎПЯШОНЫЙ *дзеепрым. Яны другей дзень устыўпяшоныя: зяць жа пріїжджаіць ні абы-якей.* УСТАЎПЯШОМШЫ *дзеепрысл. Як народ устуўпяшомшы, туды луччы ні пыказывыцца.*

УСТОЙКУ *прысл.* Стоячы. *Два аўтобусы напетывына, стыялі устойку, пывярнуцца нілізя було. Памянш.* УСТОЕЧКУ. *Дасца столька ўремя ехыць устоічку.*

УСТОПЫВАННЕ, УСТОПКЫВАННЕ *н.* Бурныя паводзіны. *Дужа мне аньціресна глядзець на іхныя устопывыньня. Ну й сколька яму устопкывыньня пымагло?*

УСТОПЫВАЦЬ, УСТОПКЫВАЦЬ *незак.* Выклікаць бурныя паводзіны. *Яго як пычанець устопывыць, луччы нічога проця ні гывcarі. Мікілая і ні ш чога ні зь якыга часта устопкывыіць.*

УСТРАВАННІК *м.* Той, хто ўмешваецца. *Вот яшчэ аднаго устріва́ньніка тут ба саўсім ні нада було.* УСТРАВАННІЦА *ж. Іна тыкая ўстріва́ньніца: ці нада, ці ні нада — усігда ўлезіць.*

УСТРАСКА *ж. эмац.* Праборка, лупцоўка. *Яны і сяньня устря́ску палучуць, так ня бойдзіцца. Памянш.* УСТРАСАЧКА. *Я знаю, што ўчора вам ладныя устря́сычка была.*

УСТРЭЦЦА *зак.* Сустрэцца. *Нада було б із Мысяёнкым устреца, нашчот іструба путулкуваць.*

УСТУПАННЕ *н. метаф.* Абарона. *Трошку пымагло Шурікыва уступа́ньня, каб ня ён, маглі б атмясіць.*

УСТУПАННІК *м. метаф.* Абаронца. *Етый уступа́ньнік паможыць як ні знаю хто.* УСТУПАННІЦА *ж. Выскычыла Кіріліна уступа́ньніца: чаго вы прікасывыіціся ґ дзіцёнку?*

УСТУПЛЕНЫЙ *дзеепрым.* Такі, які стаў членам пэўнай арганізацыі. *Пісаў, што яны усту́пліны у кыпірацію, года ціріс пуўтыра палучуць кварціру.* УСТУПЁМШЫ *дзеепрысл. Мы ўжо былі уступёмшы у кылгас, як прісламі Кулагіна.*

УСТУПЫВАННЕ, УСТУПКЫВАННЕ *н. эмац.* Гнеў, абурэнне. *А хто абрышчаіць уніманія ны яго усту́пывыньня, ніхай тупыіць сколька хочыць. Асядзіцца Пятрок с усту́пкывыньнім, у яго ета скора праходзіць.*

УСТУПЫВАЦЬ, УСТУПКЫВАЦЬ *незак. эмац.* Выклікаць гнеў; абурэнне. *Ці помніш, як усту́пывыла Хрымінка, калі пыміналі яму Валодзькіну жонку. Яго часта калі с прічыны, а калі і біс прічыны усту́пкывыіць.* УСТУПЫВАЦЦА, УСТУПКЫВАЦЦА *незак.* Выяўляць гнеў, абурэнне. *Німа чаго яму усту́пывыцца, такея-то бяды — карова кылы мяжы скубнула два разы. Нечыга усту́пкывыцца, чаго ты кыня пускаіш, куды ні нада.* УСТУПАЦЬ, УСТУПКАЦЬ *зак.* Выклікаць гнеў, абурэнне. *Яе ста́рыга як усту́пыіць, тады луччы ні пытхадзіць. Ні знаю, чаго іх усту́пкыла с саміньkыга раньня.* УСТУПАЦЦА, УСТУПКАЦЦА *зак.* Выявіць гнеў, абурэнне. *Каб знаць, чаго ён так усту́пыўся, ну ета ні з-зы Пракопывыга сына. Пыдажджы, ты пыглядзіш, як*

*ён усту́пкыiцца за вожкi.* УСТУПАНЫЙ, УСТУПКАНЫЙ *дзеепрым. Ён усту́пыный дужа аньцiресный: гылавою круцiць, рукавы аткáсыiць, зыкáсыiць. Пачом жа ёй знаць, чаго яны еткiя усту́пкыныя.*

УСТУПЯСIЦЬ *зак.* 1 *эмац.* Размясiць. *Сьвiньнi настолька уступясiлi двор, што туды нi зайцiць.* 2 *метаф.* Усхваляваць, спалохаць. *Iх уступясiла, што стыршына мог замецiць.* УСТУПЯСIЦЦА *зак.* 1. Размясiцца. *Кылы самых варот дужа уступясiлыся.* 2. Усхвалявацца, спалохацца. *Яны былi уступясiлiся, а тады iх страх прайшоў.* УСТУПЯШОНЫЙ *дзеепрым.* 1. Размешаны. *Лi калодзiжа так уступяшона, што хут ты боты ныдзiвай.* 2. Усхваляваны, спалоханы. *Бегыў нешта ны дваре уступяшоный, у пуню, с пунi, тады ў сенцы, нызад.* УСТУПЯШОМШЫ *дзеепрысл.* 1. Размясiўшы. *Па ўсёй дзяреўнi уступяшомшы посьлi дыжджа, ня дужа айдзе ступiш.* 2. Усхваляваўшыся, спалохаўшыся. *Учора яны былi уступяшомшы.*

УСУЧЫЦЬ *зак. эмац.* Прысудзiць. *Трi гады усучы́лi, во табе й нiчога ня будзiць, — дыхрабрiўся.*

УСХАДЖЫВАННЕ, УСХОДЖЫВАННЕ *н. метаф.* Выяўленне актыўнасцi. *Мне iхныя усхáджывыньня так ныдаела, аж у пячонкых сядзiць. I на етый раз нiякыга толку ня будзiць зь яго усходжывыньня.*

УСХАХЛАЧЫВАННЕ *н.* Разлахмачванне. *Ты, кажыцца, даўно рёў, ну зы ўсхыхлáчывыньня сiчас пырявеш.*

УСХАХЛАЧЫЦЬ *зак.* Разлахмацiць. *Усхыхлáчыў валосься, ду́быря стаiць ува ўсе бакi.* УСХАХЛАЧЫЦЦА *зак.* Разлахмацiцца. *Твае кудрi усхыхлáчылiся, што нi рашчэшыш.* УСХАХЛАЧАНЫЙ *дзеепрым. Нi хадзi такiм усхыхлáчыным, прiчашыся.*

УСХВАЛIВАННЕ *н.* Расхвальванне. *Такоя ўжо усхвáлiвыньня, усё дно як луччы Сенiчкi нiкога на сьвецi нiма.*

УСХВАЛIВАННIК, УСХВАЛЯННIК *м.* Той, хто расхвальвае. *Етыга усхвáлiвыньнiка слухый, ды ня дужа яму верь. Аць Сярьгеiхiныга усхвыля́ньнiка такога пачуiш, чаго i на сьвецi нi було.* УСХВАЛIВАННIЦА, УСХВАЛЯННIЦА *ж. Ну як жа ня будзiць усхвáлiвыньнiца пры*

*пляменьніцу родныю хырашо гываріць! Канешня, усхвыля́ньніца, ні дырма ж абішчалі ны свадзьбу зызваць.*

УСХВАЛІВАЦЬ *незак.* Расхвальваць. *Сь кім ні гываріла, усе яго дужа усхва́лівыюць.* УСХВАЛІВАЦЦА *незак.* Расхвальвацца. *Трошку мадзеюць, нечым усхва́лівыцца.* УСХВАЛІЦЦА *зак.* Расхваліцца. *А чым ён усхва́ліцца, твой Цімох, што пацьсьвінка у калхозі украў?*

УСХВАЦІЦЦА *зак. метаф.* 1. Раптоўна ўзнікнуць (пра вецер, навальніцу). *Усхвацілыся буря, нашы капёшычкі рызьнісла пу лугу, а тады дождж наліў.* 2. Раптоўна пачацца. *Нійдзе ні прустудзіўся, на холыдзі ня быў, і ўсхвацілыся успаленія.*

УСХУПЛІВАЦЬ *незак. эмац.* Усхоплівацъ, накіроўваць. *Яго часта усху́плівыіць то на тую дурату, то ну другую.* УСХУПІЦЬ *зак.* Усхапіць, накіраваць. *Нечыга ні дыгадзіла Маўра, яго пряма неік усху́піла, аж пірікасіўся.*

УСЦІРАННІК *м.* Той, хто запальвае запалку. *Пуўкырыбка сьпічык пулумаў усьціра́ньнік, пакуля лампу зыпаліў.* УСЦІРАННІЦА *ж. Пыглядзі ты на ету усьціра́ньніцу, як іна балыіцца.*

УСЦЯЖНЕНЬКІЙ *прым. памянш.* Працяжны на некалькі сценак. *Як пыкладзеш усьцяжненькія пыця́жкі, дык знаіш, што сьценка ні паверніцца нікуды.*

УСЦЯРАБЛІВАННЕ, УСЦЯРЭБЛІВАННЕ *н.* Выцераб. *Усьціря́блівыньня ні дывялі да толку, яно узноў зырыстаіць. Усьцяреблівыньня забложыла, хут ты яго матыч.*

УСЦЯРАБЛІВАЦЦА, УСЦЯРЭБЛІВАЦЦА *незак.* Церабіцца. *Як хырашэнька рукі пріложыш, будзіць усьціря́блівыцца. Што, само ня дужа хочыць усьцяреблівыцца?*

УСЧАЧЭНІВАННЕ *н.* Задаванне, ганарлівасць. *На іх другей раз як ныпадзець ушчачэнівыньня, яны сабе цанымеры ні находзюць.*

УСЧАЧЭНІВАЦЬ *незак.* Выклікаць задаванне, ганарлівасць. *Яе часта ушчачэнівыіць, любіць пыказывыць сябе, як мама, бувала.* УСЧАЧЭНІВАЦЦА *незак.* Задавацца, ганарыцца. *З ма́льства прівыкаюць ушчачэнівыцца, пыд-*

*растуць — ня будуць знаць сабе места.* УСЧАЧЭНІЦЬ *зак.* Выклікаць задаванне, ганарлівасць. *Ні прідумыць, чаго яе так ушчачэніла, раншы была спыкайнейшыю.* УСЧАЧЭНІЦЦА *зак.* Пачаць задавацца, ганарыцца. *Ушчачэніліся, што к ім прíступу німа, шчытаюць сябе вышы ўсіх.* УСЧАЧЭНЕНЫЙ *дзеепрым. Вы ны яе ны ўшчачэніныю пулюбуйціся, тады будзіця гываріць.*

УСШАВАЛІВАЦЬ, УСШАВЯЛІВАЦЬ, УСШАВЕЛІВАЦЬ, УСШАВОЛІВАЦЬ, УСШАВЯЛЯЦЬ *незак.* 1. Падварушваць, варушыць. *Ці ты хадзіў саку ушшыва́лівыць? — ніхай ба сохла. Клівярок я ушшыв́ялівыў, ён скора будзіць сух. Пакуля сонца, нада ушшавелівыць сена, нада скарей пацсушывыць. Пычаў ушшаволівыць старыю салому, а тхорь аттуля пырьх і с пуні, толька яго відзіў. Ідзі-ка ты ушшывіля́ць пакосы, зь віцярком яны будуць ладна пыцсыхаць.* 2 *перан.* Падахвочваць. *Яны дужа цяжолыя ны пад'ём, іх усё ўремя нада ушшыва́лівыць. Што яго ушшыв́ялівыць, ламіну нікуды ні дапресься. Мікіта іх ушшавелівыў, ні дываў ліжаць ны баку. Нялёхка будзіць Цімашонка ушшаволівыць: а нашто, а як, а куды — зывядзець сваё песьні. Стыравойтыў іх троху ушшывіля́ў, а як паехыў, яны саўсім апусьціліся, ні пра што ня рупюцца.* УСШАВАЛІВАЦЦА, УСШАВЯЛІВАЦЦА, УСШАВЕЛІВАЦЦА, УСШАВОЛІВАЦЦА, УСШАВЯЛЯЦЦА *незак.* 1. Падварушвацца, варушыцца. *Ці сена, ці сыка як ушшыва́лівыіцца, тады скарей сохніць. Як у цябе тута, ці ушшыв́ялівыіцца троху іржышча? Так дажджом прібіты пакосы, што ні ушшавелівыюцца, хырашо нада пырянуць, каб пірівярнуць клок. А глядзі, хворысьця патроху ушшаволівыіцца. Калі рукі пріложыш, будзіць ушшывіля́цца, а само ня зьдзелыіцца.* 2. Турбавацца. *Ці ні пыра вам ушшыва́лівыцца, уремя ўжо дужа позныя. Ці яны ушшыв́ялівыюцца у жызьні ай ні пра што ня думыюць? Калі ня будуць абоя ушшавелівыцца, толку ў жызьні ні палучыцца ніякыга. Як Шурка тута была, нуд душою стыяла, і ён ушшаволівыўся нямнога. Во калі Райчонкі надумыліся ушшывіля́цца, як белыя мухі пыляцелі.* УСШАВАЛІЦЬ, УСШАВЯЛІЦЬ, УСШАВАЛЬНУЦЬ, УСШАВЯЛЬНУЦЬ *зак.* 1. Падварушыць. *Каб ты схадзіў,*

*ушшывалі́ў пырнік лі аборка, тады б ты быў ладный хлопіц. Ушшывяліця салому, ато іна ляжыць кріцыю мокрыя, папреіць і пыгаріць, дайжа скаціні ні сьцілянеш. Ён тама, наверна, забыў ушшывальнуць іржышча, а яго нада пырядышна пацсушывыць. Глядзі ж, чыріш часік ушшывяльнеш травіцу, ніхай дысыхаіць.* 2. Падахвоціць. *Трудна ушшываліць такога ніпываротлівыга. Анюта дайжа Дырашонка ушшывяліла. А можа б ты яго як-небудзь ушшывальнуў, ніхай ба памог Дырахвеівым. Калі ты ні ушшывяльнеш, ніхто яго ні пучштурхнець.* УСШАВАЛІЦЦА, УСШАВЯЛИЦЦА, УСШАВАЛЬНУЦЦА, УСШАВЯЛЬНУЦЦА *зак.* 1. Падварушыцца. *Ні кіпяціся ты, во ушшаволіцца трыва і будзіць суха к вечыру. Каб ушшывялілыся сьвірепка, абветрілыся, і пыцсыхала б. А ніважна, ушшывальнецца трыва і трошку пыгыдзя, на ёй ішчэ рыса ні апсохла. Калі ушшывяльнецца, тады й ладна, пойдзім атпілім круглячкі.* 2. Патурбавацца. *Ушшывалі́ўся і Купряёнык, гываріў, нада сена нызьбіраць ны зіму. Няскора твой рупытнік ушшавеліцца. Ня думыіць ён ушшывальнуцца, хут ты яму жару пацсып. Цяжола такому ушшывяльнуцца, ня думыіць ні пра што.* УСШАВОЛЕНЫЙ, УСШАВЕЛЕНЫЙ, УСШАВАЛЬНУТЫЙ, УСШАВЯЛЬНУТЫЙ *дзеепрым.* 1. Падварушаны. *Нешта салома у пуні ушшаволіна, хто б тама кыпаўся? Ушшавеліныя усё луччы сохніць. Ушшывальнутыя трыва суха, а зу кустамі ня трогына і ляжыць сырая. Ушшывяльнутый клевір можна гресьць сьмела.* 2. Падахвочаны. *Ушшаволіный, ён ба трошку вурушыўся, дык жа яго ні так лёхка пудвурушыць. Ушшавеліныя хлопцы хырашо стыряюцца. Ета табе здаецца, што яны ушшывальнутыя. Можа ж ушшывяльнутыя будуць трошку луччы руніцца.* УСШАВАЛЁМШЫ, УСШАВЯЛЁМШЫ *дзеепрысл.* 1. Падварушыўшы. *Пойдзіця вы купацца, ушшывалёмшы сена, січас харошыя сушка. Нікога мы ня выгнылі і ўшшывялёмшы хворыст.* 2. Падахвоціўшы. *Ушшывалёмшы, яны быйстра зыгарівыюцца, ну й астываюць тожа скора. Ушшывялёмшы, троху пукулупаюцца, толька нядоўга.*

УСШАЛУШАННЕ, УСШАЛУШЫВАННЕ *н.* 1. Уздзіранне скарынкі, лушпін. *Ушшулуша́ньня пымыгаіць грідам,*

*асобінна калі дажджом прібіты. Посьлі ушшалу́шывыньня усе пасевы скарей ідуць у рост.* 2 *перан.* Узбуджэнне. *А наглядзіліся мы ны яго ушшулуша́ньня большы некуды. Дужа мне аньціресна яго ушшалу́шывыньня, ніхай шулушыцца сколька хочыць.*

УСШАЛУШАЦЬ, УСШАЛУШЫВАЦЬ *незак. перан.* Узбуджаць. *Яго часта ушшулуша́іць ну дурноя дзела. Я замеціла, што іх узноў пычынаіць ушшалу́шывыць.* УСШАЛУШАЦЦА, УСШАЛУШЫВАЦЦА *незак.* Узбуджацца. *Ён часта ушшулуша́іцца, як дурь к яму пыцскакыіць. Летыся тожа во так ушшалу́шывыўся.* УСШАЛУШЫЦЬ *зак.* Узбудзіць. *Нешта ж і сяньня ушшулушы́ла яго, нейкій пріпадык пыцскачыў.* УСШАЛУШЫЦЦА *зак.* Узбудзіцца. *Ніізьвесна чаго ушшулушы́ўся, ну што ж ты ат шулушыціля хочыш.* УСШАЛУШАНЫЙ, УСШАЛУШОНЫЙ *дзеепрым. Нейкій ушшалу́шыный пабег Іван у тэй бок пы дзяреўні, што яго туды пыгнала. Узноў мы яго відзілі: ушшулушоный якей-то тыптаўся лі Пытапывых.* УСШАЛУШОМШЫ *дзеепрысл. Аткуль жа мне знаць, чаго ён ушшулушомшы бегыіць і крічыць.*

УСШАРУШАЦЬ *незак.* Уздзіраць зацвярдзелую паверхню. *Паціхіньку ушшуруша́ла зямлю кылы кыряньков̆.* УСШАРУШАЦЦА *незак.* Уздзірацца (пра зацвярдзелую паверхню). *Ня дужа засохла, дык лёхка ушшуруша́іцца зімля.*

УСШУРХАЦЦА *зак. эмац.* Пачаць злосна пакрыкваць. *Пастылый чылавек: ушшу́рхыўся ны мальца, што ні туды вожкі павесіў.*

УСЫПАЦЬ *незак.* Засынаць. *Што мне дываўся мой Іванька, начэй ні усыпа́ла над люлькыю.*

УСЫПНУЦЬ *зак.* Усыпаць. *Усыпні просы ў ступу ды стаўкі, я кашы зварю, з мылаком зьясьцё.*

УСЫТАЦЬ, УСЫЦІЦЬ *зак.* 1. Накарміць дасыта. *Іна сваіх пакуля усытаіць, дык сыма заморіцца. Такую сям'ішчу нялёхка усыці́ць, адных гаршкоў ды чугункоў пакуля ныцігаісься.* 2 *перан.* Здаволіць. *Бырчанкі лісьнікоў тады усыта́лі, сколька чаго пірівылачылі за лес! Знаць, усыці́лі сваіх кумоў, дужа вясёла рызгыварівылі.* УСЫТАЦЦА, УСЫЦІЦЦА *зак.* 1. Наесціся дасыта. *Булку хлеба сапрець і ні ўсытаіцца, во трябух дык трябух! Ні дай жа*

*бог етык жраць, усыціцца ня можыць.* 2. Здаволіцца. *Ныхвытаюцца, усытаюцца і астаніцца ўсё, як у Мылашонка. Чаму ж ня ўсыціцца, чатырі усадзьбы іспользыюць і трі садкі аббіраюць, хвытаіць зь іх.* УСЫТАНЫЙ, УСЫЧАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Накормлены дасыта. *Пашлі аць цёткі давольныя, усыта́ныя, угасьціла як нада. Усы́чыный ходзіць, толька брюха пыгладжывыіць.* 2. Здаволены. *Ну што, ці ўсыта́на іх горла, а й яшчэ ў лес сыбраліся? Чаго ж ня будуць усы́чыныя, столька ўсяго зыдырма нагрёбшы.*

УСЮР'ЁЗ *прысл.* Сур'ёзна. *Ты яму усюрьёз гываpi, а ён хіхікыіць.*

УСЯГЕНЬКА, УСЯГЕНЕЧКА *займ. памянш.* Усяго. *Ім сыны усягенька нывылачылі, цёплінька сідзяць. Як пойдзіць у горыд, усягенічка нукупляіць унукым, дужа трясецца над імі.*

УСЯДЗЬБІНА *ж. зніж.* Прысядзібны ўчастак. *Як ні гывapi, калі ны ўсядзьбіні пасеіна, ныдзяжней дзела. Памянш.* УСЯДЗЬБІНКА. *Як жа яны жыць думыюць, ежылі усядзьбінку ні дагледзюць.*

УСЯКЕНЬКІЙ, УСЯКЕНЕЧКІЙ *займ. памянш., узмацн.* Усякі, кожны. *У цябе craceусякінькіх цацык многа. Уся́кінькій раз дзяўбу ім, каб цёпла ныдзіваліся. У Колі уся́кінічкія кніжкі ёсьць, ды с красівымі карцінкымі.*

УСЯРОДАК *прысл.* Унутр, усярэдзіну. *Маркоўнікі — ета калі у піражкі ўсярёдык драныю моркву кладуць, яны бываюць смашныя. Памянш.* УСЯРОДАЧАК. *Усярёдычык у банку ныкідай чыснаку.*

УТАПЛІВАЦЦА *незак. перан.* Трапляць у непрыемнасці. *Ахота ж яму ута́плівыцца увы ўсякыю пролыбку, як цягніць хто.*

УТАПТЫВАЦЬ, УТОПТЫВАЦЬ *незак. перан.* Прыніжаць. *Ікая была жызьня, калі яго ута́птывылі ны кажным шагу. Доўга ён у той сям'е ні ўжывець, яго зразу пычануць утоптывыць.* УТАПТЫВАЦЦА, УТОПТЫВАЦЦА *незак.* 1. Стамляцца тупаючы. *Нягож ня будзіш ута́птывыцца, гады пырядышныя, а зьдзелыць і тоя нада, і другоя. Я тожа лі скыта утоптывыюся.* 2. Прыніжацца. *Пойдзіць туды ута́птывыцца. Ай, жызьня, ён утопты-*

*выіцца як самый пасьледній.* УТАПТАЦЬ *зак.* Прынізіць. *Утыптáлі етыга зяця, зы чылавека ні вядуць.* УТАПТАЦЦА *зак.* 1. Стаміцца тупаючы. *Кажныя раньня утопчысься, што іда ў рот ня йдзець.* 2. Прынізіцца. *Утыптáўся, умясіўся, ня жызьня ў яго, а горя.* УТАПТАНЫЙ, УТОПТАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Стомлены ў тупанні. *Лі скыта, канешня, утыптáный будзіш, ныпарь-ка, ныкармі столька. Ён утоптыный, чуць толька чапыіць.* 2. Прыніжаны. *У Сьціпанёнкывых ён будзіць утыптáный. Храбрец Вулькін утоптыный, ні знаіць, як выкырыбкыцца.*

УТАРАПЕ, УТАРАПЯХ *прысл.* У спешцы, спяшаючыся. *Ні знацьцё, так, утырапе ехылі, нада було пріхваціць тэя дзьвері. Сыбіраліся утырыпя́х і самыя галоўныя забылі — бумажкі ні ўзялі.*

УТАЎМОРЫВАЦЬ *незак. неадабр.* 1. Запэцкваць. *Ні нада ішчэ вілышнікі утаўморівыць, ніхай адна чыпіла грязныя стаіць.* 2 *перан.* Умешваць. *Нашто було хлопцыў утаўморівыць у такоя дзела дурноя!* 3 *перан.* Затлумліваць. *Хваціць табе утаўморівыць етыга стыріка!* УТАЎМОРЫВАЦЦА *незак.* 1. Запэцквацца. *Ты ўсігда утаўморівыісься кылы гаршкоў.* 2. Умешвацца. *Чаго було утаўморівыцца у чужоя дзела!* 3. Затлумлівацца. *Кажныя раньня я з мáлымі утаўморівыюся.* УТАЎМОРЫЦЬ *зак.* 1. Запэцкаць. *Ты січас і рукавы утаўморіш у цеста.* 2. Умяшаць. *Ныпрасна сюда утаўморілі Лукашонка, ён ні прі чом.* 3. Затлуміць. *Ацстань ач чылавека, ты яго саусім утаўморіш.* УТАЎМОРЫЦЦА *зак.* 1. Запэцкацца. *Лі печы ўсігда утаўморісься, як ні бірягіся.* 2. Умяшацца. *Чаго ты ўтаўморіўся, куды цябе ні прасілі?* 3. Затлуміцца. *Утаўморісься, пакуля зь імі пыгаворіш ды толку якога даб'есься.* УТАЎМОРАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Запэцканы. *Нейкыя утаўморіныя куртычка ліжала ны ґанкых, яе ці ні сыбакі сьцягнулі.* 2. Умешаны. *Ні пыняць, длі чаго Косьцік утаўморін.* 3. Затлумлены. *Нейкій ты утаўморіный ідзеш ат кумоў.*

УТАЧЫЦЬ *зак. метаф.* 1. Вымусіць улезці. *Вун куды іх утачы́ла, пыц самый ніз.* 2. Змясціць. *Кыня утачылі у плятнёўку, яму халодна було, кылаціўся зіму.* УТОЧАНЫЙ

*дзеепрым.* Такі, які ўлез. *Ці відзіш, куды яны ўточыны, як толька іх туды зыгнала!* УТАЧОМШЫ *дзеепрысл.* Улезшы. *Утачомшы пац сена, будзіць цёпла.*

УТВАРАЦЕЛЬ, УТВАРЫЦЕЛЬ, УТВАРАЦЕЛЬНІК, УТВАРЫЦЕЛЬНІК *м.* Вычвараннік. *Дзёмка быў ні пасьледній утвыря́ціль, німала чаго выдзелывыў. Некуды пасунуўся Высілёў утварі́ціль, ці ні к Кузьмовічым. Няўжэлі ты ні пызнала дуччыцкыга утвыря́цільніка? С утварі́цільнікым паспробый пыгываріць як сьледыіць.* УТВАРАЦЕЛЬНІЦА, УТВАРЫЦЕЛЬНІЦА *ж. Нешта ім талкуіць Кісялёўніна утвыря́цільніца. Яны ўсе дзікуваліся на Восіпыву утварі́цільніцу.*

УТРАВЯНІВАННЕ *н.* Моцнае зарастанне травой. *Рана ўспыхалі, плоха выскырыдзілі, такоя ўтрывя́нівыньня, што матычка ў зямлю ня лезіць.*

УТУЛЛЕ *н.* Утульнасць. *Якоя ў іх уту́льля: хатка цесныя, а сямейка — дай божа, нейдзі мясьціцца.*

УТУЛМАЧЫВАННІК *м.* Той, хто тлумачыць, растлумачвае. *Ніяк ні рызьбяруся, што мне ваш утулма́чывыньнік вярзець.* УТУЛМАЧЫВАННІЦА *ж. Ці пыніла ты Аксюціну утулмачывыньніцу, я нічога ні рызыбрала.*

УХАДЖЫВАННІК, УХАЖЫВАННІК *м.* Той, хто заляцаецца або прыглядае. *Твой уха́джывыньнік ці ні зьбіраіцца у сваты пріціць. Ужо сонца пыказывылыся, як вашы уха́жывыньнікі кацілі зь Віхрян.* УХАДЖЫВАННІЦА, УХАЖЫВАННІЦА *ж.* Тая, што прыглядае. *Тыкая уха́джывыньніца ня дужа даглядзіць. Ікая ні ўха́жывыньніца, ну троху ж цётку глядзела.*

УХАДЗІЦЬ *метаф.* 1 *незак.* Даспяваць. *Што сеюць, усё ў нас уходзіць.* 2 *зак.* Забіць. *Ты дудурачысься, што яны цябе пыцьсьцірягуць і ўходзюць.* УВАЙЦІЦЬ *зак.* Даспець. *Кукуруза ні ўвыйшла́, позна сеілі, ну на корм ладна будзіць.*

УХАЖОРНІК *м.* Ухажор. *Ріпірцяцца дзеўкі ны вічарінку, сяньня іхнія ухажорнікі пыд'явюцца. Памянш.* УХАЖОРЫК, УХАЖОРЧЫК, УХАЖОРНІЧАК. *Вашы ухажорікі прібігаць сяньня. У мяне ўхажорік Жорік, лёхкыя нызванія. А красівыга ухажорчыка пыччапіла сабе Кылдыбёнкыва дзеўка. Ці прібігаў учора Танькін ухажорнічык?*

УХАЙДОШЫВАННІК *м. жарт.* Той, хто пагражае забіць. *Ета ці ні Ільлёў ухайдошывыньнік узноў зь імі ваюіцца.* УХАЙДОШЫВАННІЦА *ж. А што ты думыіш, зы такую ухайдошывыньніцу трудна ручацца, возьміць і ўложыць.*

УХАНДОЛІВАННЕ *н. жарт.* Забіванне. *Міця ныпраўду баіцца твайго ухандолівыньня, ты як разойдзісься і ўходзіш яго.*

УХАНДОЛІВАЦЬ *незак. жарт.* Забіваць. *Ці ня думыіш ты свайго зіцька ухандолівыць, нешта ён баіцца к табе зыхадзіць.* УХАНДОЛІЦЬ *зак.* Забіць. *Цябе Шурка даўно зьбіраіцца ухандоліць, скора пупадзець у свае рукі.* УХАНДОЛЕНЫЙ *дзеепрым. Ці ні ўхандолін ета Валодзька, нешта ён трецьцій дзень сюда ні пыказывыіцца.*

УХАЦЬ *незак. метаф.* Патыхаць. *Крепка нытапілі, дух сь печы ўхыіць. Воня с пунь ўхыіць.* УХНУЦЬ *зак.* 1. Патыхнуць. *Фэ, нейкыю гадысьцю с клеці ўхнула. 2.* Згінуць, прапасці. *Сколька летыся атавы ўхнула, паць сьнег пышла, а можна ж було людзям рыздаць.*

УХВАТ *м. метаф.* Прайдзісвет. *Ён ухват луччы некуды, такога сьвет прайдзі — ня дужа пупадзеш.*

УХВАТЛІВА, УХВАЦІСТА *прысл. метаф.* Спрытна. *У яго двынаццыць у кысьцях сядзіць, усігда дзелыіць ухвáтліва. Яны толька дровы зыгытаўлівыюць ухвáціста, а ува ўсём другом як мямлі.*

УХВАТЛІВАСЦЬ, УХВАЦІСТАСЦЬ *ж. метаф.* Спрыт. *Ікая ухвáтлівысьць у Мырчынка, яму пывярнуцца трудна. Каб табе Кындрацёнкыву ухвáцістысьць, ты б горы зьвярнуў, а так ляжыш калодыю.*

УХВАТЛІВЫЙ, УХВАЦІСТЫЙ *прым. метаф.* Спрытны. *Што ні гываріця, тэй хлапчына быў ухвáтлівый, яны і бяз дроў ні сядзелі, і пра сена ні бідувалі. Пушукай цяперя ухвáцістыга зяця, калі Піліпёнкыў сын быў дрень.*

УХВАТЫВАЦЬ *незак. перан.* Красці. *Так сталі усё пыдряд ухвáтывыць, што глядзі ды глядзі, астанісься і бісь пілы, і біс тыпыра, і біз лупаткі.* УХВАЦІЦЬ *зак.* 1. Украсці. *У горыдзі рота ні рызівай, с калёс што хочыш*

*ухвáцюць, і ты будзіш сядзець як варона.* 2. Пасадзіць у печ (хлеб). *Жыдзінькій хлеб, мукі мулувата було, як яго у печ ухваціць.* УХВАЧАНЫЙ *дзеепрым.* Украдзены. *У вузялку іда была, толька атвярнулыся ў лаўку, пыдыйшла к калёсым — німа вузілка, ухвáчын.* УХВАЦЁМШЫ *дзеепрысл.* Украўшы. *Ухвацёмшы, нырнуць між людзей, айдзе ты найдзіш.*

УХЛЁСТЫВАННЕ *н. гумар.* Заляцанне. *Увідзіця, што ета ухлёстывыньня нінадоўга, цірязь месіц кончыцца.*

УХЛЁСТЫВАЦЬ *незак. гумар.* Заляцацца. *За кім там ухлёстывыць, адно лам'ё асталыся ў дзяреўні.*

УХЛЮПЫВАЦЬ, УХЛЮПКЫВАЦЬ, УХЛЁПЫВАЦЬ *незак.* Запырскваць. *Ня лезь ты туды адзежу ухлю́пывыць. Ты ўсігда як ідзеш, і ўхлю́пкывыіш штаны ззаду. Зыкысай рукавы, каб ня ўхлёпывыць.* УХЛЮПЫВАЦЦА, УХЛЮПКЫВАЦЦА, УХЛЁПЫВАЦЦА *незак.* Запырсквацца. *Пойдзіця вы ухлю́пывыцца, пы дарогі грязь, разу ступіць нілізя. Пыткысайся, ні ўхлю́пкывыйся, ато ўвесь у грязі будзіш. Пойдуць ухлёпывыцца, грязішча кругом, што с хаты ня хочыцца лезьць.* УХЛЮПАЦЬ, УХЛЮПКАЦЬ, УХЛЁПАЦЬ *зак.* Запырскаць. *Васіль акуратнейшый, дык ён і ня ўхлю́пыў нічога, а ты увесь у грязі. Перід свой ты ухлю́пкыў, нада зумуваць рубашку. Правый рукаў ды самыга пліча ухлёпыў у нейкыю грязь, як аблітый.* УХЛЮПАЦЦА, УХЛЮПКАЦЦА, УХЛЁПАЦЦА *зак.* Запырскацца. *Ухлю́пыісься па вушы, а йціць нада абізацільна. Як ён пойдзіць, ухлю́пкыіцца, што ні пызнаць адзёжы будзіць. І адзін ухлёпыўся, і другей увесь у грязішчы, хуць скрябі яго.* УХЛЮПАНЫЙ, УХЛЮПКАНЫЙ, УХЛЁПАНЫЙ *дзеепрым. Ты, знаць, сьпіцыяльна грязь выбіраў, што еткій ухлю́пыный прішоў. Ухлю́пкыныя штаны павесь ны вярёўку, пацсохнуць, тады грязь абатрецца. Прідзіця ухлёпыныя ны вічарінку, з вамі ні адна дзеўка скыкаць ні захочыць.*

УХЛЯСТАЦЬ *зак. метаф.* Выручыць, атрымаць. *Па дзесіць капеік за міску ягыд ухлістáім, глядзіш, і купіць можна што.*

УХОД *м.* Уваход. *Баню мы ставілі так, каб уход быў ад двыра.*

УЦАЛІ *прысл.* Бясспрэчна, безумоўна. *Ён такей, што ўца́лі будзіць знаць, і нічога ні скажыць.*

УЦЕЧ *зак. метаф.* Разысціся ва ўзросце. *Намнога ты ат мяне уцікла́: ны чатыpi гады старей.*

УЦЁПЫВАЦЬ, УЦЁПКЫВАЦЬ, УЦЮПЫВАЦЬ, УЦЮПКЫВАЦЬ *незак.* 1. Запырскваць. *Дужа ні саветыю новый касьцюм уцёпывыць. Толька справілі сыпагі, ён ужо уцёпкывыіць. Кажный раз ладна уцю́пывыіць штаны. Пыдвяжы полы чым-нібудзь, каб ня ўцю́пкывыць.* 2 *перан.* Стамляць. *Сыма заморісься і дзяўчонку хочыш браць уцёпывыць. Сколька разоў Марья етыга дзіцёнка уцёпкывыла! Куды ты пывядзеш ма́лых уцю́пывыць, еткыя быльшая дарога! Ні бярі ты яго с сабою уцю́пкывыць.* УЦЁПЫВАЦЦА, УЦЁПКЫВАЦЦА, УЦЮПЫВАЦЦА, УЦЮПКЫВАЦЦА *незак.* 1. Запырсквацца. *Айдзе ня пройдзіш, ты ўсігда уцёпывыісься. Ня дужа яму хочыцца уцёпкывыцца пы такой дарогі. Ідзіця, ды глядзіця, каб меншы уцю́пывыцца. Пойдзіця вы уцю́пкывыцца, нійдзе ступіць нілізя.* 2. Стамляцца. *Я с адною кыравёнкыю уцёпывыюся. Яны ўжо і лі хаты уцёпкывыюцца, а ды Каўшова саўсім ня дойдуць. Два пырасёнычкі кычаюцца, дык я і кыла іх уцю́пывыюся, пакуля ныкармлю. Ні гывари, табе дужа нейдзі уцю́пкывыцца, ён сам усё дзелыіць.* УЦЁПАЦЬ, УЦЁПКАЦЬ, УЦЮПАЦЬ, УЦЮПКАЦЬ *зак.* 1. Запырскаць. *Узноў уцёпыў штаны, пряма ні прідумыю, што с табою дзелыць. Уцёпкыць усё нядоўга, асобінна калі ўмеіш. Патторні полы пыт пытпірязку, ато уцю́пыіш. Пы самыя калені штаны уцю́пкыў.* 2. Стаміць. *Уцёпыла мальца, луччы б ты яго саўсім ні брала. Ты мяне уцёпкыіш, так ішоччы. Кабыла старыя, уцю́пыюць яе зы такую дарогу. Уцю́пкыў мальца, ён чуць дайшоў.* УЦЁПАЦЦА, УЦЁПКАЦЦА, УЦЮПАЦЦА, УЦЮПКАЦЦА *зак.* 1. Запырскацца. *Як жа ня ўцёпыісься, ежылі грязішча ніпрылазныя. Ці відзіш, як твой жаніх уцёпкыўся. Пы грязі уцю́пыісься, як ні выбірай дарогу. Каб відна було, так ба ня ўцю́пкыліся.* 2. Стаміцца. *Ці яго сіла столька хадзіць зы быраною, ён саўсім уцёпыўся. Як уцёпкыісься зы раньня, дык ні ды работы. Я зы сваю жызьню уцю́пылыся большы некуды, паспробывыла і жаріныга і смаліныга. Так уцю́п-*

*кыліся, што чуць дывылакліся ды дзяреўні.* УЦЁПАНЫЙ, УЦЁПКАНЫЙ, УЦЮПАНЫЙ, УЦЮПКАНЫЙ *дзеепрым.* Стомлены. *Абоя уцёпыныя, туды, наверьх пывылакліся. Чаму ж ня будуць уцёпкыныя, калі столька прайшлі. Куды ты яго такога уцю́пыныга пысылаіш, ён чуць ны ныгах стаіць. Узноў яны пойдуць уцю́пкыныя.*

УЦІРАННІК, УЦІРАЦЕЛЬНІК, УЦІРЫШ *м.*, УЦІРКА *ж.* Ручнік. *Уціра́ньнік — ета раншы гыварілі, а січас завуць рушнік ці дайжа пылаценца. У Ксеньні яшчэ старінныя уціра́цільнікі ліжаць, можа баба яе вышывала. Старінькій уці́рыш можна пусьціць ны тряпкі. Раншы самі уці́ркі ткалі, у некытырых дужа красіва пулучалыся. Памянш.* УЦІРАННІЧАК, УЦІРАЦЕЛЬНІЧАК, УЦІРЫШАК, УЦІРАЧКА. *Пару уціра́ньнічкыў ёсьць, нашто мне большы. Дырваўся уціра́цільнічык, дыстывай новый. Якей ёсьць уці́рышык, вазьмі і абатріся, ладзін будзіш. Уці́рычка на гвозьдзіку, пыдай хлыпцам, ніхай мыюцца.*

УЦІСКАННІК, УЦІСКЫВАННІК *м.* Той, хто ўвязвае воз. *Уціска́ньнікі зуплутухаліся у вярёўкых, што нада выплутывыць. Зь яго такей уці́скывыньнік, у яго сілы як у кымыра.* УЦІСКАННІЦА, УЦІСКЫВАННІЦА *ж. Бярісько, уціска́ньніца, зы вярёўку ды крепка цягні к сабе. Доўга вазіліся уці́скывыньніцы лі воза, жэрдзь у іх усё зыіжджала.*

УЦІСКЫВАННЕ *н.* Увязванне (воза). *Як сталі класьць сена, воз два разы рызыіжджаўся, пуўдня ну уціскывыньня пашло.*

УЦІХАМІРЫВАННІК, УЦІХАМІРЫВАЦЕЛЬ, УЦІХАМІРЫВАЦЕЛЬНІК *м.* Уціхамірнік. *На іх нада ня еткій уціхамі́рівыньнік, слова да іх ні даходзіць. Знаім мы, якей ён уціхамі́рівыціль, яго сымаго нада ўнімаць ды ўнімаць. Тады пыдыйшоў Гаўріліхін уціхамі́рівыцільнік, пулюбуваўся ны яго выдзілкі.* УЦІХАМІРЫВАННІЦА, УЦІХАМІРЫВАЦЕЛЬНІЦА *ж. Ізь Зінкі ніплыхая уціхамі́рівыньніца, — яны яе саўсім ня слухыюць. Вот ні було ны вас Хролывый уціхамі́рівыцільніцы, вы б мігым уняліся.*

УЦІХАРА *прысл.* Ціха, цішком. *Яны крічаць усюдых ня будуць, што задумылі, уціхыря́ сытвыряць.*

УЦІШАЦЬ *незак.* Сунімаць. *Сірьгяёнык патроху іх уціша́ў, а як паехыў, яны пы гылывах пашлі.*

УЦУРГАЦЬ *зак. метаф.* Уцягнуць у непрыемнасці. *Глядзі, етыя друзья у такую кашу уцу́ргыюць, што ня будзіш знаць, як вылізьць.*

УЦУРЫВАЦЦА *незак. гумар.* Улюбляцца. *Ён і ў Колтыві уцу́рівыўся, і ў Жыріціне, айдзе толька яго ні пубуло!* УЦУРЫЦЦА *зак.* Закахацца. *Тады ён крепка уцу́ріўся у Мікілаёнкыву меншыю, а іна паехыла ў сьвет.* УЦУРАНЫЙ *дзеепрым. Ён уцу́ріный у Хадосычкіну дзяўчонку, усю вясну ні вылізаў аттуля.*

УЦЮРЫЦЬ *зак. гумар.* Закахаць. *Як ёй пывязло: еткыга хлопца уцю́ріла ў сябе, усюдых бегыіць зы яе хвастом.*

УЦЯГЫВАЦЦА *незак. перан.* Заходзіць у пэўны час. *Уремя у глубокыю восінь уця́гывыіцца, дзень етый што мінута.* УЦЯГНУЦЦА *зак.* Зайсці ў пэўны час. *Луччы дадзелыць і січас прібраць, у зіму як уця́гніцца, тады хужы.*

УЧАЛЁНЫЙ *дзеепрым.* Такі, які ўмяшаўся. *Каб ня быў Мікіпырёнык учалёный, дык ба цішэй було.* УЧАЛЁМШЫ *дзеепрысл. Учалёмшы, ні знаіш як палучыцца, можа луччы, а можа хужы.*

УЧАСЦІЦЬ *зак. перан.* Пачаставаць. *Давольныя ішла: ладна учасьцілі кума с кумым.* УЧАСЦЁМШЫ *дзеепрысл. Варычка ні ўчасьцёмшы ні атпусьціць, іна любіць чылавека пріняць.*

УЧУДЖЫВАЦЬ *незак.* Гаварыць, рабіць надзвычайнае. *Стыляpёнык учу́джывыць любіў, ён быў майсьцір на ета.* УЧУДЖАНЫЙ *дзеепрым. Каб ты толька знала, што яму було ўчу́джына.*

УЧЫНАННЕ *н.* Уваходжанне гуртам. *А ныдаела мне ета ўчына́ньня, кажный дзень тлум і тлум у хаці.*

УЧЫНЯННІК *м.* Той, хто расчыняе цеста. *Вот каб ты стаў учыня́ньнікым, верна б, смашный хлеб пёк.* УЧЫНЯННІЦА *ж. А што, у вашый учыня́ньніцы ўсігда ніплахей хлеб пулучаіцца.*

УЧЫСТУЮ *прысл. эмац.* Поўнасцю. *Яны атработылі ў кылгасі да пеньсіі учысту́ю, крепка трудзіліся.*

УЧЭЛІВАЦЬ *незак. перан.* Уладкоўваць ненадзейна. *Я тожа думыю, што нада мальцыў неік учэлівыць ны работу.* УЧЭЛІВАЦЦА, УЧАЛЯЦЦА *незак.* Уладкоў-

вацца ненадзейна. *Учэлівыўся у горыдзі, ды нічога ня выпыліла. Ці зьбіраіцца ён куды-небудзь учыля́цца на службу?* УЧАЛІЦЬ *зак.* Уладкаваць. *Учалі́ў мальца ны вінзавод, ну ета нінадзёжныя места.*

УШАРАШЫВАННЕ *н. іран.* Забіванне, знішчэнне. *Канешня, твайго ушыра́шывыньня усе піріпужаліся і с хат ні выходзюць.*

УШАРАШЫВАННІК *м. іран.* Той, хто забівае, знішчае. *Ну хто ж ні знаіць, што ты самый страшный ушыра́шывыньнік.* УШАРАШЫВАННІЦА *ж. Ны вас каб Ікімёнкыва ушыра́шывыньніца, іна б вас усіх пірібрала.*

УШАРАШЫВАЦЬ *незак. іран.* Забіваць, знішчаць. *Ці ні зьбіраісься ты свайго друга ушыра́шывыць?* УШАРАШЫЦЬ *зак.* Забіць, знішчыць. *Цябе б нада було даўно ушыра́шыць, ды ніхто ні находзіцца.* УШАРАШАНЫЙ *дзеепрым. Ці ні ушыра́шын ета Ракус, нешта яго даўно ня відна.*

УШЛЁМЫВАЦЬ *незак.* Уваходзіць шломаючы. *Раз дзесіць выхаджу, тады нызад ушлёмывыю, зімля цігаіцца зы ныгамі.*

УШЛЁПАЦЬ *зак.* Увайсці шлэпаючы. *Я чуць ушлёпыла у сваіх абрезкых, астаюцца калошы ў грязі і ўсё.* УШЛЁПАЦЦА, УШЛЁПКАЦЦА *зак.* Абпырскацца, забрудзіцца. *Ушлёпыліся мы, чуць дыпляліся, саўсім іціць нілізя. Хуць што-небудзь старінькыя ныдзівай на ногі, тама ушлёпкыісься па вушы.*

УШЧАЛЕПЛІВАЦЬ, УШЧАПЕЛІВАЦЬ, УШЧАПЕНІВАЦЬ, УШЧАПУЛІВАЦЬ *незак. гумар.* Моцна абдымаць. *Січас устреціць куму, пычанець ушчалеплівыць, а ціріш час, хочыш, клясьць будзіць. Знаць, цэлыю ноч ушчапелівыў сваю Анічку пад ліпкымі. Хваціць табе яго ушчапенівыць, ён рысьсіяўся як месік. Во каб ты пыглядзеў, як Дзім'ян тваю жонку ушчапу́лівыў!* УШЧАПЕЛІЦЬ *зак.* Моцна абняць. *Паехыла Лізка, некыга табе большы ушчапеліць.* УШЧАЛЕПЛЕНЫЙ *дзеепрым. Стыяць ушчалеплíныя пыд Мікіцёнкывыю ігрушыныю.*

УШЧАМЛІВАННЕ, УШЧЭМЛІВАННЕ *н.* 1. Зашчамленне. *Другей раз улезіш с ушча́млівыньнім, дык я ні*

*стану цябе выцягывыць. Цяперя будзіш знаць, што такоя ушчэмлівыньня.* 2 *перан.* Уладкоўванне з намаганнямі. *Памойму, нічога ў Міхалкі ні палучыцца с ушча́млівыньнім мальца. Якоя там ушчэмлівыньня, Зьмітрок упіхнуў дзяўчонку у кынцылярію.*

УШЧАМЛІВАЦЬ, УШЧЭМЛІВАЦЬ, УШЧАМЫВАЦЬ, УШЧЭМЫВАЦЬ *незак. перан.* Уладкоўваць з намаганнямі. *Усё ў булгакцерію сваю дзеўку ушча́млівыў, ды нічога ні пулучылыся. Думыіць куды-то у горыдзі ушчэмлівыць мальца, ці выпыліць што ў яго. Куды ні ўшча́мывый, дык толку с такога нехрісьця ні палучыцца. Хочыць у швейныю дзяўчонку ушчэмывыць, іна троху ўчылыся шыць.* УШЧАМЛІВАЦЦА, УШЧЭМЛІВАЦЦА, УШЧАМЛЯЦЦА *незак.* Уладкоўвацца з намаганнямі. *У нейкыю мысьцярскую пычаў ушча́млівыцца, ці палучыцца што, ці не. Доўга ў кантору ушчэмлівыўся, і во ўлез. Чаго яго так цягніць ушчымля́цца к тым бысікам?* УШЧАМІЦЬ *зак.* Уладкаваць з намаганнямі. *Неік ушчаміў свайго мальца у райспалком.* УШЧАМІЦЦА *зак.* Уладкавацца з намаганнямі. *Не, туды яму будзіць нялёхка ўшчаміцца.* УШЧАМЁМШЫ *дзеепрысл. Ушчамёмшы ў праўленьня, усю жысьць прысядзела і на пеньсію аттуля пышла.*

УШЧУХОНІВАННЕ *н. эмац.* Імкненне да дзеяння. *У яго такоя ушчухонівыньня пасьці кажныю нядзелю, мы наглевдзіліся дос.*

УШЧУХОНІВАЦЬ *незак. эмац.* Вымушаць да дзеяння. *Узноў Кузьмінка ушчухонівыіць ехыць к Сямёну.* УШЧУХОНІВАЦЦА *незак.* Імкнуцца да дзеяння. *Уродзі ушчухонівыіцца жаніцца жаніх етый саплівый.* УШЧУХОНІЦЬ *зак.* Вымусіць да дзеяння. *Ні пайму, чаго іх ушчухоніла ляцець у тую Дзіснакіту.* УШЧУХОНІЦЦА *зак.* Пачаць імкнуцца да дзеяння. *Другей раз як ушчухоніцца к чаму-небудзь, ні піряперць.*

УШЫБАННЕ *н.* Удар. *Каму ж ба було здарова такоя ушыба́ньня, ат етыга і кычаіцца паўгода.*

УШЫБНУЦЬ *зак.* Пашкодзіць ударам. *Так крепка ушыбнýў нагу, нуступіць больна.* УШЫБНУЦЦА *зак.*

Пашкодзіцца ўдарам. *У лесі ушыбнýўся, кычаіцца с тых пор і кычаіцца.*

УШЫБЦЬ *зак.* Ударыць. *Ня бегый між паленьня, можыш ножку ушыбць, балець будзіць.* УШЫБЦЦА *зак.* Ударыцца. *Я й глядзеў, каб ня стукнуцца, і стукнуўся, ды крепка ушыбся.*

УШЫВАЦЦА *незак. метаф.* Убірацца, знікаць. *Тады яны пынялі, што тут грець места ні пріходзіцца, нада скарей ушывáцца.* УШЫЦЦА *зак.* Убрацца, знікнуць. *Ушы́ўся зь естыя меснысьці, ніхто ні знаіць, куды выіхыў.*

УЯДАННЕ *н.* Зацяты брэх. *Якоя ўідáньня, етый сыбака з будкі ляніцца вылізьць, ён стáрый.*

УЯДАЦЦА *незак.* 1. Зацята брахаць. *У тым канцы сыбак да гібілі, так уідáюцца зы чылавекым, глядзі, ўкусюць.* 2 *перан.* Сыцець. *Летым бычкі сталі уідáцца, ім тута выгыда.* 3 *перан.* Зарастаць. *У мяне тожа макріца уідáіцца па бульбі, ат яе спасу німа.* 4 *перан.* Ахоплівацъ (пра хваробу). *У стáрыга чылавека усякыя хвароба уідáіцца.* УЕСЦА *зак.* 1. Пачаць зацята брахаць. *Як уелыся сучычка, глядзі, зы нагу хвáціць, а тае сучычкі — у шчэпцю пынясеш.* 2. Пасыцець. *Во ўеўся тут Мархвін зяць, як сьлімень стаў.* 3. Зарасці. *Так уеўся асот, ні прідумыю, як яго вывісьць с усадзьбы.* 4. Ахапіць (пра хваробу). *Калі чахотка уелыся, іна ўсю сям'ю паложыць, нікога ні прапусьціць.*

УЯЗДЖАННЕ *н. перан.* Апусканне. *Дужа многа пяску вазілі, гацілі, а тама дрігва, уіжджáньня і ўіжджáньня.*

УЯЎЛЯЦЬ *незак. метаф.* Укараняць (пра траву). *Аткуль ета ўсякыя зельля уіўляіць, ні пысьпіваіш палоць.* УЯЎЛЯЦЦА *незак.* Укараняцца (пра траву). *Ат мяжы пырнік пычаў уіўляцца, яго трудна выкыріняць, кареньня глубока ў зямлю пускаіць.* УЯВІЦЬ *зак.* Укараніць (пра траву). *Столька пырніку ўявіла ат аборка, калі яго цяперя вывідзіш!* УЯВІЦЦА *зак.* Укараніцца (пра траву). *Горька нада сад чысьціць, уя́віцца трыва, тады ня вывідзіш.*

# Х

ХАБАРНА *прысл. метаф.* Дрэнна. *Зь дзецтва прівык дзелыць хáбырна, цяперя трудна пірілумаць у другей бок.*

ХАБАРНЫЙ *прым. метаф.* Дрэнны. *Ежылі знаіш сам, што чылавек хáбырный, ты зь ім ні зьвязывыйся і дзялоў ніякіх ня ймей.*

ХАВАННІК *м.* 1. Той, хто хавае, хаваецца. *Хувáньнікі ў каноплі пабеглі, дулумаюць.* 2. Удзельнік пахавання. *Якея ні хуваньнікі, а прікыпалі чылавека, ня будзіць у хаці ліжаць.* ХАВАННІЦА *ж.* 1. Тая, што хавае, хаваецца. *Носюцца хувáньніцы с канхветымі, а Коля усюдых находзіць.* 2. Удзельніца пахавання. *Вясёлінькія ішлі хувáньніцы ат Мішчынка.*

ХАДАВЭЙ, ХАДАВЫЙ *прым. перан.* Пранырлівы. *Такей хыдавэй, як Мырчанок, усюдых праб'ецца. Хто хыдавы́й, тэй і разьнюхыіць і ўсё палучыць.*

ХАДАК *м.*, ХАДАКА *м.* і *ж.* Хадок. *Якей я хыдáк, дзесіць шагоў ступлю, і мне дыханьня зыхватывыіць. Адзін хыдáка харош і другей ладзін. Во відзіш, ікая хыдáка, шагу ступіць ня можыць.*

ХАДАКА *прысл.* Наўцёкі. *Пынялі, што бяз лупкі ня выкруцюцца, дык скарей хыдыкá.*

ХАДЖАЛЫЙ *м.* Той, хто збіраецца пайсці. *Нешта наш хыджáлый рузуваіцца, раздумыў бежч у Сапрынывічы.*

ХАДНЭЙ *прым. метаф.* Рабочы (пра адзенне). *З работы як пріходзіць, хаднэй касьцюм зьдзяець і вешыіць.*

ХАДНЯ *ж. перан.* Пасьба. *Німа каровым хадні́, дужа карціць у клевір зьбегыць, аж бакі чэшуцца.*

ХАДОК *м.* Прайдоха. *Ну й быў жа хадок Сьвірідзіхін зяць, што хочыш мог утваріць.*

ХАДЫНКІ *мн. экспр.* Ногі. *Пайціць я б тожа пашоў, ды мае хады́нкі ня дужа йдуць. Памянш.* ХАДЫНАЧКІ. *Як势 стануць хады́нычкі прістываць, тады пызнаіш старысьць.*

ХАЛАБУДА *ж.* Нязграбная пабудова. *Зьдзелылі хылабу́ду, дзіркі ў сьцінах сьвецюцца. Памянш.* ХАЛАБУДКА. *Нейкыя хылабудка стаіць лі дарогі, ішчэ бяс крышы. Узмацн.* ХАЛАБУДЗІНА. *Тую хылабу́дзіну і глядзець ня стоіць, у ёй зімою на печы завеіш. Павеліч.* ХАЛАБУДЗІШЧА. *А што толку с хылабу́дзішчы, у ёй зьмерзьніш.*

ХАЛАДЗЕННІК *м.* Халадзільнік. *Пісаў яе хлопіц, што купілі сабе хыладзеньнік пасьледнія маркі. Памянш.* ХАЛАДЗЕННІЧАК. *Прадукты кладзець у хыладзеньнічык.*

ХАЛАДЗІНІШЧА *ж.* Моцная халадэча. *Як пыднілася хыладзі́нішча, мы думылі, пызыкалеім тама і пузудубянеім.*

ХАЛАДЗІЦЦА *незак.* Астываць. *Ніхай халодзіцца мылако, мае цёплыга ня любюць, ім каб с погріба.*

ХАЛАДНЕННЫЙ *прым.* Вельмі халодны. *Што ўжо была хыладненныя зіма прошлыя, а я так хыладоў баюся!*

ХАЛДЗЯНЁНАК, ХАЛДЗЯНОК *м.* Падманшчык, круцель, злодзей. *Ета хылдзянёнык, ён цябе у мінуту апкруціць. Хвытаіць па сьвету хылдзянкоў, каго путніга ня дужа увідзіш, а етыга дыбра поўна. Памянш.* ХАЛДЗЯНЁНАЧАК, ХАЛДЗЯНОЧАК. *Пыдрыстаіць хылдзянёнычык, будзіць як тата. Ня быў ба хылдзяночыкым, кругом пыдманіў большыга.*

ХАЛЕРНІК, ХАЛЕРАШНІК *м.* Вельмі нястрымны, нявытрыманы чалавек. *Ні разу б ні падумыла, што Нісьцярёнкыў маліц будзіць еткій халернік. Як зыдасца халерышнік, ты яму трубі і руструбі, а ён сваё тваріць.* ХАЛЕРНІЦА, ХАЛЕРАШНІЦА *ж. Нада ж яе дзеўкі зыдацца такою халерніцыю, што-што ды сытваріць. А ці ты забыла, ікая халерышніца была Полічка.*

ХАЛОДНЫЙ *прым. метаф.* Ненадзейны. *Ні знаю, ці палучыцца што-небудзь іс сва́тыньня, ета нейкій халодный жаніх.*

ХАМУЙЛІК *м.* Грубы, некультурны чалавек. *Ізьвесный хаму́йлік, і як такея сымыстыяцільныя людзі аддалі зы яго дачку.*

ХАМУТОК *м.* Колцападобны металічны выраб для змацавання, хамуцік. *Хумуток узьбіў крепка, цяперя палкі ні разьедуцца. Памянш.* ХАМУТОЧАК. *Воць сюда тожа нада былі б хумуточыкі, кряпчэй ба було.*

ХАМУТОЎ *прым.* Такі, які мае адносіны да хамута. *Хумутова апшыўка ляжыць за ступыю.*

ХАМУЦІНКА *ж. памянш.* Хамуціна. *Каб хто ўмеў пашыць хамут, вун хумуцінка гатовыя.*

ХАМУЦІННЫЙ *прым.* Такі, які мае адносіны да хамуціны. *Хумуцінныя рімушкі ні выкідай, яны зныдыбяцца.*

ХАНДЖА *ж.* Дэнатурат. *Ны свадзьбі ныставілі ханджы́, хто кріві́ўся, а некытырыя ныхлісталіся.*

ХАНДРЫЦЬ *незак. метаф.* Балець. *Раншы нічога було, а пасьледнія ўремя крепка стала сяредзіна хандрі́ць.*

ХАНДРЭННЕ *н. метаф.* Боль. *У ныгах усё ўремя чуствыю хандреньня, ні пірістаюць балець.*

ХАНЫГА *м. асудж.* Хапуга. *Якей табе чылавек ханы́га, ён так і глядзіць, што айдзе урваць. Узмацн.* ХАНЫЖЫНА. *Дайжа ня веріцца, штоб у Стыхваныным раду вырыс такей ханы́жына. Павеліч.* ХАНЫЖЫШЧА. *Раншы быў чылавек як чылавек, а стаў ханы́жышча ні прідумыць якей.*

ХАПАК *м.* Ахапак. *Во такей во хыпа́к саломы валок, ня меншы пуўтыра пуда. Памянш.* ХАПАЧОК. *Прінясі і нам хыпачок, мякчэй будзіць ехыць, дарога няблізкыя.*

ХАПАМ *прысл.* Хапаючы. *Ха́пым вылачылі сена ў пуню, чуць справіліся ды дажджу.*

ХАРАХОРНІЧАННЕ *н.* Задаванне. *Ні станіць Быбарёнык любувацца іхным хырахорнічыньнім.*

ХАРАХОРНІЧАЦЬ, ХАРАХОРНІЧАЦЦА *незак.* Задавацца. *Нечыга яму хырахорнічыць, жывець як пасьледній бабыль. Яе зяць усё хырахорнічыўся, раднёю сваёю хваліўся.*

ХАРАШЭЙ *прысл.* Лепш. *Адзін зьдзелыў ладна, а другей яшчэ хырашэй.*

ХАРХАНУЦЬ *зак.* Шарахнуць. *Рукаў у нешта хырхану́ў у сінія, ікая-то краска.* ХАРХАНУЦЦА *зак.* Шарахнуцца. *Усё кругом пыльныя, астарожна хадзі, хырханесься і пызадзелыісься.* ХАРХАНУТЫЙ *дзеепрым. Віджу, плечы у нешта хырхану́ты.*

ХАРЦЯКЛЯПІСТА *прысл. эмац.* Зграбна. *Дайжа ні падумыў ба, што етыя мысьцяры зьдзелыюць так хырцікля́піста.*

ХАРЦЯКЛЯПІСТАСЦЬ *ж. эмац.* Зграбнасць. *Ня думыў ат няўмекі хырцікля́пістысьці дыждацца.*

ХАРЦЯКЛЯПІСТЫЙ *прым. эмац.* Зграбны. *На від дужа хырцікля́пістый, а як будзіць ґ жызьні, хто яго знаіць.*

ХАРЧЫЦЬ *незак.* Карміць, сталаваць. *Толька с хутыра ў хату ўлезьлі, работы — зываліцца, а мне пыставілі каморніка харчы́ць.* ХАРЧЫЦЦА *незак.* Карміцца, сталавацца. *Як ныстаўнікым быў, ён у хызяйкі харчы́ўся.*

ХАРЫШЧА *ж. павеліч. груб.* Непрыемны твар. *Наеў ха́рішчу як ваперь, ходзіць — толька пыхціць, ня спышыцца.*

ХАТЧОНА, ХАЦЕНА *ж. памянш.-зніж.* Хаціна. *У Каціных сватоў німудренькыя хаччона, пыдгніла, скрівілыся, пірітрісаць нада. Была пырядышныя хацена, толька біс прігляду.* *Памянш.* ХАЦЕНКА. *Лі кынавы стыяла хаценка, у ёй ні пывярнуцца було.*

ХАХЛАЧ *м.* Непрычасаны, аброслы чалавек. *Усё нешта ў горыд цігаіцца Ліпяцёнкыў хыхла́ч.* ХАХЛАЧКА *ж. Во пупаў сабе хыхла́чку, атляпіцца ат яе ня можыць.* *Памянш.* ХАХЛАЧАЧКА. *К рабоці яе хыхла́чычка ні прівучына, большы на гулі нылігаіць.*

ХАХЛАЧАННЕ *н. метаф. гумар.* Ганарлівасць. *Ны яго хыхла́чыньня ніхто і ўніманія ні абрышчаіць.*

ХАХЛАЧЧА, ХАХЛАЧЧО *н.* Непрыбраныя валасы. *У тваім хыхла́ччы варона гняздо можыць зьвіць. У яго хыхлаччо як ну дурном быр ану, хуць апсмалі яго.*

ХАХЛАЧЫЦЬ *незак. метаф. гумар.* Выклікаць ганарлівасць. *Ні прідумыць, што яго хыхла́чыць, зыдывацца дужа нечым.* ХАХЛАЧЫЦЦА *незак.* Ганарыцца. *Чым яму хыхла́чыцца, зымазыў ба рот чым-нібудзь ды ні выторкывыўся зь ізыком.*

ХАХЛЯК *м. жарт.* Чупрына. *Рузгудуваў Сьціпанёнычык хыхля́к, што пыч шапкыю ня месьціцца.*

ХАЦІШЧА *ж.* Вялікая хата. *Быгатыю ха́цішчу рызьвялі, хваціць і сыну, і ўнукым астаніцца.*

ХАЦЦЕ *н.* Ніз хаты. *Я сяджу ціхінька, гляджу: паўзець лі хáцьця адзін тхырянок, за ім другей, а ўсьлед трецьцій.*

ХАЧЭНЬ *м.*, ХАЧЭННЕ *н.* Жаданне. *Твой хачэнь ня дужа каму важын, нада сена прібраць, а горыд пыдажджэць. Ціряшчур рызьбіраіць хачэньня, цярьпець ня можыць. Памянш.* ХАЦЕННІКА. *Пыцярьпі трошку іс сваім хаценьнікым, січас усе сыбяруцца.*

ХВАБРА *ж. метаф.* Непаважаная жанчына. *Тую хвáбру мне ня хочыцца і ў хату пускаць. Павеліч.* ХВАБРЫШЧА. *Па ком іна пышла — хвáбрішча, матка яе была ні тыкая.*

ХВАБРА *прысл.* Храбра. *Хвáбра хвытаўся зáгрудкі, пакуля па шыі ні пулучыў. Памянш.* ХВАБРАНЬКА. *Ты тожа хвáбрінька зуступалыся за Мішку. Выш. ст. пар.* ХВАБРЭЙ. 1. Больш храбра. *Ты бег дайжа хвабрей, чым твой бацька, ат аўцы ні пыбягіш уцікаць.* 2 *перан.* Маладзей. *Ны ліцо хвабрей зы нас, а гадоў яму дужа многа.*

ХВАБРАСЦЬ *ж.* Храбрасць. *Хваціла хвáбрасьці адз зайца ўцеч.*

ХВАБРЫЙ *прым.* Храбры. *Мы знаім, што ён хвáбрый, толька трусішка. Памянш.* ХВАБРАНЬКІЙ. *Хвáбрінькій ці ні хвáбрінькій, алі ж ні спужаўся уноччы пайціць.*

ХВАБРЭЦ *м.* Храбрэц. *Во хто быў хвабрец іс хвыбряцоў — ета Коля Кіріліхін.*

ХВАЛЕННІК *м.* Той, хто хваліць. *Стыльмашонкыў хваленьнік ужо так рызрісуваў пляменьніцу, што куды там!* ХВАЛЕННІЦА *ж. Ты меншы ўсякіх хваленьніц слухый, дык лучча будзіць.*

ХВАЛЬЧ *ж.* Недахоп, брак. *Ні саветылі браць тую кароўку, у ёй хвальч ёсьць, пыпытай другую.*

ХВАНАБРЫСТА *прысл.* Фанабэрыста. *Так хвынабріста рысхаджывылі, што ні прідумыць.*

ХВАНАБРЫСТАСЦЬ *ж.*, ХВАНАБРЭННЕ *н.* Фанабэрыстасць. *Каб трошку меншы хвынабрістысьці, яно б глядзець було пріятній. Устреціць Куліна, нылаіць, нылаіць — во і ўсё хвынабреньня будзіць.*

ХВАНАБРЫСТЫЙ *прым.* Фанабэрысты. *Пріехыў еткій хвынабрістый, к яму пряма ні пуцступіся. Памянш.* ХВАНАБРЫСЦЕНЬКІЙ. *Дужа хвынабрісьцінькій яе жаніх, ці зладзіцца у іх што-небудзь.*

ХВАНАБРЫЦЬ, ХВАНАБЭРЫЦЬ *незак.* 1. Фанабэрыцца. *І Колін сын уго як пычаў хвынабріць. Яны ўмеюць хвынабэріць, толька на іх ніхто дужа ні глядзіць.* 2. Выклікаць фанабэрыстасць. *Тоя ўремя яго нівісь як хвынабріла, ні знаў, куды зыдываньня дзіваць. Чаго іх етык хвынабэріць, нечым дужа хваліцца.* ХВАНАБРЫЦЦА, ХВАНАБЭРЫЦЦА *незак.* Фанабэрыцца. *Німа чым хвынабріцца, адзін хвост дзяржыць і на тэй сена ні сыбярець. Ты ні знаіш, як ён хвынабэріўся летыся.*

ХВАНАБЭРНІК, ХВАНАБЭРШЧЫК, ХВАНАБЭРАННІК, ХВАНАБРЫСТ *м.* Задавака. *Нічога быў ба хлопіц, ды хвынабэрнік дужа бальшэй. У хвынабэршчыка усігда так вісока нос зыдран. К такому хвынабэріньніку ны смаліный казе ні пад'едзіш. Некуды выпрывіўся Полькін хвынабріст рызадзетый. Памянш.* ХВАНАБЭРНІЧАК, ХВАНАБРЫСЦІК. *Носюцца іс сваім хвынабэрнічкым, як сь пісыныю торбыю. А што, зь яго пулучаіцца ладный хвынабрісьцік.* ХВАНАБЭРНІЦА, ХВАНАБЭРШЧЫЦА, ХВАНАБЭРАННІЦА, ХВАНАБРЫСТКА *ж. Яе дычка хвынабэрніца была, пышла — ні прідумыіш па ком. Хвынабэршчыца ні ўсякыму пыныравіцца. Машычка вун ікая хвынабэріньніца, думыіць, нікога роўныга ёй німа. Не ўжо, хвынабрісткі зь яе ня выйдзіць, ня тоя пріродзьдзя. Памянш.* ХВАНАБРЫСТАЧКА. *Вун як Аксюціна хвынабрістычка зыдзіраіць нос пірят хлопцымі.*

ХВАНЕРЫНА *ж.* Асобны ліст фанеры. *Хванерінымі пызыбіваны ваконцы, цімнувата, ну каты ні лазюць. Памянш.* ХВАНЕРЫНКА, ХВАНЕРЫНАЧКА. *Сюда нада атрезыць кусочык хванерінкі дый прібіць, толька памеріць хырашэнька. У цябе ж на сенцых хванерінычкі ліжалі, можна дыстаць.*

ХВАРАСТОК, ХВАРАСТОЧАК *м. памянш.* Хвораст. *Жалка, што сухенькій хвырасток нымякніць, гарець ня будзіць. Ты ж ні забудзь хвырасточык у хату унесьць ґ заўтріму.*

ХВАРАСЦЕННЕ, ХВАРОСЦЕ *н.* Хвораст. *Як прівязецца хвырасьценьня, тады спыкайней будзіць, лі двыра дам рады. Хваросьця як насушыш, зімою ны растопу дужа хырашо. Памянш.* ХВАРОСЦІКА. *Нада прібраць хваросьціка, ато ўвесь двор зыгароджын.*

ХВАРАСЦІЦЬ *незак. метаф.* Лупцаваць хварасцінай. *Цярьпела, цярьпела, а тады як узілася сваіх балыўнікыў хвырасьціць.*

ХВАРАШЧЭННЕ *н. метаф.* Лупцоўка хварасцінай. *Як зародзіцца ідыл, яму ніякыя хвырашчэньня ні пымыгаіць.*

ХВАРОБ'Е *н.* 1. Невядомае захворванне. *Нейкыя хвароб'я нывалілыся ны чылавека, гняцець і гняцець.* 2. Невядома што, усё ўсякае. *Хвароб'я ён хочыць, твой Коля, скажы, чаго зь яго ні хвытаіць.*

ХВАРСАНУЦЬ *зак.* Пафранціць. *Вашы дзеўкі тожа умелі хвырсанýць, к ім, бувала, бяс хвігі ні пытыкайся.*

ХВАРСІСТА *прысл.* Франтавата, выхваляючыся. *Стыхваныву мальцы хварсíста вялі сябе, як жа: бацька — первый быгач у дзяреўні.*

ХВАРСІСТАСЦЬ *ж.* Франтаватасць, выхвалянне. *А зьлезіць зь яго хварсíстысьць, дзіцямі апсыпліцца і зыкыпаіцца.*

ХВАРСУХА, ХВАРСАТУХА *ж.* Тая, што любіць задавацца, выхваляцца. *Яе дочкі хварсýхі былі, умелі выстыўляць сябе ну людзях. Пабеглі некуды Андреіхіны хвырсатýхі, пряма зямлі пыц сабою ня чуюць. Памянш.* ХВАРСУШКА, ХВАРСУШАЧКА, ХВАРСАТУШКА. *Каб пірістала ваша хварсýшка зыдывацца, ладныя б дзеўка была. Прііжджала летыся Антоныва дычка, ого ікая хварсýшычка! Устрічай, вун пыкызалыся твыя хвырсатýшка із-за вербыў.*

ХВАРТОН *м.* Франтон. *Красівыя хвартоны зьдзелыў, узорымі пыпрібіваў. Памянш.* ХВАРТОНІК, ХВАРТОНЧЫК. *Затул луччы, чым хвартонік, ну на шыхвірі затул ня зьдзелыіш. Хвартончыкі забіў доскымі-шалёўкымі с абоіх бакоў.*

ХВАРУБІНА *ж.* Рызман. *Уськіну хвурюбíну на плечы дый тапчуся пы двару. Памянш.* ХВАРУБІНКА, ХВАРУБІНАЧКА. *К скату якую хвурюбíнку узяў с сабою і*

*ладна. Тады выскычылі с хаты, худзь ба хвурюбінычку хто схваціў.*

ХВАСНЯ *ж.* Выхваленне. *А што мне яго хвысьня́, ніхай хвастыіць, сколька хочыць.*

ХВАСЦЬ *ж.* Задавацтва, выхвалянне. *Як паслухыіш яго хвасьць, сьмешна дзелыіцца.*

ХВАТАННІК *м.* Той, хто хапае. *Адзін хвыта́ньнік ладна пулучыў пу руках, і другому ета самыя будзіць.* *Памянш.* ХВАТАННІЧАК. *Ого, якей ты хвыта́ньнічык, схваціў большы, чым мне асталыся.* ХВАТАННІЦА *ж.* *Ня будзь такою хвытаньніцыю, цётка табе і так многа дыла пячэнін.*

ХВАЦІЦЬ *зак. перан.* Пачаць. *Як хвацілі бежч, ны кані ні дыгнаў ба. Хва́цюць, дык яны зу пуўдня стог ныкладуць.* ХВАЦІЦЦА *зак.* Узняцца. *Крапівыю апстрыкала ногі, бурдулямі хваці́ліся, нада пымазыць чым-небудзь.*

ХВЕРЧАЛ *м.* Фельчар. *Ета Антанёнык дружыў с хверчылым, часта к яму хадзіў, пра жызінь тулкувалі.* *Памянш.* ХВЕРЧАЛОК. *Быў тама раншы хвірчалок німудренькій, ня дужа ён што пынімаў.* *Памянш.-зніж.* ХВЕЛЬЧАРЫШКА, ХВЕЛЬШАРЫШКА. *Прісларі к ім якога-то хвільчарі́шку, ён ня дужа што рызьбіраіцца. Пріiжджаў нейкій хвільшарі́шка, пысядзеў нядзелі дзьве і тэй паехыў.* ХВЕРЧАЛКА, ХВЕРЧАЛІЦА *ж.* *Ты ж ба схадзіў з рукою к хверчылкі, іна троху пынімаіць. К нам, гыварілі, новыю хверчыліцу прішлюць.*

ХВІСЬ, ХВІСЦЬ *выкл.* Пра нечаканае хістанне, апусканне. *Іду, баюся, каб ні зваліцца, а жардзінкі хвісь-хвісь. Падбегла, глянула ны яго, а ён увесь у крыві, у мяне рукі хвісьць і павісьлі.*

ХВОРМЕННЫЙ, ХОРМЕННЫЙ *прым. перан.* Сапраўдны. *Хвормінныя былбатуха, большы ніхто. Ці разумный маліц такую лухту станіць перць, хормінный дурак.*

ХВОСНУЦЦА *зак. метаф.* 1. Ударыцца. *Хвоснуўся ап сук ні пагледзіўшы.* 2. Счапіцца, пачаць. *Як хвоснуцца сваріцца, зь іх і ні хацеўшы нысьмяесься.*

ХВЯРУБ'ІКА *н. памянш.* Старызна. *Сыбярі ўсё хвярю́б'іка ды зьвяжы ў вузялок, ніхай пріпыряччыныя будзіць.*

ХІТРАВАННІК *м.* Той, хто хітруе. *Глядзіця зы хітрува́ньнікым, січас ка́рціну схуваіць. Памянш.* ХІТРАВАННІЧАК. *Я даўно знаю, што ты лоўкій хітрува́ньнічык.* ХІТРАВАННІЦА *ж. Раншы ты еткыю хітрува́ньніцыю ні была.*

ХІТРЫНА, ХІТРУЖКА *м.* і *ж.* Вялікі хітрэц. *Нашто хітрі́на быў Ліксандрёнык, а с Кузьмянком і ў яго нічога ня вы́пыліла, ні піріхітріў. Віцька — ладный хітрю́жка, за ім глядзі ды глядзі, ато ўраз апкруціць.* ХІТРУНОК, ХІТРУНОЧАК *м.* Хітры хлапчук. *Ну й хітрунок жа ты, думыіш, я ні пынімаю, што ты дзеда пыдмыняіш. Што-то сяньня сатворіць наш хітруночык?*

ХЛА́БАЗІШЧА *ж. павеліч.* Хлуд, галлё. *На хутырі па ўсіх аборкых тыкая хлыбазі́шча, што нійдзе ні пралезьць.*

ХЛАПЕШЧЫНА *ж.* Перыяд хлапецкага жыцця. *Прінёс з вайны дзьве гімнасьцёркі, усю хлапешчыну прынасіў, старэй яму нічагенічка ні купіў, усё грошы складывыў, хуваў.*

ХЛАПІНА *ж.* Ачоскі пры апрацоўцы ільновалакна. *Хлапі́ны клок вазьмі, пызытыкай дзірькі. Памянш.* ХЛАПІНКА, ХЛАПІНАЧКА. *Пы сьпіне ў цябе хлапі́нкі нейкія, нейдзі ныбраўся. Аббярі хлапі́нычкі ды ськінь сь пінжыка.*

ХЛАПЧЫШКА, ХЛАПЧАНОК, ХЛАПЧУГАН *м.* Хлапчук. *Нейкій у яе слабінькій хлапчы́шка, усё ўремя балеіць і балеіць. Я дык ні пызнаю́, чый ета хлыпчанок бегыіць. У іх ужо быў ладный хлупчуга́н, як етый шкет радзіўся. Памянш.* ХЛАПЧЫНАЧКА, ХЛАПЧУГАНЧЫК. *Дзяўчонка то ў яе была, а пры хлапчы́нычку мне неік ні ў паміці. А во хлупчуга́нчыкі зынясуць твае вузялкі к Анішчыхі.*

ХЛАПЯНАЧКА *ж. памянш.* Хлапянка, ніткі з ачосак. *Клубок хлыпя́нычкі ёсьць, можна пасьцілкі пытыкаць.*

ХЛАПЯНІСТЫЙ *прым.* Падобны да выробленага з ачосак. *Хлыпя́ністыя ў цябе ніткі пулучыліся, зы іголкыю ні цягнуцца.*

ХЛАПЯНОК *м. перан.* Слабы хлапчук. *Па сілі хлыпянок, а задзірістый, нікому ня хочыць уступіць. Памянш.* ХЛАПЯНОЧАК. *Мне такога хлыпяночыка і нечыга зываліць.*

ХЛЕБАРОБНІЧАННЕ *н.* Хлебаробства. *Васіль тады пріехыў сь Пітрыграда, хутыр узяў, ды хлібаробнічыньня яму ні пыныравілыся.*

ХЛЕБТАНУЦЬ *зак. метаф. іран.* З'есці, выпіць. *Так і глідзяць, каб айдзе хлібтанýць, уцягнуліся ў гарелку, што ня могуць бізь яе.*

ХЛЕБЧЫК, ХЛЕБЧЫЧАК, ХЛЯБЕЦ, ХЛЕБУШАК, ХЛЕБУШКА *м. памянш.* Хлеб. *Ні плач, мой мáленькій, я табе хлебчыка белінькыга атрежу і сыхарком пасыплю. Бярежч нада хлебчычык. Ты ні зубувай: хлябец сь печы як выніш, булычкі зьверьху мокрыю ладоньню абатрі. Хто знаіць, як трудна хлебушык дыстаецца, тэй ня кініць ны зямлю коркі. Калі хлебушка ны стале, ета ня голыд.* ХЛЕБІНА, ХЛЯБІНА *м. зніж.* Хлеб наогул. *Ня дужа цяперь і пра хлебіну хто думыіць. Якей хлябíна вырыс, дык і тэй, кылі хочыш, на полі астаніцца, убіраць некыму. Павеліч.* ХЛЕБІШЧА. *У первый год вайны такей хлебішча зырадзіў, хто папользывыўся, а хто й не.*

ХЛЕБЯНУТЫЙ *дзеепрым.* Адпіты. *Хлібянýта і з другея бутылкі, ат яго нійдзе нічога ні схуваіш, хуць у пролыбку нясі.*

ХЛЕБЯСТАННЕ *н.* 1. Хлябтанне. *Я яму пыкажу хлібістáньня, як пііцягну палкыю. 2 перан.* Піццё, выпіванне. *Ізьвесна, ды чаго такоя хлібістáньня дывядзець: пасьледнія рубашкі прап'юць.*

ХЛЕБЯСТАЦЬ *незак.* 1. Хлябтаць. *Я ў сенцы увыйшла, а сыбака хлябешчыць пырасёнкыву яду. 2 перан.* Піць, выпіваць. *Абоя ладна хлябешчуць, руб ні ў таго, ні ў другога ні задзержывыіцца.*

ХЛЕБЯСТУН *м. эмац.* Выпівоха. *Яе маліц стаў хлібястýн, што луччы некуды.* ХЛЕБЯСТУННЯ, ХЛЕБЯСТУХА *ж. Мала-пымалу уцягніцца, станіць тыкая самыя хлібястýньня. Ты йдзі скажы ета Домніный хлібястýхі. Памянш.* ХЛЕБЯСТУШКА. *Вот і ńыдрысла хлібястýшка, прыпадзець дзеўка.*

ХЛЕПЯСТАЦЬ *незак. эмац.* Матляць. *Веціp хляпешчыць дзірівамі, як ні пывывырачывыіць с кареньнім.* ХЛЕПЯСТАЦЦА *незак.* Матляцца. *У цябе якея-то тряпкі ны вярёўкі хляпешчуцца.*

ХЛЕСТАНУЦЦА *зак. эмац.* Ударыцца, упаўшы, зваліўшыся. *Глядзі, апшасьнецца ныга і так хлістанесься, што ні паднімісься.* ХЛЕСТАНУТЫЙ *дзеепрым. Ого, што зь яго тварілыся, ні знаў, пы якой зямле ходзіць, ну хлістанýтый асеўся.*

ХЛЕХАТАЦЬ *незак. перан.* Цяжка працаваць. *Ны трактырі хліхытáў вясну, яму пірідыхнуць мінуты ўремя ні було.*

ХЛЁБАННЕ *н.*, ХЛЁБАТ *м.* Хлябтанне. *Ці чуіш хлёбыньня, верна, сыбака ў сенцых мушуруіцца. Чую нейкій хлёбыт зы дзьвірямі, аччыніла — а тама Сырымышчонкыў сыбака у шайкі сядзіць.*

ХЛЁП *выкл.* Пра нечаканае рашэнне. *Сядзелі, сядзелі, а тады хлёп — пытхваціліся і ґ дзьвірям.*

ХЛЁПАННЕ *н.* Хадзьба па гразі. *Пулюбуйся, якея яны зыявіліся посьлі хлёпыньня, ны каго пахожы.*

ХЛЁПНУЦЬ *зак. метаф.* 1. Пляснуць. *Ны нагу хлёпнуў гырячыга цеста.* 2. Ударыць. *Досткі хлёпнулі пы сьпіне, ён пыляцеў потырч носым.* ХЛЁПНУЦЦА *зак.* Упасці (у ваду, гразь). *У самыю лужу хлёпнуўся, пыцскачыў увесь мокрый.*

ХЛЁСЬ *выкл.* Пра шчоўканне, ляcканне пугай. *Пустухі адзін піріда дным хлёсь, хлёсь, хто грамчэй.*

ХЛІП *выкл.* 1. Пра раптоўнае знікненне святла. *Сядзелі, рызгыварівылі, агонь зразу неік хліп і пыгас.* 2 *метаф.* Пра раптоўны канец. *Во табе чылавечыскыя жызьня: жыў, жыў, а тута хліп і німа.*

ХЛІПАННІК, ХЛІПКАННІК *м.* Той, хто ўсхліпвае. *Ці ты знаіш, чаго тэй хліпыньнік расхліпыўся? Я думыў даць абоім па морквіні, ну хліпкыньнікі ні палучуць.* ХЛІПАННІЦА, ХЛІПКАННІЦА *ж. Ня будзь хліпыньніцыю, рызьвіла сьлёзы ніізьвесна за што. Сядзіць хліпкыньніца у вугалку, рызабідзілыся ны Паўку.*

ХЛІПНУЦЬ *зак. метаф.* Памерці раптоўна. *Так работыўшы, ён і хлі́пнуць можыць, гультай нісусьветный.*

ХЛІПЦЕННЕ *н.* Неадольнае жаданне. *А ўніміся с хліценьнім, січас усе сыбяруцца і будзім садзіцца за стол.*

ХЛІПЦЕННІК *м.* Той, хто выражае неадольнае жаданне. *Пыкармі сваіх хліценьнікыў, яны ніяк ні даждуцца куліша.* ХЛІПЦЕННІЦА *ж. Ну ікая ж ты хліценьніца, пысядзі ціхінька, січас галычкі дыварюцца.*

ХЛОПЦАЎ *прым.* Хлапечы. *Вун ну сундуку уся хлопцыва адзёжа.*

ХЛУЗЗЕ *н. зб.* Хлуд, галлё. *Хлу́зьзя трошку сыбралі, нада думыць буйнейшых дроў прізыпасіць. Памянш.* ХЛУЗЗІКА. *Пыдбіраіцца хлу́зьзіка, заўтря узноў пайду ў аборкі, трошку ныцяпыю.*

ХЛУП *выкл.* Пра раптоўнае заплюшчванне вачэй. *Ліжаў, рызгыварівыў, а тады вочы хлуп і ўсё, і ня дышыць.*

ХЛЫН-БРЫН *выкл.* Пра бадзянне. *Ні прівучын ґ дзелу, хлын-брын пы дзяреўні туды-нызад.*

ХЛЫНДАЦЬ *незак. неадабр.* Швэндацца. *Што яны дзелыюць?— высьпюцца, а тады хлы́ндыюць бяс толку.*

ХЛЫНКАННІК *м.* Бадзяга. *Нечым хлы́нкыньнікым зыняцца, а дзень з год.* ХЛЫНКАННІЦА *ж. Я б хлы́нкыньніцыю ні была, кылы двыра усігда работа найдзіцца.*

ХЛЫНКІ-БРЫНКІ *мн.* Бадзянне. *Глядзіця, мальцы, вашы хлы́нкі-бры́нкі ды дыбра ні дывядуць.*

ХЛЫНУЦЬ *зак. перан.* Надысці, наступіць. *Зіма як хлы́ніць, усё ўсюдых пызадмець, пызапрець, ні прайціць, ні праехыць ніўдзе.*

ХЛЫСТАЦЬ *незак.* 1. Лупцаваць. *Хлыста́ў сваіх мальцыў і ўсё рыўна неслухымі расьлі.* 2 *перан.* Шмат піць. *Абоя ладна хлыста́юць, як палучуць капейчыну, у іх доўга ні задзержывыіцца.*

ХЛЮНДРАЎ *прым.* Прыналежны неахайніку. *Хлю́ндрыву адзежыну усігда пызнаіш: іна і ў пылі, і ў грязі, і ў чым хочыш.*

ХЛЮНДРЫН *прым.* Прыналежны неахайніцы. *Ета хлю́ндріна мыцьцё: грязь кымкамі ляжыць.*

ХЛЯБЫ *мн.* Бакавыя ўпадзіны ў кароў. *Антон ні разу ні ныпасець, прібягіць карова, пыглядзіш — хля́бы ўваліліся.*

ХЛЯПА *ж.* Мокры снег. *Сянішнію пагодыю — пы хля́пі ня то што ў дарогу сыбірацца, а с хаты выйціць ня хочыцца. Павеліч.* ХЛЯПІШЧА. *Глянь-ка, ікая хля́пішча вылянула, ვады ныбраць ня вылізіш.*

ХЛЯСКАННЕ *н.* Шчоўканне пугай. *Я ўжо чую, ета Мірёныва хляскыньня, ён сяньня пасець.*

ХЛЯСКАННІК *м.* Той, хто шчоўкае пугай. *Стыряюцца хляскыньнікі адзін пірід другім, у каго грамчэй палучыцца.* ХЛЯСКАННІЦА *ж. Ты, як мальцы, хля́скыньніца, відна, ат Паўкі наўчылыся.*

ХЛЯСКАЦЬ *незак.* Шчоўкаць пугай. *Так хля́скыць ні кажный можыць, а Пецька лі Шуріка наўчыўся.*

ХЛЯСТАННЕ *н. перан.* Бесперапыннае піццё. *Любому спрацівіiць такоя хліста́ньня кажный дзень.*

ХЛЯСТАЦЬ *незак. перан.* 1. Убіваць. *Хлешчыць і хлешчыць гвозьдзя ў калодку, ну я яго ныбалыюсь.* 2. Заломваць (цану). *Вясною за сена ладна хлешчуць, ні дукупіцца.* 3. Прызначаць (штраф). *Новый стыршына наводзіць пырядык: хлешчыць штрапы усім пыдряд.* ХЛЕСТАНУЦЬ *зак.* Прызначыць (штраф). *Дынілёнка крепка хлістану́лі штрапым ны праўленьні.*

ХЛЯЧОК *м. памянш.* Кныр. *У Мікілаівых ёсьць хлячок, можна згыняць сьвіньню. Узмацн.* ХЛЯЧУГА. *На хверьмі здаровый хлячу́га белый, ат яго харошыя пырысяты. Павеліч.* ХЛЯЧУЖЫШЧА. *А яго ж хлячу́жышча адзін раз чуць ні рызырваў.*

ХМЫР *м.* Нелюдзімы чалавек. *Некуды Аўдоткін хмырь пыцягнуўся с тыпаром. Памянш.* ХМЫРОК. *Усігда хмырёк глядзіць неік бокым. Узмацн.* ХМЫРЫНА. *Такога злыйдухуватыга хмырі́ну пушукаць толька. Павеліч.* ХМЫРЫШЧА. *Ні абрышчай ты ны хмырішчу унімалія.*

ХОДАЛЫ *мн. гумар.* Ногі. *Яго ходылы ня хочуць як нада дзьвігыцца, лі двыра трошку тупыіць.*

ХОДЖАНЫЙ *дзеепрым. перан.* Дагледжаны. *Ходжыный лён зразу пызнаіш, ён чысьцінькій і дайжа зілянейшый.*

ХОДКЕНЬКІЙ *прым. памянш.* Такі, які пастаянна ў руху. *Ходкінькыя кошычка, мінуты ні прыляжыць, усюдых шныхырiць, і мышэй німа.*

ХОНЕНЕМ *прысл. эмац.* Нястрымна. *Хонінім носюцца цэлый дзень, у хаці толька піряверну́цца, скарінку хлеба схвацюць.*

ХОПНУЦЬ *зак. эмац.* Узяць, схапіць. *Летыся пасьпелі хопнуць харошыга сена лісавога.*

ХОРЫ *мн.* Хорамы. *Такея хоры сабе выстрыіў, як у паноў раншы былі.*

ХОХАННЕ *н.* Кароткае гучнае ўздыханне пры стомленасці. *Сколька ня хохый, хохыньнім ні паможыш, нада дыбірацьбыразёнкі.*

ХОХАННІК *м.* Той, хто коратка гучна ўздыхае пры стомленасці. *Пот выціраіць хохыньнік, ніпрівышна зу лупатку брацца.* ХОХАННІЦА *ж. Ну што, хохыньніца, будзіш знаць, як бульба дыстаецца.*

ХОХАЦЬ *незак.* Коратка гучна ўздыхаць пры стомленасці. *Сколька ня хохый, бульбу дыхадзіць нада, ні пыправіўшы ня кініш.* ХОХАЦЦА *незак.* Коратка гучна ўздыхацца пры стомленасці. *Рана вам хохыіцца.*

ХОХЛЕННЕ *н.* Пялегаванне, песты. *Як ім толька ні ныдаесьць за дзень хохліньня!*

ХОХЛЕННІК *м.* Той, хто пялегуе, песціць. *Сідзяць хохліньнікі дзень прі дні у хаці.* ХОХЛЕННІЦА *ж. Воць січас другая хохліньніца пыд'явіцца.*

ХОХЛІЦЬ *незак.* Пялегаваць, песціць. *Хохліла сваіх крысавіц, пакуля адна прішла з брюхым, а ўсьлед другая.* ХОХЛІЦЦА *незак.* Пялегавацца, песціцца. *Хваціць табе зь імі хохліцца, глянь, што сьвіньні дзелыюць ны дваре.* ХОХЛЕНЫЙ *дзеепрым. Хохліныя ма́лыя, балыўныя.*

ХОЦЦЮ *прысл.* Ахвотна. *Яны хоцьцю аддывалі Марью зы Міхалку, ета быў работнік за ўсю дзяреўню.*

ХРАКАННЕ *н. метаф.* Паданне з ударам. *Такоя хря́кыньня пазьней можыць атразіцца ны здароўі.*

ХРАКАЦЬ *незак. метаф.* 1. Падаць ударваючыся. *Сколька разоў ён хря́кыў зь дзеріў!* 2. Валіць, ударваючы. *Ты, знаць, усіх пыдряд хря́кыіш, кряпчэй зы цябе німа нікога.* ХРАКАЦЦА *незак.* Падаць ударваючыся. *Ахота*

*табе лазіць па ліпых, ні ныдаела хря́кыцца.* ХРАКНУЦЬ *зак.* Моцна ўдарыць. *Ён цябе хря́кніць, што ні падымісься, тады атвыкніш пыцскакывыць.* ХРАКНУЦЦА *зак.* Моцна ўдарыцца, упаўшы. *Дужа больна ён хря́кнуўся зь яблыны, чуць пыдняўся.*

ХРАКЦЕР *м.* Характар. *Дыбрячый хра́кцір у бабы, хто б другей так дагледзіў сьвёкыра! Памянш.* ХРАКЦЕРАЦ. *Я хырашо пызнала яго хра́кцірiц зы два гады.*

ХРАМЫШ *м.* Кульгавы чалавек. *Пывіла свайго хрымыша́ у Цiляткыва радне пыказывыць. Памянш.* ХРАМЫШОК, ХРАМЫШОЧАК. *Хрумушок мальчык у яе, адна ножка куруткувацінька. Радзіўся хрумушочык, горя яму і зь ім, што ж ты будзіш дзелыць.* ХРАМЫШКА *ж. Вот табе й храмы́шка, ладныга чылавека пупала. Памянш.* ХРАМЫШАЧКА. *Нада ж так радзіцца: дзьве дзевычкі і абея храмы́шычкі.*

ХРАНІНА *ж.* Корань хрэну. *Патрі ету хряні́ну, іна таўсьцейшыя. Памянш.* ХРАНІНКА, ХРАНІНАЧКА. *Хряні́нкі нада чысьцінька абмыць. Во найшоў нескылька хряні́нычык, тоніhelькія, другіх ні пупалыся.*

ХРАП *выкл.* Пра паданне. *Стыяў, стыяў, а тады са ўсіх ног хряп, к яму падбеглі — толька вычамі лупнуў.*

ХРАПАЦЬ, ХРАПКАЦЬ *незак.* 1. Хрумстаць. *Ета зялёных яблык я ўсыпыла сьвіньням, дык яны хря́пыюць. Кінь лібяды, пырысяты прільнуць хряпкыць.* 2 *перан.* Ламаць. *Мыладэя ліпкі хря́пыюць, во што твае ціхінькія дзелыюць. Я табе пыкажу, як хря́пкыць бярёзкі, зырявеш і пыбягіш.* 3 *перан.* Ламацца. *Ці чуіш, як хря́пыюць дзеріўцы? Чутна було, што асінкі хря́пкылі.* 4 *перан.* Ударыць аб зямлю. *Не, Колю ты хря́пыць ня будзіш, ат яго сам як мячык атляціш. Сколька вы ня боріiціся, дык ён, знаць, усігда цябе хря́пкыіць.* ХРАПАЦЦА, ХРАПКАЦЦА *незак.* 1. Хрумстацца. *Што, хырашо хря́пыюцца бабіны мідунічкі? Чую, як у цябе хря́пкыюцца быранькі.* 2. Падаць. *Верна, кругом німа такога дзеріва, зь якога б ён ні хря́пыўся. Ці раз яны хря́пкыліся зь естыя ліпы.* ХРАПНУЦЬ *зак.* 1. З'есці, укусіць. *Што яму дзьве морквінкі, ён іх зразу хря́пнуў і німа. Сьвіньня як хря́пніць зы нагу, тады ныбалыісься.*

2. Зламаць. *Хряпнуў бярёзку, іна пасьці у вільшнік тыўшчыною.* 3. Ударыць аб зямлю. *Як хряпніць аб дарогу, ты на месьці саўесься.* ХРАПАНУЦЬ *зак.* Зламаць. *Клянок хрыпанулі, атлумалі макушку, ці ён пусьціць атросткі, ці не.* ХРАПНУЦЦА, ХРАПАНУЦЦА *зак.* Упасці, моцна ўдарыцца. *Хряпнісься — тады ня будзіш лезьць, куды ні нада, нашто табе ета сысна. Бярёза хряпнулыся ны яблынку і аблумала. Крепка хрыпануўся, ажно ўстаць ня мог, хлопцы пыднялі.*

ХРАПАТНУЦЬ *зак. метаф.* З'есці. *Падлезіць ціплёнык к сьвіньне, і йна зразу хрыпатнець, ні пысьцісьняіцца.*

ХРАПАЧКА *ж. памянш.* 1. Храпка (капусты). *Хряпычку як абрежыш, ах, смашныя, салодкыя.* 2. Сырыя дровы. *Сысьняк — ета хряпычкі, ім сохнуць ды сохнуць нада.* 3 *метаф.* Нос. *Як схваціш пы хряпычкі, тады ня будзіш яе пыцстыўляць.*

ХРАПІНА *ж.* Адно каліва ахрап'я. *Ці ты ня мог ішоччы ношку хряпін прінесьць? Памянш.* ХРАПІНКА. *Хряпінкі пы мяжэ асталіся, нада було б пыдыбраць, каб трава рысла.*

ХРАСНУТЫЙ *дзеепрым. эмац.* Моцна ўдараны. *Ацскочыш хряснутый, тады другей раз падумыіш, ці пыцскакывыць.*

ХРАСТОВЫЙ *прым.* Трэфовы. *Ета як варожуць, дык гаворюць, што хрястовыя карты пыказывыюць дарогу. Памянш.* ХРАСТОВЕНЬКІЙ. *Знаць, адзін хрястовінькій валет астаўся, і ён зьбіраіцца гуляць.*

ХРОП *м.* Храпенне. *У іх у хаці такей хроп, што ня высідзіць, як іграюць нысамі.*

ХРОП *выкл.* Пра нечаканасць з'явы, учынку. *Ны прясла усьселіся, Мыланкін хлапчына хроп і зваліўся.*

ХРОПАЦЬ, ХРОПКАЦЬ *незак. перан.* 1. Ламаць. *Нада було ны адну мятлу нулумаць, дык яны дывай хропыць бярёзкі пыдряд. Дзеці лісьця ў бырыках хропкыюць пырысятым.* 2. Ламацца. *Як залезуць ны яблыну, толька сучча хропыіць. Асінкі лёхка хропкыюць. Дождж прайшоў, падмёрзла, ідзеш, дык лядок пыд ныгамі хропкыіць.* ХРОПАЦЦА, ХРОПКАЦЦА *незак.* 1. Ламацца. *Чаго ў цябе прівізкі хропыюцца адна зы адною? Нешта ў яго*

*тамыцька хропкыіцца.* 2. Падаць. *Табе, знаць ныравіцца хропыцца зь естыя яблынкі, што ты ўзноў паўзеш ны яе як чырьвяк якей. Сколька разоў ён аттуля хропкыўся!* ХРОПНУЦЬ *зак.* 1. Зламаць. *Пычаў пупруўляць яблынку, каб прямей рысла, і хропнуў, еткыя яблынка была, верна б, зыцьвіла налета.* 2. Зламацца. *Піріцягнуў яго пы сьпіне, ажно грыбільнішча хропнула.* ХРОПНУЦЦА *зак.* 1. Зламацца. *Вілкі хропнуліся, усе рагі цыліком ацскачылі, во й ныкідай гной чым хочыш.* 2. Упасці, моцна ўдарыцца. *Так больна хропнуўся наўзныч, як ён толька пыдняўся.*

ХРУПКАННЕ *н.* Хрумстанне. *Карова ня хру́пкыіць, ета авечкіна хрупкыньня чутна.*

ХРЫБЁТНЫЙ *прым.* Хрыбтовы. *Хрібётныя косьці зразу сякуць, складывыюць у бочку і солюць.*

ХРЫСТАВЭЙ *прым.* Перакрыжаваны. *Лі хріставэя дарогі спаў як забітый, чуць дубудзіліся.*

ХРЫСТАСЛАВЕЦ *м.* Удзельнік калядавання. *Помню, я малінькыя была, бальшыя хлопцы і дзеўкі хадзілі пы хрістыслáўцых.* ХРЫСТАСЛАЎКА *ж. Як у кыляды хадзілі ізь зьвяздою хлопцы і дзеўкі, іх звалі хрістыслáўцы і хрістыслáўкі. Памянш.* ХРЫСТАСЛАВАЧКА. *Ты ўжо можыш хадзіць хрістыслáвычкыю.*

ХРЫСЦІННІК *м.* Удзельнік хрысцін. *Хрісьці́ньнік пат поўныч вярнуўся вясёлінькій.* ХРЫСЦІННІЦА *ж. А што хрісьці́ньніцым, пей, пакуліцька пяецца.*

ХРЭСНІКАЎ *прым.* Прыналежны хрэсніку. *Ета ў мяне хресьнікыў пыдарык, учора прінёс. Памянш.* ХРЭСНІЧКАЎ. *Знаць, хресьнічкывы рукі пыхадзілі кылы канхвет.*

ХРЭСНІЦЫН *прым.* Прыналежны хрэсніцы. *Ета хресьніцына куртычка вісіць, іна ны дваре гуляіць.*

ХРЭШЧАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Хрышчоны. *Старшыя дзеці хрешчыныя, а меншыга ужо ні хрясьцілі.* 2 *перан.* Аблаяны. *Ня хочыш спакойна пайціць, дык пойдзіш хрешчыный.*

ХРЭШЧЫК *м.* Крыжык. *Я доўга насіла хрешчык, а тады шнурочык пырваўся, і ён пыціряўся нейдзі.*

ХУДАЦЬ, ХУДАЦЦА *незак.* Худзець. *Відна пы ўсяму, што карові ніздаровіцца, зразу пычыла худаць. Чаго б ета твыя крысавіца стала худацца?*

ХУДЖЫЦЬ *незак.* Рабіцца горш. *Івану хўджыла і хўджыла, пакуля саўсім зваліўся, у бальніцу зывязьлі.*

ХУДЖЭЙШЫЙ *прым.* Горшы. *Худжэйшыя бруквіны адбярі, пыпарюцца, а луччыя у погріб паложым. Памянш.* ХУДЖЭЙШАНЬКІЙ. *У пыль ныдзівай худжэйшынькыю рубашку, нашто харошыю гадзіць.*

ХУДЗЕННЫЙ *прым.* Празмерна худы. *Сьціпанёнык стаў худзенный-худзенный, адны косьці.*

ХУДЗЁШАНЬКІЙ *прым.* Вельмі худы. *У Баріса конь зімуваў зы дваром пыд яблыныю, худзёшынькій, худзёшынькій, а ў пуні дзіржаў бычка. Памянш.* ХУДЗЁШАНЕЧКІЙ. *Такей худзёшынічкій мальчык, наскрозь сьвіціцца.*

ХУДОБА *м.* і *ж. эмац.* Худая асоба. *Ні прідумыць, чаго яны абоя ныстыяшчыя худоба. Павеліч.* ХУДОБІШЧА. *Стаў такей худобішча, што глядзець на ём нечыга.*

ХУЖАННЕ *н.* Пагаршэнне. *Каб жа на луччыньня пыказывыла, а то ўсё хўжыньня і хўжыньня.*

ХУЖЫЦЬ *незак.* 1. Пагаршаць. *Ты ня луччыіш, а хўжыіш сваю скамеічку, іна саўсім рызваліцца.* 2 *метаф.* Слабець. *Андрасёнык с кажным днём хўжыіць.* 3 *метаф.* Горшаць. *Яму ўсё хўжыіць, ны пыпраўку і ні пыказыіць.* ХУЖЫЦЦА, ХУЖЭЦЦА *незак.* Пагаршацца. *Неік жызьня с кажным годым стала хўжыцца. У яго як-то разым здароўя стала хужэцца, зьлёг, зьлёг і ні пыдняўся.*

ХУКАЦЬ *незак.* Лаяць, лаяцца. *Ага, культурный ён, як станіць хўкыць на Ксеньню — вушы вянуць.*

ХУРХУР *м.* Фарфор. *Рысказывылі, мел ад Белыя гары некуды вазілі, айдзе хурхўр дзелыюць, ён дужа пытхадзіў. Памянш.* ХУРХУРЫК. *У цябе красівінькыя чашычка, іна, знаць, с хурхўріку.*

ХУРХУРОВЫЙ *прым.* Фарфоравы. *У мяне былі хурхуровыя тарелкі, ды пабіліся. Памянш.* ХУРХУРОВЕНЬКІЙ. *Калі будзіш у горыдзі, купі мне штук пяць хурхуровінькіх блюдзічык.*

ХУРЧЭННЕ *н. метаф.* Злоснае бурчанне. *Наслухыліся мы і хурчэньня, і гырчэньня, і старік, і старуха былі дужа буркатлівыя.*

ХУРЧЭННІК *м. эмац.* Злосны буркун. *Ну й ныдаеў хурчэньнік, зу любую мелыч вайну ушчынаіць.* ХУРЧЭННІЦА *ж. Нілізя було падумыць, што Галя такою хурчэньніцыю станіць.*

ХУРЧЭЦЬ *незак. метаф.* 1. Мурлыкаць. *Кошка кылы малых скруціцца і хурчы́ць, пакуля засьнець.* 2. Злосна бурчаць. *Зы ўсякыю ірунду пычынаіць хурчэць, ныдыядлыя стыра́я.*

ХУХВЫРАННЕ *н. эмац.* Безгустоўнае апрананне. *Ны Танічкіна хухвы́ріньня мы наглядзіліся уволю, большы некуды.*

ХУХЦІ *выкл.* Пра выражэнне стомленасці. *Ху́хці мне, пысяджу мінутычку. Ох, ху́хці, зымарілыся!*

ХУЦЬ *злучн.* Хоць. *Яму хуць гывари, хуць ні гывари, сваё твариць. Гатоў хуць куды.*

ХЫРЛА *м.* і *ж. эмац.* Хваравітая, заняпалая асоба. *Сколька я помню, ён усё такей хы́рла. Хы́рла ці ня хы́рла, а ў дваре пырядык віла луччы ні нада. Памянш.* ХЫРЛІК *м.*, ХЫРЛАЧКА *м.* і *ж. Зыдаўся нейкій хы́рлік, мучыюцца зь ім каторый год, усё пы дыктырах ды хвіршылах возюцца. Куды толька яны іс сваёю хы́рлычкыю ня кідыліся, ніхто нійдзе ня можыць паможч. Узмацн.* ХЫРЛІНА. *Ніхай сваю хы́рліну пысылаіць лён аббіваць. Павеліч.* ХЫРЛІШЧА. *Даўно я тога хы́рлішчу ні сустрюкаў, іньціресна б ны яго пыглядзець.*

ХЫРЛАЎ, ХЫРЛІН *прым.* Прыналежны хваравітай, змарнелай асобе. *Я чую, што ета хы́рлыва сапеньня. Наслухыюцца хы́рліных рызгаворыў, тады самі трілюды пы дзяреўні разносюць. Памянш.* ХЫРЛАЧКАЎ, ХЫРЛІЧКІН. *Ні чыпайціся вы с хы́рлычкывыю выпріжжу, толька сквілу надзелыіця. І Лідка стыяла, слухыла хы́рлічкіны трілюды, як тая ў турксіні Віцьку устреціла.*

ХЫРЛЫ *мн. метаф.* Хвароба. *Нейкія хы́рлы нываліліся, трецьцій месіц кахікыіць, нічога ні праходзіць.*

# Ц

ЦАДЗІЛКІ *мн. перан. груб.* Вялікія губы. *Як разьвесіць свае цадзілкі, нулюбуісься. Памянш.* ЦАДЗІЛАЧКІ. *Умеіць цадзілычкі руспускаць, хуць і ня ўчыў ніхто. Павеліч.* ЦАДЗІЛІШЧЫ. *Ну й цадзілішчы ж у нявесткі, зыцалуіць!*

ЦАЛАВАННІК, ЦАЛАВАЛЬНІК, ЦАЛАВАЛЬШЧЫК, ЦАЛАВАЦЕЛЬ *м. гумар.* Той, хто цалуе. *Нямнога ждаць асталыся, скора прібігаць вашы цулуваньнікі. Вун глядзі, бягіць Анюткін цулувальнік. Ладныга цулувальшчыка пучшукала сабе Хрузычкіна меншыя. Трошку пычынала цямнець, дык бег Машычкін цулуваціль, ажно соп. Памянш.* ЦАЛАВАННІЧАК, ЦАЛАВАЛЬНІЧАК. *Задзірістыга цулуваньнічка ныйшла сабе твыя Зінычка. У Мугулёў паехыў яе цулувальнічык, сяньня ні прібягіць.* ЦАЛАВАННІЦА, ЦАЛАВАЛЬНІЦА, ЦАЛАВАЛЬШЧЫЦА *ж. Ці ты ні знаіш, чаго ета Паўлікыва цулуваньніца хмуріцца? Не, сяньня вашы цулувальніцы далёка, ня прідуць. Пабег Баріс к сваёй цулувальшчыцы.*

ЦАЛЕЙШАНЬКІЙ *прым. памянш.* Цалейшы. *Надзенька ты карішнівый пінжачок, ён, знаць, цалейшынькій.*

ЦАЛПОНЕННЕ *н. неадабр.* Пустыя размовы. *Відзілі мы, стыяла Каця кулу пулусадніка, слухыла Трахімыва цалпоніньня.*

ЦАЛПОНЕННІК *м. неадабр.* Той, хто гаворыць пустое. *Ні астануся я, дужа мне аньцірес цалпоніньніка слухыць.* ЦАЛПОНЕННІЦА *ж. Рызьвіла цалпоніньніца свае трілюды, слухыйця, каму ныравіцца.*

ЦАЛПОНІЦЬ *незак. неадабр.* Гаварыць пустое. *Якея новысьці Прыхароўна вам цалпоніла?* ЦАЛПОНІЦЦА *незак.* Перагаворваць пустое. *Ня дужа быльшая ахота іціць туды цалпоніцца.*

ЦАЛЮХЦЕНЬКІЙ, ЦАЛЮХЦЕНЕЧКІЙ *прым. памянш. эмац.* Цалюткі. *У Стылбакоўшчыні цалюхцінькыю лубку нукулупаю бырывічкоў і як пынясу ны бызар, ладна за іх вазьму. Цалюхцінічкій дзень ні пыклыдаіць рук, усё поріцца і поріцца, дужа прыцыўная старуха.*

ЦАПАННЕ *н.* Хапанне. *Ну што ты, даволін ца́пыньнім, ныцапыў у бабы канхвет большы, чым нада.*

ЦАПАННІК *м.* Той, хто хапае. *Нікрасіва ты, ца́пыньнік, дзелыіш, ета табе дарым ні абойдзіцца. Памянш.* ЦАПАННІЧАК. *Ты ладный ба мальчык быў, каб ні такей ца́пыньнічык.* ЦАПАННІЦА *ж. Ох, ты ўзілася ца́пыньніца, з рук гатова яблыка вырвыць.*

ЦАПЯЛЬНІЧОК *м. памянш.* Дзяржанне ў цэпе. *Аць-сякі ў лесі арешын ны пару цыпільнічкоў.*

ЦАРАПКАННЕ *н.* Драпанне. *Січаж жа уніміся с цыра́пкыньнім, а то я скора уніму ремнім!*

ЦАРАПКАННІК *м.* Той, хто драпаецца. *Я цыра́пкыньніка жыва ныцырапыю, як мыхрач вазьму.* ЦАРАП-КАННІЦА *ж. Зыріўла цыра́пкыньніца і ўзноў пабегла жаліцца.*

ЦАРАПКАЦЬ *незак.* Драпаць. *Калі ні пірістаніш яго цыра́пкыць, пу руках буду біць.* ЦАРАПКАЦЦА *незак.* Драпацца. *Будзіш мучыць кошку, а йна пычанець цыра́пкыцца.*

ЦАРЫЦА *ж.* Назва сорту белай бульбы. *У нас на хутырі была белыя бульба, яе звалі царіца, посьлі неік зьвяліся зь яе.*

ЦВЕРДАВАТЫЙ *прым.* Адносна цвёрды. *Не, мяса ішчэ цьвірдува́та, ніхай кыпілінычку пыкіпіць. Памянш.* ЦВЕРДАВАЦЕНЬКІЙ. *Мулувата варілыся твыя бульба, цьвюрдува́цінькыя, ёй нада кіпець мінут дзесіць.*

ЦВЕРДАЧЫНА *ж. эмац.* Цвёрдасць. *Тыкая цьвірдачы́на, што плуг у зямлю ня лезіць, выскакывыіць. Памянш.* ЦВЕРДАЧЫНКА. *Нейкыя цьвірдачы́нка пыявілыся.*

ЦВЁРДАЕ *прым.* Абавязковы павышаны падатак на таго, хто адмаўляўся ўступаць у калгас. *Якея дураты ні тварілыся, цьвёрдым апклыдалі, тады на высылку пісалі, — усяго було.*

ЦВЁРДЗЕНЬКІЙ, ЦВЁРДЗЕНЕЧКІЙ, ЦВЯРДЗЮ-СЕНЬКІЙ, ЦВЯРДЗЮСЕНЕЧКІЙ *прым. памянш.* Цвёрды. *Цьвёрдзінькія мызалі за лета нацёр, відна, што ні гуляў. Гарошыны цьвёрдзінічкія, ні кусай, зубкі можыш пулумаць. Цьвярдзю́сінькія бабінкі, іх нада паріць, а тады есьць. Цьвярдзю́сінічкыя скулка і красьнінькыя. Павеліч.* ЦВЯР-

ДЗЕННЫЙ. *Во запёкся хлеб, скарінка цьвярдзенныя, што нож ня режыць, гнецца.*

ЦВЯКЧЭННЕ *н.* Чвяканне. *Як ступаіш, дык цьвякчэньня пыд ныгамі, мокра, усё вадою ныбралыся.*

ЦВЯКЧЭЦЬ *незак.* Чвякаць. *Настолька дажджы ныліілі, зімля цьвякчы́іць, айдзе ні станіш.*

ЦВЯТАСТЫЙ *прым.* Квяцісты. *Помніш, пріхадзіла к Сахроныбым дзеўка у такім цьвіта́стым платку. Памянш.* ЦВЯТАСЦЕНЬКІЙ. *Красівыю сабе цьвіта́сьціцінькыю кохтычку пашыла Анька, Мішка зулюбуіцца.*

ЦЕЛАГРЭЕЧКА *ж. памянш.* Целагрэйка. *Ды чаго ж удобныя цілагреічка, і ўсігда у ёй цёпла.*

ЦЕЛЬПУШЫНА, ЦЕЛЬПУШЫНІНА *ж.* Асобны кароткі кавалак бервяна. *Каб напыл піріпіліў цільпушы́ну, рыскалоў, дык ба печ вытыпіў. Яшчэ адну цільпушы́ніну разьбі і хваціць закінуць. Памянш.* ЦЕЛЬПУШЫНКА, ЦЕЛЬПУШЫНІНКА. *Асталіся цільпушы́нкі ніпірябітыя, ці табе будзіць урэмя разьбіць іх? Астатнія цільпушы́нінкі рыскалі толька пупылам.*

ЦЕЛЯПАННЕ *н.* Матлянне. *Глядзець ны ціліпаньня нікрасіва, усё дно як хвост ззаду бууўтаіцца, пыдвяжыся акуратна.*

ЦЕПАНУЦЬ *зак. метаф.* Папарыць. *Пакуля ма́лых ціпанеш, заморісься, і сам ні памыісься.* ЦЕПАНУТЫЙ *дзеепрым. Троху ціпану́ты, ніхай абдаюцца ды ныдзіваюцца.*

ЦЕРАБЕНЕННЕ *н. метаф.* Пустыя размовы. *Разьві ты ні пызнаеш, чыё ета цірябеніньня, Вулічку усюдых па голысу пызнаіш.*

ЦЕРАБЕНІЦЬ, ЦЕРАБЕНІЦЦА *незак. метаф.* Гаварыць пустое. *Як пычануць цірябеніць, адна хырашо, а другая яшчэ луччы, паспробый піряслухый. Стыялі кылы Мікітывых, цірябеніліся, і твой слухыў.*

ЦЕРАБІЛЬЦАЎ *прым.* Прыналежны таму, хто цярэбіць. *Цірябі́льцыва работа даецца, пымыхай-ка тыпаром дзень у дзень.*

ЦЕРАБІЛЬШЧЫК, ЦЕРАБІЛЕЦ, ЦЕРАБІЦЕЛЬ *м.* Той, хто высякае кусты, абсякае дрэвы. *Нешта зыработыліся цірябі́льшчыкі, ікая пыра, а іх ня чутна. Адзін цірябі́ліц атработыў сваё, чуць пляцецца. Вун ён, ны бярёзі*

*сядзіць, ну суках, твой цірябіціль, аддыхаіць тама.* ЦЕРАБІЛЬШЧЫЦА *ж. Заседзіліся цірябільшчыцы ў кустах, пыныравілыся работа.* ЦЕРАБІЛКА 1 *ж.* Тая, што высякае кусты, абсякае дрэвы. *Гатоўся абедыць, скора цірябілкі падойдуць.* 2 *м.* і *ж. перан. іран.* Балбатун. *Ізьвесныя цірябілка твой сват, усігда лухту прець.* ЦЕРАБІЛАЧКА *ж.* Балбатуха. *Во ікая цірябілычка: нічога ня відзіла, а ўсё знаіць.*

ЦЕРАБЛЕННІК *м.* 1. Той, хто высякае кусты, абсякае дрэвы. *Цірябленьнік ужо зьлез зь ліпы, нылівай абед, ніхай стыніць.* 2 *перан.* Той, хто катурхае. *Як штурхнець высьпіткым, дык цірябленьнік атляціць, што мячык.* 3 *перан.* Той, хто рашуча гаворыць. *А што, і паслухылі Анісывыга цірябленьніка, ён праўду резыў.* 4 *перан.* Добры ядок. *Ны смак ні глідзяць цірябленьнікі, абы пад'есьць.* ЦЕРАБЛЕННІЦА *ж.* 1. Тая, што высякае кусты, абсякае дрэвы. *Ваша цірябленьніца, кылі хочыцья, бязь лесьвіцы узьдзярецца на вербу.* 2. Тая, што катурхае. *Ня слухыіць Антон цірябленьніцу, ні ўстаець, пывярнуўся ну другей бок.* 3. Тая, што рашуча гаворыць. *Ета цірябленьніца гаворіць, што думыіць.* 4. Тая, што са смакам есць. *Як сядуць кругом стыла цірябленьніцы, толька спруўляйся ім стынавіць.*

ЦЕРАЗ *прысл.* Праз бераг, край. *Ні нылівай церіз, мне пыцьціраць ныдаела. Выда січас церіз пойдзіць.*

ЦЕРАЗМЕРНА *прысл.* Празмерна. *Цірязьмерна вы руспусьціліся, мальчыкі, нада ны вас харошый бацька.*

ЦЕРАЗМЕРНАСЦЬ *ж.* Празмернасць. *Цірязьмерныcьці я ні ў чом ні люблю, пы чаркі ўзялі і хваціць.*

ЦЕРАЗМЕРНЫЙ *прым.* Празмерны. *Ні нада купляць цірязьмерныя адзёжы, тады яе пытклыдай, пычшывай.*

ЦЕРАСЧУР *прысл.* Вельмі, празмерна. *Як ціряшчу́р вісокій хлопіц, мне тожа ні ныравіцца.*

ЦЕРАСЧУРНЫЙ *прым.* Празмерны. *У яе многа ціряшчу́рных забот: і дзяцей глядзі, і сы скатом упруўляйся — і ўсё ў адны рукі.*

ЦЕРПА *ж.* Маленне. *Яе церпу як паслухыіш, дык нысьмяесься: іна і ны карову крікніць, і сьвіньней прагоніць.*

ЦЕРЦЬ *незак. перан.* Заціскаць (пра парасят). *Зы сьвіньнёю ўсігда нада глядзець ды глядзець, яны дужа труць*

*пырысят*. ЦЕРЦЦА *незак*. Доўга знаходзіцца. *Якея ў яго дні, паўгода цёрся пы бальніцых, ні работыў.*

ЦЕСАНУЦЬ *зак*. Крыху абчасаць. *Збоку гарбінку нада цісанýць, іна будзіць дужа вісець*. ЦЕСАНУЦЦА *зак*. Крыху абчасацца. *Во тута трошку цісанецца, і кладзіця бярно, хваціць зь ім масьліцца*. ЦЕСАНУТЫЙ *дзеепрым*. *Можна цісанýтых палык выбрыць, тута іх многа.*

ЦЕЦІВА *ж*. Націна (звыч. у бульбе). *Цiцівý выгнула бальшую, а бульба дробнінькыя. Памянш*. ЦЯЦІЎКА, ЦЯЦІВАЧКА. *Дробнінькыя цяцíўка: суха, — дажджы пойдуць, можа ныправіцца. Пырысяты цяцíвычку папорцюць, згыняй скарей!*

ЦЁГАННЕ *н. метаф*. Швэнданне. *А што ты зьдзелыіш, кылі яму такоя цёгыньня дужа ныравіцца.*

ЦЁГАЦЬ *незак*. 1. Цягаць. *Як сталі цёгыць снапы, пырасьцёгылі пы ўсяму кусочыку, я сыбірала*. 2 *метаф*. Вымушаць да швэндання. *Чаго іх бяс толку цёгыіць пы дзіріўнях?* ЦЁГАЦЦА *незак*. Швэндацца. *Будзіць цёгыцца і цёгыцца як сьвет біз ума, работы ня жджы.*

ЦЁЛКІН *прым*. Цялушкін. *Цёлкіна поіла у старінькім вядре, як прібягіць с поля, напоіш. Памянш*. ЦЁЛАЧКІН, ЦЯЛУШАЧКІН. *У цёлычкіна вядзерца нічога ні кідай, я яго спыласнула, ніхай чысьцінькыя будзіць. Цялýшычкіна сена збоку ляжыць, трошку пыгыдзя дай.*

ЦЁПАННІК, ЦЁПКАННІК *м*. Той, хто паволі парыцца. *Выгыняй цёпыньнікыў з бані, ато яны да поўнычы ня вылізуць. Твае цёпкыньнікі як узьлезуць ны палок, іх хуць сьцягывый*. ЦЁПАННІЦА, ЦЁПКАННІЦА *ж*. *Баня пыныравілыся цёпыньніцым, што ныдзівацца ня хочуць. Ніхай-ка цёпкыньніцы кынчаюць ды выходзюць, дос ім расьседжывыцца.*

ЦЁП-ЛЁП *прысл*. Абы-як, нязграбна, неакуратна. *У цябе ўсігда дзелыіцца цёп-лёп, не каб складсьць як у людзей.*

ЦЁР *выкл*. Пра трэнне. *Голым плячом цёрь аб бярёзу, кажыцца, нясільна цірнуўся, а ды крыві.*

ЦЁС *м*. Часанне. *Па цёсу можна пызнаць, ці ета масьцір дзіржаў тапор, ці няўмека.*

ЦЁСЬКАННЕ *н*. Падзыванне каровы выгукам «цёсь». *Ныдаелі сь цёськыньнім, ні даюць карові скусьць.*

ЦЁСЬКАННІК *м.* Той, хто падзывае карову выгукам «цёсь». *Ета Хлімоныў цёськыньнік, я па голысу апрідзіляю любога.* ЦЁСЬКАННІЦА *ж. Ня слухыіць карова твае цёськыньніцы, зынілася ны клівярку і скубець.*

ЦЁСЬКАЦЬ *незак.* Падзываць карову выгукам «цёсь». *Па голысу, дык ета Нінка цёськыіць, толька чаго б ёй там быць.*

ЦЁЦІШЧА *ж. экспр.* Мажная жанчына. *К ім свыцьця́ пріїжджала, во ета цёцішча — пудоў ны дзьвінаццыць!*

ЦІКУН *м.* Балотная трава. *У нас ету траву завуць ціку́н, рысьцягывыіцца пы маху́ як гарбуз.*

ЦІЛІКАННІЦА, ЦІЛІЛІКАННІЦА *ж.* Птушка, якая шчабеча. *Паслухый-ка, сколька цілі́кыньніц на ліпу зьляцелыся. Нейкыя цілілі́кыньніца сядзіць на верьбі.*

ЦІМАХВЕЕВІЧКА *ж. памянш.* Цімафееўка. *Густа цімахвеівычка узыйшла, харошыя сімяно пупалыся.*

ЦІНЦЕННЕ *н. эмац.* Балаканне. *Сяньня вы, кажыцца, усё іх ціньціньня піраслухылі і ні зымаріліся.*

ЦІНЦІЦЬ, ЦІНЦІЦЦА *незак. эмац.* Балакаць. *Ці скора яны кончуць ціньціць, ужо ўсё па дзесіць раз пірігывари́лі. Сядзелі ну зугуваліні, ціньціліся, — ета ўсё іх зыняція.*

ЦІНЯНЁХАННЕ, ЦІНЯНЁХКАННЕ *н. эмац.* Пялеганне, песты. *Пріўчылі дзяўчонку к цінянёхыньню, цяперя як паложыш, іна ў сьлёзы. А мне цінянёххыньня рукі атырвала, дык ён жа ня хочыць сядзець.*

ЦІНЯНЁХАННІК, ЦІНЯНЁХКАННІК *м. эмац.* Той, хто пялегуе, песціць. *Носіцца цінянёхыньнік зь дзяўчонкыю, звучылі яе з рук ні зьлізаць. А што, с Колі пулучыўся ніплахей цінянёххыньнік.* ЦІНЯНЁХАННІЦА, ЦІНЯНЁХКАННІЦА *ж. Скора пыдбягіць твыя цінянёхыньніца, тады зь ёю нынянчысься. Не, Каця ня будзіць цінянёххыньніцыю, іна балывыць дзіцёнка ні станіць.*

ЦІНЯНЁХАЦЬ, ЦІНЯНЁХКАЦЬ *незак. эмац.* Пялегаваць, песціць. *Манька усё сваіх унучык цінянёхыіць, яны як нылітэя. Толька што ну руках сваю крысавіцу ні цінянёххыіць.* ЦІНЯНЁХАЦЦА, ЦІНЯНЁХКАЦЦА *незак.* Нянчыцца, песціцца. *Ні нада столька цінянёхыцца зь імі,*

*тады яны спыкайнейшыя будуць. Вун як баба с унучкыю цінянёхкыіцца, дужа любіць яе.*

ЦІНЯПУХ *м. эмац.* Невысокі тоўсты чалавек, сытае дзіця. *Цяжолый стаў ціняпу́х, ужо гыварiць пычынаіць, есьць разым з намі.*

ЦІСКАНУЦЬ *зак. метаф.* Моцна пачацца (пра хваробу). *Балезьня як цiскану́ла, усю зіму прыкычаўся, толька ны вясну нямнога выпыўз.*

ЦІСКАТНЯ *ж. эмац.* Цесната. *Тыкая ціскытня́ была ў аўтобусі, ня то што сесьць, стыяць ні маглі.*

ЦІСЧЭЙ *прысл.* Мацней. *Нада цішчэй воз увязывыць, дарога дрёгкыя, рыстрясецца.*

ЦІТАВАЧКА *ж. памянш.* Цітаўка (яблыня і плод). *Нада б яшчэ пару ці́тывычык пысадзіць, ета харошый сорт, як дасьпеюць — заесца.*

ЦІЎКАННЕ *н. перан.* Падаванне голасу. *Я думыла, ён тама скапыціўся, не, чую ціўкыньня: крупені просіць.*

ЦІЎКАЦЬ *незак. перан.* 1. Гаварыць, падаваць голас (звыч. пра дзіця). *Ны палу сідзяць у вугалочыку і ціўкыюць пра нешта.* 2. Жыць, існаваць. *Ну як ты, гадок, ішчэ ціўкыіш патроху?* ЦІЎКАЦЦА *незак.* Жыцца. *Калі ціўкыіцца троху, дык сядзі і маўчы.* ЦІЎКНУЦЬ *зак.* Сказаць, падаць голас. *Хто тама ціўкнуў за коміным?*

ЦІХАМІРНА *прысл.* Ціха, спакойна. *Ні знаю, ці абойдзіцца ціхамі́рна ета свадзьба, гырыччані могуць бузу ўзьняць. Памянш.* ЦІХАМІРНЕНЬКА. *Ныўряд ці палучыцца у іх ціхамі́рніька.*

ЦІЦЮПАННЕ, ЦІЦЮПКАННЕ *н.* Пацмокванне пры падганянні каня. *Ніякыга ціцю́пыньня я ня чуў, у нас галдзелі ў хаці. Ета ці ні Пынасыва ціцю́пкыньня, ён усігда так пыдгыняіць Быбка.*

ЦІЦЮПАЦЬ, ЦІЦЮПКАЦЬ *незак.* Пацмокваць пры падганянні каня. *Хырашо я ні пызнаў, ну па голысу дык Пілiпёнык ціцю́пыў. Кыла логу нехта ціцю́пкыіць, ці ні браў тама хто сена.*

ЦІШОЧКАМ *прысл. памянш.* Цішком. *Усё дзелылыся цішочкым, паетыму ніхто ня чуў.*

ЦМОКАННЕ *н. перан.* Піццё з прыемнасцю. *Яны ўсё глядзелі ны Высілёва цмокыньня.*

ЦМОКАЦЬ *незак. перан.* Піць з прыемнасцю. *Ладна цмокыюць, адзін ад другога ні ацстаюць.* ЦМОКАЦЦА *незак.* Піцца з прыемнасцю. *Яму нядренна цмокылыся і ў суботу, і ў скрысеньніка.* ЦМОКНУЦЬ *зак.* Выпіць з прыемнасцю. *Точна я ні знаю, ну, па-мойму, яны цмокнулі у Кулініныя нявесткі.* ЦМОКНУЦЦА *зак.* Выпіцца з прыемнасцю. *Ім ба цмокнулыся, каб хто пыставіў.*

ЦМЫГНУЦЬ *зак.* Забегчы, глянуць (пры пошуках). *Туды цмы́гнула, сюды, думыла, длі яе тут накладжына і ныгатоўліна.*

ЦОПАННЕ, ЦОПКАННЕ, ЦУПАННЕ, ЦУПКАННЕ *н. метаф.* 1. Тупанне па гразі. *Калі табе цопыньня дужа ныравіцца, ідзі. Ні хыдзьба, а цопкыньня, глядзі, ногі выцігніш, а боты там астануцца сядзець. Ныдаела мне цу́пыньня, кажный дзень грязь і грязь. Знаю, што будзіць цу́пкыньня, а йціць нада.* 2. Квэцанне. *Пыглядзіця вы на іх цопыньня, што яны вытвыряюць. Ні ныравіцца мне тваё цопкыньня, ты і да вечыра ня выбірісься. У вас як пычанецца цу́пыньня, дык няскора кончыцца. Січаж жа пірістаньця мазыцца, а то палучыця за цу́пкыньня!*

ЦО-ЦО-ЦО *выкл.* Цмоканне пры падзыванні свіней. *Як пацокыіш цо-цо-цо, сьвіньні зразу бігаць.*

ЦУГНУЦЬ *зак. эмац.* Зраўняцца. *Гады яе бальшэя, ёй ні цугну́ць з вамі.*

ЦУГУНОК *м.* Невялікі чыгун. *Хацела пыдыйціць у горыд, другей цугунок сабе пыглядзець. Памянш.* ЦУГУНЧЫК, ЦУГУНОЧАК, ЦУГУНЧЫЧАК. *Мае дужа любюць быракі, я ім пасьці кажный дзень цугу́нчык ґ жару прістыўляю. У цугуночыку кылы дна дзірічка, прыгареў ці працёрся. Ны заўтрік варіла цугу́нчычык галык з новыя бульбы.*

ЦУРБОЛЕННЕ, ЦУРБЭНЕННЕ *н. метаф.* Неакуратнае ліццё, наліванне. *Астыражней іс сваім цурболіньнім, забрызкылі усё кругом. Ну й цурбэніньня: пылавіна ў шайку, пылавіна міма.*

ЦУРБОЛІЦЬ *незак. метаф.* Ліць, наліваць неакуратна. *Дос у цеста ваду цурболіць, сьвіньні есьць ня*

*будуць.* ЦУРБОЛІЦЦА *незак.* Ліцца, налівацца неакуратна. *Як ета у цябе цурболіцца, ты січас усю хату пытплавіш.*

ЦУРБОЛЯ, ЦУРБЭЛЯ *м.* і *ж. метаф.* Той, хто неакуратна лье, налівае. *Пыглядзі, якоя возіра етый цурболя зьдзелыў у сенцых. Ізьвесныя дзела — цурбэля узілася зы работу, хадзі усьлед с тряпкыю і пыцьцірай.*

ЦУРКУН *м.* Прадмет, падобны да калоды. *Во цуркуні ліжаць, будзіця ды самыя зімы гурбузовыю кашу есьць. Памянш.* ЦУРКУНОК, ЦУРКУНЧЫК. *Во цуркункі бруквіны, хуць садзіся. Кычаны як цуркўнчыкі, адзін чуць пыдняць.*

ЦЫБУЛЬНІК *м.* Ахвотнік да цыбулі. *Вун бегыіць мой цубўльнік, кажыцца б, затохся цубулію. Памянш.* ЦЫБУЛЬНІЧАК. *Ачшчыпні цубўльнічку нескылька пёрык.* ЦЫБУЛЬНІЦА *ж. Січас пыкармлю сваіх цубўльніц і пойдзім.*

ЦЫВА, ЦЫЎКА *ж. метаф. іран.* Пляткарка. *Як ты мыгла такой цыві паверіць, іна адно слова пачуіць, а дзесіць прікладзець. Што там атказывыцца, ладныя цыўка была Домнычка, наплесьць усяго мыгла. Памянш.* ЦЫВАЧКА. *Ты паслухый Храсіньніну цывычку, тады ні так станіш дзівіцца.*

ЦЫГАНЕННЕ *н.*, ЦЫГАНШЧЫНА *ж.* Выпрошванне. *Мне іхныя цыгáніньня ныдаела большы некуды. Ці ня думыіш ты пайціць пы цыгáншчыні?*

ЦЫГАННІК *м. метаф.* Той, хто дакучліва выпрошвае. *Зы хвастом ходзюць цыгыньнікі, ныдыідаюць: тоя ім дай, ета прігатуй.* ЦЫГАННІЦА *ж. Во другая цыгыньніца будзіць пуўдня ныдыідаць.*

ЦЫГНУЦЬ *зак. эмац.* Прапішчаць (пра кураня). *За погрібым у бульбоўніку ціплёнык цыгнуў, ідна, ат квакухі астаўся.*

ЦЫПАННЕ *н. эмац.* Нясмелая хада. *У яе такоя цыпыньня: два шагі ступіць і аддыхаіць.*

ЦЫПАННІК *м. эмац.* Той, хто нясмела ідзе. *Вун як цыпыньнік ходзіць пірід Адаркыю, можа іна цёшчыю будзіць.* ЦЫПАННІЦА *ж. Чуць нуступаіць ны нагу цыпыньніца, доўга ў бальніцы ліжала.*

ЦЫПАЦЬ, ЦЫПАЦЦА *незак. эмац.* Ісці нясмела. *Пы хаці трошку цыпыіць, ны правыю нагу чуць стано-віцца. Цяжола ёй цыпыцца, ногі ня хочуць служыць.* ЦЫПНУЦЬ *зак.* Прайсці нясмела. *Ат печы ды лаўкі чуць цыпнула.*

ЦЫП-ЛЫП *выкл.* Пра дарэмныя пошукі. *Туды-сюды цып-лып — нійдзе німа вязёнык, айдзе яны маглі дзецца!*

ЦЫРАБЕНЕННЕ *н. неадабр.* Расказванне. *Мікіта мінут дзесіць паслухыў цырабеніньня і пашоў двору.*

ЦЫРАБЕНІЦЬ *незак. неадабр.* Гаварыць, расказваць. *Відна, нешта аньцiресныя цырабеніла Дзёмчыха, дайжа Верка стыяла, слухыла.* ЦЫБЕНІЦЦА *незак.* Размаўляць. *Як пычалі цырабеніцца з раньня, дык чуць кончылі к абедым.*

ЦЫРАВАННІК *м.* Той, хто цыруе. *Вун твой цуру-ва́ньнік сядзіць кыла ступы, зь мішкамі кулупаіцца.* ЦЫРАВАННІЦА *ж. Ні сьпяшыць цурува́ньніца, яе ўремя ўсігда церьпіць.*

ЦЫРКУН *м. эмац.* Той, хто займаецца дробязнай справай. *Над нейкімі бляшычкымі порiцца цырку́н другей дзень. Памянш.* ЦЫРКУНОК, ЦЫРКУНЧЫК. *Вот і цыркунок найшоў сабе зыняція. Ніхай хуць ш чым-небудзь зоймiцца цырку́нчык.* ЦЫРКУННЯ *ж. У сваіх тряпкых усё кыпаіцца, пiрiбiраiць, ныстыяшчыя цырку́ньня.*

ЦЫРЛЫ *мн. эмац.* Нязручны абутак. *Ходзіць у цы́р-лых, у яго ногі, як нада, ня гнуцца.*

ЦЫТРУГА *ж. павеліч. асудж.* Сварлівая жанчына. *Ні падумыў ба, што Ліксандра такою цытру́гыю станіць.*

ЦЫЎКАЦЬ *незак.* Ціўкаць (пра куранят). *Ціпляты рыспаўзьліся біс квакухі, па бульбі цы́ўкыюць.*

ЦЭВАЧКА *ж. памянш.* Цэўка. *Нескылька цэвычык вун ляжыць, я іх скора датку.*

ЦЭЛКА *прысл.* Метка. *Мішка цэлка кідаіць. На етый раз ты цэлка махнуў.*

ЦЭЛКІЙ *прым.* Меткі. *Во хто быў цэлкій стрялок — Шурік, пойдзім на зборых стріляць, у яго луччы ўсіх пулучаіцца.*

ЦЭПАННЕ, ЦЭПКАННЕ *н. эмац.* Хапанне. *Табе можыць крепка ўляцець зы такоя цэпыньня. Пірістань с цэпкыньнім, я січас пыдзялю вам ігрушкі.*

ЦЭПАННІК, ЦЭПКАННІК *м. эмац.* Той, хто хапае. *Хочыць пу руках цэпыньнік і січас палучыць. Рызбалывыўся ты, маліц, раншы ты ня быў такей цэпкыньнік.* ЦЭПАННІЦА, ЦЭПКАННІЦА *ж. Ці відзіш, што вытвыряіць ваша ціхінькыя цэпыньніца? Айдзе ты, цэпкыньніца, наўчылыся пряма іс-пад рук ірваць?*

ЦЭПАЦЬ, ЦЭПКАЦЬ *незак. эмац.* Хапаць. *Каб ты меншы канхветы цэпыў, дык ба саўсім слаўный дзіцёнык быў. Пірістань цэпкыць яблыкі, ты ж усё роўна ні пыясі.* ЦЭПАЦЦА, ЦЭПКАЦЦА *незак.* Хапацца. *Ох, як у вас лоўка пыпряньнікі цэпыюцца! Ладна ягыдкі цэпкыюцца, толька сыбіраць ты ня любіш.*

ЦЮК *м.* Пападанне ў манеты бітою пры гульні «У грошы». *У, сколька мы дзіцямі гулялі у грошы, як пупадзеш у капейкі, ета ўжо цюк, зразу зыбіраіш усе. Памянш.* ЦЮЧОК. *Во гулец, трецьцій цючок пыдряд зыбіраіць!*

ЦЮКАННЕ *н.* Лёгкія ўдары сякерай. *Я ўпацёмкых чула нейкыя цю́кыньня ў кустах, — хто тама быў?*

ЦЮПКАННЕ *н. эмац.* Лёгкае паранне. *Пыдыйшла, пыстыяла, чую цю́пкыньня, я ныза́д пышла.*

ЦЮПЦІН *прым.* Прыналежны нязграбнай, неакуратнай асобе. *Зразу відна, што цю́пціна мыцьцё.*

ЦЮРНУЦЬ *зак.* Пагнаць, штурхнуць. *Як цюрнець етыга кывалера аць сябе, ён чуць ні пыляцеў потырч носым.*

ЦЮХ *выкл.* Пра павольную мяккую хаду. *Ішоў зь якім-то мяшочыкым і Ганна усьлед цюх, цюх с кашолкыю.*

ЦЮХЕЛЬ *м.* Абібок. *Што ты пры яго скажыш, ета із'ьвесный цю́хіль, ён ні разу ні работыў. Памянш.* ЦЮХЯЛЁК, ЦЮХЯЛЁЧАК. *Зыдаўся пы бацьку цюхялёк, лындыіць і лындыіць. Змалку відна, што цюхялёчык будзіць. Узмацн.* ЦЮХЯЛІНА. *Ну й цюхялі́на, яго колым ні зыставіш што зьдзелыць. Павеліч.* ЦЮХЯЛІШЧА. *Якей жа ён цюхялі́шча, яму на печы лень пірівярнуцца.*

ЦЮЦЕЛЬКА *ж. эмац.* Вельмі малая частка, колькасць. *Цю́цілька ацьсечына, сікані ладна, ні жалей.*

*Памянш.* ЦЮЦЕЛЕЧКА. *Самый круюшок, цю́цілічку падрежым і хваціць.*

ЦЯГ *м.* 1. Цяга. *Склаў печ, а цяг саўсім слабый, дык піріклыдаў комін і ніжы нешта пупруўляў.* 2 *перан. эмац.* Злодзей. *Ні кідай дзьвері нізачынітымі, нарьвецца якей цяг і што пынясець.*

ЦЯГАВІТА *прысл.* Вынослiва. *У Косьцікывы гады цігаві́та дзелыць ня будзіш, трошку пымітаісься ды адыхай.*

ЦЯГАНКА *ж. асудж.* Пахатуха. *Ісь ціганкі ні ў век хызяйкі ні було і ня будзіць, звыкла і звыкла апхадзіць дзяреўню. Памянш.* ЦЯГАНАЧКА. *Будзіць ціга́нычка, як большыя, во што зь яе палучыцца.*

ЦЯГАННІК, ЦЯГАЛЬНІК, ЦЯГАЛЬШЧЫК *м.* Той, хто цягае, выцягвае. *Каб тама ціга́ньнікі карзінкі адзін другому ны гылаву ні ўпусьцілі. Ціга́льнікі вун кулу кустоў аддыхаюць, зымаріліся. Етый ціга́льшчык ня дужа рысхваціцца работыць.* ЦЯГАННІЦА, ЦЯГАЛЬНІЦА, ЦЯГАЛЬШЧЫЦА *ж. Ідуць мае ціга́ньніцы, ныработыліся, ну сеіць бульбы нывыцягывылі. Адна ціга́льніца такую кучу ні пірівалочыць, нада паможч. Удзьвюх ціга́льшчыцы як узяліся, зы час усё кончылі.*

ЦЯГАЦЕЛЬ, ЦЯГАЦЕЛЬНІК *м.* 1. Той, хто цягае, выцягвае. *Узяўся ціга́ціль зы граблі, зачэпіць за што кліцамі і пулумаіць. Ныцігаліся нашы ціга́цільнікі, зымаріліся, ліжаць зу кустом.* 2 *перан.* Той, хто швэндаецца. *Зьдзелыўся ціга́ціль, палкі дроў у дваре ні піряськепіць. І етый станіць ціга́цільнікым, як большый, ужо січас у дваре ні стыкаіцца.* ЦЯГАЦЕЛЬНІЦА *ж.* 1. Тая, што цягае, выцягвае. *Во якую хвырасьціну вылакець твыя ціга́цільніца!* 2. Тая, што швэндаецца. *Штоб дзеўкі такою ціга́цільніцыю быць, ета ж стыд і пазор!*

ЦЯГАШЧЫЙ *прым.* 1. Бяздомны. *Ета нейкій ціга́шчый сыбака, прыгані яго.* 2 *асудж.* Распусны. *Іс сымае пуця ні було, і дычка зыдылася ціга́шчыя.*

ЦЯГЛО *н. перан.* Цяжар. *Нілізя дзяўчонкі такоя цягло цягнуць, тут жа біз ма́лыга, біз ма́лыга два пуды весу.*

ЦЯГНУЦЬ *незак. перан.* Знімаць (пры гульні ў карты). *Ты ў мяне ні разу ні атаб'есься, прідзіцца табе*

*трецьцій раз цягнуць.* ЦЯГНУЦЦА *незак.* Не ўступаць у цане. *Зы дзісятку пычаў цягну́цца і ні прыдаў пырысят, прівёз двору.*

ЦЯГУЧАНЬКІЙ *прым. памянш.* Вынослівы, цягавіты. *Раншы быў цягу́чынькій, цяперя ня тоя, пыслабеў. Выш. ст. пар.* ЦЯГУЧЭЙШЫЙ. *Пятрок цігучэйшый зы Ціхона, за што ня возьміцца, бісь пірядышкі дзелыіць і дзелыіць. Памянш.* ЦЯГУЧЭЙШАНЬКІЙ. *Скора Сямён зымаріўся, я думыла, ён цігучэйшынькій.*

ЦЯГУЧАСЦЬ *ж.* Вынослівасць, цягавітасць. *У стырікоў цягу́чысьць ізьвесныя: трошку пышывяліўся, а тады садзісь аддыхай.*

ЦЯГУЧКА *ж.* Павіліка (трава). *Цягу́чкі бяремца атырвала, ну скот яе ня любіць.*

ЦЯЖАЛЕННЫЙ, ЦЯЖАЛЮШЧЫЙ *прым.* Вельмі цяжкі. *Ціжаленныя ношкі вылаклі, ды зямлі гнуліся. Ціжалю́шчый воз пріцягнуў, ета Буланчык — здаровый конь.*

ЦЯЖОЛАЯ *ж. метаф.* Цяжарная. *Марьіна нявестка узноў цяжолыя, ужо ладна заметна.*

ЦЯКУЧЫЙ *прым.* Такі, які працякае. *Глядзі ж, глядзі ні ліні нічога ў старыя вядро: яно цяку́чыя, дзірічка збоку.*

ЦЯЛЁНКАЎ *прым.* Прыналежны цяляці. *Цялёнкыва вядзерца ў сенцых, січас рызьвяду яму поіла. Памянш.* ЦЯЛЁНАЧКАЎ. *Цялёнычкыва вярёўка асталыся ны абложкі, я яго за шыю прівылыкла ў пуню.*

ЦЯЛЁПАННІК, ЦЯЛЁПКАННІК *м. эмац.* Той, хто ходзіць следам. *Пырядышный маліц, а такей цялёпыньнік, цігаіцца усьлед як прівязыный. Чаго ты ні ачшыіш аць сябе цялёпкыньніка, мне б ён ужо ныдаеў.* ЦЯЛЁПАННІЦА, ЦЯЛЁПКАННІЦА *ж. Дакуля ты цялёпыньніцыю будзіш, быльшая дзевычка, стыдна так цігацца. Ніяк ты аць цялёпкыньніцы ні атвяжысься, выпрыў яе на вуліцу.*

ЦЯЛЁПАЦЬ *незак. эмац.* Ісці. *Цялёпыла у тэй бок, падзь Дзедкывічы твыя кума, дарога саўсім грязныя.*

ЦЯЛІЦЬ 1 *незак.* Прыводзіць цяля. *Трі гады пыдряд цяліла бычкоў, а сёліта цёлычка.* 2 *зак.* Прывесці цяля. *Ну-ка, ну, каго ты сёліта мне цяліла?*

ЦЯЛЬПУХ *м.* 1. Кароткі кавалак бервяна. *Цільпухі ліжаць няколыныя, толька калі.* 2 *перан. жарт.* Поўнае,

сытае дзіця. *Во цяльпу́х, ты яго ні падніміш, ён толька рягочыць. Памянш.* ЦЕЛЬПУШОК, ЦЕЛЬПУШОЧАК. 1. Кароткі кавалак бервяна. *Нятоўстый цільпушок, а ня хочыць біцца, сукі дзіржаць. Пыдажджы, я прібяру цільпушочыкі, ато ні праедзіш.* 2. Поўнае, сытае дзіця. *Во цільпушок мой, крепка абнімаіць бабу. Сідзяць цільпушочыкі ны палу, нечым зыняліся.* ЦЯЛЬПУШША *н. зб.* Кароткія кавалкі бервяна. *Напіліныя цяльпу́шша ёсьць, толька пыкалоць хлопцы ні сыбяруцца.*

ЦЯМІСТЫЙ *прым.* Цямкі, кемлівы. *Ізмалку ця́містый быў, што прычытаіць большый, ён слова ў слова рыскажыць.*

ЦЯМІЦЦА *незак. перан.* Імкнуцца, мець жаданне. *Я дужа ця́мілыся учыцца, а матка ні пускала, я толька у Зяціцу пыхадзіла.*

ЦЯПАННЕ *н. метаф.* 1. Няўмелае перасяканне. *Чую: ў кустах нейкыя ця́пыньня, а ета Ігарёнык там с тыпарком поріцца.* 2. Лясканне зубамі. *Ых, якоя ў твайго сыбакі ця́пыньня, кажыцца, пупадзіся — пупылам пірякусіць.*

ЦЯПАННІК, ЦЯПКАННІК *м. эмац.* 1. Той, хто няўмела сячэ, перасякае. *Вазьмі ты сам ды пірісякі, ато етыя ця́пыньнікі да беда правозюцца. Зыстряў ця́пкыньнік ны дрыватоньні, кольля зыцясыіць.* 2. Той, хто ляскае зубамі. *Дыдражніш, зы нагу як хваціць, будзіць табе ця́пыньнік. Ну чаго ты, ця́пкыньнік, чаго, ты ж мяне знаў.* ЦЯПАННІЦА, ЦЯПКАННІЦА *ж.* 1. Тая, што няўмела сячэ, перасякае. *Пыглідай, каб ця́пыньніца пы наге тыпаром ня цюкнула. Відзіш, як у ця́пкыньніцы работа пыдзьвігаіцца.* 2. Тая, што ляскае зубамі. *Палучыць ця́пыньніца пы лычу, іш, рысьцяпкылыся. Ні шырахонься дужа, ця́пкыньніца можыць хваціць зы нагу.*

ЦЯПЛА *ж.* Цяпло. *Сяньня тожа ні так многа цяплы́, ну троху луччы, як учора, було ж ня выйціць.*

ЦЯПЛЕЙШАНЬКІЙ, ЦЯПЛЕЙШАНЕЧКІЙ *прым. памянш.* Цяплейшы. *Цяплейшынькыя выда у чайніку. Твыя шубычка цяплейшынькыя. Ныдзівай цяплейшынічкыю куртычку, іначы пірядрыгніш.*

ЦЯПНУЦЬ *зак. перан.* Пераж
ыць, паспытаць. *Усякія жысьці іна ця́пнула ны сваім вяку.*

ЦЯРАЦЦА *незак. метаф.* Вар'яцець. *Тады замецілі, што іна стала ціряцца, гываріць што зря, а посьлі саўсім худа зьдзелылыся.*

ЦЯРПЕЛЕЦ *м. эмац.* Цярплівы чалавек. *Дацерьпіцца Іваніхін цярьпеліц, прыздравіць куму дык прыздравіць.* ЦЯРПЕЛКА *ж. Што ўжо цярьпелка была Марья, чаго іна толька ні ныпіріжывалыся! Памянш.* ЦЯРПЕЛАЧКА. *Кончыцца калі-небудзь цярьпеньня і ў Кындратывый цярьпелычкі.*

ЦЯРПЁЖКА *ж. эмац.* Цярпенне. *Ну што ты будзіш дзелыць, калі яму ні ў чом цярьпёжкі ні хвытаіць. Памянш.* ЦЯРПЁЖАЧКА. *Айдзе ж ты сваю цярьпёжычку пыціряў?*

ЦЯСЦЯНА *прысл.* Вадкавата, сыра (пра зямлю). *Ікая пахыта, на полі цісьця́на, конь будзіць тапіцца і сам пы калені у грязь уедзіш.*

ЦЯСЦЯНАСЦЬ *ж.* Вадкаватасць, сырасць (пра зямлю). *І ад дарогі цісьця́нысьць, і дальшы нілізя пыхаць.*

ЦЯСЦЯНЫЙ *прым.* Вадкаваты, сыры (пра зямлю). *Хацелі пыхаць, зыпряглі коні, паехылі, а поля цісьця́ныя.*

ЦЯСЮТА *ж. ласк.* Карова. *Січас цясю́ту дзед прівядзець, падоім і будзім сырадойчык піць. Памянш.* ЦЯСЮТКА, ЦЯСЮТАЧКА. *Мычыць наша цясю́тка, хочыць, каб яблык ёй прінясьлі у карзінычкі. Цясю́тычка мыя, цясю́тычка, пастой ціхінька, ня кідыйся, пакуля пыдаю.*

ЦЯЦЕРЫСТА *прысл. метаф.* Нязграбна. *Не, ні цяцеріста; стала жаць, дык бабы зь ёю ні спруўляюцца.*

ЦЯЦЕРЫСТАСЦЬ *ж. метаф.* Нязграбнасць. *А што табе цяцерістысьць, хызяйства вядзець і ні ў кога помышчы ня просіць.*

ЦЯЦЕРЫСТЫЙ *прым. метаф.* Нязграбны. *І старік цяцерістый, як сыма, толкым нічога ня зьдзелыіць.*

ЦЯЦЕРЫШЧА *м.* і *ж. павеліч. перан.* Неразвітая асоба. *Ні прідумыіш, якей цяцерішча ён стаў. С тою цяцерішчыю сыма дыгыварійся.*

# Ч

ЧАБУЛДЭХАННІК *м.* 1. Той, хто лье з шумам. *Ты ж, чубулдэхыньнік, хуць мяшкоў ні аппырскывый, так ліўшы.* 2. Той, хто з шумам кідаецца ў ваду. *Зраньня і да вечыра чубулдэхыньнікі ат рякі ні атходзюць.* ЧАБУЛДЭХАННІЦА *ж.* 1. Тая, што лье з шумам. *Запырскыла твыя чубулдэхыньніца усё кругом.* 2. Тая, што з шумам кідаецца ў ваду. *Яны чубулдэхыньніцы як мальцы, с крутога беріга прыгыюць.*

ЧАБУРДЭХ *выкл.* 1. Пра паданне ў ваду з шумам. *Аччаінныя хлопцы, чубурдэх адзін зы адным зь беріга.* 2. Пра выліванне з шумам. *Ні пыглядзеўшы, чубурдэх халодныя вады ў сьвінноя цеста.*

ЧАБУРДЭХАННЕ, ЧАБУРДЭХКАННЕ *н.* 1. Наліванне або выліванне адным махам, адразу. *Ні пымыгаіць тваё чубурдэхыньня, выда сочыцца са ўсіх бакоў. Астыражней ш чубурдэхкыньнім, зы табою ні ныпыцьціраісься.* 2. Кіданне ў ваду з шумам. *Паслухый-ка, якоя ў іх чубурдэхыньня: плажма пляскыюцца ў ваду. Кынчайця чубурдэхкыньня, мушчыны коні зыпрігаюць, січас паедзім.*

ЧАЁК, ЧАЁЧАК *м. памянш.* Чай. *Ці будзіш ты піць чаёк, я табе дыстану із-зы заслонкі. Мае ўнукі любюць чаёчык, і каб зь мёдым.*

ЧАЁЎНІЧАННІК *м.* Чаёўнік. *Як зысядуць чаёўнічыньнікі, чуць ні да поўнычы сідзяць.*

ЧАЙНІЧАК *м. памянш.* Чайнік. *Глядзі ж, каб ча́йнічык хырашо зыкіпеў, каб нідакіп ні пулучыўся.*

ЧАКАНУЦЦА *зак. эмац.* Звар'яцець. *Ат вас чыкану́цца нядоўга, ат такіх уредзін нісызнацільных і бяссовісных.*

ЧАЛАВЕЧАСТВА *н.* Чалавечнасць. *Каб було ў ём чылавечыства хуць на нохыць, дык і на нохыць німа, дужа бісьсярдзешный.*

ЧАМЯРА, ЧАМЯРНЯ *ж. метаф.* 1. Дзетвара. *Ныпрікляіцца чыміря́, гылыгыляць дзень, німа спакою ні мінутычкі. У нас дык і дзяцей дужа німа, а тама етыя чымярні́ — па вуліцы ні прайціць.* 2. Пустазелле. *Чыміря́ ўсякыя рась-*

*цець, не каб росьць ладный траве. Вуліца зрысла чымярнёю, ніхай ба мальцы хут троху пыскашывылі.*

ЧАП *выкл.* Пра павольную цяжкую хаду. *Ідзець чап, чап, чуць ногі пірістыўляіць.*

ЧАПАННІК *м. эмац.* Той, хто ідзе павольна. *Толька што ча́пыньнік, ногі с трудом пірідзьвігаіць.* ЧАПАННІЦА *ж. Нікуды твыя ча́пыньніца ні зайдзіць, ніхай на печы сядзіць.*

ЧАПАННІК *м.* Той, хто задзіраецца. *Ну й чыпа́ньнік Ганьнін хлюст, так і стыряіцца каго затронуць.* ЧАПАННІЦА *ж. Ты тожа ладныя чыпа́ньніца, нашто табе быў Хведзін мячык?*

ЧАПКАННЕ *н. эмац.* Павольная хада. *Ты сыма знаіш, якоя у Праскоўі ча́пкыньня: чуць дзьвігыіцца.*

ЧАПКАЦЬ, ЧАПКАЦЦА *незак. эмац.* Ісці, хадзіць павольна, з цяжкасцю. *Кузьма пакуля ча́пкыіць, ну сілы ў яго ні асталыся і па віду ужо ні жылец. І дарога плыхая, і ногі ня йдуць, я ды цябе часы трі ча́пкылыся.*

ЧАПЛАВУХАСЦЬ *ж.* Уласцівасць лапавухага. *Ніхай ба трошку валосься нупускаў, каб чыплаву́хысьць ні так відна была.*

ЧАПЛАВУХЕНЬКІЙ *прым. памянш.* Лапавухі. *Мне ныравюцца етыя чыплаву́хінькія пырысяткі, яны ны яду харошыя.*

ЧАПЛАНОГІЙ *прым.* Клышаногі. *Ты свайго чыпланогыга бірягі, ато зьбягіць у Мілейкыва. Памянш.* ЧАПЛАНОГЕНЬКІЙ. *Ладна яму будзіць і чыпланогінькыя, такому крысаўцу.*

ЧАПЛЯЛЬШЧЫК *м.* Той, хто чапляе. *Нешта дужа доўга чыпля́льшчык возіцца ны хаці.* ЧАПЛЯЛЬШЧЫЦА *ж. Лезь-ка ты сам, ато чыпля́льшчыца як зыгрíміць умесьці з дрывамі.*

ЧАПЛЯННІК *м.* 1. Той, хто чапляе. *Каб ні пыляцеў чыпля́ньнік зь етыга пріспысабленія, яно чуць ліпіць.* 2 *перан.* Той, хто чапляецца. *Ня меншый чыпля́ньнік быў і Косьцік, чарку возьміць — і яму моря пы калена.* ЧАПЛЯННІЦА *ж.* 1. Тая, што чапляе. *Зуплутухалыся чыпля́ньніца у вярёўкых, самую нада аччэплівыць.* 2. Тая, што чапляецца. *Ты тыкая самыя чыпля́ньніца, як Пятрок быў, ніхай сьвя́цінік ляжыць.*

ЧАПЛЯНУТЫЙ *дзеепрым. перан.* Моцна ўдараны. *Ацскочыш чыплянўтый, тады пывыскыляісься, гірой біс цыря ў гылаве.*

ЧАПЛЯСТЫЙ *прым.* Такі, які чапляецца. *Нешта ногі ў цябе сталі чыплястыя, за ўсё чыпляюцца. Памянш.* ЧАПЛЯСЦЕНЬКІЙ. *Дужа твае рукі чыплясьцінькія, лезуць, куды ні нада.*

ЧАПНУЦЬ *зак. метаф.* Моцна ўдарыць. *Гаворіць, як чапну — укладу, дык тэй пыбыяўся лезьць, успакоіўся.* ЧАПНУЦЦА *зак.* Моцна ўдарыцца. *Чаго яму було лезьць на тую ёлку, чапнуўся ап кареньня — і ня жыў.*

ЧАПУХОВІСТАСЦЬ *ж. эмац.* Дрэнная справа. *Чупуховістысьць пулучаіцца: ён цьвёрда ні нынісаў, ці будзіць на месьці, во і едзь.*

ЧАПУХОВІСТЫЙ *прым. эмац.* Няважны, дрэнны. *Чупуховістыя пастройка, ня стоіць браць, відна, што лес ня зімнія валкі. Памянш.* ЧАПУХОВІСЦЕНЬКІЙ. *Чупуховісьцінькыя кыравёнка, ён сам ні хваліць.*

ЧАРАВАНЫЙ *дзеепрым.* Зачараваны, начараваны. *Раз выйшла у сенцы — ляжыць кохта, ета паднос, чуруваныя кохта, падносы палюць.*

ЧАРАПАШКА *ж.* Чарапок, кавалак разбітай пасудзіны. *Ад гаршкоў асталіся адны чыріпашкі, нада у чугунку варіць. Памянш.* ЧАРАПАШАЧКА. *Чыріпашычкі выляюцца пуд вуглом, відна, ат кушунка.*

ЧАРАПЕНЬ *м.,* ЧАРАПНЯ *ж. груб.* Галава. *Што ён можыць сыбразіць, калі ў яго чыряпень варіць пірістаў. І ў такой мелычы твыя чыріпня думыць ня можыць. Памянш.* ЧАРАПАНАЧКА. *Нада чыріпанычкыю шывяліць, тады і жызьня ныладзіцца.*

ЧАРВЕНКА *ж.* Чырвы, масць у картах. *Сядзі, сядзі, у цябе чарьвеньк поўныя рука. Памянш.* ЧАРВЕНАЧКА. *А во табе яшчэ адну чарьвенычку, чым ты паб'еш?*

ЧАРВЕННЫЙ *прым.* Чырвовы. *Во мудрец якей: віноўку чарьвенныю шасьцёркыю б'ець. Ты падружычка мыя, дамычка чарьвенныя, пугуляў ба я с табою — ўремічка ваенныя. Памянш.* ЧАРВЕННЕНЬКІЙ. *Чарьвеньнінькыя малодка ў яго асталыся, большы нічога німа.*

ЧАРВІВЕЦЦА *незак.* Рабіцца чарвівым. *Дужа цёпла і суха, якей гріб вылізіць і зразу чарьвíвіцца.*

ЧАРВЯВЫЙ *прым.* Чарвівы. *Чырьвя́вых грібоў браць ні нада, калі кырянёк паточын, выкідывый.*

ЧАРНАВАЦЕНЬКІЙ, ЧАРНАВАЦЕНЕЧКІЙ *прым. памянш.* Чарнаваты. *Хадзіў зь ёю пы бызару красівый мульчуган сяредніга росту чурнува́цінькій. Чурнува́цінічкій мыцірiял мне ня дужа ныравіцца, нада што сьвятлейшыя.*

ЧАРНЕННЫЙ *прым.* Вельмі чорны. *Мужык у яе чарненный-чарненный, нейкій нярускій, — айдзе іна сабе такога пупала?*

ЧАРНЕЦЬ, ЧАРНЕЦЦА *незак. перан.* Моцна гараваць. *Чарнела тута адна з ма́лымі, пакуля ґ брытам некуды далёка зьехыла. Ета мы толька знаім, сколька Матруніна дычка чарнелыся.*

ЧАРНІЦЬ *незак. эмац.* Выклікаюць гора, пакуты. *Чаго ты церьпіш яго у хаці, дакуліцька ён цябе чарнíць будзіць?*

ЧАРНІШНІЧАК *м. памянш.* Чарнічнік. *Нада було б атырваць чарнíшнічку, я яго ўсігда ат праступы зывaрівыю.*

ЧАРТАВЕШКА *звыч. ж. эмац.* Картавая асоба. *Як іхныя чыртавешка пычынаіць гыварiць, я нічога ні рызьбяру. Памянш.* ЧАРТАВЕШАЧКА. *У яе тыкая дзяўчонка чыртавешычка, ні паймеш, што іна турлычыць.*

ЧАРТАВЕШКІН *прым.* Прыналежны картавай асобе. *Я чыртавешкін голыс айдзе хочыш пызнаю: большы ніхто так ні гаворiць. Памянш.* ЧАРТАВЕШАЧКІН. *Штоб большы ні раськідывыў чыртавешычкіны цітрадкі!*

ЧАРТОЎ *прым.* Чортаў. *Ні ныравіцца чартова работа. Прінясло чартовых гасьцей.*

ЧАРТЫНЯ *ж.* Чартаўшчына. *Чартыня ўсякыя табе вярзецца, ці було яно што калі, ці ні разу нійдзе ні було.*

ЧАРЧОНКА *ж. зніж.* 1. Чарка. *Нясі-ка сюды чарчонкі, рызальлём ету каплю.* 2 *перан.* Выпіўка. *Ці была ж ім чарчонка у Сьвірідывых? Памянш.* ЧАРЧОНАЧКА. 1. Чарка. *Пыставілі чарчонычкі па нохцю, зь іх ня піць, а*

*толька нюхыць.* 2. Выпіўка. *У сястры ўсігда чарчонычка будзіць.*

ЧАСАНЕЦ *м.* 1. Той, хто чухаецца. *Скрябецца чыса́ніц, ну што ты хочыш, усё ў пылі і ў пылі.* 2 *перан. іран.* Балбатун. *Во пыдыбраліся: і зяць такей самый чыса́ніц, як цёшча.* ЧАСАЛКА *ж.* 1. Тая, што чухаецца. *Ні хыця станіш чыса́лкыю прі такой рабоці.* 2. Балбатуха. *Чыса́лка можыць любыя ірунды наплесьць. Памянш.* ЧАСАЛАЧКА. 1. Тая, што чухаецца. *Нада памыць чыса́лычку, абізацільна заўтря баню тапі.* 2. Балбатуха. *Пыдрыстаіць чыса́лычка, уся ў бабу, дайжа рот так крівіць.*

ЧАСІНКА, ЧАСІНАЧКА *ж.* Невялікі адрэзак часу. *Яму тожа нада було б часі́нку пыспаць, усю ноч валтузіўся. Ну выбіру часі́нычку і к табе зыбягу як-небудзь.*

ЧАСНАКОВЫЙ *прым.* Часночны. *У кілбасы абізацільна часнок крышуць, ш чыснаковым запыхым яны пріятныя.*

ЧАСНАЧОК, ЧАСНАЧОЧАК *м. памянш.* Часнок. *Чысначок як зря ні расходый, ён усігда к прадуктым нада. Я свой чысначочык вырвыла, пуцсушыла на сонцы і павесіла на шост.*

ЧАСНАЧЫНА *ж.* Асобнае каліва часнаку. *Нескылька чысначы́н пысадзіла, дужа харошыя галоўкі зыдаліся. Памянш.* ЧАСНАЧЫНКА. *Ніхай растуць чысначы́нкі, кыбынка заб'ём — яны спынадыбюцца.*

ЧАТНЕННІК *м.* Чахлы, змарнелы чалавек. *Толька што ча́тніньнік, ён ужо ня жыціль на белым сьвеці.* ЧАТНЕННІЦА *ж. Высілёва ча́тніньніца чуць пірідзьвігаіцца, кажыцца, веціp вяйнець і йна пыляціць.*

ЧАЎНАЧОК, ЧАЎНАЧОЧАК *м. памянш.* Чаўнок. *Як мысьцяріца ткаць, у яе чуўначок будзіць бегыць, што ня згледзіш. Асталіся чуўначочыкі, яны ўжо нікому ні нада.*

ЧАХ *выкл.* Пра цвёрдасць, катэгарычнасць рашэння. *Нейкія трілюды наслухыўся — чах: я большы туды ні пайду.*

ЧАХАРДЖЭННЕ *н. эмац.* Беспарадак. *Буваіць, што і прібраць некылі, ну такога чыхарджэньня мы нійдзе ня відзілі.*

ЧАХАРДЗІЦЬ *незак. эмац.* Рабіць беспарадак. *Ён і ў дваре чыхардзі́ў, і тута тоя самыя зь яго тваріцца.*

ЧАХКАННІК *м. метаф.* Той, хто ўдарае, б'е, лупцуе. *Рызыйшоўся ча́хкыньнік, толька тапор бліскыіць.* ЧАХКАННІЦА *ж. Дужа я спужаўся такея ча́хкыньніцы, ці іна мяне зловіць.*

ЧАХМАРНІК, ЧАХМОРНІК *м.* Зараснік. *Засеў пы аборкых чыхма́рнік, містамі ладныя лазіны пупыдаюцца. Чахморнік-чахморнік пашоў пы зыбыльшаччу, некыму пывысікаць, пырадык навесьць. Памянш.* ЧАХМАРНІЧАК, ЧАХМОРНІЧАК. *Сухенькій і чыхма́рнічык спаліцца, ны рыспалку пойдзіць. Посьлі вайны і чахморнічык высікалі, як ні було дроў.*

ЧАХНУТЫЙ *дзеепрым.* Секануты. *Во тута ча́хнута, ішчэ рубеж відзін ат тыпыра.*

ЧАХОТЛІВЫЙ *прым.* Сухотны. *Помніш, з намі учыліся два мальцы чахотлівыя, абоя памёрлі вясною адзін зы адным. Памянш.* ЧАХОТЛІВЕНЬКІЙ. *Прівёз сабе нейкыю нідалу́жку, іна, відна, чахотлівінькыя.*

ЧАЦВЯРЫК *м. метаф.* Вялікая ношка. *Чыцьвярі́к жыта нывізаў несьць, трошку прайшоў, зываліўся лі гумна і памёр.*

ЧАЧЭНЕННЕ *н. эмац.* Задаванне. *У Хрісьцініных мальцыў столька чачэніньня, што ні знаюць, пы якому сьвету ходзюць.*

ЧАШЧЭННІК *м.* 1. Той, хто частуе. *Ня думыйця, у Андрея дужа ні пылыта́іціся, ні такей ён чашчэньнік, каб рыськідацца.* 2. Той, хто частуецца. *Давольныя пашлі чашчэньнікі ат Райчонка, тэй усігда хырашо угосьціць.* 3 *перан.* Той, хто лае, бэсціць. *Ну, пачуў, якоя ў етыга чашчэньніка прыздраўленьня?* ЧАШЧЭННІЦА *ж.* 1. Тая, што частуе. *Ікая ні чашчэньніца, ну прідлажыць жа людзям нада.* 2. Тая, што частуецца. *Ета ат Міхяёнкывых ідуць чашчэньніцы, доўга там сядзелі.* 3. Тая, што лае, бэсціць. *Аць Сьвірідзёнкывыя чашчэньніцы можна ішчэ і ні такоя пачуць.*

ЧВАНЕННЕ *н. эмац.* Порканне. *У яе чва́ніньня як пычанецца, дык можыць толька нызаўтріга кончыцца.*

ЧВАНЕННІК *м. эмац.* Порканнік. *Што там чва́ніньнік кыпаіцца, зыпрігаць скарей нада.* ЧВАНЕННІЦА *ж. Рысьпялыся чва́ніньніца іс сваімі пріборымі, няскора складзецца.*

ЧВАНІЦЦА *незак. эмац.* Поркацца. *Як станіць іс тряпкымі чва́ніцца, пакуля пірішчытаіць кажныю — пражджэсься.*

ЧВЕРТАВАННЕ *н. метаф.* Грубае рэзанне. *Пыглядзіш, пу руках палучыш зы такоя чвіртува́ньня, я выгыню балыўства.*

ЧВЕРТАВАННІК *м. метаф.* Той, хто груба рэжа. *Схвацюць вярёўкі твае чвіртува́ньнікі, нада такую бруквіну порціць.* ЧВЕРТАВАННІЦА *ж. Бярецца чвіртува́ньніца зы работу, січас абясьпечыць цябе хлебчыкым.*

ЧВЕРТАВАЦЬ *незак. метаф.* Груба рэзаць. *Нашто етык бруквіну чвіртува́ць, атрезыў скрылёк і еж ціхінька.* ЧВЕРТАВАЦЦА *незак.* Груба рэзацца. *Чвірту́іцца хлеб абы-якімі кускамі, длі чаго так дзелыць.*

ЧВЯКАННІК *м.* 1. Той, хто чвякае пры ядзе. *Стыряюцца чвя́кыньнікі наць сьцюднім.* 2 *перан.* Той, хто гучна ступае па макрэчы. *Топчуцца пы грязі чвя́кыньнікі, мыць іх ні спруўляісься.* 3 *перан.* Той, хто пагражае ўдарыць. *Чвя́кыньніку сымаму можыць пупасьць луччы некуды.* ЧВЯКАННІЦА *ж.* 1. Тая, што чвякае пры ядзе. *Масоліцца чвя́кыньніца с косткыю пасьці пуўчыса.* 2. Тая, што гучна ступае па макрэчы. *Гані чвя́кыньніц ат лужы, пыглядзі, якея іх плацьцікі сталі.* 3. Тая, што пагражае ўдарыць. *Ты зь етыю чвя́кыньніцыю астыражней, ато луплянець і зьнясеш.*

ЧВЯКАЦЬ *незак. перан.* Біць. *Глядзі-ка ў мяне, глядзі, будзіш усіх чвя́кыць, — сам можыш скарей пулучыць.* ЧВЯКАЦЦА *незак.* Жавацца з чвяканнем. *Што, смашнінька чвя́кыіцца ціляцінка?* ЧВЯКНУТЫЙ *дзеепрым.* Удараны. *Стыдна стыяць чвя́кнутым, і сам вінуват: лез ніізьвесна чаго.*

ЧВЯЛІЦЬ *незак. эмац.* Павольна жаваць. *Як ты будзіш чвя́ліць, калі асталыся пуўтыра зуба і тэя шытаюцца.*

ЧВЯНЕННЕ *н. эмац.* Павольнае жаванне. *Вот бальшэй аньцірес ны яго чвя́ніньня любувацца, пойдзім к Мырчанку.*

ЧВЯНЕННІК *м. эмац.* Той, хто павольна жуе. *Ныкідалі чвя́ніньнікі агрызкыў, якея нікуратныя дзеці!* ЧВЯНЕННІЦА *ж. Узілася чвя́ніньніца зы скарінкі, аж зу вушамі тряшчыць.*

ЧМАРАЧКА *ж. памянш.* Курыца колеру чорнага з карычневым. *Чма́рычка пыд бярьвеньнім нясецца, я туды ні падлезу, ні дыстану яйцы.*

ЧМЫГАННЕ *н. метаф.* Таемнае беганне. *Другому б ныдаела чмы́гыньня, а етый ніяк ні ўспакоіцца.*

ЧМЫГАННІК *м. метаф.* Той, хто таемна бегае. *Пыдаўся чмы́гыньнік пу зугуменьню, думыіць лашчынкі нагледзіць.* ЧМЫГАННІЦА *ж. Навумыву чмы́гыньніцу відзілі ны вашым дваре.*

ЧМЫГАЦЬ *незак. метаф.* Таемна бегаць. *Чмы́гыў нечыга па полю узаду, відна, аборычкі с травою ныглідаў.* ЧМЫГНУЦЬ *зак.* Таемна пабегчы. *Ранінька, ішчэ сонца ні ўсходзіла, яны чмы́гнулі у ягыды.*

ЧМЫГУНЬ *выкл.* Пра імклівы бег, знікненне. *Цёлка мордыю аччыніла вароты і чмыгу́нь на вуліцу, лаві цяперя.*

ЧМЫРА *ж. экспр.* Дзяўчына. *Адна тыкая чмы́ра красівыя хадзіла ў бульварі, хлопцы усё любуваліся.* Памянш. ЧМЫРКА, ЧМЫРАЧКА. *Ці ні нагледзіў ты сабе чмы́рку ны Засожжы? Пыдрыстаюць чмы́рычкі, скора ат хлопцыў адбою ня будзіць.*

ЧМЫХАЛКА, ЧМЫХКА *ж. метаф. зніж.* Нос. *Усюдых сваю чмы́хылку суніць, пакуля палучыць па ёй. Будзіш пыцстыўляцца — другей раз па чмы́хкі зловіш.*

ЧМЫХКАЛА *м.* і *ж. метаф. іран.* Той, хто выражае незадаволенасць. *Ні пасьледній чмы́хкыла быў твой Сідыр, ні гывәрі мне пры яго. О не, с такою чмы́хкылыю ня дужа пыгаворіш.*

ЧМЫХКАННЕ *н.* 1. Чмыханне. *Я ўжо чую каровіна чмы́хкыньня, яблык жджэць.* 2 *перан. іран.* Выражэнне незадаволенасці. *Ня дужа каму пыныравіцца такоя чмы́хкыньня.* 3 *метаф.* Бег. *Выгыню зь яе чмы́хкыньня, як прівяжу за шула ды аччашу рёбры.*

ЧМЫХКАННІК *м.* 1. Той, хто чмыхае. *Ні ныравіцца твайму чмы́хкыньніку аборкывыя сена, дывай лугавоя.* 2 *перан. іран.* Той, хто выражае незадаволенасць. *Ды яшчэ якей чмы́хкыньнік яе маліц, ні ў чом яму ні ўладзіш.* ЧМЫХКАННІЦА *ж.* 1. Тая, што чмыхае. *Не, рызарьві твае бакі, чмы́хкыньніца, мяжу абжынаць я табе ні пайду, еж, што пылажыла.* 2. Тая, што выражае незадаволенасць. *Ну ета ж ня хто-небудзь, Пуўлючонкыва дычка, ізьвесныя чмы́хкыньніца.*

ЧОСКА *ж. метаф.* Праборка, лупцоўка. *Ні пулучыў чоскі, дык палучыць, у мяне нядоўга.*

ЧУБАРОК *м. жарт.* Чуб. *Зугудуваў сабе чубарок, як ныстыяшчый кывалер, хуць у сваты вядзі.*

ЧУБАРЫНА *ж.* Пучок няскошанай травы. *Бувала, косіш, гняздо увідзіш і кініш лі яго чубуры́ну. Памянш.* ЧУБАРЫНКА. *Кулу кустоў чубурі́нкі асталіся, нада було пызьбіваць касою.*

ЧУБАСІЦЬ *незак. жарт.* Біць, чубіць. *Во як ты лоўка наўчылыся свайго Мікітку чуба́сіць!* ЧУБАШАНЫЙ *дзеепрым. Нешта ня веріцца, каб і чуба́шыный пыспыкайнеў твой галузьнік.*

ЧУБАСІЯ *ж. жарт.* Праборка. *Так яму ні абойдуцца еткія улыбычкі, палучыць ён крепкыю чуба́сію.*

ЧУВАЛ *м.* Вялікі мех. *Ныпіхалі чувал як сяньнік, хут ты сьпі на ём. Памянш.* ЧУВАЛОК, ЧУВАЛЬЧЫК. *Быў у мяне чувалок, ды пырваўся, знасіўся увесь. Нейдзі ў пуні ны палкых кідалі чува́льчык.*

ЧУДЗІЛА *м.* Дзівак. *Ну й чудзі́ла ты, разьві ім можна веріць хуць ны адно слова.*

ЧУДНЭЙ *прым.* Дзіўны. *Чуднэй быў старік, зь ім пыгываріць — ныхахочыська, як станіць рысказывыць пра службу ў паноў.*

ЧУЖБІНКА *ж.*, ЧУЖБІНОК *м.* Чужына. *Любіў ба ты чужбі́нкыю пользывыцца, нада сваімі рукамі хлеб зырыбляць. Не каб думыць пры сваё, дык думыіць, каб чужбінок пупаўся.*

ЧУКІКАННЕ *н. эмац.* Пялегаванне. *Дос табе балывыцца зь естым чукі́кыньнім, толька руспускаіця мальца.*

ЧУКІКАННІК *м. эмац.* Той; хто пялегуе. *Такіх чукі́кыньнікыў ма́лыя любюць, толька балыйся зь імі.* ЧУКІКАННІЦА *ж. Сь цябе нядренныя чукі́кыньніца выйдзіць.*

ЧУКІКАЦЬ *незак. эмац.* Пялегаваць. *Хваціць такога лабрэта чукі́кыць, ён як нылітэй.* ЧУКІКАЦЦА *незак.* Пялегавацца. *Любіў ба чукі́кыцца, хуць з рук ні спускай.* ЧУКІКНУЦЬ *зак.* Папялегаваць. *Ну чукі́кні яго яшчэ пару разоў, аж пішчыць ат радысьці.* ЧУКІКНУЦЦА *зак.* Папялегавацца. *Ах, як ты хырашо чукі́кнуўся!*

ЧУКІ-ЧУК *выкл.* Выгук, якім баюкаюць дзяцей. *Січас мы будзім дзелыць чукі-чу́к. Чукі-чу́к, чукі-чу́к, пойдзіць двору Мыкарчук.*

ЧУЛАВЕЙ *м.* Недаразвіты чалавек. *Нічога табе чулавей ні паможыць, зь ім ты толька надурісься. Памянш.* ЧУЛАВЕЙЧЫК. *С кыцінятымі чулавейчык гуляіць, ціплятык корміць. Павеліч.* ЧУЛАВЕІШЧА. *Ёй ікраз чулавеішча зяцім патходзіць.* ЧУЛАВЕЙКА *ж. Ці іна чулавейка, ці прітвыряіцца так, — што зь ёю творіцца? Памянш.* ЧУЛАВЕЕЧКА. *А знайдзіць сабе якую-небудзь чулавеічку, такея адзін ґ другому цягнуцца.*

ЧУЛАНАК *м.* Камора. *На хутырі мы чула́нык пріспасобілі длі авец. Памянш.* ЧУЛАНОК, ЧУЛАНАЧАК. *Каб чуланок пыставіў, ні пымішаў ба, склаў ба то тоя, то другоя. Чула́нычык свой прыдаў каму-то на дровы, ён быў гнілэй.*

ЧУМАЧАННЕ *н. эмац.* Атлумліванне. *Ныдаеў ты сы сваім чума́чыньнім, ідзі вун пыляжы на печы с крайку́.*

ЧУМАЧАННІК *м.* Той, хто атлумлівае. *Якей ні чума́чыньнік, а зукруціў дзеўкі гылаву.* ЧУМАЧАННІЦА *ж. Толька што чума́чыньніца, бабы тае са шчэпыць, хуць у вузялок увязывый.*

ЧУМАЧЫЦЬ *незак. эмац.* Атлумліваць. *Дос табе яго чума́чыць, ён ужо ні знаіць, ці ты праўду гаворіш, ці брешыш.* ЧУМАЧЫЦЦА *незак.* Атлумлівацца. *Як стануць чума́чыцца, адзін нідачуіць і другей, слухыць іх — жывая указзя.* ЧУМАЧАНЫЙ *дзеепрым. Нейкій чума́чыный вярнуўся с пысяджэньня.*

ЧУМІЧАННЕ *н.* Размова ў непаразуменні. *Мы ні раз іхныя чумі́чыньня чулі, іх паслухыіш — ныстыяшчыя камедзія.*

ЧУМІЧОК *м. памянш. эмац.* Чалавек малога росту. *Нейкій чумічок хадзіў зь ёю, алі і тэй кінуў.* ЧУМІЧКА *ж. Зы якою-то стырасельскыю чумі́чкыю бегыіць. Памянш.* ЧУМІЧАЧКА. *Шчэпыць тае дзяўчонкі, чумі́чычка, а Косьцік як прівязыный, ні ацстаець ат яе.* ЧУМІЧЧА, ЧУМІЧЧО *н. зб. Сызавець сваё чумі́чча і дывай усіх пыдряд па костычкых пірібіраць. Некуды Стыльмахоўніна чумічо выпрывілыся, няўжэлі яны свадзьбу прапусьцюць?*

ЧУМІЧЫЦЬ, ЧУМІЧЫЦЦА *незак.* Гаварыць у непаразуменні. *Адзін аднаму чумі́чуць нешта і рызыбраца ня могуць. Яны с Кындрацёнкым доўга чумі́чыліся, усё нешта яму дыказывылі.*

ЧУПІК *м.* Свавольнік, шкоднік у дробязях. *Ну й чу́пік жа маліц, ня тоя дык тоя утворіць. Памянш.* ЧУПІЧАК. *Не мой чу́пічык, прідзіцца кылы цябе с хвырасьцінкыю пыхадзіць.*

ЧУПКАВАННЕ *н. гумар.* Прыбіранне. *А ну іх ш чупкува́ньнім, ныдаелі зь ім хужы горькія редзькі.*

ЧУПКАВАННІК *м. гумар.* Той, хто прыбірае, прыбіраецца. *Чупкува́ньнікі запёрліся ў задній хаці, што ўжо яны там дзелыюць?* ЧУПКАВАННІЦА *ж. Ну ці ты ні знаіш чупкува́ньніц, хочуць жа нырядзіцца пірідж жыніхамі. Чупкува́ньніцы кучыю сыбраліся кылы нявесты, ыріджаюць як кукылку.*

ЧУПКАВАЦЬ *незак. гумар.* Прыбіраць, прыбірацца. *Пуўдня мыладую чупкува́лі. Яны як пычануць чупкува́ць, трі часы будуць чысацца ды мазыцца.* ЧУПКАВАЦЦА *незак.* Прыбірацца. *Ідзіці-ка пымагіця маткі бульбу выбіраць, чупкува́цца посьлі будзіця.*

ЧУРПЯК *м. эмац.* Кавалак. *Чурпякі́ зямлі нада палкыю пырызьбіваць, прайціць і пырызьбіваць. Памянш.* ЧУРПЯЧОК. *Зыкладзі чурпячок кірьпічыны, гліныю зымажыцца і ладна будзіць.*

ЧУСТВІЕ *н.* Спагада. *Каб у яго було чу́ствія, ён ба так ні адурюваў, дзяцей ба ні пужаў кажын раз.*

ЧУТКЕЙ *прым.* Чуткі. *Раншы у нас быў чуткей сыбака, толька шылахніся — зразу пачуіць.*

ЧУХАННЕ *н. метаф. жарт.* Бег, уцёкі. *Пыньцялеівіч глядзеў ны тваё чу́хыньня, пысьміхаўся толька.*

ЧУХВАЛЬЧЫК *м. памянш.* Накідка. *К скату нада брацъ с сабою чухвальчык, пагода нінадзёжныя: сонца, а цірізь мінуту дождж.*

ЧУХМАРАННЕ *н. эмац.* Падман. *Мала ты знаіш Кузьмінка, ён спасобін ну любоя чухма́ріньня.*

ЧУХМАРАННІК *м. эмац.* Падманшчык. *Паверь мне, сястріца, што ён чухма́ріньнік чышчы некуды.* ЧУХМАРАННІЦА *ж. Дайжа ў гылаву ні магло пріціць, што Вольгіна дычка зьдзелыіцца чухма́ріньніцыю.*

ЧУХМАРЫЦЬ *незак. эмац.* Падманваць. *Каго ты бяресься чухма́ріць, ён цябе наскрозь відзіць, такога чылавека ня пройдзіш.*

ЧУХМЕЛЕННЕ, ЧУХМЕЛЬСТВА *н. экспр.* 1. Разуменне. *Ны Пытапёнкыва чухмеліньня ні надзейся, ты сам ета хырашо знаіш. У такіх, як твой сусед, многа чухмельства ні буваіць.* 2. Пустыя размовы. *Як зывядуць чухмеліньня, дык да поўнычы гатовы праседзіць. Худзь ба найшоўся хто ды рызыгнаў зудушэўных падруг зь іхным чухмельствым.*

ЧУХМЕЛІЦЬ, ЧУХМЕЛІЦЦА *незак. экспр.* 1. Разумець, разбірацца. *Мала што ізыком трепліць, у каровых ён ні чухмеліць нісколька. Трошку стаў чухмеліцца ў жызьні і Грішчанок.* 2. Гаварыць пустое. *Нешта стыялі бабы кучыю, чухмелілі, Просю пыміналі. Учора цалюхтынькій дзень чухмеліліся кылы Праскоўіных.*

ЧУХМЕЛЬНІК *м. экспр.* Пустазвон. *Большы я чухмельніка ні пайду слухыць.* ЧУХМЕЛЬНІЦА *ж. Усякія лухты ваша чухмельніца ныпліла, аж вушы атвісьлі.*

ЧУХОНІЦЬ *незак. метаф.* Прабірацъ, ушчуваць. *Баба крепка чухоніць, ну да іх мала даходзіць, чырізь мінуту пра ўсё зубуваюць.* ЧУХОНІЦЦА *незак.* Прыбірацца. *Дзеўкі чухоніцца любюць, нада ж, каб хлопцы за імі бегылі.*

ЧЫК *выкл.* 1. Пра птушыны шчэбет. *Птушычкі на ліпых пычынаюць чыкыць дужа рана: чык-чык-чык.* 2. Пра раптоўнае рашэнне. *Усё гывcovaріў, паедзіць, паедзіць, а тады чык і астаўся.*

ЧЫКАННЕ *н. перан.* Важданне. *Зь імі такоя будзіць чы́кыньня: вярёўку вазьму — дык уміг зумуруюцца.*

ЧЫМУС *м.* Параная бруква. *У нас нейкія бежынцы былі, дык гыварілі, што ім чы́мус ныравіцца, брукву парілі.*

ЧЫНГЕРАННЕ *н.*, ЧЫНГЕРЫЯ *ж. гумар.* Прыбіранне. *Што, ты тожа хочыш пыглядзець на іхныя чынгеріньня? — ні мішай, ніхай прібіраюцца. Як пычанецца чынгерія, тады ўжо іх ня трогый.*

ЧЫНГЕРАННІК *м. гумар.* Той, хто прыбіраецца. *Ого, якея чынгеріньнікі, ныріджаюцца як дзеўкі!* ЧЫНГЕРАННІЦА *ж. Пабеглі чынгеріньніцы гатовіцца к вечыру.*

ЧЫНГЕРЫЦЬ *незак. гумар.* Прыбіраць. *Алена сваіх кукыл чынгеріць луччы некуды, нуспруўляла пріборыў цэлый сундук.* ЧЫНГЕРЫЦЦА *незак.* Прыбірацца. *Самі ні знаюць, як чынгеріцца, рогі б ны сябе ушчапілі.*

ЧЫНЕННЕ *н.* Рамонт. *Во пачыншчык, разьляцеліся бацінкі ну другей дзень посьлі чыненьня.*

ЧЫНЕННІК *м.* Рамонтнік. *Сь цябе ніплахей чыненьнік: санычкі трошку дзіржаліся, а посьлі тваіх рук склалі кыпылы.* ЧЫНЕННІЦА *ж. Як возьміцца за дзела другая чыненьніца, усё ныправіць.*

ЧЫНІЦЬ *незак.* Начыняць. *Хто лоўкій, скора кілбасы чы́ніць, а вызґря нівісь сколька будзіць вазіцца.* ЧЫНІЦЦА *незак.* Начыняцца. *Ці ў цябе кілбасы чы́нюцца, ці можа кошка ў нычвах хызяйнічыіць?* ЧЫНЕТЫЙ *дзеепрым. Ну-у, чы́нітыя кілбаскі як-небудзь разьвесім.*

ЧЫРЫК *м. эмац.* Невысокі хлапчук. *У яе мальчышка такей самый чы́рік, як сыма. Памянш.* ЧЫРЫЧАК. *Мыланкіны чы́річкі бегыюць, з нашымі дзіцямі гуляюць.*

ЧЫСТКА *ж. перан.* Выключэнне з калгаса. *І ў нас усякія дураты хвытала: і чы́стка была, і на чорныю даску вешылі, і дні зьнімалі.*

ЧЫСЦЕНЕЧКІЙ, ЧЫСЦЁСЕНЬКІЙ, ЧЫСЦЁСЕНЕЧКІЙ, ЧЫСЦЮНЕЧКІЙ *прым. памянш.* Вельмі чысты. *Я ўсё пірямыла, у мяне ўсігда пасуда чы́сьцінічкыя. Рушнічок чысьцёсінькій, мы пірід празьнікым мылі ўсё. Рубашка чысьцёсінічкыя, касьцюм с-пыд іголычкі, — хлопіц хуць куды. Ныдзівай чысьцю́нічкыю рубашку, тама многа молыдзіжы, у грязный нікрасіва.*

ЧЫСЦЕЦЦА *незак.* 1. Чысцець. *Нешта ў цябе двор ня дужа чысьцеіцца.* 2. Расчышчацца, святлець (пра неба). *А во нат Колтывым чысьцеіцца, можа і разгоніць, ня будзіць дыжджа.*

ЧЫСЦІЦЬ *незак. перан.* 1. Абсякаць. *Бацька бярёзкі ны кынавых два разы чы́сьціў, пы вісокый лесьвіцы лазіў.* 2. Лаяць, прабіраць. *За што вы ўдзьвюх свайго кума чысьцілі?* 3. Выключаць з калгаса. *Я ж помню, як вас чы́сьцілі с кылгаса, Ісаёнык усё крічаў: «Ім з намі ня места!»* ЧЫШЧАНУЦЬ *зак.* 1. Пачысціць спяшаючыся. *Адзін канец чышчану́ў рубанкым, а тута ні пасьпеў.* 2. Абсячы. *Нада, каб маліц чышчану́ў бярёзу зь естыга боку, іна ныд яблыныю нывісаіць.* 3. Ударыць знянацку. *Палезь, палезь, чышчанець і што ты тады зьдзелыіш.* ЧЫШЧАНУЦЦА *зак.* 1. Пачысціцца ў спешцы. *Ат'етуля чышчанецца вілышнік ды ўзьбівай скарей. Во тута ў вуглу чышчанецца, атмяцецца і нада складывыць хворыст.* 2. Абсячыся. *Каб чышчану́ліся клянкі, хужы б ні було, яны б тады уверьх расьлі.* 3. Ударыцца знянацку. *Я сам так чышчану́ўся ап стойку, што чуць ні зываліўся, добря, што хуць ня лбом.* ЧЫШЧАНЫЙ *дзеепрым.* 1. Абсечаны. *Чы́шчыныя дзерівы быйстра ўверьх растуць.* 2. Аблаяны, паўшчуваны. *Чы́шчыный прішоў с пункта, ладна пулучыў за ўсё.* ЧЫШЧАНУТЫЙ *дзеепрым.* 1. Пачышчаны. *Чышчану́тыя тыпарішча многа гладзей стала. І ня відна, што твой касьцюм чышчану́т.* 2. Ударaны знянацку. *Чышчану́тый ацскачыў ат Ігнацёнка, большы ня будзіць пыцскакывыць.*

ЧЫХМАРНЯ *ж. эмац.* Бур'ян. *Па іхный дзяреўні чыхмырня́-чыхмырня́ — ні прайціць, няўжэлі ніхто скасіць ня можыць.*

ЧЫЧАТЫЙ *прым.* З пупышкамі. *У іх у пулусаднічку усякіх цьвятоў многа, кысаты цьвітуць, дайжа роза чыча́тыя ёсьць.*

ЧЫШЧАННЕ *н. метаф.* Праборка, лупцоўка. *Будзіць вам чы́шчыньня, толька увідзіць усё ета бацька. Тваe рёбры сяньня бяш чы́шчыньня ні абойдуцца.*

ЧЫШЧЭННІК *м.* 1. Той, хто чысціць. *Такей чышчэньнік залезіць на крышу к коміну ды яшчэ зваліцца.*

*2 перан.* Той, хто выключаў з калгаса. *Былі чышчэньнікі, гырлыпанілі большы ўсіх, а ны работу ня дужа ахочыя.*

ЧЭГАННЕ *н. эмац.* Дакучанне. *Атвяжыся ш чэгыньнім, сыбяруцца ўсе і сядзім абедыць.*

ЧЭГАННІК *м. эмац.* Той, хто дакучае. *Ныдыядлыя чэгыньнікі, як прівяжуцца — ні аччапіцца.* ЧЭГАННІЦА *ж. Сунула чэгыньніцы пыпряньнік, іна зынілася на ўремя.*

ЧЭГАЦЬ I *ж. метаф.* Лупцоўка. *Каб даў яму харошыю чэгыць, тады б ён быйстра уняўся з дура́мі.*

ЧЭГАЦЬ II *незак. эмац.* Дакучаць. *Дай ты яму канхвеціну, ато будзіць чэгыць і чэгыць, ныдаесьць.*

ЧЭЛЯДЗЬ *ж. зб. метаф.* Падазроныя асобы. *Я б ні саветывыў зьвязывыцца с такою чэлідзьдзю, у якую пролыбку увылакуць.*

ЧЭМЕР *ж.* Хвароба жывёл. *Цяперя неік ня чутна, а раншы нейкыя чэмірь хадзіла пы скату.*

ЧЭРАП *м. метаф. груб.* Галава. *Нада, каб чэріп трошку думыў, ато ён у цябе ніскока ні варіць.*

ЧЭРНЯ *ж.* Майстэрня па фарбаванню тканін. *Як чэрня была ў горыдзі, туды зынясеш, бувала, то тоя, то тоя, там пыкрасюць.*

# Ш

ШАБАШАННЕ *н.* Лёгкі заробак, шабашні́цтва. *Пыныравілыся чылавеку шыба́шыньня, любіць збоку ухваціць руб.*

ШАБУЛДЭХАННЕ, ШАБУЛДЭХКАННЕ, ШАБУЛДЫХКАННЕ *н.* 1. Наліванне або выліванне адным махам, адразу. *Цішэй ты ш шубулдэхыньнім, пырскыіцца кругом. Ну й шубулдэхкыньня тваё, ці ты ня можыш выліць акуратна? Чую, што ета Паўлыва шубулды́хкыньня, ён усігда так ільлець.* 2. Кіданне ў ваду з шумам. *Будзіць ім шубулдэхыньня, як на корч узаб'ецца каторый. Чулі мы, чулі ваша шубулдэхкыньня. Ныравіцца мульчуганым шубулды́хкыньня, з вады вылізаць ня хочуць.*

ШАБУЛДЭХАЦЬ, ШАБУЛДЭХКАЦЬ, ШАБУЛДЫХКАЦЬ *незак.* 1. Налівацць або выліваць адным махам, адразу. *Хваціць сюда ваду шубулдэхыць, іна ўсё роўна*

*астаніцца. Цэлыя раньня шубулдэхкылі ваду зь ямы, за ноч пуўямкі ныцякло. Чуіш, як шубулдыхкыіць дзед у бочку, выда нада, толька ён забрызкыіць усё.* 2. Кідацца ў ваду з шумам. *Учора мы чуць ні да цёмныга шубулдэхылі ў Вяхре, выда была дужа цёплыя. Ма́лыя вун тама, зу кустамі шубулдэхкыюць. Узноў пабеглі купацца, шубулдыхкыюць у ваду зразгону.* ШАБУЛДЭХАЦЦА, ШАБУЛДЭХКАЦЦА, ШАБУЛДЫХКАЦЦА *незак.* 1. Наліваცца або выліваცца адным махам, адразу. *Як нікуратна ў цябе шубулдэхыіцца! Мы чулі, як у вас шубулдэхкылыся, нідырма пыцякло па ўсіх сенцых. Акуратней лі, каб ні шубулдыхкылыся с пырскымі аж на сьцены.* 2. Кідацца ў ваду з шумам. *Любілі б вы шубулдэхыцца, а зы скатом хто глядзець будзіць? Тама большыя мальцы шубулдэхкыюцца, дык і яму пабежч туды хочыцца. Кажный дзень шубулдыхкыюцца часоў пы пяць.* ШАБУЛДЭХНУЦЬ *зак.* 1. Наліць або выліць адным махам, адразу. *Шубулдэхнуў у чугун вядро вады, а ён дзірёвый.* 2. Кінуцца ў ваду з шумам. *Зразгону як шубулдэхнуць у сажылку, толька пырскі кругом.* ШАБУЛДЭХНУЦЦА, ШАБУЛДЫХНУЦЦА *зак.* 1. Наліцца або выліцца а̀дным махам, адразу. *Пріляпіў вядро ну круюшок ны скамейкі, дзьвірямі ляпнуў — яно й шубулдэхнулыся на мост. Ну й шубулдыхнулыся ў цябе выда, ажно Пракоп на печы пачуў.* 2. Кінуцца ў ваду з шумам. *Ці шубулдэхнуўся б ты так, як Шурік прыгыіць? Адзін шубулдыхнуўся, а ўсьлед за ім і астатнія пычалі прыгыць.*

ШАБУЦІЛАЎКА, ШАБУЦЁЛАЎКА *ж. эмац.* Шум, крык. *Знаіш, якую шубуці́лыўку яны пыднялі ў Різанцых? Нейкыя шубуцёлыўка была, ну мы пры яе мала чулі.*

ШАБУЦІЦЕЛЬ, ШАБУЦІЦЕЛЬНІК *м.* Буян, крыкун. *Хвідасёнык усё угыварівыў сапрыныўскыга шубуці́ціля. Як вып'іць, тады ён хвабрец, такей шубуці́цільнік, што куды там!* ШАБУЦІЦЕЛЬНІЦА *ж. Тама Сірьгяёнкыва шубуці́цільніца усё рызырялыся.*

ШАВАЛІЦЬ, ШАВЯЛІЦЬ *незак. перан.* 1. Ісці (пра невялікі спорны дождж). *Нібальшэй дождж, алі ж шывалі́ў усю ноч. Узноў шавеліць дождж, як яму ні ныдаесьць толька!* 2. Абтрасаць (сад). *Бысытва́ хадзіла,*

*шывалілі сады, ці ты цэлыю ноч будзіш сьцярежч? Ну й распусьнікі, цігаюцца нычамі і шавелюць садкі.*

ШАЕЧКА *ж. памянш.* Ражка. *Ша́ічкі тады нада, як скот дзяржыш, а біс скыта нашто яны.*

ШАКАЛАДЖАННЕ *н. эмац. гумар.* Прыемнасць. *Ні пымыгаіць Пецьку ніякыя шыкыла́джыньня, ня хочыць Прося і глядзець у яго бок.*

ШАКАЛАДЖАННІК *м. эмац. гумар.* Той, хто робіць прыемнае. *Штоб такей шыкыла́джыньнік ды ні пынырaвіўся Ріпіні, ён умеіць зь ізыком падлезьць.* ШАКАЛАДЖАННІЦА *ж. Каця была шыкыла́джыньніца, іна як маслым пу душэ масьліла Сірьгяёнычка.*

ШАКАЛАДЗІНА *ж.* Адна плітка або цукерка шакаладу. *Я ж табе нідаўна дыла шыкыла́дзіну, а ты ўжо другую просіш. Памянш.* ШАКАЛАДЗІНКА, ШАКАЛАДЗІНАЧКА. *Раз мяне слухыць ня хочыш, то шыкыла́дзінкі ні палучыш. А што, смашнінькія шыкыла́дзінычкі, а ты ня веріў, што дам.*

ШАКАЛАДЗІЦЬ *незак. эмац. гумар.* Рабіць прыемнае. *Усё шыкыла́дзіць сваёй дырагой, а іна вірядуіць ім, як сыма хочыць.*

ШАЛАБАН *м. груб.* Галава. *А шылыба́н у цябе ны плічах длі чаго хітаіцца? Памянш.* ШАЛАБАНЧЫК. *Шылыба́нчыкым думый, а ня чым другім!* ШАЛАБАННЕ *н. зб. Ны шылыба́ньні многа пынакручывына ды пыначэсывына, толька пуд украшэнііміі саўсім пуста, пустута адна.*

ШАЛАБНЯ *груб.* 1 *ж.* Галава. *Твыя шылыбня́ ні ў якім дзелі ні сыбрыжаіць.* 2 *звыч. м.* Няздатны чалавек. *Якей ён шылыбня́, за што ня возьміцца, усё з рук ляціць.*

ШАЛАБНЯК *м. груб.* Няздатны чалавек, дурань. *Узяўся с Просіным шылыбняком тулкуваць пра нешта.* ШАЛАБНЯЧКА *ж. Разьві шылыбня́чку можна у чомнебудзь уверіць, ці йна што пойміць?*

ШАЛАМШЭЯ *ж. іран.* Някемлівая, няўмелая, нязграбная жанчына. *Ні гывaрі ты шыламшэі нічога, толька сквіл у надзелыіць, апазоріць.*

ШАЛАПУЦЕННЕ *н.* Шалапуцтва. *Як вазьму мятлу, як шурну ат'етуля, будзіць ён ляцець ні глідаючыся, будзіць яму шылапу́ціньня.*

ШАЛАПУЦЕННІК, ШАЛАПУТНІЧАННІК, ШАЛАПУЦЕЦ *м.* Шалапут. *Ета Андроныў шылапу́цінньнік рызыряіцца, я па голысу чую. Ну й шылапу́тнічыньнікі, ніхай яны прыгрімяць і прывалюцца! Нешта Мыланкін шылапу́ціц бушуіцца кылы сажылкі.* ШАЛАПУЦЕННІЦА, ШАЛАПУТНІЧАННІЦА *ж. Нейкыга толку іна хочыць ач шылапу́цінньніцы. У шылапу́тнічыньніцы можыш што хочыш і пачуць, і ўвідзіць.*

ШАЛАХАЦЬ *незак. эмац.* Церці. *Рукавом шыла́хыіш пы грязный скамейкі, і ён увесь зыгрязьніўся.* ШАЛАХНУЦЬ *зак.* Цірнуць. *Пы пале шыла́хнуў нечым грязным, пылыса абрузувалыся шурокыя.* ШАЛАХНУЦЦА *зак.* Цірнуцца. *Шыла́хнуўся плічамі ў клеці, тама пыліштчыпыліштчы!* ШАЛАХНУТЫЙ *дзеепрым. Зразу відна, што шыла́хнута аб нешта жырныя.*

ШАЛАХВОСЦІК, ШАЛАХВОСЦІЧАК *м. памянш.* Задавака. *Іванёнкыў сын тожа быў шылахвосьцік, як рысхваліцца, у яго, кажыцца, усяго цякець і плувець. Пра нешта дужа аньціресныя рысказывыў Піліпёнкыў шылахвосьцічык, слухылі разьвесіўшы вушы.* ШАЛАХВОСТАЧКА *ж. На словых жывець як кыралева яе шылахвостычка, толька зад ці ёсьць чым прікрыць.*

ШАЛЁВАШНІК *м.* Лесаматэрыял для распілоўвання на шалёўкі. *Ета харошый шалёвышнік, і ня тоўстый, і ня тонкій, ікраз ны шалёўкі.*

ШАЛЁЎЧЫНА, ШАЛЯВІНА *ж.* Шалёўка. *Мне б горька нада нескылька шалёўчын хрантон зашыць. У мяне яшчэ троху шылявін ні хвытаіць збоку ад гряд.* Памянш. ШАЛЁВАЧКА, ШАЛЁЎЧЫНКА, ШАЛЯВІНКА. *Іван летыся нарезыў сабе шалёвычык, думыіць красіва хату апшулюваць. Шалёўчынкі пустругаюцца і пріб'юцца, крысівей станіць. Парежу достку, зь яе выйдуць ладныя шылявінкі на дзьверцы.*

ШАЛЁЎШЧЫК *м.* Той, хто шалюе. *Заўтря абішчаў шалёўшчык пріціць із-зы Сыжа, нада у дваре астацца, пымыгаць яму.* Памянш. ШАЛЯВАННІЧАК. *Шулюва́ньнічкі твае ні на сьмех бяруцца, могуць да белых мух кончыць.* ШАЛЁЎШЧЫЦА, ШАЛЯВАННІЦА *ж. Сь цябе б і шалёўшчыца ніплыхая пулучылыся, гвозьдзя як ты лоўка*

*зыбіваіш! Нешта ў цябе, шулюва́ньніца, досткі крі́ва прілігаюць.*

ШАЛУДЗІЎЛЕННЕ *н. перан. іран.* Задаванне, вычваранне. *Чылавечыскыга нічога ат яго ня ўвідзіш, адно шулудзі́ўліньня плувець.*

ШАЛУДЗІШЧА *м.* і *ж.* Вычвараннік. *Хочыш ты толку ач шулудзі́шчы дыбраць, ён ні прідумыіць, пы якой зямле ходзіць.*

ШАЛУДЗЯЧЫНА *м. іран.* Задавака, вычвараннік. *Зь яго многа чаго тварілыся, шулудзя́чына быў хлопіц.* ШАЛУДЗЯЎКА *ж. Ач шулудзя́ўкі можна ўсяго дыждаць, іна і нытрілюдзіць ні пысьцісьняіцца. Памянш.* ШАЛУДЗЯВАЧКА. *Пабегла шулудзя́вычка тресьць тряхольлім пірід лідыгышчанскімі хлопцымі.*

ШАЛУПЕНЬКА *ж. эмац.* Старэнькая хатка. *Стыяла трошку ў баку ад дарогі шулупенька, цікла як у решыта. Памянш.* ШАЛУПЕНЕЧКА. *Тады хто як прімудряліся: куплялі шулупенічкі, худзь ба крыша ныд гылавою.*

ШАЛУП'ЕЦЦІКА *н. памянш.* Транты. *Прібірай сваё шалу́п'іцьціка к месту, дос яму выляцца айдзе пупала.*

ШАМ *выкл.* Пра нечаканае з'яўленне. *Шам і едзіць ізы двыра. Ня думылі нічога, а тута госьці шам у хату.*

ШАМАВАТА, ШАМАКАВАТА, ШАМАКАВАЦІСТА *прысл. метаф.* Дурнавата. *Другей раз як ляпніць штонебудзь шумува́та, зьдзержывыісься, каб ні зысьміяцца. Пасьці ўсігда шумукува́та гаворіць, ён і на від замецін, што нідапечыный. На етый раз ты тожа шумукува́ціста зьдзелыў.*

ШАМАВАТАСЦЬ, ШАМАКАВАТАСЦЬ, ШАМАКАВАЦІСТАСЦЬ *ж. метаф.* Дурнаватасць. *Чаго другога ня дужа, а шумува́тысьці хвытаіць, хуць адбуўляй. У пріродзі шумукува́тысьць: яго дзед такей быў. Як жа зьдзелыць меншы шумукува́цістысьць, нызад яго ні пірядзелыіш.*

ШАМАКАВАТЫЙ, ШАМАКАВАЦІСТЫЙ *прым. метаф.* Дурнаваты. *Іш шумукува́тым чылавекым трудна дыгыварівыцца, ён усігда як веціp. Ну а што, ежылі сват, раз шумукува́цістый, я так і гыварю. Памянш.* ШАМАКАВАЦЕНЬКІЙ. *Ёй худзь ба якога шумукува́ціолькыга пупасьць, і то б рада.*

ШАМАНУЦЬ *зак. эмац.* З'есці. *Прігутувана нічога ні було, я унісла капусты, пылажыла кусок сала, — усё шыманýлі.* ШАМАНУТЫЙ *дзеепрым. Шыманýта пасьці усё, што було паложына.*

ШАМАНШЭННЕ *н.* Ціхае хрумсценне (пра мяккі качан). *Калі шыманшэньня, ета ні капуста, кычанчык должын быць цьвёрдый.*

ШАМАНШЭЦЬ, ШАМАНШЭЦЦА *незак.* Ціха хрумсцець (пра мяккі качан). *І тэй кычан шыманшэў, і етый такей самый. Нізыдашныя сёліта капуста, якей кычан ня возьміш, кажный шыманшыцца.*

ШАМАЦЬ, ШАМАЦЦА *незак.* Шамацець. *Нікога тама німа, можа ікая мыш у саломі шáмыла. Доўга у сені шáмыліся мáлыя, пакуля заснулі.* ШАМНУЦЦА *зак. перан.* Праваліцца. *Я раз у сажылку шáмнуўся, чуць пад лёд ні пашоў.*

ШАМАЧОЧАК *м. памянш.* Неразумны чалавек, з ветрам у галаве. *Вот вам і шымачочык, ладную дзеўку прівёз сабе ісь сьвету. Узмацн.* ШАМАЧЫНА. *Шымачы́ну пупала нейдзі, ён дайжа пы ліцу відзін, што нідырáзьвітый.* ШАМАЧКА *ж. Шымáчка ладна ні скажыць, ты толька верь большы. Памянш.* ШАМАЧАЧКА. *Што ж ты будзіш дзелыць, калі ўрадзілыся шымáчычка, будзіш гурюваць.*

ШАМАЧЭННЕ, ШАМКАННЕ *н.* Шамаценне. *Я тожа чуў шымачэньня, ды ні хацелыся пыднімацца глядзець, што тама зывіряіцца. Якоя-то шáмкыньня я чула, а што там було, ні знаю.*

ШАМАЧЭЦЬ *незак.* Шамацець. *Як станіць мыш зы шпалерымі шымачэць! — нада ёй якую атруту пылажыць.*

ШАМШЭЙ *м.* і *ж. іран.* Някемлівая, нязграбная, няўмелая асоба. *Айт, шамшэй зыдаўся, толку зь ім ніякыга ні найдзіш. Іна такей самый шамшэй, як і Міхалка. Памянш.* ШАМШЭЙЧЫК. *Пывіла Аўдыкімоўна некуды свайго шамшэйчыка. Узмацн.* ШАМШЭІНА. *Што зы шамшэіна чылавек, талкуй яму, як нада було зьдзелыць, — нет, сваё тваріць. Павеліч.* ШАМШЭІШЧА. *Воч чаго ты еткыя шамшэішча нісусьветныя, табе рустулкувалі, куды іціць, а ты куды выпрывілыся?* ШАМШЭЙКА *ж. Зроду*

*была шамшэйка твыя блыгаверныя, ніхто яе ні пірядзелыіць. Памянш.* ШАМШЭЕЧКА. *Разьві ты ня відзіў, што шамшэічка бярецца за дзела?*

ШАНДАРАХАЦЬ *незак. эмац.* Грукатаць. *Ці чуіш, па нейкыму жалезьзю другімі жылізячынымі шындырáхыюць ны дваре.* ШАНДАРАХНУЦЬ *зак.* 1. Ударыць. *Дубінкыю ціряс плечы шындырáхніць, тады ты зразу асядзісься.* 2. Пабегчы раптоўна. *Глядзі, конь шындырáхніць па жыту, праломіць сьлед як роў.*

ШАНТРАПЁНАК *м.* Пусты, нікчэмны чалавек. *Ета шынтрапёнык, зь ім пру сюрьёзныя дзела гываріць дайжа ня думый. Памянш.* ШАНТРАПЁНАЧАК. *Іш шынтрапёнычкым толку ні ў чом ні найдзіш. Павеліч.* ШАНТРАПІШЧА *ж. зб. Сыбярецца гуртым шынтрапíшча і выхвыляюцца адзін пірід другім.*

ШАПАТОЧАК *м. памянш. эмац.* Шэпт. *Сам дыгыдайся, пры каго ў іх такей шыпаточык, канешня, Броньку апсуждаюць.*

ШАПІШЧА *ж. павеліч.* Шапка. *Шáпішчу на вочы надзьвініць і цягніцца як мядзьведзь якей. Памянш.-зніж.* ШАПЧОНКА, ШАПЧОНАЧКА. *Ён ужо сам ці помніць, айдзе шапчонка дзелыся. Пінжачэнка затрёпыный, шапчонычка з луманым кызырьком — жаніх іўляіцца.*

ШАПКАВАЦЦА *незак. метаф. гумар.* Вітацца, дакранаючыся да шапкі. *Аго, як яны культурна шупкувáліся!*

ШАПКАЮ *прысл.* Падобна да пухіра. *Вареньня як варіш, пена шáпкыю. Ны мылаке ў печы пена пыднімаіцца шáпкыю.*

ШАПТАННІК *м.* 1. Той, хто шэпчацца. *Яны шыптáньнікі усё роўна як дзеўкі.* 2. Той, хто прамаўляе замовы. *Ці ён пашэпчыць, твой шыптáньнік, ці кот у ваду плюніць — ета адзінакыва.* ШАПТАННІЦА *ж.* 1. Тая, што шэпчацца. *Нешта шыптáньніцы глянуць, глянуць у Высілёў бок і зыліваюцца хохытым.* 2. Тая, што прамаўляе замовы. *Некуды пупыўзла Мікітыва шыптáньніца, ці ні лячыць каго.*

ШАПТАЦЬ *незак. метаф.* Развальвацца па швах і частках. *Абнасіўся саўсім, ні касьцюма путныга німа, ні пінжыка, і бацінкі шэпчуць.* ШАПТАНУЦЬ *зак.* Шапнуць.

*Тонька нешта дзеўкым шыптанýла, яны доўга зыліваліся хохытым.* ШАПТАНУЦЦА *зак.* Перашаптацца. *Во січас шыптанýцца і, пыглядзіш, некуды выпрывюцца.*

ШАРАБУР'ІКА *н. памянш.* Старое, непрыбранае адзенне. *Худзь ба троху у пырядык прівёў сваё шырабýрыка, глядзець нілізя.*

ШАРАМІНА *ж.* Шрам. *У яго ны шчаке ладныя шырáміна. Памянш.* ШАРАМІНКА. *Раніт быў, шырáмінка асталыся.*

ШАРАМЫЗНІК *м. эмац.* Хлус, несумленны чалавек. *Хылдзянок такей быў шырамы́зьнік, што ні прідумыць.* ШАРАМЫЗНІЦА *ж. Ці ета дзеўка, ета шырамы́зьніца, на ёй шкура хыдаром ходзіць і вока гаріць.*

ШАРАНУЦЬ *зак. эмац.* Прагнаць, пагнаць. *Цілят шыряні ат аўса, ато яны увалюцца усі — ні пагледзіш.*

ШАРАЎКІ *мн.* Шалупінне. *Акуратней апшарушывый цубулю, каб шырáўкі ні рызьліталіся куды зря. Памянш.* ШАРАВАЧКІ. *Шырáвычкі нада ціхінька зьмесьць у кучку ґ загнету.*

ШАРАХАННЕ *н. перан.* Трэнне. *Посьлі такога шырáхыньня пінжак станіць пахож ны тряпку, што ні надзеніш.*

ШАРАХОНЕННІК *м. метаф.* Той, хто праяўляе актыўнасць. *Ныпряёнык быў шырахоніньнік, што ухадзі, шчытаў сябе кум кыралю.* ШАРАХОНЕННІЦА *ж. А нечым выхвыляцца той шырахоніньніцы, адну спыднічэнку колым ні ськідаіць.*

ШАРАХОНІЦЬ *незак. метаф.* Выклікаць актыўнасць. *Іх цэлыю нядзелю шырахоніць: як жа, бальшых гасьцей ждуць, гатовюцца.* ШАРАХОННІЧАЦЦА *незак.* Праяўляць актыўнасць. *Нешта шырахоньнічыліся Кулагіны, ні знаю, што ў іх нымічалыся.*

ШАРАХОННЕ *н. зб. эмац.* Рызманы, лахманы. *Носіцца іс сваім шырахоньнім як кошка с помызым.*

ШАРАХОННІЧАННЕ *н. метаф.* Актыўнасць. *Усё іхныя шырахоньнічыньня ныпрасна, ні пріехылі Дывыдзёнкывы.*

ШАРАШАННЕ *н. эмац.* Лупцоўка. *Як уродзіцца чырцянок, яму ніякыя шырáшыньня рады ні дасьць.*

ШАРАШЫЦЬ *незак. эмац.* Лупцаваць. *Калі ні пірістаніш адурюваць, дык успомні, як цябе Косьцік шырáшыў.*

ШАРСЦЕННЕ *н. метаф.* Праборка, наганяй. *Ня дужа яны пынімаюць тваё шарсьценьня, на іх нада бацька с харошыю пугыю.*

ШАРСЦЯНЕНЬКІЙ *прым. памянш.* Шарсцяны. *Дычка прівізла шырсьцяненькыю кохтычку, цёпла ў ёй кылы плячэй.*

ШАРУПІЛА *м.* і *ж.*, ШАРУПІЛКА *ж. эмац.* Непаважаная асоба. *А хто етыга шарýпілу ні знаіць, раншы яго зы чылавека ні вялі. Кывалёнкыў шурупíла трілюдзіў пры Дымбас. Пра сена Лявончыкыва шурупíлка рысказывыла, ёй ня дужа можна веріць.*

ШАРУПІНА *ж. эмац.* Старая хата. *У етый шарýпіні ня будзіш жыць, у ёй толька што сьцены ня сьвецюцца. Памянш.* ШАРУПІНКА, ШАРУПІНАЧКА. *Жыў ён у шурупíнкі, стыяла крайнія збоку. Малёхтынькыя шурупíнычка чуць стаіць, глядзі, суніцца.*

ШАРУШЫЦЬ *незак.* Узрыхляць. *Дождж крепка пpібіў зямлю, я шурушы́ла, ато гурочыкі могуць ні ўзыйціць.* ШАРУШЫЦЦА *незак.* Узрыхляцца. *Во тут во луччы шарýшыцца, многа мякчэй.* ШАРУШАНЫЙ, ШАРУШОНЫЙ *дзеепрым. Шарýшыныя дрожджы луччы высыхлі. Відзіш, тута шурушоныя зімля, нехта лазіў.* ШАРУШОМШЫ *дзеепрысл. Шурушомшы зямлю, нада стыряцца кыряньковў ня трогыць.*

ШАРУШЭННЕ *н.* Узрыхленне. *Шурушэньня дужа пымыгаіць, ні дырма наўчыліся скырадзіць пасевы, раншы так ня дзелылі.*

ШАРШЧЭННІК *м. эмац.* Той, хто знішчае, забівае. *Каб усе былі такея грозныя шаршчэньнікі, ні днаго б вуўка даўно ні асталося.* ШАРШЧЭННІЦА *ж. Віджу, віджу, шаршчэньніца, січас ты ні аднае вуткі ня кініш.*

ШАСЦІКЛІНКА *ж.* Кепка з шасці клінкоў. *Ета калі-то мода была ны шысьціклíнкі. Памянш.* ШАСЦІКЛІНАЧКА. *Хлопцы адзін пірід другім зыдываліся: я сабе шысьціклíнычку купіў!*

ШАСЦЯРЫК *м.* Бервяно таўшчынёй у шэсць вяршкоў на зрэзе ў камлі. *Навазіў шысьцірікоў, можна строіцца, толька сілы ў яго мала.*

ШАТАЦЬ *незак. эмац.* Вымушаць швэндацца. *Нейдзі шыта́ла троя судык, а сяньня прівалокся пымятый.*

ШАТКАВАННІК *м.* Той, хто шаткуе. *Шуткува́ньнікі як возьмуцца, яны табе за вечыр усё пысякуць.* ШАТКАВАННІЦА *ж. Прістала шуткува́ньніца, ну іна пырядышна пымыгла.*

ШАТКОЎКА *ж.* Шаткоўня. *Шаткоўка раз у год нада, стаіць абернутыя на клеці, увосінь толька зьнімаім.*

ШАХ *выкл.* Пра крэсленне. *Пісаў, пісаў, а тады шах, шах, усё пірічыркнуў, пылажыў цітрадзь і пабег.*

ШАХАЦЬ *незак. метаф.* 1. Ганяць, праганяць. *А ці раз цябе шахыў ат'етуля Максім?* 2. Бяздумна траціць. *Ні шахый дужа грышамі, яны пынадыбюцца, а ў цябе ня будзіць ні капейкі.* ШАХАНУЦЬ *зак.* 1. Прагнаць. *Як шыхану́ў скот с таго боку, каровы усім тубуном у ячмень.* 2. Бяздумна растраціць. *Ну й што, ежылі многа було, шыхану́ў, што ні капейкі ні асталыся.*

ШАХВЯРЫЦА *ж.* Шаферка на вяселлі. *Не, я пакуля ні знаю, хто ў яе будзіць зы шыхвярі́цу.*

ШАХЦЁР *м. перан. гумар.* Непаседа, задавака. *Ух, шахцёр быў яго большый маліц, шкура на ём гарела. Памянш.* ШАХЦЁРЫК. *Такей шахцёрік пыдрыстаіць, будзіць увесь дзед.* ШАХЦЁРКА *ж. Вольгіна шахцёрка атнекуля явілыся, учора прікаціла. Памянш.* ШАХЦЁРАЧКА. *Бярецца шахцёрычка чышчы мамы.*

ШВАГАРОК, ШВАГЕРЧЫК, ШВАГАРОЧАК *м. памянш.* Швагер. *Калі швыгарёк заедзіць, нада спрасіць, ці думыіць ён прыдываць пацьцёлка. Швагерчык твой пынистыяшчыму надзеўся, ні скажыш, што Саўкін сын. Швыгарёчык ваш ці ня к Нюшкі клінкі пыдбіваіць.*

ШВАГРЭНІН *прым.* Прыналежны швагерцы. *Ета швагреніна кохтычка асталыся, іна будзіць іціць нызад і зыбярець.*

ШВАЛІНА *ж. эмац.* Бескарысная рэч. *Нашто вам усякія шва́ліны бярежч, усё ета пывыкідаць нада. Памянш.*

ШВАЛІНКА. *Скажы ты мне, длі чаго тыкая шва́лінка можыць прігадзіцца.*

ШВАЛЬНЯ *ж.* Сукнавалка. *Некытырыя аддывалі сукно ны шва́льню, а мы ўсігда вазілі за Сож, там быў харошый масьцір.*

ШВІГІКАННЕ *н.* Шпурлянне. *Уніміцісь-ка іш швігі́кыньнім, ато ў мяне можыця жыва пулучыць.*

ШВІГІКАННІК *м.* Той, хто шпурляе. *Етыя швігі́кыньнікі рызаб'юць вакно, тады лайся, сколька хочыш.* ШВІГІКАННІЦА *ж. Я січас успакою швігі́кыньніц, калі яны ні найдуць сабе зыняція.*

ШВІГІКАЦЬ *незак.* Шпурляць. *Чаго ты ўсё швігі́кыіш, што табе ні ныравіцца?* ШВІГІКНУЦЬ *зак.* Шпурнуць. *Вецір швігі́кнуў хвортычку, і шыбка треснула.*

ШВІГУНЬ *выкл.* Пра шпурлянне. *Мы замецілі: ішоў, руку дзіржаў ззаду, а тады нешта швігу́нь пат куст.*

ШВІХ *выкл.* Пра імклівы рух. *Цімка толька пыкызаўся ны парог, іна швіх с хаты і пабегла.*

ШВІЦ *м.* Швіцкая парода буйной рагатай жывёлы. *Швіцы́ як каторыя, адна малошныя карова, а другая ня дужа.*

ШВЭНДА, ШВЭНДАЛА *м.* і *ж. эмац.* Бадзяка. *Са швэнды ні разу толку ні палучыцца. Куды-то сяньня пыцягнуцца нашы швэндылы на ўсю ноч?* ШВЭНДАЛКА *ж. Пасьледнію швэндылкыю стала Сямёніхіна дычка.*

ШКАРПЭТАК *м.* Тапак. *Нейдзі закінуўся шкарпэтык, ці ні пыт крываць, кійком пыпарі. Памянш.* ШКАРПЭТАЧАК. *Ці ты ня відзіў маіх шкарпэтычык, нешта нійдзе ні найду.*

ШКАРПЭТКА 1 *ж.* Тапак. *Адна шкарпэтка куды-то закінулыся, а другая во йна.* 2 *м.* і *ж. перан.* Нехлямяжая асоба. *Пупаў сабе нейкыю шкарпэтку, хваліцца: што ўжо за жонка! Памянш.* ШКАРПЭТАЧКА. 1. Тапак. *Ныдзівай шкарпэтычкі, мост ня дужа чыстый.* 2. Нехлямяжая асоба. *Маліинькій, лысінькій — шкарпэтычка, сыгласілыся ж іна браць такога зяця!*

ШКАРПЭЦІК, ШКАРПЭЦІЧАК *м. памянш.* Задзірліваe дзіця. *Шкарпэцік ты маліінькій, ікая ў цябе сіла.*

*Задзірлівый твой шкарпэцічык, з бальшымі вока ну кулак нясець.*

ШКАРПЭЦІНА *м.* і *ж.* Упартая асоба. *Такога шкарпэціну трудна піряспоріць, што ты яму дыкажыш. Павеліч.* ШКАРПЭЦІШЧА. *Етый шкарпэцішча рімушка толька паслухыіць.*

ШКАРУДНІЧАННІК *м.* Задзіра, упарты чалавек. *Абоя яны адзінакывыя шкарю́днічыньнікі, нечыга пра іх тулкуваць.* ШКАРУДНІЧАННІЦА *ж. Ну й шкарю́днічыньніца яе залоўка, чаго толька ні прідумывыіць!*

ШКЛЯННЁ *н. метаф. абразл.* Вочы. *Пратрі сваё шкляньнё, ці ты ня відзіш, што яны табе пацсовывыюць!*

ШКОЛЕННЕ *н.* Прабіранне, ушчуванне. *Маім пымагло школіньня, як нытацыю цётка дыла, дык троху слухыюць.*

ШКОЛЕННІК *м.* Той, хто прабірае, ушчувае. *Якей іс Кузьмы школіньнік, ён голысу на іх ні павысіў.* ШКОЛЕННІЦА *ж. На іх нада тыкая школіньніца, як Трыхімоўна, яе б аднаго голысу быяліся.*

ШКОЛІЦЬ *незак.* Прабіраць, ушчуваць. *Ці ты школь яго ці ня школь, а як зыдаўся неслух, такім і будзіць.*

ШКУМАДЗІЦЬ *незак. эмац.* Шкуматаць, рваць. *Што яны глідзяць, на іх што ні надзень, усё шкума́дзюць.*

ШКУМАЦЕННЕ *н.* Шкуматанне. *Посьлі шкума́ціньня нічога тамыцька ня выбіріш, выкідывыць нада.*

ШКУРАННЕ *н. метаф.* Праборка, біццё. *На іх нада ні такоя шкуря́ньня, во цірісьсядзельнік ба уняў.*

ШКУРАЦІНЫЙ, ШКУРАЦІНЭЙ *прым.* Скураны. *Тут ба нада шкураці́ныю апшыўку зьдзелыць, кряпчэй ба дзіржалыся. У яго быў шкурацінэй мяшочык.*

ШКУРАЦЬ, ШКУРЫЦЬ *незак. метаф.* Прабіраць, біць. *Квакуха так шкуря́іць катоў, што яны яе кругом двыра аббігаюць. Утрёх як узяліся, шку́рілі яго, шку́рілі, дый шку́ріць большы некуды.*

ШКУРБАЦЕНЬ *м. эмац.* Зношаны скураны абутак. *Адзін шкурбацень ёсьць, другога ні найду. Узьдзела шкурбатні́ ды топыю.* ШКУРБАТНЯ *ж. зб. Пыглядзі ў етый шкурбатні́, можа найдзіш што на ногі ныпяць.*

ШКУРЛАПЭТ *м. эмац.* Нехлямяжы ўпарты чалавек. *Якей сь Пітрычка чылавек, — шкурлапэт, толька язык дужа гладка ходзіць. Памянш.* ШКУРЛАПЭЦІК, ШКУРЛАПЭЦІЧАК. *Нейкій гырадзкей шкурлапэцік за ёю ухлёстывыіць, часта стыяць разым. Куды вы етыга шкурлапэцічка цягніця, ніхай ба сядзеў у дваре. Узмацн.* ШКУРЛАПЭЦІНА. *Такей шкурлапэціна яе зяць, што ні прідумыіш. Павеліч.* ШКУРЛАПЭЦІШЧА. *Ну й шкурлапэцішча, чаго ты ны яго хуць ня тукніш хырашэнька?* ШКУРЛАПЭТКА *ж. З Мысяёнкывыю шкурлапэткыю ня дужа згаворісься. Памянш.* ШКУРЛАПЭТАЧКА. *Я знаю, хто іх пудвучыў у садок злазіць: Міёныва шкурлапэтычка.* ШКУРЛАПЭЦЦЕ *н. зб.* 1. Нехлямяжыя ўпартыя асобы. *Якога вы толку хочыця ач шкурлапэцьця, іх ніхто зу людзей ні вядзець.* 2 *перан.* Бясформенныя кавалкі. *Тоя шкурлапэцьця смашней ні брізаўшы, мяса засохлыя.*

ШКУРЫСТЫЙ *прым.* З цвёрдай скурай. *Нейкія шкýрістыя яблыкі, я іх так ні ўкушу, вазьму нож дый апскаблю.*

ШКУРЭНДА *ж. эмац.* Свавольніца, распусніца. *Цігаюцца шкуренды, работыць разу ня хочуць. Узмацн.* ШКУРЭНДЗІНА. *Максімывый шкурендзіні толька пыдывай кывалерыў. Павеліч.* ШКУРЭНДЗІШЧА. *Была шкурендзішча за ўвесь сьвет, матка ат яе плакым плакыла.*

ШЛЕХАТАЦЬ *незак. метаф.* Цячы моцным струменем. *Ляжыць ён з разьбітыю гылавою, кроў шляхочыць як с пырасёнка.*

ШЛЕХАЦЕННЕ *н. метаф.* Моцнае злаванне. *Ні прідумыць, калі яго шліхаценьня кончыцца, і ці кончыцца калі.*

ШЛЕХАЦЕЦЬ *незак. метаф.* 1. Моцна, з плёскам цячы. *Край нада крышу рітуваць, як дождж, пряма шліхаціць на столь і ў хату, міскі пыцстыўляць ні спруўляюся.* 2. Моцна злаваць. *Доўга шліхацеў, уняцца ня мог.*

ШЛЁМАННЕ, ШЛЁМКАННЕ, ШЛОМАННЕ *н.* Тупанне па гразі. *Кынчай шлёмыньня, аддыхні троху, ты прітопкылыся за дзень. Як жа ныдаела ета шлёмкыньня,*

*ты худзь ба троху двор пачысьціў. А ўпікаіцца шломыньня, топчысься і топчысься пы грязі як ніпрікаіньнік.*

ШЛЁМАЦЬ, ШЛЁМКАЦЬ, ШЛЁМАЦЦА, ШЛЁМКАЦЦА *незак.* Тупаць па гразі. *Калошы вярёвычкыю пыдвяжу і шлёмыю дзень, кыла посыду тапчуся. Пы двару шлёмкыць ладна і ў етых атопкых. Дужа бальшэя работы німа і біз работы ні сядзіць, шлёмыіцца пасьці цэлый дзень. Ці табе ні ныдаела шлёмкыцца, пысядзі мінутычку зь людзямі.*

ШЛЁНСКІЙ *прым.* Сілезскай пароды (пра авечак). *У нас доўга былі шлёнскія воўцы, а тады неік зьвяліся.*

ШЛЁПАЛА, ШЛЁПКАЛА *м.* і *ж.* Той, хто тупае па гразі. *Топчыцца шлёпыла, пу пуду грязі цігаіцца зы ныгамі. Шлёпкыла ты шлёпкыла, цэлый дзень валочыш ны ныгах грязь у сенцы.*

ШЛІХТАВАННІК, ШЛІХТАВАЛЬШЧЫК, ШЛІХТОЎШЧЫК *м.* Той, хто чэша бярвенне. *Пашлі заўтрікыць шліхтува́ньнікі, скора выйдуць. Каб яшчэ адзін шліхтува́льшчык, скарей ба дзела дзьвінулыся. Сьпецный шліхтоўшчык быў Сілязень, у яго ўсё гарела ў руках.* ШЛІХТАВАННІЦА, ШЛІХТАВАЛЬШЧЫЦА, ШЛІХТОЎШЧЫЦА *ж. З бабы шліхтува́ньніца ні палучыцца. Во як бярецца Цітыва шліхтува́льшчыца! Яшчэ трошку — і ты станіш шліхтоўшчыцыю як ныстыяшчый плотнік.*

ШЛІХТОЎКА *ж.* Часанне бярвення. *У аднаго пулучаіцца акуратныя шліхтоўка, а ў другога ня дужа.*

ШЛОМАННІК, ШЛОМКАННІК, ШЛЭМКАННІК *м. эмац.* Той, хто тупае па гразі. *Ідзець с кустоў мой шломыньнік, хадзіў пыглядзець, каб хворысту ацьсеч трошку. Нечыга дзелыць етым шломкыньнікым, ахота грязь мясіць чуць ні па поіс. Ну што ты, шлэмкыньнік, ніяк урэмя ня выбіріш аддыхнуць?* ШЛОМАННІЦА, ШЛОМКАННІЦА, ШЛЭМКАННІЦА *ж. Во і Наста еткыя шломыньніца, таўкецца лі двыра. Некуды ваша шломкыньніца і сяньня выпрывілыся, ні сядзіцца старой у цёплый хаці. Ай, ікая ўжо сіла у шлэмкыньніцы, сесьць ба і ні пыднімацца.*

ШЛОПНУЦЬ *зак.* Нягучна трэснуць. *Пашлі ны аборык куўзацца, паехылі, а лёд шлопнуў, пы калені ў ваду ускачылі.*

ШЛУПАК *м. эмац.* Слабы конь. *Мой шлупáк худзь ба етыга паўвозіка дыцягнуў. Памянш.* ШЛУПАЧОК. *Бувала, зыпрягець свайго шлупучкá, ды абеда пашыць, а тады выпрігаіць.*

ШЛУПЯК *м. эмац.* Хілы, слабы чалавек. *Шлупякí вы, а ня хлопцы, калі ўчыцьвярых аднаго ня зборііця. Памянш.* ШЛУПЯЧОК, ШЛУПЯЧОЧАК, ШЛУПЯЧЫНКА, ШЛУПІЧАК. *Няўжэлі етый шлупячок хочыць ныпраўду са мною справіцца? Шлупячочык ты маліънкій, яны сьмяюцца, а ты думыіш, ныпраўду гаворюць. Ты ні сы шлупячы́нкыю бяріся, а с крепкім мальчыкым. Айдзе такім шлу́пічкым боріцца с Толікым. Узмацн.* ШЛУПЯЧЫНА. *Етыга шлупячы́ну адным пальцым зываліш: піхні — ён і пыляціць.* ШЛУПЯЧКА *ж. Воч чаго б шлупя́чкі лезьць туды, айдзе мальцы. Памянш.* ШЛУПЯЧАЧКА. *Яе шлупя́чычка знаіш як нос дзярець!*

ШЛЫНДАР, ШЛЫНДАННІК *м. эмац.* Бадзяка. *Цягніцца неткуля Трахімыў шлы́ндырь як старіц якей. Памянш.* ШЛЫНДАРОК. *Будзіць шлындарёк як бацька.* ШЛЫНДАРКА *м.* і *ж. Ніяк сабе зыняція ні найдзіць твой шлы́ндырька. Гыварілі, айдзе-то за горыдым відзілі шамыўскыю шлы́ндырьку.* ШЛЫНДАННІЦА *ж. Абея яны ладныя шлы́ндыньніцы, адна другой ні ў чом ня ўступіюць.*

ШЛЭЙДАР *м. эмац.* Неахайнік, п'яніца. *Кірей быў шлэйдыр, раз паехыў у зáрыбыткі і прікаціў біс сарочкі. Памянш.* ШЛЭЙДАРЧЫК. *Што-то ні пыказывыіцца ны дзяреўні Анькін шлэйдырчык.* ШЛЭЙДАРКА *ж. Узяў шлэйдырку, памучыўся, памучыўся і прыгнаў, зь ёю нільга було жыць. Памянш.* ШЛЭЙДАРАЧКА. *Хвытаіць шлэйдырычык, прівядзець, а тады гарюй зь ёю.*

ШЛЭМКАННЕ, ШЛЭПКАННЕ *н. эмац.* Тупанне. *Я дзіўлюся ны яе шлэмкыньня, ікраз так яе баба Хрісьціна шлэмкылыся лі скыта. Ныдаела мне шлэпкыньня, ні днаго дня свабодныя мінуты німа.*

ШЛЭМКАЦЬ, ШЛЭМКАЦЦА *незак. эмац.* Тупаць. *У маіх чобытых толька пы двару шлэмкыць з раньня да поўначы, у хату я ў іх ня йду. Хваціць табе шлэмкыць, ідзі за стол садзіся са ўсемі разым. Бяс толку шлэмкыіцца, ні*

*там німа работы, ні тута. Ні ныдаесьць жа ёй шлэмкыцца столька ўремя!*

ШЛЭНДА *м.* і *ж.*, ШЛЭНДАННІК *м. неадабр.* Бадзяка. *Ач шлэнды ні надзейся помышчы пулучыць. Другая шлэнда цягніцца як сьвет біз ума. Ну айдзе шлэндыньніку зыняція найціць, нійдзе ні найдзіць. Узмацн.* ШЛЭНДЗІНА. *Айдзе вы шлэндзіну пірівысьпітаіця! Павеліч.* ШЛЭНДЗІШЧА. *Ну шлэндзішча і большы нічога, матка б'ецца, петыіцца, а ён цігаіцца.* ШЛЭНДАННІЦА *ж. Зыдылася шлэндыньніца, ніякія помышчы Хоўра ат яе ня відзіць.*

ШЛЭНДАННЕ *н. неадабр.* Бадзянне. *Дыбяруся я ду Пуўлючка, дам яму і шлэндыньня, і циганьня, за ўсё нылаю.*

ШЛЭНДАЦЬ, ШЛЭНДАЦЦА *незак. неадабр.* Бадзяцца. *Яму б саўсім ні к чаму па горыду шлэндыць, ці ў дваре работы німа? Прівык шлэндыцца, нічога зьдзелыць ні пpітуркыіш.*

ШЛЭПАННЕ *н. эмац.* Павольная хада, тупанне. *Як табе ні разычку ні ныдаесьць шлэпыньня, таўкесься пуўдня, ніякыга дзела ня відна. Кынчай ты шлэпыньня, пысядзі, усяго ні пірядзелыіш.*

ШЛЭПАРНІК *м. эмац.* Хілы, слабы чалавек. *Якей хызяін іш шлэпырніка, яму толька на печы ліжаць.* ШЛЭПАРНІЦА, ШЛЭПАРКА *ж. Што ты хваліська: жылі, жылі, — шлэпырніцыю была твыя матка. Айдзе ўжо шлэпырькі з мушчыньмі руўняцца.*

ШЛЭПАЦЬ, ШЛЭПКАЦЬ, ШЛЭПАЦЦА, ШЛЭПКАЦЦА *незак. эмац.* Павольна хадзіць, тупаць. *Ікая зь яе работа, трошку лі двыра шлэпыіць і то ладна. Што пупадзецца, уссуну на ногі і шлэпкыю кругом двыра, пасу курей. Хваціць табе шлэпыцца, мыладэя самі могуць пуўпруўляцца. Пакуля змагі трошку ёсьць, пойдзіш шлэпкыцца, ня будзіш жа ліжаць склаўшы рукі.*

ШЛЮНДРА *ж. эмац.* Неахайная, нязграбная жанчына. *Шлю́ндру да толку ніхто ні дывядзець, іна такою навік астаніцца. Узмацн.* ШЛЮНДРЫНА. *Шлю́ндріна і андрак задым ныпярёд носіць. Павеліч.* ШЛЮНДРЫШЧА. *Во яшчэ шлю́ндрішча бізгало́выя зыдылася на горя.*

ШЛЮП *выкл.* 1. Пра хадзьбу па гразі. *Пы грязі цягнуліся, шлюп, шлюп, ніякія дарогі німа.* 2. Пра паданне. *У дрізіну п'яныя былі, пысярёд дарогі шлюп і ліжаць.*

ШЛЯННЕ *н.* Бадзянне. *К шляньню як прівыкніць, тады яго трудна атвучывыць.*

ШЛЯННІК *м.* Бадзяка. *Трудна надзеіцца ны шля́ньніка, ён тріпанець, што паможыць, а чыріш час пыцягнуўся.* ШЛЯННІЦА *ж. Зьдзелылыся шля́ньніца бясстыжыя, а маткі хуць на вуліцу ні пыказыйся.*

ШЛЯСТАЦЬ *незак. эмац.* Накладаць (штраф). *Штрах яны ўмеюць шля́стыць, выўчыліся, большы учыць ні нада.*

ШЛЯХОТА *ж. зб. іран.* Шляхта. *Шляхота была ні абы-хто, з мужуком ні кажный дайжа станіць рызгыварівыць.*

ШМАКАДЗЯВЕЦ *м. экспр.* Непаважаны чалавек. *Ну што ты пры яго скажыш: шмыкыдзя́віц, большы ніхто. Памянш.* ШМАКАДЗЯЎЧЫК. *Такей самый бярецца шмыкыдзя́ўчык, як большый быў. Памянш.* ШМАКАДЗЯВАЧКА *ж. Якея ты помышчы ач шмыкыдзя́вычкі хочыш, нічога ні паможыць.*

ШМАРАВАННІК *м.* Той, хто трэ, націрае. *Січас як возьміцца другей шмурува́ньнік, дзела зыкіпіць. Памянш.* ШМАРАВАННІЧАК. *Нейкій ты нялоўкій шмурува́ньнічык, ні так, як нада, ў цябе пулучаіцца.* ШМАРАВАННІЦА *ж. Завіця Сашкіну шмурува́ньніцу, іна луччы вышмырыіць.*

ШМАРАХАННЕ *н. эмац.* Адганянне, адпрэчванне. *Што ім шмыра́хыньня, адбеглі ґ бярёзкым, стыяць і ныдрыжаюцца.*

ШМАРАХАЦЬ *незак. эмац.* Адганяць, адпрэчваць. *Толька падойдуць, іна іх быйстра шмыра́хыіць аць сябе.* ШМАРАХАЦЦА *незак.* Адыходзіць, уцякаць. *Толька пыказыіцца Сідарёнык, етыя жэўжыкі шмырахыюцца куды каторый.* ШМАРАХНУЦЬ *зак.* Адагнаць, адпрэчыць. *Як шмыра́хнуў, у іх толька пяткі зыбліщчэлі.* ШМАРАХНУЦЦА *зак.* Адысці, уцячы. *Шмыра́хнуліся у бок кустоў, толька іх відзілі.* ШМАРАХНУТЫЙ *дзеепрым. Так шмыра́хнуты, што ні зналі, як бежч.*

ШМЁТАК *м.*, ШМЁТКА *ж.* Дрэнная жывёліна. *Была ў яго німудренькыя кыравёнка — шмётык, трі літры мылыка дывала, як кыза. Шмётка кабылка, на ёй многа ні ныработыіш. Памянш.* ШМЁТАЧАК, ШМЁТАЧКА. *Шмётычык цялёнык, ныўряд ці дажджэсься с такога каровы. Тады ён купіў сабе шмётычку, венікі вазіў прыдываць.*

ШМІРГАННЕ *н. эмац.* 1. Шорганне. *Відна, якое тваё шмірьга́ньня: на што пінжачок паходж?* 2. Шпурлянне. *Ты ў мяне зы шмірьга́ньня так палучыш, ажно задзівісься.*

ШМІРГАННІК *м. эмац.* Шпурляннік. *Аднаму шмірьга́ньніку ўляцела, і другей ета палучыць.* ШМІРГАННІЦА *ж. Унімісяя, шмірьга́ньніца, нашто табе іх трогыць.*

ШМІРГАЦЬ *незак. эмац.* 1. Шоргаць. *Сьпіною шмірьга́іш аб грязныю сьценку, пінжачок у грязі увесь.* 2. Шпурляць. *Ні шмірьга́й тряпкі свае куды зря, посьлі сам ні найдзіш.* ШМІРГАЦЦА *незак.* 1. Шоргацца. *Пыглядзі, рукувамі шмірьга́ісься пы грязныму ўслону.* 2. Шпурляцца. *Ну балыўнікі, узноў бульбыю шмірьга́юцца!* ШМІРГНУЦЬ *зак.* 1. Шоргнуць. *Шмірьгнеш пы грязный полкі і ўсё зыгадзіш.* 2. Шпурнуць. *У кусьця шмірьгну́ў мылаток, шукай цяперя.* ШМІРГНУЦЦА *зак.* Шоргнуцца. *Нейдзі ў сажу абоя шмірьгну́ліся.* ШМІРГНУТЫЙ *дзеепрым.* 1. Шоргнуты. *Тута во ці ні вугольлім шмірьгну́та.* 2. Шпурнуты. *Доўга шукаў шмірьгну́тый ножык.*

ШМОЦЦІКА *н. памянш.* Шмоцце. *Нада глядзець зы сабою, шмоцьціка сваё усігда прібірай.*

ШМУЛЯВАННІК *м.* 1. Той, хто шмуляе, шморгае. *Пызадзелыіць шмулюва́ньнік рукавы, што ні дамыцца будзіць.* 2 *перан.* Той, хто лупцуе. *Калі ўжо мой шмулюва́ньнік дыбярецца, ён ны табе жывога места ня кініць.* ШМУЛЯВАННІЦА *ж.* 1. Тая, што шмуляе, шморгае. *Ны каго ты паходжа, шмулюва́ньніца, уся зымазына.* 2. Тая, што лупцуе. *Ты нушмулюіш, шмулюва́ньніца, у цябе яны пы гылывах пойдуць.*

ШМУЛЯЦЬ *незак. перан.* Ездзіць бесперапынна. *Так і шмуля́юць ны машыных туды-нызад цалюхтынькій дзень бісьпірістаньня.*

ШМУНДАЛЬ *м.* Нізкарослы непаважаны чалавек. *Каму етый шму́ндыль нада, ніхто яго к хаці путпускаць ня*

*хочыць. Памянш.* ШМУНДАЛЁК, ШМУНДАЛЬКА. *Дужа любіць зыдываца Кіреіхін шмундалёк. Явіўся Пуўлючыхін шму́ндылька, будзіць пыказываць сябе. Узмацн.* ШМУНДАЛІНА. *Ну й шмундалі́на, пряма ні знаіць, пы якому сьвету ходзіць. Павеліч.* ШМУНДАЛІШЧА. *Толька што шму́ндылішча, нясець сябе ніізьвесна як.* ШМУНДАЛЛЕ *н. зб. Німа хлопцыў, ну й ваша шму́ндыльля ня дужа каму нада.*

ШМУТКА *ж. эмац.* Старая адзежына. *Зывяжы у вузёл свае шму́ткі, ніхай ні выляюцца айдзе зря. Памянш.* ШМУТАЧКА. *Дывай сюда ету шму́тычку, я ў сундук пылажу.*

ШМЫГЛЯННЕ *н. эмац.* Шныхаранне. *Ныдаела яе шмыгля́ньня тута, ну пакуля ні ылаіш, ня ўніміцца.*

ШМЫГЛЯЦЬ *незак. эмац.* Шныхарыць. *Мы тожа відзілі, што тама шмыгля́ў Антон, а чаго — хто яго знаіць.*

ШМЫГУНЬ *выкл.* Шмыг. *Я здаліку замеціла красівый бырывічок, а Коля шмыгу́нь з другога боку і зы яго.*

ШМЫГЫКАННЕ *н. метаф.* Мільганне. *Нейкыя шмыгы́кыньня відна було, ну хто там быў — ні пызнаць, толька замецілі, што троя.*

ШМЫГЫКАННІК *м. эмац.* Той, хто таемна бегае, шукае. *Што Несьцірывыму шмыгы́кыньніку нада на том дваре?* ШМЫГЫКАННІЦА *ж. Пышла шмыгы́кыньніца апсьледывыць і пунькі, і сенцы, і што хочыш.*

ШМЫГЫКАЦЬ *незак. метаф.* Мільгаць. *Якея-то птушкі шмыгы́кыюць на вербых, прыг, прыг с сука на сук.*

ШМЫКАЦЬ *незак. эмац.* Таемна бегаць. *Усё раньня шмы́кыла пу кустах, нешта яны тама дзелылі.* ШМЫКНУЦЬ *зак.* Таемна пабегчы. *Цімнувата було, як яны шмы́кнулі пу зугуменьню ў лес.*

ШМЫЛЬГАННЕ *н. эмац.* Неашчаднае раздаванне. *Як ты спакойна глядзіш ны яго шмыльга́ньня, я б так ні цярьпела.*

ШМЫЛЬГАННІК *м. эмац.* Той, хто неашчадна раздае. *Скора ў шмыльга́ньніка і кыравёнкі ні астаніцца, сьцягніць з двыра.* ШМЫЛЬГАННІЦА *ж. Ежылі зыдылася шмыльга́ньніца, то і дзяцей можыць пымаріць.*

ШМЫЛЬГАЦЬ *незак. эмац.* Неашчадна раздаваць. *А разьві ён мала шмыльга́ў ячменю налева і ныправа?*

ШМЫЛЬГАЦЦА *незак.* 1. Неашчадна раздаваць. *Шмыльга́ўся, пакуля було чым, ды скора прішмыльгаўся.* 2. Неашчадна раздавацца. *Чаму ж не, бацькіна добрыя будзіць шмыльга́цца.* ШМЫЛЬГНУЦЬ *зак.* Неашчадна раздаць. *Німала шмыльгну́ў на веціp, чаго тут зуступацца.* ШМЫЛЬГНУЦЦА *зак.* Неашчадна раздацца. *Сколька ўжо ні шмыльгну́лыся, дык ныза́д ня верніш.*

ШМЫРГАННЕ *н. эмац.* Адштурхоўванне. *Алёша уніміць цябе іш шмырга́ньнім, прі ём ты етыя прівычкі скора кініш.*

ШМЫРГАЦЬ *незак. эмац.* Адштурхоўваць. *Што ты яго шмырга́іш, ён жа дзіцёнык, а ты бамбіза вырыс.* ШМЫРГАНУЦЬ, ШМЫРГНУЦЬ *зак.* Адштурхнуць. *Як шмыргану́ў, тэй пыляцеў у скырадзьбу што сноп. Шмыргнець раз, дык другей ні палезіць.*

ШМЫРКАННЕ *н. эмац.* Грэблівае адкіданне. *Як пойдзіць на свой хлеб, дык і шмы́ркыньня айдзе дзеніцца.*

ШМЫРКАННІК *м. эмац.* Той, хто выражае грэблівасць. *Ого, якей шмы́ркыньнік Кулінін унук, як зукруціў носым зы сталом!* ШМЫРКАННІЦА *ж. Іна шмы́ркыньніца зы маткінымі плічамі, пыглядзім, сколька нашмыркыіць, як сыма хызяйкыю станіць.*

ШМЫРКАЦЬ, ШМЫРКАЦЦА *незак. эмац.* Грэбліва адкідаць. *Што ты шмы́ркыіш такея баціньічкі, хто табе луччыя будзіць спруўляць? Будзіць шмы́ркыцца, пакуля бацька тряхольля с плеч зьдзярець.*

ШМЯКАННЕ *н.* Важкае паданне. *Я віджу, шмя́кыньня табе пыныравілыся, што ты ўзноў ны бярёзку скрябесься.*

ШМЯКАННІК *м. жарт.* Той, хто валіць пры баруканні. *Ты такей шмя́кыньнік, што с табою усе быяцца боріцца.* ШМЯКАННІЦА *ж. Нешта шмя́кыньніца аслабла, а раншы крепка дзіржалыся.*

ШНАРАННЕ *н. неадабр.* Шныхаранне, пошукі. *Воч чаго я ні люблю — такога шна́ріньня пу чужых двырах.*

ШНУРОК *м. перан.* Радок. *Ат мяжы пы грядзе я шнурок морквы пасеіла, іна хырашо ацскачыла. Памянш.* ШНУРОЧАК. *Шнурочыкі квасолі нада абматычыць, іна ўжо ладныя.*

ШНЫПАРАННІК, ШНЫХАРАННІК *м.* Той, хто таемна шукае. *Так палучыць шны́пырі́ньнік, што сам задзівіцца. Што етым шны́хырі́ньнікым нада у чужой пуні?* ШНЫПАРАННІЦА, ШНЫХАРАННІЦА *ж. Пышла шны́пырі́ньніца ўсюдых пароць, — во прыздравіць некыму! Пынас дасьць узбучку шны́хырі́ньніцы.*

ШНЫР *выкл. неадабр.* Пра пошукі, выглядванне. *Зайшоў на двор, нікога ня відзіць, шнырь, шнырь па пуніх, а я ў вакно гляджу.*

ШНЫХ *выкл. іран.* Пра шныхаранне. *Сюда ўзойдзіць, па ўсіх вугулках шных, шных, што ёй нада етый бабі?*

ШНЫХАННЕ *н. эмац.* Таемныя пошукі. *Нікому такоя шны́хыньня ні пыныравіцца, як ета пу чужому двару лазіць.*

ШНЫХАННІК *м. эмац.* Той, хто таемна шукае. *Як нылаюць шны́хыньніка, тады ён дурную прівычку кініць.* ШНЫХАННІЦА *ж. Прыздравіла сяньня кума Сазоніхіну шны́хыньніцу, крепка прыздравіла.*

ШНЫХАЦЬ *незак. эмац.* Таемна шукаць. *Ета Максім шны́хыіць па полю, трывянэя лашчынкі выглідаіць.*

ШОЛАМ *м. эмац.* Чалавек, які паводзіць сябе шумна. *Ён ат прірodзьдзя такей шолым. Узмацн.* ШАЛАМІНА. *Во шыламі́на рузгукаўся, за дзьве вярсты чутна. Павеліч.* ШАЛАМІШЧА. *Шыламі́шчу із-за лесу пачуіш, а то і з-зы рякі.*

ШОЛУДЗЬ *м. метаф.* Задзірысты чалавек. *Пы бацьку шолудзь пашоў, іш шолудзім луччы ні чыпацца.*

ШОРНІЧАННЕ *н.* Рымарства. *Ён і шорнічыньнім зыймаўся, і борыны гырадзіў, і шубы шыць пробывыў.*

ШОРНІЧАЦЬ *незак.* Займацца рымарствам. *Як ня шорнічыіць, а ралейный хамут за трі дні зьляпіў.*

ШОРСТКІЙ *прым.* Шустры. *Шорсткія курычкі, як прызналі дарогу ў ячмень, ні адбіцца було.*

ШПАКОЎНІЧКА *ж. памянш.* Шпакоўня. *Нашы мульчуганы тожа дзелылі шпакоўнічкі, вешылі ны дзірівах.*

ШПАЛЕРЫНА *ж.* Асобны ліст шпалераў. *Во сюда б нада шпалеріну пріляпіць. Памянш.* ШПАЛЕРЫНКА. *Тут ба нада нібыльшая шпалерінка, ды яе німа.*

ШПАНДОРАННЕ *н. эмац.* Моцнае прыбіванне, забіванне. *С такім шпандоріньнім ручку расколіш, прідзіцца узноў выцясывыць.*

ШПАНДОРЫЦЬ *незак. эмац.* Моцна прыбіваць, забіваць. *Шпандорь яшчэ адзін гвозд, кряпчэй дзіржацца будзіць.* ШПАНДОРЫЦЦА *незак.* Моцна прыбівацца, забівацца. *У сухую дубіну ня дужа будзіць шпандоріцца, і крепкій гвозд сагнецца.*

ШПАРАННЕ *н.* 1. Апарванне. *Пы пітуху ішчэ посьлі шпáріньня асталіся пінухі, нада пыбыбраць.* 2 *перан.* Шпаркі бег. *Ажно задыхыліся посьлі шпáріньня, чуць уцяклі ад дыжджа.* 3 *перан.* Лупцоўка. *Будзіць табе шпáріньня і яшчэ зы тваё балыўства.*

ШПАРАННІК *м.* 1. Той, хто ашпарвае. *Твой шпáріньнік каб рукі кіпятком ні абліў.* 2 *перан.* Той, хто пагражае лупцоўкай. *Ён толька слывамі шпáріньнік, а так і пальца ні ныкладзець ны дзіцёнка.* ШПАРАННІЦА *ж.* 1. Тая, што ашпарвае. *У шпáріньніцы кіпяток гатоў, січас нясець.* 2. Тая, што пагражае лупцоўкай. *Вун шпáріньніца ремінь шукаіць, бірягіся.*

ШПАРОК, ШПАРЫК *м.* Невялікі паз. *Зыляпі шпарок гліныю, а тады клей шпалеры, раўней будзіць. Во глядзі-ка, нібальшэй шпáрік астаўся ныт кычарежнікым.*

ШПІГАЦІНА *ж.* Кавалак шпагату. *Толька што ліжала шпігáціна лі скамеічкі, ці ні махнула ты яе ў печ. Памянш.* ШПІГАЦІНКА. *Нада б кусочык шпігáцінкі, зывізаць во тута.*

ШПІЛЯННЕ *н. эмац.* Балючае сцябанне. *Зыхацеў маліц шпіля́ньня, ну й палучыць узноў пугі.*

ШПІЛЯННІК *м. эмац.* Той, хто балюча сцябае. *Вырву бізунок ды сымаго пы плічах, шпіля́ньнік найшоўся, сваіх ідзі шпіляй.* ШПІЛЯННІЦА *ж. Вот бягіць шпіля́ньніца, січас ты будзіш реўць.*

ШПІЛЯЦЬ *незак. эмац.* Балюча сцябаць. *Пупаў у яблыкых, як дывай шпіля́ць яго ремнім, ікытаў тэй большы некуды.* ШПІЛЬНУЦЬ, ШПІЛЯНУЦЬ *зак.* Балюча сцебануць. *Шпільнýў раз і хваціць зь яго, большы ні палезіць, куды ні нада. Як шпілянý, дык ты на месьці саўесься.* ШПІЛЬНУТЫЙ, ШПІЛЯНУТЫЙ *дзеепрым. Усё ўхадору*

*сабе ні знаў, а шпільну́тый мігым асеўся. Шпіляну́тый зыкрасьнеўся, стыдна стала пірядзь дзевычкымі.*

ШПІНГАЛЕТ *м. перан.* Непаседа. *Айдзе такея шпінгалеты у хаці ўседзюць! Памянш.* ШПІНГАЛЕЦІК. *Усюдых носюцца шпінгалецікі, лазіюць, пакуля гнітанецца каторый. Узмацн.* ШПІНГАЛЕЦІНА. *Ну й шпінгалеціна зыдаўся, ні мінуты седні яму німа. Павеліч.* ШПІНГАЛЕЦІШЧА. *Ня дужа такей пранырлівый шпінгалецішча пысядзіць ціха.* ШПІНГАЛЕТКА *ж. Як мульчуганы шпінгалетка усюдых носіцца. Памянш.* ШПІНГАЛЕТАЧКА. *Твыя шпінгалетычка у мышыныю дзірьку улезіць і вылізіць.* ШПІНГАЛЕЦЦЕ *н. зб. Шпінгалецьця якоя-то мурзыныя сядзела ны прясьлі, я ўжо ні пызнаў, чые ета.*

ШПУЛЯННЕ *н.* Шпурлянне. *Глядзіця, дзеці, рызыб'іцё вакно, будзіць тады вам шпуля́ньня.*

ШПУЛЯННІК *м.* Той, хто шпурляе. *Унімі шпуля́ньнікыў, рызаб'юць Пырхвянку вакно — будзіць бяды. Памянш.* ШПУЛЯННІЧАК. *Січас злаўлю шпуля́ньнічка.* ШПУЛЯННІЦА *ж. Во рызыйшлася шпуля́ньніца, чышчы мальцыў шпуляіцца.*

ШПУНЦІНА *ж.* Шпунт (са знач. адзінкавасці). *Нійдзе шпу́ньціну ні найду, а бізь яе выда з бочкі вылыліцца. Памянш.* ШПУНЦІНКА. *Зыцяшы якую-небудзь шпу́ньцінку, толька круглінька цяшы.*

ШПЫНЯННЕ, ШПЫРАННЕ *н. перан.* Дапяканне, дайманне. *Вольгі дужа ныдаела Антонывa шпыня́ньня, ну церьпіць. Нада атвучыць яго ач шпыря́ньня, ато ён ужо дужа рызыйшоўся.*

ШПЫНЯННІК, ШПЫРАННІК *м. перан.* Той, хто дапякае, даймае. *Мысяёнык ого якей шпыня́ньнік, ён ня ўпусьціць маментa, каб ні пыткалоць. Сымаго шпыря́ньніка так путкузьмілі, што красьнеў як рак.* ШПЫНЯННІЦА, ШПЫРАННІЦА *ж. Пітрашова шпыня́ньніца спакою ім ні даець, ны кажным шагу пыд'ідаіць. Ну й шпыря́ньніца ж Кусьцючыха, так дыпікаіць свайму, як ён толька церьпіць.*

ШПЭТ *м. эмац.* Худы задзірлівы чалавек. *Дужа шпэт меншый Мыкарыў, кажныга пірідражніць і пірікріўляіць.*

*Памянш.* ШПЭЦІК. *Нечыга шпэціку сюда пыдлазіць. Узмацн.* ШПЭЦІНА. *Ну й шпэціна, чаго яму чыпацца с Кулічком?*

ШТОНЯДЗЕЛІ, ШТОНЯДЗЕЛЮ *прысл.* Кожны тыдзень. *Хаджу штонядзелі ґ дыктырам, нічога ні прізнаюць, а мне ўсё хужы. Возіць ім прадукты штонядзелю, пыткармлівыіць.*

ШТРАПАВАЦЬ *незак.* Штрафаваць. *Прібег, крічыць ніізьвесна чаго: «Я цябе штрупувáць буду!»*

ШТРАПЯК *м. гумар.* Штраф. *Штрыпякý ўляпілі і зыплаціў, во як бярёзы валіць ны быльшаку.*

ШТРАХАВАЦЬ *незак.* 1. Штрафаваць. *За што ж ты мяне будзіш штрухувáць, мыя карова нагою ні была на тым клеўрі.* 2. Страхаваць. *Я і так штрахоўку плачу, і штрахýю пастройку дыбравольна.*

ШТУКАРАННЕ *н.* Штукарства. *Ня відзіў ты Пынасывыга штукáріньня, во нысьміяўся б.*

ШТУКАРНІЧАЦЬ *незак.* Штукарыць. *Ісай умеў штукáрнічыць, ён і пыт пыпа ныріджаўся, і пыц цыгына, усякія песьні пеў.*

ШТУРХУНЬ *выкл.* Пра рэзкае адштурхоўванне. *Калінывіц напіўся і пыдлізаў, а Пятрок штурьхýнь яго аць сябе.*

ШТЫРАНУЦЬ *зак.* 1. Штурхануць. *Як штырянець Колю пад бок, тэй аж пыцскачыў ны лаўкі.* 2 *перан.* Падкалоць, дапячы. *Крепка штырянýў ён Кузьмінка, тэй дужа ні зулюбіў.*

ШУГА, ШУГІ *выкл.* Выгук для адганяння птушак. *Шугá-шугá крічаць ны віряб'ёў, дык ці ты іх ныпасесься. Шугí, ніхай ны вас ястріб, шугí!*

ШУГАКАННЕ, ШУГІКАННЕ *н.* Адганянне птушак воклічамі «шуга», «шугі». *Во рызыйшоўся іш шугáкыньнім. Ета ўжо Кывалёва шугíкыньня, я па голысу чую.*

ШУГАЛЕЙСТВА *н.* Разявацтва. *Што ты зьдзелыіш зь яго шугалействым, такей ён і астанецца да веку.*

ШУГАЦЬКАЦЦА *незак. гумар.* Губляцца. *Нешта ён піряд Верычкыю Максіміхіныю стаў шугáцькыцца.*

